# *Іван Пташнікаў*



Збор
твораў
у чатырох
тамах

# Іван Пташнікаў



Том

2

АПОВЕСЦІ
АПАВЯДАННЕ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84 Бел 7
П 87

Мастак Н. У. Сустава

Две повести Ивана Пташникова «Тартак» и «Найдорф», вошедшие во второй том Собрания сочинений, объединены между собою одной темой — героической народной борьбою с фашизмом.

«Тартак» — произведение о трагической судьбе белорусской деревни, вместе с людьми сожженной во время блокады.

«Найдорф» рассказывает о последней фашистской блокаде в партизанских районах Белоруссии и о первых послевоенных днях.

В рассказе «Степан Жихар со Стешиц», включенного в том,— сложная жизнь нашего современника.

П $\frac{4702120201-153}{М\ 302(03)-90}$ 105—90

ISBN 5-340-00510-0 (т. 2)
ISBN 5-340-00508-9

# ТАРТАК

## АПОВЕСЦЬ

*Памяці маці*

### 1

У галаве круціцца, здаецца, усё на свеце. Можа, гэта ад цяжкой хады...

На загоне ля лесу — на ямах — Наста наступіла на стары, шырокі, як лапаць, халодны казляк. Стала свежа ў нагрэтую ў пяску і паколатую аб іржышча нагу.

Да ям з вёскі не было дарогі, да іх пад'язджалі кожны раз полем, калі вазілі ўвосень сыпаць бульбу і ездзілі даставаць вясной, і Наста ішла па старым, прыбітым скацінай і калясьмі загоне. На загоне яшчэ было знаць старое ржышча: сівое і пачарпелае, яно ляжала на цвёрдай зямлі, як парассыпаная з ахапка дробная салома, і па ім пайшлі ўжо расці падбярозка і пырнік. За падбярозку чапляліся босыя, збітыя аб каменне ногі, і трэба было трымаць у дзве рукі мех, бо можна паляцець носам у зямлю. Рассыплеш усё на свеце...

Мех ляжаў на спіне: цяжкі і слізкі, ён спаўзаў і спаўзаў, і Наста тады чаплялася пальцамі ля завязкі за абрублены канец і падносіла, адпусціўшы рукі, пад падбародак кулакі — прыціскаючы іх галавой да грудзей. Пасля, калі млелі пальцы і шыя, Наста спынялася, нагіналася ўперад і паддавала мех вышэй на плечы.

Паддаўшы, кожны раз стаяла, каб аддыхацца.

Мех быў новы, з суравога палатна, дастала сёння з шафарні — трапіў пад рукі,— у ім толькі раз вазілі малоць, і цяпер, калі яна паддавала сабе на плечы, з яго яшчэ церушылася мука. Жыта яна насыпала як закінуць самой — падняла з зямлі мех, апіраючы яго на сасну, што расла ля

ямы,— насыпала, баючыся, каб хаця, божа барані, хапіла, бо немец загадаў знесці па тры пуды з хаты, каб хаця не трэба было ісці другі раз. Бо трэба будзе зноў прасіць вартавых, уласаўцаў, каб тыя пусцілі да ям. Уласаўцы стаялі аж трое на дзядзінцы, на старых даўнейшых могілках,— могілак Наста ўжо не помніць, адно званне ад іх асталося,— стаялі ля чорненькага і доўгенькага кулямёта і не хацелі пускаць у лес. Наста бачыла, што з вёскі да іх перад ёй падышоў быў яшчэ адзін уласавец — маленькі, кругленькі, як дзіцянё,— сказаў, мусіць, каб прапусцілі, бо сівы немец гаварыў у вёсцы, што пусцяць да ям...

Уласаўцы доўга не пускалі. Пыталіся ўсё, дзе схавана і што... І ад каго яна хавала жыта... Яна сказала: «ад бандытаў», бо несхаванае парасцягвалі б, а дзе б яна тады ўзяла што, калі б, як цяпер, спатрэбілася...

Тады яны, памацаўшы яе новы мех, перакінуты цераз руку, пусцілі. Аднялі свой чорны кулямёт з могілак далей, на поле, за ямы, ёй, Насце, наперад,— баяліся, каб яна не збегла, ці што?..

Жыта было закопана ў старым куфры, які ўсягды стаяў у іх дома ў кутку ў сенцах. Яго завязлі да ям ноччу, перад самай блакадай, калі ўжо ў Камене стралялі немцы, пасля прывязлі ў мяхах жыта з шафарні. Куфар закапалі ў старой яме ад бульбы, апусціўшы аж на дно,— яма ўжо асыпалася, але была яшчэ глыбокая. Навярнулі зямлі, ссунуўшы берагі ў яме, пасля наклалі роўна дзёрну, прытапталі нагамі і зверху нацярушылі сасновых іголак. Куфар знайсці было цяжка — уся зямля парыта і прытаптана, увесь бор,— і куфар не знайшлі, уцалеў.

Наста доўга яго адкопвала адна; змаглася, забалела сярэдзіна і рукі. Закопваць было лягчэй, і закопвалі ўдваіх — памог Махорка.

Жыта ў мех яна насыпала бляшанкай, што ляжала разам з жытам у куфры. Бляшанка была ад патронаў, доўгенькая, на дзве добрыя пядзі, і вузенькая. Зробленая з цынку, яна бліщчала ўся, як вядро, калі яго вышарueш вехцем з пяском. Бляшанку пакінулі ў хаце лунінцы: яны прыйшлі з-пад Лагойска і стаялі перад самай блакадай два тыдні ў вёсцы. Ужо калі ў Камене былі немцы, лунінцам ноччу скінулі з самалёта за ямамі на пасецы парашут. Лунінцы расклалі былі аж тры агні, вялікія, як сухія ламы ўсё роўна палілі дзе ў лесе,— агні былі відаць з вёскі. Парашут, казалі, знясло ветрам з пасекі, і ён зачапіўся за сасну ля дарогі. Лунінцы гаварылі тады, што парашут

«няўдачны»: пагнуты былі скрыначкі з патронамі. Пагнутых скрыначак было многа, і лунінцы, прынёсшы іх да Насты ў хату,— у яе стаяла аж пяць чалавек,— адкрывалі ў іх вечкі далатом і малатком, бралі пасля патроны і адзін за адным перабіралі ў пальцах. У кожнага лунінца стаяла скрыначка на каленях.

Чатыры скрыначкі былі пагнутыя, і лунінцы, папрасіўшы рыдлёўкі, зарылі іх разам з патронамі ў зямлю ля плота на мяжы. З пятай толькі высыпалі патроны на стол і падзялілі, а скрыначку пакінулі ў кутку на лаве за сталом.

У тую раніцу, чуць свет, лунінцы пайшлі з вёскі, забыўшыся на скрыначку, ці, можа, яна ім і не трэба была. Наста адразу схінула яе з воч: пасудзіна — можна было ссыпаць у яе стоўчаныя крупы і, калі не пашкадаваць, можна зрабіць аж дзве таркі дзёрці бульбу — выйшла б...

Насыпаючы жыта, яна ўсё баялася, каб не забыцца і не ўзяць бляшанкі з сабой у мех. Яна, здаецца, зарыла яе напасля ў куфры глыбока ў жыта...

Кончыўся доўгі загон, і Наста пайшла дарогай, ступаючы ў гарачы пясок аж па костачкі. Сонца цяпер зайшло якраз спераду, біла ў вочы, і яна залівалася потам. Было горача, прыліпалі да плячэй мокрая палатняная сарочка і нажутка; здавалася, коўзаючыся за плячыма, ад поту намакаў мех. З'ехала з галавы хустка, рассыпаліся валасы, згубіўся недзе, калі насыпала жыта, ражок старога грэбеня, зубы на чатыры (дагэтуль ён яшчэ тырчаў у валасах, было чуваць).

Сонца стаяла якраз на паўдні — высака ўгары над самай вёскай. Ад яго гарэла галава і смылелі шчокі; трэскаліся сухія вусны, і сох у роце язык, рабіўся шорсткі, не павярнуць. Балела пад мехам плячо, цягнула ўніз, і давілі пад горла рукі, сціснутыя ў кулакі,— займала дыхаць.

«Паспець бы... Гэтулькі з куфрам мэнчылася...»

Аднекуль пахла гарам, едкім, смярдзючым — аж блажыла. Мусіць, на сухім балоце ля грэблі загарэўся торф.

Пасярод вёскі, ля Махоркі на гародах, стралялі — густа, як палкай хто вадзіў па плоце.

«Маўчалі дагэтуль. З раніцы...» — яна падняла на гарод вочы, глянула спадылба. Ад сонца ўсюды было сіне, як ад дыму, і на гародах нічога не было відаць.

На могілках на дзядзінцы ляжала каменне — крушнямі; сюды панаганяла з вясны, яшчэ ў паводкі, пяску, і цяжка было ступаць: вязлі ногі.

Ля Боганчыка, пры ўваходзе ў вуліцу, былі расцягнуты платы — іх немаведама на што расцягалі ўласаўцы, і жудасна было глядзець на голы без плота гарод: адразу за ім быў відаць Выганчык, дзе гарэў торф.

Вуліцай, здавалася, лягчэй ісці — цвярдзей было нагам ля самага плота па ўбітай зямлі. Вуліца была пустая, толькі пасярод вёскі, ля Махоркі, хадзілі людзі — па адным. Уласаўцы разышліся па дварах. Было відаць, як яны, паскідаўшы з сябе верхняе, мыліся ў Боганчыка на двары — чалавек пяць. З коміна ў Боганчыка пахла смаллю на ўсю вуліцу...

Наста ішла ля плота — ля сваёй хаты — і не зайшлася. Калі падышла да хлева і пачула, як запахла старым сенам і гноем, ёй стала цяжка дыхаць і горача зрабілася ўваччу. На двары нікога не было відаць: ні дзяцей, ні ўласаўцаў, і яна падумала, што дзеці — Іра і Валодзя — недзе ў хаце. Сядзяць, двоечка, на сенніку на падлозе напужаныя,— там, дзе яна кінула іх, пайшоўшы з хаты і сказаўшы, каб яны не ўставалі з падлогі. На двор былі зачынены на закрутку вароты, ляварыўні параскіданы з вярсты дровы — іх, мусіць, параскідалі, калі яна была лям,— і ўсюды было пуста і ціха.

Яна прыхінулася да свайго плота на другі бок вуліцы, апусціўшы мех зверху на жэрдкі, адсапнецца хоць...

І раніцай, калі іх з Карчаватак прыгналі ў вёску немцы, на двары было ціха і пуста. Паснулі на возе дзеці: не спалі ў лесе ўсю ноч, лежачы пад калясьмі на зямлі; усю ноч без сціханага немцы стралялі па лесе з кулямётаў, і над галовамі ляцелі кулі з агнём...

Прыехаўшы на двор, яна загнала Буланчыка ў хлеў, кінула нераспрэжанага, і пазаносіла на руках у хату дзяцей — паклала на ложак на разгоеную салому. Села сама на маленькім услончыку ля ложка і глядзела на іх, не зводзячы вачэй. Падумала пасля, што трэба падпаліць, мусіць, у печы, бо, прачнуўшыся, дзеці захочуць есці... Яна ўстала, пачула, што не служаць рукі, каб наліць у гаршчок вады...

Зноў пачалі страляць — з хаты цяжка было пазнаць дзе, мусіць, у тым канцы. Пасля раптам на вуліцы, ля Боганчыка, нехта загаласіў на ўвесь голас, як мог...

Яна адчыніла дзверы — піхнула іх рукой у сенцы.

Плакалі і ля Боганчыка, і ў вёсцы на вуліцы — мусіць, ля Панка: прымаўляла Паніха.

Пасля Наста пачула, як ляпнулі вароты і на двары ля сцяны задугаў нагамі нехта чужы. Дзверы ў хату шырока расчыніў уласавец; высокі, ішоў сагнуўшыся і несучы ў руках вінтоўку. Адапхнуў Насту прыкладам назад, калі яна падышла да дзвярэй.

— Трі душі? — папытаўся ён з парога, гледзячы на ложак, дзе спалі дзеці.— Всем до єдіного... В деревню... Выході, мать...— сказаў ён пасля неяк цішэй.— Выході, не стої...

Яна падбегла да ложка да дзяцей, пасля да куфра, не помнячы чаго: хацела, мусіць, адчыніць, каб што ўзяць...

— Нічего не брать... Выході...— уласавец цяпер паказваў і галавой і вінтоўкай у дзверы.

Яна схапіла на рукі маленькую Іру. Валодзя, згледзеўшы ўласаўца, саскочыў з ложка і выбег за ёй на двор. Сонны, ногі ў яго чапляліся за парог і ў хаце і ў сенчах...

У вёсцы стаяў крык: плакалі, усё роўна як вязлі каго хаваць на могілкі.

Яна не стрывала, заплакала сама на ўвесь двор.

Падумала была раптам, стаўшы на двары: як гэта — нічога не браць з сабой? Усё ж перад вачыма... У парозе суднік з пасудай, відаць праз расчыненыя дзверы, ля студні вісіць з вадою вядро... Нічога не браць?.. На смерць пагоняць. Усёй вёскай. З малымі...

На руках прачнулася Іра і зайшлася; Наста стала ўсцішаць яе. Згледзела, што на руцэ вісіць белы ручнік... Невядома, чаму яна ўзяла яго — мусіць, схапіла замест хусткі...

Ля варот заплакаў Валодзя...

— Ма-а-мка... Я жыць хачу!.. Я жыць хачу!..

Яна нагнулася да яго — ён схапіў яе за нажутку, за рукавы ля лакцей, і пацалаваў у шчаку. Ён не цалаваў яе ніколі, і яна не помніць, ці цалавала калі яго, як ён падрос: яны да гэтага дома не прывыклі...

Тады яна зноў загаласіла на ўвесь двор...

— А зязюлькі мае-е...

Убачыла пасля, як адбегся ад варот высокі ўласавец з вінтоўкай і, дастаўшы з кішэні белую хустачку, стаў выціраць вочы: заплакаў.

Ля Міронавай хаты яна стала з маленькай Ірай на

руках наперадзе ўсіх. За ёй былі людзі, сагнаныя з усёй вёскі. З аднаго боку, ля самых Махоркавых варот на двор,— бабы з дзецьмі: занялі ўсю вуліцу; з другога, ля хаты, ля сцяны,— мужчыны: жменька. Мужчыны стаялі адзін ля аднаго, перамешаныя: і вялікія і малыя, што абламаны зверху частакол. Ніхто ўжо не плакаў: не плакаць загадалі крыкам — хліпалі толькі бабы.

Стала ціха, нібы мор выкаціў усю вёску, і было чуваць, як далёка за лесам, над якім гарэла агнём сонца, страляюць і страляюць без сціхanага — гэта недзе на Дзвінасе, куды адступілі партызаны. На другім баку вуліцы ля дубоў стаялі на зямлі два ценкія і доўгія чорныя кулямёты, настаўленыя на людзей, і высака па тыне сядзелі ўласаўцы адзін ля аднаго з вінтоўкамі ў руках — не знімалі з плячэй.

Калі з хаты ад Махоркі выйшаў немец, стала яшчэ больш ціха: ніхто не хліпаў.

Наста пачула, як у яе падкасіліся ногі і стукнула ў галаву. Галава закружылася-закружылася, і Наста, баючыся, каб не ўпусціць з рук Іру, аперлася на некага плячом — не помніць на каго. Да яе збоку — да нагі — прыціснуўся Валодзя, усё роўна як ён прыціскаўся некалі, калі быў маленькі: толькі вучыўся хадзіць.

Немец стаў пад дубам ля тыну між двума чорнымі кулямётамі. Стары, у яго былі сівыя скроні, аж блішчалі здалёку. Блішчалі і высокія боты на нагах, і сам ён увесь блішчаў на сонцы: арол на галаве, крыжык на грудзях, гузікі і спрожка наверсе на жываце.

Наперад яму адразу забег уласавец, высокі, ценкі і чорны, і засунуў рукі з бакоў пад дзягу. Загаварыў, слухаючы немца і гледзячы пад хату на людзей. Насце здалося, што ён прыліп вачыма да яе адной. Яна не чула, як гаварыў немец,— угледзела толькі, як крагаюцца яго чырвоныя скіўіцы: яна стала слухаць уласаўца.

— После того...— загаварыў уласавец, спатыкаючыся, нібыта хто яму перабіваў,— как возле вашей деревні... нас обстреляла банда в колічестве ста человек... вы все подлегаете расстрелу... деревню следует сжечь...

Наста пачула, як у яе з рук ссунулася Іра і прыціснулася да калень, учарэпіўшыся рукамі за спадніцу,— мусіць, у яе, Насты, абвялі былі рукі... Стала неяк зусім ціха ззаду, дзе стаялі людзі, было чуваць толькі, як нехта дыхае за плячыма: дзьме холадам у патыліцу. Аціхлі нават на тыне ўласаўцы з вінтоўкамі. Наста ўбачыла, што

іх цяпер за тынам была поўна аселіца, аж да ракі — панаходзілі раптам аднекуль.

Цёмна стала ўваччу, і закруцілася ў галаве. Яна цяпер не ўсё чула, што гаварыў уласавец.

— ...как вне всякіх сомненій доказано... вы все содействовалі партізанам...

Пасля яна, схамянуўшыся, нагнулася і падняла на рукі Іру... Пачула, што хаваецца за яе Валодзя... Стала горача, не было чым дыхаць, усё роўна як душылі, узяўшы за горла... «Каб толькі не спалілі дзяцей...— падумала яна.— Толькі не дзяцей... Закінуць бы іх куды за тын ля хаты з вачэй... За тынам высокі бульбеўнік... Распаўзліся б...» Тады падумала, што не ўстоіць, возьме пабяжыць і сама... Пабяжыць гародамі... У Карчаватні. Не будуць жа страляць у яе. У яе ж на руках маленькая Іра...

Яна пачула, што ўсё яшчэ гаворыць уласавец, не страляюць, і нагнулася ўперад.

— ...Немецкіе власті решают...— усё гэтак жа спатыкаўся ўласавец... Дастаўшы рукі з-пад дзягі, ён паказаў на ўсіх пад хату: — Все крестьяне должны за два часа собрать і отвезті трі тонны хлеба в местную комендатуру... В Красное... Еслі же завтра к двенадцаті,— Наста ўбачыла, як сівы немец глядзеў на руку, на гадзіннік,— не будет із комендатуры документа, всё пойдет дымом... І все будут до едіного...

Яна толькі пасля ўжо здагадалася, пра што гаворыць уласавец, і падумала, што, пакуль ён гаворыць, не будуць страляць у людзей... І пакуль у вёсцы будуць зносіць жыта, усё яшчэ не стануць страляць...

Яна раптам успомніла, што ў яе дома пустая шафарня ў сенцах, што яна, Наста, не можа прынясці ні калівa, бо дзе возьме...

Падумала, што праз яе могуць спаліць вёску...

Яна ступіла і выйшла наперад з Ірай на руках — да тыну, дзе стаялі два чорныя кулямёты і немец з уласаўцам. Зглёдзела адразу, як яны двое ўтаропіліся на яе, пасля зірнулі адзін на аднаго і кораценька перагаварыліся — «вэр, вэр...».

Калі яна загаварыла, пачула, што голас у яе моцны і рэзкі — яна аж крычыць — і што язык сухі, як трэска, і не гнецца...

Немец з уласаўцам зноў кораценька перагаварыліся — «вэр, вэр...». «Большевік...» Уласавец зноў засунуў рукі пад дзягу на жываце і зыбнуўся на нагах.

— ...Пускай хоць сосед...— пачула яна, як сказаў ён, прыціскаючы на кожным слове.

Яна загаварыла зноў, паказваючы рукой на лес да могілак: закопана... Немец з уласаўцам гаварылі цяпер доўга «вэр, вэр, вэр...». Пасля ўласавец кораценька і злосна буркнуў ёй:

— Пусцім і в лес...

Яна яшчэ сказала, што ўсюды каравулы, што не даюць выйсці з двара... Яны ёй ужо нічога не адказалі; махнуў толькі немец рукой, паказваючы ў грумаду, тады крыкнуў некуды на двор. Адтуль адразу выбег уласавец і пайшоў у канец вёскі — да могілак...

Пакуль яна прывалакла ногі ад тыну да хаты, пад хатай ужо не было людзей...

...Ад свайго плота цяжка было адысціся: здавалася, пацяжэў мех — яго насыпалі аж па самую завязку. Яна ўжо не бедавала, што баляць плечы; сагнулася, як старая баба, і глядзела толькі на сцежку пад ногі і на вуліцу перад сабой. На пяску на сцежцы знаць былі сляды ад нямецкіх ботаў: у дзірачкі ад цвікоў. На ўпыленай крапіве і падарожніку ля плота валяліся доўгія белыя акуркі ад папярос, адзін яшчэ тлеў сінім дымам, і ля яго абгарэла рудая трава — відаць, нядаўна ішоў немец. Яна падумала, што немцы не апасаюцца: у такую суш можна падаткнуць агню, і ўся вёска пойдзе дымам.

Ля Панка быў абернуты на вуліцу плот, і трэба было, нямогучы, падымаць высака ногі — пераступаць жэрдкі. Жардзё ў плоце было зацярушана жоўтым пер'ем. Пер'е ляжала кучкамі і зверху на траве ля плота, і на пяску на вуліцы — відаць, рваў яго нехта з курыцы жменяй.

У вёсцы была зацярушана пер'ем уся Скарбовая аселіца, усё роўна як сюды зносілі курэй з усіх двароў. Наста згледзела, што на аселіцы пад раку гарыць агонь і ля яго кратаюцца ўласаўцы. Нехта там разбіваў тапаром на дровы, мусіць, вароты: аб сухую дошку ядрана бразгаў кручок. Ад агню пахла смаллю, аж зрывала нос...

«І не паапрагаюцца... Не паразрывае... Усё жывое пажорлі...» — падумала яна. Пасля падумала, што больш нікога не бачыць з мяхамі, усё роўна як ёй адной карціць скарэй накарміць немцаў. Здагадалася, што, мусіць, усе ўжо даўно пазносілі шклункі: шмат у каго жыта знайшлося дома, а не — то адзін у аднаго пазычалі: «Згары яны, гэтыя тры пуды...»

Калі яна ўбачыла здалёку Міронаву хату, высокую, з

саламянай страхой, вышэйшую за ўсе хаты ў вёсцы, і старыя дубы, што раслі напроць, на другі бок вуліцы, у яе затрасліся ногі...

Падышоўшы з мехам на плячах да Міронавых варот, Наста згледзела, што яны адчынены, і падумала, што іх не змагла б ужо адчыніць сама: мех адняў рукі.

На двары ў Махоркі былі немцы — чалавек сем. Порталіся ля Міронавага свіронка за дрывотняй ля самай студні. Два немцы стаялі, узяўшы рукі ў кішэні; трэці, расставіўшы ногі, апёрся задам на ручку ад рыдлёўкі — рыдлёўка была ўторкнута ў трасочнік на дрывотні; чацвёрты, сагнуўшыся, стаяў на калені ў яме — даставаў адтуль, недзе з-пад ног, белыя вялікія Міронавы талеркі і ставіў адну на адну. Галава ў яго вісела, кратаючыся, ля самай зямлі, была ўся лысая і бліщчала здалёку на сонцы, як талерка.

Другія стаялі воддаль і, гледзячы ў яму, курылі...

Ужо на самым двары Наста ўбачыла, што ля свіронка на зямлі стаялі поўныя, насыпаныя жытам мяхі. Ля мяхоў тырчаў, як пень, Іван Боганчык, а ля самага тыну, пад свіронкам, стаяў немец — стары, сівы, той, што гаварыў на вуліцы перад усімі,— яна пазнала. За ім ззаду згрудзіліся ўласаўцы — чалавек дзесяць.

Наста падумала, што трэба ісці з мехам да свіронка. Убачыла пасля, што там цесна, не павярнуцца за ўласаўцамі, і стала ля варот. Стаяла, паддаючы сабе мех на плечы.

Тады стары немец павярнуўся да яе. За ім павярнулі галовы да варот і ўласаўцы.

Немцаў яна ўжо не баялася. Падышла да сівога, пастаяла: перакруціўшы рукі цераз галаву, скінула з пляча мех яму пад ногі. Немец адступіўся, стаў і глядзеў на мех. Махнуў быў рукой ля ног, паказваючы нешта Боганчыку. Боганчык падскочыў да яго з-пад свіронка, падняў яе, Насцін, мех і панёс перад сабой да мяхоў, што стаялі ля тыну. Яна пайшла за Боганчыкам; пачула, што ззаду ішоў і немец. Боганчык расхінуў нечы шырокі з пасцілкі ў палосы мех, насыпаны ў калена, а яна, падняўшы з зямлі перад сабой сваю ношку, перакуліла яе яму ў мяшок... Пачула, што задыхаецца — парвецца сэрца — і што з ілба пацёк руччом у вочы пот. Выцершыся, яна ўзялася рукамі за рагі ў мяху і пацягнула ўверх. У чужы мяшок, як дома ў шафарню, пасыпалася, шапочучы, зерне; запахла жытам, што на таку ў гумне.

Калі яна зноў тузанула мех за рагі, пачула, што не хоча высыпацца ўсё жыта — зашумела, як аб што бляшанае... Яна тузанула за рагі з усёй сілы. На босыя ногі пасыпаліся зярняты, і сцебануў па лытках завязкамі мех; выпусціў з рук мяшок Боганчык і адхінуўся да тыну, што напужаны...

Зірнуўшы на чужы мех, што поўны стаяў цяпер ля яе, яна згледзела: зверху на жыце ляжыць белая цынкавая бляшанка ад патронаў — уверх дном — і бліпчыць на сонцы на ўвесь двор. З-пад бляшанкі з меха сыпаліся памалу на зямлю зярняты, паўзлі, як мурашкі.

Цёмна раптам стала ў вачах... Наста ступіла была назад, мусіць, каб не паваліцца, бо падкасіліся ногі...

Убачыла, што праз дым, як разам з ёй адступіўся быў ад меха немец, тады падбег, схапіў бляшанку, перакруціў яе дагары і клікнуў немцаў з дрывотніка. Тыя збегліся адразу — усе сямёра. Падбеглі ад тыну ўласаўцы. Сівы немец падаў бляшанку лысаму... Пасля немцы сталі перадаваць яе з рук у рукі. Сівы немец нагнуўся быў яшчэ да меха, зачэрпнуў рукой жыта і клікнуў лысага — «вэрвэр...». Да меха падышлі немцы і сталі перасыпаць жыта са жмені ў жменю.

Пасля яны пасталі ўсе, апусціўшы рукі, і глядзелі на яе — і немцы і ўласаўцы. Ёй стала раптам холадна, бы правалілася куды пад лёд у ваду, і яна падумала адразу: спаляць вёску...

Пачула была толькі, як сівы немец, паказваючы на жыта, сказаў кораценька: гут, гут... Яна здагадалася: застрэляць... Усярэдзіне нешта абарвалася, пасля яна, Наста, неяк абмякла ўся... Абмяклі ногі, не трымаюць яе, лезуць, як у балота...

Падумала: няўжо тут, адразу? І калі сівы немец махнуў рукой, паказваючы, каб яна ішла да варот, яна падумала, застрэляць ля тыну і будуць страляць ззаду ў плечы...

Яна ішла да варот памалу-памалу — трэба было адрываць ногі ад зямлі... І сама не помніць, як павярнула на вуліцы ля тыну ў свой канец вёскі і памалу пайшла па сцежцы, чапляючыся нагамі за каменне. На двары ў Мірона было ціха — немцы маўчалі. Яны будуць страляць на вуліцы: недзе ідуць ззаду. Пасля на двары ў Мірона зазвінела бляшанка: бразнула ля свірна па каменне — яе выпусцілі з рук.

Наста пачула, як яе нешта тузанула спераду за ру-

ку... Яна спатыкнулася і ўбачыла: прыступіла мех — не помніла, што забрала і нясе яго на руцэ перад сабой...

Яна падумала, што жывая яшчэ, і, стаўшы, азірнулася. Ззаду ніхто не ішоў.

Пачула пасля, як яе аж трасе ўсю — схапіла стужа...

Дома ў хаце не было дзяцей; за сталом — стол стаяў у куце ля акна ад гароду — сядзелі ўласаўцы, апёршыся на грудзі... Наста не бачыла, што́ яны елі... Не згледзеўшы дзяцей, яна закрычала на ўсю хату. Уласавец, што быў бліжэй да акна ў гарод, паказаў пальцам у шыбіну... У гародзе пад прызбай сядзеў Валодзя з Ірай — трымаў яе на прыпале. Іра, звесіўшы ў яго з калень босыя ногі, махала імі, дастаючы пад прызбай сухі пясок.

Тады Наста апусцілася на ложак — села з краю на голую салому і глядзела ў акно за рэчку на пусты і гарачы ад сонца Выганчык. Не чула, як да яе гаварылі,— мусіць, была аглохла. Згледзела пасля, як падышоў да ложка ўласавец, узяў у яе з рук мех і кінуў на лаву, што стаяла ля сцяны пад акном ад гарода. Мяшок ссунуўся адразу на падлогу. Тады Наста раптам успомніла, што ляжала пад лавай, і аж падскочыла...

Пачула, што рагочуць уласаўцы: павылазілі з-за стала, ходзяць па хаце, гавораць да яе. Яна ўстала з ложка, з саломы, і стаяла, узяўшыся рукамі за брыж.

— Што гэта ў цябе, матка? — яна ўбачыла, як уласавец, той, што паказваў ёй пальцам у шыбіну на дзяцей, паказваў цяпер пад лаву, дзе ляжаў мех.

— Ме-ех...— сказала яна ціха, не пазнаўшы сябе, і падумала, што ўласавец паказвае зусім не на мяшок.

— А за мехам, матка, што ў цябе? — уласавец прысеў і паказваў пальцам зноў пад лаву. Усё адзін гаварыў; другія глядзелі на яго і на яе і маўчалі.

Ёй зноў стала горача ўсёй... Яна не магла павярнуць языком. Падумала, што зноў праз яе спаляць і хату і ўсю вёску... За бляшанку не сталі, а за гэта не прапусцяць...

— Што гэта, матка, мыдла? — уласавец яшчэ больш сагнуўся і глядзеў цяпер, адвярнуўшыся на хату, на яе, Насту.

Тады яна сказала:

— Мыдла, дзеткі, мыдла...

— Га-га-га...— уласаўцы зарагаталі ўсе разам, а той, што паказваў пад лаву, устаў, падышоў да яе і паляпаў па плячы, моцна, аж забалела.

Яна ніяк не магла дагадацца, чаму яны рагочуць. Вадзіла толькі языком па вуснах і чула, што вусны сухія, патрэскаліся.

Пад лавай ляжаў тол, цэлая кучка. Як склалі яго лунінцы, прынёсшы ў хату парашут, так тол і ляжаў. Забыліся забраць... Яна хацела яго прыняць з вачэй, закапаць у гародчыку пад прызбай, але забылася. І цяпер ён ляжаў, складзены роўненька ў ладнай кучцы,— адзін кавалак прыліп да падлогі воддаль, чуць не ля самага стала, ля ножкі... Жоўты і гладкі, як аскоблены, ён быў падобны якраз на кавалак сырога мыла, якое куплялі да вайны ў вёсцы ў краме...

— Га-га-га... Маладзец, матка...— рагаталі і рагаталі на ўсю хату ўласаўцы.

Пасля яна пачула, як расчыніліся дзверы — рыпелі доўга, не сціхаючы: іх адчынялі памалу, на ўсе рукі, як хто з возам ехаў у хату. Ад яе адбегліся ўласаўцы, пахапалі вінтоўкі, што стаялі ля куфра, і выцягнуліся пасярод хаты.

Парог пераступіў яшчэ адзін уласавец — ніжэйшы за ўсіх, у пілотцы. Зірнуўшы на яго, яна ўбачыла неяк, што ў таго былі вялікія светлыя бровы. Дзвярэй ён не зачыніў і, выйшаўшы на хату, махнуў нечым белым — паказаў у парог. Уласаўцы, пабраўшы ў рукі вінтоўкі, усе да аднаго выскачылі за дзверы.

Калі ўласавец у пілотцы астаўся ў хаце адзін, Наста агледзела, што ў руцэ ў яго белыя пальчаткі, тонкія, з воўны, і трымаў ён іх за пульсэтку, сціснуўшы ў кулаку. На яе, Насту, ён не падымаў вачэй; зрабіў круг па хаце, тады зняў з пляча вінтоўку і пайшоў сеў на лаву ля акна ў гарод, падкорчыўшы ногі,— боты дасталі якраз да меха. Пад лавай загрукала — Наста здагадалася, што ён пасунуў нагамі кучку толу. Пасля ён круціў вачмі па хаце: у кутку над сталом па сцяне, дзе віселі сапсаваныя старыя ходзікі, не ішлі; пад ложкам, ля печы і ў парозе пад суднікам — доўга глядзеў туды.

— Все вы бандіты...— загаварыў ён раптам паволі, як п'яны,— чуць варочаў языком.— Вас всех надо перестрелять... Вон і вон... Солома еще на полу... Чугун с мясом полный... Партізаны недавно жралі...— Ён паказаў вачыма на падлогу ля куфра і ў парог у качарэжнік; пасля ўзяў паклаў на калені вінтоўку, доўга глядзеў на яе, тады пачаў церці пальцамі.

Наста хацела сказаць, што ля куфра яна клала нанач

дзяцей, калі пачалі страляць з Сушкава па вёсцы немцы,— ад таго не мецена яшчэ ў хаце,— і не магла. Глянула была на ўласаўца — ён быў выгалены, чысты і злосны — і сядзела на ложку, не могучы крануцца: у гаршку на прыпечку стаяла мяса, якое яна паставіла была нанач у печ варыць лунінцам, а тыя додніцай тады сабраліся і пайшлі не еўшы... Здагадалася цяпер, што ўласаўцы дасталі былі самі гаршчок з печы і за сталом яны елі мяса — косці яшчэ ляжаць на абрусе, жоўтыя, як падплятанкі.

— Да что с вамі чікаться...— уласавец крануўся ўвесь і, закінуўшы адну на адну, пасунуў далей пад лаву ногі. Пад лавай зноў ціха грукнула. Уласавец быў нагнуўся і зірнуў на свае боты...

Яна сядзела як нежывая...

Пасля ён узяў паклаў на рог стала белыя пальчаткі з воўны. Дастаў з кішэні з фрэнча клубочак нітак, невялічкі, з макаўку, такіх жа белых і з воўны, як і пальчаткі. Паклікаў яе, Насту,— яна злезла з ложка і падышла да яго — і падаў клубочак у рукі, паказаўшы на стол:

— Заделать... і быстро...

Яна ўзяла ў рукі са стала пальчаткі і ўбачыла, што яны новыя і ў адной недароблены вялікі палец... Адразу ўспомніла, што ў яе ляжалі ў куфры ў прыскрынку пруткі. Падышла да куфра, падняла века, адчыніла вечка ў прыскрынку. Знайшла пруткі, узяла пальчатку без вялікага пальца, другую паклала на стол і села ля акна ад вуліцы проці ўласаўца.

Падумала: у каго гэта ў вёсцы былі белыя авечкі? У Махоркі ці не?..

Пруткі калолі ў пальцы, у пупышкі, былі вострыя, і яна ніяк не магла спачатку лучыць у вочка. Убачыла, што дрыжаць рукі; не са страху — яна ўжо не баялася — а, мусіць, ад таго, што нясла цяжкі мех: як жылы расцягнула ўсё роўна.

Калі ўласавец зноў, круцячы на каленях вінтоўку, сказаў: «Вы все бандіты...» — яна падумала: «Пракалоўся б ты на гэтыя пруткі...» — і тузанула за нітку.

Беленькі клубочак падскочыў на стале, пасля покнуў на падлогу і пакаціўся ўласаўцу пад ногі — пад лаву...

Уласавец нагнуўся, каб дастаць клубочак, заскроб па падлозе нагамі і зачапіўся за мех.

Пад лавай загрукалі кавалкі толу, моцна, на ўсю хату,— рассыпалася ад нагі ўся кучка...

Наста пачула, як бразнулі, зазвінеўшы аб стол, пруткі — вываліліся з рук.

Уласавец спачатку ўвесь збялеў, што мел; сядзеў, нагнуўшыся, і глядзеў на яе вялікімі, як не ў чалавека, вачыма. Пасля, мусіць, здумеўся, бо яна, баба, не баіцца толу, сядзіць, як сядзела, ля стала, і схапіўся абедзвюма рукамі за вінтоўку, якая ляжала ў яго на каленях. Насце здалося цяпер, што вінтоўка ў яго ўся белая, аж блішчыць, і крывая, як сагнутая...

Пасля ўласавец пачаў памалу-памалу ўставаць з лавы, не зводзячы з яе, Насты, вачэй, і маўчаў. Чуваць было толькі, як ён сапе. Яна падумала, што ён возьме адразу і застрэліць яе. Ніхто не згледзіць і не пачуе...

Калі цяпер бразнула клямка, Наста адразу адвярнулася на хату. Пачула, як на шчоках выступіў халодны пот... У хату ўвайшлі яшчэ два ўласаўцы з Боганчыкам — не тыя, што былі раней. Сталі ля парога, не падыходзілі да стала. Боганчык прытаіўся ззаду за імі, як хаваўся за плечы.

Трэба было ехаць у Краснае... Ей, Насце... Кідаць дзяцей і ехаць. Бо ў яе быў конь. Усе ў вёсцы, у каго ёсць коні, паедуць.

Боганчык пасля ўласаўцаў сказаў, што ўсяго ў вёсцы асталося сямёра коней, і ён сам паедзе, бо і ў яго астаўся цэлы жарабок, што нічога страшнага няма — з'ездзяць і вернуцца... Далёка тут тое Краснае...

Яна тады заплакала: у яе ж дзеці... Нагнулася і паказала рукой у акно ў гарод...

Уласаўцы сказалі, што скарэй вернешся з Краснага, калі астаюцца дзеці...

Трэба было кідаць дзяцей...

Наста сядзела ля стала з пруткамі ў руках і не магла ўстаць...

Уласавец, што разбурыў нагамі пад лавай кучку толу і падымаў на яе, Насту, вінтоўку, першы пайшоў з хаты, як баючыся, забраўшы са стала пальчаткі...

## 2

На грэблі калыша і падкідае калёсы...

Буланчык з кароткай грывай, падстрыжанай «авечымі» ножніцамі, б'е ў хамут; у ямах напінаецца, аж рыпяць

гужы, і храпе, наглытаўшыся пылу. А балючы які... Дакраніся пугаўём — са скуры лезе. «Напужаная жывёла...»

Наста, апёршыся рукамі на ляжэйку, спаўзае з воза з мяхоў і, выпусціўшы з рук лейцы, доўга стаіць у пясску — не можа адагнуцца. Пясок пад нагамі гарачы, шорсткі і клейкі — здалося, зваліўся са скавародкі на падлогу ў парозе ля печы блін з непадсяванай ячнай мукі і ліпне да босых пят. А можа, яшчэ не абсохлі ногі, калі яна ўрабіла іх у гразь, падпіхаючы ў рацэ ля спаленага маста калёсы?

«Так звяло ногі... У каленях...»

Наста ехала самая апошняя, астаўшыся ззаду, і калі злезла з воза, Буланчык быў стаў, пасля, падвярнуўшы галаву, даў у хамут і, пачуўшы, мусіць, што палягчэла, пайшоў за возам — махаў галавой ад сляпнёў і хроп. Ёй трэба было цяпер даганяць калёсы, бо ні да каго другога не падсядзеш пад'ехаць: усе наперадзе.

Нылі суставы, балелі, калі разгіналіся, у каленях ногі.

Наста спяшалася, валюхаючыся, што качка.

«Чорт бы не ўзяў Буланчыка. Не такая я і грамазда. Пашкадавала... Конская матка не здохла...»

Ісці па ямах босай было мякка і прыступна. Грэбля за гэты тыдзень, як уцяклі ў Карчаваткі, высахла і патрэскалася, што цэгла,— стала на такой пагодзе, што ўдзень збіты скацінай Выганчык за ракой на сонцы рабіўся белы і дрыжаў; нямецкія машыны перацерлі на грэблі сухі ў грудках торф на муку, і вецер пазасыпаў ямы і трэшчыны пад нагамі.

З-пад калёс падымаўся руды пыл і поўз грэбляй назад пад вёску — да маста.

Няма чым дыхаць, пяршыць у горле, і Наста, узяўшы за ражок паркалёвую белую хустку ў чорныя кропачкі, што вісела на шыі, выцірае ад поту шчокі і сухія, патрэсканыя, аж баляць, вусны. Ражок хусткі ўвачавідкі рудзее, бы гэта яна, Наста, тупае не за возам па грэблі, а дома ля чалесніка ў калядніцу, калі печ ад смалякоў з Карчаватак, як юхта, і да яе не падступіцца...

Баліць на правай назе костачка, штораз усё горш — узялася струпам.

«Кроў запяклася...— думае яна.— Згінь ты, благое... Усё гэта ў рацэ... Ля маста... Такі быў мост... Суткі гарэў... Перад самай вайной яго рабочыя рабілі — стаялі ў вёсцы. Яшчэ жоўты быў, не счарнеў. Смалой ад яго пахла... Партызаны яго падпалілі, нанасіўшы саломы, як адступа-

лі. А немцам калі трэба было ехаць, дык яны паставілі машыны на беразе — Петрусіха старая бачыла, з вёскі яна нікуды не крапулася ўцякаць,— высыпалі, што мышы на ток, на буй, нават доўга не стаялі. Пераскочылі, не падкасваючыся, адзін за адным разбалабашаную раку, што куры,— рака ў пагоду зусім перасохла — і адразу на страху да Петрусіхі: хата яе была з прыходу самая першая. І тапары ў іх, і пілы. Раскідалі па бярне і перацягалі на плячах да ракі. Ды што хату шкадаваць. Немцы ўсё могуць пусціць дымам... Сталі ў вёсцы на́даўга. На Палік надта не сунешся. Туды дзень і ноч ішлі: і «Дзядзя Коля», і «Дзядзя Вася», і катоўцы, і «Барба» — не спомніш усіх. Грыміць і грыміць за Дзвінасой... А мост немцы жалезнымі крукамі збівалі. І не немцы, уласаўцы. Колькі там тых немцаў — жменя. Аб крукі і нагу недзе пакалечыла. Но-о-гі... Ці прынясуць яны назад у вёску. Да дзяцей... О-хо-хо...»

Яна дагнала Буланчыка пасярод грэблі, узлезла, нямогучы, на мяхі і адвярнула яго ад канавы: Буланчык быў сышоў з тору на сцежку і зачапіўся за старую падпорыну ад тэлефоннага слупа. Нізкая падпорына нагнулася над канавай, ездзячы, яе абдзёрлі восямі, а цяпер пашчапалі кулі, як хто тупым тапаром,— на крапіве ляжаць свежыя трэскі.

«Стралялі немцы ўвесь дзень з могілак, калі ля Каменскага броду праравалі абарону ў кутузаўцаў...»

Наста помніць, як яна тады прыбегла дамоў з Карчаватак... Павалілася на двары пад прызбу і ляжала ні жывая ні мёртвая. Трашчала недзе на гародах, пад раку, хоць вушы затыкай, дзе акапаліся кутузаўцы: немцы пайшлі былі крыніцамі, што паабапал грэблі, да аселіцы. Над галавой над шчытамі ў хлеве, дзе былі пазатыканы гарохаўем дзіркі, шастала і шастала, кораценька і суха: шась! шась! — бы хто там, як злодзей, рваў стрýкі з сухога гарохаўя. «Кулі...— здагадалася тады яна.— Хлеў жа мог загарэцца... Але з могілак і з грэблі стралялі ў вёску, мусіць, не тымі, што гарадь на ляту...»

Яна ўспомніла, як, прыгнуўшыся на дрывотні ля варыўні, з-за вугла страляў з аўтамата кутузавец, малады зусім. Бачыла яго твар, але не помніць ужо, забылася. Забылася, чаго і прыходзіла з Карчаватак дамоў: мусіць, па бляшанку з-пад малака і па кашулі маленькай Іры, якія не ўхапілі з сабой... Мучыліся без іх у балоце: змяніць дзіця не было ў што. «Галава...— падумала яна,— на

дзяцей забывацца стала... А пра тое, што каза скакала на плечы кутузаўцу,— помніць. Як затрашчыць той сваім аўтаматам — яна яму на спіну. Козы, глядзі, каб на іх дохлае, стрэлу дзяркатага не выносяць... Таму кутузавец, відаць, і страляў так рэдзенька: чыркне, тады казу зганяе з плеч і мацюгае на ўвесь двор...»

Падводы расцягнуліся па грэблі, падняўшы пыл, і цяжка было разгледзець, хто за кім едзе. Пярэдні, Іван Боганчык, падбіраўся ўжо да мастка, што быў у другім канцы грэблі. Боганчыка можна пазнаць па жарабку. Жарабок у яго добры, нават з гружоным возам не сцішае хады.

Сама горш ззаду: глытаеш пыл, як гар які. Каб не балелі ногі, саскочыла б зноў і пайшла б сцежкай ля крыніцы, пакуль мінецца грэбля...

Наста чапляе лейцы за пугаўё і запіхае яго пад мех. Буланчык, пачуўшы, зноў даў у хамут, захроп. Мокры ўвесь, пачарнеў; ад яго запахла потам.

На Кур'янаўшчыне, далёка над лесам, што быў аж сіні ад смугі, гудзелі самалёты. Набліжаліся ажно сюды, да грэблі, і тады над полем і могілкамі віселі, што каршуны; калі рабілі паварот, раўлі, аж замірала ўсё ўсярэдзіне. Пасля хаваліся з воч, і ў самым кутку на Кур'янаўшчыне падала на лес чырвонае полымя, як хто кідаў там зверху галавешкі з агнём.

Наста пачула, як у яе пахаладзела за плячыма...

«Дзвінасу немцы паляць...— уздыхнула яна.— З самалётаў...»

Стаяла густая духата — здавалася, самлела ўсё на зямлі за дзень. Сонца паўзло на захад, распаранае, як у лазні, у смузе: на яго нават можна было глядзець не захінаючыся рукавом. Яно скора паверне за раку, на Карчаваткі. Там адвячоркам, дзе яшчэ ўчора яны былі ўсёй вёскай, закурыцца туман, белы, як сырадой, і ляжа на ягаднік і на мох у балоце раса. Забляе бакас, і будуць ныць камары — вісець хмарамі над купінамі. Збегчы б туды зноў з дзяцьмі — Іру на рукі, Валодзя сам пабяжыць са шклуначкам пад пахай,— паваліцца пад куст і не ўставаць, пакуль не аціхне страляніна... Дык жа і там не было ратунку. Знайшлі немцы, калі пайшлі балотам з-пад Камена.

Тады яна падумала, што ў Карчаватках у балоце можна было б абмыць з вачэй пыл, бо за ім свету не відаць,— а ён падымаецца і падымаецца з дарогі ад пярэдніх падвод і вісіць над калёсамі, як хмара.

Схаваліся самалёты; у тым баку, дзе сыпаўся з гары агонь, падняўся чорны слуп дыму і стаў распаўзацца на ўсё неба над лесам.

Даг-даг-даг-даг...— закудахтаў раптам ззаду кулямёт, як старая курыца, недзе на тым баку вёскі, за гумнамі ля лесу, дзе раніцай рылі акопы ўласаўцы, і захлопалі стрэлы. Водгаласкі пайшлі за лагі на імшары — у Карчаваткі.

«Не ўцерпелі да начы... Лесу баяцца... А можа, хто ўцёк з вёскі? Дзе ты цяпер уцячэш... Ля кожнага вугла ўласавец...»

Зноў стала ціха; тахкалі толькі па ямах калёсы, хроп Буланчык, і рэзалася ў некага аб атосу кола, мусіць, у Сяргеішынага Алёшы.

Яны мінулі грэблю і падымаліся на гару да могілак. Пад'язджалі да школы, ад якой, было відаць здалёку, асталося вялікае белае каменне і пагнутая рудая бляха — ляжала на зямлі. Школу ўчора пад вечар спалілі немцы. На пустым двары, што парос палыном і ля платоў жоўтым на цвеце дзівасілам, стаяў адзін зруб над студняй са стрэшкай. Ад студні на ўвесь двор расцягнулася вытаптаная белая сцежка і хавалася недзе пад лістамі пагнутай бляхі ля ганка.

На гары Насце добра былі відаць усе падводчыкі.

Пярэдні ехаў Іван Боганчык на сівым у яблыкі жарабку, якога ён, ужо як паявіліся партызаны, прывёў ноччу «з-за ракі» — «збамбіў» — і шкадаваў, што роднага бацьку: хаваў і ад паліцыі і ад партызанаў. Калі даводзілася ўжо, прыцiскалі, сам ездзіў на ім. І сёння паехаў сам. І нікому б, відаць, не ўступіў яго ніколі.

Боганчык сядзеў высака на мяхах і, падняўшы руку, махаў над галавой дубцом — паганяў. Яго чорная барада была відаць аж здалёку.

За Боганчыкам, нокаючы на маленькага гнядога Сібірака, рассеўшыся на возе, кратаў плячымаваласаты Мірон Махорка-Карашкі ў чорнай сарочцы; за ім на сваіх доўгіх разводах соўгаўся Валодзя Панок — ківаецца здалёку яго сівая галава; Панка дагнала на рабой кабыле Таня Паляншчынка — усё нешта крычала яму, папраўляючы ў дзве рукі сваю доўгую касу; за Таняй, звесіўшы галаву ў вялікай чорнай кепцы, ехаў стары Янук Тваюмаць; на шостым возе ляжаў ніц, галавой у перадок, і ні на кога не глядзеў Сяргеішын хлапец Алёша. Дзіця яшчэ зусім, дзесяты год яму, ці што, Наста добра не помніць ужо... За яго возам, паклаўшы галаву аж на мяхі, і тупаў

Буланчык. Адвесіў губу, форскаў, здавалася — хоча перагрызці на калёсах мех: дастаць зярняты.

«Хай гломзае... Каб толькі не аставаўся ззаду...»

Наста папраўіла пад мехам пугаўё, яно было сагнулася, і маглі сашмыкнуцца лейцы, і сашчапіла па каленях рукі.

Балела спіна; гарэла, бы хто яе пасыпаў прыскам, збітая костачка, і дрыжала ўсё ўсярэдзіне. У горле станавіўся камяк, і тады блажыла...

Халаднела, мусіць, ад поту за плячыма, нажутка, муляў на грудзях гузік — яна адшпіліла яго і дыхала, як пасля чаду выйшаўшы з хаты на двор,— глытала і глытала з дарогі пыл, аж пакуль не папярхнулася.

Калі прайшла блага, зноў заныла ўсярэдзіне... Каб ступала сваімі нагамі, а не вёз на мяхах Буланчык, далей школы ўжо не кранулася б... Не змагла б...

З гары, ад могілак, відаць, калі глядзіш назад, Дальва: як сівыя каровы ў гарачыню ля ракі ў кустах, збіліся ў кучы хаты, перамяшаліся... І вялікія і малыя. І каровы і цяляты... Пасля Наста бачыць толькі сваю: з саламянай высокай чорнай страхой хату ў канцы вёскі.Варывенькі і хлева з-за хаты не відаць. Не відаць і Боганчыкавага двара, хоць ён і побач. Тырчыць толькі ў тым баку асвер над яе, Насцінай, студняй... Пасля і ён апусціўся ўніз і схаваўся за варыўнёй: палезлі па ваду. Дзеці, мусіць...

На дарозе каменне. Па ім ляскаюць і скрыгочуць колы. Трасе цяжкія ад мяхоў калёсы, кідае па цвёрдых калдобінах. Баліць галава, аж сціскаеш зубы. І зноў — блага. Гэта ад гару: яго цягне з балота на дарогу, аж сюды да школы; гарам пахла і праз усю грэблю ад самага маста. Гарыць сухі торф на лагу ў канцы вёскі ля ракі. За кустамі ў тым баку сіне ад дыму. І неба там, за Дальвай, сіняе, толькі далёка за лесам, над Карчаваткамі, відаць шэрае воблака — вісіць на адным месцы, што прывязанае.

«Дым... У Камене гарыць...»

Калі доўга глядзіш у той бок з-пад рукава нажуткі, мітусіцца ўваччу. Сонца над лесам рудое ад пылу, густое, пацямнела. Пыл ля самай зямлі белы, што дым ад сырых дроў.

На гары ля школы пахне ячменем — сухой саломай, як увосень у гумне ад малатарні. Ён і не паспеў яшчэ на нечых шнурах — жыта нават не налілося — згарэў на сон-

цы: пажаўцеў, ля дарогі пасох. Выгарала на дарозе трава. З-пад яе, калі ступае конь, падымаецца пыл вышэй калёс.

Форскае і форскае Буланчык. Увесь чорны, змок. Пад набераткамі на спіне ў яго — жоўтая пена...

Наста выцірае шчокі мокрым рукавом нажуткі — яны аж смыляць на сонцы...

«Скура гарыць. Як пры агні... Захлынешся...»

На гары ля школы па калені пяску. Перасыпаецца пад нагамі ў каня, што попел. Ад пылу не відаць пярэдніх падвод — згубіўся з вачэй Боганчык, як скрозь сіта свіціцца палатняная спіна старога Янука...

Зноў наліпла на шчокі пылу, як ля малатарні. Павядзеш рукой — і даланя шорсткая, што тарка. Ад пяску не сціснуць зубоў; суха ў роце, язык — што дубовая карына́.

Наста камячыць рукаво нажуткі і выцірае вусны. Рукаво салёнае, аж горкае...

Ацяклі ногі — як перавесіла цераз ляжэйку на грэблі, дык і не падымала,— сталі што чужыя, здранцвелі, і баліць, ломіць спіна, нізка, у самым крыжы. Хочацца выпрастацца, лёгшы на мяхі, як дзе на мяжы, пажынаўшы дзень не адгінаючыся. Уціснуць галаву куды ў плот: у крапіву і дзяды, каб нічога не чуць...

Даг-даг-даг-даг...— як хто спопаразку кулаком дома ў дзверы, застукаў у канцы вёскі кулямёт. Там, дзе гарэў за ракой торф.

Жык... Жык...— засвісцела збоку ўдоўж дарогі, як хто хлыснуў тонкай пугай па сухой траве... Жык... Жык... На пажарышчы з-пад бляхі падняўся попел і чырвоныя іскры. Буланчык напяўся ўвесь, даў у хамут, хочучы, мусіць, выскачыць з аглабень, тады выцягнуў галаву, дастаючы аж да Алёшавых ног на возе, і прыціснуў вушы — схаваў пад грыву.

Даг-даг-даг-даг...— стукала цяпер на грэблі ля маста. Там, калі яны ехалі, Наста помніць, тырчаў з ямы доўгі чорны кулямёт, увесь у дзірках, пры ім стаяў на каленях уласавец, другі мыў у рацэ рукі. Стукала і на ферме ля пуні і ля Боганчыкавага хлева, які быў далёка ад хаты, пад самым лесам.

Жык-жык... Цыў-цыў...— цяпер ужо шумела над галавой і лопала недзе на Кур'янаўшчыне ля саду і ў кустах на могілках. У ячмені ля самай дарогі закруціўся рэдзенькі пыл.

Дрыжыць Буланчык, храпе і рвецца з аглабень. Не

відаць ні Боганчыка, ні старога Янука. Блішчаць толькі ўперадзе вышараваныя аб пясок колы пад калясьмі ў Сяргеішынага Алёшы.

«Пагналі коней...» — здагадалася Наста. Нагнуўшыся ў передок, яна выцягнула з-пад меха пугаўё і, ухапіўшыся за лейцы, пачала тузаць іх у дзве рукі. Буланчык не пабег, захроп толькі, бы хто яго стаў душыць: упёрся ў Алёшавы калёсы.

— Паганяй, рыштант! — Наста закрычала як толькі магла і папярхнулася.— Смерці захацеў!..— Яна тузала і тузала за лейцы, але Буланчык не бег і не мінаў Алёшавы калёсы. Уперадзе ў пыле ўсё блішчэлі на сонцы вышараваныя колы...

«Забіла...» — неяк адразу падумала яна і зжахнулася. Тады саскочыла з мяхоў і, спатыкаючыся, пабегла да Алёшавага воза. Ухапіўшыся рукой за ляжэйку, пачула, што яна мяккая ад пылу; пылу набралася на мяхі, на калошы і на босыя кароткія Алёшавы ногі. Чуваць было пад рукамі: яны мокрыя і слізкія...

«Забіла...» — зноў падумала яна і закрычала: — Яну-ук!..— Клікала Янука, ён быў бліжэй. Уперадзе ніхто не азваўся. Жык-жык...— скакаў толькі пыл ля дарогі ў ячмені.

Пачуўшы яе ля аглабень, Алёшаў конь сышоў з дарогі і стаў. Яна тады ўхапілася за лейцы. Там жа, дзе за школай падводы, лагчына...

Алёшаў конь яе не слухаў, ступаў па пяску, напяўшыся, і стрыг вушамі, косячыся на поле ў ячмень...

Яна зноў зірнула на воз, аглянуўшыся, і паверыла сама сабе, што ўжо няма жывога Сяргеішынага хлапца. Перад вачыма ўсплыла ўся вёска: доўгая вуліца, поўная народу, і Сяргеіха са сваімі закручанымі ў белыя палатняныя полачкі блізнюкамі. Яе гоняць два ўласаўцы, спацелі, пазнімалі з галоў пілоткі... Гоняць да Міронавай хаты, у грумаду...

— Алёша-а!..— закрычала яна, баючыся, сама не ведаючы чаго.

Алёша ляжаў, як ляжаць нежывыя...

Тады яна схапіла яго за ногі і пачала тармасіць у абедзве рукі.

Алёша кратаўся — увесь... Яна страпянулася была і схавала пад нажутку рукі, а Алёша ўсё тросся на калёсах: іх падкідала на каменні.

Алёшаў конь раптам пабег. Сам. Пабегла і яна ля воза, ухапіўшыся за ляжэйку.

Займала дыхаць, здавалася — паваліцца ў пясок пад калёсы...

Ціў... Ціў...— ціўкала высака над галавой, пасля змоўкла. Стала ціха і ў канцы вёскі, дзе гарэў торф, і ззаду ля маста, і ў ячмені на Кур'янаўшчыне. Бег конь, бегла і яна ля калёс, учапіўшыся за ляжэйку.

Тут было з горкі, і конь бег колькі яму хацелася, пасля таркануўся на месцы, аж хамут палез яму на галаву, і пайшоў, чапляючы нагу за нагу: Алёшаў воз быў цяжкі, цяжэйшы, чым у яе, Насты.

Яна азірнулася і ўбачыла, што Буланчык ступае, як і ступаў, паклаўшы галаву на Алёшавы мяхі.

«Бег ззаду...» — падзівілася яна.

Наперадзе ў пыле былі відаць калёсы старога Янука.

— Яну-у-ук!..— закрычала яна на ўсё поле. Тады падумала, што забылася: крычы — не крычы, Янук не пачуе: глухі. Але Янук раптам спыніўся і павярнуўся на возе: мусіць, сам хацеў паглядзець, што робіцца ззаду...

Дагнаўшы Януковы калёсы, Алёшаў конь спыніўся, стаяў і дрыжаў. Пасля падструніўся і застагнаў...

Наста баялася цяпер глядзець на мяхі, дзе ляжаў Алёша. Падбегшы да Янука, яна схапіла яго за рукі і заплакала.

Янук замычаў, адсоўваючыся далей ад яе на возе.

— Забіла... Забіла... Алёшу забіла!..— закрычала тады яна, аглядаючыся назад.

Янук зірнуў на воз, дзе ляжаў Алёша, і памалу, як баючыся, ссунуўся з мяхоў. Паказаў Насце: сціхні ты!.. Сцягнуў са сваёй доўгай, як сліва, галавы чорную кепку, пажмакаў у руках і паклаў на мех, дзе сядзеў сам. Тады памалу падыбаў да Алёшавага воза. За ім пайшла і Наста.

Калі, падышоўшы да Алёшавага воза, Янук спыніўся, стала ціха, і было чуваць, як ля дарогі ў ячмені шастае конік.

Наста апусціла рукі і не дыхала ззаду за плячыма ў старога Янука. Шырокая белая зрэбная кашуля на яго худых плячах была ўся мокрая, пацямнела. Янук стаяў ля калёс і не кратаўся. Пасля зыбнуўся на нагах, падняў руку і пачаў выціраць з твару пот, як жагнаўся.

Яна тады падышла да самых калёс, стала побач...

Калі цяпер падняла вочы, убачыла, што Алёша ля-

жыць ніц на мяхах, а пад галавой у яго ахапак зайцавага гароху, укошанага недзе, мусіць, на мяжы ў аселіцы... Гарох яшчэ не высах, цвіце сіненькім агеньчыкам...

Ёй тады сціснула горла...

Янук зноў затупаў ля воза, пасля павярнуўся і ўтаропіўся на яе. Вочы яго, блакітныя, што ў дзіцяці, глыбока запалі, сталі вільготныя і глядзелі балюча-балюча... Ён паднёс руку да грудзей і схаваў даланёй чорныя гузікі ў кашулі. Здавалася, што яго раптам моцна ўкалолі. Хацеў нешта сказаць і не мог — дрыжала толькі ніжняя вусна,— тады нагнуўся над калясьмі:

— Ёска... Тваю маць...

Ён пагладзіў Алёшу сваёй доўгай рукой па галаве — рука яго зусім не слухала,— тады замычаў. Наста ніколі не чула, каб Янук так мычаў: як жывёла, якой нешта баліць. Янук пачаў кратаць Алёшу за плечы. Пасля ўзяў пад грудзі, хочучы, мусіць, падняць на рукі...

— Ёска... Ёска... Тваю маць...

Алёша выслізнуўся ў яго з рук і ўпаў на мяхі...

— Гэ-э-эй!.. Чаго астаўбуніліся? — клікаў знізу ад логу Боганчык.— Паганяйце... Здурнелі, ці што? Чаго спёрліся?..

Наста ўбачыла, што Боганчык звярнуў свайго жарабка з дарогі. Крычыць, не злазячы з воза. Далёка ўжо наперадзе, ля самага логу. Відаць, паганяў свайго шкадаванага, не глядзеў, калі пачалі страляць.

— Ёска... Ёска...— мычаў ля калёс Янук.

— Іван!.. Сюды!.. Мужчыны!.. Хлапца забіла...— Наста адвярнулася ад калёс і памахала пярэднім рукой. Пасля адышлася на дарогу, наперад каню, і стала махаць хусткай, зняўшы з шыі і сціснуўшы яе ў кулаку.

Калі раптам на ўвесь голас замычаў ззаду ля воза Янук, яна адвярнулася, і яе ўсю аж страсанула... На калёсах, падкорчыўшы пад сябе ногі, сядзеў Алёша і цёр кулакамі вочы... Яго стрыжаная галава блішчала ад поту і была чырвоная, што рак.

— Спаў... Задаўлю!..

Наста падбегла да воза і схапіла сухі лазовы дубец, якім Алёша паганяў каня. Дубец быў зламаны, адваліўся ля самай рукі: яго, мусіць, зламаў, хаваючы пад сябе, Алёша.

— Шчаня!.. Каб збіў, збіў на порхаўку. Гэта ж падумаць,— яна махала хусткай, змятаючы з мяхоў пыл.

Алёша, мусіць, успомніўшы, дзе ён, схапіўся дзвюма

рукамі за лейцы. Конь яго застагнаў і тарганууў хамут: яму цяжка было скрануць з месца воз.

...За Алёшавымі калясьмі пайшоў, асцярожна ступаючы па каменні, стары Янук. Атрасаў з падала кашулі пясок і паказваў дзясны — усміхаўся.

Буланчык сам не крануўся за падводай, і Наста вярнулася да свайго воза.

— Гэта ж падумаць-падумаць... Так заснуць... Сэрца хацела парвацца...— яна падняла лейцы з дарогі. Буланчык наравіўся, і яго трэба было паганяць.— Гэта ж падумаць...— яна тузала за лейцы, спаганяючы злосць, тады пачула, што дрыжаць ногі. Спыніла каня і палезла на мяхі.

«Шчаня...— падумала яна зноў пра Алёшу.— Нацягаўся і спаў як забіты: закалыхала на грэблі. Не звёў вачэй і ён усю ноч са старымі разам. Малыя цяпер што старыя...»

Наста пачула, што і сама як спіць: галава цяжкая, хоць ты яе падпірай, і ўваччу некуды едзе ўніз і поле з ячменем і дарога...

Яна тады выпрасталася на мяхах і ўхапілася рукамі за ляжэйку.

— Наста! Настуля!..— клікаў Боганчык з логу. Было відаць, як ён адышоўся ад воза.— Паганяй... Таню параніла...

Наста саскочыла з калёс.

Наперадзе на дарозе стаялі ўсе падводы.

## 3

Таня ўжо аж на грэблі апомнілася, што не зачыніла ў хаце дзвярэй. І ў хаце і ў сеначках. У сеначках яны бразнулі аб сцяну — і прыстылі: кожны раз завальваліся за вушак; а ў хаце як раз’ехаліся, калі Таня піхнула іх, бегучы з двара, так недзе і стаяць. Чорныя, старыя, на дзве палавіны. Адна палавіна адчыняецца аж да новай лавы ля стала, якую зрабілі партызаны,— зімой летась доўга стаялі, іх было многа, і ім не хапала месца сядзець,— другая, калі яе адхінуць, закрывае ў парозе суднік з міскамі. Дзверы ў хаце цяжкія, Таня іх стала адчыняць сама ўжо як падрасла.

Маці недзе ляжыць у запечку на ложку пад кажухом. Пад галавой у яе дзве падушкі, каб было вышэй. Яе трасе, а дзверы насцеж. І з вуліцы ўсё недзе відаць...

«Так забыцца... Як малая ўсё роўна. Хоць бы маці накрычала... Дык ляжыць і плача...»

Таня пачынае злавацць і тады тузае за лейцы кабылу. Але ўспамінае пасля, як у маці дрыжаць плечы, калі яна плача, і ёй шкода яе — аж сціскаецца нешта ў грудзях. Маці яшчэ ўчора раніцай была зусім нядужая і не хацела ехаць з вёскі ў Карчаваткі, гнала яе, Таню, адну. Разбудзіла додніцай — толькі яшчэ віднелася. Падышла да парога: там было свяжэй, расхінула дзверы і стаяла, прываліўшыся да вушака.

— Уставай, дачка, не ляніся... — гаварыла яна, нямогучы.— Карову прагані. Янук трубіць. Не магу на нагах стаяць ані. Галава вядзе. Кроў з рота пайшла. Мне ўжо лягчэй, не бойся... Уставай, дачка, чапурыся. І слухай, што Панкі робяць. Пойдзеш з усімі, я адна дома астануся... Дыхаць не дае ніяк. Колькі сталі ў плячах...

На дварэ было ўжо відна. Прагнаўшы скаціну, ля варот яшчэ стаялі людзі, гледзячы ўслед старому Януку. Янук, ідучы сярод вуліцы па пяску, дзе курэўся пыл, трубіў у доўгую трубу з бяросты — гаманіў на ўсю вёску.

З начы за лесам ля Камена было ціха, і людзі натапырыліся з самай раніцы: ніхто не хацеў ісці ў хату. У кожнага на двары нехта быў: папраўляў вароты, скрыпеў асверам. Недзе рэзалі дровы, у Панка, мусіць,— піла звінела на ўсю вёску. Людзі між сабой не гаварылі, і было неяк надта ціха. У некага рана пахла з коміна дымам. Гарэлі смалякі, і дым добра быў чуваць на дварэ.

Ці не пажар дзе? — людзі падымалі галовы і пазіралі на вуліцу.

Толькі Янук трубіў, не сціхаючы, ля лесу — сёння ён пагнаў кароў за Карчаваткі на пасеку. Адтуль, дзе схавалася скаціна, ішлі ў вёску партызаны — былі ўжо блізка ля Боганчыкавай хаты, заняўшы ўсю вуліцу.

Таня бачыла іх з двара, ідучы ў хату. Выгнаўшы карову, яна нават не прыткнулася ля варот: маці недзе і стаіць у парозе ля вушака, не адышоўшыся. Не дойдзе сама да ложка. І чаго ўставала... Магла клікнуць яе, Таню. Яна, Таня, не так ужо моцна спіць і сама прачнулася б, калі б Янук затрубіў ля хаты. Янук у кожнага ля варот трубіць — будзіць... Трэба скарэй завесці маці да ложка, каб лягла, і падаць ёй пад галаву падушкі. Яна тады як сядзіць усё роўна, і яе не блажыць...

З двара было чуваць, як кашляе ў хаце ў парозе маці...

Таня была ўжо ля самых сеначак, калі далёка над лесам, у тым канцы вёскі, якраз над загуменне, узляцела ракета. Чырвоная і яркая, што мак. Вісела над пустымі азяродамі ў Панка на гародзе і, калі падала, доўга яшчэ блішчала, як шкляная. Таня бачыла ракету першы раз.

Стала раптам ціха, як у вушку. Не бразгалі на вуліцы вёдры, у Панка на дрывотні сціхла піла. Нават маці не было чуваць у сеначках. Толькі тахкала ў грудзях: тах, тах, тах...

Тады за вёскай, на загуменні, загрымела моцна і не сціхаючы — здалося, зусім блізка, бы ў Панка ў хаце звалілася што са сцяны на падлогу ці перасоўвалі лавы.

— А-а-а-а...— захлебястала за лесам у канцы вёскі і за ракой на могілках.

Ускочыла над Панковымі азяродамі і пагасла яшчэ адна чырвоная ракета; нехта нема закрычаў на вуліцы, пасля там заплакалі дзеці.

— Што ж гэта, дачушка? Дзе-е-е ты-ы?..— маці, нямогучы, лавіла рукамі вушак у сеначках: ішла на двор.

— Ма-ама...— як нешта адарвалася ў Тані ўсярэдзіне — яна загаласіла, бегучы да маці.

Каб не падхапіла яе пад паху, яна б упала на жвір ля парога, дзе стаяла дзежачка з вадой.

У хаце маці прывалілася на лаву ля стала, дыхала з сябе, выціраючы рукой мокрыя шчокі, і глядзела праз акно ў гарод.

— Чыё гэта на загуменні гарыць, дачушка?.. Агонь над нечай страхой ускочыў. Дзе ж гэта? Што ж гэта будзе, дачка? Не плач, дачка, не плач... Не трэба плакаць. Нядужа я зусім, але мне лепш, не блажыць. Бяжы, дачка, запрагай кабылу. Калёсы на гародзе. Сена з ляжэек скінеш пад паветку. Глядзі, што людзі робяць. Панка клікні, паможа. А я буду вузлы збіраць. Не плач, дачка, не плач, ты ўжо не малая. Што міру — то і бабіну сыну. Будзем як і ўсе... Бяжы, дачка...— Маці ўстала з лавы і, кашляючы, пайшла да печы, дзе стаяў ложак.— Дыхаць займае. Чохаўка напала... Бяжы...

Таня ніяк не магла адарваць локці ад падаконніка. На двары ля хлева замахаў крылямі, выцягнуўшы шыю, чырвоны Панкоў пявень — крычаў. Яна яго не пачула. Павярнулася пасля і глядзела, як маці ўзяла за рагі пасцілку з ложка і стала вытрасаць на хаце ад пылу.

«Падушкі будзе звязваць...»

Стралялі, здавалася, недзе блізка: у канцы вёскі і за

грэбляй ля могілак. Таня ніколі не чула, каб так блізка стралялі.

Яе схапіў холад: ляскалі зубы, усё ў хаце, здавалася, было халоднае, што зімой на двары. Яна бачыла праз акно, як ля маста за аселіцай ходзяць, сагнуўшыся, партызаны...

На ложку ўжо ляжалі звязаныя ў рудую пасцілку падушкі.

— Глядзі тады ў хаце, дачка... Збяры ўсё з судніка ў абрус. А я пайду Панка клікну, запражэ...— Маці, узяўшыся за грудзі, ішла да парога.

Тады Тані стала горача, бы на яе лінулі вару.

«Маці паваліцца можа...» — падумала яна і закрычала:

— Ма-ма!..

— Запрагай тады, дачка, сама і пад'едзь да ганка. Я лахманы яшчэ з куфра збяру. Нічога ж не схавалі дагэтуль, апушчэнства наша. На вачах усё... Не баўся, дачка...

Маці падышла да куфра, што стаяў ля акна ад гароду, і падняла века.

Таня кулем вылецела ў сенцы: там на шафарні ляжала збруя. Несучы яе перад сабой у гарод, дзе стаялі калёсы, яна думала, што ў іх жа новая дуга, якую даў зімой Панок, калі зламалі старую, возячы дровы. Дуга тоўстая, сукаватая, на яе не надзенеш гуж, трэба браць аглаблю пад паху. А хто пасля паможа засупоніць хамут?..

Яна ўгледзела з двара, што ў Панка конь ужо быў запрэжаны — стаяў ля ганка — і на возе ляжалі хатулі. Самі Панкі ўсе сядзелі, мусіць, у хаце, на двары нікога не было: ні самога Панка, ні Паніхі з дзяцьмі. Таня ўбачыла яшчэ, што людзі ўжо едуць загуменнем: недалёка ад сваёй пуні, ля дзікай грушы, паганяў каня Мірон Махорка, на возе сядзелі бабы ў белых хустках. Аж навыскачку гнаў гародамі свайго жарабка Боганчык: на калёсах ён быў удвух з бацькам.

Бацька — без кепкі, і з калёс блішчыць яго лысая галава.

Таня падумала, што людзі з начы яшчэ пазапрагаліся, а ім ніхто не сказаў...

Калі яна адчыніла ў хлеў дзверы, праз акно ў сцяне — маленькую шыбіну — засвяціла чырвонае, што жар у печы, сонца: якраз у вочы.

«Усходзіць...» — падумала яна і закрылася рукой —

нічога не бачыла: ні курэй, што скакалі пад ногі з куросні і хлопалі крыллем, ні кабылы, што заржала ў кутку, дзе стаялі яслі...

У хлеве было страшней, як у хаце: здавалася, стралялі над галавой, нібыта дзеці, сабраўшыся з вёскі, білі па страсе па драніцы каменнем... Кабыла хмылілася і доўга не давала надзець аброць. Таня гладзіла яе ля самых вушэй, там, дзе была белая ясачка пад грывай. Кабыла тады скочыла да дзвярэй, чуць не вырваўшыся з рук, і спопаразку стала ў парозе. Упёрлася, задзёрла галаву і не пайшла на двор. Таня ўзяла за цуглі — кабыла падняла яшчэ вышэй галаву, падымаючы ад зямлі Таню. Пасля захрапла, адсела назад. Пад нагамі ў яе затрашчалі рэзгіні, з галавы зляцела аброць і чмякнула на гной; забразджалі цуглі. Перакуліўшы яслі, яна ўскочыла ў загарадку, дзе стаяла карова, і павярнулася задам да дзвярэй...

— Ма-ама!..— закрычала на ўвесь двор Таня. Падняўшы аброць, яна хацела была бегчы да варот, але Панка на двары не было: ён паганяў каня на вуліцы, аж ля самай фермы — паехаў на загуменне.

У канцы вёскі была аціхла страляніна, тады пачалі страляць за ракой і ля могілак — з Сушкава.

«Адны мы дома...— падумала яна, і ёй яшчэ горш стала страшна.— Немцы ўжо ў Сушкаве...»

Убачыўшы ля варот на вуліцы Юзюка, яна злякнулася, як немаведама чаго. Юзюка яна адразу не пазнала: бачыла даўна, вясной, калі сеялі на загуменні бульбу. Ён як усё роўна недзе быў дзеўся з вёскі: ні знай — ні ведай куды.

Юзюк ішоў па двары спавагі, як стары. Яго босыя ногі былі мокрыя ад расы, і на іх паналіпала пяску. Ішоў, ні разу не азірнуўшыся за раку на Выганчык, дзе стралялі. Яго нястрыжаныя валасы рассыпаліся на галаве на рад і закрывалі вушы. Рукі ён усунуў у кішэні, бы хаваў ад людзей. Глядзеў на Таню што чужы, насупіўшыся і спадылба, як не пазнаваў. Вочы ў яго былі вялікія і бегалі: з Тані — на гарод, дзе стаялі калёсы; з гароду — на яе, Таню.

— Што, не запрагліся? Я так і знаў. Адны на ўсю вёску... Дзе кабыла? — ён узяў аброць у Тані з рук, а яна стаяла і нічога не магла сказаць. Адкручвала толькі павадок, які быў закруціўся ў яе за руку.

— У хлеве...— пасля як апомнілася яна.

— А матка дзе?

— У хаце...

Ён нічога не сказаў, крутнуўся толькі на нагах, і ёй падумалася, што ў яго шырокія плечы і ходзіць ён па-двары як усё роўна мужчына... Ён запражэ кабылу, і яны паедуць з усімі ў Карчаваткі.

Стала ціха, і ёй здалося яшчэ, што пашырэў двор; яна ўбачыла, як блішчыць на падарожніку і ў гародчыку на высокім бацвінні раса. У гародчык праз дзіркі ў паркане палезлі куры.

«У гуркі... Завязь дзяўбаць...— падумала яна.— Цяпер буду ведаць, якія памаўзлівыя...»

— Акы-ыш!..— закрычала была яна, але куры яе не пачулі: ішлі баразной між град, клюючы бацвінне. Яно было высокае і краталася ў іх над галовамі.

Яна ўбачыла яшчэ, што на небе ні воблака — яно, як і ўчора, чыстае з самай раніцы. Сонца яшчэ над лесам, чырвонае і не грэе. Недзе за вёскай, у Камене, мусіць, нешта гарыць — угару слупам падняўся чорны дым. На вуліцы ля Панка бегалі і пішчалі курчаты, маленькія, жоўценькія. Адны, без квактухі. Ля маста, мусіць, у Махоркі ў гародзе, рыкала цяля.

Тады зноў пачалі страляць: і ў канцы вёскі і за ракой на могілках — ля Сушкава.

На ганак выйшла маці, несучы перад сабой дзве падушкі, звязаныя рудой пасцілкай; паклала іх на зямлю, села на парог і стала глядзець на яе, Таню, падпёршы рукой галаву.

Глядзела і плакала.

Юзюк вывеў на двор кабылу — кабыла ішла за ім, дрыжучы і хмылячыся; з-пад грывы ў яе блішчалі вочы; у зубах краталіся і бразгалі цуглі.

— Здарова, матка!.. — загаманіў Юзюк адразу на ўвесь двор.

— А дзеткі... Адкуль жа ты, сынок? — маці падымалася з парога.— А што ж гэта робіцца? Гэта ж кінуць-рынуць усё... Гэта ж бегчы нітведама куды...

— Нічога, матка. Мы ціхачом... Карчаваткі блізка...— Юзюк паказваў зубы, смяяўся.

— А вашы, сын? Паехалі, мусіць, калі прыбег... Толькі мы адны і хворыя і апушчоныя...— маці стаяла на нагах.

— Нашых ужо чорт не возьме. Калёсы грымелі па загуменні, аж немцы папужаліся і — назад, за раку... Як мышы — тыц, тыц у кусты... Сам відзіў.

— Не трэба так, сын... У вашай жа маці малыя...

— І малыя і старыя далі драйлозы... Дагонім. Не плач, матка...— ён вёў кабылу на павадку далёка ад сябе, баючыся, каб яна не наступіла на босыя ногі,— тая грызла цуглі, секучы падковамі зямлю ля ганка. І зноў Таня падумала, што Юзюк як мужчына... Падумала яшчэ, што ён усё лета босы, а вялікі ўжо; што і на вечарынкі прыходзіў босы — абуць, відаць, не было чаго добрага, а лапці не хацеў насіць.

Кабыла рвалася з аглабель, і Таня ўчапілася ў дзве рукі за аброць ля цугляў. Юзюк, задраўшы нагу і ўпёршыся ступнёй у белыя клешчы ад хамута, што меў сілы цягнуў за супонь. Шырокая чорная супонь з сырамцу — ад яе яшчэ пахла — уядалася яму ў пальцы: яны аж пасінелі. З-пад босай ступні ў яго церусіўся на траву пясок.

— Таня...

— Га?

— Дзе матка?

— У хаце. Па хатуль пайшла. Пакуль вынесе, нямогучы...

— Таня...

Яна маўчала, учапіўшыся рукамі за аброць: кабыла аж са скуры лезла.

— Таня... На Палік пайдзём... Супонь чортава... Сырызна... Не сцягнеш... Таня...

Яна маўчала. Не думала, што ён скажа такое.

— Дугу яшчэ знайшлі!..— ён ужо аж кіпеў. У яго супачырванелі і рукі і твар: наліліся крывёю.— Таня! Я сумысля... Па цябе... На Палік усе ідуць. Немцы прыйдуць — нойдуць і Курчаваткі... Таня! — Ён быў памаўчаў.— Мы з табой будзем, удваіх... Не бойся... Маці пакінем з нашымі... Старых не зачэпяць...

З Сушкава немцы стралялі, не сціхаючы, і ён аж крычаў на ўвесь гарод, не могучы засупоніць хамут. Яна маўчала; чула толькі, як гараць шчокі, бы хто надаваў па іх, і думала:

«Што ж гэта... Што ён гаворыць? Кінуць матку?»

— Таня... З Карчаватак тады пойдзем... калі хочаш... Яшчэ дагонім усіх. А матка будзе з нашымі, я ж кажу...

— На ліха яно мне куды ісці...— Таня і сама не ведала, як у яе гэта зляцела з языка.

Ён быў сціх, паглядзеў на яе спадылба вялікімі вачыма і закрычаў пасля зноў, паказваючы рукой за раку на могілкі:

— Чуеш?

Таню адпусціла злосць. Захацелася плакаць.

— Дацямна яшчэ будзем аж за Дзвінасой... Таня...

Пасля ёй ужо здавалася, што Юзюк нічога не гаворыць, толькі кліча: Таня... Таня... Ніхто такім голасам яе ніколі не зваў...

Сціхла раптам у Сушкаве страляніна; было яшчэ чуваць, як па лесе ідуць адгалоскі. Біла нагамі кабыла, соп, змарыўшыся, Юзюк. Пасля, адвярнуўшыся ад хамута, ён каторы ўжо раз як шапнуў усё роўна:

— Таня...

Яна больш не падымала на яго вачэй: баялася.

Ён маўчаў, стоячы ля аглабні пад самай паветкай, і не ратаўся, мусіць, глядзеў на яе, Таню, спадылба.

У вёсцы было ціха. За ракой, дзе нядаўна стралялі, кігікала, як шалёная, кнігаўка, і за гумном, у сасонніку, ляскаталі па карэнні калёсы.

Біла аб зямлю падковамі кабыла, дастаючы наверх белую, маленькую, што боб, маладую бульбу. Калі ёй адпусцілі павады, сціхла і павярнулася пад паветку да сена, падцялежыўшы калёсы.

Далёка ў лесе зарыкала скаціна, і зноў стала ціха. Пасля за грэбляй, у тым баку, дзе могілкі, нешта заныла, як пад зямлёй. Заныла і сціхла. Тады зазвінела, што пчала, і раптам, ужо над самай грэбляй ля маста, загудзела на ўсю вёску.

Таня ўгледзела «раму», калі тая была над Панковай хатай. «Рама» ляцела нізка, дастаючы да стрэх, як і ўчора надвечар. Праляцела над самай вуліцай і, скрывіўшыся, заварочвалася ля лесу над ямамі, дзе хавалі на зіму бульбу і дзе ўсходам сонца, калі Янук гнаў у поле скаціну, хадзілі з рыдлёўкамі партызаны — капалі акопы. Назад ляцела зноў над вуліцай, яшчэ ніжэй. Чорная і дзіравая, як старая засланка ад печы, яна махала крылямі. У канцы вёскі адразу схавалася з вачэй, звалілася некуды, як падбіты груган, за лес і там доўга ныла, не сціхаючы.

Тады ў тым баку, далёка, мусіць, аж у самым Камене за ракой, глуха бухнула, як што цяжкое дзе боўтнула ў ваду; пасля прашумела над загуменнем, як бусел ляцеў на сасну, што стаяла на бульбянішчы ля лесу, і грымнула на самых ямах. У хаце, было чуваць, дробненька зазвінелі вокны.

— Та-аня!..— закрычаў Юзюк, і яна адскочыла ад калёс. Рванула ў аглобнях кабыла, Юзюк, ухапіўшыся за

лейцы, падвярнуў яе пад паветку, зусім падцялежыўшы калёсы: — Матку бяжы бяры! Матку!..

Калі Таня пераваліласяў хату цераз парог — ударыла, што перуном, мусіць, ля варыўні на бульбе. Здалося, у сцяну ад Панковага двара. Задрыжалі вокны. Са столі аднекуль на падлогу пасыпаўся пясок.

— Та-аня!..— крычаў на гародзе Юзюк.

Калі яны выйшлі з маці на двор, над вёскай зноў зараўла «рама».

...Таня глядзела з калёс на дарогу... Тут, дзе яны падымаюцца на гару да школы, кабыле па калені пяску, і яна ідзе як па балоце ў Карчаватках — напінаецца што мага. Ля ячменю, дзе ўбітая сцежка, утаптана ў пясок трава. Дарогу тут здрабяжылі і коні і людзі: знаць падковы і сляды ад ботаў. Сляды ў ямачкі ад цвікоў: нямецкія.

Тады Таня зноў падумала, што яна пакінула дома расчыненую хату і што маці, нямогучы, устане з ложка і пойдзе зачыняць дзверы. Каб жа яна, зачыніўшы, адразу вярнулася на ложак... А то возьме гальнік і будзе мясці ганак. На яго кожную раніцу скачуць куры, наносяць пяску. Замятай толькі за імі, стой з гальнікам у руках і не адыходзься, калі не прагоніш з двара на гарод у бульбу, дзе яны капаюцца пад каліўем...

Выгнаўшы курэй з сеначак, маці кожную раніцу мяце двор ад ганка да варот... Нават каменьчыкі падсоўвае граблямі пасля веніка. Так яна падмятала і сцежку на вуліцы ля свайго плота — да цвёрдай зямлі. Ступаеш тады па ёй, а яна халодная, як з-пад лёду вясной.

Сёння, калі яны вярнуліся з Карчаватак, на двары было аж бела ад пер'я — у іх вяліся адны белыя куры... Пер'е было ў крыві, мокрае яшчэ, папрыліпала да падарожніка. Валяліся і выкінутыя з варыўні пад прызбу пабітыя паўцагелкі і знятыя з шастка з гары венікі — былі растрэсены па ўсім двары... Маленькія венікі, што маці навязала, каб хвастацца зімой у Панка ў лазні, якую ён скідаў летась у гародзе ля рэчкі. Венікі і не высахлі добра — бярозавае лісце пахла на ўвесь двор.

Ля варыўні яшчэ пачалі рыць уласаўцы яму, доўгую, роўную з парканам. Мусіць, акоп рабілі ці шукалі чаго. Навярнулі пяску цэлую гару, бы яго вазілі ўвесь дзень з-пад лесу ад ям, каб засыпаць гразь на двары ля хлева.

Маці, нямогучы, сабрала на двары з-пад ног венікі і,

абышоўшы яму па пяску аж ля плота, укінула іх у варыўню праз парог. Маці такая...

Калі пачынаюць ззаду, ля маста, страляць, Таня, седзячы, нагінаецца да мяхоў, аж баліць паясніца. Бачыць тады, як кабыла рассыпае заднімі нагамі на дарозе пясок,— пяску на гары ля школы па калені, і яго высака падкідаюць, круцячыся, колы, на самыя ляжэйкі. Ёй тады страшна — нібы валішся з калёс... Яна выпускае з рук лейцы і хапаецца за мяхі...

Доўга кідае з боку на бок...

Калі робіцца ціха, не страляюць, Таня адгінаецца, спаўзае ў перадок і ссоўвае з мяхоў ногі: памлелі. Кабыла махае хвастом, дастае аж да калень. Хвост у яе мяккі, рассыпаецца па нагах, што ручайка лёну, і тады хочацца пацерабіць іх аб ляжэйку. Але нагам лёгка, яны не ныюць, і Таня папраўляе сваю доўгую касу: каса раскруцілася і з'ехала на шыю.

«Цяжкая... Трэба было дзве заплясці і акруціць ля галавы. Дзве не спаўзалі б...»

Паправіўшы касу, закруціўшы тужэй і прыкалоўшы дзвюма шпількамі з белага дроту, яна глядзіць назад на грэблю: там жа стралялі. Але на дарозе пыл, падымаецца, паўзе на ячмень. Відаць адзін Янукоў конь: далёка за ім едуць Сяргеішын Алёша і Наста. Саміх іх за пылам не ўгледзіш, чуваць толькі, як ляскочуць ззаду калёсы.

«Асталіся як...» — думае Таня, і ёй тады яшчэ горш страшна. Калі ўсе блізка, яна не баіцца, а так здаецца, што адна на дарозе. Алёшы зусім не відаць на возе. Наста толькі махае ля яго калёс хусткай.

Таня падымаецца на возе на калені.

«Дзе Алёша?.. Вярну-ўся ў вёску...— здагадваецца яна.— Наста, мусіць, вярнула. Узяла сабе падводу, а самога вярнула. Ён жа ім не раўня. Дзіця яшчэ зусім, каб нанач ехаць аж у Краснае... Наста добрая...»

Калі Таня думае, што Алёша вярнуўся, ёй тады хочацца плакаць. Яна зноў устае на возе на калені і глядзіць назад, у вёску. Але іхняй хаты адгэтуль не відаць...

Тані і самой хочацца вярнуцца. Папрасіла б Янука, хай бы ўзяў кабылу. Кабыла паслухмяная. Прывязаў бы за аброць да сваіх калёс, ішла б... Янук, відаць, не паслухае. Наста паслухала б, але яна не возьме тры падводы. Можа, Боганчыка дагнаць? Не-е... Яго яна не любіць. Ніколі б не стала і прасіць. Яна з ім і ў вёсцы не гаварыла... Панка каб...

Алёша недзе ўжо дома... Перабег грэблю, абмінуў ля маста ўласаўцаў і — у вёсцы. У вёску ўласаўцы пускаюць. Сёння ўсіх пусцілі, хто варочаўся з Карчаватак...

Яна зноў глядзіць назад на дарогу — Алёшы на калёсах не відаць. Тады яна думае, каб узяць і пабегчы самой... Ссунуцца ціха з мяхоў і — на грэблю, як Алёша.

Але дома стане крычаць маці...

Таня раптам падумала, чаму маці гнала яе ў падводчыкі, калі Махорка з уласаўцамі прыйшлі на двор браць кабылу. Чуць стаіць сама ад плачу, а яе гладзіць па галаве і шэпча:

— Едзь, дачка, едзь... Я адна буду мэнчыцца...

Баіцца маці нечага... Хіба яна, Таня, не схавалася б ад уласаўцаў у хлеве, каб у Германію не пагналі? Другі раз яе ўжо не папёрлі б у вёску да Міронавай хаты... Не ў хлеве, дык у бульбеўніку на гародзе схавалася б. Бульбеўнік вялікі, свіней з яго не відаць, калі ўлезуць у бульбу.

Алёша недзе дома... Бяжыць на двор вулачкай ля паркана і смяецца, паказваючы зубы, як і яго брат, Юзюк. Маці яшчэ з-за парога накрычыць на Алёшу, што ён аблыхаў з раніцы, як сабака, усю вёску — як толькі галава ў яго на карку асталася і як толькі зямля яго носіць... Што ён без бацькі зусім адбіўся ад рук, не стыкаецца дома, і што яму, неслуху, трэба даваць і даваць лупцоўку, колькі ўлезе, і ён яе некалі схлапоча, не міне... Пасля яна пагоніць яго за калыску — калыхаць блізнюкоў, а сама, правячыся, пойдзе да печы і стане бразгаць пасудай на лаўцы ля прыпечка. Алёша будзе маўчаць у пароэе, натапырыўшыся, як шашок, і сапці носам; тады, калі маці «астыне», ён адыдзецца да ложка, што стаіць у іх ля акна ад гароду, прыхінецца ціха да брыжа і пачне кратаць аднэй рукой калыску. Скрып, скрып...— заскрыпіць прывязаны вяроўкай да бэлькі канец сухой бярозавай жэрдкі, а Алёша будзе спадылба глядзець у парог, дзе маці, і зусім не слухаць, як плачуць у калысцы блізнюкі, пакуль маці зноў не закрычыць на яго, каб ганяў мух. Тады ён пачне ганяць мух — пamaxae рукой, засунуўшы пад пасцілку, і, калі сціхнуць блізнюкі, адвернецца, не будзе глядзець ні на маці, ні на калыску. Прыліпне да акна, праз якое відаць загуменне, дзе ля пунь сціrты саломы і за дарогай жоўты пясок, і стане ўглядацца туды, успамінаючы, мусіць, учарашнія гулі. Пасля засмяецца, ціха, угнуўшы пле-

чы і паказаўшы зубы. Тады ён зусім падобны на свайго Юзюка.

Таня кожны раз заставала Алёшу ля калыскі, калі хадзіла да Сяргеіхі. І сама калыхала блізнюкоў. Нават адхінала пасцілку і глядзела на іх. Ляжаць у глыбокай калысцы намітуські — сюды галава — туды галава,— у палатняных полачках, спавітыя чырвонымі паясамі з кутасамі, і кратаюць вусенкамі: смокчуць суслы з белай анучкі...

Алёша, калі смяецца,— выліты Юзюк...

Ля дарогі над ячменем мітусяцца ў пыле белыя матылі, як хто іх перасыпае, і лятуць ззаду за калясьмі. Яны ляцелі кучкай аж з вёскі з аселіцы: пырхалі і садзіліся на гразь, ля маста, калі піла ў рацэ кабыла.

Таня глядзіць на матылёў, і ёй хочацца саскочыць з воза і палавіць іх у жменю: махаць рукой, сціскаючы пальцы ў кулак, і прыгаворваць:

Матыль, матыль, дай мукі,
А я табе маку...

Яна гэтак лавіла матылёў, калі была такая, як Алёша. Цяпер ёй пайшоў пятнаццаты...

Матылі на гары астаюцца ззаду — мітусяцца недзе аж ля Алёшавых калёс.

Алёша ўжо дома...

Таня думае пасля, дзе ж цяпер яго брат, Юзюк. Недзе ўжо ля Дзвінасы... Адтуль яшчэ далёка да Паліка...

Ляскочуць наперадзе ў некага калёсы. За Кур'янаўскім садам гудзяць і гудзяць ад палудня самалёты. Храпе кабыла, скрыпіць пад мяхамі задняе кола, рэжацца аб загваздку. З меха аднекуль на руку пырснула жыта, дробненькае, сухое, аж счарнела: залеташняе, мусіць. З дзіркі, ці што? Крычыць, махаючы рукамі, на сваёй падводзе Боганчык. Зноў страляюць уласаўцы ля маста.

Калі блізка пад'язджаеш да ячменю, сыплецца на твар чорная мошка, дробная, што мак, лучае ў вочы, і тады пячэ пад павечкамі...

Таня трэ вочы кулакамі, а калі адплюшчвае, пад павечкамі яшчэ горш рэжа і баліць...

Та-та-та...— стукае несціхана ля маста кулямёт, якраз як і тады, калі яна вяла маці пад пахі з хаты на двор пад паветку, а Панковым гародам беглі па бульбе на аселіцу да маста партызаны...

Стала холадна, як ноччу пад раніцу ў Карчаватках у

балоце, калі не было дзе сесці, бо ўсюды чвякала вада...

Таня спіснулася на возе ў камяк, падкорчыўшыся і ўгнуўшы галаву. Бачыла цяпер перад сабой толькі, як махае хвастом кабыла; а калі варочала галавой, каб зірпуць, дзе страляюць, ёй былі відаць на Алёшавых калёсах адны мяхі.

Янука старога з Настай зусім не ўгледзіш за пылам.

Цыў...— свішча над дарогай, якраз як тады, калі яны ехалі па загуменні і Юзюк бег ля калёс, паганяючы кабылу.

«Дзе цяпер Юзюк?..»

Та-та-та...— здаецца, страляюць зусім блізка ў ячмені і на двары ля школы.

Застрыгла вушамі кабыла і, напяўшыся, скочыла ў ячмень. Таня пачула, як у яе зачапілі ля нагі сена. Яно зашапацела, што сухая трава на купіне на балоце...

Яна адсунулася на возе ўзад і яшчэ больш нагнулася, апёршыся рукамі на мяхі. Пайшла навыцяжку кабыла па ячмені, якраз там, дзе падымаўся пыл,— як сумысля.

Закрычаў нехта ўперадзе на дарозе... Здалося, як усё роўна на двары пад паветкай Юзюк... Ён забягаўся па яе... І што гэта ён казаў? Каб яна кінула матку? Ён і яшчэ ёй гаварыў... Яна помніць што... Ёй яшчэ ніхто такога не гаварыў... Яна і не думала ніколі, што такое гавораць... І каб хто, а то Юзюк, Алёшаў брат, тоўсты, як лантух, лабаты і босы... І глядзіць ён спадылба, і ў хаце ў іх двое блізнюкоў...

Пыл падымаўся цяпер ля самых калёс; пабегла кабыла, мусіць, па загонах: кідала з боку на бок...

Тады закрычала на ўсю дарогу Наста...

Калі ля маста перасталі страляць, на гары ля школы стала ціха. Ляскаталі толькі дробненька калёсы, дзе ехаў Панок; ззаду нікога не было чуваць. Падняўшы галаву, Таня ўбачыла, што кабыла ідзе дарогай за Панковымі развадамі; яна тады аглянулася: ля Алёшавых калёс стаяла з Януком Наста.

«Чаго яны пасталі?..»

Яна хацела крыкнуць ім, што Алёша недзе дома, хай не дзівяцца, калі не згледзелі, як ён збег; хацела нават падняцца, каб стаць на калені. Тады пачула, што пад нагамі мокра... Лапнула рукамі па мяхах — рукі былі ў крыві.

Яна адсунулася на край воза да ляжэйкі. Забалела-за-

балела ля калена нага — запякло, што агнём... Аднекуль зноў узяліся і заслалі свет матылі... Белыя, мітусяцца перад вачыма: уверх-уніз, уверх-уніз...

Пасля ёй здалося, што яна, убегшы ў хату з гароду, дзе астаўся пад паветкай Юзюк, паслізнулася на падлозе і ўдарылася аб парог... Зазвінела ў галаве.

Выпусціўшы з рук лейцы, яна адвалілася на мяхі.

## 4

— Што будзем рабіць з дзяцьмі, мужчыны?..

Таня пачула Настулін голас як адкуль здалёку; тады ля самага воза на ўсё поле загаманіў Махорка, а яна ляжала, адплюшчыўшы вочы і сціішыўшыся, як вінаватая. Было горача, хацелася піць, у роце перасохла, што ад палу, калі доўга ляжыш хворая, але яна не папрасіла — баялася клікнуць Насту...

Якая цяжкая нага...

Нагу перавязалі, сціснуўшы як мага, падолам ад Настулінай кашулі. Падол Наста адрывала, стаўшы ў пясок на калені за калясьмі, каб не глядзелі мужчыны. Пасля высыпалі з Танінага белага кужэльнага мяшка на дарогу жыта, раздзёрлі па шве мех і ўкруцілі ім, што ручніком, нагу. Укручвалі Наста з Панком. Крыві цяпер не відаць і не баліць нага, толькі цяжкая. І — совае ў калена, як хто гарачым прутком, выняўшы з агню.

— Што будзем рабіць з дзяцьмі, Іван? — гэта голас Насты. Яна стаіць пасярод дарогі, Насту абступілі мужчыны, топчуцца ля яе, Таніных, калёс: Боганчык, Махорка і Валодзя Панок. Янук сядзіць, сагнуўшыся на калёсах і насунуўшы на галаву кепку...

— З якімі дзяцьмі?

Гэта Боганчык. Асіп, кашляе. Таня яго зусім не пазнае, хоць, падняўшыся, бачыць Боганчыкаў спалены на сонцы шырокі чырвоны нос і чорную бараду.

— З Таняй... З Алёшам... Што глядзіш у зямлю?

«Алёша?..» — Таня вышэй падымаецца на возе, каб паглядзець, дзе ён; на яе крычыць Наста, але Таня бачыць Алёшу: той сядзіць на сваіх калёсах што цвік, натапырыўся, скрывіў галаву і слухае, што гавораць уперадзе. Тады яна зноў кладзецца на мяхі — на яе крычыць і крычыць Наста,— але цяпер нізка пад галаву і не відаць, што робіцца на дарозе.

Чаго яны ўсе сышліся?

— Таня?.. Дзеці?..— зноў захліпаецца Боганчык.— Ды я ў пятнаццаць...— ён сіпіць, і калі Таня падымае галаву, бачыць, як ён стукае сабе кулаком у грудзі.

— Ціха... Ціха...— гэта зноў гаворыць Наста. Падняла ў руцэ хустку і махае на Боганчыка, бы хочучы адагнаць яго ад сябе, як жывёлу.

«Чаму яна адна з ім гаворыць?»

— Дзіця-я... З-за пазухі валіцца...

— Пры дзецях? Паўважайся тады мяне, старой, Іван... У Тані ж нага. Рана...

«Рана!.. Яе завязалі, каб не ішла кроў. Змярцвела ўся нага...»

— Р-а-а-на... Аб ляжэйку абдзёрла...— сіпіць усё Боганчык.

«Ага. Не рана. Аб ляжэйку абдзёрла... Чаму яны тады не даюць устаць? Як хочацца піць...»

— Што будзем рабіць, мужчыны? Чаго вы ў рот вады набралі?

Мужчыны маўчаць; сціхае і Наста, пасля ўжо гаворыць:

— Праз цябе, Іван. Хай бы Таня дома з маткай аставалася. Ты яе выпер... Не цярабі барады...

— Я? Я выпер? Значыць, я? — зноў на Насту махае пугаўём Боганчык.— А што? Адзін за ўсю вёску галаву панясу? Адзін? За ўсіх вас? Добранькія ўсе... Дома б асталіся... А Івана аднаго ў Краснае, каб яго там... асвяжылі... Не-е...

— Што будзем рабіць? — Наста пытаецца ўжо ў некага другога, адвярнуўшыся ад Боганчыка.

— Ехаць трэб-ба...— заікаецца Панок і кашляе.

— Не начаваць жа тут... Улупяць, брат,— пясочак пасыплецца...

— Не да смеху, Махорка...— зноў кашляе Панок, закрываючыся рукой.

— Х-хе... Х-хе...

— Мужчыны, мужчыны...

— Не шумі, Наста... Сама знаеш. Куды адашлём дзяцей? У вёску?.. Дзякуй, што вырвалі. Хоць двое.

— Што ты гаворыш, Пан? Там жа і твае... Там жа і мае...

— Тое і гавару...

— Што ж мы стаім, мужчыны? — Наста зноў пытаецца, падыходзячы то да аднаго, то да другога.

Цяпер ужо ніхто ёй нічога не гаворыць. Пачакаўшы,

махнуў Махорка рукой, на якой не было двух пальцаў, недзе ў сябе ля носа:

— А нам, татарам, усіраўно: ці водка, ці пулямёт... Ліжба з ног ш-шыбала...

— А дзеці? Вы што гэта ўсе сягоння, Мірон?

— Чорт іх не возьме. З'ездзяць і вернуцца. На нашых вачах. Што я ім, скажы — звер?.. У мяне ў самога дзеці...

Тады доўга заікаўся, кашляючы, Панок — гаварыў нешта Насце на вуха. Таня зірнула на яго — ён скроб пальцамі сівую патыліцу,ківаў галавой і ўсё глядзеў на гару, дзе была вёска.

— Чаму яны па нас с-стралялі? — спытаўся ён пасля неяк ціха і немаведама ў каго; тады пачаў хадзіць па дарозе ўзад-уперад.

— Таму, што вёску яны ўсё роўна спаляць... І яны ведаюць, што ты паедзеш і пад стрэлам хоць чорту ў ляпу, бо дзеці твае там, у іх у зубах.

— Што ты гаворыш, Мірон?

— Тое і гавару, Наста. У Людвінове падумаем. Па дарозе... Калі што якое, там можна астацца. У Людвінова немцы не пойдуць. У лесе...

— А вёска тады?.. Спаляць жа. Спаляць. Думаеце, мне адной хочацца накарміць немцаў...

— А ў мяне што, Наста,— не дзеці дома? І мае, Наста, там... Што, не відзіла, як зганялі? Згоняць і яшчэ раз, не цяжка... І ты ім верыш? Усё роўна спаляць. Гэтулькі іх ля грэблі палажылі...

— Тады лепш з дзецямі гарэць... Вы што гэта ўсе як згаварыліся... Нікуды я не крануся. Ні ў Людвінова, ні... Ты што гэта, Мірон?..

— Яна не паедзе? Хто ты? — Боганчык падскочыў да Насты.— Вярніся... Хай вёска дымам ідзе праз цябе... Што? Іван вам адзін галаву павязе, яна яму не дарага... За ўсю вёску...— Боганчык зусім ахрып, крычучы.

Да яго падбег Панок: баяўся крыку — усё пазіраў назад на дарогу і на лог, адкуль нядаўна стралялі.

— Сціхні... Я цябе знаю...— зашаптаў ён, як зашыпеў, пачакаўшы, запытаўся мацней, зноў немаведама ў каго: — Чаму яны па нас с-с-стралялі?..

— А што, калі ты, Пан, не жыта здаваць немцам вязеш, а вінтовачкі пад мяхамі? Наста скрыначку новенькую з патронамі, а ты вінтовачкі... Дай вам толькі выехаць на гару... Выедзеце...

— Не да смеху, Мірон. Чаму ты цвёрда не скажаш?

— А нам, татарам, Наста, што... Мы вырваліся... Ім, вун,— паказаў ён рукой назад на грэблю,— хто астаўся....

Яна зноў паглядзела, утаропіўшыся на яго, і адышла спопаразку да Таніных калёс. Мірон адразу змоўк, пасля сказаў, гледзячы ў пясок пад ногі:

— Ты чула, Наста, што я дзецям не воўк, ні аднаму, ні другому... І мае ў вёсцы, Наста, асталіся, знаеш...

Ён цяпер стаяў на дарозе воддаль ад усіх, усё роўна як сабраўся куды пайсці. На яго чорную сарочку наліпла пылу, пыл ляжаў у яго на лбе, на шырокіх чырвоных шчоках, на плячах і спераду на рукавах, бы Мірон нядаўна выйшаў з пуні, дзе, не адгінаючыся, увесь дзень падаваў снапы на ферме ў малатарню, як да вайны. Доўга глядзеў, як і Боганчык, сабе пад ногі, пасля закратаў плячыма, бы хацеў страсці пыл, і сказаў, зірнуўшы спадылба на Боганчыка:

— Ты, Іван, не кіпі. І я цябе знаю... Паедзем у Людвінова... Там і рэшым, што рабіць. Не стаяць жа на дарозе.

Тады пайшоў, цягнучы ногі па пяску, да сваіх калёс, цяжкі і сагнуты. Таня яго ўжо не бачыла: каб угледзець, трэба было падымацца на возе.

Затупалі па дарозе ногі, як цапы на таку: людзі пайшлі да сваіх коней. Угалавах недзе стукаў пугаўём па ляжэйцы Янук, уперадзе кашляў Панок, моцна, доўга, пасля пляваў. Ніхто ні да каго больш не гаварыў. Некага клікнуў быў сваім пісклявым голасам Алёша, адзін раз: яна, Таня, бачыла, як ён хацеў устаць на мяхах, закрываючыся даланёй ад сонца, ажно да яго падбегла Наста і замахала рукамі...

Уперадзе, аж на самым лагу, ля могілак, загрукацелі па каменні Боганчыкавы калёсы. Таня пачула, як дала ў хамут кабыла, захрапла і сышла з дарогі зноў аж на ячмень.

«Цяжка ў пяску... Кабыла знае...— падумала Таня і, падняўшыся на локаць і прыпёршыся плячом да ляжэйкі, стала шукаць рукамі лейцы.— Упусці толькі...»

Лейцаў яна не знайшла; глянуўшы на дарогу, убачыла, што ля калёс валюхаецца Наста — аж з подбегам зводзіць набок, у ячмень, кабылу. Лейцы з дубцом былі ў яе ў руках. Пасля Таня ўгледзела, як у Насты на плячы матаецца хустка — здаецца, спаўзе і ўпадзе ў пясок кабыле пад ногі.

Кідае з боку на бок па загонах калёсы; локаць ссоўваецца з мяха — не ўстанеш.

— Хустка!..— крычыць Таня, але Наста не чуе, верне за аброць кабылу ў самы ячмень.

Зноў ніяк не ўстанеш: не падагнеш калень...

Таня тады хапаецца абедзвюма рукамі за ляжэйку, каб павярнуцца на бок...

Калі яна паднялася на мяхах, пачула, як хрумшчыць пад коламі жвір... Па драбінках і па руках сцёбалі шорсткім асцём каласы...

Пад'язджалі да самага логу — спускаліся з гары да могілак, што ля Сушкава: дарога паварочвала на лог адразу за імі. Ехалі воз за возам — падводы выцягнуліся ў адзін шнур ля ячменю, звярнуўшы з пяску, як каму саступіўшы.

З гары пабегла кабыла: хамут лез ёй на галаву, біў па вушах; білі яшчэ ззаду па каленях дошкі ў калёсах.

Таня ляжала бачком на мяху, узяўшыся рукамі за ляжэйку, і глядзела на пярэднія падводы. Тады паварочвала галаву і шукала здалёку вачыма Алёшу — яго нідзе не было. Усе пасля як пахаваліся куды: ні Боганчыка наперадзе, ні Махоркі.

Яна падцягнулася ў перадок і, натужыўшыся, села, звесіўшы з ляжэйкі ногі... Акручаная мехам нага была цяжкая, бы да яе падвязалі камень, цягнула ўніз і смылела пад аборамі.

Таня і цяпер нікога не ўгледзела і спалохалася. Крыкнула б, калі б не кашлянула ў ячмені Наста,— Наста ўсё яшчэ вяла кабылу за аброць. Прыхінулася да хамута, не відаць яе, толькі хустка ўсё матаецца на плячы, не зваліцца долкі.

«Чаму яна кінула Буланчыка?..»

Але Буланчык ішоў ззаду за Алёшавымі калясьмі сам, як прывязаны. Можа, Алёша ўзяў яго за повад?

— Наста...

Наста маўчыць, не пачула зноў, перхае толькі ад пылу...

Таня думае, што толькі адна яе кабыла баіцца пуду. Павярнуўшыся, Таня садзіцца бачком на мяхах і глядзіць уперад на дарогу, але зноў нікога не бачыць. Махнулася, паказаўшыся з-за пляча ў Насты, сівая Панкова галава і схавалася. З ячменю ля калёс пырхнулі вераб'і, доўга білі крыллямі па асці, тады абляцелі падводы і падаліся на Сушкава — жменькай...

Зрабілася неяк адразу ціха. Не шашчэў пад калясьмі жвір; не падкідала на ляжэйцы балючую нагу.

Падводы сталі. Таркanулася пярэдняя, а за ёй і ўсе, адна за адной, як увязлі ў пясок. Белы Янукоў конь успёрся з галавой аж на мяхі. Глядзеў адным вокам з-пад грывы на яе, Таню, грыз зялёныя ад пены цуглі і дыхаў халадком за шыю.

Калі моцна закашляў уперадзе Панок, Таня, апёршыся на рукі, паднялася, каб угледзець яго: кашляе недзе як не на сваіх калёсах. Панка яна не ўбачыла...

Там, дзе дарога, ведучы з Сушкава на гару, паварочвала ля могілак на лог, куды ім трэба было ехаць, якраз там, дзе стаяў да вайны маяк, паднялася кучка белага пылу, маленькая, з ахапак. Пыл быў густы, доўга стаяў над дарогай на адным месцы, пасля адразу стаў брацца ў клубы, што дым, калыхацца, расці і, падымаючыся ўгару, папоўз сюды, да іх. Ехаў з-за могілак немаведама хто па самым пяску на гару. Тут, на гары, усягды пяску па калені, і летам, калі вазілі з Кур'янаўшчыны снапы, за падводамі доўга цягнуўся ззаду пыл, падымаючыся ля самай грэблі вышэй альшэўніку. Калі на яго свяціла сонца, ён рабіўся што бурыя тулягі на небе і быў відаць аж з вёскі.

Мінуўшы могілкі, белае воблака расцягнулася і, як жывое, пабегла дарогай.

Таня ўбачыла, што мужчыны сыходзіліся ў кучку да Панковага воза. Махорка і той кінуў сваю падводу — стаіць ля Панковых калёс, узяўшыся за ляжэйку. Панок сядзеў на мяхах як укопаны, закрываючы рукою рот,— відаць, кашляў, але яго не было чуваць. Пасля Панок неяк затросся ўвесь на калёсах, і Таня пачула, як ён кашляе, моцна, прарэзліва, мусіць, павярнуў у гэты бок, да яе, галаву. Ёй здалося, што нехта кашляе і ўперадзе, на Боганчыкавай падводзе і на абмежку ля дарогі, дзе некалі стаяў маяк, а цяпер ляжала на зямлі ў рудой траве сухое белае палена; кашляе і аж ля Сушкава на дарозе...

Ля самых падвод воблака паднялося ўровень са старымі елкамі на могілках, засланіўшы ўсё на свеце: і дарогу, і Сушкава, і абмежак, дзе стаяў некалі маяк... З-пад пылу, як з-пад вялікай сівой пасцілкі, якую маці вешала ў таку, калі веяла жыта, каб яно не пырскала ў сціртy саломы, адзін за адным сталі выскокваць маленькія чорныя матацыклы, як вялікія брухатыя мышы. Адзін, другі, трэці...

Матацыклаў было многа — Таня іх не злічыла,— і на

іх былі немцы: у зялёным, у касках, па два, па тры на кожным. Матацыклы нясло як шалёным ветрам дарогай у вёску, і немцам не было ніякай бяды да таго, што на дарозе абоз; ніводзін не павярнуў галавы сюды, у ячмень... Яны сядзелі ўсе як прывязаныя, з чырвонымі тварамі і белымі ад пылу плячыма, і глядзелі перад сабой на грэблю...

Таня начула, як у горла лезе пыл, што ад сухога палыну. Яна закрыла рот рукамі, але пыл усё роўна лез у горла, не даючы дыхаць. Запахла гарам, нібы абпяслі каля падводы паленую гуму. Кружылася галава, стала тузаць. Схапіў кашаль, але кашлю яна не чула: гудзела ў вушах ад грукату і трэску на дарозе.

Яна не магла дыхаць гарам ад гумы і старалася закрыць рот, але тады кашаль спіраў у грудзях, здавалася, задушыць, і млелі рукі. Яна апускала іх — зноў смярдзела паленая гума... Калі Тані здалося, што яна захлынаецца — ад натугі забалела ў горле і цёмна стала ўваччу,— яе вырвала: на мяхі і на дарогу...

Трэск на гары раптам сціх, бы хто адагнаў яго за ячмень на грэблю. Стракатала цяпер ля маста, усё роўна як ехалі там на парожніх калёсах на жалезным ходзе.

Ля могілак радзеў пыл, падымаўся ўгару і, закрываючы сонца, поўз хмарай на Сушкава. На саміх могілках сталі відаць чорныя дрэвы; могілкі былі што вялікая абгарэлая на пажары хата. Успомнілася, як перад самай вайной гарэла іхняя вёска, той канец, дзе жыве Алёша. Гарэла ўсю ноч, і калі раніцай Таня ўцякла з хаты паглядзець на пажар — яе не пускала маці,— агню, што бушаваў ноччу, перакінуўшыся аж на загуменне, на пуні, не было. Падымаўся толькі з зямлі белы дым, як пара, засцілаючы і вуліцу і гароды, і праз яго была відаць чорная абгарэлая Алёшава хата. Далей Алёшавай хаты Таня не пайшла: праціўна пахла гарам ад гарэлай бульбы... Пахла яшчэ смаллю — блажыла тады і трэба было затыкаць нос. Казалі, што згарэла ў хлеўчыку Сяргеішына карова — не далі рады выгнаць уначы на двор,— і ўсе хадзілі глядзець на яе. Таня не пайшла: трэба было лезці ў самы гар...

— Паганяйце!.. Што гніды прыціснулі?..— крычыць аднекуль Боганчык.

Таня бачыць Боганчыка. Ён, седзячы на мяхах, паганяе свайго сівога ў яблыкі жарабка, падцялежыўся, верне з дарогі на абмежак: там дзірван, цвёрда...

Кабыла звярнула за Панковым возам сама; сышла з дарогі ў ячмень Наста і чакала Буланчыка.

— Паганяй! Наста...— крычыць зноў здалёку Боганчык. Таня бачыць, як Наста ззаду папраўляе на Буланчыку хамут. Тады памалу ўзлазіць на калёсы на мяхі: змарылася...

Цяпер яны паедуць, калі так крычыць Боганчык і ўзлезла на калёсы Наста.

— Паганяйце!.. Не валаводзьцеся...— ужо і яшчэ нехта крычаў уперадзе, памагаў Боганчыку.

Пасля Таня ўбачыла, як дарогай ад Сушкава пёрся матацыкл, такі ж малы і з каляскай, што і пярэднія. Мінуў, аб'ехаўшы ячменем, Боганчыка, які стаў пасярод дарогі, і сыпануў з-пад сябе жарствы Тані аж на воз. Тарганулася ў аглобнях кабыла, выцягнула ўперад галаву і схавала пад грывай вушы...

— Што стаіш?.. У штаны напусціў?..— крычаў наперадзе на Боганчыка Махорка.

Таня тузанула за лейцы, каб дагнаць Панка.

Матацыкл быў шмыгнуў з дарогі ў ячмень ля самага Насцінага воза, падскочыў на загоне і крутаўся зноў у іх наперадзе. Здавалася, ён і не мінаў падвод.

Абагнаўшы Боганчыка, матацыкл стаў недалёка ад яго — наперадзе. Пасля, памалу пад'язджаючы, як сунучыся ўсё роўна, перагарадзіў яму дарогу. Заірзаў Боганчыкаў жарабок, відаць, надцяты цуглямі. Падводы зноў наехалі адна на адну, спрудзіліся і пасталі.

Таня ўбачыла, як саскочыў з воза, што мячык, Боганчык, як ссунуўся з мяхоў Махорка... Толькі Панок злазіў памалу, трымаючыся за ляжэйку, усё роўна што баяўся выпусціць з рук...

Матацыкл поўз на гару па пяску, як збіты на ляту жук, гонячы перад сабой мужчын. Спыніўся якраз ля яе, Таніных, калёс; сталі, збіўшыся ў кучу, мужчыны. Таня ўбачыла, як махае ёй рукою ззаду Наста, каб яна, Таня, лягла, не паказвалася са сваёй нагой на вочы. Але яе як сагнуў хто ў крук на калёсах. Яна толькі ўціснула галаву ў плечы...

Аж цяпер, калі ля воза ў пяску троссся матацыкл, яна ўбачыла, што ў ім былі два немцы. У таго, што ажаргаў сядло і ўзяў у дзве рукі руль, была высокая фуражка з вузкім белым арлом і бліскучым чорным брылем — сядзела на галаве што вялікая качка, задзёршы ўверх шыю і хвост; на брылі ляжалі белыя, бліскучыя, туга звітыя тоў-

стыя аборы. З-пад яго глядзелі на падводы прыплюшчаныя вочы. Шчокі ў немца былі бурыя, загарэлі, мусіць, ад сонца; між іх усё роўна як вісеў доўгі, што ў Янука, нос. Таня ўгледзела яшчэ, што ў немца на грудзях нечым поўна набіты дзве кішані, аж трашчаць; знізу да адной прышпілены крыжык — чорны, а па беражках бліскучы, белы; другі крыжык вісеў ля самай шыі пад гузікам, цьмяны, як павук прыляпіўся ў запечку да сцяны. На руках у немца былі белыя пальчаткі, і ён стрэпаў сябе кончыкамі пальцаў па штанах.

У перадку, у калясцы, дзе сядзеў другі немец, ляжала белая скрыначка, з якой паўзла наверх лента з жоўтымі бліскучымі патронамі. На калясцы спераду тырчаў, што кавалак доўгага жалезнага прута, кулямёт. Таня якраз такі бачыла ў партызан. Толькі скрыначка ў іх была не белая, а цёмная, як каска на галаве ў немца, які сядзеў у калясцы. Такую скрыначку Таня нават брала ў рукі і падымала — пераносіла з парога ў запечак, як мыла падлогу ў Петрусіхі з Вандзяй. Вандзін брат перайшоў з Даўгынава з паліцыі ў партызаны з такім кулямётам і скрыначкай; прынёс яе да Петрусіхі ў хату, калі партызаны прывезлі яго ў вёску разам з маткай і Вандзяй.

Скрыначка ў немца была пашарпана, і на ёй стаялі нямецкія літары, як і на касцы.

Таня ўбачыла, што немец з каляскі зусім не глядзеў на падводы. На грудзях у яго вісеў маленькі чорны аўтамат — пад ім блішчэла спронжка і белыя гузікі: ззаду на дзязе — аж два зялёныя кацялкі з вечкамі. На доўгай шыі было тоўста накручана бінту. Бінт быў у свежай крыві, яна выступала на ім плямамі. На абедзвюх руках у яго было гэтак жа, як і на шыі, накручана тоўста бінту — краталіся толькі кароценькія кончыкі пальцаў.

Немец у фуражцы з аборамі на брылі саскочыў з матацыкла на дарогу, што з каня, і стаў атрасаць абедзвюма рукамі пыл з фрэнча — у тым месцы, дзе ў яго на шырокай дзязе вісеў маленькі пісталет. Пісталета відаць не было, блішчала толькі на сонцы жоўтая скура. Глядзеў, зыбаючыся, на свае бліскучыя вялікія боты — да іх прыліпаў пясок — і на шырокія штаны-галіфэ, якія надзьмуліся ля калень, растапырыліся і абвіслі на самыя халявы, бы ў калашыны яму, як у торбачкі, насыпалі пяску.

— Что за дурацкій обоз? — загаварыў ён, падняўшы галаву. Голас у яго быў дзяркаты. Таня ўбачыла, як уздрыгнуў Боганчык і закруцілі галовамі мужчыны —

глядзелі адзін на аднаго.— Что за дурацкій обоз? — ляпаў ён рукой па жоўтай дзязе, усё страсаючы пыл, і тыцкаў пальцам чуць не ў грудзі Боганчыку: стаяў зусім блізка ля мужчын. Боганчыка ён, мусіць, угледзеў першага ўперадзе на падводзе, запомніў па барадзе і цяпер выбраў з грумады.

Боганчык маўчаў; хацеў нешта сказаць — у яго дрыжаў падбародак — і не мог.

— Как стоішь, сволочь?..— Таня ўбачыла, як немец махнуў рукой у белай пальчатцы аднекуль знізу і ўдарыў Боганчыку пад шчэлепы. Убачыла яшчэ, як схапіўся ў дзве рукі за бараду Боганчык і адскочыў назад, да самых яе калёс, упёршыся паясніцай у ляжэйку; як немец пачаў тады шорхаць рукой аб руку — чысціў ад пылу белыя пальчаткі.

Ззаду за ім у калясцы бразнула жалеза. Калі Таня зірнула туды, убачыла, як да іх павярнуўся немец, той, што сядзеў гледзячы ўсё на дарогу, і наставіў на мужчын аўтамат.

— Кто грамотный? Выйдет... пускай...— сказаў тады немец у белых пальчатках, неяк цішэй і ўсё роўна як без злосці.

Ніхто не крануўся. Мужчыны нават не варочалі галовамі адзін да аднаго. Тады немец зноў паказаў пальцам на Боганчыка:

— Ты...

Таня ўбачыла, як адлучыўся ад усіх Боганчык і неяк бачком, як сляпы, ступіў да немца. Стаў, выцягнуўшыся і задзёршы ўверх бараду, аж з'ехала на патыліцу яго замусоленая чорная кепка і на вуха высыпаліся валасы. Таня глядзела з воза на яго збоку, і ёй здалося, што ў Боганчыка даўгі, загнуты ўверх нос,— перш каб і пытаўся хто, яна не помніла, які ў яго нос,— і тоўстыя шчокі: надзьмуліся, як папухлі. Было відаць яшчэ, як у яго на скроні высыпаў пот, буйны, што град, аж пісяга пацякла на шчаку, і зрабілася чырвонае вуха, як палавінка ад бурака-рэпкі. І лыпала, лыпала вока, дробненька і часта — хавалася за павечкам.

Таня пачула, як пад рукамі сталі раптам халодныя ляжэйкі; пасля зрабілася холадна ўсёй, бы хто лінуў за плечы вады са студні.

Немец быў вышэйшы за Боганчыка і стаяў цяпер нагнуўшыся над ім — глядзеў зверху, з-пад брыля. Адну руку зачапіў пальцамі за жоўтую дзягу, другой — даланёю —

шорхаў па жоўтай кабуры. Тады зноў наставіў Боганчыку палец у грудзі:

— Кто такой?

— Бог-ган...— моцна азваўся Боганчык, нібыта немец быў глухі, мог яго не пачуць, і стаяў ні жывы ні мёртвы.

— Какая дурацкая фамілія... Почему дрожішь?..

— Рукі трасуцца...— голас у Боганчыка яшчэ больш задрыжаў.

— Шапку, свінья...— немец нагнуўся над Боганчыкам яшчэ ніжэй. Выцягнуў шыю, зашыпеў: — Желаешь, чтобы с головой слетела? Что на телегах?..

— Нарыхтоўка... Нарыхтоўка... У раён вязём... Сабралі... З усёй вёскі... Самі... Бумага ёсць...— язык у Боганчыка бы ў што ўпіраўся ў роце.

Немец прыняў пальцы з кабуры і абедзвюма рукамі падняў уверх за бліскучы брыль фуражку на галаве; другі немец забразгаў у калясцы кацялкамі.

— Что за дурацкая бумага?

Белая пальчатка паднялася аж да Боганчыкавай галавы, як на навязі, чакаючы.

Тады Боганчык хуценька скамкаў кепку, якую цяпер трымаў у руцэ, прыціснуўшы да сцягна, запхнуў яе ў кішаню ў штаны і палез пад паху — пад шэры паношаны картовы пінжак, які, расхрыстаны, спаўзаў у яго з плеч.

Паперка была белая і маленькая, складзеная, мусіць, у некалькі столак. Таня не бачыла яе дагэтуль, ведала толькі, што паперу вязе Боганчык, хоць ён і паказваў яе ўжо раз — яшчэ ў вёсцы, ля Петрусіхі, калі збіраліся выязджаць і вазы абходзілі два немцы, мацаючы рукамі мяхі, усё роўна што шукалі чаго.

Белая пальчатка ўзяла паперыну з рук у Боганчыка, разгарнула яе, як рак клюшнямі, і паднясла да бліскучага брыля. Патрымала ля яго, пасля вярнула Боганчыку і, павісшы ля самай яго галавы, чакала, пакуль ён пакладзе яе ў кішаню пад пахай. Тады раптам апусцілася ўніз і, падскочыўшы ўверх, ударыла Боганчыку па шчацэ.

— Скотіна... Это реквізіровано нашімі солдатамі... — Белая пальчатка ўжо зноў счышчала пыл з жоўтай кабуры.

Боганчык стаў белы, што ячмень ля дарогі...

Тарганулася была яе, Таніна, кабыла, успёрлася Панку на воз. Таня схапілася за лейцы — ёй было здалося, што на яе зірнулі з-пад брыля прыплюшчаныя вочы... Яна

стала шукаць Насту. Наста стаяла ўперадзе ля Панковых калёс, узяўшы за аброць кабылу.

— Я с тобой паговорю...— белая пальчатка адшпільвала кабуру.— Обманывать? Бандіт...

Боганчык раптам закрычаў на ўвесь голас — аж тарганулася ў аглаблях кабыла...

— Я не бандзіт!.. Не бандзіт я!.. Яны ўсе скажуць...— махнуў ён рукой назад.— Немцы мяне старшым паставілі, яны ўсе скажуць...— Боганчык кратаўся ўвесь з галавы да ног, стаў ніжэйшы, як уехаў на дарозе ў зямлю. Застагнаў пасля і сціх, гледзячы на пальчатку, якая даставала маленькі чорны пісталет з жоўтай кабуры. Пасля зноў закрычаў, ухапіўшыся рукамі за лейцы на Таніным возе. Таня чула, як ён часта дыхае — сапе — і трэцца паясніцай аб ляжэйку...

Белая пальчатка хуценька дастала пісталет, як вышчалукнула са стручка фасоліну, сціснула і паднясла да Боганчыка, да самых грудзей.

Боганчык як стаяў, так і сеў на дарогу на калені...

Таня баялася глядзець на яго... Калі яна зірнула на Панковы калёсы, убачыла, як прыціснулася да кабылы Наста.

Немец адступіўся назад, да самага матацыкла, і, выцягнуўшы доўгую руку, наставіў цяпер пісталет якраз у галаву Боганчыку...

— Знаем мы, кто вы такіе... Но ты, скотіна, отвечаешь за обоз... Встать! — крыкнуў ён, аж падскочыла ў яго на галаве качка з задзёртым хвастом. Белая пальчатка ў той жа раз спрытна сунула пісталет у кабуру — Таня ледзь згледзела — і зноў махнулася ўгары. Плясь...— пачулася на дарозе. Тады махнулася другая: чвяк... чвяк...— як у што мокрае... Тані здалося, што гэта курыца, ускочыўшы ў іх дома на двары на плот, біла крылямі. Боганчык, упёршыся зноў паясніцай у яе, Таніны, калёсы, стагнаў, стоячы, моцна, што конь; махаў рукамі ў сябе ля носа: бараніўся; тады асунуўся зноў на калені на дарогу, у пясок. Галава ў яго не служыла — упала, як макаўка на зламанай дудцы, на плячо.

— Встать!..— зноў падскочыла на галаве ў немца качка з задзёртым хвастом.

Устаць Боганчыку памог Махорка — падхапіў пад пахі: быў бліжэй за ўсіх ля яго.

Таня пачула, як ёй стала горача. Апіраючыся рукамі на мяхі, яна чула, што і мяхі гарачыя, бы іх вынялі дома

з запечка, куды клалі нанач сушыць. Зноў зацахла з дарогі ад матацыкла палецай гумай і начало блажыць...

Тады яна лягла на мяхі. Адгэтуль зусім не было відаць немца на дарозе: яго заступіў Боганчык. Яна чула толькі прарэзлівы голас:

— Поедете по шоссе... В лесу могут быть бандіты!..

Калі Таня зноў паднялася на локці, немца ля калёс не было: ён адступіўся да жоўтага каменя на дарозе, што ляжаў цяпер ззаду ў яго ля самых ног,— стаяў, сцягваючы з рук белыя пальчаткі і плюючы на дарогу.

Яна была падумала: «Дзе ж Боганчык?» Тады ўбачыла, як той бяжыць да сваёй падводы пасярод дарогі па пяску, раскідае ногі, сагнуўся і дастае рукамі аж да зямлі. У руцэ ў яго чорная кепка, круглая, як скавародка, і, здаецца, цяжкая: Боганчык ледзь махае рукой. Закраталіся ля сваіх вазоў мужчыны; зафыркалі коні, бразгаючы цуглямі.

— Бяры лейцы... дзяўчына... За Панком пускай, не аставайся!..— крычала здалёку Наста са свайго, мусіць, воза. Таня яе не бачыла, не даваў Алёшаў конь.

Калі Наста сціхла, было чуваць, як на дарозе бразгалі кацялкі, што парожнія міскі дома на судніку, калі зачыняеш дзверы. Немец з завязанай шыяй праехаў і зноў таркануўся ў пяску — стаў якраз ля Януковых калёс. Высокі немец пайшоў за матацыклам, павярнуўшыся неяк бачком — сачыў усё за Боганчыкам. Падышоўшы да матацыкла, крыкнуў на забінтаванага немца — той пералазіў з сядла назад у каляску, бразгаючы кацялкамі,— і зноў растапырыў на пяску ногі. На Боганчыка ён ужо не глядзеў: сцягнуў з рук пальчаткі, заткнуў іх пад жоўтую дзягу і дастаў аднекуль — Таня не згледзела адкуль — маленькую пушачку. Выцягнуў з яе белую папяросу — Таня такой ніколі не бачыла,— панёс у рот і зноў стаў глядзець, павярнуўшы галаву, на дарогу, на Боганчыка: той нешта крычаў мужчынам, засупоньваючы хамут.

Тады Таня пачула, як ззаду на возе замычаў Янук, моцна, як мычаў у вёсцы на вуліцы, калі хацеў, каб яго пачулі здалёку.

Таню як хто падхапіў на возе: Янук, пагнаўшы каня і звярнуўшы на пясок, аб'язджаў яе, мінаў. Яна не ведала, што рабіць: наперадзе яшчэ стаялі ўсе падводы. Калі белы Янукоў конь спыніўся, захроплы, пасярод дарогі, Таня ўбачыла, як Янук заёрзаўся на возе, выставіўшы ўперад руку — да немца. Немец стаяў цяпер ля самага

яго воза і, не спускаючы з Янука вачэй, прыкурваў маленькую папяроску ад бліскучай жоўценькай машынкі. Таня здагадалася: Янук паказвае, каб той падышоў да яго — да воза. Немец адно круціў памалу галавою, сціснуўшы вуснамі папяросу,— глядзеў то на Янука, то на дарогу — на Боганчыка. Пасля ўтаропіўся на аднаго Янука і, узяўшы пальцамі з рота папяросу, лыпаў і лыпаў вачыма — не ведаў, мусіць, чаго той ад яго хоча. Янук тады стаў зноў мычэць і пыкаць вуснамі, падымаючы і апускаючы за брыль кепку на галаве, нібы хацеў яе зняць і не рашаўся. Пасля выразна, як успомніўшы раптам што, сказаў, паказваючы пальцам на кішаню на грудзях у немца, пад якой вісеў крыжык:

— Курыць... Т-т-ваю м-мацъ...

Тады зноў мычаў — доўга, з натугай, нават не гаварыў «тваю мацъ». Пыкаў ротам і гладзіў сябе рукой па грудзях, як малы; яго схаваныя глыбока пад ілбом вочы пабольшалі і заблішчалі, расцягнуўся і стаў доўгі, на ўсе шчокі, бяззубы, пусты рот; загнуўся ўніз сухі і тонкі нос, што дзюба ў старога каршуна. Янук, здавалася, ссунецца зараз з мяхоў на дарогу — так нагнуўся ўперад.

Немец тады выцягнуўся ўвесь, адразу зрабіўся яшчэ больш высокі і тонкі, як усохся на сонцы. Шчокі ў яго сталі чырвоныя, што жар, з ілба апусціліся чорныя бровы на самую пераносіцу — закрылі вочы.

— На ме́ня... твою мать?..— зашыпеў ён, выцягнуўшы шыю аж да Януковых калёс, дзе Янук ківаў галавою, гладзячы сябе па грудзях. Рука без пальчаткі адразу выхапіла з жоўтай кабуры пісталет — як з агню — і падымалася памаленьку-памаленьку... І ніхто не бачыў: ні Наста, ні мужчыны.

«Заб'е Янука... Боганчыка не забіў, а Янука заб'е...» — падумала раптам Таня.

Калі яна ўсхапілася з калёс, пачула толькі, што кальнула ў балючую нагу...

Саскочыўшы на дарогу, яна не помніла, як апынулася ля Янука.

Упёршыся яму плячыма ў калені, яна растапырыла рукі, хаваючы яго ад немца, і закрычала. Пачула, як яе моцна ўдарыў па руцэ немец, што пераламаў усё роўна, і ступіла балючай нагой. Помніла, што валіцца на пясок — хоць не ўдарыцца.

...Недзе далёка паганяў каня Панок і тукаў матацыкл, глуха, як вожык.

Ёй было здалося, што яна ляжыць дома на палатках, паклаўшы балючую нагу на пяколак, на самае гарачае месца. Спячы можна, але нагі не кранеш, каб адсунуць да сцяны, на лучыну: змярцвела.

Калі яна адплюшчыла вочы, пазнала, што ляжыць ля Януковых калёс у пяску, пасля ўбачыла, як нізка над дарогай, над самым ячменем, ляцеў каршун, памалу, чуць кратаў крылламі. З грудзей у яго сыпалася пер'е...

Над ёй, нагнуўшыся, мычаў Янук. За ім была відаць Наста.

## 5

У лагчыне, за Сушкавам, дзе скрыжоўваліся, ідучы полем па пяску, дарогі, стаяў не так даўно крыж — Боганчык яшчэ помніць. Цяпер крыжа няма, згніў ад зямлі, абваліўся, і яго спалілі пастухі; растуць толькі на тым месцы тры елкі, нізкія, разгатыя, з тонкімі сукамі, і ляжыць пад імі адно каменне — шэрая крушня.

У лагчыне было горача, хоць сонца, знізіўшыся, стаяла ўжо над самымі могілкамі, што асталіся ззаду, на гары. Не ляскаталі калёсы — тут быў пясок, храплі толькі ад пылу коні, і рэзалася ў некага ціха жалеза аб жалеза: кола аб загваздку.

Седзячы на мяхах у самым перадку, Боганчык бачыў, як за садам, ля сажалкі, у тым баку, дзе была вёска, курэлася балота: высахла, калі яго абкасілі, і цяпер занялося агнём. Здалёку былі відаць на балоце пад лесам стагі.

Лес быў сіні ад густой смугі. За ім, якраз на Карчаваткі, падымаліся высака ўгару бурыя тулягі — былі што сціснутыя вялікія кулакі...

Ад сонца тулягі гусцелі і рабіліся чырвоныя — здавалася, кулакі сцяліся і набеглі кроўю. Далёка ў тым баку пачуліся глухія выбухі: бух-бух... бух-бух... Пасля тулягі пачалі распаўзацца па небе, усё роўна як іх пагнала ветрам. Было чуваць, як недзе там гудзеў самалёт, аж звінеў.

Тады Боганчыку раптам здалося, што ён у доце пад Красным, у байніцы ля кулямёта... Байніца глыбокая, і калі, паклаўшы рукі на халодны выступ з цэменту — ён выслізганы і блішчыць, што сцёрты камень,— глядзіш, падпёршы кулакамі падбародак, у вузкую і доўгую шчэлку — у вачах шэра, як вечарам увосень, калі скора пачне цямнець. Гэта рака. І глядзіш на яе зверху ўніз: дот вы-

сака над берагам, на самым высокім месцы ля Краснага — ля ракі.

Прымасціўшыся ля кулямёта, бачыш у маленькае акенца ў шчытку белую шашу, што ідзе з лесу ў Краснае, спускаючыся з гары да маста. Гэта ўжо за ракой, на другім зрытым беразе — калі рабілі ля маста насып, адтуль бралі пясок.

Краснае стаяла за ракой Дзвінасой — воддаль. Праз яго ішлі накрыж дзве шашы: Крайск — Барысава (з захаду на ўсход ад блізкай некалі граніцы) і Докшыцы — Мінск, цераз Бегамля — гэта з поўначы, з Віцебска, на поўдзень.

За Дзвінасой ля Краснага былі доты — уехалі ў зямлю на самым беразе, як вялікія шэрыя валуны.

Па левы бок шашы, што ішла з Крайска, яны былі відаць адразу за ракой, аж тры: ля маста — шырокі і лабаты; на выгане на гарушцы — белы і круглы, што вялікае яйка; і далёка ля лесу, пад самым Тартаком, дзе ўжо хавалася з воч рака,— блішчаў жоўтай плямкай, як зглеадзец...

У Краснае яны ўсе — мужчыны з Дальвы — прыйшлі тыдзень назад па павестках: у ваенкамат. З Краснага ўсіх адразу пагналі на Барысава. Яго ж, Боганчыка, адлучылі — ён быў у фінскую кулямётчыкам — і павялі з пятнаццаццю чалавекамі назад, пад Докшыцы,— у часць...

Праз два дні яны занялі доты пад Красным: у Докшыцах і Бегамлі былі ўжо немцы.

Над самай байніцай знадворку, дзе яна роўна, як пад шнур, з усіх бакоў абкладзена дзерняком, на траве вісяць кроплі расы. Густа, адна ля адной; збіраюцца, як хто чапляе іх на нітку, тады капаюць уніз на пясок. Пасля зноў блішчаць зверху на траве, што выціснутыя з зямлі, і зноў падаюць долкі. Знадворку пахне свежай, вільготнай зямлёй, як усё роўна пахне пасля дажджу ралля...

Калі доўга стаіш, падкінуўшы пад локці на халодны выступ з цэменту складзены ў дзве столкі брызент, локці пачынаюць грэцца і ныць спаднізу. Здаецца тады, што апёрся дома на цёплы пяколак, прыйшоўшы з двара з холаду, падпёр рукамі галаву і стаіш, гледзячы на печ. І белая паласа — гэта не дарога за ракой, а пабеленая сцяна ля коміна; і ўнізе не шэрая вада, а печ з гліны, выерзаная, са смеццем і карой — сушыліся дровы — і закіданая ля сцяны рыззём і лахманамі, якіх даўно не насілі і якія

падсцілалі пад бок, калі хто надумляўся лезці за комін спаць, прыйшоўшы халодны ўвосень вечарам з поля.

Узышло сонца, свяціла збоку, з-за Краснага, можна было пазнаць па вадзе; яна заблісікала, што луска на рыбе. Пачакаўшы, на вадзе лягла шырокая і цяжкая жоўтая паласа ад туляга; пад ёй задрыжаў выцягнуты чырвоны круг сонца — неба было відаць у вадзе, ля самага дота. Над байніцай на траве налілася сукравіцай раса.

Было ціха, і, можа, таму так ядрана пачуўся аж тут, пад зямлёй, рокат, усё роўна як завялі дзе блізка трактар... За ракой, на шашы ля лесу, паказаліся танкі...

Страсанула дот, на плечы са столі пасыпаліся дробненькія кавалачкі гліны. На Дзвінасе, мусіць, узарвалі мост.

Боганчык помніў толькі, як, выцягнуўшыся ў дзвярах, высокі і тонкі, у шырокай брызентавай накідцы капітан, той, што вёў іх на Докшыцы, скамандаваў: «Агонь!» Пасля яшчэ доўга крычаў: «Агонь!..» — падымаючы і апускаючы руку, нібы хочучы скінуць з сябе накідку, якую з начы не знімаў з плеч і якая цяпер яму стала цесная і замінала.

Здрыганулася зямля, захадзіла хадуном у рацэ вада, як закіпеўшы: сталі біць саракапяткі. Глушыла, пярачы збоку, свая; бухала і справа, далей, на выгане, дзе быў другі дот, і аж ля самага возера, ля заставак, у сасонніку, недалёка ад Тартака. Гул адтуль ішоў як глыбака з-пад зямлі.

За ракой падняўся сухі пыл, схаваўшы ўсё з воч. Вецер гнаў яго сюды, на гэты бок, дзе стаяў дот...

— Агонь! — крычаў капітан. Яго ўжо не было ля дзвярэй, што вялі да выхаду. Ляжала толькі ў парозе на зямлі, як надзьмутая, зялёная брызентавая накідка, што ахапак свежай травы.

— Аго-о-нь!..— чуваць было ззаду, глуха і сіпата.— Го... го...— здавалася, што крычаць толькі яму аднаму, Боганчыку, і ён ціснуў з усёй сілы вялікімі пальцамі на шурпатую гашэтку, баючыся, што пальцы возьмуць і саслізнуцца — мокрыя ад поту — і аціхне кулямёт. У прадаўгаватае вузкае акенца ў шчытку, як у цьмянае шкло, ён бачыў пад белай паласой на тым беразе два танкі. Яны сунуліся адзін воддаль другога, нейк бачком, з шашы на лажок, то паказваючыся, то хаваючыся ў дыме; пасля па той бок шашы зусім зніклі з воч. За ракой цяпер ад дыму нічога не было відаць; ззаду за плячыма несціхана

стукала, усё роўна як глухія пад зямлёю дзверы: гах... гах...

Боганчык зноў чуў, як уядаецца ў вялікія пальцы, у мякіш, шурпатая гашэтка, але ў акенцы ў шчытку нічога ўжо не бачыў: усюды было шэра.

Калі ён пачуў, што яго схапіла за плячо рука і тармосіць, не адпускаючы, усё яшчэ не мог адарваць пальцаў ад гашэткі. Пальцы надпёрлі яе, выгнуліся, зрабіліся як пруты. Лента з жоўтымі патронамі паўзла і паўзла справа аднекуль з цемнаты, выгінаючыся, як змяя, якую ўзялі за галаву...

— ...мать! — пачуў ён над самым вухам; тады рука пацягнула яго за каўнер ад байніцы.— Прекратіть!..

Гэта крычаў на ўсё горла капітан — кулямёт змоўк, і чалавечы голас пад зямлёй аж рэзаў вушы. Капітан, топчучы нагамі разгоеную на падлозе накідку, паказваў рукой у байніцу:

— Ушлі вброд... Левых накрылі...

Тады стала ціха, і ў цішыні здалося, што звіняць сцены і звон лезе ў вушы. Як у зямлі, стукала пад ім, Боганчыкам, сэрца: ён цяпер апёрся грудзьмі на халодны цэмент ля кулямёта. Бачыў, як пастаяў быў у парозе капітан, пасля выцягнуўся, счысціў з грудзей пясок,— недзе наліп яму на дварэ: капітан, мусіць, поўз — і схаваўся за дзвярыма. Расцягнулася толькі на зямлі накідка, астаўшыся ляжаць назнайніцу.

Боганчык сядзеў ля кулямёта, чуючы, што ўпёрся плячом у нешта вострае і халоднае і пачынае стыць. Ён стыў, і яму рабілася лёгка, мог, як хацеў, кратаць рукамі і глядзець, не прыплюшчваючыся, праз акенца ў шчытку на той бераг, дзе вісеў пыл.

Ён як усё роўна збыў вялікую хваробу...

Перад вачыма застыла, не мітусілася бронзавая планка на казённіку. Вузенькая, доўгая, выслізганая пальцамі, яна цьмяна бліскала ад водсвету праз байніцу. Унізе пад ёй можна было ўгледзець маленькую зорачку і літары; па самай планцы рассыпаліся дробныя чорныя лічбы — ад двух да дваццаці шасці,— папрыліпалі да яе, як камары дома вечарам да бліскучай жоўтай клямкі на дзвярах у сенячках.

Ён памацаў за кожух — кожух быў гарачы, не даткнуцца. Ад яго пахла парай, што ад печы ў лазні, калі на каменне зверху лінеш вады.

Рука зачапілася за шчыткам за ланцужок, які быў

прычэплены да вінта, што закрываў адтуліну, куды лілі ваду. Ланцужок быў гарачы.

Захацелася піць — вады са студні. Яна халодная, як з лёдам, і пахне рашчынай, мусіць, ад зруба — зруб дома ў студні з клёну,— не такая цёплая і жоўтая, што прынасілі ўчора вечарам у бачках...

Адагнуўшыся, Боганчык пачаў счышчаць з сябе пясок і друзалачкі ад цэглы, што ўпіліся былі ў калені...

Пасля ён голымі рукамі счышчаў пясок з доўгіх, выгнутых і вышараваных знізу аб зямлю афарбаваных станін. Яны былі халодныя і мокрыя; халодны і ліпкі быў шчыток, з яго не счышчаўся пыл. Боганчык падумаў тады, што кулямёт змазаны і за яго браўся пыл і пясок; падумаў пасля, што кулямёт доўгі, на два мужчынскія крокі, і байніца глыбокая — глядзіш у яе як у студню...

Калі знадворку пасвятлела — павярнулася, мусіць, сонца і коса свяціла на бераг пад самую байніцу, Боганчык успомніў, што бой быў доўгі і танкі ішлі доўга, і прайшло іх у раку, мусіць, многа...

У доце павіднела, і ён убачыў, прынікшы да байніцы, што на тым баку за ракой зялёны высокі бераг. Ад сонца яшчэ больш пабялела, стала, як мел, белая шаша; за ёй на полі было відаць жыта...

Ён успомніў тады, што капітан загадаў: «От пулемета не отходіть і ждать команды...»

Было ціха і ад таго млосна. Не няслі есці і не прыносілі вады. Пахла дымам ад пораху; звінелі яшчэ гільзы, падалі самі з байніцы з-пад кулямёта на падлогу: не ўляжаліся. Збоку, недзе за Красным, чуваць былі глухія выбухі, як хто, нямогучы, тоўк у ступе — мусіць, на шашы, што вяла з Бегамля. Адтуль, адкуль былі ішлі танкі, з-за лесу папаўзлі самалёты. Здавалася, што ныюць пад столлю камары. Камароў у доце многа: яны чулі людзей і ціснуліся ў байніцу. Цяпер яны наганялі сон, і Боганчык, паклаўшы галаву на рукі, доўга цёр пальцамі вочы: каб не ліпліся...

Пасля палудня зноў пайшлі танкі. Яны ўжо не паказваліся на шашы, бралі лесам правей: міналі мост.

Зноў дрыжалі сцены: біла саракапятка.

Боганчык зноў прынік да акенца ў шчытку... Дрыжалі пальцы, здавалася,— яны размяклі і ніяк не могуць знайсці шурпатую гашэтку... Але цьмяна бліскала справа лента і паўзла, падскокваючы, да шчытка... Калі ён адпускаў пальцы і падымаўся папраўляць ленту, чуў, як звіняць,

сыплючыся з-пад кулямёта пад ногі, гільзы і ляскаюць гусеніцы за ракой па шашы — зусім блізка. Ён тады зноў прылінаў да слізкага жалеза.

Калі шашой пайшлі грузавыя машыны, ён ужо не страляў: не было вады.

Пасля знадворку ў байніцу сыпанула жарствы і там недзе ўдарыла, што перуном... З-за ракі немцы білі па доце...

Выскачыўшы з дота, Боганчык пачуў, што вецер дзьме берагам, якраз у твар. Халодны і калючы на захадзе сонца, ён суха шумеў пад нагамі ў траве; воддаль, на рацэ, дзе была затока, стагнаў на вадзе і свістаў у высокай асацэ і сітняку. Горкі ад дыму, сыры ад размешанага глею на пераправе, дзе прайшлі нямецкія танкі, укачаны ў жвір на беразе, вецер аж зрываў нос, і цяжка было пазнаць, адкуль нясе тарфяным гарам,— мусіць, з Краснага, дзе, відаць, падпалілі склады.

Боганчык бег берагам, пад вецер, і калі варочаў галавой — чуў, як падымаюцца дыбам валасы. Думаў тады, што не помніць, як вецер сарваў пілотку. Калі ж ён абмацаў сябе за паясніцу і знайшоў пілотку збоку пад дзягай, яму стала раптам трывожна; ён засопся і пачуў, што вязнуць, млеючы, на беразе ў пясок ногі.

— Ст-о-ой!.. Застрелю!..— чуў ён, і яму здавалася, што крычаць зусім не на яго і недзе далёка, хоць пазнаў, што крычалі ззаду і гэта вецер зносіў голас. Яму яшчэ здавалася, што крычыць не капітан: той быў ціхі. Нават калі па доце з шашы білі немцы, ён, уваліўшыся ў дзверы, з забінтаванай рукой на почапцы, не крычаў. Сказаў зусім ціха, паклаўшы здаровую руку яму, Боганчыку, на плячо: «Подготовіться к круговой обороне...»

З кулямётам трэба было быць цяпер наверсе, за брустверам, які, спяшаючыся, рабілі ўчора вечарам, насунуўшы лапатамі жвіру і абклаўшы яго дзерняком.

Танкі цяпер ішлі ззаду: з Краснага — выганам. Паўзлі, адыходзячыся адзін ад аднаго, валюхаліся і вадзілі ствaламі — уніз-уверх, уніз-уверх... Шырокія, плоскія... Аж тры... Паўзлі на дот...

Калі Боганчык быў ужо ў лагчыне, на гары ўдарыла саракапятка — ядрана, чыста, не так глуха, як сядзіш у доце пад зямлёй. Яе, мусіць, выкацілі наверх, паспелі. Па рацэ над вадой пайшлі водгаласкі, пакаціліся далёка за лес, дзе заходзіла сонца.

— Стой!..— чуў ён, як крычаў недзе ўгары капітан,

пасля пачуў, як затахкаў там кулямёт. Падумаў, што страляюць па ім, Боганчыку, каб забіць: над галавой цюмкалі кулі; але ўбачыў, як яны, што іскры, ляцелі над дотам за раку ў лес: кучкамі, бы іх хто сыпаў са жмені.

«Немцы б'юць...— падумаў ён тады...— З танкаў...»

З лагчыны танкаў ужо не было відаць, не было відаць і дота; тырчаў толькі на гары ля выгану гарбаты курган. Калі Боганчык схаваўся за насыпам, дзе дагэтуль быў мост,— яго, як пайшлі танкі, узарвалі сапёры — не было ўжо відаць і кургана...

За мастом, па той бок ракі за шашой, пачыналася поле, і вецер біў цяпер у грудзі, не даючы дыхаць,— здавалася, ротам пойдзе кроў. Боганчык быў угледзеў, што павярнуў і бяжыць назад, пад Краснае: ад маста павярнула ўбок рака.

«На той бераг...» — стукнула яму ў галаву, і ён пачуў, што спалохаўся. Плаваць ён не ўмеў і бег берагам пад Краснае, дзе быў брод і дзе прайшлі нямецкія танкі.

Ззаду за насыпам білі з гармат і хлебясталі кулямёты.

Ён згледзеў, як гараць пад ветрам на пасёлку ў Красным хаты, без дыму, адным агнём, як сярнічкі. Вецер зносіў полымя на балота, дзе раўлі танкі, слаў па самай зямлі.

Боганчык, скочыўшы ў раку, убачыў яшчэ, як ля канавы, на выгане, гарэў танк, высокі, задзёрся перадком угару... Ад яго ішоў дым — чорны, як дзёгаць...

Калі сцямнела, ззаду за ракой занялося на ўсё неба зарыва: гарэла Краснае.

Боганчык доўга глядзеў на зарыва: бачыў, як яно гасла, спаўзаючы да самай зямлі, пасля дрыжала, выцягвалася ў доўгія скрываўленыя палосы, падымалася высока ў неба і зноў ападала — як кіпела ўсё роўна. Нядаўна яшчэ там былі чуваць выбухі, цяпер стала ціха.

Ціха было ўсюды: і на шашы, дзе ішлі днём танкі, і ў Красным, і на беразе ля маста.

Калі Боганчык падумаў, што ля дота ціха, яго было пацягнула назад, хацелася вярнуцца,— устаць з зямлі і пабегчы да ракі... Тады ён успомніў, як крычаў капітан, і думаў, што не вернецца, бо няма куды: да берага дайшлі танкі...

Яго пачынала браць стужа...

Ён быў чуць не ўтапіўся ў рацэ, не лучыўшы ўброд. Да цела цяпер ліпла мокрая і цвёрдая, як луб, гімнасцёрка. Цёпла было толькі ў зад — ён сядзеў на купіне — і

знізу ў выцягнутыя ногі. Ногі як усё роўна ляжалі ў нечым ліпкім і слізкім, што ў гразі.

Ён доўга сядзеў, не могучы ўстаць. Падумаў тады, што трэба хоць выкруціць гімнасцёрку і штаны...

Пачуў, як па целе поўзаюць чорствыя мурашкі. Лапнуўшы рукой за шыю, намацаў пад пальцамі тоўстую, круглую канапліну... Паднёсшы да вачэй, убачыў, што раздушыў мурашку. Пазнаў толькі цяпер, што сядзеў не на купіне, а на муравейніку, шырокім і плоскім, як магіла.

Над вухам зазвінеў камар, цененька і нудна, як усё роўна быў адзін ва ўсім лесе.

Боганчык махнуў быў рукой ля вуха... Тады падняўся з муравейніка і пачаў счышчаць са штаноў мурашак. Падумаў, што ў лесе зусім цёмна, не відаць зямлі.

Калі ён ступіў, хруснулі ў нагах косці, што снег у мароз пад абуткам.

Ён падумаў, што загібее зусім, калі не зменіцца ў сухое; што можна налучыць на немцаў і тады ўсё роўна капцы...

І ён пайшоў лесам, прыглядаючыся: баяўся ткнуцца на дарогу, дзе вечарам ішлі танкі.

Ззаду, там, дзе быў пажар, зноў загрымела, як і ўдзень. Стаўшы, Боганчык аглянуўся яшчэ раз.

Білі з гармат, і снарады ляцелі ў гэты бок — на Краснае. Боганчык згледзеў іх. Чырвоныя, як жалеза з агню, яны мільгалі на чорным небе і знікалі адразу з воч. Бухала блізка за ракой — мусіць, на гэты бок Краснага — ён не пазнаваў. Пабольшала зарыва, аж відна, здалося, стала ад яго ў лесе.

Боганчык падумаў, што па Красным б'юць нашы, што ў Красным немцы...

Пацягнула сырасцю, блізка недзе было балота: ён ішоў на Тартак, мінаючы шашу.

Выйшаўшы на ездавую дарогу, ён пабег, каб сагрэцца, па калдобах і па карэнні ў той бок, дзе зайшло сонца і дзе было ціха.

У тым баку быў дом...

...Боганчык саскочыў з калёс і працёр вочы. Уперадзе, на гары ля дарогі, куды трэба было ехаць, ляжалі шэрыя валуны — аж тры — адзін ля аднаго, а яму было здалося, што там танкі... Валуны ляжалі тут здаўна, уехаўшы ў зямлю, высокія, гладкія, і здалёку блішчалі на сонцы.

Ён, пусціўшы аднаго жарабка, стаяў цяпер у нечай

позняй бульбе на шнуры: пад нагамі з пяску толькі яшчэ вылазілі каліўцы бульбеўніку. Пасля сышоў на сцежку ля дарогі, дзе рос сухі, прытаптаны да зямлі сівец, дастаў з халявы слізкі каменьчык, што рэзаў усю дарогу костачку. Згінаючыся, крануў пашчэнкам аб калена... Пачуў, што да зубоў не даткнуцца. Пачало блажыць.

«Закалыхала... Ля могілак калдобы...— падумаў ён.— Не трэба было сядзець на возе...»

Ззаду ўсе пазлазілі з калёс і цяпер, сышоўшыся ля Януковай падводы, ішлі кучай. Махорка з Настай на самым перадзе, упобачкі; за імі — Панок з Алёшам. Алёша аставаўся ззаду, не спраўляўся з Панком і даганяў яго з подбегам. Пасля наперад усім зайшоў Панок, кашляў, сагнуўшыся і заклаўшы рукі за спіну — азіраўся ўсё назад, слухаў Махорку. Махорка, махаючы ў Насты пугаўём перад самым носам, гаманіў на чым свет стаіць.

Боганчыку не хацелася іх чакаць, і ён пайшоў памалу сцежкай. Яны дагналі яго ў самай лагчыне ля логу.

— Што, брат, уцякаеш ад нас? Усё роўна як мы ва ўсім вінаваты...— Махорка смяяўся. Ён недзе выскаляў зубы з яго, Боганчыка, ад самых могілак, можна пазнаць.— Хрэн з ім... Было — сышло. Жывы астаўся? Астаўся. А нам, татарам...— Махорка зноў засмяяўся, тады сціх. Пасля ўжо сказаў: — Што маўчыш, як воўк у спасаўку?

Махорка, можа, хацеў, каб і ён, Боганчык, выскаляўся разам з ім з таго, як яму прыстаўлялі ля могілак на дарозе наган? Махорка цяпер будзе смяяцца з яго ўсю дарогу; з'ездзіць у Краснае, вернецца ў вёску і там пачне расказваць, як ён, Боганчык, стаў на калені, дабаўляючы ад сябе чаго хочаш...

Боганчык пачуў, як яму стала горача, тады затрасліся рукі, і ён сказаў, не гледзячы на Махорку:

— А тое маўчу, што далей з вамі не еду... Ні ў Людвінова, ні за Людвінова. Лес вялікі, знайду і бліжэй прытулак...

Усе адразу сціхлі. Ішлі падняўшы галовы, ззаду за ім — ён, азіраючыся, бачыў іх — тупалі нагамі па сцежцы, і было чуваць, як дыхалі. Нехта сцебануў па дарозе — па траве — пугай. Толькі Алёша астаўся, стаяў і чакаў падводы: яму, мусіць, балелі ногі.

— Як гэта, брат? — спытаўся ў яго пасля ўжо Махорка.— То на Насту крычаў, то ўжо сам не едзеш?..

Яны цяпер ішлі за ім воддаль, трое, як назіркам: Махорка, Панок і Настуля, не даганялі...

— А та-ак!..— адказаў Боганчык, адвярнуўшыся, са злосцю.

Зноў усе маўчалі; сціх, апусціўшы галаву, Махорка — не смяяўся.

— А так...— сказаў Боганчык ім цяпер яшчэ раз, сам.— Не панясу падстаўляць галаву пад кулю... Можа-це нясці свае... Га? — спытаўся ён пасля ў іх, бо яны ўсе маўчалі. Пачакаўшы, ён сказаў яшчэ: — І я, Махорка, быўшы на тваім месцы, не выскаляўся б... А каб табе прыставілі наган да галавы?.. Га?..

— А нам, татарам, усіраўно: наган ці... Ліжба з табой, брат, не ехаць адным торам, падоскі кавалак... Давялося толькі...— Махорка сказаў ціха, сабе пад нос, але ўсе пачулі і павярнулі да яго галовы.

— Падоска? Я падоска?..— Боганчык стаў на сцежцы, адвярнуўся да іх і чакаў Махорку. У яго дрыжалі рукі, аж калаціліся, і ён схаваў іх у кішэні ў штаны.— Падоска?.. Якая?

— Нямецкая... Калі хочаш знаць — знай...— Махорка ўжо са злосцю махнуў галавой, нагнуўшыся ўперад.

— Нямецкая?..— Боганчык не стрываў, страпянуўся ўвесь, пачуўшы, як сцебанулі па лбе, рассыпаўшыся, валасы.— А ты?.. Што б ты запеў, яшчэ раз гавару, каб да тваёй галавы прыставілі рульку?.. Татарская морда... Завыў бы... Ды я табе...— ён выняў рукі з кішэні і сціснуў кулакі.

— Не лёг бы, брат, на пясок... Не лёг... І не лягу...— буркнуў, як сам сабе, пад нос Махорка.

Боганчык не помніў, як учарэпіўся Махорку за грудзі — скамячыў ля шыі чорную кашулю і пачаў круціць. На кашулі выступіла вада — пот, і Боганчык пачуў, як нацякло на пальцах. Пырснулі на поле ў пясок з-пад рук белыя гузікі...

— Татарская морда...

Ён пачуў пасля, як яго нехта схапіў за валасы, збіўшы з патыліцы кепку, і цягне. Зазвінела ў галаве. Ён выпусціў з рук Махоркаву чорную кашулю і ўбачыў Насту. Яна, упёршыся рукамі яму і Махорку ў грудзі, распіхала іх, што мела сілы.

Пасля закрычала:

— Што сунуўся, як бык? На свайго! На немца не сунуўся... Крычыш, што табе наган прыстаўлялі. Усім пры-

стаўлялі. Усёй вёсцы... А ты, Мірон...— яна прыняла руку ў Махоркі з грудзей, трымаючы цяпер аднаго яго, Боганчыка, за рукаво, і загаварыла цішэй: — А ты, Мірон, не паскудзь сабе... Не знаеш, з кім заводзішся?

Нагнуўшыся, яна падняла з дарогі кепку і, абіваючы ад пяску аб спадніцу, падала яму, Боганчыку.

— Цяпер смелы... — сказала яшчэ раз, задыхаючыся...

Боганчыку раптам зноў стала ўсяму горача; пачуў, што дрыжаць у каленях ногі.

— Падводы адны...— сказаў ён ціха.— Аж дзе ўжо коні...— і стаў біць сабе па калене кепкай, выбіваў ад пяску. Сказаў пасля са злосцю, каб не падумалі, што ён, Боганчык, хоча апраўдацца: — А мая галава мне... Ды да любой прыстаў, не так яшчэ затрасецца, каб на карку астацца. Як міленькая...

Тады ён згледзеў, як Наста стала спопаразку, павярнуўшыся да яго, ішла наперадзе, і падняла вочы, вялікія, шэрыя, што спелы лубін:

— Нешта ты, Іван, дорага аценіў сваю галаву перад усімі...— сказала без злосці, як бы яму, Боганчыку, нічога благога не думала.— Другія, вунь, не вярнуліся, не прыбеглі адразу дамоў... Там, можа,— паказала яна рукой уперад на дарогу,— свае галовы паклалі, не прыняслі ў вёску пакантужаныя...— Яна памаўчала, выцерла са шчок пот і аддыхалася: — Нешта я ніколі не відзіла, каб цябе твая кантузія трасла, як ты ў вёсцы ачуўся, вярнуўшыся... І ніхто не скажа, не відзіў... І ад партызанаў выкруціўся... Кантузіяй... Бараду адпусціў. Пайшоў на хітрыкі... Ты ж маладзей за мяне. Штаны б злупіць...

— Злупі з яго, Настуля, злупі...— засмяяўся цяпер Панок і закашляўся. Панку цяжка было дыхаць у пыле, у яго аж хрыпела ў грудзях.— А так ён распышэў... У аднаго яго галава... А ў дзяцей нашых — не галовы?..— Панок зноў закашляўся і сціх. Ішоў ззаду за ўсімі, дыхаючы, як рыба на пяску, ажно хаўкаў.

Боганчык яго не слухаў. Панок яшчэ... Трухля... Кашляе, харкае — дохля ніяк не возьме... Ён падумаў, што Наста гаворыць тое, пра што гавораць у вёсцы. Наста не баіцца, скажа ў вочы. Уся вёска тады пра яго языкамі меле, што ён такі-гэтакі... А што ім усім да таго, які ён? Канту-узія... С...кі ў іх ва ўсіх пакантужаны... Калі ў чалавека галава цэлая на плячах, калі ён яе на карку дамоў прынёс, дык усім не ўгадзіў, зарохкалі, што свінні.

Трэба было прынясці галаву пад пахай, тады б усе супакоіліся...

Боганчык пачуў, як яго зноў усяго трасе. «Згараць да аднаго ў агні,— падумаў ён пра вёску,— а свайго не кінуць... Не-е...»

— А ты, Наста...— Боганчык ужо не мог змоўчаць,— чаго пражэшся? Законная такая... Не помніш, як банку прынясла ад патронаў? Вёску маглі праз цябе спячы... Праз тваю разумную галаву. Ну, хай я ўцёк тады... Збег! А ты што знаеш? Га?! — ён не ўтрываў, закрычаў са злосці. Пачуў, што душыць кашуля, не дае дыхаць. Хапянуў рукой за каўнер — гузікі былі моцна ўшыты, не адскочыў ніводзін, тады пачаў іх адшпіляць усімі пальцамі. Чуў, што пальцы паслізлі, сашмыкваюцца і дрыжаць.

Ззаду, за грэбляй ля маста, затахкаў кулямёт, рэдка і глуха: здалёку. Усе былі адвярнуліся назад, і Махорка загарадзіў цяпер яму, Боганчыку, дарогу.

— Ты Насты не чапай, брат...— сказаў ціха, працадзіўшы праз зубы.— Знайшоў на кім злосць спаганяць. Багамазіць на ўсё поле... Голас падняў... Ды яно, каб зацiш... Чорт бы які з табой...— ён не дагаварыў і махнуў рукой, той, на якой не было двух пальцаў.

Яны спяшылі сцежкай, адно за адным, даганялі коней, каб павярнуць іх з Кур'янаўшчыны на Людвіноўскую дарогу.

Коней яны дагналі ў вілах, дзе дарогі сыходзіліся ў адну: з балота ад саду і з Кур'янаўшчыны ад Крыжа.

Боганчык, сеўшы на калёсы на мяхі, глядзеў цяпер на свежы пясок ля акопаў, якія парылі кутузаўцы ў самых вілах. Пясок быў накіданы ад могілак, адкуль ішлі немцы, ляжаў нават не зацярушаны, не схаваны ад вока. Відаць, не стрэлілі адгэтуль ні разу; капалі, бо была каманда капаць; пасля далі другую каманду, і акопы рылі ў другім месцы, можа, ужо ля самай Дзвінасы...

Ён бачыў, што ніхто не сеў ехаць, усе ішлі ззаду ля Януковай падводы, і чуў, як яны гаварылі між сабой, бы яго, Боганчыка, і не было на калёсах.

— ...Дык што будзем рабіць, мужчыны?

— Ага... Наста. І ты кажаш, каб астацца ў Людвінове?

— Праўда. У Людвінове ціха...

— А раптам немцы?

Ляскаталі калёсы, і Боганчык павярнуў галаву, але ззаду пачалі гаварыць цішэй.

— А Іван?..— гэта папыталася Наста ў Махоркі.

— Жарабка не кіне... Я яго знаю...— Махорка гаварыў ціха, нічога не было чуваць.

— Ды ён кашулі баіцца...

— Кінь, Наста...— Махорка загаварыў мацней, зноў як сумысля: — Ён то настойны і крычыць без сціханага пра сваю галаву... Але ж... Ды і совісь...

— ...збег...

Боганчык не пачуў, што яшчэ сказала Наста.

— Мала, Наста, што...— забубніў Махорка.— Дамоў прыбег... А з дому куды?

— Можа, Мірон, ён тады і кантужаны, калі так? У партызаны ж не ўзялі?

— У партызаны сілай не бяруць. А ўцячы — уцёк... З дотаў. З Дзвінасы. Зямля дыша. Людзі відзілі, як яшчэ шклункі на плячах валок. Нагроб недзе рыззя... На ўловы хадзіў, а ты думала — на фронт? Людзі, Наста, відзяць, не ўтоіш. Носіць жа чужыя латы. Адкуль? У Ваўкаўні, калі нямецкая «рама» над вёскай лётала, у зямлі поркаўся. Схоў рабіў, каб багацце схінуць... А яшчэ... мабілізавалі. Напінаецца. Хацеў бы, каб яго і не мабілізавалі. Хай ідзе немец...

— О-хо-хо... Што там у вёсцы? Знябудуцца, пакуль вернемся... Што гэта будзе?.. Мірон? Ты ж, можа, ведаеш? На свеце быў...

— Нічога, Наста, не будзе...

Боганчык ужо не чуў, пра што гаварылі: коні пайшлі з гары, логам, і людзі, пераймаючы падводы, чапляліся за ляжэйкі. Было чуваць толькі, як мычэў на возе Янук, паказваючы пугаўём на лес, на Людвінова. Ля яго воза махаў рукамі Махорка: спраўляўся ў Янука, як лучыць за руччом на Кур'янаўскі расцяроб.

Праехаўшы добры кавалак, яны спусціліся да ручча, знайшлі расцяроб і, звярнуўшы на яго, паехалі даўнейшай дарогай, каб не ехаць полем — не быць на відку.

У расцяробе стаяў цень. Пахла балотам сырая ў лагчыне зямля — прэла пад мохам і ягаднікам: яе не даставала сонца. Расцяробам ездзілі толькі летам, калі касілі лог ля ручча, аж пад самым Людвіновам.

Пад калясьмі шасцела старое белае асінавае лісце, ліпла на мокрыя ад зямлі колы. Расцяроб быў шырокі, на парку коней, і Боганчык сядзеў з краю на мяхах, выпрастаўшы ногі: яны балелі і, здавалася, ацяклі. Адлучыўшыся ад усіх, ён зноў глядзеў здалёку, як махае галавой, нагінаючыся да самай зямлі, маленькі Махоркаў Сібірак.

Здавалася, расцягнецца на дарозе, захрапе, і яго ўжо не падымеш...

«Пільнаваў бы лепш сваю падлу, чымся людзей языком мыць...— падумаў ён пра Махорку.— Узяў бы ды сам на перадавую... Дык не... Без пальцаў... Усе яны такія... Адны бязрукія, другія кашляюць. Ім павестак не прынеслі. Не далі формы, не заперлі ў доты... А то ўжо Боганчык збег, Боганчык уцёк... А ў фінскую хто ў снезе сябе памарозіў?.. Яны, можа? Ім і тады павестачак не прыслалі. Як у бога за пазухай... А якая розніца, ёсць у цябе пальцы ці не? Там у галаву страляюць... Ваюй за ўсякую сволач. Кладзіся пад танкі... А яны табе тады яшчэ жыцця не дадуць. Я з вамі разам не кашляў і пальцы ў малатарню не соваў... Героі... Наракаць толькі».

Пад калёсамі трэскалася суччa; колы мясілі мухаморы, што лезлі з пяску і з травы, белыя, як порхаўкі. І Боганчык падумаў: усё роўна падушаць усіх у вёсцы, як порхавак. Не сёння, то заўтра. Немцы — немцамі... Спасу, мусіць, не будзе. І так — нешта нейкае: не зачапілі адразу, сагнаўшы... Нарыхтоўку ўзялі.

Хаця, завязеш, прыедзеш — яны і цябе з усімі да Махоркі ў хату і сярнічку пад страху ў салому... А Наста хоча яшчэ ўсім ратунак знайсці... Добра, што хоць самі вырваліся...

Боганчык чуў, як па нагах, па старых дзіравых ботах, шастае трава: вырасла на самай дарозе ў пояс, выветрала сухатой аж да зямлі і цяпер будзе гарэць, як сярнічка, падаткні толькі агню. Ён падумаў, што ўсё будзе такім летам гарэць, як сярнічка: трава, лес, салома на стрэхах... Салома сухая, сушэй за траву на дарозе.

Уехалі ў Людвіноўскі лес — пайшлі адны старыя елкі: гэта перад самай вёскай.

Боганчык падумаў, што ў Людвінове можна перасядзець усё на свеце. Каму яно трэба... Хутары на пасецы сярод лесу, хат дванаццаць, ці што — ён не помніць. Будаваліся людзі тут нядаўна, перад самай вайной. Людвінова далёка ад вёсак і ад шашы.

У лесе цень засцілаў дарогу. Пасвяжэла за плячыма, стаў часта храпці конь, хацеў піць: чуў, што вільготна пад нагамі.

У Людвінове можна будзе адсапнуцца, напаіць каня, бо такой гарачынёй збяёдаеш жывёлу...

Расцяроб пайшоў прамы, як пад шнур, і ўсе падводы былі відаць на дарозе. Ззаду паганялі, каб не адстаць ад

яго, Боганчыка. Праз расцяроб ужо свіцілася поле; Людвінова было блізка.

Боганчык саскочыў з воза, каб ля лесу звярнуць жарабка адразу на загуменне — да студні, што ў канцы вёскі: не ехаць жа ім полем праз усе хутары... Закруціліся былі за канец дугі ля гужа лейцы, і ён, ідучы збоку ў каня, адкручваў іх аднымі канцамі пальцаў — не даставаў цераз аглабню. Пачуўшы свабоду, жарабок замахаў галавой, гонячы з грудзей сляпнёў, зафорскаў і, нагінаючыся да зямлі, стаў скубці ў выбоінах сухую смычку: быў галодны. Боганчык успомніў, што жарабок не кормлены з начы. Вярнуўшыся раніцай з Карчаватак, ён кінуў яго пад асверам на двары нераспрэжанага. Не адпяў нават, забыўся. Адтуль яго і забраў, не даўшы дома піць: нідзе не знайшоў вядра — ні ў хаце, ні ў сенцах, ні ў варыўні — знялі ўласаўцы. У рацэ ля маста жарабок і не нагнуўся да вады: з ракі рэдка піў.

Праз лес ужо было відаць белае на сонцы поле. Боганчык пачуў, як пахне жыта; пасля ўлавіў, пацягнуўшы носам, смурод, як дзе гарэла сухая салома: з жыта ў расцяроб падзьмуў вецер. Тады ў тым баку, дзе было Людвінова, нехта закрычаў нема, што меў сілы, і затрашчалі стрэлы: кораценька, суха, як хто знянацку павёў па драбіне ў калёсах пугаўём. Ззаду па лесе пайшлі водгаласкі...

Жарабок натапырыў вушы і замахаў галавой — рассыпалася па шыі грыва, забразджалі цуглі, б'ючы па хамуце па клешчах,— пасля тарграгануўся, як укушаны, і рвануў дарогай на поле.

Боганчык, падаўшыся наперад, злавіў яго за лейцы, паспеў. Лейцы рэзалі рукі, былі шорсткія і гарачыя, што з печы. Ён бег, б'ючы каленам аб заднюю вось; цягнуў за лейцы, накручваючы іх на руку, і чуў: нічога не зможа зрабіць. Пасля падумаў, што трэба забегчы каню наперад...

Учапіўшыся за ляжэйку, ён прабег і схапіўся за аглабню ля падпінка. Лейцы вышмыкнуліся з рук, і цяпер, трымаючыся за падпінак, ён хацеў злавіць каня за аброць.

Калі зноў пачалі трашчаць уперадзе стрэлы, глуха, што ў бочку, Боганчык быў ужо з калясьмі на полі ў жыце. Нагнуўшыся ўперад і ўзлёгшы на аглабню, ён схапіў каня за аброць і пацягнуў, што меў сілы, убок, каб звярнуць з дарогі. Жарабок спатыкнуўся, і Боганчык пачуў, як падкасіліся ногі — па іх, мусіць, дало аглабнёй —

і ён паляцеў галавой у зямлю, у жыта. Убачыў, ужо лежачы, што лучыў на крушню камення. Падцялежыўшыся, нахінуліся да крушні і калёсы, і ссунуліся на ляжэйку верхнія мяхі. Жарабок як абваліўся, падкорчыўшы пярэднія ногі, так і ляжаў. Хроп, б'ючы галавой аб каменне: адграбаў ад сябе заднімі нагамі зямлю і стагнаў: не давалі ўстаць падцялежаныя калёсы з мяхамі.

З-пад сябе Боганчык угледзеў, што на поле выехаў Махорка — самога Махоркі не было відаць, матаў галавой толькі гняды Сібірак, за Сібіраком мігнулася сівая Панкова галава...

Тады Боганчык страпянуўся, падгробшы пад сябе локцямі каменне, устаў з крушні і закрычаў, махаючы ў лес рукамі:

— Назад!.. Назад!..

Але коні ішлі на поле, і за імі ківаліся людзі...

Ён схапіў жарабка за аброць — жарабок, апёршыся галавой яму на рукі, напяўся і ўстаў з зямлі — і павёў яго, аб'язджаючы крушню, наўскасяк цераз жыта да дарогі: заварочваўся. Не згледзеў, калі паспелі акруціцца Махорка з Панком — яны пагналі коней назад у расцяроб, і ён, Боганчык, астаўся цяпер ззаду за ўсімі.

У расцяробе ля самага поля дарогу Панку загарадзіла Таня — ехала як усё роўна ім напярэймы, лежачы на возе; за ёй паганяў кабылу Янук Тваюмаць. Расцяроб ля самага поля быў вузкі — не размінуцца; аб'ехаць адзін аднаго спопаразку ніхто не змог, і яны сталі.

— Назад!.. Назад!..— крычаў Боганчык цяпер ужо цераз усіх Тані і Януку.— Немцы ў Людвінове...— Пасля сціх і пабег наперад, да Панковых калёс, дзе сыходзіліся мужчыны. Янук толькі тупаў босымі нагамі ля сваіх калёс, баючыся адысціся, і паднялася на мяхах Таня — хацела злезці далоў.

Пастаўшы ля Панковых калёс, мужчыны маўчалі, гледзячы ўперад на поле. Тады Боганчык падумаў, што іх з Людвінова не відаць — яны схаваліся за лазой — і страмлялі не ў іх. На полі ля дарогі, што ішла загуменнем ля самага Людвінова, расла лаза — кустамі. Праз лазу з расцяробу не было відаць і Людвінова.

Калі ён угледзеў агонь, яму здалося, што гарыць недзе зусім блізка: жыта на полі. Полымя ўскочыла адразу, як з зямлі, пад той канец Людвінова, дзе была студня — адна на ўсю вёску — і куды яны хацелі ехаць; лізнула лазу і палезла ўгару, рассыпаючы іскры.

Глянуўшы верх лазы, ён убачыў дым, чорны, густы, не праткнуў бы, здаецца, і пугаўём.

Боганчык быў страпянуўся і несамахоць прыцiснуўся да калёс, стаўшы побач з Настай. Пачуў, можа, што не ляскалі калёсы і маўчалі людзі, як гудзе ў вёсцы агонь, бытта дзе блізка гарэлі бочкі з жывіцай... Аднекуль даляцеў ціхі звон на многа галасоў, што ўсё роўна пелі дзе далёка на полі ў жыце бабы... Песня была на адным тоне, лезла ў вушы як з-пад зямлі, і трэба было натапырыцца, каб яе пачуць.

Пасля Боганчыку здалося, што ные зямля: у яго пад нагамі, пад нагамі ў жарабка і ў людзей, і ля самай крушні камення, дзе ён быў упаў і счасаў локці...

— Назад! Галовы!..— намогся крыкнуць ён зноў, ажно пачуў, што шэпча, не можа гаварыць, што яго не чуюць і ён нічога не чуе; толькі ные за лазой, дзе пажар, зямля... Ад таго, мусіць, і звініць увушшу...

Угары над Людвіновам расплылося белае воблака, што ад ветру, і ападала на лес. За лазой бушаваў агонь і мітусіўся ў вачах палосамі: знізу ўверх.

На поле папоўз дым, засцілаючы дарогу ля загумення. Не было ветру, і дым, спёрты, клаўся на зямлю, не хочучы ісці ў неба.

У Боганчыка звінела, не аціхала, у вушах, і ён падумаў, што возьме абваліцца, не ўстоіць на нагах...

— Наза-а-ад!.. Назад! На Завішына... За раку. Не стойце!..— закрычаў ён зноў.

Затрашчаў за лазой у Людвінове, недзе ў самым канцы ля студні, кулямёт. Пок-пок...— чуваць былі пасля рэдкія стрэлы, усё роўна як лопаліся сухія порхаўкі пад нагамі на дарозе. Высока над галовамі, над лесам, засвісталі кулі. Стралялі ў гэты бок — у расцяроб.

Ля калёс усе маўчалі; глядзелі, утаропіўшыся, на агонь, нібыта яго, Боганчыка, не чулі. Замычаў толькі ля калёс Янук, паказваючы рукамі ў кут, на поле, і сціх.

Тады Боганчык пачуў, як на дарозе, што ішла з шашы ў Людвінова і якой яны ля могілак яшчэ ля Сушкава збіраліся ехаць, загудзелі машыны. Гудзелі доўга і моцна, ішлі пад гару, ад іх стагнаў лес. Пасля машыны паказаліся на полі ў самым куце.

— Немцы!.. Назад!..— зноў закрычаў Боганчык.

Убачыў пасля, як прыціснуліся адзін да аднаго ля калёс людзі, збіўшыся ў кучку, і ён астаўся адзін на дарозе, воддаль ад усіх. Поле засцілаў дым аж да самага лесу...

## 6

Алёшу зноў вяла галава. Пад бокам рабіліся мяккія мяхі, што сена, і грэлі. Угары былі відаць сухія дзідавастыя яловыя лапкі, і Алёша падумаў, што мужчыны, абмінуўшы Людвінова, паехалі лесам на Завішына.

Калыхала на мяхах, ліпліся вочы, і яму здавалася, што ён дома, за хатай на качэлях...

За хатай, у гародзе пад раку, у іх усягды свяціла сонца, за хатай і паставілі качэлі. Укапалі слупы на згон зімы, калі яшчэ не адтала добра зямля ля прызбы і ямкі на дне трэба было дзяўбці старым сагнутым ломам. Дзёўб ён, Алёша, дзе была мёрзлая груда і яе не брала рыдлёўка. Слупы прывязлі з-пад Карчаватак, зрэзаўшы адумысла сасну: аскаблілі на двары ля дрывотні, пакруцілі вялікім тэбалем, пазычыўшы ў Панка, дзіркі і, падняўшы слупы, апусцілі іх у гародзе ў ямы.

Апускалі ўсёй сям'ёй. Нават маці выйшла на гарод і ўзялася за рыдлёўку, але яе адвёў пад прызбу бацька і пасадзіў на калодачку. Мацеры цяжка, яна ўжо чуць хадзіць. Не было на гародзе толькі Юзюка: павёз у Камена за раку кутузаўцаў. Кутузаўцы прыйшлі ноччу і доўга драгалі ў дзверы, пакуль ішла адчыняць маці. Іх было многа — пабралі коней з усёй вёскі.

Качэлі складалі на зямлі: уставілі вось у слупы — у дзіркі — і заклінавалі ў ёй дубовым кліннем палкі, да якіх была ўнізе прыбіта лавачка з яловай дошкі — ляжала на жалезных прантах. Лавачку вышчапіў бацька з калодкі, ачасаў тапаром і выгабліў старым Панковым габэлькам.

Апусціўшы слупы, іх абкідалі ў яме каменнем і зямлёй, абтапталі пасля, далі падпоркі, і Алёша стаў на лавачку, разуўшыся: кінуў дзеравяшкі пад прызбу.

Алёшу, калі ён узяўся рукамі за палкі, падпіхнуў бацька, упёршыся ў плечы. Алёша пачуў, як яго пацягнула ўперад, падняло ўгару ад зямлі аж да верхняй шалёўкі ў акне. Калі яго адкінула назад — заскрыпела над галавой вось: туга хадзіла ў дзірках, Алёша, каб не стаць, сагнуў у каленях ногі і сам падбіў лавачку...

Чуў пасля, як кратаюцца ў зямлі слупы, не памагаюць і падпоры, як бацька сказаў: «Ну-ну...» — і адышоўся далей пад прызбу; як зноў пачала на яго, Алёшу, крычаць маці, што ён зверне галаву.

У вачах мігнуўся гарод — чорная ралля ад хаты аж

да логу — з паламаным з зімы плотам, аціснутым і паваленым ля град; апынулася пад нагамі вуліца з чужымі парасятамі, што рыліся пад парканам; закалыхаўся ўзадуперад гародчык ад вуліцы з сукаватым бэзам і сівымі, стаптанымі курамі і палёгшымі на зямлю яшчэ з восені квятамі — марозам.

Блішчала ў акне сонца, біла ў вочы, калі ён згінаў калені і ляцеў да варыўні. Сонца зайшло з гароду, але ў ногі было холадна. У ногі холадна было і на зямлі: яна адтала яшчэ не глыбока. Ля прызбы пайшла расці толькі адна крапіва, чырвоная, што старое шчаўе летам на Выганчыку, і вылез на раллі ля мяжы, паказаўшы белае лісце, хрэн.

Усюды яшчэ была чорная пасля снегу зямля.

Чорная была і сырая сцяна ад гароду ў варыўні, і ўвесь канец вёскі здалёку быў чорны і пусты, усё роўна як яго вымела за зіму ветрам.

Алёшу здавалася: ён скача з самай верхняй перакладзіны ў салому ў вялікай калгаснай пуні, што да вайны стаяла ля лесу і якую, разрэзаўшы страху, разабралі людзі, перавёзшы на загуменне сабе на пуні.

Калі Алёша косіцца на двор, бачыць дрывотню і студню. Хлеўчыка не відаць, ён паказваецца толькі, як моцна падаб'еш лавачку. Відаць тады старая драніца на страсе; з краю, ад гароду, дзе цякло на парасят, ляжыць разасланая шэрая яловая кара, прыціснутая старым пашчапаным карытам, у якім перш давалі свінням. У тым кутку — пад вуглом ад гароду — нясліся куры.

Учора вечарам ля курынага гнязда на зямлі пад леташнім рудым лісцем ад дзядоўніку ён схаваў міну ад нямецкага мінамёта. Знайшоў яе на пасецы ля імшары — ля леташніх акопаў, якіх нарылі ўвосень, калі стаяў у вёсцы «Жалязняк». Па «Жалезняку» білі немцы з Сушкава, з мінамётаў. Міна ўехала ў зямлю, відаць была толькі пята з новымі чырвонымі жалезнымі крыльцамі. Пята высока тырчала з зямлі — на ўсе пальцы. На ёй было дванаццаць крыльцаў — Алёша доўга не мог злічыць,— і яны, мусіць, былі стальныя, бо, калі ён стрэпаў па іх ногцямі, яны звінелі. Пасярод пяты блішчаў жоўценькі капсуль, як начышчаны. У ім была ямка — вялікая, у яе лез кончык дубчыка. Пад крыльцамі на тонкім хвасце ў міны чарнелі дзіркі, як вымазаныя ў сажу, маленькія і круглыя, усё роўна што яе патачылі жукі. Ад зямлі дзіркі былі пазабіваны жоўтым пяском і чырвонай глінай. Пясок

усох, не хацеў выкалупвацца, калі Алёша торкаў у дзіркі дубчыкам. Гліны накарэла і на самым хвасце між крыльцаў. Тырчала міна недалёка ад ямы, шырокай і мелкай; ля яе ўсё роўна што куры падралі зямлю.

Каб міна не кранулася адразу ў зямлі ад рукі, ён бы яе не зачапіў, пабаяўся б. А то яна лёгка пайшла з пясску, што моркавіна з грады, калі Алёша, сагнуўшыся, учапіўся рукой за крыльцы і пацягнуў уверх. Міна была лёгкая, яе можна было падняць у руцэ і нясці.

Алёша перанёс яе ў соснік, да ям, а з цямном, узяўшы ў падол, прынёс перад сабой дамоў і паклаў ля паркана ў дзядоўніку. У нядзелю ён пакажа яе Юзюку, і яны пойдуць глушыць рыбу ў Верх-возера.

На качэлях стала холадна: вецер ганяў ля плячэй сарочку; раз'ехаўся на грудзях замочак. Стары зусім, разнасіўся: маці да вайны купіла, калі ў вёсцы была лаўка. Маці пашыла тады сацінавую рубашку з замком і з кішэнькай на грудзях. Алёша знасіў ужо дзве рубашкі з адным замочкам: маці выпорвала замок са старой і ўшывала ў новую. Цяпер яна ўшыла замочак у рубашку з кужалю, якую пасля кіпяціла на двары ў вялікім гаршку ў мучанічніку разам з маткамі і насіла на грэблю мачыць у руду ў канаве...

Скрыпяць за хатай ад вуліцы вароты. Маці кліча з двара бацьку, мусіць, стоячы на ганку,— пайшла з-пад хаты. Алёша не агледзеў калі. Павярнуўшыся, ён глядзіць на двор, але праз паркан нічога не бачыць. Відаць толькі, як б'юцца на сасне, што на дзядзінцы ля фермы, бацяны: зганяюць адзін аднаго з голай бараны — яны толькі ўчора прыляцелі з балота, гняздо, можа, будуць рабіць сёлета. З лесу едуць на падводах партызаны, расцягнуліся ад ям аж у вёску. Гэтулькі падвод было, як вазілі талакой з лесу бярвенне Януку на новую хату, калі згарэла ў яго старая перад самай вайной у вялікі пажар...

Бацька, нічога не сказаўшы, пайшоў на двор, пасля зноў вярнуўся і крыкнуў здалёку праз паркан:

— Марш дамоў... Паставілі шыбеніцу... — Бацька быў нейкі інакшы. Ля ганка пагладзіў яго, Алёшу, па галаве і, гледзячы на загуменне, сказаў: — Бяжы да Насты. Гародам, дзе сушэй... Хай прыйдзе да нас. Не стой.

На гародах Алёша пачуў, як закрычала дома на ўсю хату маці. Агледзеўшыся, убачыў, што ходзіць па двары ля дрывотніка бацька.

Ногі ў дзеравяшках чапляліся за раллю, і Алёша, скі-

нуўшы іх, пабег босы сцежкай, дзе ляжаў яшчэ латочынамі лёд. Да Насты было далёка.

Вярнуўшыся з вёскі, ён сядзеў у гародзе пад прызбай і чуў, як крычала, стогнучы, у хаце маці. Яго тады брала злосць на Насту: не можа нічым памагчы. Бегай толькі па яе босы гародамі, язык высалапіўшы... Цягнулася, чапляючы нагу за нагу па загароддзі, што нежывая, і ўсё правілася: печ праз яго кінула не засланіўшы. Ён мінуў яе і пабег, хай сунецца, як качарга.

У хату ён пабаяўся пайсці. Бацькі на двары не было, і ён, адшчапіўшы ў гарод пад раку варотцы, зноў пайшоў да качэляў. Яны стаялі цяпер адны пад хатай, і ад іх пахла смалой. Ён прыхінуўся да слупа і доўга стаяў, гледзячы ў гарод за раку, дзе на Выганчыку ў альшэўніку ляжаў яшчэ снег.

Калі закрычала маці, моцна і прарэзліва, ён кулем кінуўся ў сенцы, але ў хату яго не ўпусціла Наста: стала на парозе, мусіць, угледзела, як ён пабег з гароду, і выпхнула з сенячак.

Пасля прагнала з двара:

— Каб мае вочы цябе не відзілі... Гуляў не можа знайсці. Ад вуглоў не ступіць, як на прывязі...

Правячыся, яна вярнулася ў хату.

Алёша зноў пералез цераз плот і пайшоў пад прызбу.

За Выганчыкам, дзе ляжаў у кустах снег, на грэблі хаваліся падводы.

Партызаны паехалі аж цяпер, доўга нечага стаялі ў вёсцы.

Над Выганчыкам папаўзлі па небе хмары, рэдка, кучкамі, бы хто іх раскідаў сушыць. Схавалася сонца, пачарнела ў гародзе ралля. Зрабілася нудна. Алёша ўспомніў, што яму гэтак было нудна, калі бацька вазіў партызан пад Краснае... Здалося, ён і цяпер сядзіць і чакае яго з грэблі.

Кінула ў стужу, і Алёша зашпіліў аж уверх на замочак сарочку і схаваў рукі ў кішэні ў штаны. Убачыў, як ідзе ад ракі па плоце іхні рабы кот, памалу, круцячы галавой у бакі. Пасля кот сеў на жэрдцы і доўга глядзеў на яго, Алёшу.

Зноў у хаце закрычала маці... Алёша быў падскочыў, стукнуўшыся галавой у шалёўку. Пачуў пасля, што крычаць у хаце ценкім дзяркатым голасам, усё роўна як да іх прыйшла Паніха са сваім малым і яно заходзіцца ў яе на

руках. Было чуваць яшчэ, як гаворыць Наста, моцна, на ўсю хату, мусіць, нечага да маці, пасля смяецца.

Яго зноў схапіла злосць на Насту: смяе-ецца...

Зноў зайшоўся нехта цененькім голасам у хаце, голас аж пераліваўся, і гаварыла маці. Ён адышоўся з-пад акна да плота, па якім ішоў ад ракі кот. Кот усё ніяк не мог дайсці да варыўні: доўга нечага глядзеў на мяжу ў леташнюю траву, паклаўшы на жэрдку выгнуты хвост, што серп. Ля варыўні яго, Алёшу, і знайшла Наста: падышла, не клікаўшы, мусіць, праз акно сачыла за ім.

— Ідзі сюды, шашок...— Наста смяялася, папраўляючы на галаве хустку.— У хаце аж двое жэўжыкаў... Бацян скінуў. Ідзі, маці звала. Авечка... Крывіцца яшчэ нечага на старую бабу...— Наста завярнулася і пайшла на двор.

Ён не стрываў, заплакаў, не ведаючы чаго, і пабег мяжой ля плота пад лог. Убачыў толькі, як скочыў з жэрдкі пад ногі кот, падняўшы дыбам на спіне поўсць, і над самай галавой закігікала кнігаўка — заляцела ад ракі з логу на гарод.

...Ён не спаў усю ноч, не заснуў і раніцай. Сонца свяціла ў акно з двара, якраз на сцяну, дзе вісела маленькае старое люстэрка, і яму, Алёшу, калола ў вочы, што вострымі шпількамі, дастаючы аж на печы.

У галавах на лучыне кратаўся кот, пацягваўся, выставіўшы ўперад лапы, і Алёша падумаў, што кот варожыць на холад. Чуў пасля, як скрыпіць у хаце ля матчынага ложка калыска на новых лейцах — іх віў нядаўна бацька,— падвешаная да бярозавай жэрдкі, якая прывязана пасярэдзіне да бэлькі. Калыска старая; ля дзірак, куды зацягнуты новыя лейцы, знаць чорныя плямы: некалі былі клапы, і іх выганялі агнём — лучынай.

Пасля ціха-ціха пачынала пець на ложку ля акна маці, мусіць, каб не разбудзіць яго, Алёшу.

Люлі, люлі... люля-ясі...

Маці пела паволі, цягнучы, як і кожны раз, калі садзілася шыць на машыне ці абразаць на вячэру бульбу. Гэтак яна пела і калі жала ў Кур'янаўшчыне. Згінаючыся, махала рукой, закладаючы серп, і пела.

Ён любіў, калі маці пела. Толькі маці кожны раз пела працяжныя песні, і яму рабілася нудна і хацелася плакаць.

Маці цяпер пела ля акна, як дзе далёка на полі. Яму

здалося, што ціха на дварэ і ў хаце; ціха ўсюды, толькі чувань песня.

...Пабіліся два Я-ясі.
За якую прычы-ыну?
За красную дзяўчы-ыну.
А дзе тая дзяўчы-ына?
Калода забі-іла.
А дзе тая кало-ода?
Чэрві патачы-ылі.
А дзе тыя чэ-эрві?
Куры падзяўба-алі.
А дзе тыя ку-уры?
Каршуны падра-алі.
А дзе тыя каршу-уны?
За мора паляце-елі.
А дзе тое мо-ора?
Краскамі пара-асло...

Ён падняўся, апёршыся на локаць, убачыў, што маці ляжыць на ложку, накрыўшыся па шыю. Відаць толькі з-пад пасцілкі яе голая рука: маці ўзялася за бераг калыскі. Зыбае пад песню, а сама глядзіць угару, некуды ў столь, закінуўшы галаву.

А дзе тыя кра-аскі?
Дзевачкі парва-алі.
А дзе тыя дзе-еўкі?
Хлопцы замуж пабра-алі.
А дзе тыя хло-опцы?
На вайну забра-алі.
А дзе тая ва-айна?
Пасярод кучы г...на.
Ехаў пан — растапта-аў...
Бег сабачка — пахлябта-аў...

Маці доўга пасля маўчыць, гледзячы ў столь і не прымаючы рукі з калыскі...

Тады прыходзіць з двара бацька — Алёша не чуе, калі ён адчыняе дзверы,— ідзе да калыскі, бярэцца рукой угары за лейцы, дзе яны перавязаны аборай па пасцілцы.

— Дзе гэта ўсю ноч гарэла? — маці пытаецца зноў ціха, усё роўна як пяе.— Якраз на ферму... На Карчаваткі недзе... Зарыва было на ўсё неба. У акно добра відаць...

— Даўгынава бралі... Жалязняк...— бацька падыходзіць да ложка бліжэй.— Юзюк яшчэ з падвод не вярнуўся...

Маці, не прымаючы рукі з калыскі, паварочваецца на хату, паклаўшы галаву на падушку ў другім месцы, і пачынае пець яшчэ цішэй:

...Люлі... люлі... люля-ясі...

Бацька, пастаяўшы, ідзе ў парог...

Сонца заходзіць, мусіць, за варыўню, за страху, не лезе ўжо ў вочы. Цямнее ў хаце; зноў пачынаюць зліпацца павечкі. Здаецца, Алёша сам у калысцы і яго калыша маці: з боку — на бок, з боку — на бок...

Калыска раптам становіцца, не чуваць трасаніны, мусіць, маці прыняла руку, кінуўшы калыхаць, і кліча — будзіць: пара праганяць у поле карову. Кліча моцна, на ўвесь голас...

...Алёша адплюшчыў вочы і падскочыў на мяхах...

Ля калёс апёрлася на ляжэйку Наста — будзіла.

Зайшло сонца. Калёсы стаялі ля ракі на чорным, парытым выгане. Здавалася, выган пааралі плугамі трактары: знаць сляды ад гусеніц. Глянуўшы ўперад, Алёша ўбачыў, што стаяць усе падводы.

Аднекуль пахла дымам — прыпаленымі сасновымі лапкамі; уперадзе, у альшэўніку, па каменні, мусіць, шваргатала рака.

Насту паклікалі мужчыны, і Алёша тады ссунуўся з мяхоў на зямлю, на сухую траву: калолася ў нагі.

Ля ракі ён пачуў, што падняўся вецер: у альшэўніку на беразе шапацела лісце. Пасля вецер падзьмуў у шчокі, баючыся, як на рану.

Там, дзе закацілася сонца, неба ля самай зямлі стала белае як снег; угары яно было сівое, што замурзанае, бы хто павёў па ім памялом, злазіўшы ў печ і падмёўшы попел. Высака над самай галавой жаўцела паласа, як раскручанае з трубы нявыбеленае палатно: угары на рэдкую смугу, мусіць, яшчэ свяціла сонца. Далёка на ўсходзе над лесам слалася чорная хмара, усё роўна як там збіралася на дождж.

Алёша адразу ўспомніў, дзе яны: ззаду за падводамі стаялі ліпы, застунаючы поле. Высокія, старыя, яны раслі пад канец Завішына ля саду, ён ведаў. Ля саду яшчэ была малочная; ён з бацькам перад вайной раз быў звазіў сюды малако: два бітоны на калёсах з драбінкамі. З дому сюды дванаццаць кіламетраў.

Малочная стаяла ля самай ракі — пабеленая знадворку, яна была відаць далёка з поля.

Цяпер малочнай не было. Там, дзе яна некалі стаяла, віўся па зямлі дым на ўсім двары, ціха, як вечарам на старым вогнішчы.

Глянуўшы пад сад, Алёша ўбачыў вёску — белыя печы. Яны тырчалі на гародах ля платоў неяк зусім блізка адна ля адной, і іх было многа.

Ён убачыў яшчэ, што ўсе падводчыкі зноў сышліся ў кучку ля Танінага воза і маўчаць, гледзячы на гароды.

У тым баку, дзе была вёска,— белыя печы, стаяла заціш: каб скрыпнулі вароты ці асвер. Ад саду на печы падаў доўгі шырокі цень; пачынала цямнець, і печы ад таго рабіліся яшчэ больш белыя, як пабеленыя перад святам.

Алёша падумаў, што Завішына спалілі і што нідзе не відаць людзей: ні душы.

— На той бок... У лес... Стаім на віду...— загаманіў Махорка, паказваючы пугаўём за раку.

Захроп уперадзе Боганчыкаў сівы, у яблыкі, жарабок, пачуўшы, мусіць, ваду, і забразгаў цуглямі. Заірзала Панкова кабыла, мінаючы Махоркавы калёсы і пручыся да ракі: была няпоеная. За кабылай пабег Панок.

Было чуваць, як крычаў Боганчык:

— Но-о... Падлы кавалак...

Боганчык крычаў, прысядаючы аж да зямлі, што ўсё роўна хапаўся за балючы жывот: цягнуў за лейцы. Пасля ўскуліўся на воз на мяхі... Алёша пачуў, як бултыхнуў у ваду пярэднімі нагамі жарабок і як зноў закрычаў Боганчык.

Жарабок задзёр галаву, пасля што ўваліўся ў яму. Схаваліся з вачэй калёсы; відаць быў толькі сам Боганчык, стаў на мяхах на нogі. Жарабок, чуваць было, захроп — піў, захлынаючыся, тады — Алёша ўбачыў — упёрся ў хамут і пайшоў на сярэдзіну ракі. Пасярод ракі вада заняла яму па бруха; схаваліся ў вадзе колы. Боганчык стаяў на мяхах, выціраючыся рукавом — шмараваў па чорнай барадзе. Дайшоўшы да берага, жарабок стаў і, нагнуўшы галаву, зноў пачаў піць...

— Брод шукайце... Пасталі, як дурні... Не відзілі, што ўскочыў... Мяхі падмачыла... Куды цяпер з мокрым. Брод глядзіце...— Боганчык, сагнуўшыся, круціў галавой — азіраўся.

— На старую вольху чаму не браў? Не ведаў, дзе брод? — Махорка цяпер гаварыў да Боганчыка цераз раку, махаючы пугаўём.— Штаны мог скінуць і сам прайсці памераць... Баяўся ў вадзе памачыць...

Было відаць, як Боганчык пачаў тузаць жарабка за лейцы, не даючы піць.

— Апражэшся, падла!..— закрычаў ён немаведама на каго: на Махорку ці на жарабка.

Махорка, падкасаўшыся па калені, палез у раку, пайшоў наперадзе ў Сібірака, узяўшыся за аброць, наўскасяк на старую без верху вольху на тым беразе: мінаў яму, у якую ўскочыў з калясьмі Боганчык. Вада Махорку не дайшла да калень.

За Махоркам, выставіўшы белыя лыткі, павёў за грыву сваю кабылу Панок, не астаючыся ад воза. Азіраўся ўсё назад, баяўся, мусіць, што з'едуць мяхі.

— Што раты разявілі?.. Нянька трэба ўсю дарогу...— закамандаваў з ракі цяпер яму, Алёшу, Боганчык.

— Не кіпі... Астудзім. Вада халодная — пал як рукой здыме... — зноў схапіўся з ім Махорка.

— А ты што? Наняўся?.. Хопіць мяне падтыкаць усю дарогу...— Боганчык бубніў з ракі, як адкуль з ямы.— Я вам не Янук. Янука ўссадзілі на калёсы, дык яму... усё роўна, ці ў камендатуру, ці на могілкі пад Сушкава... А мяне ў пятлю не ўсадзіце... Не-е... Усё вёску бароніце... Баечкі ўсё гэта... С...ку падцёрці... Будзе з намі, што з Людвіновам... Не відзілі? Стаялі, вочы патарашчыўшы... Шчасце, што ў немцаў бельмы павылазілі — не згледзелі. Ад гэтых то мая паперка вас бы не закрыла...

— Кіне ён ці не... сквярціся са сваёй паперкай?.. Што гэта чалавек надумаў сабе?.. Ці сціхне ён ад маёй галавы?.. Усю дарогу... Адно і тое... Адно і тое... Астыў ужо. І пашчэнкі не баляць. Мала лупіў немец...

На Боганчыка правілася Наста.

— Ды ён... сама, баба, знаеш...— Мірон махаў рукамі пасярод ракі.— Жыта намачыў... Скуру сваю памачыў, каб не загарэлася...— Пасля ён загаварыў, аж заікаючыся, як Панок: — А вёска сух-хая, ты гэта ведаеш!..

— Не-е... Я вам не нябожчык, што вы мяне павезяцё на якія захочаце могілкі...— Боганчык, здалося, пацішэў. Учапіўшыся за падсядзёлак на спіне ў жарабка, ён ішоў па аглабні, каб скочыць на бераг: баяўся абмачыцца.— Каму яно, мокрае, здалося? Немцам?.. Яно ім і сухое так было трэба, калі яны ўсю вёску паліць былі сагналі... Байкі! Ямы ім трэба было, каб людзі адкрылі... Пуста ў вёсцы, хоць шаром пакаці...

— Дык, можа, і мне абярнуць воз у раку? Можа, і ўсім? — Махорка, нагнуўшыся, засіліў жменяй вады і плюхнуў сабе на шчокі: паласкаў. Лоб і шчокі ў яго былі аж чырвоныя.— Герой... Ён адзін немцаў збіраецца

голадам марыць... Мы толькі кормім... Но-о...— як былі ў Махоркі ў руках пуга з лейцамі, так ёп і сцебануў каню па спіне: і пугай і лейцамі... Пасля, адвярнуўшыся, крыкнуў яму, Алёшу: — Заснуў на беразе? Наста павядзе Таніну кабылу... За Панам... А ты пускай каня аднаго за Януком. Сам — на Буланчыка і пугай пад хвост. Ацямнеем у рацэ. І вярніце за мной. На сухую альшэвіну... Там беражніца ніжэй. Боганчык з ямы ніяк не вылезе. Зямлю зрываць трэба... Но-о...

Маленькі гняды Сібірак яго кідаўся ў бакі, было чуваць, як трашчаць аглобні.

— І не стойце ў рацэ... З берага паіце... Колы пасярэдзіне заносіць... Пясок гоніць... Не выедзеце... Паглядай, Пан, на Таню. Дзяўчына высака ляжыць на возе...

Махорка сціх, упёршыся рукамі ў мяхі — падпіхаў.

Алёша хацеў прывязаць каня за Януковы калёсы, за ляжэйку, але яму, адвярнуўшыся, махаў рукой Янук, паказваючы на яго, Алёшавага, каня. Алёша здагадаўся: конь пойдзе сам, не баіцца вады — старыя людзі коней у вёсцы зналі.

Калі Алёша сеў на Насціных калёсах на мяхі, Наста ішла ўжо берагам у раку, ведучы Таніну кабылу: учапілася адной рукой за аброць, другой падняла высака спадніцу — вышэй калень. Было відаць, як на возе, раскінуўшы рукі, мусіць, узяўшыся за ляжэйкі, калышацца разам з мяхамі Таня і падымае галаву ўверх: глядзіць, што робіцца на тым беразе.

Янук пагнаў каня, і Алёша, згледзеўшы, як адразу крануліся з месца Януковы калёсы, тузануў за лейцы: здалося, астанецца адзін на беразе. Буланчык сыпануў жвіру аж на мяхі, адсеў узад, і Алёша, сціснуўшы ў жмені лейцы, стаў круціць імі ўгары, як круціў кожны раз на свайго каня, калі той наравіўся.

За ракой, на тым беразе, раптам падняўся ўгару пыл, белы, як ад попелу, якраз проці Боганчыка. Тады там ударыла па зямлі, што скінутае з пня дрэва...

Ці-іў...— засвісцела ценка над галавой і сцебанула па альшэўніку на тым баку ракі ўсё роўна як пугай.

— Янука пераймíце! — загаманіла ў рацэ Наста; пасля крычаў Махорка, цяжка было разабраць — што.

Алёша ўбачыў, як скочыў з месца Янукоў белы конь, мінуў Таніны калёсы і панёс Янука ў раку, туды, дзе быў ехаў Боганчык. Зглядзеў пасля толькі, што Янук падняўся на возе на калені.

— Янука... Янука пераймiце!..— крычала ў рацэ Наста.

— Раз'язджайцеся, не стойце. На той бок... На той бок...— камандаваў Махорка.

Янука з калясьмi не было вiдаць з-за беражнiцы. Алёша ўбачыў цяпер, як выехаў на той бераг з возам Боганчык i, седзячы на мяхах, гнаў свайго жарабка дарогай, недзе туды, дзе падняўся быў на полi белы пыл. Пасля згледзеў, што Махорка завярнуў у альшэўнiк каня i бег назад да ракi.

Другi раз бухнула ў самай рацэ, злева, недалёка ад iх, ядрана, з трэскам, аж зазвiнела ўвушшу. У тым месцы паднялася ўгару вада, як слуп.

«Немцы згледзелi...» — падумаў Алёша i ўбачыў, што вывернуцца набок калёсы i сунуцца на ляжэйкi мяхi. Ён выпусцiў з рук лейцы i злавiў ляжэйку; Буланчык, акруцiўшыся, скакаў у аглоблях навыцяжку ў той бок, адкуль яны ехалi, пад сады.

Калi затрашчала пад калясьмi жэрдзе, Алёша падумаў, што Буланчык абвярнуў нечы плот, i ўбачыў, што мiнуў малочную i едзе аселiцай...

Белыя печы былi зусiм блiзка, за гародамi. Запахла гарэлай сажай...

Ззаду ў рацэ крычала яшчэ Наста. За альшэўнiкам, у тым баку, дзе зайшло сонца, стралялi з кулямёта, доўга i часта... Мусiць, немцы згледзелi iх з шашы.

Здалося — гэта пад iм, Алёшам, тарахцяць, рассыпаючыся, калёсы.

Белыя печы зблiзку былi цёмныя...

## 7

Алёша ўспомнiў пасля, што Юзюк i прывёз тады Вандзю ў вёску на згон зiмы, калi яны паставiлi качэлi i «Жалязняк» браў гарнiзон у Даўгынаве. Алёша яе доўга не спатыкаў у вёсцы; чуў, што яе з маткай партызаны паставiлi да Петрусiхi ў хату, але на двары ў Петрусiхi нiколi чужых не бачыў. Юзюк расказваў, што ноччу конь, на якiм ехала Вандзя з маткай, стаў сам ля Петрусiхi — партызаны i паказалi на яе хату.

Вандзя прыйшла з Таняй ад Палянскiх да iх на качэлi праз тыдзень. Пералезла першая цераз плот ад вулiцы i пабегла гародам пад прызбу. Алёша бачыў з двара ад варыўнi праз старыя вароты, як яна адразу падкiнула ру-

кой пустую лавачку вышэй страхі. Пасля злавіла ў дзве рукі, ускочыла на яе і пачала падбіваць нагамі, памалу, азіраючыся ў бакі і гледзячы ўверх, што баялася ўсё роўна. Яна была ў белай сукенцы да калень і сівым, зробленым з воўны свэтары ў крывую палоску, якія насілі і ў іхняй вёсцы. Валасы ў Вандзі, здалося, былі русыя, пасля Алёша падумаў, што яны бялейшыя, падобныя на лён у ручайцы. Яна запляла іх у доўгую і тоўстую, як узяць у руку, касу і закінула за плечы. Каса падскоквала ў яе на спіне, калі Вандзя падбівала нагамі лавачку, і ляцела пасля ззаду за ёй, што доўгі хвост за вялікай стракозой на лагу ля ракі. Твар у Вандзі быў круглы і таўставаты ў шчоках, белыя зубы, калі яна смяялася, былі відаць здалёку. Вочы, шэрыя і чыстыя, блішчалі, што ў дзіцяці.

Алёша не бачыў ніколі такой зграбнай дзеўчынёхі — у іхняй вёсцы не было. Успомніў, гледзячы на яе, як Юзюк гаварыў дома ў хаце, што прывёз Вандзю з Палянь, бо яе з маткай павінны былі забіць паліцаі. І цяпер, калі Вандзя вернецца дамоў, за раку ў Паляне, яе застрэляць...

Алёша падумаў зноў, што Вандзя прыгожая, і не верыў нават Юзюку: як гэта такую могуць застрэліць паліцаі з Даўгынава?..

На качэлях першы дзень яна доўга не была. Папрасіла ні з таго ні з сяго Таню, каб тая злавіла рукамі лавачку; скокнула на зямлю ў маленькіх чорных і стаптаных чаравічках, што каза ў збітых аб зямлю капытах; страсла з прыпала пясок і адышлася пад прызбу. Клікнула пасля Таню, і яны пабеглі з двара адна за адной.

Доўга пасля яе калыхалася яшчэ лавачка...

Вандзя да іх больш не хадзіла аж да лета.

Была якраз нядзеля, хмурная з самай раніцы, калі Вандзя прыйшла да іх другі раз. Прыйшла сама, без Тані. Бегла некуды вуліцай, згледзела яго, Алёшу, у гародзе пад прызбай і пералезла цераз плот з вуліцы, як вясной. У той жа сукенцы, без свэтара; каса ў яе была, як і перш, за плячыма.

— А бульбы табе не шкода? Аж чатыры гранкі здраталі праз качэлі...— спыталася яна, што стары чалавек, стаўшы воддаль на пярэчцы ля хаты ў стаптаным бульбеўніку.

Алёша нічога не сказаў; паглядзеў быў на яе і азірнуўся на варотцы ля варыўні. У хаце заплакалі блізняты і запела маці.

— А я не пусціла б нікога ў гарод... Бульбу таптаць попусту...— сказала яна, памаўчала, тады спыталася, неяк знянацку: — А можна... я пакалышуся?

Ён зноў нічога не сказаў.

Тады Вандзя падышла да яго, да прызбы, дзе ён сядзеў, нагнулася над ім — ён бачыў, як белая сукянёшка схавала яе калені,— і зноў загаварыла: ані шманала нават, што ён маўчыць.

— А ў вас пад хатай хрэн парос. Лісце якое... І ў бульбе ў гранках расце. І канаторжнік пашалеў, і жычка з дзядамі... А вунь, у хрэне, куры нясуцца,— паказала яна пальцам на вугал пад хату і засмяялася. Памаўчала была зноў, пакруціла галавой, як шукаючы яшчэ чаго, тады павярнулася да вуліцы, да гародчыка.— Бэз ужо ў вас адцвіў. Адны дробненькія дудачкі асталіся. У вас многа бэзу ля хаты. І ў нас было многа бэзу ля хаты. Але хату нашу спалілі паліцаі. Прыехалі назаўтра і спалілі, як мы сюды ўцяклі, за раку. І бэз пагарэў. Не цвіў сёлета, маці хадзіла і відзіла...

— І маці не злавілі? — раптам спытаўся ён, падумаўшы пасля, што не ведае, як гэта ён узяў і спытаўся: зляцела з языка.

— Не-е...— пакруціла яна галавой.— Маці не баіцца. І я не баюся. Вазьму і схаджу дамоў. Я знаю, што паліцаі і мяне заб'юць, калі зловяць, а я не баюся... А ў вас і рабіна ў гародчыку ля плота расце. Ягады зялёныя яшчэ, пабурэлі толькі. А зімой яны смачныя, і іх клююць сарокі. Лятуць аж пад хату і сакочуць у гародчыку, што куры. І ў нас была рабіна, і на яе прылятлі сарокі. А курэй нашых усіх пабілі паліцаі, мама казала... А ў нас былі белыя куры. Усе да адной. І певень белы, вялікі і белы. Калі ішоў дождж, ён цягаў свой доўгі хвост па зямлі...— яна зарагатала.— Апусціць і цягне па мокрай траве...— Падумала была нечага, тады зноў сказала: — І ў нас нясліся куры пад хатай у траве. І певень іх вадзіў пад прызбу з хлева раніцай. А можа, маці маніла? Можа, куры жывыя, не пабілі іх паліцаі? Жывы-ыя... Жывы-ыя...— яна раптам узрадавалася.— І нясуцца недзе ў крапіве. І певень іх водзіць туды кожную раніцу. Мала што хата згарэла... А я схаджу і пагляджу сама. Я знаю, дзе наш дом. Трэба ісці на Сушкава, а там лесам, за раку. Нас вязлі ноччу, але я знаю. Схаджу і пагляджу. І ўсіх у вёсцы пагляджу, мала што паліцаі спалілі хату.— Яна азірнулася на вуліцу, усё роўна як баялася, што яе пачуюць, і сказала ці-

шэй: — Трэба ісці на Сушкава і ў чэцвер... У чэцвер у Даўгынава будуць ісці людзі на базар...

Цяпер Алёша не мог сказаць і слова: гэтулькі многа яна гаварыла. Нагнулася зусім над ім: вочы ў яе былі шэрыя і бліскучыя і стаялі на адным месцы, калі глядзелі на яго. Яму хацелася сказаць, каб яна не ішла дамоў у Паляне, бо яе ж заб'юць паліцаі. За брата. Зловяць і заб'юць... Яны спалілі хату, заб'юць і яе. Але яна гаварыла і гаварыла без аддухі, і ён маўчаў.

Пасля яна адышлася і апёрлася плячыма на слуп.

— А я ўсё роўна пакалышуся...— сказала — і адразу як падмяніў яе хто. Ускочыла на лавачку, схапіўшыся рукамі за палкі, і крыкнула на ўвесь гарод, Алёша аж спужаўся: — А ты падбі мяне!.. Пакуль адна раскалышуся...

Калі высака, уровень са страхой падлятала лавачка, у зямлі краталіся слупы. Між зямлёй і слупамі былі ўжо ладныя ямкі, і туды сыпаўся перацёрты нагамі сухі пясок. Вось уверсе ў слупах была падмазана старым сухім дзёгцем, і цяпер, разагрэты і развэдзганы, ён цёк па слупе — пісяга была ўжо нізка ля зямлі: ля самай лавачкі...

— Сукенку глядзі!.. Запэцкаеш... Не падбівай!..— паказаў ёй рукой на слуп Алёша.

— Хэ-хэ-хэ...— яна засмяялася моцна, недзе было чуваць аж у хаце, і закруціла галавой. Каса зляцела ў яе з плячэй і сцёбнула па слупе.— А я не баюся... І ўдваіх калыхацца не баюся... А ты маўчаў. Не хацеў мяне пускаць... Сазнайся... А на лавачцы можна стаць і ўдваіх. З аднаго і з другога боку. Удваіх лягчэй падбіваць...

Яна згінала ногі ў каленях, аж прысядаючы, і пасля з усёй сілы падбівала лавачку, падлятаючы вышэй страхі. Краталіся ў зямлі слупы і падпоры, здавалася, выскачаць, і на Вандзю было боязна глядзець. А яна не сціхала:

— А я не баюся... І дамоў схаджу, не баюся. Гэта ты баішся... І немцаў я не баюся, а ты баішся... А мой брат цяпер партызан... І яго заб'юць паліцаі, калі зловяць. А яны яго не зловяць... І мяне не зловяць. І ты мяне цяпер не зловіш...— яна зноў памаўчала была.— А гэта праўда, што нам трэба было ўцякаць, калі брат перайшоў у партызаны? А я не хацела ехаць з дому...

Летучы разам з лавачкай, яна гнала перад сабой вецер, і Алёша пачуў, як яму робіцца холадна. Ён бачыў,

як вецер задзірае Вандзіну белую сукенку вышэй калень, і не мог тады глядзець на Вандзю... А яна, прыціхшы, усё падбівала нагамі.

Алёша тады закрычаў. Пачуў пасля, як ззаду стукае нехта ў шыбіну з хаты. Аглянуўся — апёршыся на падаконнік, ля акна стаяла маці і трасла пальцам.

Ён зноў тады закрычаў, не могучы злавіць лавачкі і не ведаючы, што рабіць...

— Ба-іщся...— смяялася Вандзя.— Я-ткі знала...

Тады Алёша падумаў, што Вандзя можа зваліцца на каменне, якое ляжыць пад прызбай пад варыўнёй; можа зляцець і на плот ад вуліцы, якраз туды, дзе пралазяць і дзе выбіта нагамі бульба па пярэчцы...

— Паляціш!.. — ён падскочыў да слупа і хацеў зноў злавіць лавачку. Яму ўдарыла па руцэ ля костачак і счасала скуру...

Махнулася ў акне маці — пайшла на двор — з хаты ўсё відаць...

— Баі-ішся!..— засмяялася зноў Вандзя, адкінуўшы галаву. Каса з-за плеч пераляцела ёй на грудзі і акруцілася ля шыі. Ён згледзеў пасля, як Вандзя, летучы ад вуліцы, ад плота назад да варыўні, аж прысеўшы на лаўчацы, падбіла яшчэ нагамі, як на край варыўні, над страхой, з-за якой тырчаў асвер, узляцела ракета і павісла ўгары. Чырвоная і яркая, яна доўга стаяла ў хмурным небе, тады стала ападаць, як пераваліўшыся цераз што, і рассыпалася над варыўнёй на іскры. Яму здалося, што сцебанулі нечым калючым па веках...

Тады за гумнамі, на Карчаваткі, зайшоўся кулямёт, доўга і несціхана. Калі ён быў сціх, захлопалі стрэлы, часта, адзін за адным, як хто кідаў з вуліцы каменнем па варыўні па страсе.

— Дзеці... Марш дамоў... Знайшлі гулі...— загаварыла на двары маці, азіраючыся на вуліцу.— І нікуды не адыходзіцца ад вуглоў...— папраўляючы на галаве хустку, маці вярнулася ў сеначкі. За варыўнёй на Карчаватках аціхла, пасля там зноў пачалі страляць.

«Немцы ідуць з Даўгынава...— падумаў Алёша.— Праз Вілію...»

Калі ён глянуў пад прызбу на пярэчку, убачыў, што ў бульбеўніку ля варыўні ля каменя сядзіць на каленях Вандзя. Адвярнулася ад яго, глядзіць праз плот на лог, папраўляючы ў дзве рукі касу. Маўчыць, кратаючы ўсё плячыма...

Ён здагадаўся, што яна звалілася на каменне, і падбег да яе.

На рог варыўні, на шэрыя і халодныя воблакі зноў выскачыла з-за лесу ракета. Зялёная і цьмяная, яна не даляцела ўгару да асвера і патухла над самай страхой... Тады адразу перасталі страляць.

Калі Алёша апёрся на локці на мяхах, убачыў, што цёмна і што яны стаяць у лесе.

Балела рука ля костачкі — ссунулася на ляжэйку, і ён адціснуў яе пад галавой. Ён пачуў, як гавораць недзе наперадзе мужчыны.

— Дзе гэта магло быць? — пытаўся ў некага Панок.

— Недзе на шашы... Відзіш, правей ад імшары, якраз на прагале...

— Чорт яго, Мірон, знае... І Тартак у тым баку...— гэта зноў гаварыў Панок.

— Тартак лявей, ты што?.. Вунь, дзе месяц узышоў, там Тартак...

— А ракеты якраз там і былі... Едзем... у божы свет... А раптам н-немцы?..— Панок пачаў заікацца.

— А можа, і не ракеты. У вас ужо ў каторага ў вачах.

— Ды не-е, Наста... Яшчэ не паслеплі. Хто гэта храпе там ззаду на ўвесь лес?

— Хлапец хроп... Не злазіць з воза...

— Спіць усю дарогу... Во сон напаў. Глядзі, баба, воўкі з'ядуць у лесе... Вінавата будзеш... — Махорка быў засмяяўся...

— Спіхні, Мірон...— азвалася Наста.— А дзе Іван?

— Наперадзе. Вунь ля жарабка на дарозе.

— Кліч сюды. Чаго стаіш?..

— Яно, Наста, само сталася! І ў Боганчыка і ў нас. Суньея лесам чорту ў зубы. Ноч. Ракеты не дзеці пускаюць. Не сходзіш жа, не паглядзіш? Не стралялі, не было чуваць?

— Я не чула. І так ад стрэлу за дзень галаву адбіла... І калёсы барабаняць...

Пасля Наста кліккнула Боганчыка. Той адразу азваўся — быў блізка наперадзе — ішоў да іх. Падышоўшы, паказаў рукой на прагал у лесе:

— Ракеты. Аж дзве. Відзілі? На шашы недзе...

На дарозе стала ціха, хроп толькі ўперадзе Махоркаў Сібірак — сышоў з дарогі і скуб з-пад ног траву.

Алёша ўбачыў, што ўперадзе над дарогай, якраз ля

прагалу, за лесам узышоў месяц-поўня. Свяціў двума крывымі круглымі краямі, мусіць, з-за дрэва. Недзе ў тым баку за ім дрыжала ад агню неба, як ад далёкай бліскавіцы.

Алёша падумаў, што быў заснуў ля Завішына, калі пераехалі раку.

Спаў і не бачыў ракет.

Нізка, над самымі калясьмі праляцеў кажан, шапочучы крыллем.

Усхадзіўся быў вецер, падзьмуў дарогай, адагнаў машкару, што ўсмоль лезла ў вочы, і зноў сціх.

Дарогу ззаду, адкуль яны ехалі, схаваў туман, падпоўз аж да самых вазоў, заслаўшы, як палатном, прагал у лесе.

Над прагалам дрыжала не сціхаючы неба. Ля месяца над самым лесам яно было жоўтае; вышэй стаяў вялікі белы круг: на вецер і на безгалоўе.

Лезла ў вочы машкара, ліпла на шчокі, заядала. Калі Алёша павёў рукой па нагах, пачуў, што рукі былі мокрыя. Падумаў, што галёнкі недзе ўсе ў крыві...

Тады Алёша згледзеў, як яго конь стаў мінаць Януковы калёсы — зафорскаў і, нагнуўшы галаву, даставаў сухую траву з канавы ля дарогі. Ззаду пайшоў Буланчык.

— То чаго чакаць, мужчыны?

— Хай хоць трохі адсапнуцца коні, Наста... Думаеш, яны не галодныя?

— Віднець скора пачне, Мірон. Не справімся. Ты знаеш, што ты гаворыш!..

— У лесе, Наста, лягчэйшая дарога. А коні пілі ў рацэ. Пасля вады конь слабне. Пастануць, тады... А назад улегцы, пагонім...

— Машка заядае... Каму б гэта прыйшло ў галаву ўзяць з дому пасцілку на ногі.

— Асталіся жыць, Наста. Машка не страх цяпер.

— Аста-лі-іся... З вёскі выпусцілі, дык у рацэ пабілі б... Як гэта нікога не зачапіла...

— Бог яшчэ ёсць...

— Адапні, Пан, лепш каня... Бо-ог... — перадражніў яго Махорка.— Ты, Іван, што маўчыш?

— Пайду і я адапну жарабка. Коні, як і людзі, есці хочуць...

Алёша тады падумаў, што яму вунь як хочацца есці. Не помніць добра, калі еў. Мусіць, учора вечарам у Карчаватках...

— Ведаеш, Наста,— зноў загаварыў Махорка, бразгаючы ў кішэні крэсівам,— думаў, мусіць, закурыць.— Калі ехаць, то толькі лесам. На Тартак... Зблізку немцаў я не баюся. А на шашы як секануць здалёку. Ноч. Насунемся знянацку. А ў лесе ноччу яны сядзець не будуць...

— А калі парцізаны...

— Ты ўжо, Наста, і парцізан баішся...

— О-ха-ха... Парцізаны, парцізаны...

— А што б яны памаглі? Вёска ў ваўка ў зубах. Не вырвеш.

— Парцізанам лягчэй. У іх, калі што, ёсць чым бараніцца...

— Цяжка, Наста, і парцізанам. Відзіла, колькі на Дзвінасу машын пёрла?..

— Сама, Мірон, знаю. Калі ж усярэдзіне ўсё трасецца. Дзеці дома...

Махорка ёй цяпер нічога не сказаў; змоўкла пасля і Наста.

Тады Алёша ўбачыў, што мужчыны сцішыліся і слухаюць, пастаўшы ля Януковага воза.

Гудзела недзе ў канцы прагалу над Тартаком, дзе цьмяна свяціла з-за лесу поўня.

Гудзела глуха і густа, як усё роўна шумеў ад ветру за імшарай лес.

Пасля Алёшу здалося, што гудзе пад зямлёй і яна дрыжыць пад калясьмі, пад нагамі ў людзей і ў коней... Ён убачыў, як вярнуўся да Януковых калёс спераду Боганчык, як Панок нагнуўся нечага над Януком, які ляжаў ніц на мяхах.

Тады Алёша саскочыў на дарогу. Калолася ў босыя ногі — на дарозе былі сухі мох і дробненькія патрэсканыя сасновыя шышкі.

Над прагалам у лесе пасвятлела — падняўся вышэй месяц, і Алёша бачыў, што мужчыны стаяць, задзёршы галовы.

Угары, у зацягнутым чорнымі палосамі небе, ішлі самалёты. Ішлі з Тартака. Іх недзе было многа, бо ўгары стаяў цяжкі гул, што ад грому. Ад яго, здавалася, звінелі і лес, і дарога, і ўся зямля. Пасля гул зрабіўся глухі і працяжны, аціхаў далёка ўгары, і здавалася, што неба ад яго стала высокае-высокае...

Самалёты ляцелі на Дальву, у той бок, дзе на небе за лесам яшчэ стаяла зялёная зара... Доўга ў тым баку стагнала зямля.

Алёша пачуў, як яго хапілі дрыжыкі, не лучаў зуб на зуб. Ён прыціснуўся плячыма да меха на Януковых калёсах і зашпіліў аж уверх замочак у рубашцы.

Мужчыны доўга маўчалі ля калёс, гледзячы ў неба і круцячы галовамі ўслед за самалётамі...

— Нашы...— сказаў тады ціха Махорка.— Бамбіць лётаюць ноччы. Аж у Германію.

Усе былі закраталіся ля калёс, але маўчалі. Закашляў Панок і закрактаў, узлазячы на воз. Тады, апёршыся локцямі на Янукоў воз на ляжэйку, Боганчык засіпеў, гледзячы на дарогу ў туман:

— На-шы... Такія, як вунь ля Леснікоў былі... Забыліся... І агнёў панакладалі, чакаючы... Як скінулі цацку, аж стрэхі пазрывала. Акруціліся і яшчэ раз скінулі. Гэтыя каб скінулі...

— О-хо-хо... Што там дома...— забедавала Наста, завязваючы хустку, і Боганчык сціх. Завярнуўся пасля і пайшоў у альшэўнік.— І Буланчык мой не есць, апусціў галаву... О-хо-хо... Што там робяць дзеці?

— Не адыходзься далёка...— крыкнуў услед Боганчыку Махорка.— Вайна не вайна, а ў кусты ганяе, не глядзіць на немцаў...

— Ты, Мірон, свайго і перад бядой не кідаеш...

— Мы яшчэ пажывём, Наста...

— Пажывё-ём...

Яны памаўчалі.

— Будзем кратацца, Іван. Адзін ад аднаго не ад'язджацца. Хай коні ідуць за калясьмі. І ты свайго жарабка не пры надта. А то — не дагнаць...— зноў загаварыў Махорка.

— Можаш заязджаць наперад...— буркнуў Боганчык, вылазячы з кустоў.

— Не глядзі зверам, Іван. Ноч на дварэ. І ты гэта знаеш...— гаварыў і махаў пугаўём Махорка.— Ехаць будзем ціха. Калі што якое — не сядзець на калёсах. За дзяцьмі Наста будзе глядзець. Янук хай спіць... З яго драбін не вываліцца. І Таня добра што заснула. Мэнчыцца з балючай нагой...

Алёша пайшоў назад за Настай — яна памалу-памалу, як нямогучы, перастаўляла ногі. Завярнулі на дарогу коней. Пасля, сеўшы на мяхі, пад'ехалі адзін за адным да Януковых калёс.

— Усе там, ззаду? — загаманіў моцна Махорка.— Не аставацца...

Прагалам пайшлі адгалоскі.

— Не спі, сын...— Алёша пачуў, як яго клікнула Наста, і падумаў, што яму вунь як хочацца спаць. Не слухаць ні рукі, ні ногі — нават языком не кранеш.

Конь, ідучы, усё яшчэ скуб траву ля дарогі, і Алёша падумаў, што хочацца есці, не праходзіць голад.

Яны праехалі дарогай — уехалі ў самы прагал і зноў сталі. Боганчыка зусім схаваў з вачэй туман, і невядома было, што робіцца ўперадзе. Зноў злезла з воза Наста — ішла да яго, Алёшавых, калёс, кінуўшы аднаго Буланчыка.

— Зноў наперадзе нешта, сын...— зашаптала яна.— Так бы не сталі. Не спі, глядзі... Помні, што я сказала...

Тады Насту клікнулі, Махорка, мусіць.

— Нехта стогне там, уперадзе... Не спі, сын...— Яна кінула ў яго на возе на мяхах дубец, якім паганяла яшчэ ля ракі Буланчыка, калі той не хацеў ісці ў ваду, і пакраталася наперад, мінаючы Януковы калёсы. Янук замычаў, мусіць, спрасоння, лежачы на мяхах, і зноў стала ціха, нават не храплі коні. Было чуваць, як ідзе дарогай Наста: дуг, дуг. Калі Наста схавалася за Танінымі калясьмі, Алёшу хапіла стужа. Ён ссунуўся з мяхоў на дарогу і дагнаў Насту ўжо ля Махоркавых калёс. Махоркі на возе не было, не было і ля каня. Не відаць было нідзе і Боганчыка.

Ужо ля Боганчыкавых калёс Алёша згледзеў, як, сышоўшы з дарогі, у прагале стаяць мужчыны. Двое — Махорка з Боганчыкам. Панок быў ззаду, воддаль — прыхінуўся да сасны, як прыкарэў.

Яны падышлі з Настай да Панка.

— Скажы ты...— загаварыў Махорка да Насты, сціха, як шаптаў.— Не магло ж нам здацца. І мне і Івану... Чалавек стогне.

— Дзе чалавек? — Наста зайшла ім наперад і, натапырыўшыся, глядзела ў прагал.

— Ды тут недзе недалёка...— паказаў Махорка рукой, усё роўна што сабе пад ногі.— Я ўжо і клікаў... Стагнаў быў, пасля сціх.

— І я, Наста, чуў. Аж з калёс, едучы,— кашлянуў Панок.

— Які тут у чорта чалавек... Маюць жа вушы...— загаманіў быў моцна Боганчык.

— Ціш... Сам жа чуў... — шыкнуў на яго Махорка.

— Што вы ўсё шыкаеце... Стогне, стогне... Дзяўчына

на возе стогне. Ехаць трэба, калі што думаем. Ну і людзі...

— Адыдзі...— Махорка махнуў быў на Боганчыка рукой.

Усе тады як ураслі ў зямлю.

Нічога не было чуваць.

Выплыў з-за лесу месяц і вісеў цяпер ля цёмнай, што конь з нагамі і галавой, хмары. Павіднела. У тумане была знаць уперадзе дарога — ішла прагалам — і было відаць, як на моху ля ног ляжаць леташнія белыя сасновыя шышкі.

Пасля далёка ў прагале, на балоце, мусіць, закрычала патрывожаная кнігаўка. Кнігавак, відаць, было многа, бо адна не спраўлялася б так часта крычаць. Турчалі жабы, моцна, на ўвесь лес — аж ішлі адгалоскі...

Алёша доўга глядзеў у прагал — у вачах ужо зрабілася аж два месяцы: адзін адбягаўся ад другога і каціўся па небе да самага лесу.

На зямлю, на голую дарогу, ад сосен падаў цень, шырокі, разгаты, і ляжаў, як на чыстым абрусе.

Алёша пачуў, што холадна ў ногі. Пасля стала холадна за плячыма.

— Паедзем... Дзяўчына на возе стогне. Агнём бы яно ўсё пайшло ад маёй галавы...— вылаяўся быў Боганчык і ступіў да Махоркі — невядома чаго.

— Што затросся, як спаліржаваны? А калі чалавек там? — крутнуўся да яго Махорка.

— Чалаве-е-к...— перадражніў Махорку Боганчык.

— Дык што? Мінаць чалавека? Чалавека я ніколі не мінаў...— Махорка адразу тады ўзлаваўся... Лапаў за кішэні ў штанах, як чаго там не знаходзячы.

— Не мінаў... А дзе дзенеш, падабраўшы? Хоць тата з таго свету — дзе дзенеш? Сваіх поўныя калёсы. І хворых і здаровых. Стогнуць. Дзяўчына вун...

— Віш, бацька знайшоўся. Горлам браць... Не крычы. Чалавек стогне. У сасонніку, мусіць,— паказаў Махорка раптам зноў рукой у прагал.

— Ну і чорт з ім, хто дзе цяпер стогне. Зямля ўся стогне. Усіх не наслухаешся. У нас свае, вун... Вёска цэлая стогне...

— Ціш...— махнуў на яго рукой Махорка.

Тады Алёша пачуў, як збоку ля іх, на прагале ў соснiку, нехта стагнаў. Пасля закашляўся Панок, і зноў нічога не было чуваць.

Калі яны прыйшлі за Махоркам у соснік, Алёшу зда-

лося, што ў высокай белай мятліцы ляжыць, выцягнуўшы ногі, конь — чорны, задам да іх. Конь быў адразу застагнаў, тады пачаў храпці недзе пад сябе ў густую траву... Здавалася, нават не пачуў, як падышлі людзі...

— Ло-ось...— загаманіў Махорка.— Ідзіце бліжэй... Са спіны толькі... Ля ног не стойце... Не стойце... Ён нагой аглабню сячэ. Адступіся, хлапец, не лезь усмоль. Чаго ты тут? Сядзеў бы на калёсах. Пазбягаліся ўсе...

Алёша тады адышоўся ад Махоркі і стаў ззаду за Настай.

Махорка ступіў да лася, нагнуўся і глядзеў недзе ў траву, дзе кашляў лось...

Лось быў кароткі і тоўсты, але здаваўся вялікім — каб устаў, зраўняўся б з Буланчыкам. У яго была шырокая і кароткая шыя, і на ёй расла маленькая грыва. Галава ў лася была доўгая, вузкая, з гарбом ля храп і з вялікім бліскучым вокам, якое глядзела некуды ўверх — на месяц. Ніжняя губа ў яго абвісла, як мокрая ануча; вушы, круглыя і шыракаватыя, што ў каровы, натапырыліся і стаялі.

Лось быў не чорны, як здалося спачатку. Толькі па спіне ў яго ішла чорная паласа, вузкая, на руку; ногі і галава ў яго былі бурыя, а сам ён увесь цяпер, зблізку, здаваўся шэрым і бліскучым, бы ўсё роўна ў расе... Можа, што на яго свяціў месяц...

Рогі Алёша згледзеў пасля ўжо: яны, чорныя і вялікія, што саначкі, ляжалі ў белай траве, усё роўна як асобна ад галавы. Краталіся разам з галавой толькі, калі лось кашляў, і тадыаралі зямлю...

— Падбілі...— зноў загаманіў на ўвесь соснік Махорка.— Уся шыя пасечана... Аж мяса павыпірала... Крыві пад ім чорная лужына ў траве. І з храп кроў цячэ. Не падыходзьце... Падурнелі?.. Адступіцеся!..

Лось захроп і пачаў круціць галавой... Угару з-пад рагоў паляцела зямля. Пасля сцішыўся і стаў часта дыхаць, ажно хадзіў у яго хадуном жывот.

— Не падыходзь, Наста! — крыкнуў цяпер Панок.

Мужчыны самі адышліся далей, і Панок пацягнуў Насту назад за руку.

Лось раптам падагнуў пад сябе пярэднія ногі, крутнуўся на бок, падняўшы галаву з рагамі, і ўстаў на заднія. Пярэднія ў яго былі цяпер сагнуты, і ён, дрыжучы, апіраўся на калені. Пастаяўшы на каленях, ён задзёр яшчэ вышэй галаву, паклаўшы на спіну рогі, што дзве шыро-

кія лапаты, і зарыкаў. Моцна, як толькі мог,— прагалам далёка пайшлі адгалоскі; балюча і жаласна, што карова, калі ад яе адсаджваюць цяля; пасля ціха, задыхаючыся і круцячы галавой у бакі... Тады раптам асеў, грукнуўшы грудзьмі на карэнне і ўдарыўшы пысай аб зямлю, і сціх, лежачы на жываце і на падкорчаных пярэдніх нагах.

Пасля ўсхапіўся зноў на заднія ногі і скочыў уперад, дзе не было людзей,— неяк піхнуў сябе аднымі заднімі нагамі, пярэднія ў яго былі сагнуты ў каленях і цягнуліся па зямлі, і адразу ўпаў на траву ў свежым месцы і стаў біць нагамі па зямлі. З-пад яго паляцеў мокры мох і дзёран, тады сыпанула шорсткім жвірам...

Пасля лось зноў стаў на заднія ногі і, ужо не могучы падняць ад зямлі пярэднія, пачаў круціцца на адным месцы, як ушчаміўшы ў што галаву. Абваліўшыся на зямлю, ён качаўся з боку на бок і страсаўся, як ад вады,— з-пад яго зноў паляцела зямля і пырскі ад крыві. Біў заднімі нагамі, рвучы з карэннем малады соснік і рыючы ля сябе яму. Ён ляжаў ужо на адным баку, не пераварочваючыся, і біў нагамі толькі ля сябе пад бокам... Памалу — ногі ў яго дрыжалі і выпросталіся, як ад сутаргі... Пасля ён зноў рвануўся з зямлі, хочучы ўстаць на ногі, і ссунуўся ў яму, якую вырыў нагамі збоку... Застагнаў ціха і цяжка, што чалавек.

Адразу стала ціха; не грукала зямля, і было чуваць, як у лася з рагоў сыплецца на траву жвір — шапоча — і кратаецца высокая белая мятліца ля задніх ног...

Мужчыны доўга маўчалі, стоячы, тады Махорка сказаў, нібы сам сабе:

— Во і смерць, Наста... Падбілі!.. Баі на Паліку пачаліся. З Паліка лось. Каля нас іх цяпер няма...

Пацямнела на прагале: на месяц насунулася краем чорная хмара — конь з нагамі і галавой, пашырэла, распаўзлася ў бакі.

Ля чорнага на зямлі лася відаць быў жоўты пясок, цьмяны, рассыпаны; здавалася, было чуваць, што пясок сыры і халодны. Запахла свежай зямлёй, як пахнуць дома ля лесу ямы, дзе хаваюць на зіму бульбу.

Алёшу схапілі дрыжыкі, ён пачуў, што яму холадна ўсяму і коле ў плечы; пасля пачуў, як у яго ляскаюць зубы.

Наста была ўзяла яго за руку.

...Калі яго на калёсах пачало кідаць з боку на бок і зноў сталі зліпацца вочы, яму здалося, што ён дома пад

хатай на качэлях. У бульбеўніку ля варыўні, седзячы на каленях, зарагатала Вандзя моцна, на ўвесь гарод. Яна нават не ўдарылася аб каменне — смяецца.

Калі ён адплюшчваў вочы і падымаў галаву, чуў, як глуха стукалі на карэнні калёсы.

## 8

Далёка ззаду, у тым баку, дзе яны мінулі прагал, зарыкаў лось, моцна, на ўвесь лес.

Апёршыся на локці, Панок усцягнуў на мяхі ногі.

Зноў зарыкаў ззаду лось, і Панок, натапырыўшыся, слухаў. Спаць не хацелася. Але калі ён слухаў, лася нідзе чуваць не было — ляскалі толькі калёсы і хроп конь.

Тады Панок падумаў, што лось недзе цяпер і не рыкаў, што рык стаіць у яго, Панка, у вушах усю дарогу: ці спіць, ці не спіць — яшчэ з Карчаватак, ад учарашняга.

...У Карчаватках раніцай ён баяўся класці агонь, хоць у Лазе стаяў туман, як дым. Сюды, у Карчаваткі, у Лазу, яны перайшлі ўчора вечарам, як сталі блізка ззаду страляць — мінулі кладкі і крыніцу ўсім канцом вёскі...

У яго, у Панка, дзеці спалі на стажар'і, якое ён зрабіў вечарам на купіне, насекшы і насцяліўшы высака, у калена, лазы,— спалі трое пад адным кажухом, накрыўшыся з галовамі... Чацвёрты, Ваня, быў у Веркі на руках, абкручаны вялікай пяньковай Верчынай хусткай разам з падушачкай — падушачка была падкладзена яму пад плечы. Мякчэй дзіцяці, і не так мярцвеюць калені — патрымай усю ноч, калышучы і баючыся, каб яно не нарабіла крыку... Панок сам браў хлапца ноччу на рукі, калі той плакаў: змаглася была Верка...

Верка сядзіць з краю на стажар'і з хлапцом на каленях, апусціла галаву, як спіць. На грудзях у яе адхінулася нажутка — з-пад нажуткі відаць бутэлечка з малаком, поўная, аж у рыльца, і соска. Жоўтая, вялікая, даваенная яшчэ; расцягнутая, з шырокай пракушанай дзіркай, яна тырчыць з-пад пахі, як палец...

Верка хавае бутэлечку пад пахай і ўдзень і ноччу: грэе малако.

Туман халодны, сыры, нават зблізку відаць, як ён вісіць угары над стажар'ем. Дыхаеш — здаецца, аж ліпка ад яго ўсярэдзіне, і пачынае тузаць кашаль. Панок тады прысядае і, схапіўшыся за лоб, сціскае рукой галаву...

Пасля падносіць другую руку — кулак — да рота, як рабіў ён кожны раз дома ў хаце, калі спалі дзеці і яго біў кашаль. Глянуўшы спадылба, бачыць, як натапырылася на стажар'і ля дзяцей Верка, падняла галаву і глядзіць то на яго, то на калені, на дзіця; пасля азіраецца ў бакі. Панок бачыць тады, як адыходзяцца ад іх людзі, ціснуцца ў лазу.

Кашаль б'е без сціханага, аж совае ў горла нечым вострым і сухім, што ражном; не дае дыхаць, душыць, пасля спірае ля горла, падняўшы ўсё з сярэдзіны... Робіцца цёмна ў вачах, і баліць, здаецца, расшчэпіцца, галава... Баляць плечы, высака ля шыі... Панку здаецца, што ён захліпаецца... Тады яму падварочвае пад грудзі, і ён адкрывае рот, нагнуўшыся ў рудую асаку.

Калі яго перастае тузаць, ён усё яшчэ сядзіць, прыгнуўшыся ў траве...

У Карчаватках ціха. З вёскі страляць перасталі, як развіднела. Узышло сонца. Далёка за лесам яно халоднае і чырвонае; ад яго чырванее на лазе і на траве раса. Там, дзе яно ўзышло, папоўз угару руды туман. Ён густы, і за ім хаваецца сонца; пасля яно выбягае і зноў коціцца над лесам у Дальву... Угары відаць краёк чыстага неба, і Панок думае, што будзе ўдзень горача...

Устаючы, ён бачыць, як растаптаў нагамі ценкі стары сасновы пень. З-пад ног скача машка, яе што насыпаў хто на траву, не баіцца і халоднай расы. Ступіш — з-пад нагі як пырскі ўсё роўна. Машка лезе ў рот; ён, Панок, мусіць, папярхнуўся быў, дыхнуўшы машкой, калі яго гэтак хапіў кашаль...

На крыніцы, адкуль яны вечарам прыйшлі сюды, у Лазу, турчэлі жабы, моцна, на ўсе Карчаваткі; пасля ціхлі, як давіліся. У ельніку ля лазы на сухастоіне каркала варона, моцна і дзяркатa; падлятала ўгару і зноў садзілася на доўгі выгнуты рагач. За лесам, мусіць, на загуменні ля Дальвы, кукарэкаў певень — хрыпата і рэдка.

У вочы ўсмоль лезлі камары, жоўтыя, худыя...

Бліснула сонца, здалося, што стала цёпла ў плечы... Запахла з-пад ног гразёю балота...

Панок агледзеў у багунніку ля гнілога белага бярозавага пня, дзе сушэй, чарнічнік. Чорных ягад яшчэ не было... Высокі пень пакляваў дзяцел, і на ягадніку ляжалі белыя камочкі гнілога дрэва.

Пень трэба будзе ўзяць на падпалку: сухі гніляк і бяроста стануць гарэць, як смаляк.

Ад крэсіва загарэўся цэр — ад першага разу, пасля затлеўся бярозавы гніляк, калі Панок скаціў на яго прычарнелы кавалак цэру, маленькі, з гарошыну.

Пасля Панок паклаў на бяросту жменьку сівога моху, што трымаў даўна ў руцэ — мох адышоў і зрабіўся вільготны,— і, прысеўшы, доўга дзьмуў у гніляк, прыціскаючы зверху пальцамі мох. Засіпела полымя. Запахла дымам, як ад яловых дроў, і смаллю: падгарэлі, мусіць, ад полымя на руцэ валасы...

Тады паклаў гніляк бліжэй да елкі і ўскінуў наверх сухіх яловых лапак і папараці...

Аднекуль дыхнула халодным ветрам; агонь лізнуў на зямлі зялёны мох; мох пачарнеў адразу. Прыгнала раптам туман, што з усяго балота. У лазе стала сіне і цёмна, людзі хадзілі, што ўсё роўна за павучыннем... Туман хаваў з вачэй стажар'е з дзяцьмі і Верку, слаўся пад ногі на траву і ягаднік. Было відаць нават, як раса ад туману кладзецца зверху на рукі, што халодны пыл... Чуваць было, як з лазы пачалі капаць кроплі вады ў балота, што ў раку...

Яловыя лапкі не браліся гарэць, і Панок, стаўшы на калені,— калені адразу зрабіліся мокрыя,— падзьмуў падыспад у бярозавы гніляк. Дым адагнала ўбок, і з-пад яго паказалася жоўтае полымя — дыхнула ў шчокі.

Тады Панок адагнуўся і ўгледзеў унізе ля купіны ў вадзе самога сябе. Вада шырака блішчала ў траве, як шкло, і ў яе было нацярушана ля самай купіны з краю сасновага рудога шылля. З-пад шылля з ціхай вады глядзеў на Панка чалавек з перагнутым носам і вялікімі вушамі. Высака на галаве ў яго, на самай патыліцы, ляжала кепка з пакамечаным брылем, і з-пад яго тырчалі сівыя валасы, аж белыя. Белыя валасы былі відаць і ля вушэй на скронях.

Мусіць, ссівеў ён ужо зусім за гэтыя дні, калі белыя валасы відаць з вады...

Ён пачуў, як бразнула вядром ззаду Верка — хадзіла даіць карову. Агляну ўшыся, убачыў, што дзіця ляжыць разам з усімі на стажар'і на падушачцы. Верка стаіць ля яго, нагнуўшыся. У адной руцэ ў яе вядро з малаком — знаць зверху на вядры белыя пырскі, у другой — саганок. Невялікі, чорны, у якім варылі дома зацірку на вячэру. Ён не згледзеў, калі Верка пайшла даіць карову, кінуўшы дзіця і нічога яму, Панку, не сказаўшы... Дзіця не спала ноччу, будзе доўга цяпер спаць, а Верка згатуе ячную за-

цірку на малацэ. Калі ўскіпіць малако, яна адліе ў бутэлечку і ў жбаночак малому, тады насыпле ў саганок мукі з белай крамнай наўлечкі. Зацірку зварыць на адным малацэ. Дома яны ніколі на адным малацэ заціркі не варылі, бялілі толькі малаком.

Ён пачуў, што яму хочацца есці, і падумаў, што не лезуць у рот сухары і ад іх яшчэ горшы кашаль.

Ціха замычэла ля кладак у альшэўніку іхняя карова: пачула дым і людзей — вуглы. Глянуўшы з Лазы на кладкі, Панок убачыў, што карова стаіць навязаная на повад у дробным альшэўніку,— падласая, відаць здалёку,— махае хвастом і, задраўшы галаву, глядзіць у Лазу, дзе людзі...

У Карчаватках у Лазе толькі ў іх адных карова. Кароў усе пакідалі ля падвод на бары, калі ззаду пачалі страляць. Адзін ён прывёў карову сюды. У іх жа малое на руках... А ў Веркі зарвала малако. Пабыло і зарвала. Як у Даўгынаве «Жалязняк» браў другі раз гарнізон — ад таго...

Ён не помніў, як перайшла карова цераз кладкі і цераз крыніцу. У Карчаваткі ў балота ніколі не пускаўся ніводзін пастух — здаўна.

Саганок стаяў ля агню, уехаўшы ў мох. Быў накрыты вялікай патэльняй — патэльню з саганком, мусіць, няслa цераз крыніцу ў хатулі за плячыма Верка.

«Няскора ўскіпіць малако на такіх дрывах...»

Тапор ляжаў ля стажар'я ўгалавах, і Панок, нагнуўшыся, асцярожна падняў яго, каб не разбудзіць дзяцей. Стары, яго ўжо раз накладалі ў кузні, з чорным у смале тапарышчам,— Панок сек перад самай блакадай жэрдзе ў сосніку, думаў ставіць ад рэчкі ў гародзе новы плот,— тапор быў цяжкі і адцягваў руку. Калі Панок, замахнуўшыся, сакануў па елцы ля камля па сухіх суках, тапор зазвінеў, і па лесе пайшлі адгалоскі. Панок тады ўзяў тапор ля самага абуха...

— Здурнелі Панкі... Што яны робяць...— загаманіў нехта за імі ў Лазе. Мужчына. Голасу Панок не пазнаў. Ён не ведаў, дзе цяпер у Лазе хто быў... Лаза вялікая, а многа хто пайшоў учора, калі пачалі ззаду страляць, адразу цераз усё балота на Баркі.

Ад стажар'я была відаць адна Сяргеіха з дзяцьмі — выбрала месца блізка ля іх.

У Сяргеіхі спалі ўсе покатам, накрыўшыся пасцілкамі. Калі Панок зірнуў цяпер у той бок, дзе зноў зарыкала

карова, утледзеў, што многа дзе кратаецца лаза, і пачуў, што людзі гавораць адзін да аднаго шэптам: не ўсе ўчора пайшлі адразу на Баркі...

Нечага баяцца: дыму з вёскі ніхто не зглядзіць, усюды туман. Агонь раскладзены пад самай елкай, дым ідзе ўгару па дрэве, хаваючыся ў лапках. Трэба толькі схадзіць прывясці і навязаць бліжэй карову, а то будзе рыкаць увесь час, гледзячы на стажар'е, дзе Верка, і будуць наракаць людзі ўсёй вёскай...

— Верка...— сказаў ён, паказаўшы на кладкі.

— Схадзі сам... На зямлю выдаі... Няма ж у нас больш у што даіць... Не выдаіш, то яна будзе нудзіцца і нудзіцца... І тапор вазьмі... Там дзе і лапак насячэш. Мне цяжка адысціся. Малы ўсё кратаецца. Хоць ты пабудзі вазьмі каторага, каб ганяў камароў... Ныюць і ныюць, галодныя, людзей пачуўшы. Ідзі здаі... На новае месца перавяжы... Абабіла пад нагамі ўсё за ноч... Гразь адна чорная...

Верка гаварыла моцна, на ўвесь голас, як дома; здавалася, яна нічога не баіцца: ні таго, што з вёскі могуць згледзець дым, ні таго, што рыкае карова... Пасля Веркі ў Лазе пачалі гаманіць і людзі: уставалі. Бразнула блізка ў некага вядро; кашлянулі...

Тады Панка зноў хапіў кашаль.

Нагнуўшыся да зямлі, да самай травы, ён убачыў, як з-пад ног папаўзла ў траву гадзюка — уцякала... Ён доўга глядзеў у той бок, дзе крата́ўся круглец, тады зірнуў пад сябе. Пачуў, што зайшло ў ногі: быў абуты ў лапці, і ногі змоклі да калень.

У ногі холадна было ўсю ноч, намоклыя аборы рэзалі костачкі, і ён пераабуваўся аж два разы, перакручваючы анучы сушэйшым хвастом на пальцы...

Мусіць, ён прастыў з начы, бо памінутна б'е кашаль. Перш так не біў.

Ля Лазы на голым месцы быў высокі круглец, за калені, і, здавалася, аж гнуўся ад расы. Панок пачуў, як стала свежа ў галёнкі — нанава моклі штаны і ліплі да цела. Ля альшэўніку, на сушэйшым, дзе тырчала нізкае куп'ё, расла дробненькая балотная папараць і ценкае зялёнае трысцё. Пад ім на кароткім белым моху ляжаў леташні высіверaны сівы хвошч і шапацеў пад нагамі.

Туман падняўся ўгару, з-за яго цяпер свяціла вялікае круглае сонца; зверху сыпалася дробная, што пыл, імжа, як увосень.

У дробным альшэўніку, дзе стаяла карова, цвіла тра-

ва-рабінка — на высокіх дудках тырчалі жоўтыя кветы — і пахла на ўсё балота.

Карова за ноч здрабяжыла нагамі пад сабой усё на свеце — рэзалі недзе камары — і стаяла цяпер у гразі, што дома на двары ля хлева, калі яе дажджом рана прыганялі з поля.

Повад быў шорсткі і цвёрды, стаяў, як прут,— яго была ўтаптала нагамі ў гразь карова,— і высморгваўся з рук, калі карова матала галавой. Панок акруціў яго каля рукі, заціснуўшы канец у жмені. Повад быў са старога леташняга павіванага пастронка; карова, тузаючыся, надарвала яго — лопнула адна столка.

Калі затрашчала ўперадзе ў альшэўніку, як ад перуна, і выслізнуў з рук повад, Панок скочыў уперад і, злавіўшы яго за самы канец на зямлі ў траве, паляцеў локцямі ў ваду... Пачуў, што цягнецца па зямлі і нешта цвёрдае ўпёрлася спаднізу ў жывот...

«Тапор... Быў падаткнуты пад дзягу...»

Яго адпусціла, і ён пачуў, што ляжыць на зямлі. Ён ускочыў адразу на калені і ўбачыў, што карова павалілася на пярэднія ногі і падкорчыла пад сябе галаву: ля капыта ў яе акруціўся пастронак.

Стаўшы на ногі, Панок перацягнуў пад дзягай з жывата за спіну тапор і выпусціў з рукі пастронак. Карова не ўставала, ляжала, падагнуўшы пад сябе пярэднія ногі...

Тады зноў бухнула за альшэўнікам, сюды, бліжэй, пад самую Лазу, і засакатаў кулямёт на бары ля Крыніцы, дзе яны пакідалі ўчора падводы...

Зарыкала, лежачы, карова, глуха — пад сябе ў гразь. Закрычалі ў Лазе бабы, і загаласілі ў некага дзеці — не іхнія, ён пазнаў бы,— беглі далей цераз балота.

Ён зірнуў у той бок, дзе было іхняе стажар'е, і ўбачыў, як ядрана гарыць у кустах агонь — угарэліся недзе яловыя сукі, і над елкай ідзе высока ўгару дым: стаіць слупам, схіліўшыся на вёску...

— Карова!.. Валодзя!..— закрычала яму здалёку Верка.— Я адна спраўлюся з дзяцьмі...

Верка тушыла агонь: раскідала пад елкай галавешкі, мусіць, выліўшы на агонь малако з саганка. Па лазе цяпер папоўз густы сівы дым, як пара; сагнуўся, парваўшыся пасярэдзіне, высокі белы слуп, што вісеў угары над елкай...

— Карову лаві!..— пачуў Панок, як зноў крыкнула

яму Верка. Закінуўшы за спіну хатуль, яна падняла са стажар'я перад сабой на руках малога. Да яе ціснуліся, ускочыўшы спрасоння, дзяўчаткі. Маленькія зусім, не відаць з травы...

Пасля Верка крыкнула яму, каб ён кідаў карову — «Чорт з ёй!..» — і даганяў іх. Усе бягуць на Баркі...

Ён убачыў, як Верка з дзяцьмі і з хатулём на плячах схавалася ў лазе...

За крыніцай у бары зайшоўся кулямёт, хлебястаў без сціханага на ўсе Карчаваткі. Па лесе, па лазе і альшэўніку, пайшлі адгалоскі, далёка, аж у кут, дзе ў рудым тумане бегла на балота ўслед за людзьмі сонца.

Пасля Панок пачуў, што страляюць і на Барках, і за Карчаваткамі на пасецы, і ззаду за Кладкамі — ля вёскі на загуменні.

Біла заднімі нагамі па гразі карова, не могучы ўстаць, і яго пярыў кашаль...

Ударыла цяпер ужо далей, недзе на Барках, моцна, як громам... Ён падумаў, што рвуцца снарады, бо з вёскі згледзелі дым...

Панок адпусціў повад — карова ўстала на ногі і, падвярнуўшы пад сябе галаву, пацягнула яго, Панка, у альшэўнік — назад. Ён, упёршыся ў зямлю нагамі, не пусціў яе, пасля забег наперад і, узяўшы за рогі, павярнуў на Кладкі. Схапіўшы пасля за павадок ля самых рагоў, ён павёў карову цераз зашыек Кладкамі, учапіўшыся за рогі і прыціснуўшыся ёй да шыі. Карова матала галавой: яе ніколі так не бралі — за рогі і за шыю... На чыстым, дзе рос круглец, яна гразла за калені, падкідаючы нагамі гразь і кожны раз збіраючыся скакаць. На Кладках было цвярдзей пад нагамі — лучалася карэнне — і карова, скокнуўшы, страсанулася, атрасаючы з сябе халодную гразь. Панок пачуў, як яму заляпіла вочы...

Калі цяпер на бары ля крыніцы зайшоўся кулямёт — высака ўгары засвісталі кулі, заныўшы, як авадні.

Немцы стралялі з бору ўдоўж па балоце — згледзелі людзей... Трэба бегчы за ўсімі на Баркі, туды немцы не сунуцца цераз усё балота... Там жа наперадзе, на Барках, Верка адна з дзяцьмі. Карову можна навязаць тут, на Кладках, бо ненавязаная яна збяжыць. Толькі навязаная яна будзе рыкаць, гледзячы на Баркі, дзе людзі, і сюды прыйдуць немцы...

Угледзеўшы здалёку сіні дымок над вогнішчам пад елкай — тлеў, адкаціўшыся ад агню, мусіць, канец бяро-

завага гніляка, Панок здумеўся: будзе галоднае дзіця. Прыйдзецца даваць сухар з анучкі, размачыўшы і пажваўшы ў роце, а яно, галоднае, стане крычаць на чым свет стаіць, як крычала ўчора звечара...

За Кладкамі пайшоў рэдзенькі ценкі бярэзнік з дробным жоўтым лісцем і кароценькі чырвоны вербалоз — сцяліўся па зямлі. Травы тут не было: яе глушыў мох. Белы, даўгі, ён высака падняўся ад зямлі, усё роўна як вісеў на ценкім, пераплеценым журавінніку, зачапіўшыся галоўкамі, і ногі пад ім правальваліся ў балота аж на той свет. Панок ступаў, лучаючы на купіны, і, калі ехалі ў зямлю ногі, апіраўся рукамі карове на шыю... Думаў, што карова ідзе смялей за яго, бо лепш чуе, дзе цвярдзей.

Шумела высака ўгары і глуха біла за Баркамі на пасецы. Снарады ляцелі аднекуль здалёку, не з вёскі...

За Кладкамі на бары стралялі кораценька і рэдка — з аўтаматаў. Пераціхала, тады білі з вінтовак, ядрана, як усё роўна секлі тапарамі па дрэве.

Лесам, мусіць, пайшлі немцы... На Баркі яны не дойдуць па такім балоце...

Калі Панок праваліўся раптам па самыя грудзі, убачыў адразу, што белага моху на балоце не было, скончыўся; наперадзе блішчала ад сонца вада, пасыпаная дробным лісцем. Наўкола шыпела зялёная гразь — палезла з-пад вады з балота; з-пад яе выскоквалі вялікія сінія бурбалкі і лопаліся... Стала холадна ў ногі, аж закалола... Адна рука ў яго ляжала на нечым цвёрдым — ён агледзеўся, што на шыі ў каровы... Каровы не было відаць — тырчала толькі з гразі задзёртая ўгару галава з мокрымі рагамі. На рагах ляжаў повад, увесь у зялёнай гразі.

Баючыся, каб не захлынуцца, Панок ухапіўся карове за шыю дзвюма рукамі; тады пачуў, што лучыў нагамі на нешта цвёрдае — стаіць, як на кладцы. Зглядзеў уперадзе перад сабой сасонку з сухім верхам і зялёнай лапкай, што расла ля самай зямлі. Убачыў ля сасонкі высокую чорную купіну. Ля яе быў паабдзіраны мох, і Панок па сівым пяску пазнаў, што наперадзе суха... Ён, мусіць, уваліўся ў старую крыніцу...

Карова, задраўшы ўверх галаву, раптам зарыкала моцна і жаласна, як да цяляці...

Панка тады аж падкінула. Ступіўшы наперад, ён пачуў, што ідзе па цвёрдым, і гразь займае толькі да грудзей. Повад у яго быў у руках, і калі зноў, задраўшы га-

лаву, зарыкала карова, ён замахнуўся і сцебануў ёй па галаве. Раз, другі... З-пад павадка ў вочы паляцела ліпкая, густая і халодная гразь. Убачыўшы, як, боўтаючы пад сабой у гразі нагамі, пайшла карова, ён зноў стаў біць па галаве. Пасля, калі з гразі паказалася спіна, біў па спіне — сцёбаў мокрым павадком.

Ступіўшы на цвёрдае ля сасонкі з зялёнай лапкай, ён пазнаў, што кончылася балота, і ўбачыў, што адгэтуль ішла імшарына аж да самых Баркоў, куды пабеглі людзі.

Ля сасонкі з-пад мокрага сіпаку тырчаў востры шэры валун. Стаўшы на яго, Панок цягнуў карову за повад, пакуль яна, перабіраючы нагамі ў гразі, не ўпёрлася галавой у купіну. Тады ён зноў даставаў і сцёбаў ёй павадком па спіне, бо карова не магла ўзлезці на сухое. Увесь у ліпкай гразі, ён ёрзаў нагамі па камені і махаў рукой, у якой быў павадок, аж пакуль не схапіў кашаль...

Ужо на Барках, у ельніку, Панок падумаў, што карова, мусіць, адсапнулася, пакуль яго біў кашаль, і вылезла сама ля каменя на сухое. Карове няма цаны...

У ельніку ён згледзеў людзей. Збіўшыся ў кучу, яны ціснуліся назад, пад балота, і наперадзе была Верка з малым на руках — нясла, прыціснуўшы да грудзей, як ад каго хаваючы. Дзяцей не было відаць...

Калі, натапырыўшыся на людзей, зарыкала карова, ён страпянуўся, падумаўшы, што карова пазнала Верку, бо глядзіць уперад, задзёршы галаву і ліжучы языком па носе... Ён хацеў крыкнуць здалёку Верцы, чаму яны ідуць назад, але ўбачыў раптам, што ўсе пасталі і стаяць, згледзеўшы яго... Ціснуцца адзін да аднаго, збіваючыся яшчэ больш у кучку... Пад балота бегла толькі адна Верка, трымаючы перад сабой малога — хавала яго некуды пад паху, закрываючы падушачкай... З галавы ў яе з'ехала на плечы белая хустка, і рассыпаліся валасы. Верка нешта ціха крычала яму, азіраючыся назад, але ён нічога не чуў.

Калі, сунуўшыся да Веркі, зноў зарыкала карова, блізка, за Баркамі на пасецы, чырканулі кораценька з аўтамата, усё роўна што там зламалі сухое дрэва...

«Немцы... — страсянула яго.— Ідуць з пасекі...»

Тады ён пачуў, што на руках у Веркі плача, аж заходзіцца малы, і ўбачыў, што яна ціснe яго пад паху, каб хаця не было чуваць крыку.

Зноў замычэла карова, нюхаючы пад сабой зямлю і цягнучы ў яго з рук повад — ірвалася да Веркі.

— Вало-о-дзя! — крыкнула Верка; было зусім ужо

блізка да яе, і ён пачуў.— Людзі...— яна паказвала назад.

Стралялі цяпер бліжэй, недзе ля Кладак.

Панок неяк тады адразу падумаў: перастраляюць усіх у балоце... Усю вёску...

Зноў зарыкала карова, і загаманіла да яго, Панка, Верка...

Ён выпусціў з рук павадок і забег наперад карове.

Тапор быў ззаду, ссунуўся аж за спіну, і Панок выцягваў яго з-пад дзягі абедзвюма рукамі.

Карова кратала вушамі, натапырыўшыся, задзірала галаву і глядзела ўперад, дзе былі людзі. Ён убачыў быў яе вока, цёмнае, вялікае, і рогі, закручаныя наперад...

Ён ударыў абухом паміж рог — з усёй сілы...

Карова асела на пярэднія ногі, як спатыкнуўшыся, тады ўскочыла і пачала круціцца на адным месцы, што сляпая.

Другі раз ён зноў лучаў паміж рог...

Пасля стаяў, трымаючы тапор у руцэ, і чуў, што тапарышча ўсё ў буграх ад смалы — нядаўна сек жэрдзе загарадзіць плот, каб у гарод ад ракі не лазіла скаціна. Карова ляжала ля яго на баку, выпучыўшы жывот, руды ад гразі і ў дробным зялёным лісці, што было насыпана па вадзе на крыніцы.

Ззаду за ім, за плячыма, стаяла Верка з малым на руках; воддаль былі людзі — уся вёска: ён убачыў іх, азірнуўшыся.

Тады яго хапіў кашаль: тапорываліўся з рук і грукнуў аб цвёрдую зямлю ля каровы — ля галавы...

Стала холадна, і Панок падцягнуў вышэй ногі.

Уперадзе была белая дарога, як зацярушаная густа інеем увосень, калі іней кладзецца на сухую груду. Конь ступаў па пяску — не грукаў нагамі; шапатаў пад коламі жвір, дзе цвярдзей, і трашчаў, насыпаўшыся ў колы.

Дарога гэтым месцам была прамая, і далёка было відаць. На ёй на якіх паўганей наперадзе краталіся дзве падводы: Боганчык з Махоркам. Ён, Панок, быў астаўся ад іх яшчэ на прагале: усё ззаду гаманіла Наста, клікала — не ад'едзешся.

Калі калёсы ўз'ехалі на пясок, здалося — нікога паблізу няма: не ляскаталі ўперадзе колы, не гаварылі адзін да аднаго людзі. Хроп і форскаў недалёка, мусіць, Насцін Буланчык.

Месяц, круглы і жоўты, што ячны блін з вялікай скаварады, стаяў цяпер за плячыма над самай зямлёй. З воза здавалася, што ён бег ззаду ўздагон — ад адной сасны да другой. У небе над галавой пагусцелі зоркі, сталі чырвоныя; аказаліся дразды — у тым баку, дзе на небе стаяла блеклая зеленаватая зара, паварочваючыся ўвесь час і заходзячы ім наперад — на Тартак. Хутка возьмецца на додніцу.

Затахкалі былі колы, лучыўшы на карэнне, і па лесе пайшло глухое рэха — па зямлі. Недзе далёка, як злавіць вухам, крычала сава: доўга і выразна, што чалавек.

Па спіне пайшоў холад, адсырэла кашуля на плячах і ў паясніцы, здубелі ў руках лейцы, настылі мяхі, як усё роўна доўга ляжалі зімой у маразы на таку. Панок азірнуўся назад, на воз, шукаючы, чым акрыцца. У Карчаватках, у Лазе, дзе начавалі на стажар'і дзеці, астаўся кажух, жоўты, доўгі, летась пашыты з новых аўчын...

Калі зноў далёка наперадзе закрычала сава, ён натапырыўся і доўга слухаў. Здагадаўся пасля, што гэта выюць ваўкі... Якраз недзе ў Тартаку, куды трэба ехаць. Ваўкі на додніцы ходзяць да вады, мусіць, на самую Дзвінасу, і гэта аказваюцца маладыя. Сёлета рана тады вывеліся ваўкі: дома за Карчаваткамі іх усягды можна пачуць пазней — жнівом.

Ён зноў аглянуўся назад: на белай дарозе былі відаць падводы. Таня ляжала, скорчыўшыся на мяхах; Янук сядзеў нагнуўшы галаву, недзе драмаў; Алёшы здалёку не было відаць зусім. Ззаду за сваімі калясьмі краталася Наста.

Ніхто недзе не пачуў, як завылі ваўкі. Панок хацеў клікнуць Насту, але падумаў, што наробіць гоману... Ваўкі кідаюцца цяпер на людзей — тыя, што пакаштавалі чалавечыны. Прыходзяць у вёску і бяруць дзяцей. Трэба будзе сказаць Верцы, каб ніколі не пускала з дому малых. Тады ён падумаў, што недзе крычыць на ўсю хату хлапец без малака — з анучкай у роце. Стаіць парожняя бутэлечка з жоўтай вялікай соскай на лаўцы ў парозе пад суднікам... Змаглася, мусіць, зусім і Верка... Яна чуць прыйшла была з вёскі ад Махоркі. Каб ён, Панок, не падхапіў яе пад паху на двары — абвалілася б з малым: не стаяла на нагах...

Пасля ён быў падумаў, што карову памогуць купіць людзі. Скінуцца і памогуць, бо без каровы не выжывуць дзеці. Хаця, людзі не могуць скінуцца, бо ні ў каго ж дру-

гога няма каровы. Не ў адных іх... Мала што ў Веркі дзіця... У Сяргеіхі вунь двое...

Не трэба было біць карову — усё роўна ўсіх знайшлі немцы.

Яму зноў здалося, што ён пачуў, як зарыкала карова,— наперадзе, дзе былі азваліся ваўкі.

Зліпаліся вочы, і ён доўга цёр іх пальцамі, пакуль не забалелі; тады цёр далонямі шчокі і лоб. Далоні былі шорсткія ад гразі. Мусіць, не абмыў рукі, калі ля Завішына цягнуў з ракі за аглабню Януковы калёсы... Ля берага была гразь аж да калень. Цяпер яна падсмягла на калашынах і адставала вільготнымі камячкамі, калі ён вадзіў па каленях рукой. Ад мокрых штаноў намок зверху мех, і на яго наліпла гразі.

Гразь на штанах, мусіць, яшчэ з Карчаватак. Падсохла на сонцы за дзень, пасля зноў адмякла ў рацэ, калі цягалі калёсы...

Дарога пайшла гарой. Пахла сырым жвірам і глінай, свежа і востра, аж зашчымелі дзясны. Так пахнуў жвір, калі ён, Панок, з Веркай капалі ноччу ў сосніку за Дальвай яму, каб схаваць у зямлю шафарню. Перад самымі немцамі ўжо, як адступалі партызаны на Дзвінасу.

На гары пацямнела дарога, над галавой не было відаць неба: яго закрывалі сосны — вярхамі. Стала цёмна — месяц схаваўся за гарой. У тым баку былі пачуліся выбухі, як таўклі ўсё роўна дзе ў ступе: вух-вух, вух-вух... Цяжкія, глухія, яны доўга не сціхалі, і ад іх, здавалася, дрыжала зямля.

Панок падумаў, што гэта чуваць аднекуль здалёку, можа, фронт: у лесе далёка чуваць.

Дарога доўга спускалася ўніз — у лагчыну. Паабапал дарогі цяпер пайшла імшара з дробным соснікам і бярэзнікам: шырокая, як толькі яе можна было ўгледзець у цемнаце. Над імшарай стаяў туман і вісеў нізка месяц. Чырвона-чорны, як абгарэлы, ён зусім не свяціў, здавалася — вісеў толькі над зямлёй, як для прыліку.

Зноў завылі ваўкі, недзе зусім блізка наперадзе.

Панок павярнуўся тады на мяхах, звесіўшы ногі з ляжэйкі на другі бок калёс, і стаў слухаць. Нідзе нічога не было чуваць; ляскалі толькі па карэнні ззаду колы.

Дарога ўсё спускалася ніжэй і ніжэй, як куды да ракі. Імшарыны збоку ўжо не было відаць: яе схаваў з вачэй туман. Адразу стала сыра; зрабілася цяжка дыхаць. За-

чвякаў па гразі капытамі конь, пабялелі шыны на колах — сталі блішчаць.

Дарога ля імшары зноў пайшла прамая, і ўперадзе паявіліся падводы — сунуліся ў тумане, як дзве чорныя капы сена.

Нідзе не чуваць было ні голасу — здавалася, усе паснулі, забыўшыся на ўсё на свеце. Панок падумаў, што на возе калыша і самі ліпнуцца вочы.

Злезшы з мяхоў, ён, сагнуўшыся,— балела спіна — пайшоў ззаду за калясьмі, ступаючы босымі нагамі па мокрай траве. Пачуў, што холадна ў ногі, як усё роўна ідзе раніцай увосень на лог лавіць каня, а ўжо выпаў іней, пабяліўшы Зурэчча. Усходзіць сонца, у Дальве паляць у печах, і дым з комінаў падымаецца слупамі ўгару, пасля ападае адтуль на зямлю і сцелецца ля ракі на аселіцах. Ціха, скрыпяць толькі ў вёсцы асверы і вароты — людзі, устаўшы, бяруць ваду... На лагу, у самым кутку, дзе начавалі начлежнікі, дыміць яшчэ вогнішча, і ў тумане грукаюць нагамі спутаныя коні.

У плячах зноў забалела, і Панок пачуў, што не можа ісці: саслабеў.

Учапіўшыся за ляжэйку, ён падскочыў і сеў на мяхі, задыхаючыся.

На калёсах яго схапіў кашаль: пачаў біць суха і калюча, як рваў што ўсярэдзіне. Горача стала ў грудзях, як ад агню.

Адкашляўшыся, ён доўга сядзеў на мяхах, падпёршы рукой галаву, і глядзеў на дарогу.

Пачарнеў лес; стаў белы, як снег, туман на дарозе. Паніжэлі ўгары над лесам зоркі; ружавела ўперадзе на ўсходзе зара. Цемната пачала радзець, рабіцца шэрай, цярусячыся перад вачыма, як сухі сівы пыл. Адгукнуліся дразды: пішчалі ад холаду.

Панок падумаў, што пад раніцу засне, не ўтрывае: пад раніцу ён кожны раз засынаў дома, і яго доўга тады будзіла Верка. Будзіла ісці глядзець нарад да Махоркі пад хату...

Калі ён успомніў Верку, яго страсянула ўсяго і падвярнула пад грудзі. Пасля ціха ныла ўсярэдзіне, кідала ў дрыжыкі, і ён ніяк не мог сціснуць зубоў.

Засынаючы ўжо, ён пачуў, як недзе далёка гудзе, і доўга слухаў, не ведаючы, дзе гэта можа быць. Гудзела роўна і часта: гур... гур... гур... Аціхала, пасля пачынала зноў, усё роўна як бразгаючы ланцугамі... Так бразгаў до-

ма трактар, ідучы раніцай з фермы ў Кур'янаўшчыну на поле ля самай хаты — Панок да яго прывык. Трактар ішоў вуліцай ля плота, адно кола вышэй, па самай мяжы, другое — вялікае задняе кола ў бліскучыя вышараваныя аб пясок зубы — каціліся ніжэй, пасярод вуліцы, пакідаючы пасля сябе чорныя ямкі. За трактарам падскоквалі тры вялікія плугі з бліскучымі, як зубы на коле, лемяхамі, затоптваючы ямкі, і беглі дзеці. Калі трактар ехаў ля самай хаты, у вокнах ад вуліцы звінелі неакітаваныя шыбы, і ён, Панок, збіраўся тады кожны раз купіць кіту і ўсё не мог нідзе апытаць. Так і зімавалі тыя гады неакітаваныя вокны — абтыкалі сторжкай. Ён падумаў, што і сёлета трэба будзе абтыкаць вокны пакулай — ад вуліцы і ад загумення, адкуль зімой часта заходзіць вецер і тады выстуджвае хату, як пуню... І пакулы добрай дома няма — трэба, каб Верка адкінула яе ўвосень, як будзе часаць на грэбні лён на кужаль. Малы змерзне, калі не агледзець акон. Трэба будзе добра набіць мяленнем падаконнікі і падняць іх вышэй — закрыць усе ніжнія шыбы ад ветру...

Калі зноў забразгала недзе блізка, Панок аж здрыгануўся на возе. Уперадзе, не там, дзе была зара, а правей, на Краснае, мусіць, на шашы, гудзелі без сціхання машыны. Угледзеўшыся, Панок убачыў, што там мітусіцца неба: па ім ходзяць белыя палосы.

«Немцы!..» — падумаў ён і глянуў уперад на дарогу. У белым тумане адна ля адной калыхаліся дзве падводы.

— Іва-ан! — клікнуў ён, пасунуўшыся на возе ўперад. У тым баку, дзе загудзела, высака ўгару падняліся дзве доўгія белыя палосы і перабеглі па небе з аднаго боку дарогі на другі. Пасля там зноў забразгала, глуха, як у яме.

— Бо-оган!..— Панок зноў клікнуў і, павярнуўшыся, ссунуў ногі ў перадок на самыя аглобні.

Ніхто не адгукаўся: пайшло толькі па лесе рэха.

«Паснулі...— падумаў Панок і, саскочыўшы з калёс, забег наперад каню.— Падурнелі!..»

Уперадзе з-за лесу зноў выскачыла белая паласа — яркая і бліскучая, як са шкла. Зусім блізка.

— Бо-оган...— крыкнуў Панок яшчэ раз, бегучы ўперад па дарозе, і закашляўся...

На вазах ніхто не спаў — ні Махорка, ні Боганчык; і, забегшы наперад каню, Панок згледзеў, што яны стаяць на дарозе адзін ля аднаго: і Махорка і Боганчык. Боган-

чык трымаў за аброць жарабка. Лагчына ў гэтым месцы зусім высахла, і ад белага пяску пад нагамі было аж відна: Панок бачыў усё, што робіцца наперадзе.

Ён здзівіўся, убачыўшы, што ні Махорка, ні Боганчык не глядзелі ўперад, дзе нядаўна ўскочыла была белая паласа. Яны стаялі, адвярнуўшыся, і было відаць нават, як утаропіліся абодва назад, недзе на імшару, адкуль нядаўна выехалі. Панок тады адвярнуўся і сам, не дайшоўшы да іх, глянуў на імшару...

На імшары рос ніжэйшы соснік, і над ёй было відаць далей цёмнае на захадзе неба. Далёка, там, дзе яно канчалася, Панок убачыў белую зару, цьмяную, як схаваную за лесам. Над ёй дрыжаў акравак бурага неба; пасля сышоўся, паменшаў, стаў густы і чырвоны.

Панок раптам пачуў, што заікаецца... Хоча клікнуць Махорку і не можа...

Пасля яго ціха клікнуў сам Махорка, як усё роўна не пазнаў:

— Гэта ты, Пан? Там нешта ёсць...— і, як успомніўшы што, сказаў: — Тут табе і Краснае... Ехаць трэба скарэй на Пунішча, пакуль не развіднела і ціха на дарозе. Адно цяпер, што можна зрабіць... Ад Дальвы, відаць, асталося ўсё, што ў нас на калёсах... Дзе Наста? Не кліч яе. Не трэба, каб відзіла...

— Дальва ў тым баку... Якраз будзе на імшару...— у Панка ляскалі зубы і ўсяго гнула ў крук, аж балела паясніца.

— Хто яго ведае, Пан. Не крычы толькі... Вёсак-то ў тым баку другіх няма, але ніхто пэўна не скажа: ні ты, ні я...— Махорка гаварыў неяк зусім ціха, ніколі ён так не гаварыў.— Дзяцей не будзі. Хай спяць. Вучыць цябе трэба, ці што?

Наста прыйшла наперад сама. Плакала — выцірала хусткай вочы і глядзела пасля доўга на яе, павесіўшы на руках: шукала, мусіць, сухога месца. Падышоўшы да самых Махоркавых калёс, прашаптала: «А дзеткі ж мае...» — і прыхінулася спінай да ляжэйкі. Глядзела, апусціўшы рукі, на зарыва над імшарай — не зводзіла вачэй, як чакала чаго.

Пры ёй аціхлі былі і мужчыны, пасля Махорка сказаў, як сам сабе:

— Што там такое можа быць? Зарыва не зарыва... Зарыва было б чырвонае... А то белае, як днём. Неба, мусіць, пад'яснілася.

Пачуўшы Махорку, Наста загаласіла, і Панок убачыў, як да яе падскочыў Боганчык. Але Наста не сціхала.

— Не лезьце да мяне...— адмахнулася яна ад Боганчыка.— А дзеткі ж мае... Хай бы я вас выправіла... А я ж вас сама кінула... А ці ж мне трэба было ехаць...

— Сціхні, Наста... У тым жа баку Людвінова. З Людвінова, можа, і відаць, калі гэта зарыва. З Дальвы каб і хацеў, то адгэтуль нічога не ўвідзіў бы. Далёка... І Дальва яшчэ ў лагчыне стаіць, помні...

— Ты хаваеш усё ад мяне, Махорка... І ты, Пан...— павярнулася Наста да яго, Панка.— Дальва ў тым баку... А дзеткі мае...

— Не дзеці, дык мы астанёмся жыць. Не мы — дык дзеці... Не свае — чужыя. Нехта астанецца. Усе не згараць...— Махорка выпрастаўся ўвесь, голас у яго стаў сухі, як лучына з печы.— Змарылася ты проста, бабай будучы... І я дзяціны бацька. Ты думаеш, і мне не баліць? Нічога з імі не будзе. З'ездзім — і вернемся...

— Што вы мяне, старую бабу, дурной робіце? А нашто ж я глядзела на гэта зарыва...

Наста плакала не сціхаючы.

Панок пачуў, як на дарозе раптам стала суха і холадна, як у мароз. Зарыва над імшарай пасвятлела, зрабілася зусім белае. Патух угары над ім акравак неба. Храплі ззаду коні, трашчалі ў некага ў калёсах аглоблі.

Панок убачыў, што ўсе зноў збіліся на дарозе ў кучку — стаяць блізка адзін ля аднаго, нават чуваць, што вільготныя ад расы. Пасля яго было ўсяго сцяло, і сам ён зрабіўся сухі і халодны: рэж — не заплача. Ён падумаў, што не верыць, каб гэта гарэла Дальва. А што Махорка гаворыць ехаць на Пунішча, дык ужо яму і верыць... Махорка старэйшы за ўсіх іх тут, не беручы Янука, але што — у Махоркі другія вочы, чым у яго, Панка? А што на тым Пунішчы, каб прыйшлося?.. Уваскрэснеш?.. Пунішча — балота. Вярсты чатыры ў баку ад дарогі пад самым Тартаком. Некалі яго касілі, там нават стаялі старыя пуні, і ў іх клалі сена. Цяпер туды ў сухое лета можна недзе нават ехаць. Якія тады на Пунішчы ў чорта сховы? Хаця з Пунішча можна пайсці балотам на Палік — туды адступаюць партызаны. Перайсці толькі трэба Яськаву Жылу па кладках... А дзеці тады... А коні. Апошнія ж з вёскі...

Панок зноў падумаў, што Дальву не маглі так адразу спаліць. Махорка занадта ўжо бярэцца камандаваць: то

на Тартак, то на Пунішча. Слухай толькі. Ён хацеў быў сказаць Махорку, каб той не рабіў наперад вэрхалу, але маўчаў Боганчык. Стаяў і маўчаў — каб слова сказаў перак Махорку. А Боганчык не дурны...

Панку зноў зрабілася холадна, і схапіў кашаль: даканае сёння. Наперадзе над самай дарогай яшчэ раз мігнуліся белыя палосы. У цёмным небе яны былі аж сінія. Залязгала жалеза, як дзе ля кузні.

— Мы думаем што ці не? — пачуў пасля Панок, як закрычаў у яго над вухам Махорка.— Аднаму зарвала, і другі ў рот вады набраў. Самі не хочаце жывымі астацца, то дзеці на возе... Давідна трэба выскачыць з імшары. Як мух, перадушаць, дай ім толькі згледзець...

Тады яны адразу ўсе загаварылі: і Панок, і Наста, і Боганчык. Ехаць, ехаць хутчэй з імшары. На чыстым далёка відаць...

Калі крануліся пярэднія падводы, Панок стаяў яшчэ з Настай і глядзеў на зарыва. Яно было ціхае і роўнае, каб дзе здрыганулася — як бы там угарэлася што на ўсю ноч. Угары над зарывам зноў пачырванеў акравак неба... Наста плакала, выціраючыся хусткай, не слухала яго, Панка. На дарозе ірзаў Буланчык — крануўся за падводамі.

Пасля яны пайшлі ля Таніных калёс, пачуўшы, што стогне на возе Таня.

Было холадна і свежа, звінелі над вухам камары. Ехалі ўсё яшчэ імшарай, і з яе цягнула на дарогу сырасцю. Уперадзе па карэнні тахкалі калёсы, і здавалася тады Панку, што ён дома позна ўвечары на двары... Верка падаіла карову, вярнуўшыся з цямном з поля... Ціха і свежа на дрывотні ля студні, пахнуць з гародчыка мокрыя ад расы агуркі і кроп... Далёка на грэблі ляскочуць па калдобінах калёсы — мужчыны едуць з Кур'янаўшчыны — звозяць сена.

Зашчымела глыбока ўсярэдзіне... Панок падумаў, забыўшыся на зарыва, што недзе спяць на падлозе дома дзеці з Веркай, падсцяліўшы пад сябе сеннікі з ложка. Галодныя, можа, калі не зварылі вечарам заціркі...

Над лесам, выплыўшы з туману, стаяў месяц: мяккі і ціхі, ён быў цяпер белы, што малако, і, мусіць, адтаго зрабілася зялёнае неба з дробненькімі зоркамі. Іх было нямнога ўгары, над самай галавой; яны былі вострыя і дрыжалі, што ў калядніцу ад марозу.

На дарозе ззаду было відна, як удзень. Добра відаць

была Алёшава падвода і сам Алёша: раскінуўшы рукі на мяхах, ён спаў — галавой уперад, да каня.

Панок падумаў: каб хаця не зваліўся, глядзець яшчэ за ім трэба — спіць і спіць усю дарогу, як на бяду...

Наперадзе нехта з мужчын курыў, мусіць, Боганчык: бліснуў быў агонь, што іскра, і пасля запахла дымам ад самасаду.

Яму зноў здалося, што ён дома зімой за сталом ля акна ў першай хаце. Устаў яшчэ додніцай разам з Веркай. Яна ўсягды рана ўставала зімой, раней за ўсіх у сваім канцы вёскі. Устане і топчацца ў парозе ля печы з вілачнікам у руках...

У хату зайшліся мужчыны — конюхі. Пусцілі коней адных ля плота да рэчкі паіць, а самі забегліся пагрэццца: на дварэ мароз — не патыкайся.

Хукаюць у рукі, пазнімаўшы рукавіцы; закурылі; у хаце поўна дыму — вісіць у парозе пад столлю, пасля цягнецца да чалесніка і ідзе ў комін: рэдзенькі і белы ад агню з печы.

...Стала зноў холадна за плячыма. Панок убачыў, як Наста паправіла на грудзях нажутку, абцягнуўшы ля шыі. Было сыра, аж мокра ад туману, і пахла аднекуль вялая трава: асака і рабінка, як з учарашняга пакосу,— мусіць, недзе ля дарогі было стаптана балота.

Усюды была раса: ляжала на мяхах — яны былі вільготныя, што ўсё роўна адсырэлі,— і блішчала ад месяца на ляжэйках дробненькімі кропелькамі, як мак. Панок убачыў, як блішчыць на спіне ў Танінай кабылы мокрая пільсць; падумаў, што коні не абсохлі яшчэ ад поту, які цёк з іх удзень пісягамі...

Занылі над галавой камары, хлынулі з балота. На твар сыпанула дробненькая і калючая халодная машка, што імжа,— лезла ў вочы, і трэба было бараніцца.

Камары кусалі праз рубашку за плечы — калолі, як іголкамі; тады пачынала свярбець спіна аж да паясніцы...

Наста паправіла хустку, абвязаўшы тужэй ля шыі і насунуўшы спераду на лоб да самых вачэй. Пасля абцягнула рукавы ў нажутцы; нажутка ў яе была старая, з кароткімі рукавамі, і не было куды схаваць рук.

На зямлі пад Танінымі калясьмі бразнула аб нешта цвёрдае атоса — звалілася з восі — і звінела, падскокваючы па карэнні.

Панок забег наперад кабыле, чапляючыся за сухое ламачча і за яловыя лапкі, што сцёбалі па каленях.

Калі стала кабыла, ён пачуў, як плача Таня — яна ляжала на баку, падкорчыўшы пад сябе здаровую нагу, і ціха хліпала, шморгаючы носам... Да яе загаварыла Наста:

— Што стогнеш?.. Баліць?..

— Б-баліць...— Таня зашморгала носам яшчэ горш.

— Я табе зараз усыплю...— Наста нагнулася над калясьмі.— Балі-іць... Ёсць там чаму балець... Пацярпі... Ты ж не відзіла, што там за рана... А я відзіла. Адлежала нагу, дык і баліць. І не хныч... Не маленькая... Давай памагу легчы на другі бок... Давай рукі...

Лёгшы на другі бок і апёршыся на локаць, Таня зноў захліпала:

— А што я буду рабіць, калі вярнуся... Матка хворая-я...

Падняўшы на руках, Наста падцягнула яе яшчэ назад, паклаўшы вышэй на мех галаву.

— Бяры лейцы і трымайся за ляжэйку. Хоць адной рукой... Звалішся пад кола, тады... Ад камароў бараніся... А то аб'ядуць...— не сціхала ля калёс Наста.

— Піць...— прасіла Таня.— Блага...— Лейцы яна не хацела браць.

— Дзе я табе вазьму піць?..— Наста ўзяла лейцы, завязала іх за ляжэйку.— Пацярпі. Скора ўжо Краснае. Дамоў едучы ў калёсах ляжаш. На сена...

— Холадна. Накрыйце...— прасіла Таня.

— Цярпі, дачка. Сагрэешся, зараз паедзем...— усё супакойвала яе Наста.

Панок тады выпусціў з рук цуглі, за якія трымаў кабылу, і падышоў да калёс. Доўга не мог узяць Таню пад пахі, пакуль не памагла Наста. Падумаў, што ў Тані, мусіць, пал — гарачая галава. Узяўшы пад пахі, ён падцягнуў Таню яшчэ вышэй на мяхі. Хацеў быў паправіць на галаве касу: каса расплялася і чаплялася за рукі. Пасля, нічога не кажучы Насце, падняў на калёсах у перадку верхні мех і, намацаўшы адной рукой завязку, тузануў за хвасты. На ляжэйку, на мяхі і яму, Панку, на грудзі хлынула жыта, пырскаючы ў вочы. Ён пачуў, як яно пасыпалася на зямлю — на ногі. Убачыў, як павярнула галаву кабыла — пачула зярняты.

Парожні мех ён узяў у дзве рукі за рагі і страсануў аж два разы, выбіваючы ад пылу. Тады асцярожна накрыў Таню па самую шыю — мех быў даўгі і шырокі.

Пайшла раптам сама Таніна кабыла — ён, мусіць, няўмысля крануў за лейцы. Наперадзе, куды яны ехалі, зай-

шоўся кулямёт, моцна, на ўвесь лес. Пайшло рэха — аж разлягалася зямля. Панок павярнуў у той бок галаву — на неба над лесам ускочылі дзве ракеты.

Белыя і халодныя, яны доўга стаялі на адным месцы, пакуль адразу не патухлі.

— Каб хоць мінуту пабыло спакойна...— пачуў ён, як да яго загаварыла Наста, і ўбачыў, што яна зноў ідзе побач з ім. Падумаў, што да сваіх калёс яна цяпер не пойдзе, будзе з дзяцьмі.

— І я з табой пакратаюся... Весялей...— сказаў ён.— І не вер ты нікому. Будзем жыць... Дзяўчыне толькі цяжка. Трэба ж было...

Уперадзе яшчэ раз замітусілася ад агню неба. Недзе зусім блізка.

На дарозе зноў заірзаў Буланчык.

## 9

Янук ляжаў ніц на мяхах ад самага Завішына і глядзеў уперад на дарогу.

Балелі ногі і плечы, аж калола ў лапаткі, і ён думаў, што зусім саслаб і цяпер пасля ракі не злезе з воза да самага Краснага.

Даўно ўжо зайшло сонца за ракой ля Завішына — за лес. Там, дзе было Людвінова, угары стаяў слуп рудога дыму, чарнеючы і распаўзаючыся па небе, што хмара ад ветру.

За ракой над полем вісела сівая, як попел, смуга і дрыжала, мусіць, што яго, Янука, падкідала на калёсах. Смуга пападнялася з перасохлай за дзень зямлі і будзе вісець, пакуль не сцямнее. Тады яна запахне мокрым балотам і ападзе з расой на зямлю.

Янук падумаў, што ўсюды, мусіць, стала ціха...

У такую пару вечарам, як заходзіць сонца, летам часта ціха. І калі з цямном едзеш з Карчаватак на ферму, здаецца, вымерла ўсё на свеце...

У вёсцы з комінаў ідзе дым, і за ракой на Выганчыку ляжыць туман. Там, дзе заходзіць сонца, над лесам, чырванее неба, што агонь. Янук любіў слухаць тады, як у лесе стукаюць па карэнні калёсы і далёка ідзе рэха...

Пасля, як ён заснуў вясной на прызбе, калі яшчэ ляжаў снег, ён пачуў, што ўсюды стала ціха: і ў хаце, і ў вёсцы, і ў Карчаватках. У яго тады быў ужо сын, Піліп; цяпер у яго ўжо ёсць унук, Колечка.

Ён, Янук, чуў пасля толькі, калі грымеў гром і гудзеў на ферме трактар. Бывала, яму здавалася, што ён чуе, як стукае пад рукамі тапор, калі сек дровы, і бразгае клямка, калі зачыняў, грукаючы, цяжкія дзверы ў сенцах...

Але ён не чуў стуку, калі тапор быў у чужых руках і хто чужы прыходзіў на двор браць ваду са студні і ляпаў пад дзвярыма клямкай... Тады ён здагадаўся, што помніць толькі, як стукае пад рукамі тапор і бразгае клямка...

Ён чуў яшчэ, калі блізка стралялі...

Стала шарэць, і ля дуплаватых старых бяроз, што абступілі ў лесе з двух бакоў дарогу, таўкла мак машка. Ля зямлі на маладым ляшчэўніку на лісці ляжаў пыл; пыл ляжаў і на галлі — яно былі сівое, што ад моху.

Пад ляшчэўнікам у канаве ля самай дарогі рос густы зайцаў гарох — цвіў сінім агнём — і дасыхала зблочаная тупой касой трава. Запахла сенам, што ў вёсцы пад восень, калі ідзеш вечарам ля пунь на загуменні...

Калыхала па калдобах калёсы; зрабілася цяжкая галава, не падымеш; спадыспаду ад мяхоў грэла ў сцёгны і ў жывот. Замахаў уперадзе хвастом конь, ганяючы вецер.

Янук глядзеў на дарогу на жоўты пясок, які рассыпаўся пад нагамі ў каня, і яму здалося, што ён едзе лесам з поля з-пад Карчаватак у Дальву да вялікай калгаснай пуні, якая стаіць ля лесу за фермай. Пуню доўга будавалі, накрылі толькі за гады два перад вайной.

Ён ляжыць на возе высака на снапах. Пад бок лучыў парубень, цвёрды, слізкі — чуваць рукой,— і ад яго баляць скабы. Доўгія жытнія снапы слаба звязаны перавясламі — відаць, жаў нехта нядужымі рукамі, і калі іх уціснулі добра парубнём, яны пазадзіралі ўгару камлі, і Янук ляжыць на возе ўсё роўна як дзе ў яме. Колецца сухая салома, калі кратаеш за лейцы, кіруючы каня, і пахне жыта ў каласах пад парубнём. Зярняты цёмныя, бліскучыя — высахлі на сонцы, і іх у каласах як набіта. Каласы даўгія і тоўстыя; з іх, бывае, пырскае жыта — само: мусіць, моцна ўціснулі воз, і цяпер злягаецца пад старым сасновым патрэсканым парубнём, цвёрдая і тоўстая, як дубцы, жытняя салома. Жыта парасло на полі пад Карчаваткамі... На поле далёка ездзіць — яно аж за чатыры вярсты, за лесам — і звозіць жыта брыгадзір паслаў адразу ўсе падводы. Хмурылася, на Дзвінасе ішлі дажджы, і снапы звозілі з-пад Карчаватак другі ўжо дзень ад рання да самага цямна.

У той вечар яны выехалі з-пад Карчаватак, калі ўжо зайшло сонца. Расцягнуліся па лесе падводы адна за адной — не злічыш. Відаць, як далёка наперадзе ідуць, сабраўшыся ў грумаду і пусціўшы адных коней, мужчыны — ён пазнае здалёку Махорку і Панка — махаюць адзін аднаму рукамі. Мужчыны кураць, чуваць дым ад папярос, і тады хочацца курыць; чуваць яшчэ, як пахне пылам — ён падняўся ад пярэдніх падвод і вісіць, рэдзенькі і мяккі, над дарогай. Калі не пахне пылам — гэта як з'едуць на траву ў лагчыну — чуваць, як цягне з лесу з імшар мокрым мохам і грыбамі... Грыбоў тут ніхто не збірае, яны паасоўваліся на мох, пасохлі і ад таго пахнуць на ўвесь лес, усё роўна як дома, калі, паклаўшы іх сушыць у печ, рана заложаць юшку.

Цямнеецца. Чуваць, як халаднее ў лесе; здаецца, адразу пахаладнелі доўгія чорныя воблакі на далёкім краі неба; астылі, паядранелі імшары, што адсюль, ад дарогі, ідуць далёка лесам аж у самыя Карчаваткі. На імшарах пацямнела трава, натапырылася — расла. Яе яшчэ не краналі касой: на балоце многа вады.

Халодныя ўжо на возе пад рукой снапы, вільготныя, як адсырэлі... Наперадзе разышліся мужчыны, падпіхаюць вазы на гару за мастком. На гару коні і самі ўсцягваюць вазы, але мужчыны кожны раз падпіхаюць калёсы, каб коні не ішлі навыцяжку. Мужчыны пасля зноў сыдуцца ў кучу і будуць курыць, гамонячы, недзе на ўвесь лес.

Кладучы вазы, Янук натрудзіў за дзень рукі, і яны балелі цяпер, аж ламалі. Ныла ўсё цела, размякшы ад сонца, як у лазні. Добра, што, прывёзшы снапы да пуні, можна будзе адразу адпрагчыся і пайсці дамоў. Абярнуць воз у дзвярах памогуць мужчыны, а снапы прыкладаць будуць бабы — па нараду... Спірты ў новай пуні высокія, але бабы не надта спрацаваліся. Прыкладуць снапы, тады пасядуць на таку ці выйдуць на траву на двор і чакаюць, пакуль вернуцца падводы з-пад Карчаватак.

Янук бачыў, як яны пелі кожны раз, пасеўшы на траве і панацягваўшы на вочы хусткі ад сонца, але песень не чуў...

Да пуні яны прыехалі ў той вечар як ужо сцямнела, і дамоў ён ішоў, калі ў вёсцы гарэлі агні. Ішоў цераз ферму, дзе даілі яшчэ даяркі кароў — хадзілі з вёдрамі: запазніўся пастух. З вёскі з комінаў пахла дымам і падгарэлай бульбай. Захацелася есці. Едучы на возе, ён цёр

пальцамі ў жмені каласы і сыпаў жыта ў рот. Яно было сухое, трашчала на зубах; ён чуў яшчэ, што яно салодкае, як цукар, мусіць, ад таго, што маладое.

Калі ён адчыніў дома ў хату дзверы, убачыў, што над сталом на покуце гарыць паднятая вышэй на дроце лямпа і ў хаце бела ад агню. Белыя ад глінкі сцены, на стале белы надзежнік, і на яго насыпана вараная бульба. З бульбы ідзе ўгару пад лямпу белая пара. Пасярод стала стаіць вялікая міска кіслага малака. На рагу стала — цёмны гладыш — гэта каб, сеўшы вячэраць, не ўставаць і неісці ў парог да судніка па малако — не перабіваць яду. Пасля Янук згледзеў, што на куфры, які стаяў побач са сталом ля сцяны ад вуліцы, на белым абрусе ляжала пачатая буханка хлеба. Яе ўсю накрылі зверху белым абрусам, відаць толькі пачаты край — быў павернуты на хату.

Калі вячэраюць з хлебам, у іх тады кожны раз астаецца бульба, і яе, абразаную і вараную, выкідаюць свінням у сенцы ў карыта, дзе ляжыць халодная, пасечаная ранічай яшчэ секачом, паранка.

Усе былі дома: Піліп, вярнуўшыся з работы — араў у Кур'янаўшчыне,— сядзеў, памыўшыся ўжо, на ложку ля куфра; ля стала стаяла Волька — клала на надзежнік лыжкі; пасярод хаты сядзеў на падлозе маленькі Колечка ў белай кашульцы. Калі расчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў ён, Янук, Колечка пачаў, седзячы, зыбацца і махаць рукамі. Піліп быў, мусіць, загаварыў да Волькі, і на Колечку ніхто не глядзеў. Янук тады ўзяў выставіў Колечку пугаўё — тоўстае, пад'ялоўцавае, аблупленае ад кары... Колечка адразу стаў рачком, падняўся пасля на ногі, ззыбнуўся і... пайшоў да яго, Янука. Хутка-хутка, перастаўляючы крывыя тоўстыя ножкі і валюхаючыся з боку на бок, што качанё... Яго, мусіць, адразу тады згледзелі і Піліп і Волька — кінуліся ўсе на хату: Піліп з ложка, Волька ад стала... Колечка не дайшоў да белага пугаўя — яно, мусіць, было выстаўлена надта здалёку,— выцягнуў уперад ручкі і паляцеў ніц на падлогу... Ён, Янук, не паспеў яго злавіць: позна сагнуўся.

Колечку на рукі падхапіла сама Волька; пасля, гладзячы па галаве, аддала Піліпу. Колечка заплюшчыў вочы і адкрываў шырака рот — былі відаць два верхнія белыя зубы — плакаў недзе на ўсю хату, ударыўшыся.

Янук нагнуўся, каб падняць белае пугаўё, якое выпусціў быў з рук. Калі ён глянуў пасля на Вольку, яна смяялася і нешта паказвала рукамі яму, Януку. Ён такога

яшчэ ніколі не бачыў, такое яму паказвалі першы раз... Тады яна ўзяла зноў на рукі Колечку, забрала ў Піліпа, і Піліп пачаў смяяцца сам, гледзячы на яго, Янука. Калі Піліп паказаў сам рукамі, Янук здагадаўся адразу: яму паказваюць, што Колечка пайшоў першы раз. Пайшоў, угледзеўшы ў руках у яго, Янука, белае пугаўё...

Месяц свяціў якраз у вочы, вісеў уперадзе над лесам — над дарогай, і ўсюды было відна, як удзень.

Янук тады павярнуўся і лёг на другі бок. Пад нізам цяпер былі халодныя мяхі, і Янук пачуў, што стала халадна ў ногі; пасля холад хапіў яго ўсяго. Сагнуўшы ногі ў каленях, ён абцісну ля галёнак шырокія калошы. Калошы былі вільготныя, у гразі, і ліплі да цела.

Паправі́ўшыся на мяхах і падклаўшы пад галаву рукі, ён доўга не мог сагрэцца. Трэба было абуцца ў дарогу ў новыя лапці — дастаць з гары з хаты. Там вісіць яшчэ ля коміна на шастку адна пара — лычаная. Хоць і шкода глуміць на пустое лычаныя лапці: іх надоўга хопіць, калі пойдуць касіць на балота.

Янук любіў плясці лапці з лык, любіў і драць лыкі... Хадзіў адзін, не беручы нават з сабой Піліпа. Ішоў у самую касьбу, пасярод лета. Касьбой сама лепш вышчалуквaліся ліповыя пруткі з кары; рабіліся слізкія, пускалі сок, што выспявалі ўсё роўна. У лыкі ён ішоў у нядзелю. Выбіраў, каб была пагода. Абуваў тады лапці з белымі анучамі, вастрыў аж два нажы, седзячы на ўслончыку на двары ля студні пад парканам: спачатку напільнікам, пасля круціў, слімачачы, на старым, плоскім, сточаным бруску і вадзіў па цвёрдым карбарунку... Нажы пасля карбарунка былі што брытва.

Браў з сабой палудзень: хлеба, два ці тры маладыя пасоленыя гуркі і бутэльку салодкага малака. Палудзень клаў у вялікую торбу з суравога палатна, каб можна было тады нясці ў торбе дамоў лыкі. Выходзіў з дому з самай раніцы: ісці было далёка. Пералезшы цераз плот, ён падаваўся да бярэзніку за вёскай праз бульбу, абмакаючы ў расе па калені.

Раса была і ў Карчаватках, у пушчы за балотам, стаяла ўвесь дзень, і Янук мок, як на дажджы.

Малады ліпняк у пушчы рос разам з ляшчэўнікам, і да яго за ляшчэўнікам было не падступіцца. Затое ў ляшчэўніку ліпняк высокі, цеңкі, прамы і без сукоў, хоць рэж

на вудоўі. І на ім не наліпала дробненькага шэрага шорсткага моху, што рос на ліпняку, які лучаўся на сухім, у бары,— сцяліўся па зямлі, пускаючы атожылкі. На лыкі такі ліпняк Янук не чапаў.

Ён рэзаў дубцы і браў іх, не цярэбячы, пад паху, тады адносіў да старой яловай вывараткі, дзе паклаў торбу. Нацягаўшы дубцоў, садзіўся на вываратку і церабіў іх, гладка зразаючы сухія сучкі і галінкі і баючыся, каб не зачапіць зверху кару. Ацярэбленыя дубцы складаў роўненька ля ног у кучу.

Калі куча была вялікая і балелі ад нажа рукі, Янук тады курыў, седзячы на выварацтцы і адганяючы даланёй камароў, якія лезлі ў вочы.

Пасля ён клаў нажы далёка ад сябе на вываратку, браў у рукі дубец, раскусваў кару ў камлі зубамі, даставаў пальцамі з кары наверх белы прут, падкладаў пад яго вялікі палец і сморгаў. Белы лёгкі ліповы прут выскокваў, як чорт са скуры, падлятаў угару і валіўся на зямлю ў ягаднік за вывараткай. Прут быў слізкі ад соку; сок цёк па пальцах і капаў на штаны на калені. Мяккія, у трубачках, лыкі, яшчэ з лісцем зверху, дзе не пахадзіў нож, Янук складаў з другога боку адно ля аднаго.

Тоўсты прут з камля цяжка было высмаргнуць; тады Янук браў дубец пад паху і вышчалукваў прут дзвюма рукамі, як шчапаў усё роўна лучыну. Ад пруткоў чырванелі пальцы, смылелі агнём — тады ён зноў сядзеў і курыў, ганяючы камароў.

Высмаргаўшы ўсе дубцы, браў з кучы лыка і, вывернуўшы яго назнайніцу, круціў на пальцах у кружок. Кружкі ён кідаў пад ногі і кожны раз, кідаючы свежы, доўга глядзеў на іх. З тоўстых дубцоў выходзілі вялікія кружкі; з сукаватых лыкі былі ўсе ў дзірках: фальчывыя. Петлі на кружках ён засморгваў спачатку ў пальцах, пасля стаў зубамі: хутчэй. Чуў, як пахнуць лыкі: квасам і ўчыненым хлебам, калі яго ставілі раніцай, вытапіўшы ў печы, ля прыпечка ў дзяжы і знімалі надзежнік. На языку вывернутае лыка было салодкае і кіслае, што саладуха... Тады Януку хацелася піць...

Калі ля ног назбіралася цэлая куча беленькіх кружкоў, Янук адсоўваў іх нагой да вываратні, пасля ўжо кідаў у торбу. Дома, калі лыкі ачарсцвеюць, ён будзе скручваць іх у вялікія кругі, са скавараду, і вешаць на гары на шастку пад страхой — каб сохлі. Навешае поўны шасток кругоў, ходзячы ў лыкі цэлае лета, а тады будзе ма-

чыць сухія кругі ў кубельцы і плясці лапці. І сабе і Піліпу. Волька лычаных не носіць, ён ёй сплядзе з абор, з пянькі.

Лыка пахла саладухай і лежачы ў торбе.

Ён нёс торбу за плячыма, накінуўшы почапкай на доўгі яловы сук, які адрэзаў нажом ад вываратні. Сук муляў плячо, нібыта Янук ішоў Карчаваткамі — балотам — з касой на плячы. Ішоў па густой траве — трава даставала аж за калені, і на ёй блішчала раса,— што ўсё роўна таптаў мяжу — доўгую, цераз усё балота, ад лесу да лесу.

Калі Янук падыходзіў у Карчаватках да крыніцы, торба за плячыма стала цяжкая, што камень.

Ступаючы на кладку, ён спатыкнуўся і выпусціў яловы сук...

Торба чмякнула ў гразь і развязалася. З яеываліўся няз'едзены палудзень — гуркі з хлебам; ляжалі наверсе і пасыпаліся лыкі — белыя кружкі пакаціліся ля ног, хаваючыся па балоце ў траве...

Блішчала адным краем у перадку — у Янука ўгалавах — вышараванае аб пясок кола, шмаравала аб сухую загваздку. Спаднізу з меха пахла ўгрэтае жыта, як на таку са сціртьі; пад локцямі ляжала сена з аселіцы, і ад яго аддавала кмінам, як ад хлеба. Балела падвернутае плячо, на якое апёрся, лежачы, і холадна было ў нагі.

Хацелася спаць, балелі вочы, і балела галава. На мяхах было цвёрда, усё роўна што ён, Янук, ляжаў на возе на дрывах. Ад таго рабілася яшчэ больш холадна. Ён думаў злезці з калёс, каб сагрэцца, ідучы за канём; хацеў падняцца на руках і не змог. Не краталіся рукі.

Хроп конь, з храп у яго ішла белая пара, як на марозе, і ўсюды было бела: і дарога, і лес, і падводы хаваліся ў тумане. Туман ляжаў на зямлі, як зімой гурбы, і тады здавалася, што трэцца на дарозе пад коламі не жвір, а скрыпіць убіты нагамі крохкі снег, як пад санямі. Скрыпіць ядрана, на ўвесь лес — аж рэжа ўвушшу, бо пацiснуў нанач мароз, як і той раз зімой, калі Янук вазіў партызан у Рагозіна. Што мароз возьмецца, тады было відаць яшчэ пасля паўдня, як яны збіраліся выязджаць з вёскі — сем падвод. Сонца ўжо было знізілася над грэбляй і стала чырвонае, што жар,— Янук яшчэ такога не помніў; улёгся вецер, аціхла, і шчыпала за шчокі. Каўнер — чорную аўчыну,— як Янук яшчэ выйшаў з цёплай хаты на двор,

адразу схапіў іней, дробненькі, што мука. Да цугляў прыстывалі пальцы, не ўзяцца за аброць.

Абапал грэблі стаяў белы альшэўнік, і на ім нарос іней. Ён сыпаўся і сыпаўся з гары на дарогу, на каня, на снег — рэдкі, дробны і белы, аж зіхацеў.

Уперадзе была відаць доўгая белая дарога — падымалася за грэбляй на гару і блішчала на сонцы...

Калі яны мінулі Сушкава, дарога пайшла полем; пад палазамі пачаў скрыпець снег — браў мароз. Сонца пабольшала, пасінела, як ад холаду, і асела ў густую цёмную смугу. Пад ім пачырванела ля самай зямлі неба — шырокай доўгай паласой.

Аб'інеў конь, стаў зусім белы, аб'інелі дуга і набераткі: з храп у каня ішла пара і бегла ўперадзе па дарозе: конь трухаў, апусціўшы галаву. Ззаду за развалкамі краталіся партызаны — пяцёра — усе ў белых халатах. Калі партызаны сядзелі ў хаце ля стала, Янук іх добра разгледзеў, кожнага ў твар, а тут не мог нікога пазнаць: халаты ў іх былі з башлыкамі, і яны панацягвалі башлыкі аж на вочы, хаваючыся ад марозу, і зрабіліся ўсе падобныя адзін на аднаго. І халаты ў іх былі як адны ўсё роўна — пашытыя з абрусаў. У аднаго толькі, самага меншага, быў рудаваты — з кужалю. Партызаны былі ўсе абутыя ў боты, толькі самы меншы быў у чорных валёнках, мусіць, камандзір іхні, ці што, бо часта ўсё нешта загадваў. Башлык у яго быў падняты вышэй, аж на галаву, аб'інелі бровы і валасы, што высыпаліся з-пад шапкі.

Янук сядзеў у перадку, ля яго збоку на сене ляжалі вінтоўкі і аўтамат, кароценькі зусім, з вузкім чорным ражком. Аўтамат быў таго, меншага, што ў чорных валёнках. Вінтоўкі ляжалі рулькамі ўзад, у сена, і Янук бачыў, як пабялелі затворы, усё роўна што іх выбелілі глінкай. Затворы былі белыя ў вінтоўках яшчэ тады, калі вінтоўкі ўнеслі ў хату з двара і яны ляжалі на куфры.

Ззаду ў развалках у сене ляжаў брызентавы хатуль. У ім было закручана нешта цяжкае і тупое, што кавадла з кухні. Кладучы на сані, хатуль падымалі ў вёсцы на вуліцы з зямлі аж трое партызан, і імі камандаваў нізенькі ў валёнках. На сена ў задку ў санях партызаны не садзіліся: прымошчваліся збоку — па двое, трэці станавіўся на палазкі.

З вёскі партызаны ўзялі сем падвод, і цяпер падводы даганялі абоз, які падымаўся на полі з лагчыны і пава-

рочваў на гары ў той бок, дзе заходзіла сонца — на Рагозіна.

Падвод наперадзе было не злічыць — занялі ўсю дарогу цераз поле... Янук не ведаў добра, хто паехаў з вёскі, пазнаваў толькі здалёку Панковага каня і Боганчыкавага жарабка — задніх.

Было ціха, без ветру, і калі Янук аглядаўся назад, бачыў, як у Дальве ўгару падымаўся з комінаў дым — па ўсёй вёсцы. У маразы людзі рана падтаплялі печы, падкідваючы пасля на галавешкі дровы, аж пакуль не натоплівалі хаты на ўсю ноч.

Пахла дымам, дым лез у нос, і Янук чуў, што ў некага тапілі альховымі дрыўмі. Ён пазнаваў па дыме, якімі дрыўмі хто топіць у печы. Пазнаваў сасну, елку, бярозу. Нядаўна ў Дальве пачалі тапіць у печах вольхай, возячы яе з Карчаватак і балота. На балоце перад вайной пасох стары альшэўнік, і зімой у маразы яго тралявалі на дровы, складаючы ў вёрсты пад хлявамі і варывенькамі. Вольха была сухая, як цэр, яе лёгка было скідаць з камля і не трэба было пераразаць на кавалкі: валячыся, яна ламалася сама.

Альховыя дровы гарэлі ціха, не пырскалі, як елка, і ад іх было больш духу. Дым ад іх быў мяккі, не такі востры, як ад яловых, і чуваць быў здалёку: пахнуў усё роўна што пахне торф, калі гарыць на Выганчыку, ці трава, калі яе паляць вясной на балоце.

Вечарэла. На захадзе, дзе хавалася сонца, пагусцела чырвонае неба, як набегла крывёю. Снег на полі зрабіўся сіні; калі ступаў конь, з-пад ног у яго разлятаўся ў бакі лёгкі іней, што пух. На полі ля дарогі тырчалі з глыбокага снегу дробныя бярозавыя дубцы: у мяцеліцу замяло бярэзнік, які быў уровень чалавека.

Над лесам у тым баку, дзе чырванела неба, ляцелі вароны — жменькай, памалу-памалу кратаючы крыллем. Ляцелі з поля пад Дальву — бліжэй да вёскі.

Янук пачуў, як гарацъ агнём калені — мароз браў праз двое палатняных штаноў — і мерзнуць ногі — не памагалі і акручаныя пад анучы Ліліпавы суконкі, зробленыя са старой парванай жакеткі. Мерзлі шчокі, заходзіла ў пальцы праз двое рукавіц... Янук цёр шчокі і нос, цёр руку аб руку, тады зноў сядзеў, не кратаючыся, і глядзеў уперад...

Там, дзе зайшло сонца, далёка за полем у небе тырчала вострая і доўгая чорная дзіда ад касцёла. Касцёл быў

у Альковічах, у гарнізоне, і Янук думаў, што партызаны едуць браць Альковічы, бо загадалі везці іх аж у Рагозіна.

Партызаны ехалі праз Дальву ўвесь дзень ад раніцы, і ўсё чужыя. Янук ніводнага не пазнаў, не пазнаваў і ніхто ў вёсцы. Пасля ехалі свае, кутузаўцы: тады зноў чужыя.

Гэта, якіх ён вёз, мусіць, былі апошнія і ехалі здалёку, бо ў іхняй Дальве мянялі коней, адпусціўшы дамоў першых падводчыкаў.

Калі Янук узʼехаў на гару, партызаны селі па двое па баках, пяты, ніжэйшы, ускочыў зноў ззаду на палазкі і стаў крычаць, мусіць, нешта ўсім, бо махаў рукой. Варочаючы галавой, Янук бачыў, што ў таго з-пад белага башлыка ідзе пара, густая, як з лазні з дзвярэй.

На гары ўперадзе відаць была далёка расцёртая белая дарога, на ёй чорныя падводы і за Рагозінам чорная дзіда, вострая, што шыла. Неба над лесам аж пераліваласся ад чырвані, рабілася як агонь — на вялікі мароз.

Пачынала шарэць.

Пасля ў тым баку, дзе быў касцёл, сталі мільгаць агні і мітусіцца, як ад пажару, неба...

Янук згледзеў, як натапырыліся ззаду на санях партызаны і паўставалі на ногі. Яму здалося, што ён пачуў, як уперадзе пачалі страляць: бух-бух...

За Рагозінам над лесам пацямнела, атухаючы, неба.

Усхапіўшыся на мяхах, Янук убачыў, што стаяць калёсы. Віднелася. Аднекуль пахла дымам. На дарозе не было туману, і Янук згледзеў, што стаяць адна ля адной усе падводы. Мужчыны сышліся ў круг каля Міронавага воза, ля іх была і Наста — махала рукой. Янук здагадаўся: паказвае яму, Януку, каб сядзеў на калёсах, не ішоў да ўсіх. Скора паедуць...

Пасля Наста паказала, каб ён не разбудзіў дзяцей.

## 10

Махорку зноў сніўся пажар: гарэла Дальва...

Спачатку нехта моцна біў яму ў акно — у раму — кулаком. Акно было якраз у нагах ля ложка, і Махорка, спопаразку ўскочыўшы, хацеў адразу нагнуцца да шыбы, каб убачыць, хто быў на двары. Пасля ён згледзеў, што відна ў хаце ў парозе, усё роўна як тапілася ў печы. Па

сцяне ад гароду пад суднікам і па шырокіх дзвярах бегаў агонь. Ад яго нават быў відаць цабэрак, што стаяў у парозе пад лаўкай, і надзежнік, які вісеў на цвіку побач з драўлянай салянкай.

На сцяне ў парозе пад дзвярмі калыхаўся дробны разгаты цень ад бэзу ў гародчыку, што быў ад вуліцы.

— Гары-ым!..— закрычалі на двары, Махорка не пазнаў хто. Ён саскочыў з ложка і падбег да акна ад вуліцы. Над усёй вёскай, ад ракі да загумення, угары было чырвонае неба; унізе, дзе былі відаць у акно чорныя хаты, падымалася белае як палатно полымя. Дрыжала, перэлівалася, нагінаючыся вострым, нібы ў стозе сена, верхам на загуменне і, здавалася, лізала, што языком, зверху чорныя стрэхі. Махорка пачуў, што на дварэ стогне вецер, сцёбаючы бэзам па акне, і трашчыць столь, усё роўна як хто ходзіць па хаце...

Ён пабег у парог да печы, зняў вядро, якое вісела ля самага прыпечка на дроце, і ў парозе пад лаўкай выліў яшчэ з вядра, нагнуўшы, ваду ў цабэрак. Пасля ўспомніў, што ён жа ў адных споднiках... Паставіўшы вядро на падлогу, падбег у запечак, дзе на пяколку ляжалі штаны і рубашка.

Прачнулася жонка і бегала па хаце з кутка ў куток: не магла знайсці сярнічак запаліць лямпу. Ён крыкнуў, каб яна пабудзіла дзяцей і звязвала ўсё з куфра і з ложка ў пасцілкі. Выносіць на гародчык не трэба: падыдзе агонь — ён, Мірон, сам прыбяжыць з вёскі...

Калі ў хаце ля стала загарэлася лямпа, Махорка ўгледзеў, што па сцяне ў парозе ўсё роўна бегалі белыя палосы. Схапіўшы вядро, ён выскачыў у сенцы, стукнуўшыся галавой аб вушак.

На двары былі расчыненыя вароты, і, выбегшы на вуліцу, Махорка пачуў, як яго схапіў вецер і панёс да платоў пад гароды на загуменне. Вуліцай гнала пясок, дзёрла з зямлі і сцёбала па шчоках, што плёткамі ад надзежніка. Несла гар і дым, не было чым дыхаць, хоць захлынiся...

Махорка падумаў, што вуліцай не падбяжыш і блізка да агню, і, пераскочыўшы цераз плот, пабег гародамі па раллі. Вясна была сухая, і па гародах, дзе пасеялі бульбу, вецер гнаў пясок, як і на вуліцы, але тут можна было захінуцца за вуглы.

Махорка ўбачыў, што гарыць у тым канцы вёскі: гараць хаты з двух бакоў вуліцы, гараць пад раку лазні;

агонь перакінуўся з ветрам на гумны, і заняліся пуні, якія стаялі на загуменні далёка ад вёскі.

Ён пазнаў, што гарыць Янук: агонь падымаўся ўгару і лізаў высокую чорную Янукову дзікую грушу; і Сяргеіха: яе хата стаяла воддаль ад вуліцы, на гародах...

Чуваць было здалёку, як трашчыць агонь, і, калі вецер зносіў полымя, відаць былі з агню на хаце ў Сяргеіхі чырвоныя латы... Крычалі людзі на ўсю вёску; было чуваць, як трашчыць і гудзе агонь.

Да Сяргеішынай хаты Махорка не падбег: са страхі гнала гародамі салому з агнём, і ад дыму не было як дыхаць. Пераскочыўшы цераз тын, Махорка спыніўся ў вулачцы — доўгай і шырокай, якая вяла з вуліцы да Сяргеішынай хаты і была абгароджана з двух бакоў высокім тынам. Вулачка была і па той бок вуліцы, пад раку: дзяліла вёску на два канцы...

У вулачцы ля Сяргеішынай студні стаяла пажарная, прывезеная з фермы, з доўгімі чырвонымі драўлянымі ручкамі. Ад пажарнай на двор да хаты цягнулася доўгая і чорная намоклая брызентавая кішка... Другая, таўсцейшая, была спушчана ў студню... Ля пажарнай не было людзей, і Махорка падумаў, што ў Сяргеіхі ў студні кончылася вада...

Калі яго пачалі тоўхаць у вулачцы людзі, ён убачыў, што ўсе з вёдрамі бягуць на вуліцу, і пабег з усімі, кашляючы ад дыму і чапляючыся парожнім вядром за тын.

Людзі з вёдрамі беглі на аселіцу — да ракі... На вуліцы дыхнула ў твар гарачым дымам ад саломы — Махорка адвярнуў галаву і захінуўся рукой. Убачыў на пяску ля тыну растрэсенае белае пер'е і нечыя звязаныя ў пасцілкі падушкі. Пад ногі трапіла белая вялікая міска — ляжала ўверх дном, і ён, паслізнуўшыся, чуць устаяў на нагах. Тады зглелзеў на вуліцы ля Янука мужчын і падумаў, што там можна захлынуцца. Пасля пачуў, як крычалі мужчыны:

— Бусак бяры!.. Бусак!..

— Пасцілкі мачы!..

— Вёдры, вёдры парожныя!..

— Не круціся, мацьтваю так!.. Згарыш...

— Дзяцей, дзяцей на аселіцу адвядзі... Што стала як укопаная... Не лезь у агонь, здурнела...

— Вады... Не стой разявіўшыся...

Бегучы аселіцай да ракі, Махорка пачуў, што вецер дзьме не ўздоўж вуліцы, а наўскос — з-за ракі на загу-

менне. Падумаў, што агонь можна не пусціць у свой канец вёскі за вулачку...

Да ракі ў лагчыну цягнула дым, ён вісеў у аселіцы, як туман, не баючыся ветру, і ад агню быў чырвоны, як гліна. Ад агню было відна далёка за ракой на Выганчыку і на лагах.

Гарэў увесь канец вёскі — начыста. Там, дзе паабапал вуліцы былі хаты, угару падымалася чырвонае полымя шырокімі языкамі, што пасцілкі... Калі рваў вецер, чырвоныя языкі даставалі адзін аднаго і слаліся на зямлю, як надмятаючы вуліцу.

Завярнуўшыся назад, Махорка падумаў, што трэба бегчы на вуліцу, туды, дзе крычаць мужчыны, бо там самы вялікі агонь пад Януковай дзічкай...

Ён убачыў, што зачэрпнуў адной гразі — чэрпаў з берага — і нясе ў вядры. Чуваць, як плюхаецца гразь, аж пырскі ліпнуць на шчокі... Ён выцер вочы чыстай рукой і згледзеў тады, як у канцы вулачкі займаўся агнём Сяргеішын свіран — гарэла страха. Свіран стаяў якраз упоперак да вулачкі, і агонь ад яго мог перайсці на Панкову хату — на другі канец вёскі...

Махорка пачуў, як яму адразу заняло дыхаць. Ён бег вулачкай да Сяргеіхі на двор як толькі мог, збіваючы з ног баб ■ вёдрамі ў руках. Крычаў, каб яны беглі за ім, і бабы — у вулачцы насілі ваду адны бабы — завярнуліся следам.

На двары ў Сяргеіхі ён кінуў вядро з гразёю пад прызбу і ўскочыў на вярсту дроў, што была складзена ўровень з тынам. Стоячы на дрывах, ён намацаў на страсе лату, якой была прыціснута салома. Па страсе ўгару было лёгка ісці, што па раллі на гародзе, і ён падымаўся на самы верх на адных нагах. На яго дыхнула гарачым дымам здалёку з вуліцы; здалося, гарыць рубашка. Ён тады стаў на калені, пасля лёг на страху ад двара — пад вецер. На страсе зверху тлела салома — не магла адразу заняцца агнём: злежалася. Калі рваў вецер, па саломе бегаў дробны агеньчык — з месца на месца...

— Вады!.. Пяску падайце!.. Пяску!..— закрычаў Махорка і пачаў зграбаць голымі рукамі зверху са страхі салому з агнём і кідаць на гарод.

Вецер хапаў з-пад рук кавалкі моху і каціў іх з іскрамі па ўсёй страсе...

Тады Махорка, учарэпіўшыся рукамі за лату на вільчыку, каб не паляцець са страхі, стаў таптаць салому на-

гамі, там, дзе скакаў агонь. Пачуў, што закасаліся па калені калошы ў штанах і пячэ ў лыткі.

— Вады!..— крычаў ён і чуў, што на двары кашляў Панок: прыбеглі мужчыны.

Пасля ён убачыў, што яму з вулачкі з зямлі падаюць вядро з вадой. Ён не мог яго дастаць і крыкнуў, каб падалі, стаўшы на плот.

Не давала дыхаць, біў кашаль; на самай сярэдзіне на вільчыку занялася агнём салома: бралася гарэць страха.

Махорка бачыў, як у агні корчыцца і чарнее салома... Калі рваў вецер, ля ног, там, дзе скакала полымя, чырванела яма. Страха можа прагарэць, агонь возьме яе з сярэдзіны, і яна тады загарыцца адразу ўся.

Вецер панясе іскры да Панка на двор... Зоймецца другі канец вёскі...

— Пасцілкі мачыце!..— крыкнуў ён і папярхнуўся. Пасля крыкнуў, каб з зямлі лезлі людзі, бо адзін ён не дасць рады.

Але ніхто не лез на страху, кашляў толькі ўнізе ля плота Панок.

Тады Махорка, намацаўшы ніжэй на страсе латы, апусціўся і пачаў таптаць нагамі агонь у яміне. З ямы паляцелі іскры і салома з агнём.

Ён чуў, як паспякаў ногі, і баяўся, каб не зваліліся зусім чаравікі і не загарэліся штаны. Узварушаная салома займалася яшчэ больш, і ён крыкнуў, каб паставілі да страхі ад гароду драбіну і падавалі мокрыя пасцілкі, бо што думаюць сабе людзі... Але ніхто не ставіў у гародзе да страхі драбіну і не падаваў пасцілак, і Махорка зноў, ухапіўшыся рукамі за лату, таптаў нагамі страху ў тым месцы, дзе ў яме скакаў агонь. Пасля трэснула паднізам лата і сашмыкнуліся ногі... Не справіўшыся схапіцца за вітку, ён паляцеў у свіран... Зверху на галаву пасыпаліся іскры.

У свірне ён пачуў, як закрычаў на страсе Панок.

Панок крычаў над ім, над самай галавой: будзіў.

Калі Махорка адплюшчыў вочы, маленькі гняды Сібірак махаў кароткім хвастом і стукала, шаруючыся аб загваздку, кола.

Ён ускочыў на мяхах і сеў. Уперадзе на дарозе стаяў Боганчыкаў жарабок. Днела, і на клубах у жарабка былі знаць сівыя яблыкі. Сібірак, ткнуўшыся храпамі Боган-

чыку ў калёсы — у заднюю драбінку, стаў і зафорскаў, шукаючы між мяхоў зубамі траву.

— Спяць усе покатам... Дзень ужо,— загаварыў ззаду за калёсамі Панок, і Махорка спопаразку адвярнуўся. Не спаў жа ўсю дарогу, хацеў і не мог заснуць. Пад раніцу, мусіць, ужо, калі патухла над імшарай зарыва, самі зліпліся вочы.

Панок стаяў ззаду ля калёс і глядзеў на Махорку маленькімі вачыма. Яго не пазнаць было з начы. Ссівеў, аброс шчэццю, як белая мыш; уехалі вочы, зрабіліся вузенькія і слязіліся. Доўга глядзелі на Махорку, усё роўна як пыталіся: дзе ж дзецца; тады пачалі бегаць і ўтаропіліся далёка на дарогу. Махорка ўбачыў, што ўперадзе тырчыць Боганчык ля сваіх калёс і гэтаксама глядзіць перад сабой на дарогу; ля Таніных калёс стаяць адно ля аднаго Наста і Янук — каб варухнуліся.

Тады Махорка выразна пачуў, як уперадзе за лесам, мусіць, на самай шашы, загудзела: ціха і густа. Ён саскочыў з калёс і стаў збоку ля Панка. На зямлі здалося, што гудзіць не справа на шашы за лесам, а ўперадзе на дарозе — якраз у Тартаку. Счакаўшы, аціхла — чуваць было толькі, як бразгае цуглямі Сібірак, дастаючы ў Боганчыка на калёсах з-пад меха сена, і пішчыць у кустах ля дарогі спрасоння дрозд.

Махорку раптам страсанула ўсяго, сталі ляскаць зубы. Ён агледзеўся: стаялі на шырокай уезджанай дарозе, па якой перад вайной леспрамгасаўскія прычэпы вазілі да Краснага на Дзвінасу дрэва. Блізка быў Тартак. Ля дарогі на пасецы ляжалі старыя, даваенныя яшчэ, белыя бярозавыя дровы — метры. Нехта раскідаў зверху шліхту, а дровы не пабраў. Пад нагамі — Махорка згледзеў — на пяску былі сляды ад машыны. Не такія, як да вайны, калі ездзілі прычэпы...

Віднелася. Уперадзе над лесам занялася зара, увачавідкі схапіўшы край неба. Стала яшчэ больш холадна; на траве і на багунніку ля дарогі блішчала раса, як шкло,— вісела буйнымі, што гарох, кроплямі.

Аднекуль з пасекі прыгнала халодны вецер. Зашумела недзе ззаду асіна. Зноў рэдка і ядрана азваўся дрозд і сціх. Зафорскаў Сібірак, падняўшы над мяхамі галаву,— глядзеў уперад. З-пад цугляў у яго выехала жменя сена і ўпала на дарогу пад ногі.

Угары над галавой паявіліся высокія чорныя хмары, расцягнуліся і радзелі, расплываючыся па небе і ружа-

веючы ад зары, як ад агню. Запахла балотам, занылі над вухам камары; маленькія і цёмныя, яны плоймай лезлі ў вочы. На шчокі і на рукі сыпанула дробная, што блохі, машка.

Далёка ззаду засакатаў кулямёт. Стукаў доўга, без сціханага.

Зноў наляцеў вецер...

Адлучыўся ад сваіх калёс Боганчык і ішоў да іх з пугай у руцэ. Згледзеўшы Боганчыка, крануліся і Наста з Януком. Махорка ўбачыў пасля, як яму зайшоў наперад Панок і зноў глядзеў у вочы. Калі прыйшла Наста, Панок доўга глядзеў і ёй у вочы, тады сказаў:

— Куды ж дзецца? І на Пунішча не праскочыш,— і закашляўся.

Усе, як і перш, стаялі і маўчалі, гледзячы ўперад на дарогу. Боганчык, апёршыся спінай на ляжэйку яго, Махоркавых, калёс, палез з рукой у кішаню: мусіць, шукаў чаго закурыць. Пасля Махорка згледзеў, як той дастаў руку з кішані і, высыпаўшы са жмені нешта ў рот, пачаў жвакаць, паволі, нехаця. Апусціўшы руку і растапырыўшы пальцы, ён выціраў цяпер даланю аб штаны ля калена. Махорка ступіў да яго бліжэй і ўбачыў, як у Боганчыка ў цёмным куточку ля губ прыліпла жоўтае жытняе зерне. У куточках ля губ — у адным і другім — стаяла белая сліна, як пена. Махорка падумаў, што Боганчык жвакае жыта. Сыпле яго жменяй з кішані ў рот і жвакае, што конь. І еў недзе ўсю ноч... Махорка адвярнуўся. Убачыў, як Сібірак, адсеўшы назад, нагнуў галаву, хочучы дастаць з-пад ног сена, што звалілася ў Боганчыка з воза.

Махорка нагнуўся і падаў сена Сібіраку; яно было вільготнае і халоднае...

Калі наперадзе за лесам зноў загудзела, у Боганчыка паліліся кроўю вочы; ён утаропіўся на дарогу, жвакаў і глытаў жыта. Быў папярхнуўся і выцер рукой рот. Тады сказаў, як сам сабе:

— Такая чырвань на небе... Не на дабро гэта...

— Ніколі не бачыў. Прасыпаў кожную додніцу... Усё на свеце прасыпаў. Баішча цяпер.

— А ты, бабай будучы, не лезь не ў сваё...— Боганчык адвярнуўся да Насты і раптам закрычаў: — Гэта вам не к дабру! Чуеце, што наперадзе? Чуеце? — Пасля ён схапіўся рукамі за кепку на галаве, выпусціўшы з рук пугаўё.— Бярыце, едзьце... Едзьце ваўку ў зубы. Хоць на Пунішча, хоць за Пунішча... У самае Краснае... Яны вас

спяклі, а вы едзьце...— Ён падаў Панку кепку, выцягнуўшы руку. У кепцы, на дне, Махорка згледзеў, ляжала белая паперына, складзеная ўдвая. Пажаўцела зверху — плямай — ад поту. Махорка падумаў, што трэба было б забраць паперу ў Боганчыка: той згубіць яе, калі так торкае ўсюды. Хаця Боганчык можа збегчы і з паперай, наплюваць яму на ўсіх: едзе і жвакае жыта, як жывёла... Махорка пачуў, што яму хочацца есці, хочацца напіцца, што ён зусім аслаб, доўга будучы без яды, і падумаў, што яму не прыйшло ў галаву адвязаць мех і награбці ў кішэні жыта.

— Скаціна!..— засіпеў ён, не сцярпеўшы і забегшы Боганчыку наперад.— Ён паперу ў зубы тыча... Крыку нарабіў на ўвесь лес, каб усе чулі. Хочаш, каб перастралялі здалёку, як шалёных сабак?.. Пачуў, што гудзіць наперадзе? Не ведаеш, куды едзеш... Ды я цябе... Пхне ўсё ў вантробы, як свінчо карэлае. З галаду баіцца памерці... А людзі?.. А дома што цяпер? Думаеш, сволач?..

Махорка пачуў, як яго ўсяго аж калоціць. Убачыў, што Боганчык скоранька надзеў на галаву кепку. Белая папера выехала з-пад кепкі, і палоска ад яе была відаць у Боганчыка на лбе пад брылём, як прыліпла там усё роўна. Вочы ў Боганчыка пасталі на адным месцы, зрабіліся вялікія, аж павылупляліся, і былі жоўтыя, як ад жаўтухі. Тады Махорка згледзеў, як у яго затрасліся губы ад злосці і ад іх адвалілася прыліплае жытняе зерне.

— Татарская мор-рда...— пырснуў слінай Боганчык.— Ты мяне не свалачы-ы... Смелы такі. Ведаем. Кожнаму свой качан дараг. А не дараг — то кладзі пад кола. І нікуды вязці не трэба. Ні ў Краснае, ні за Краснае. Пад кола — і канец.

— Пад ко-о-ола...— перадражніў яго Махорка.

— Пад кола. Што? Не чуеце, што наперадзе? Чакаюць. Па галаве пагладзяць.— Боганчык памаўчаў, паправіў кепку, схаваўшы са лба белы акравак паперыны, і зноў закрычаў на ўвесь голас: — Не ведаеце, хто яны? Не відзілі, стоячы ў імшары...

Махорка зноў пачуў, як яго страсанула, і ён ступіў да калёс, не ўстояў. Адскочыўся быў Боганчык, тады зноў падляцеў да яго. На барадзе ў яго ляжала жоўтае жытняе зерне: зноў выплыла з рота са слінай. У Боганчыка яго быў, відаць, повен рот — упіраўся язык, калі гаварыў.

Яны стаялі цяпер адзін ля аднаго — грудзі ў грудзі, і Махорка бачыў, як у Боганчыка трасецца барада і сля-

зяцца вочы. Пачырванелі ад бяссоння, у куточках сабраўся і прыліп да павечак пыл.

Тады ззаду, блізка над вухам, закашляў Панок. Калі Махорка павярнуў галаву, згледзеў, як Панок падняў руку і хоча пакласці яму, Махорку, на плячо. Другой рукой ён заціскаў рот, мусіць, каб не было далёка чуваць кашлю. Пасля Панок стаў махаць рукой: паказваў — не трэба, Мірон. Свае ж людзі...

Наперадзе цяпер загудзела недзе зусім блізка, як усё роўна ў канцы імшары.

— Што ў катле варыцца...— уздыхнула Наста.

Яна стаяла збоку ля Панка. Перавязала на галаве хустку, туга акруціўшы рагі ля шыі. Чорная картовая спадніца ў яе была ўся пакамечаная, і да яе паналіпала сена і лісця ад канюшыны, дробнага, што зайцавай капусты. Наста пазірала ўсё назад, дзе махаў галавой Буланчык, ганяючы машку. Махорка падумаў, што там жа на калёсах дзеці.

— Што мы сабе думаем, мужчыны?

Цяпер усе глядзелі на Насту: што ёй сказаць?

— Як у катле варыцца,— зноў сказала яна.— Машыны...

— А раптам танкі?

— А нам, татарам, Панок, ці танкі, ці...

— Добра, што на Тартак паехалі...

— Яшчэ не скачы, Наста...

— І што гэта ў іх там мігціць? Падскочыць агонь і мігціць.

— Ракеты, Наста...

— Коні піць хочуць...

— Хай адсапуцца...

— А дзеці ж мае...

— Не пазнаю цябе, Наста... Намарылася ты за ноч. У слёзы і ў слёзы...

— Дзяўчына стогне... Нагу трэба было б паглядзець.

— Пацярпіць. Што мы зробім...

— А ноч халодная... Пад дзень хоць ты было каню пад хвост лезь. Ляжу, гляджу на Сітца. Яно высака над галавой, а зуб на зуб не лучае...

— Сонца, Пан, скора ўзыдзе — пагрэешся...

— Дзяцей прастудзім голых...

— А камары сякуць, не глядзяць на холад.

— Пагода будзе...

— Ціш-ш... Не чуеце, як бразгае? На адным месцы.

— Каля Рудні недзе. На шашы. Там дарога на Белае.

— Ніхто не знае, дзе чыя смерць. У Белым ці ў гарэлым...

— А нам, татарам...

У канцы імшар, дзе доўга гудзела, не сціхаючы, зноў замітусілася неба і зайшоўся кулямёт. Па імшарах пайшло рэха, нізка, па зямлі... Падзьмуў вецер.

Усе збіліся ў кучку каля Махоркі — стоўпіліся ля калёс. Маўчалі. Чуваць было, як махае хвастом конь — шапацела на мяхах сена.

— Дастоімся, што на дарозе перацісказюць...

— Паедзем...

— Трэба пачакаць. Хай сціхне.

— А дзе Янук? Дзе стары?

— У кусты пайшоў. Не бойся, Пан. Са страху...

— Наста пашкадавала. Прывяла да калёс. Хай ба ляжаў на мяхах.

— Стары баіцца. Да людзей цісненца,— пляскаў ротам Боганчык.

— А ты не баішся?

— А я нікуды не паеду. Сказаў — не паеду. Можаце браць паперу. І жарабка можаце браць.

— Ты што, Іван, упіраешся ўсю дарогу?..— Махорка пачуў, як Боганчыка пачаў угаворваць Панок; Панку цяжка было гаварыць: не даваў кашаль.

— Што ехаць? А калі немцы не ў Белае, а з Белага ідуць?

— А табе што, не ўсё роўна куды?

— А тое, Мірон, што і яны на Тартак дарогу знаюць, не адзін ты. У іх на карты ўсё пананошана.

— Што, ты відзіў іхнія карты? Глядзеў?

— Людзі глядзелі. А вы самі не знаеце, куды едзеце.

— Дык што? Разбегчыся? А дзеці? А жывёла?..

— Што нам слухаць Боганчыка. Андрымоніць усю дарогу. Паганяй, Мірон.

— Ідзі, Наста, да калёс. Паедзем.

— А дзе Янук?

— Ідзе вунь... Не згубіцца. Як дома ўсё роўна. Устаў, на двор доднічай схадзіў...

— Паганяй, Іван. Жарабок з дарогі з'ехаў. Падцялежыўся...

— А ты мяне не гані. Я табе, можа, не Махорка, не яны...— Боганчык паказаў рукой на ўсіх. Усе яшчэ стаялі ля Махоркавых калёс, не адыходзіліся.— Я вам сказаў:

не паеду. На Пунішча можна і адгэтуль лучыць, Белай імшарай пайшоўшы...

— Пра якое ён Пунішча гаворыць?

— Вярзе абы-што. Нібы ты яго, Наста, не знаеш...

Махорка ўбачыў, як Боганчык зноў злазіў з рукой у кішаню, дастаў у жмені жыта, задраў галаву і, высыпаўшы ў рот, пачаў жвакаць. На зубах у яго трашчалі зярняты. Сухое жыта сыпалася з рота яму на рубашку і пырскала пад ногі на зямлю.

Тады Махорка не стрываў, падскочыў да Боганчыка, і яны зноў сталі адзін ля аднаго — грудзі ў грудзі. Боганчык, было відаць, не чакаў. Перастаў жвакаць, раскрыў рот. На рубашку яму вывалілася ў камочках мокрае жыта.

— Паскуда!.. Ды я цябе... Бяжы... На ўсе чатыры стараны. Здохнеш, можа, дзе адзін скарэй... Жарэ, як свінчо... Апрагаецца. І шчэлепы не баляць. Мала немец біў па мордзе... Пісні яшчэ раз, што не паедзеш... Не будзе чым і жвакаць. Я табе не немец... Усе пакрышу... Смерці баіцца, а жарэ...

Боганчык быў адразу адступіўся назад, тады раптам збялеў увесь што палатно, і ў яго зноў затрасліся сківіцы. Вочы зрабіліся вялікія і белыя...

Махорка пачуў пасля, як яго моцна ўдарыў Боганчык па пашчэнках — знізу. Не згледзеў нават калі... Закруцілася ў галаве... Каб не падхапіў яго ззаду Панок, ён паляцеў бы дагары на зямлю...

Закрычала Наста.

Калі Махорка схапіў Боганчыка за грудзі, пачуў, што той абмяк увесь і рукі ў яго вісяць, як анучы. Вочы сталі маленькія і вузенькія — Боганчык заплюшчыўся: баяўся. У барадзе ў яго было поўна жыта...

Махорка тады адпусціў рукі; каб не глядзець ні на кога, адразу сагнуўся, падняў з зямлі лейцы і ўскінуў іх на мяхі.

Папраўляючы Сібіраку хамут, глянуў пасля ўперад на дарогу: Боганчык, апіраючыся на ляжэйку, узлазіў на калёсы.

— Паехалі!..— крыкнуў Махорка.— Анучы кавалак. Рукі свае пэцкаць не хачу... Кусаецца, як гадыня...

Наста з Панком, аглядаючыся, пайшлі да сваіх калёс. На дарозе стаяў толькі Янук і ківаў сам сабе галавой.

За імшарай уперадзе зноў захлебястаў кулямёт.

На ўсходзе пасвятлела зара; павіднела ў лесе, і з калёс была відаць раса — далёка, аж за дарогай на імшары.

## 11

Шапочуць на сухім жвіры ў глыбокіх калдобах колы, і Алёшу здаецца тады, што маці вялікай рыдлёўкай сіляе ў хлеве на праціўні з ямы пясок...

У хлеве яшчэ з парога відаць новыя жоўтыя сасновыя круглякі: маці чыста падмяла гальнікам памост, згарнуўшы пацёртую сухую летапнюю сырадэлю і мятліцу на праціўеньку. Праціўеньку летась выбілі глінай, калі перасцілалі памост; уступіўшы босаму на яе, усягды было чуваць, як холадна ў ногі. Цяпер уся праціўенька, ад памосту аж да дзвярэй, зацярушана сухой патрухай, і Алёша чуў толькі, што колецца спадыспаду ў ступні. Пасля маці загадала яму ўзяць у хлеве за тынам граблі і падсунуць патруху з праціўні да дзвярэй. Насыплецца пясску, тады куды яе дзець, на двор толькі вынесці пад хлеўчык у гразь; а так — карове падсцяліць будзе на раз.

Падмёўшы памост, маці сагнулася і пачала ўздзіраць рукамі танчэйшыя сасновыя круглякі і адносіць пад тын. Таўсцейшыя і сукаватыя яна каціла да тыну нагамі. Калі Алёша падмёў праціўню, маці паклікала яго, і яны, узяўшыся за канцы, пераносілі ўдваіх круглякі пад тын. Памост ляжаў высака ад зямлі, і пад ім хавалася нага аж па калена.

Носячы круглякі, маці спынялася пасярод хлева і доўга слухала, павярнуўшы галаву на двор: недзе на загуменні гудзела і гудзела, не сціхаючы.

«Самалёты...» — падумаў Алёша і чуў, як шэпча сама сабе маці.

Памост яны паднялі з усіх легараў, пакінулі толькі два старыя круглякі ля сцяны ад двара, дзе стаялі рыдлёўкі: адна новая, на белай яловай ручцы, другая бліскучая, скапаная і пагнутая, асаджаная на канец вілачніка.

Калі Алёша ўзяў у рукі старую рыдлёўку з кароткай ручкай-вілачнікам і скочыў з круглякоў на зямлю пад памост, пачуў, як усюды смярдзіць мышамі, аж зрывае нос.

— У штых бяры адразу... Не калупайся зверху і не лезь да самай сцяны. Пясок пад прызбай у гародчыку асядзе...— загадала яму маці, і ён павярнуўся да яе.— Не

адварочвайся і пясок адкідай на самую праціўню. На сярэдзіну...

Маці зноў сціхла і маўчала. Алёша цяпер глянуў на яе з-пад рукі — згледзела б, што ён адвярнуўся, зноў бы крычала — яна ўсё нешта шаптала сама сабе, бо ў яе краталіся вусны. Адвязала з галавы хустку — белая хустка ў кропачкі ляжала цяпер высака на сасновых кругляках ля тыну,— і ў яе на галаве раскручвалася з куклы каса і выязджалі чорныя шпількі. Алёша хацеў сказаць, што шпількі пагубляюцца ў пяску, але маці тады зноў будзе крычаць на яго, што ён толькі варочае галавой, а не капае... Пасля падумаў, што шпілек у маці многа, цэлая жменя ляжыць у прыскрынку ў куфры.

Зямля пад рыдлёўкай была мяккая і рэзалася на скрылі, пакуль не пачаў чэрпацца жоўты пясок. Ён быў сухі, як жвірак, і рассыпаўся, што соль,— далёка не адкінеш. Каб дастаць на праціўню, Алёша паварочваўся бокам, тады зноў бачыў маці: яна стаяла каля самага тыну па калені ў яміне.

Каса ў яе раскруцілася зусім і аб'ехала на шыю; на лбе, было відаць, выступіў пот. Маці ўгрэлася, выцірала лоб даланёй і вадзіла ёй па ручцы ў рыдлёўцы: мачыла, каб не соўгалася рука. Пасля нагіналася, станавілася нагой на рыдлёўку, падымала на ёй пясок і, выпрастаўшыся, кідала назад, на праціўню, неяк бокам, з-за вуха. Алёша згледзеў, што ў яе расшпіліўся ў нажутцы верхні гузік, зачырванеліся шчокі і шыя, нават рукі сталі чырвоныя па локці. Маці ўсягды гэтак чырванела, калі жала пад Карчаваткамі жыта,— Алёша хадзіў памагаць ёй зносіць снапы. Яна спяшаецца, нават не стане, каб адсапнуцца, і яму, Алёшу, загадвае, не адгінаючыся — глядзіць усё на рыдлёўку пад ногі. У вёсцы даўна ўжо ўсе пазарывалі ў зямлю куфры: і Панок, і Махорка. Наста закапала ў хлеве вялікую чорную капусную кадзь — Алёша бачыў — і скідала на тым месцы старое сена з бульбеўнікам.

На двары над фермай гудзелі самалёты; пасля пачало вухаць на Плавах, моцна і часта, аж уздрыгвала, здавалася, пад рыдлёўкай зямля.

— Дзе гэта, сын? — спыталася маці, гледзячы з-за пляча на праціўню.

Алёша выскачыў з ямы і, ступаючы ля сцяны па сасновых кругляках, падбег да дзвярэй. Вылезла з ямы маці. Падышоўшы да дзвярэй, яна апёрлася побач на рыдлёўку, і яны стаялі цяпер адно ля аднаго і глядзелі праз дзве-

ры за плот — на Плавы. Там памінутне грукала, што таўклі ў ступе. Было чуваць, як звінелі ў хаце ў вокнах шыбы і шашчэў, асыпаючыся ў яму на дно, пясок.

— У Тартаку недзе...

— Не, сын. На Красным... Тартак прама, на пасеку якраз... О-ха-ха...

Узышло сонца, паказалася з-за Плавоў, з-за рудога туляга, жоўтае, калючае. У гародчыку зашумела ад ветру рабіна — шастала галлём па плоце.

Алёша пачуў, як яго ўсяго калоціць.

— Марш у яму... Настаяліся...— загадала маці.— Бандзіты...— правячыся, яна пайшла і ссунулася з берага ў яму. Раскруціўшы зусім касу і перакінуўшы яе на грудзі, яна зноў стала кідаць з ямы з-за вуха жоўты пясок. Алёша чуў, як бразгае, чапаючы каменне, у яе пад рукамі рыдлёўка, як стукаюць аб дошкі ў дзвярах камкі цвёрдай гліны; як маці дыхае і дыхае, моцна і цяжка; як яна зноў выцірае даланёй шчокі і лоб ад поту; як пасля кашляе доўга і рэдзенька — «праганяе перхаўку».

Ёй не дае нагінацца каса, з'язджае на вочы, і яна ловіць яе рукамі і хавае ля шыі пад нажутку, зашпіліўшы верхні гузік. Цяпер маці толькі згінаецца і адгінаецца: пускае рыдлёўку і з-за вуха і цераз сябе — цераз галаву. Нават пот не выцірае даланёй, і ён бліпчыць у яе на лбе, выступіў кроплямі, што раса.

У маці рыдлёўка з доўгай ручкай, і Алёшу цесна ў яме. Ён прыціскаецца да берага і дзяўбе пад нагамі — ссякае гліну.

— У штых бяры, не дзюбай... І памногу не чэрпай. За табой усё назад асыпаецца...— зноў яму загадвае маці.

Горача стала ў яме. Алёша адгінаецца і, як маці, выцірае лоб.

На Плавах было сціхла, тады пачало бухаць зноў, усё роўна як пабліжэўшы.

— Не ляніся, сын. Я ўсё чую... Не ляніся. Астанёмся і голыя і галодныя...— зноў на яго крычыць маці. Яна ўжо стаіць у яме па пахі; ногі ў яе ўсе ў гліне; усё роўна як яна месіць яе на ферме ў збітым з дошак карыце на цэглу — перарабляць печ. Гліна паналіпла да калень, абсыхае і валіцца на зямлю дробнымі камячкамі.

Маці кашляе: «праганяе перхаўку», дыхае з сябе, што хворая, але не стане, каб адсапнуцца. Махае і махае рукамі, падымаючы рыдлёўку. На спіне ў яе ўжо змокла ад поту белая нажутка, пацямнела; на галаву ў валасы

насыпалася пяску. Алёша зірнуў тады на складзеныя сасновыя круглякі ля тыну, дзе ляжала матчына белая ў кропачкі хустка. І на кругляках і на хустцы было поўна жоўтага пяску — панасыпала маці.

Пясок насыпаўся і высака на сцяну — на павучынне.

— Не плюй на рукі... Мазалі ўскочаць...— маці была адагнулася і глянула на яго. Яна цяпер была ўся ў гліне: і нос і шчокі. Алёша пачуў, што ў яго ўжо гараць агнём далоні.

«Ад ручкі,— падумаў ён.— Каструбаватая, як палена».

Калі цяпер грукала на Плавах, здавалася — недзе зусім блізка, ля рэчкі. Дрыжала зямля. Маці ўзялася рукамі за бераг, як усё роўна баялася, каб не абрыўся. З кучы пяску, зверху, кацілася каменне і покала ў яму пад ногі.

— Не бойся, сын. Далё-ёка... Вылезь наверх і адгарні з берага пясок на сярэдзіну. У зямлі яно вунь як чуваць, ты скажы... Што за плотам усё адно бухаюць.

На двор нехта прыйшоў да студні па ваду: бразгала вядро на кручку, тады заскрыпеў асвер.

— Выскач, сын, прычыні дзверы. І не вылазь на двор укачаны ў гліну...— маці нават не адагнулася ад рыдлёўкі. Нажутка ў яе была ўжо ўся мокрая аж да паясніцы.

Саскочыўшы зноў на дно ў яму, Алёша пачуў, што холадна ў ногі. Пад глінай пайшоў жвір, руды і дробны, усё роўна як пасечаны, і калолася ў ступні.

Алёша ўжо ўвесь хаваўся ў зямлі — галава была роўна з памостам, і было цесна ў яме. У маці ліўся з ілба цурчом пот; яна памінутне тоўхалася ў плечы доўгай ручкай ад рыдлёўкі. Не слухала цяпер зусім, як грукала на Плавах.

Пасля яна раптам зляканулася, выпусціла з рук рыдлёўку і прыхінулася плячыма да беражніцы ў яме...

Захлебястала за вуліцай на ферме, стукала доўга, не сціхаючы, пасля загуло, цяжка, з перахліпамі.

— Бадай ты агнём пайшло...— маці выцерла далонёй пот на лбе і на шыі і зноў сагнулася: даставала рыдлёўку.

На ферме за вуліцай гудзеў трактар. Трактар не заводзіўся тры дні. Новы яшчэ быў зусім, нават колы блішчалі, а як прыгналі яго з Кур'янаўшчыны ў соснік за фермай — і не завядуць. А яго, як толькі сказалі, што пачалася вайна, сабраліся гнаць у сельсавет. А як пагоніш, калі ён не заводзіцца. Сёння завялі — мужчыны ўсю ноч ля яго не спалі: бразгала на ферме жалеза.

Трактар гналі з фермы ў вуліцу — хлебястала ўсё бліжэй і бліжэй, і пачала дрыжаць у яме беражніца.

— Аж вушы пазакладала...— маці зноў адагнулася ад рыдлёўкі.

Трактар раптам пацішэў, пасля заглох, недзе блізка, ля плота, мусіць, за вуліцай.

Стала адразу ціха, і было чуваць, як на варотах бразгае кручок і па двары дугаюць, не сціхаючы, нагамі. Пасля заскрыпеў асвер.

— Выскач, сын, паглядзі...— загадала маці.— Усё роўна цесна. Замінаеш толькі...

Алёша, стоячы на праціўні высака на пяску, падумаў, што ў маці шырокія ступні, і калі яна топчацца на месцы, убівае вільготны пясок і гліну, што плешча пранікам. На нагах у яе абцерлася сухая гліна, і Алёша ўбачыў, як у маці пачырванелі лыткі і на іх надуліся сінія жылы — вузламі. Пасля згледзеў, што і рукі ў яе чырвоныя, усё роўна як яна выняла іх зімой ля студні з вады і на іх гэтаксама набухлі сінія жылы, бугаркамі. Ён ніколі яшчэ не бачыў, каб у маці былі такія рукі — як пухліна на іх.

Ён падумаў, што жылы могуць лопнуць і ў маці з рук пацячэ кроў, і спалохаўся.

Як яны тады занясуць у хлеў з хаты куфар? Удваіх з бацькам не дасі рады. Куфар цяжкі, не падняць, хоць маці і павынімала з яго ўсё, нават прыскрынак апаражніла. Не станеш жа клікаць людзей. Маці не хоча, каб хто надта відзеў, дзе будзе закапаны куфар.

— Не стой. Як прырос усё роўна. Двор разнясуць. Паглядзі, можа, бацька каго прывёў...— маці зноў выцірала шыю дзвюма рукамі.

Алёша яшчэ з хлева згледзеў ваенных, траіх; яны тапталіся ля студні, разносячы па двары ботамі пясок. Боты ў іх былі сівыя ад пылу аж да калень. На плячах у аднаго была доўгая вінтоўка — бліскала на сонцы, калі ён нагінаўся над зрубам. Ваенныя бралі вядро адзін у аднаго з рук і пілі, змахваючы пасля рукамі з грудзей ваду.

Алёша падышоў да гародчыка і прыпёрся плячыма да частаколу. Ваенныя на яго нават не азірнуліся, як усё роўна яго не было на двары.

Пасля да студні прыбег з вуліцы яшчэ адзін ваенны, высокі, у пакамечанай і задранай ззаду гімнасцёрцы. На плечы ў яго набралася пылу. Нахіліўшы адной рукой вядро — вядро стаяла на зрубе, ён наліў вады спачатку ў шырокую, чорную з вечкам талерку — талерка ўсярэдзіне бы-

ла белая, як міска,— закрыў вечка і тады сам крукам сагнуўся над вядром: зруб быў нізкі. Адагнуўшыся, ён зноў пабег на вуліцу, абагнаўшы ля хаты траіх, што перш прыйшлі да студні. З двара былі добра відаць з-за тыну яго шырокія плечы ў пыле і чорная галава — ківалася з боку на бок: ваенны быў без пілоткі.

Алёша ўбачыў, што на вуліцы поўна пылу; пыл падымаўся вышэй тыну і поўз на гарод пад раку. За хатай моцна і глуха грукала — без сціханага... Здавалася, дрыжыць двор...

Алёша пабег ля хаты да варот.

Яму спачатку здалося, што калышацца ўся вуліца — ад плота да плота... Пасля ён падумаў, што яна ўся зялёная...

Ішлі ваенныя, заняўшы вуліцу ад іхняга аж да Панковага хлева. Ад варот цераз гароды пад рэчку было відаць, як яны спускаліся з грэблі да маста.

У вёсцы раптам стала ціха: не скрыпелі вароты, не ляскалі на ферме калёсы, не гаварылі на двары ў Панка. За туляг над Плавамі заехала сонца; над хлевам стала сіва, як ад дыму. Здавалася, усё застыла, што ноччу. Толькі калыхалася ад плота да плота вуліца і грукала зямля: грук-грук... Над вуліцай падымаўся ўгару пыл, высака, роўна з тофелем, што рос у Панка ў гародчыку.

Ваенныя ішлі цяпер каля самых варот: з мокрымі ад поту плячмі, з зялёнымі мяшкамі на плячах і са скручанымі ў трубы сівымі суконнымі шынялямі; з вінтоўкамі і маленькімі зграбнымі рыдлёвачкамі пры боку; з зялёнымі каскамі і з зялёнымі кацялкамі.

Падышла маці з рыдлёўкай у руках, аперлася на ручку і глядзела на вуліцу праз адчыненыя вароты. Мокрая ўся, ва ўкачанай у пясок нажутцы, з нагамі ў гліне: як вылезла з ямы, так і прыйшла. Пасля страсанула ў руцэ хустку — схапіла з сабой, вылазячы з ямы: не паказвацца ж на вочы чужым людзям з голай галавой — і, прыхінуўшы да тыну рыдлёўку, завязала хустку на галаву. Пачакаўшы, пачала выціраць вочы.

«Плача...» — падумаў ён і азірнуўся. Маці плакала; глядзела ў зямлю, сабе пад ногі, і выціралася ражком хусткі.

— Адступаюць... На Бегамля...— сказала яна ціха, сама сабе, і сашчапіла на жываце рукі.

Ваенныя ішлі і ішлі, валілі валам: паказваліся з-за Панковага хлева, падыходзілі да іхніх расчыненых насцеж

шырокіх варот, міналі тын, падымаліся на гару ля фермы, ля даўнейшых могліц, доўга калыхаліся на дзядзінцы пад соснамі і хаваліся ў сосніку ля бульбяных ям. Над дарогай ля лесу, як і ў вёсцы, падняўся пыл і цягнуўся на поле за ямы.

Калі ваенныя пераставалі ісці, ля Панковага хлева рабілася пуста — зганяла пыл, і было відаць, як на двары ў Панка стаяў ля варот сам Панок з Веркай і на плот лезлі дзеці.

Зноў выходзілі ваенныя з-за Панковага хлева і ішлі, падымаючы пыл і грукаючы нагамі. Было відаць зноў, як яны спускаліся з грэблі да маста — з гары ад школы...

Алёша хацеў выбегчы на вуліцу на лаўку, але на яго адразу глянула маці — пераняла ўсяго вачыма... Раптам аціхла, не грукала на вуліцы... Не калыхаліся ад плота да плота ваенныя. «Сталі...» — здагадаўся ён і ўбачыў, што яны ўсюды пасталі і стаяць: і на грэблі ля маста, і ля Панковага хлева, і аж ля лесу, ля ям...

Алёша падумаў, што ваенныя будуць прасіць малака і пабягуць зараз на двор. Але яны не беглі і не прасілі ў маці малака. Стаялі ля варот, пазадзіралі ўверх галовы, недзе туды, за вёску, на Панкоў тофель.

Тады Алёша пачуў, як угары, над Панковым тофелем, загудзела, моцна і густа, аж затрэсся, здалося, на вуліцы пыл. Пасля ад тофеля адлучыліся адразу тры самалёты. Яны ішлі нізка над вёскай — Алёша згледзеў, што ў іх было счэсана ззаду наперад крылле,— ішлі на сонца, туды, дзе грымела ўсю раніцу. Пачакаўшы, з-за тофеля выляцелі яшчэ тры самалёты. Самалёты ляцелі і над грэбляй і над загуменнем...

Прыхінулася да тыну маці, падхапіла яго, Алёшу, і прыціснула да сябе, да калень. Алёша чуў, як трасуцца ў яе ногі, і бачыў з-за тыну, што вуліца ўсё роўна краталася: ваенныя вадзілі галовамі за самалётамі, за тымі, што ляцелі з загумення.

Пасля самалёты сталі заварочвацца над самай фермай...

Алёша згледзеў праз тып, як закалыхалася зялёная вуліца — далёка, аж да Панковага хлева; пачуў, як на могілках нечым суха ўдарыла па зямлі, як маці зноў схапіла яго і прыціснула да сябе — недзе пад паху...

Не было чым дыхаць. Ад маці запахла цёплай нажуткай і зямлёй. Алёшу схапіў кашаль...

Ён пачуў, што ляжыць ніц на мяхах, падвярнуў пад сябе галаву і яму не дае дыхаць. Ён падняў галаву — уваччу закалыхалася высокая зялёная трава ля дарогі; паднізам ціха загрукалі ў калдобінах калёсы. З цёплага меха, у тым месцы, дзе ляжала галава і выбілася ямка, запахла ўпараным ячменем, што стоўчанай груцай, і сырой травой — зайцавым гарохам і пырнікам. Зайцаў гарох вострымі стручкамі паўпіваўся ў шчаку, і яна цяпер балела, як паколатая.

Пасля Алёшу раптам стала холадна; заляскалі зубы. Ён тады сеў, падкорчыўшы пад сябе ногі...

Здалося, што яны едуць назад: конь, махаючы хвастом, ідзе назад, і Янук, седзячы на калёсах, падпёршы рукамі галаву, глядзіць назад, туды, адкуль яны ехалі... Тады Алёша пакруціўся на возе. Лейцы даўна выехалі з-пад яго і зачапіліся за ляжэйку. А можа, Наста прывязала іх, падышоўшы?.. Ён хацеў крыкнуць Насце, чаму яны едуць назад, але яе нідзе не ўбачыў.

Пасля ён згледзеў, што мужчыны ўсе сядзелі на вазах. Падводы былі блізка адна ля адной, як і ўчора вечарам, калі выязджалі з вёскі. Пярэдні цяпер ехаў Махорка: абмінуў, мусіць, ноччу Боганчыкавага жарабка на сваім Сібіраку.

Развіднелася. Усюды было аж бела. Густы, стары, з паваламі ельнік, праз які яны ехалі, здаваўся сівым, як ад інею; таўстыя, у абхват, елкі з камля былі шэрыя, што асіны.

Ля самай дарогі тырчалі высокія яловыя пні, упоравень з возам, старыя, тоўстыя; за іх чапляліся, абдзіраючы восямі, калёсы. Ля пнёў была відаць сівая зямля, кідаўся ў вочы белы балотны сіпак і блішчала вада — чыстая, здавалася, цвёрдая, што лёд; стаяла жоўтая, як салома, высокая, у рост чалавека, мятліца — кустамі. Над мятліцай вісеў туман, белы як снег.

У калдобах трашчала старое суччa; колы коўзаліся па ім, і калёсы кідала з боку на бок.

Трасла дрыжыка, як трасца, Алёша соўгаўся на мяхах і не мог сагрэцца. Стала холадна ў рукі — у пальцы: яны пакрэплі і пачырванелі, як буракі. Ён хацеў саскочыць з калёс і пайсці збоку, узяўшыся за ляжэйку, як Панок, але на траве была раса, што іней. Каб узяў толькі ды сеў конна на каня, з яго дык пара ідзе... Але не дадуць мужчыны — накрычаць.

Хутчэй бы паказалася сонца — адубееш.

Лес кончыўся адразу — выехалі на лог, усё роўна як з пуні на двор. Стала яшчэ больш відна і холадна; далёка ўперадзе над лесам, за ракой, зрабілася белае-белае неба, аж сіняе, і ля самай зямлі лягла густая чырвоная паласа, доўгая, што выцягнулася. На яе не было як глядзець — рэзала ў вачах.

На разводы на мяхі ўзлез Панок; згорбіўся і закашляўся. Варушылася на возе, лежачы, Таня; круціў у руках лейцы Янук, што вузел усё роўна развязваў. З-за Панковага каня былі відаць Боганчыкавы плечы; Боганчык сядзеў у самым перадку і глядзеў на жарабка.

— Не аставацца... Паганяйце... Здалёку ўсё відаць... Як на далані...— закамандаваў спераду Махорка, ціха і хрыпата.

Алёша схапіў за лейцы, але коней не пагналі — ні Боганчык, ні Панок. Тады Алёша азірнуўся і ўбачыў, што Наста толькі цяпер выехала з лесу: змарыўся і астаецца Буланчык. Наста паганяе яго, ідучы ля аглабні, лейцамі...

Далёка ззаду пачуўся стрэл; па лесе пайшло рэха — зашумела; пачакаўшы, пачалі страляць густа, са звонам, усё роўна што сыпалі з кошыка бульбу ў парожнія калёсы.

— Не аставацца!.. Не трэба было даваць Буланчыку піць. Напіўся, відаць, у Брадку з лужыны... Намэнчышся цяпер...— Махорка саскочыў з калёс з лейцамі ў руках і аглядаўся памінутне назад.

Буланчык ішоў навыцяжку; было чуваць, як Наста сцёбае яго мокрымі лейцамі, калі ён даставаў траву.

Збоку, недзе ля Панковых калёс, азваўся ўзагнаны дзяркач. Зашыкала воддаль дзікая качка, мусіць, на малых — вяла недзе іх у лес у Брадок, там, дзе, не сціхаючы, краталася ніцая лаза. За ніцай лазой пад лесам у трысці стаяў бацян і глядзеў на людзей і на падводы — выцягнуты, натапыраны, гатовы адразу ўзляцець з зямлі.

Ля дарогі на сушэйшым пайшлі белая мятліца і крапіва, высокая, па самыя ляжэйкі, чаплялася і мачыла расой мяхі. На крапіве ляжала дробнае птушынае пер'е, намокла, папрылiпала да лісця.

Пад лесам і воддаль ад дарогі вісеў туман, падняўшыся ад зямлі. Турчэлі недзе далёка жабы; гудзеў дзікі голуб, ззаду, на Брадку, у тым баку, дзе нядаўна стралялі. Каркалі вароны, рэдка і ціха,— у тумане іх не было відаць. Аднекуль дыхнула праціўным гарам ад торфу —

хоць захлыніся. Яго, мусіць, прынясло з туманам — недзе недалёка гарэў лес. Пасля запахла травой, сухой, цёплай і свежай, як хлебам-перапечкай.

Неба на ўсходзе стала жоўтае; высака ўгары зрабілася белае, як удзень. Уперадзе над самай дарогай зачырванеўся лес, і ў тым месцы на небе выскачылі хмаркі — у ружовыя і жоўтыя палосы. Далёка за елкамі паказаўся чырвоны бераг сонца, цьмяны, як ўначы веташок: на яго можна было глядзець не жмурачы вачэй. Здавалася, яно свеціць праз туман, як праз аснаваную жоўтую пражу. Пража мітусіцца, калышучыся, усё роўна як хто яе, зблэчаную, папраўляе рукамі.

Пасля сонца адразу выбегла на чыстае. Шырокае, сплюснутае, яно адскочыла ад зямлі і, жаўцеючы, стала дрыжаць і пералівацца, што жалеза агнём, калі яго дастануць у кузні з горна з-пад гарачага вугалля. Зніклі чырвоныя хмаркі, як згарэлі ўсё роўна. Елкі зрабіліся вострыя, што іголкі.

Уперадзе на дарозе нічога не было відаць ад сонца. Над логам папоўз угару туман; цяпер ён быў як разасланы зботьшага на стале суравы абрус, што накрываў хлеб, вялікія круглыя буханкі. Пад ім ля дарогі загарэліся чырвоныя дудкі ад старога шчаўя — здавалася, і травы інакшай на лагу не было, адно шчаўе.

Ззаду над самым лесам вісеў месяц. Яны ўжо ад'ехалі логам далёка, і месяц быў добра відаць: белы, што глінка, пацямнеў толькі збоку, сціраўся.

Уперадзе цераз дарогу — над Боганчыкавымі калясьмі — пераляцела дзікая качка — памалу, чуць несла цяжкае валлё, выставіўшы ўперад, як надпляшанку, дзюбу і ледзь кратаючы крыллем. Здавалася, сарвецца на зямлю.

У ніцай лазе крычаў і крычаў дзяркач. Недзе ў самым кутку над логам зноў глуха каркалі вароны, што ўвосень дома на загуменні.

Сонца паменшала, пабялела; зверху над ім ляглі, выцягнуўшыся, чорныя тулягі. На лагу было яшчэ больш холадна. Крэплі рукі — не бралі лейцаў — і шчыпала за вушы, як у мароз. З рота ішла пара і вісела над калясьмі, што кудзеля. Туман падымаўся высока, уровень з лесам, і рудзеў — палосамі.

Тарахцелі калёсы, і скрыпелі драбіны; чыркалі дразды на лагу ў альшэўніку, і шыпелі сіваваронкі ля дзвюх старых дуплаватых асін — мусіць, ля гнёздаў.

Моклі, дастаючы да травы, спушчаныя з ляжэйкі ногі;

на іх наліпала халоднае насенне ад мятліцы, дробнае, што аўсюк.

Ззаду калёсы дагнаў Буланчык; выцягнуў шыю і даставаў з-пад меха зайцаў гарох, адвесіўшы губу і бразгаючы цуглямі. З-пад грывы, чорнай і мяккай, што воўна, глядзелі ў бакі вялікія і круглыя бліскучыя вочы. Збоку ля калёс па траве, узяўшыся рукой за ляжэйку, ішла Наста; другой рукой яна трымала паднятую вышэй калень спадніцу. З-пад спадніцы ў яе была відаць белая палатняная кашуля — мокрая з самага нізу ад расы і з дробным насеннем ад мятліцы. Шчокі ў Насты былі чырвоныя, заружавеліся, што ля печы; яна выцірала рогам белай хусткі лоб: мусіць, угрэлася, паганяючы Буланчыка.

Алёшу было здалося, што пацяплела на возе. Запахла з дарогі з-пад ног у каня сухім сенам.

Канчаўся лог. Уперадзе блізка быў лес — здалёку былі відаць чырвоныя, што ад агню, сосны.

Далёка, у канцы логу, з правага боку, была рака: там густа расла лаза — усё роўна як зграблі ў вал сухое сена і яно ляжала цяпер ворахам. Над ракой нахіліліся старыя вольхі; з-за іх вытыркаліся востранькія елкі; відаць быў і белы дробны бярэзнік — за ракой. Там было балота.

Пасушэла; дыхнула аднекуль з зямлі духам, што з хаты; запахла сырым пяском, усё роўна як з ям ля вёскі.

Захацелася есці — бліноў з бульбы, якія маці пякла кожную раніцу, устаўшы такой парой.

Павузела дарога, пачаўся малады, густы сасновы лес. Ён, мусіць, ішоў гарой аж за Пунішча, адступаючы ад яго, як баючыся; пасля паварочваў пад Дальву і цямнеў здалёку, чорны, што ноч.

Там пачынаўся Палік. З Дальвы да Паліка далёка... З Дальвы туды рэдка хадзілі.

Ля самай дарогі рос верас, высокі, стары і руды; чапляўся дудкамі за атосы — яны аж звінелі.

У каляінах быў пясок, сухі, жоўты і глыбокі; у яго хаваліся колы, і конь ішоў навыцяжку. Ехалі памалу.

На самай гары, справа, дзе недалёка ўнізе была рака, рос невысокі сасняк; над ім паказалася сонца і пачало калоцца ў вочы. З неба з'ехалі хмары: днём зноў стане пячы сонца, як учора.

Мужчыны пазлазілі з вазоў і ішлі ля Боганчыкавых калёс. Пярэдні ішоў Махорка. З мяхоў злез і Янук, узяўся за ляжэйку і трымаў у руцэ лейцы. Ззаду зноў не было чуваць Насты — асталася.

З-пад калёс падымаўся пыл, мяккі, як з-пад падсітка, і лез у горла. Было чуваць, як ціха кашляе Панок: заціскаў, мусіць, рот.

Збоку за ракой недзе далёка загудзела, цяжка, з натугай, усё роўна як пад гару ішлі леспрамгасаўскія машыны з гружонымі прычэпамі.

Алёша пачуў, як яго кінула ў стужу. Стукалі зубы, і траслося ўсярэдзіне. Так у яго траслося ўсярэдзіне, калі зганялі ўчора ўсіх да Махоркі на вуліцу.

Наперадзе ля Боганчыкавых калёс ішлі мужчыны, ціха, як баючыся. Панок усё азіраўся назад.

Пасля Алёшу здалося, што ён убачыў уперадзе над соснікам пыл, белы і рэдкі, як згледзець вокам.

Ён хацеў быў саскочыць з мяхоў і падбегчы сказаць мужчынам. Але пылу над соснікам больш не было, і Алёша падумаў, што яму здалося.

Сонца біла ў вочы, і ад яго было ўсё жоўтае: і мяхі на калёсах, і пясок у каня пад нагамі, і мох на зямлі ў сосніку... Недзе над самай галавой застукаў дзяцел — мусіць, у гнілую сухастоіну — моцна, што страляў усё роўна. Над дарогай запырхалі сініцы.

Пасля зноў за соснікам загудзелі машыны. Алёша згледзеў, як сталі былі мужчыны, гаварылі, мусіць, тады зноў пайшлі кучкай — хутчэй, як спяшаліся куды.

Спускаліся з гары: конь пайшоў смялей, зусім не напінаючыся.

Зноў уперадзе над соснікам закурэўся белы пыл, ішоў з зямлі, што дым. Недзе там забразгала, што клямка дома ў сенцах знадворку, калі хто чужы ішоў у хату...

Сціх над галавой дзяцел — зляцеў.

— Мужчыны!.. Немцы!..— закрычала раптам Наста на ўвесь голас, дзярката і сіпла, як на марозе. Яна была цяпер з возам ззаду на самай гары...

Алёшу здалося, што закрычала маці.

Ён саскочыў з мяхоў на дарогу ў пясок.

## 12

Алёша згледзеў спачатку кароценькі аўтамат, які быў настаўлены якраз яму ў грудзі, блізка, рукой можна дастаць. Чорная фарба на аўтамаце — кінулася ў вочы — была вышаравана, і блішчала белае жалеза, якраз там, дзе яго ашчарэпіла вялікая, чырвоная, з тоўстымі пальца-

мі рука. Пасля аўтамат павярнуўся рулькай убок і ткнуў яму, Алёшу, пад паху ў скабы...

Алёша толькі цяпер убачыў немца. Немец быў высокі, увесь у сівым сукне, што пацук. І на галаве ў яго ляжала шырокая, расцягнутая сівая пілотка з сукна, ссунутая нізка, на самы лоб.

— Вэр, вэр!..— пачуў Алёша, як крыкнуў на яго немец, і згледзеў, што той стаіць з разяўленым ротам і ківае галавой — паказвае ісці ўперад. Зноў яго таўханулі пад паху, моцна, як усё роўна хацелі прасадзіць. Калі Алёша павярнуўся, убачыў, як павярнуліся збоку бліскучыя боты і асталіся ззаду.

Тады Алёша згледзеў, што ўсе мужчыны, нават Янук Тваюмаць, стаяць наперадзе на дарозе, недалёка ад Боганчыкавага жарабка, адзін ля аднаго, падняўшы ўгару рукі, і глядзяць назад, на падводы. З аднаго і з другога боку ля іх блізка стаялі немцы з аўтаматамі ў руках: па двое. Алёша падумаў, што і яго гоняць да мужчын, не загадалі толькі падняць рукі.

Ён хацеў азірнуцца, каб паглядзець, дзе Наста, але ззаду зноў закрычаў немец: «Вэр! вэр!» — і Алёша ўбачыў толькі яго бліскучыя боты.

Пасля Алёша згледзеў, як да доўгіх Панковых развод падскочылі два немцы, тоўстыя, у пілотках, і пачалі торкаць аўтаматамі ў мяхі. З калёс на дарогу пасыпалася жыта. Тады немцы сталі мацаць мяхі рукамі, кожны мех, і паказваць нешта адзін аднаму пальцамі.

Немцы былі і ля Таніных калёс — стаялі, сагнуўшыся ў крук над мяхамі, на якіх ляжала, не ўставаўшы, Таня. Ля Таніных калёс была Наста, прыбегла, кінуўшы аднаго Буланчыка. Наста ўсё махала і махала рукамі — паказвала ўперад на дарогу — мусіць, на мужчын — і гаманіла, моцна, каб усе чулі. Алёша ўспомніў, што яна і ў вёсцы, у Махоркі ля тыну, калі падыходзіла да немцаў, гаварыла моцна, на ўсю вуліцу.

Немцы былі і на самай гары, абступілі Буланчыка...

Больш Алёша не бачыў ні Насты, ні Тані на калёсах. Яго падагналі да мужчын і паставілі збоку ля Янука. Янук стаяў, высака задзёршы рукі, вышэй за ўсіх,— закасаліся рукавы, і ў яго былі відаць белыя локці. Янук быў без кепкі: недзе, мусіць, згубіў ці пакінуў на возе; мокрыя сівыя валасы на галаве скруціліся ў каслаўкі і папрыліпалі да вушэй. Палатняная рубашка выехала з-пад паясніцы і даставала падалом да калень. Янук павярнуўся і гля-

дзеў на Алёшу нейкімі балючымі вачыма, як шкадаваў усё роўна. Мужчыны, падняўшы рукі, стаялі ціха — ніхто не кратаўся. Алёша ўбачыў, як збялеў Панок; у яго памінутне падскаквалі ўгары плечы — яму цяжка было стаяць задзёршы рукі: кашляў.

Немец, які прыгнаў Алёшу, крыкнуў тым, што стаялі ля мужчын, моцна і дзярката: «Вэр! Вэр!..» — і тыя сўса кінуліся да Боганчыка і Махоркі і сталі мацаць далонямі па грудзях, па жываце, па штанах у паясніцы. Перамацалі пасля ўсяго Панка — ён стаяў і без аддухі кашляў; тады — Янука, чапляючыся рукамі за падол яго доўгай палатнянай рубашкі. Алёшу не кранулі...

Пасля немец у шырокай разношанай пілотцы, што гнаў Алёшу, падскочыў да Махоркі — Махорка стаяў пярэдні,— паказаў аўтаматам на дарогу і крыкнуў зноў моцна і дзярката: «Вэр-вэр!..» Немец паказаў быў яшчэ Махорку падняць вышэй рукі: той быў апусціў іх да самых плеч.

Мужчыны павярнуліся і пайшлі па пяску — па дарозе з гары,— Алёша чуць спраўляўся з імі.

Ззаду зноў загаманіла Наста: мусіць, нешта гаварыла немцам. Пасля крычала. Яе ўжо не было відаць з дарогі.

Алёшу стала ўсяму горача; пясок пад нагамі зрабіўся гарачы-гарачы...

Збоку ля мужчын, якраз ля Боганчыка і ля Махоркі, ішлі два немцы з аўтаматамі перад сабой і круцілі па баках галовамі; за Алёшам ззаду, чуць не наступаючы на пяты, ступаў немец у сівым пінжаку і сівой разношанай пілотцы, той, што гнаў яго да мужчын. Алёша глядзеў на дарогу пад ногі і бачыў яго бліскучыя боты. Калі немец забягаў Алёшу наперад, у яго быў відаць разрэзаны ззаду сівы суконны пінжак і высака, аж пад пахай, чорны пісталет. Было чуваць, як грукаюць па карэнні цяжкія боты, што калодкі, і шуршыць, перасыпаючыся, пясок на дарозе пад нагамі ў мужчын.

Боганчык увесь згорбіўся, угнуў шыю. Рукі ў яго былі задзёрты ўгару, адна вышэй, другая ніжэй, і ён часта згінаў галаву: даставаў шчакой да пляча: выціраўся. Мокрыя аж да калень калошы ў яго папрыліпалі да лытак; на калошы набралася пяску, і яны былі здалёку што яловая карына. Боганчык ступаў дробна і часта, маленькімі крокамі, зусім не падымаючы ног ад зямлі.

Алёша раптам падумаў, што іх вядуць страляць. Адвядуць з дарогі і пастраляюць...

Махорка ішоў пасярод дарогі, па самым пяску,— Алёша, ідучы ззаду, лучаў нагамі ў яго сляды — і то апускаў ніжэй, то падымаў угару рукі. Шырокія плечы ў яго хадзілі хадуном — Махорка часта дыхаў, як змарыўшыся. Аб'ехалі штаны, і на паясніцы была відаць белая палатняная кашуля — сабралася ў фалды. Махорка не варочаў галавой, як Боганчык, глядзеў перад сабой: блізка ішоў немец, наставіўшы аўтамат яму пад паху.

Панок увесь час кашляў; у яго аж пасінела шыя; немец, што ішоў збоку ў Махоркі, дагнаў быў Панка і пырнуў яму два разы аўтаматам у спіну: не любіў, відаць, кашлю. Панок закашляўся яшчэ горш: яго пачало тузаць. Немец тады закрычаў. Панок не мог ісці — захлынаўся: пыл з-пад ног лез яму ў горла. Ён хацеў саступіць на сцежку, але на яго наставіў аўтамат немец. Тады Панок пачаў харкаць на дарогу — немец адскочыў ад яго і зноў закрычаў: «Вэр! Вэр!..»

Адзін Янук ішоў смела, ступаючы шырака, як па вуліцы. Алёша падумаў, што Янук вышэйшы за ўсіх, што ў яго не дрыжаць ні рукі, ні плечы. Янук толькі гудзеў сабе пад нос, не сціхаючы, як асва ў акне, заляцеўшы ў хату. На яго азіраліся пярэднія немцы, але не чапалі.

Калі быў зноў закашляўся Панок і, стаўшы, схапіў сябе рукамі за грудзі, яго, падскочыўшы, пачаў яшчэ больш тоўхаць у плечы аўтаматам немец, што калоў усё роўна. Сталі былі на мінуту ўсе мужчыны, і Алёша ўбачыў, як, адвярнуўшыся, кіўнуў яму галавой Махорка. Алёша згледзеў быў яго вочы: вялікія і чырвоныя, што ўсё роўна набеглі кроўю, яны зірнулі аднекуль глыбака спадылба.

Алёша падумаў, што Махорка кліча падысці. Хоча, каб ён, Алёша, быў у яго на воку... Пасля, калі мужчыны зноў ішлі па пяску і перастаў кашляць Панок, Алёша зноў згледзеў, як яму кіўнуў галавой Махорка. Кіўнуў не азіраючыся.

«Паказвае, каб уцякаў,— падумаў Алёша.— Бо іх вядуць страляць, Махорка ведае...»

Алёшу раптам захацелася падбегчы да Махоркі і спытацца, што ён хацеў сказаць. Пасля захацелася ўчарэпіцца Махорку рукамі за штаны, як ён, Алёша, чапляўся за штаны бацьку, калі бацька гнаў яго ад сябе ў Карчаватках, згледзеўшы немцаў...

На дарозе ад мужчын пахла жытам і потам, як пахлі ўсё роўна кожны раз бацькавы штаны і рубашка на пя-

колку на печы, калі ён, Алёша, клаў іх нанач сушыць... Так пахла ад бацькі, жытам і потам, калі яны стаялі ўпобачкі ўчора ў вёсцы на вуліцы ля Махоркавай хаты...

Дарога сышла ў лагчыну; сюды, мусіць, нагнала дажджом з гары пяску, бо было не ступіць: ногі ўязджалі ў зямлю па калені.

Зноў запахла аднекуль дымам і сырым пяском...

Пасля Алёшу здалося, што пясок пасыпаўся на яго зверху, як дождж... Праваліліся некуды ногі, глыбака, да паясніцы... Зрабілася блага, стала цяжка дыхаць, зазвінела ў галаве...

Недзе крычала Наста — па лесе ішлі водгаласкі...

Спёрла ўсё ўсярэдзіне і стаяла пад грудзьмі.

Ён не хацеў ісці — аж самі рукі выцягнуліся ўперад і спружыліся. Пасля ён спружыўся ўвесь: і ногі, і шыя...

«Адвядуць у лагчыне ■ дарогі і заб'юць...»

— Вэр! Вэр!..— закрычаў ззаду немец, і Алёша пачуў, як яму сунулі ў плечы нечым вострым, аж засмылела адразу скура — мусіць, садралі. Пасля ён зглендзеў, што ўпёрся нагамі ў зямлю і стаіць пасярод дарогі ў пяску. Зноў сталі мужчыны, адвярнуўся Махорка і кіўнуў галавой.

— Не бойся, дурны...— сказаў пасля і зноў кіўнуў галавой: клікаў да сябе.

— Ёска... Ёска... Тваю маць...— замычэў Янук.

Алёша тады скочыў з месца і падбег да Махоркі, прыціснуўшыся яму да нагі. Немец у шырокай разношанай пілотцы падышоў за Алёшам да Махоркі і сунуў цяпер Махорку аўтаматам у плечы: «Вэр!..» — і зноў паказаў ісці наперад. Яго, Алёшу, не зачапіў.

Пад нагамі стала менш пяску; ён быў змешаны з сухой жоўтай сасновай ігліцай і калоў знізу ў ступні. Лучаліся трава і верас — высокі, сухі, ён дзёр дуддзём ногі ля костачак. З-за сосніку, з-за гары, біла ў вочы сонца; рэзалася пад павечкамі, як ад асця; горка было ў роце, высахла; хацелася піць.

Над соснікам, адкуль свяціла сонца, зноў падняўся пыл; сівы і густы, ён стаяў угары, спаўзаючы на дарогу. Забразгала недзе жалеза. Уперадзе як загаварылі. Ззаду заірзаў конь, Боганчыкаў жарабок,— Алёша пазнаў.

У лагчыне, пад самай горкай, сівой ад моху, як ад пылу, тор ад калёс павярнуў управа: выводзіў на шырокую, раз'езджаную, жоўтую ад пяску дарогу, якая пачыналася ля шашы ў Пушчанцы і ішла ў самае Краснае.

Гэта была старая дарога цераз Тартак. Ёй здаўна ездзілі ў Краснае, калі не было яшчэ шашы. Шашу выбрукавалі перад вайной, і па старой дарозе хадзілі толькі леспрамгасаўскія прычэпы — вазілі дрэва. На дарозе былі яшчэ знаць павыбіваныя машынамі ямы; глыбокія, па калена, яны параслі падарожнікам і мятліцай і засыпаліся сасновым шыллём. У ямах раслі казлякі, старыя, што рэшаты, счарнелыя зверху ад пылу,— па іх было слізка ступаць.

Алёша ішоў якраз каляінай.

На шырокай дарозе іх павярнулі і павялі да шашы — назад. Алёша згледзеў, як пераглянуліся былі мужчыны — Махорка з Панком; тады на іх глядзеў скоса, з-пад рукі Боганчык.

«Чаму яны нічога не гавораць? — падумаў Алёша.— Адвядуць усіх і пастраляюць...»

Яму захацелася бегчы. Скочыць у соснік і — бегчы. Рукі толькі трэба выставіць уперад, не забыцца, каб схаваць вочы, не высадзіць...

Ён успомніў, што яму хацелася бегчы, калі ўчора зганялі ўсіх да Махоркі на вуліцу. Пераскочыць на вуліцы ля Панка цераз тын і пабегчы мяжой на загуменне да пуні. Але ля пуні на загуменні хадзілі ўласаўцы...

«Як доўга гоняць... І чаму маўчаць мужчыны?»

Калі яны выйшлі з сосніка на пасеку, Алёша зноў убачыў немцаў. Яны стаялі і сядзелі на зямлі, згрудзіўшыся і заняўшы ўсю дарогу і пасеку,— мусіць, ішлі былі з шашы на Тартак. Насустрач. Над дарогай — над немцамі — падымаўся пыл; яна зрабілася шэрая ад канавы да канавы, Алёша азірнуўся — ён ішоў цяпер спераду з Махоркам — і ззаду на дарозе былі немцы. Рассыпаўшыся, выходзілі з лесу.

— Вэр! Вэр!..— немец у разношанай пілотцы забег наперад і паказаў, каб яны сталі. Выпусціўшы з рук аўтамат — аўтамат калыхаўся ў яго спераду на жываце,— ён замахаў рукамі і пабег насустрач немцам, што былі на пасецы на дарозе.

Немцы на дарозе сталі адразу ўставаць; пярэднія схлынулі з яе набок да канавы, як са страху.

Тады на дарозе паказалася чорная — аж заблішчала — легкавая машына; доўга ківалася па калдобах, тарканулася была на месцы ля немца ў разношанай пілотцы — было відаць, як выпрастаўся немец,— бліснула дзверцамі і памалу ехала насустрач. За ёю бег, махаючы рукамі і аў-

таматам спераду на жываце, немец у разношапай пілотцы. Алёша пачуў, як затупалі збоку ля іх двое немцаў, якія былі сціхлі, чакаючы машыны.

Легкавая машына была як усё роўна эмка, што прыязджала да вайны ў вёску пасля пажару і стаяла ля Махоркі на вуліцы ўвесь дзень. Такая ж чорная і пакатая...

Пад'ехаўшы, яна стала наперадзе, далекавата ад мужчын, і зноў бліснула дзверцамі. Яе дагнаў немец у разношапай пілотцы, выпрастаўся, пасля схапіўся рукамі за дзверцы і трымаў.

З машыны вылез немец і махнуў рукой — загадаў падвесці мужчын. Калі яны падышлі да машыны блізка, як на хату, і сталі, Алёша ўбачыў, што немец, які вылез з машыны і стаяў на дарозе, саставіўшы ногі, маленькі і зусім малады, усё роўна што іхні Юзюк.

Пасля немец ступіў да іх бліжэй і зноў стаў, саставіўшы ногі. Падняў быў да паясніцы руку і апусціў яе зноў уніз — адшпіліў кабуру. Немец, што стаяў збоку ля Панка, сунуў яму аўтаматам у лапаткі, паказваў вышэй падняць рукі. Панок закашляўся.

Тады немец, які вылез з машыны, ступіў яшчэ бліжэй да іх і зноў саставіў ногі. Ён быў увесь у сівым, як і той, у разношапай пілотцы, што стаяў цяпер ззаду ў яго, узяўшыся за аўтамат на жываце. На галаве ў немца ляжала шырокая круглая фуражка з сівога сукна з чорным, бліскучым спушчаным брылем — на самыя вочы. На фуражцы — на кантах — былі беленькія вузенькія палоскі; на самім брылі ляжалі скручаныя ўдвая тоўстыя белыя аборы; над імі прыкарэлі два бліскучыя матылі: адзін вялікі, з расцягнутымі доўгімі крылламі, другі зусім малы — здохлы. Белыя аборы былі і на сівым каўняры ў пінжаку; над локцем на рукаве быў такі ж самы здохлы матыль, як на фуражцы, толькі цямнейшы, нібы ў што ўмазаны; здохлы матыль быў у немца і на грудзях. Ніжэй локця на рукаве на чорным прыплюшчаным квадраціку ў яго прыліплі дзве бліскучыя літары: SD.

З легкавой машыны вылезлі яшчэ два немцы ў чорных пінжаках — з белымі матылямі і чорнымі, як вугаль, крыжыкамі на грудзях — выцягнутыя, падпяразаныя шырокімі дзягамі, і сталі воддаль, гледзячы на мужчын. Адзін, з двума чорнымі крыжыкамі на кішані, быў у акулярах і з убінтаванай рукой — трымаў яе на жываце. Другі немец у чорным пінжаку занёс рукі назад на паясніцу і расставіў ногі. Алёша ўбачыў, што ўсе чатыры немцы, якія стая-

лі цяпер спераду, глядзяць на Боганчыка: Боганчык калаціўся ўвесь, і ў яго над галавой хадзілі хадуном рукі.

Малады немец у сівым, што стаяў наперадзе, ступіў пасля яшчэ бліжэй да мужчын — да Боганчыка — і паказаў на яго пальцам:

— Бандіты?

Боганчык уздыхнуў, апускаючы ніжэй рукі.

Голас у немца быў ядраны, і гаварыў немец усё роўна як той, што біў Боганчыка на гары ля школы.

Мужчыны загаманілі ўсе адразу:

— Нарыхтоўку... тоўку...

Немец тады падняў галаву і ступіў яшчэ бліжэй да Боганчыка. Пасля загаварыў кораценька да немцаў, што стаялі ў яго ззаду: «Вэр!..» — перакладаў.

— Какую нарыхтовку?

— Хлеб... Жыта...

— У Краснае...

— Бумага ў нас...

Мужчыны зноў гаварылі ўсе разам.

— Кто імеет оружіе? — немец цяпер глядзеў на кожнага — пераводзіў вачыма з ног да галавы.

— Няма аружыя... Жыта ў нас...

— У Краснае...

— У нас бумага...

Цяпер малады немец загаварыў да немца ў разношанай пілотцы, тады сказаў нешта тым, што стаялі ззаду, пасля зноў паказаў пальцам на Боганчыка:

— Кто імеет бумагу?

Боганчык забыўся нават, што стаіць, падняўшы рукі; схапіўся адразу за кепку на галаве, перавярнуў уверх і падаў немцу, выцягнуўшы руку. Кепка дрыжала разам з рукой.

— Что такое? — немец быў хіснуўся назад.

Тады Боганчык паднёс кепку да сябе, схапіў другой рукой паперу і падаў яе немцу, адну, без кепкі.

Немец хуценька ўзяў у Боганчыка з рукі паперыну, расклаў яе ў пальцах і прабег вачыма, усё роўна як не чытаў. Пасля падаў яе немцу ў акулярах і доўга нешта гаварыў, павярнуўшыся: «Вэр, вэр, вэр...» Немец у акулярах падаў паперыну другому немцу; той узяў яе ў рукі, паглядзеў толькі здалёку, пасля дастаў руку з-за спіны і паказаў на мужчын:

— Вэр!.. Вэр!..

— Можете опустіть рукі...— малады немец узяў папе-

рыну ў немца ў чорным пінжаку і падаў Боганчыку.— Где віделі бандітов?

Мужчыны апусцілі рукі — Янук толькі яшчэ стаяў, задзёршы іх высака над галавой, тады апусціў і ён, гледзячы на мужчын,— і маўчалі. У Боганчыка зноў задрыжала рука, калі ён браў паперыну.

Закашляўся Панок.

— Где бандіты? — немец цяпер глядзеў на Махорку; пасля паказаў на яго пальцам — ткнуў чуць не ў самыя грудзі: — Ты! Отвечай!

Немец чакаў.

— У нас у вёсцы немцы...— сказаў Махорка.— Былі парцізаны... стаялі ў вёсцы... Цяпер немцы стаяць... Жыта вязём... Нарыхтоўку...

— Поедете впереді... До самого Красного... Быстро!..— малады немец паказаў рукой на дарогу на Тартак.— І еслі что...— немец падняў угару руку, пасля раптам махнуў у сябе перад носам пальцам, як што калупнуў. Паглядзеў быў яшчэ раз на Боганчыка, на яго чорную бараду, тады адразу крутнуўся на нагах — ззаду ў яго растапырыўся расстрыжаны надвая сівы пінжак, высака, да самай дзягі. Пасля стаў гаварыць моцна і доўга. Да яго адразу пад'ехала ціхенька чорная бліскучая машына — ад яе засмярдзела дымам, і немцы ў чорных пінжаках, сагнуўшыся, палезлі на сядзенне.

Легкавая машына выехала на сярэдзіну дарогі і, закалыхаўшыся ў старых каляінах, акруцілася і пасунулася назад, на шашу, ціха, як баючыся.

Запахла гарам; Алёша пачуў, як у яго найшло повен рот сліны.

Пасля яму зрабілася горача: падвярнула пад грудзі, закруцілася ў галаве, і ён стаў некудываліцца, як у яму... Падумаў быў яшчэ, што, мусіць, паслізнуўся, узбіўшыся нагамі на казлякі на дарозе, і ўхапіўся абедзвюма рукамі Махорку за паясніцу — за белую кашулю, што выехала з-пад дзягі.

— Ёска!.. Ёска!.. Тваю маць!..— закрычаў недзе ззаду за ім Янук.

## 13

Калі Махорка падняў Алёшу з зямлі — пад пахі,— пачуў, што сталі мокрыя рукі і ліпнуць адзін да аднаго пальцы.

Зірнуўшы на рукі, ён убачыў, што яны чырвоныя: у Алёшы з носа пайшла кроў.

Немцы, тыя, што гналі іх сюды, завярнулі ўжо на дарозе мужчын. Махорка пачуў, як яму раптам упёрся нехта ў плечы. Ён агляпуўся — немец, той, што падбягаў да машыны, стаяў і паказваў рукой ісці да мужчын.

«Павядуць назад, да падвод, а тады пагоняць перад сабой...» — падумаў ён, і яго раптам схапіла дрыжыка — трасла ўсяго, не адпускаючы...

Калі ён узяў на дарозе Алёшу за руку, яму здалося, што яны ў Разанцы за Дальвай...

Было гэта сёлета на згон зімы ў вялікую адлігу, калі яны ездзілі ў Рагозіна.

Адліга тады стаяла два тыдні запар — паказвала на раннюю вясну. Схавалася было надаўга сонца, асунуліся на вёску хмары; густыя, чорныя, што летам, яны ляглі на самыя стрэхі. Сыпаўся дождж, касы, востры, з ветрам — ішоў круглымі суткамі. Пад вечар драбнеў, церусіўся, як праз падсітак, і тады ападаў туман.

Густы — хоць ты пратыкай; сыры і халодны — аж не давала дыхаць, ён клаўся на зямлю, хаваючы з вачэй і хаты, і дрэвы, і дарогу,— еў снег. Усюды было сіва. Усе дні.

Раскіс на дарозе снег. Ногі правальваліся ў ваду да зямлі; вада была ў выбітых конскімі капытамі ямах і ў каляінах ад палазоў; шваргатала несціхана на полі ў барознах, што ўсё роўна ля грэблі ў крыніцы па каменні, кроіла на кавалкі на сцежках лёд, размываючы яго да чорнай зямлі, і гнала ззаду за саньмі шуму і гразь.

Абляглі ў альшэўніку пад Рагозінам гурбы, зрабіліся рудыя; пачарнела поле — латочынамі. Каркалі вароны, валюхаючыся па слізкай раллі.

Пасля адлігі ў той дзень раптоўна ўзяўся мароз. Вечарам, калі яны ўжо выехалі з Рагозіна, зайшоў з Карчаватак вецер, сухі, калючы. Пасыпаліся зверху крупы, дробненькія, мяккія, заносячы выбоіны на дарозе. Свежыя крупы былі белыя, як вата. Запахла снегам — прэснай і чыстай вільгаццю.

З поля яшчэ гнала дарогай у Разанку — у глыбокую, доўгую лагчыну за Дальвай — ваду; чуваць было, як яна булькае на лагу і хлюпае пад нагамі ў каня. З-пад капытоў у яго аж у вочы Махорку — ён ішоў збоку ля аглаблі — ляцелі халодныя пырскі і друзалкі мокрага, цвёрдага, што сухі гарох, лёду.

Цямнелася. Калі Махорка ўзбіваўся на цвёрдае, пад

нагамі ў яго шапацеў снег, што жарства, падсыхаў на марозе; трашчаў ценкі лядок — у лужах сцінаяася вада. Вецер браў за шчокі. Намоклі па калені ногі ў старых, падшытых лямцам валёнках з парванымі заднікамі — другога ў ваду не было чаго абуць; рабілася холадна ў пальцы і ў пяты, і калі ён ступаў — чуў, як слізка ў валёнках нагам: пассоўваліся ў насы анучы, і ногі коўзаліся, што па гразі. У руках былі намоклыя, цвёрдыя, як луб, лейцы і рэзаліся ў голыя пальцы: рукавіцы Махорка згубіў яшчэ ў Рагозіне, мусіць, забыўся ў Янэчыка на двары, пад паветкай ля пуні, калі ўціскалі воз,— не помніць добра.

Храпе, цёпкаючыся ў вадзе, конь, б'е ў хамут і рве аглоблі — могуць лопнуць акрутні, старыя ўжо, служылі цэлую зіму; верне, каб вылезці з каляіны, з вады на сухое,— можа перакуліць воз, і трэба ўсю дарогу тузаць за лейцы. Чуваць, як пад вадой палазы дастаюць да самай зямлі і скрыгочуць па каменні, што свінні зубамі; аселі развалы, салома шуршыць і шапоча па снезе, аціраючыся з воза; задзёрся ўгару парубень, мусіць, ад'ехала вяроўка. Каню цяжка, не ў сілу, не трэба было класці такі воз — упоравень са страхой. Салома жытняя, збітая, ляжала ў пуні ў Янэчыка пластамі. Ад добрага жыта — бо слізгалася ў руках і бліпчала. Пора ў шчаку, што дубцамі, калі спатыкаешся і ўпіраешся ў воз.

Стары Янэчык, выйшаўшы з хаты, прасіўся, каб не бралі многа, але на яго крыкнуў Сухаў, і Янэчык, адышоўшыся да ганка, стаяў і глядзеў, як уціскалі воз.

Сухаў — з «Барбы»; некалі, як толькі паявіліся партызаны,— немцы прыйшлі летам, а партызаны паявіліся ўвосень,— Сухаў з напарнікам — Махорка ўжо забыўся, як таго звалі, той даўно недзе дзеўся, і Сухаў пра яго не ўспамінаў — стаялі ў Дальве ў Боганчыка: і днявалі і начавалі. Іх звалі «штатнымі». Нечага, відаць, глядзелі — закапана, можа, дзе іхняе было што блізка. Пасля, як за Леснікамі стала ў лесе «Барба», Сухава ўжо ў вёсцы не было, ён прыязджаў толькі па падводы — ехаць у абоз. Сухаў быў невысокі, чорненькі; у чорным падпяразаным дзягай кажуху — на дзязе ззаду кабура з пісталетам; у чорных валёнках і чорнай вялікай кубанцы з чырвонымі, пацямнелымі палосамі накрыж. За плячом ён насіў доўгую вінтоўку — сэвэтэ. Яна ў яго была яшчэ тады, калі ён паявіўся ў Дальве і стаў у Боганчыка.

Сухаў астаўся ў Рагозіне; сказаў — дагоніць іх у Дальве.

Храпе ззаду Боганчыкаў жарабок, блізка, за самым возам; чуваць, як мацюкаецца Боганчык — ідзе з гэтага боку, дзе і Махорка. За Боганчыкам едзе Сяргеішын Алёша — сядзіць на возе. У Алёшы кары з казой: на бабы пакладзены дошкі; воз у яго доўгі, яму цяжэй абярнуцца, і яго пасадзілі на воз яшчэ ў Рагозіне ў Янэчыка на двары: загібее ў вадзе.

У Разанцы зусім сцямнелася; усхадзіўся вецер, сыпаў і сыпаў крупамі і ныў збоку ў возе ў саломе; за Рагозінам, адкуль яны ехалі, пад'яснілася, пабялеўшы, неба. Было відаць, як па ім беглі хмары. Пасля там выехаў маладзічок, вузенькі, востры і чырвоны — што з агню. Нізка, ля самай зямлі.

Заблішчала ўперадзе на дарозе вада.

Далёка за Рагозінам — мусіць, у саміх Альковічах, дзе быў гарнізон,— застукаў кулямёт, глуха, што з-пад зямлі. Натапырыўся конь, задзёр галаву. Пасля ззаду рэдка і доўга стралялі з вінтовак — як і кожную ноч.

Пад нагамі пабольшала вады — спускаліся ў Разанку. Нахіліўся воз, пад вадой не было відаць следу, не пакіруеш. У Разанцы яшчэ не прарвала дарогу, вада ішла паверху, па лёдзе, разліваючыся шырака, на паўганей. Сплываючы пасля за дарогай у вузкі і чорны ручай, яна пёрлася як шалёная — вірам — і стагнала, што ў рацэ.

Махорка пусціў каня аднаго: конь стары, сам знойдзе дарогу. Ускінуўшы лейцы яму на спіну ля падсядзёлка, ён сышоў п дарогі і пайшоў пасля ззаду за возам.

Вада зайшла за калені, набегла ў валёнкі, халодная, як лёд. Закалола адразу ў пальцы.

— Но-о!.. Но-о!..— крычаў Махорка, упёршыся ў воз ззаду ля вяровак; чуў, што аслаблі вяроўкі, адпусціліся, і баяўся, каб не выехала з-пад парубня салома... Хроп уперадзе конь, рваў сані; вада апала, не даставала да калень, і Махорка падумаў, што праехаў Разанку, што конь захроп, беручы пад гару. Трэба было ўзлезці на воз, пацягнуў бы конь, а то здурнеў — самахоць памачыў ногі. Стала холадна, падскочыла злосць; забегшы наперад, Махорка схапіў лейцы і замахнуўся з-за вуха... Але конь ча́паў і ча́паў, напяўшыся, аж скрыпелі гужы — ведама сырамец, расцягваліся,— і трашчалі пад саломай аглобні — маглі лопнуць акрутні. Махорка зноў ускінуў лейцы каню на спіну.

Стралялі цяпер ужо бліжэй, у Рагозіне. Уверх ляцелі кулі, чырвоныя, як іскры, і гаслі аж тут, над Разанкай.

Зрабілася зусім цёмна, схаваўся маладзік; пабольшаў вецер, заныў у возе ў саломе, усё роўна што дзе завылі ваўкі; падрабнелі крупы і секлі ў шчокі, як пяском.

— Мірон!..— клікнуў раптам Боганчык, сіпата, усё роўна што захліпаўся.

Махорка тады агляну ўся назад — яго быў падхапіў вецер, чуць не скінуўшы з ног... Ззаду на дарозе чарнеў Боганчыкаў жарабок; ля яго бегаў сам Боганчык — з аднаго боку на другі. Бліснуў на вадзе агонь — мусіць, Боганчык быў з папяросай. Тады Махорка ўбачыў, як па снезе ля дарогі, абышоўшы Боганчыка з возам, ідзе Алёшаў конь, даганяе яго, Махорку. Цёпкае па вадзе, цягнучы за сабой аглоблі...

— Мірон! — Боганчык крычаў цяпер аднекуль з-за воза: яго не было відаць.

Аббегшы Боганчыкавы сані, Махорка ўбачыў, што на дарозе ляжаў абернуты набок у самую прорву Алёшаў воз; відаць былі з-пад саломы кары з казой і вышараваныя белыя шыны на палазах. Вада, абмінаючы воз, хлынула ў бакі, і да яго было не падступіцца.

— Алёша!..— крыкнуў зноў Боганчык. Ён стаяў цяпер ля сваіх саней ззаду, не адыходзіўся, як баяўся ўсё роўна вады.

Махорка толькі цяпер агледзеўся, што нідзе не відаць Алёшы.

«Прыцісн**у**ла...» — падумаў ён.

Вада ля воза займала вышэй калень; чорная, з друзалкамі дробнага лёду, як насечанага.

— Алё-ёша!.. Цыган!..— закрычаў Махорка і падумаў, што Алёшу не магло прыціснуць возам, бо ён сядзеў наверсе, яго недзе скінула ў самую прорву...

Усюды шумела вада: булькала ля перакуленых саней пад саломай і стагнала пад Рагозінам у глыбокай лагчыне...

Ламаўся лёд, ногі правальваліся на той свет — хоць бы на што аперціся...

Абышоўшы вобмацкам воз, Махорка пабег, коўзаючыся па лёдзе, ля самай прорвы ўніз, у Разанку...

Стагнала вада; вецер быў якраз у вочы; дубелі, не гнуліся ногі... Недзе ззаду ля вазоў нокаў Боганчык, паганяў жарабка: мусіць, выязджаў з вады.

— Алёша!.. Сукін сын...— закрычаў зноў Махорка і пачуў, як праваліўся пад лёд да паясніцы.— Хлапец!..

Займала дыхаць; гнала вада, збіваючы з ног...

Пасля Махорку здалося, што нехта ўчапіўся яму за кажух, ля паясніцы, моцна, як у дзве рукі... Ён агледзеўся і ўбачыў ззаду Алёшу...

— Цыган... Мадзь тваю так...

— Гэ-эй! Гэй! — гаманіў ззаду на дарозе Боганчык, і свісцеў у лагчыне вецер, нізка, над самай вадой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі Махорку зноў таўханулі ззаду ў плечы, ён убачыў, што астаецца ад мужчын, не спраўляецца ісці. У Алёшы з носа цурчом лілася кроў, капаючы аж на дарогу ў пясок, і Алёша задзіраў угару галаву і спатыкаўся. Рука ў яго змокла, зрабілася мяккая і выслізгвала — не ўзяцца.

— Легчы трэба... На зямлю... Што ж з табой рабіць?..

Алёша, папярхнуўшыся, закашляўся. Зрабіўся белы як палатно.

Махорка, мусіць, быў стаў, бо ззаду яму зноў таўханулі ў плечы.

«Трэба данясці хлапца да вазоў. Узяць на рукі і несці перад сабой. Не дойдзе...» — падумаў ён.

Махорка сядзеў цяпер на возе, звесіўшы ногі з ляжэйкі, а яму здавалася, што ён ідзе сцежкай, па якой ззаду паўзе гадзюка...

Цела зрабілася шорсткае, што ад асця; здавалася, на скуры высыпала сыпка. Між лапатак стаяў холад — там не высыхала мокрая рубашка. Траслося ўсё ўсярэдзіне, і вунь як не хацелася ехаць — хоць забі.

«Вот табе і Пунішча. Нават не справіліся даехаць. Што цяпер?..»

Адвярнуўшыся, Махорка зірнуў на Боганчыка. Той ішоў ля калёс, узяўшыся за ляжэйку, і глядзеў уперад.

Усе былі ля сваіх вазоў — загадалі немцы. Яны загадалі яшчэ не сыходзіцца ў кучу і не гаварыць адзін з адным. Пагоняць перад сабой праз Тартак. Шаша недзе перакапана... На шашы завалы... А тут, на дарозе, яны баяцца мін. І засады баяцца... Хаваюцца за плечы, як у Камене. У Камене яны аж два разы выганялі з вёскі людзей і пёрлі перад сабой на лог да Віліі, дзе на другім беразе былі партызанскія акопы. І старых і малых...

На дарозе грукалі нагамі немцы, як усё роўна з сосні-

ку, з гары, сыпалася каменне,— ішлі ззаду, услед за падводамі.

Над дарогай падняўся пыл — роўна з лесам, яна стала ўся сівая, як ад дыму. Немцы падымаліся з лагчыны на гару, і здавалася, што яны вылазяць з зямлі — галовамі. Ішла, відаць, рэгулярная часць — немцы варочаліся з вёсак у Краснае ці, можа, нанава хлынулі з-за Віліі шашой, каб праз Краснае і праз Лепель прарвацца на Палік...

На дарозе ад сонца блішчалі вінтоўкі і аўтаматы, як чорнае шкло. Блішчалі, што выпацканыя ў дзёгаць, чорныя прыклады — немцы няслі вінтоўкі стваламі ўніз; на канцах прыкладаў блішчала шырокая белая бляха. Блішчалі ўгары ў пыле штыкі — нажы — і чорныя скрыначкі на плячах у немцаў, мусіць, з патронамі; блішчалі каскі, вялікія, з чыгуны, у якіх дома вараць свінням бульбу, з загнутымі кароткімі брылямі над вачыма, з белымі, маленькімі намаляванымі матылямі над вушмі; блішчалі плешкі ад балтоў на касках, белыя, што вышараваныя ў пяску; блішчалі на дзягах белыя кацялкі; блішчалі чорныя кулямёты з доўгімі і тупымі рулькамі ў вялікія дзіркі, бліскалі мінамёты за плячыма ў немцаў — маленькія, чорненькія, на жалезных падстаўках, вузкіх і доўгіх, што ўсё роўна на бляхах, на якіх дома ў печы сушылі баравікі і ячмень на крупы...

Махорку здалося, што блішчыць уся дарога... Ён падумаў, што гэта б'е з-за сосніку ў вочы сонца, не дае глядзець, і адвярнуўся...

Пад'язджалі да павароту, да старога раскіданага маста ў лагчыне. За мастом злева на імшарах было недзе Пунішча...

Дарога ішла лагчынай, паабапал дарогі воддаль раслі старыя рэдкія сосны; ля самай зямлі па сівым моху слаўся малады соснік і пад'ялевец.

На глыбокім, густым і дробным, як перасеяным на рэшата, жоўтым пяску на дарозе тырчалі што ўкапаныя сасновыя пні — чорныя смалякі, абдзёртыя восямі і вымазаныя ў дзёгаць, і раслі сасонкі, дробныя, жоўтыя: не ўсталі з зямлі.

З гары, калі ішоў дождж, відаць, гнала сюды пясок, да самага маста; конь правальваўся па калені, і Махорка звярнуў набок, на цвёрдае: на сівец і верас. Ля маста было свежа; над самым соснікам нізка стаяла сонца, і ён блішчаў увесь ад расы. Запахла балотам, гразёю і сырым бабком; зафорскаў конь, чуючы ваду,— хацеў піць.

За мастом дарога выводзіла на стары буй. Пачынаўся Тартак...

На гэтым месцы, выбітым і калясьмі і леспрамгасаўскімі прычэпамі,— тут вазілі да вайны ўвесь час лес да Дзвінасы, пад самае Краснае,— стаяў некалі тартак — лесапілка. Ля лесапілкі быў і млын. Лесапілкі даўно ўжо не стала, а малоць у млын вазіў яшчэ яго бацька, калі быў жывы, Махорка помніць.

На буі ўсюды было панакідана старога дрэва. Доўгае і кароткае, кругдякі і пашчапанае, яно ляжала ля самай дарогі, паўязджала глыбака ў зямлю, пагніло, патрэскалася і парасло белым мохам, струпаватым і дробным, што кароста; пазасыпалася жоўтым пяском, які невядома адкуль браўся тут,— мусіць, яго панарывалі краты, точачы норы. Ад сасновага бярвення паасталіся смаляныя асяродкі — тоўстыя і буграватыя, яны ляжалі на самай дарозе, усё роўна як яе хто вымасціў ад гразі, і драгка было ехаць. Ляскаталі калёсы — здавалася, парассыпаюцца драбіны; кідала з боку на бок, як на грэблі ля вёскі; аднекуль з меха пырскала ў вочы жыта: па зярняці.

Была відаць здалёку белая бяроста — цэлыя кучы, усё роўна як хто нассоўваў яе ды не даў рады забраць ці спаліць; ля бяросты ляжала ўпокат чорная, у белыя пісягі, з нарастамі губы і цэру, крывая, тоўстая, не абхапіць у камлі, бяроза. Сям-там блішчалі сасновыя намазгляватыя, без кары кругдякі, не пагнілі і ляжалі ўпакат — у два-тры бярны,— дзе некалі, мусіць, былі высокія, не дастаць з зямлі рукой, шліхты. Пасля іх раскацілі людзі, рассунулі бомкамі і пусцілі ў гатар. Гатар рэзаў цвёрдую з камля, што камень, сасну, засыпаючыся чырвоным ад смалы, як акрываўленым, пілавіннем; крышыў на соль доўгімі і вузкімі, нацягнутымі, як струны, піламі сухія сукі, што ішлі ў дрэве ад самага сэрца; стукаў з натугай, як надрываючыся, калі людзі, упёршыся рукамі, пхнулі яму пад зубы дрэва; пасля ныў, як шалёны, калі аставаўся парожны, раскінуўшы на бакі шырокія, тонкія, белыя, як сыр, дошкі — усё, што асталося ад дрэва. Дошкі хапалі з-пад піл чорныя, у смале, чалавечыя рукі і адкідалі далёка ў шліхту, а з другога боку зноў пхнулі на цялежках па рэйках сасновы цвёрды камель пад самыя зубы, і зноў гатар засыпаўся пілавіннем, задыхаючыся...

Вецер гнаў пілавінне далёка на буй, ці, можа, яго адвозілі далей ад лесапілкі і ссыпалі, і яно ляжыць яшчэ хоць дзе і цяпер, не пагніло. Там, дзе былі сасновыя шліхты, на



Іван Пташнікаў,
рэдактар мастацкай літаратуры
Дзяржаўнага выдавецтва БССР.
*1957 г.*

зямлі блішчыць смала. Яна некалі цякла з перарэзанага непадсочанага дрэва, капала і сохла. Цяпер смала — што журавіны на балоце, калі пачынаюць спець. Яе што насыпана, і яна ўсякая: і жоўтая, і чырвоная, і белая. Лучаюцца і вялікія друзалкі, з яйцо, і меншыя, з арэх.

Ля гнілога дрэва пусціўся расці маліннік. Густы і цёмны, ён слаўся па зямлі, хаваючы з вачэй трасочнік і сівое выпетранае пілавінне. Тырчаў кустамі белы сівец, насеяўся, і пайшоў у рост верас, высокі, сухі і разгаты — адны дудкі. Далей ад дарогі на буі відаць былі кунатыя зялёныя сасонкі — раслі памялом, і адскочыў высокі і гонкі бярэзнік — яго ўжо можна было рэзаць на венікі: мясці ў хаце.

Лес засцілаў і хаваў з вачэй здратаваную зямлю, хаваў першы тартак, які зрабілі тут, калі яшчэ ў хатах ляжалі халодныя, не ступіць босай нагой, з чырвонай гліны, убітай пранікам, падлогі; калі трэба было, паклаўшы на высокія сталюгі дрэва, выразаць рукамі дошку за дошкай...

Махорка помніць: як ён быў малы — на двары ля варыўні на сталюгах рэзалі дошкі. Пілавіння было цэлы двор — аж да ганка.

Праз некалькі гадоў ад тартака астанецца толькі званне; гэта месца: і лог у самы кут да ракі, і буй, і лес за мастом на гары — будуць зваць адно Тартаком, як завуць ужо і цяпер. Толькі доўга яшчэ будзе ляжаць ля дарогі вялікае белае каменне, пакуль не патрэскаецца, не абрасце мохам, не пачарнее і не ўедзе ў зямлю — навек. На ім зноў тады вырасце лес — падыдзе да самай дарогі, як і даўней...

На буі пахла смалой, густой, сасновай. Так пахла смала на падсочцы пад Карчаваткамі. Яна і цяпер яшчэ ляжала там у тарнітках — можна знайсці ля пнёў — застыла, цвёрдая, што камень, і бліскучая, як шкло.

Пах смалы быў сухі і горкі — хацелася кашляць. Здавалася, ён вісеў над дарогай ад учарашняга, калі пякло сонца,— вісеў у лесе, як у сценах, не баючыся халоднай начы і туману.

Немцы ішлі ззаду, услед за Насцінымі калясьмі,— ускруцілі пыл, ён падымаўся вышэй лесу, рабіўся руды ад сонца і поўз над соснікам у лагчыну на балота,— грукалі нагамі пасярод дарогі; саступалі з пяску набок, на траву, заходзячы наперад Буланчыку, агіналі калёсы, як усё роўна шырокай падковай, і зноў блішчалі на сонцы з галавы да ног, аж слеплі ад іх вочы...

Махорка падумаў, што недзе так немцы ішлі і за каменскімі бабамі, калі гналі іх да броду перад сабой...

Немцы, было відаць, ішлі ззаду з перарывам: валілі валам, тады дарога была пустая, стаяў толькі пыл; пасля зноў пачыналі ісці і ішлі без сканчонага.

Цяпер, калі Махорка азіраўся, бачыў, што пыл падымаецца аж за пасекай над лесам — ля шашы. Там раўлі машыны і глуха бразгала жалеза.

На шашы, мусіць, танкі, шашу недзе завалілі, і танкі пойдуць сюды, на Тартак...

— Паганяйце!..— крыкнуў ён; яго ўсё яшчэ трасло: адпусціць, тады зноў схопіць, як голага...

«Мне ўжо, што звеpу... трэба шукаць цёплага месца, каб дзе пагрэцца на сонцы»,— падумаў ён.

Над дарогай праляцеў, цыльгікаючы, дзяцел — над самымі калясьмі; запахла аднекуль сырой зямлёй, аж зрывала нос.

Пасля на дарозе ззаду раптам зрабілася ціха, усё роўна што сталі былі і калёсы і немцы...

Калі Махорка пачуў, як стрэлілі — блізка і ядрана, аж рэха пайшло лагчынай,— не пазнаў адразу дзе: здалося, як усё роўна над вухам...

Ён спопаразку адвярнуўся: яны былі ўжо ў лагчыне — у самым Тартаку.

Ззаду за ўсімі махала і махала лейцамі Наста: астаўшыся, паганяла Буланчыка. За ёй усё яшчэ ішлі пярэднія немцы, блізка, падковай. Махорка падумаў быў адразу, што трэба было б памагчы Насце падапхнуць калёсы, бо Буланчыку цяжка па пяску. Пасля ён зглedзеў, як становіцца ў пяску і Панкоў конь: пройдзе-пройдзе і стане. Панок сядзеў на возе, звесіўшы галаву. Не было на калёсах толькі Боганчыка. Пацямнела рабая Таніна кабыла — ад пылу.

Пасля адразу ад трэску зашумела ў галаве, і Махорка пачуў, як яго таўханулі знізу калёсы — рвануў, мусіць, Сібірак — і скінулі з воза. Ён, схапіўшыся за ляжэйку, ускочыў быў адразу на ногі...

Р-р-р...— трашчала ззаду на дарозе ля маста, як у агні. Над гарой, адкуль яны з'ехалі, падняўся густы пыл, засцілаючы соснік да самай зямлі.

Пыл падымаўся кучкамі і на дарозе ля падвод: блізка ля Алёшавых калёс...

— На зямлю!.. Дзяцей на зямлю!.. — закрычаў Махор-

ка, не чуючы самога сябе, і пабег, сагнуўшыся, назад ля падвод.

Убачыў быў, як кінула з рук лейцы Наста і пабегла яму насустрач. Страпянуўся на возе Панок: конь рвануў яго разводы з дарогі пад соснік. Панок тросся і кашляў, але яго не было чуваць.

— Дзяцей на зямлю!..— закрычаў зноў Махорка і падумаў, што Наста яго не чуе: мінула Алёшавы калёсы і бяжыць воддаль ад вазоў наперад, сюды, да мужчын...

Махорка тады падбег да Таніных калёс і, схапіўшы Таню пад пахі, сцягнуў на пясок...

Таня ўчарэпілася яму за рукі і не пускала ад сябе...

— Не ўставай!..— загадаў ён.— Аш-шалела...

Пасля, стоячы на каленях, убачыў, што Наста ўсё яшчэ бяжыць па пяску, схапіўшыся рукой за грудзі — задыхаецца.

— Кладзіся!.. Здурнела, маць тваю так!..— замахаў ён на яе рукамі.— Заб'юць...

Наста ўсё бегла, мінуўшы Алёшавы калёсы,— бегла, мусіць, да Тані...

— Алёшу!.. Алёшу глядзі!..— закрычаў ён зноў.

Але Наста бегла, не чула.

Тады ён згледзеў, што Алёша сядзіць усё на калёсах, не кратаўшыся, як прырос...

Падняўшыся з калень, Махорка пачуў, што яму стала ўсяму горача і круціцца ў галаве, усё роўна як чым яе ўдарылі...

Алёша сядзеў на калёсах, увесь жоўты, што агонь; вадзіў толькі галавой з боку ў бок... Пасля Махорка ўбачыў, што жоўтая стала зямля і мяхі... Падумаў, што гэта ў яго ўваччу.

Недзе блізка заірзаў конь. Закрычаў Панок, як усё роўна наперадзе...

Махорка тады, бегучы, глянуў на дарогу і ўбачыў, як у лагчыну, сюды, дзе сталі падводы, хлынулі немцы. Беглі соснікам, прыгнуўшыся; сыпаліся дарогай адзін за адным, топчучы ўсё жывое пад нагамі; падалі пластамі на зямлю ў пясок — кладліся аблогай...

Махорку раптам здалося, што з гары сыплюцца мышы... Усё роўна як хто касіў у тым баку на балоце ля маста і, размахнуўшыся касой, падкінуў з кургана ўверх мышынае гняздо... З гнязда рассыпаліся мышы; дробныя, сівыя, яны пішчалі, прыбітыя і парэзаныя, на чым свет стаіць, аж закладала вушы...

Махорка падумаў, што немцы лучылі на засаду, што партызаны зрабілі яе ля маста пад самым Красным, дзе іх зусім не чакалі. Немцы рынуліся ў лагчыну, бо па абозе з засады не стралялі — прапусцілі наперад... Яны хаваліся за людзей, як у Камене...

Махорка пачуў, як над галавой засвісталі кулі, кароценька і востра — цюў! цюў! — і білі па дарозе, па пяску, цвёрда і глуха, усё роўна як хто луціў цапамі па кучы жыта на праціўні ў пуні. Застрыг вушамі і рвануўся з аглабень Алёшаў конь.

Па іх цяпер стралялі і ад маста, з лесу, з засады, і з балота, куды схлынулі з дарогі немцы... Яны цяпер, усе сямёра з падводамі, асталіся адны на дарозе... Трэба бегчы ўсім за паварот да маста — да партызан. Каб толькі Алёшу схапіць з воза...

— Кладзіся, дурная!..— крыкнуў ён зноў Насце. Яна бегла якраз на яго, раскінуўшы рукі, усё роўна як хацела злавіць... Яму здалося, што ў яе чорныя вочы, як галавешкі, і вялікія-вялікія. Бегаюць і бегаюць, не ведаючы, за што ўчапіцца...

Ён як быў сагнуўшыся, дык і штурхнуў яе абедзвюма рукамі — у самую паясніцу... Яна расцягнулася была на траве, на белым сіўцы, выставіўшы рукі, тады раптам страпянулася ўся і, ускочыўшы, пабегла зноў наперад...

«Да Тані...» — падумаў Махорка і закрычаў:

— Назад!.. Назад да маста! Сам забяру дзяўчыну!

Наста бегла цяпер сагнуўшыся, як і ён, Махорка, не махала рукамі і, павярнуўшы галаву, глядзела адно, утаропіўшыся, на той бок дарогі, да маста, адкуль стралялі...

Пасля Махорка ўбачыў, як падняўся на заднія ногі Алёшаў конь — задзёрліся высака ўгару, аж стаймя, белыя аглобні — тады памалу-памалу пачаў асядаць на дарогу, усё роўна што баючыся ступіць на яе бліскучымі, вышараванымі аб пясок падковамі... Чмякнуўся пасля цяжка, што ссечанае дрэва, схаваўшы ў пясок галаву з вялікімі мокрымі вачыма... Зазвінела, лопнуўшы, атоса і стукнулася канцом па зямлі ля самых ног у Махоркі — спераду. У вочы пырснуў пясок.

Цяпер Махорка ўбачыў Алёшу высака на мяхах... Той сядзеў нагнуўшыся ўперад і, раскрыўшы рот, глядзеў на дарогу — на каня... У яго расшпілілася на грудзях чорная рубашка — раз'ехаўся замочак — і спаўзла з плячэй. Было відаць голае маленькае худое плячо — пачырванела

збоку — Алёша, мусіць, адлежаў яго на мяхах, едучы ўсю дарогу.

Махорку зноў было здалося, што Алёша ўвесь жоўты...

— Далоў!.. Далоў, сукін сын... Адурнелі ўсе...

Махорка выпрастаўся ля самых калёс і ўбачыў, як з мяхоў кулем скаціўся на зямлю Алёша, нібыта Махорка яго лавіў і ён не хацеў дацца ў рукі...

— Назад, сукін сын!.. У Лажок, да маста... У Лажо-о-ок... Да ма-а-ста... На-аста!.. На Пунішча!..

Цюў, цюў... Кулі зачапілі мяхі ў Алёшы на возе, блізка, ля самых грудзей у Махоркі. Па шчацэ сцебанула жыта, усё роўна што пырснула з-пад цапоў у малатарні... Пасля ён пачуў, як яго ўдарыла ззаду нечым цяжкім і цвёрдым у плечы...

Затрашчала цяпер за мастом, на самай гары, адкуль яны ехалі,— за паваротам... Стралялі і адтуль, мусіць, удоўж па дарозе сюды, у лагчыну, куды беглі немцы...

Адняліся раптам ногі па самыя калені; Махорка хацеў быў учапіцца рукой за ляжэйку, але не слухала рука. Здалося, што дарогай пагнала жоўты пясок; пясок заняў аж па пахі, і ў ім мякка стаяць, што прыхінуўшыся на лагу да капы сырога сена. Горача стала ў плечы і мокра — гэта сена стаяла складзенае ў капу ўсю ноч, угрэлася і гарыць...

Ён здагадаўся: па ім стралялі з балота немцы — якраз у спіну... На партызана падумалі: бегае па лесе ў чорным...

Падаючы, ён чуў, як дугала на дарозе, нібыта гналі ад маста ў лагчыну коней. Убачыў, што зноў бягуць немцы, азіраючыся і страляючы назад. Далёка, на самай гары за мастом, бушаваў агонь — высокае жоўтае полымя лізала соснік. За ім не было відаць неба.

Пасля Махорка ўбачыў, што гарыць і ля маста — гарыць лес; немцы ўсё бягуць яшчэ дарогай адтуль — заднія, мусіць,— падаюць, устаюць і зноў бягуць сюды, у лагчыну.

Ударыўшыся аб зямлю, ён пачуў, што захлынаецца ад пылу. Запахла гарам... Здалося, гарыць вёска — Сяргеішына хата і свіран — і бягуць з вёдрамі людзі...

Пасля ён убачыў угары белае неба, яно было гарачае-гарачае, як учора днём, калі зганялі ў вёсцы людзей.

Горача стала ўсяму — знізу, ад зямлі. Разанула глыбака-глыбака ў плячах... Балюча зрабілася ў грудзях і мокра... Займала дыхаць...

Здрыганулася недзе падыспадам зямля, і стала адразу ціха.

З калёс з меха пасыпалася жыта — яму на рукі.

Ён згледзеў яшчэ, што ўгалавах у яго расце авёс, насеяўся на дарозе: малады, зялёны, з цёмным доўгім зернем...

«А нам, татарам...» — падумаў ён і яшчэ быў падняў руку...

## 14

Конь напінаецца ў аглобнях, усё роўна як у пастронках, калі ідзе гранкай, запрэжаны ў плуг. Завальваюцца колы ў выбітыя ямы на дарозе, і Панку зноў здаецца, што ён дома ў гародзе ад фермы ганяе гранкі...

Выскоквае плуг, ссоўваючы ў баразну разам з зямлёй мёрзлы чорны бульбеўнік, хоць крук ад ворчыка зачэплены аж на крайні зáзубень, і тады трэба яму, Панку, ідучы баразной, трымаць ручкі адной рукой, а другой хапаць за тугую павіваную новую пяньковую лейчыну і цягнуць на сябе што ёсць сілы. Лейцы паўзуць на спіну — Панок быў зачапіў іх за шыю, і ён спыняе каня. Скідае лейцы з шыі і завязвае іх на засмаржку ля белай новай бярозавай ручкі, якую сам вычасаў учора тапаром на дрывотні, агабліў скоблямі і прапёк у ёй, нагрэўшы ў пячуры ў чырвоным вуголлі шыла, дзірку, каб асадзіць на пляскаты жалезны канец.

Ручка не выслізганая, за яе добра трымаць плуг, і Панок паклаў на яе даланю, падпёршы знізу, а пальцамі напінае лейцы. Каню цяжка ісці высокай гранкай: параконны плуг з шырокай паліцай лезе аж да жоўтага пяску, адкідаючы ў мелкую ад акучніка баразну шэрую густую раллю.

Трашчыць пад нагамі ў каня і пад дышлем у плузе каліўе мерзлага сухога бульбеўніку — яго не паспелі зжаць, схапіў мароз; стукае адно аб адно каменне — скочваецца з гранкі на дно ў баразну; лопае ззаду ў баразне крыллем певень — кліча курэй.

Пахне зямлёй і сухім авечым гноем, які не згніў за лета на гародзе пад ферму; пахне сырой глінай і свежым хрэнам, парэзаным у зямлі вострым нарогам,— гэта ля самай мяжы ад вуліцы.

Пахне бульбай на ўвесь гарод, як у варыўні з загарадкі...

Калі Панок на завароце пускае каня на мяжу ў лебяду і канаторжнік і, узяўшы ў руку пугаўё ля самага канца, счышчае ад гліны і пяску паліцу ў плузе, тады адгінаецца, каб перавясці дух і адкашляцца,— бачыць чорную гранку з бліскучай баразной на дне. Баразна блішчыць там, дзе ішоў палазок,— доўгая, ад вуліцы аж да фермы, і ўся жоўтая ад паспешкі і сібіркі. Ля самых ног на чорнай раллі ляжаць, што дробная бульба, скручаныя ў кольцы белыя чэрві з жоўтымі галовамі — павыворваліся глыбака з зямлі, і іх клююць куры, кудакчучы на ўвесь гарод. Куры бягуць услед за плугам, даганяюць і дзяўбуць за канец — за вузел — белую вераўчаную пугу.

Додніцай быў мароз — ляжаў на траве іней,— і холадна ў баразне ў босыя ногі; на пырніку на гранках і на бульбеўніку блішчыць на сонцы раса, усё роўна што бітае шкло, якога панавозілі ў горад з гноем за многа гадоў.

Узышло сонца, паднялося над соснікам; на чыстым небе яно аж пераліваецца, скача ўваччу, і чуваць, як пачынае грэць у спіну, усё роўна што стаіш ля чалесніка, калі топіцца ў печы.

За ракой, на Выганчыку ля грэблі, туман — падняўся ўгару роўна з альшэўнікам, і відаць, як з зямлі ад агню, дзе спалі ноччу начлежнікі, ідзе дым. Туман відаць і ля лесу на загуменні, дзе ляскочуць па дарозе калёсы.

Ціха, чуваць, як у тым канцы вёскі галяшыць певень; скрыпяць дзверы на загуменні ў некага ў пуні; з комінаў ідзе высака ўгару дым, слупам, што зімой у мароз. Неба рэдкае — днём будзе горача.

Загуменнем вядуць коней — людзі запрагаюцца выбіраць бульбу...

Спаўзае ў баразну конь, лезе наверх плуг — не памагае, што падымаеш яго ўверх за ручкі: глыбака пасеялі вясной бульбу, на пяску — баяліся, што будзе сухое лета.

Горача робіцца ў плечы, яны макрэюць; ліпне да лапатак кашуля.

Трэба было б паклікаць Верку вадзіць каня, але яна не спарадкавала яшчэ ў печы; пасля пабяжыць да Махоркі пазычыць мяхоў; прыйдуць з вёскі выбірачкі, каб не стаялі. Хаця ўсё роўна трэба будзе ссыпаць бульбу ў кучу — накрыецца панач бульбеўнікам, саломы можна будзе паднесці, калі пакажа на мароз... Ды і нашто яе ўсю вазіць неперабіраную на двор у варыўню... Назад у яму тады зноў вазі — насіся толькі з поўнымі мяхамі цераз па-

рогі. Такой пагодай бульбу можна адразу вазіць і сыпаць у яму.

Пахне з двара з коміна гарэлым сасновым памялом — Верка выпаліла ў печы і садзіць хлеб. Вялікія, белыя і цяжкія буханкі, памечаныя пальцамі па краях, яна ссоўвае з шырокай, пасыпанай мукой лапаты на падмецены памялом дачыста пол.

Выбірачак трэба будзе садзіць у палудні за стол; хлеб якраз спячэцца і астыне ў сенцах на шафарні, абліты зверху халоднай вадой.

Выбірачкі прыйшлі загуменнем; пралезлі ў плот, сагнуўшыся і адсунуўшы ля нізу, ля самай зямлі, жэрдку,— Наста наперадзе, другія за ёй; паскідалі з плячэй суконныя жакеткі і сачыкі: ведаюць наперад, што ўгрэюцца,— і сталі займаць гранкі, кідаючы ў барозны, яшчэ здалёку, новыя белыя каранёвыя кошыкі. Наста прынясла з сабой з дому на плячы мяшкі; пайшла баразной, скідаючы іх адзін за адным на гранку, каб пасля далёка не насіць у руках поўныя кошыкі; дастанецца і так: гранкі даўгія, ад фермы ад мяжы да самай вуліцы,— пастой, сагнуўшыся карчом увесь дзень, пагрэбай зямлі, што курыца...

Выйшла Верка з двума кошыкамі на руцэ — згледзела, мусіць, у акно выбірачак, пазносіла жэрдзе ад спрагі на мяжу ў гарод, загаманіла здалёку да Насты і паставіла кошыкі ў баразну ад вуліцы — будзе гнаць гранку адтуль, чаго яшчэ ісці гэтулькі, каб заняць ад фермы. Панок убачыў, што яна прынясла ў кошыку мяшкі, дастала, мусіць, новыя ў сенцах з шафарні. Можа, цяпер, калі Наста прыйшла са сваімі, яны абыдуцца, не трэба будзе ісці пазычаць да Махоркі.

Верка вытрасла з кошыка мяшкі на мяжу, ля самага акопа. Абмежак ад вуліцы быў увесь скапаны, яго парылі партызаны з «Жалезняка», калі стаялі двое сутак у вёсцы, а ў Сушкаве былі немцы. У вёску тады немцы не прыйшлі, не пусцілі партызаны.

Мяжа здалёку ўся чорная ад зямлі, здратаваная,налета яе ўжо не абаб'еш касой. Гарод іхні якраз на гары, процi маста, з яго відаць аж далёка на грэблю, і партызаны зрабілі ў ім дзот. На самай паспешцы ля мяжы — паспешка яшчэ не была скапана — вырылі яму глыбака, да гліны, нацягалі з-за плота з дзядзінца чосанага Боганчыкавага бярвення — Боганчык часаў бярвенне на свіран — і склалі дзот у два накаты. Тырчыць з зямлі ў гародзе, як бугор, жоўты зверху ад пяску; пясок высах, абсыпаўся, і

відаць здалёку новае белае бярвенне. Партызаны былі панасілі ў дзот саломы; салома, лежачы, адсырэла, і з дзота пахне цвіллю, што вясной з ямы, дзе ляжала не адкрываная ўсю зіму бульба.

Ля дзота Панок яшчэ не разганяў гранак: паспешка тут скапана ад вуліцы аж да палавіны гарода. Ад фермы можна будзе пасля раскінуць хвасты, выберацца мяшкоў шэсць на насенне, а астатняе дазбіраецца за плугам, як будзе пераворвацца ўвесь гарод,— пойдзе ў маленькую загарадку, свінням, у яму не павязуць. Калі будзе гэтак суха, як цяпер, гарод можна пабаранаваць; бульбы з-пад бараны свінні не наядуцца, мех-паўтара будзе, затое бараной збярэцца мёрзлы бульбеўнік — дудздзё — і пырнік. Спаліць яго можна пасля, як высахне; на двор жа не прынясеш, каб кінуць ля хлеўчыка пад ногі ў гразь. Пырнік перазімуе, а тады з гноем вясной зноў яго вязі на калёсах у гарод.

Ад фермы з гары конь ідзе гранкай, не завальвае ў баразну, і не трэба тузаць лейцамі. Паліца адкідае далёка, аж праз гранку ў баразну, раллю з бульбай і каменнем; не збіраецца ў кучу і не падпірае пад дышаль пырнік з бульбеўнікам; скрыгоча толькі па каменні ў зямлі нарог — трэба трымацца за ручкі: можа выскачыць наверх плуг, адсядай тады назад, тапчы бульбу. Калі едзеш ад фермы — баразна роўная, што пад шнур, і чыстая: ступаеш што па ўбітым гліняным таку, і чуваць, як спаднізу ад сырой зямлі холадна ў ногі. Чуваць яшчэ — падае ззаду на дно ў баразну бульба і каменне і лучае па костачках; трэба было ўссунуць што на ногі, хоць басанож.

Шваргочуць выбірачкі; доўга яшчэ будуць падымацца, сагнуўшыся ў гранках, адна да адной галовы, трасуць кошыкі, узяўшы за ручкі — падсяваюць бульбу, каб не насіць лішні пясок у мяшкі, і яна грукае ў сухіх каранёвых кошыках. За выбірачкамі ззаду сохне ўвачавідкі чорная ралля; бялее зверху, нібы яе хто пасыпаў дробна попелам праз пальцы. На падсохлай раллі відаць чырвоная бульба — асталася па бульбіне — і белае дробнае каменне, якога летам не было — павыворвалася спаднізу; капаюцца куры, грэбаюць нагамі свежы пясок, дзяўбуць белае карэнне ад пырніку, тады збягаюцца ў адно месца і кудахчуць на ўвесь гарод — не падзеляць чарвей.

Пасля зноў гамоняць і гамоняць выбірачкі, адагнуўшыся і носячы поўныя кошыкі высыпаць у мяшкі. Белыя высокія мяшкі стаяць на гранках ля плота, насыпаныя аж

па завязку; яны не завязаныя, і з іх здалёку відаць чырвоная бульба, па кулаку. Мяшкі выбірачкі не завязваюць, іх завяжа сам Панок, калі перапражэ каня ў калёсы. Завязваць мяшкі трэба мужчынскія рукі; кожны мех, узяўшы за рагі, даводзіцца трасці, каб зляглася бульба і было за што зверху акруціць завязку, бо мяхі выбірачкі насыпаюць поўныя, хоць адсыпай; не ўсе і мяшкі з завязкамі — лазь тады з рукамі па кішэнях, шукай аборыну ці кавалак рубца ад падала старой кужэльнай кашулі...

Бульба тырчыць у мяшках вялікімі гузакамі, і мяшкі аж распаўзаюцца па швах: бульба вялікая, з прыгоршчы, сіськаватая; пад вуліцу, дзе ніжэй, яна зусім збуяла і ляжыць у гранках як карчы — на яе не ступіць нагой: спатыкаешся, што на каменні.

Ля вуліцы на мяжы, ля самага акопа, учапіўся ў плот ворчык, залез між жардзя — ні ўзад ні ўперад, і Панок, паклаўшы плуг набок, на паліцу, стаў на калені на мяжу ля плота. Хацеў быў клікнуць Верку — яна была блізка ад плота ў баразне,— каб яна адцягнула за лейцы назад каня — лезе, падла, наперад, траву ля плота знайшоў, што галодны,— як раптам пачуў: недзе далёка за хатай на балоце ціха і густа ляскоча, нібы хто пагнаў грэбляй у Кур'янаўшчыну калёсы на жалезным ходзе.

Панок адагнуўся і прыслухаўся — гудзела. Ён тады глянуў у гарод на выбірачак: у баразне стаяла Верка з бульбай у руках і глядзела на яго. Ён хацеў быў крыкнуць, чаго гэта яна стала і стаіць; махалі ў гранках рукамі, сагнуўшыся, выбірачкі — нічога не чулі, гамонячы. Ён падумаў тады, што, можа, яму здалося; пасля пачуў, як зноў за хатай дробненька і дзяркатa хлябешча, і ўскочыў на ногі. Згледзеў адразу, як, пастаўшы, паднялі галовы выбірачкі, пасля ўбачыў, як за хатай, над самым Выганчыкам за ракой, ляціць, скрывіўшыся, самалёт. Вялікі, чорны, у два крылы, што ў дзве шырокія дошкі, ён ляцеў якраз на ферму — на гарод. Калі ён быў ужо над самай аселіцай — кратаў рагатым крыллем,— Панок убачыў яшчэ два самалёты, а за імі воддаль і яшчэ тры. Яны ляцелі над самым соснікам за Боганчыкавым хлевам і вышэй, як гэты, што над аселіцай,— ад іх аж трашчала ўвушшу.

— Заходзяць ад лесу!..— крыкнуў ён адразу і ўбачыў, што стаяць пасярод гароду выбірачкі, ніхто не кратаецца... Пазадзіралі толькі вышэй галовы: аж цяпер згледзелі самалёт, што ляцеў з-за рэчкі. Самалёт мінуў ужо хату і

ляцеў над самай вуліцай — ля хваста ў яго выразна быў відаць жоўты крыж.

Панок хацеў быў крыкнуць выбірачкам у гарод, каб не надта задзіралі галовы, як яго схапіў раптам кашаль. Затупаў на мяжы па пяску конь, падняўшы пыл, тапта́ў лейцы з пастронкамі; пасля Панок пачуў, як на двары за тынам глуха трэснула, нібы хто стукнуў векам па пустой кадзі ля студні; тады захлопала на вуліцы ля паркана і па гародзе ля плота — па самай паспешцы. На паспешцы падняўся з зямлі ахапкам белы дым, усё роўна як там панаставілі новых мяшкоў з бульбай праз усю гранку; захліпала полымя — гарэла зямля і мёрзлы бульбеўнік.

Даг-даг-даг...— застукала ўгары над галавой, ядрана і сіпата. Фюр-р-р... Фюр-р-р...— засвісцела ценка і праціўна, і пачало покаць на зямлю ля плота: пок, пок... Тузануў пастронкі конь, падкінуў плуг, але каня не пусціў ворчык.

— Ве-ерка!.. Дзеці ў хаце!..— закрычаў Панок; пасля хацеў крыкнуць Насце, каб не стаялі бабы, кляліся ў баразны.

Калі ён глянуў на гарод, убачыў, што бегае ля Махоркавай пуні конь і там крычаць мужчыны, тады згледзеў, як пусціліся з гароду мяжой па паспешцы адна за адной выбірачкі — лезуць у плот у спрагу і бягуць загуменнем за ферму ў лазу.

Даг-даг-даг...— стукала ўжо над Боганчыкавым хлевам. Самалёты, што ляцелі над соснікам, павярнулі ад лесу і хлебасталі цяпер над самай вёскай; з доўгімі і шырокімі чорнымі крылламі, яны, здавалася, зачэпяцца на двары за асвер.

— Верка! — крыкнуў зноў Панок і ўбачыў, што яна ўжо ў спразе — бяжыць на вуліцу.— Дзяцей вынось!

Пасля ён пабег сам у спрагу... Таркануўся быў на вуліцы на пяску, мусіць, хацеў, вярнуўшыся, падбегчы яшчэ да каня — конь тузаў ля плота пастронкі,— тады піхнуў ад сябе вароты — Верка была іх зачыніла за сабой — і ўскочыў на двор.

Даг-даг-даг...— хлебастала цяпер ужо недзе ў вёсцы. На загуменні падняўся ўгару сівы дым і калыхнулася полымя — белае днём, што сонца. Гарэла Махоркава пуня — снапы. Пасля Панок убачыў, як дым падняўся пасярод вёскі.

Ля самага акна на двары ён пачуў, як запахла дымам і есца ў вочы. Схапіў кашаль, не даючы бегчы.

Зноў загудзела над самым дваром.

Дзверы былі расчынены, і ён, учапіўшыся за вушак, крыкнуў у сенцы:

— Дзяцей!.. Дзяцей вынось... Ве-е-рка!..

Калі Панок пачуў, як глуха застукалі па калдобах цяжкія з мяхамі разводы і яго валіць да ляжэйкі, здагадаўся: панёс конь.

Ён ухапіўся ў дзве рукі за лейцы, але яны вышмаргнуліся з пальцаў, абдзёршы да крыві скуру; тады, нагнуўшыся ўперад, ён акруціў лейцы каля рук: каля адной і каля другой аж у два разы. Конь напінаў лейцы, задзёршы галаву і выставіўшы ўперад шыю — усё роўна як падносіў пад нож, і Панок пачуў, што яго цягне лейцамі ў перадок: каню пад заднія ногі...

— Тыр-р-р... Скаціну маць!..— закрычаў ён і закашляўся.

Конь, вывернуўшы з пяску на ўбітае, мінуў адразу Боганчыкавы калёсы, зачапіўся быў колам за заднюю вось, мінаючы Махорку, і цяпер пёр угалоп у лагчыну, куды сыпаліся немцы. Седзячы высака на мяхах, Панок бачыў, як немцы, бегучы, стралялі назад — да маста.

Жых... Жых...— зверху на спіну каню і на выцягнутыя рукі яму, Панку, сыпаліся сасновыя лапкі, дробныя, што пасечаныя тапаром, нібы хто церабіў уверсе соснік.

Ззаду ля маста стагнала ўсё на свеце; здавалася, недзе кіпіць вар у вялікім гаршку...

— Махо-орка!..— клікнуў быў Панок і аглянуўся назад, але нікога не згледзеў: ні Махоркі, ні Боганчыка. Дарога была пустая, як хто вымеў. Конь браў рэдкім соснікам пад гару: трашчала пад коламі сучча, па вачах білі калючыя сасновыя лапкі, свісталі над галавой кулі, як хто махаў ценкай пугай: піць... піць...

Тах-тах-тах...— хлебястала недзе зусім блізка ў сосніку ля маста.

Панок быў раптам пачуў, што сунецца з мяхоў некуды назад, як у яму. Ён яшчэ больш учапіўся за лейцы і глянуў пад сябе: пад ім быў пусты мяшок.

«Развязаўся...» — падумаў Панок, пасля згледзеў, што мяшок усё роўна як парэзаны касой — доўга, на дзве пядзі, ля самай завязкі. Завязка, было відаць, зацiснута на засмаржку.

«Куляй разапула...» — падумаў ён. Пасля падумаў,

што куля зачапіла мех ля самага сцягна і што ён, Панок, не пачуў, як высыпалася ў дзірку жыта...

Уперадзе на гары быў відаць расцяроб; доўгі, чысты і жоўты ад пяску, ён вёў соснікам уніз, у імшару.

Панок адваліўся назад, у яму на возе, дзе ляжаў цяпер пад ім пусты мяшок, ухапіўся дзвюма рукамі за левую лейчыну, каб завярнуць каня ў расцяроб. Конь не слухаў: скакаў галопам, падкідаючы высака ўгару дугу і сыплючы калючым пяском і сухім мохам у вочы... Тады Панок упёрся нагамі ў драбінку ў разводах — у перадок — і, цягнучы за лейцы, адваліўся на калёсы аж на спіну.

Адзервянелі ногі, забалелі рукі ў лакцях, смылела, як пасыпаная прыскам, здзёртая лейцамі скура ля костачак...

Конь спачатку таркануўся на месцы, спатыкнуўшыся на пярэднія ногі, тады, падцяты лейцамі, рвануў убок, да расцяробу...

Падцялежыліся разводы, крута, стоячы на адным месцы; вывіхнуліся з-пад панараду цялежкі, бліснуўшы белымі шынамі, затрашчалі, ломячыся, аглобні... Панок пачуў, як яго раптам падкінула ўгару, ударыўшы ў бок ляжэйкай; пасля ён усё роўна як паляцеў у яму разам з мяхамі і разводамі. Калі ён угледзеў на зямлі перад сабой цялежкі — новую жоўтую дубовую вось і бліскучыя, вышараваныя аб пясок шыны на колах,— падумаў, што саскочыў падгэрац і сагнуўся недзе шворан, што конь, акруціўшыся, зноў выбег на дарогу... Панок, падцягнуўшы пад сябе на пяску ногі, ускочыў з зямлі, каб не даўца каню; пацягне назад да маста, пад самыя стрэлы... Пачуў, як яго ўдарыла ззаду ў лапатку, моцна, што конь нагой... Разанула па шыі, як нажом, высака, ля самай галавы. За каўнер аднекуль цурчом пацякла гарачая вада, што вар... Падпёр пад грудзі кашаль...

Ціў... ціў...— запішчала над галавой. У каня пад нагамі ля цялежак падняўся пылок — у сухім белым сіўцы і дробным верасе. Стралялі з балота... Немцы...

Заірзаў конь, кораценька і глуха, як стогнучы, усё роўна што хацеў піць і ўгледзеў вядро...

Пасля Панок пачуў, што яго моцна тузанула за рукі; закруцілася ў галаве, павярнуліся дагары зямля і новыя цялежкі з дубовай жоўтай воссю і бліскучымі шынамі...

Ён чуў яшчэ, што сунецца і сунецца некуды па зямлі, мусіць, зноў расцяробам па імшары, бо пахла аднекуль кіслым белым мохам і журавінамі... Тады здалося, што ён

уваліўся ў мох між куп'я... Мох высокі, роўна з соснікам... Адпусціў кашаль, і мякка-мякка ўсяму...

Мігнулася ўваччу Верка з малымі на руках: бегла з хаты, выносячы дзяцей у аселіцу, у альшэўнік да ракі. Над дваром, над самым асверам, махаў крыллем чорны, як збіты з дошак, самалёт з жоўтым крыжам ля хваста...

Панок быў пачуў яшчэ, як пасля запахла сухім пяском — пылам,— і падумаў, што конь цягне яго дарогай — дамоў, у вёску...

## 15

Януку, калі ён, апёршыся галавой на рукі, глядзеў з калёс назад на дарогу, дзе ішлі немцы, здавалася, што ён дома — у Дальве ля школы. Прываліўся, падышоўшы да варотцаў, да частаколу, а немцы ідуць і ідуць дарогай з лагчыны ад могілак — з Сушкава...

У школу яны былі пераехалі адразу пасля пажару — усёй сям'ёй: ён, Янук, сын Піліп з яго, Януковай, нявесткай і малым Колечкам; пераехалі без нічога, у чым стаялі.

Школа была за грэбляй, далекавата ад Дальвы, на гары ля могілак пад Сушкавам. Драўляная — бярвенне, шырокае і чэсанае, што плашкі, парабілася ўжо сівое; накрытая чырвонай бляхай — бляха была відаць здалёку: блішчала на сонцы; з вялікімі вокнамі — знізу аж уверх на ўсю сцяну; на высокім — па пояс — падмурку з шэрага абсечанага гладкага камення, школа даходзіла да самай дарогі, шырокай, убітай калясьмі, парослай вечна сівым ад пылу падарожнікам і старым высокім, па костачкі, дзядзеўнікам.

Школу абгарадзілі дробным і роўным, з-пад пілы, частаколам, шырока, заняўшы паўдзядзінца на самай гары. У куце на двары, дзе рос палын, белы і высокі, па самыя пахі, стаяў хлеў, накрыты гонтай,— у ім складалі ў вёрсты на зіму дровы. За хлевам у палыне і канаторжніку былі ямы, дзе сушкоўцы хавалі бульбу,— там жаўцеўся стары пясок, перакапаны рыдлёўкамі і стаптаны нагамі на попел.

Блізка ад вуліцы проці першага ганка стаяла студня са стрэшкай, зробленай з новых, жоўтых, пагабляваных сасновых цалёвак. Сасновымі цалёўкамі быў абабіты і зруб, яго кожны раз аблівалі расплёханай вадой спераду, дзе стаўлялі вядро, і ад таго цалёўкі былі цвёрдыя і выслізганыя, як шкло.

Дзеці ў школу не хадзілі, і двор парос густой белай дзяцельніцай з дзядзеўнікам, хоць касі; распусціліся ля самага ганка белыя раманы, шырокія, з даланю; за студняй ля частаколу на мяжы набух цёмна-жоўтымі пупышкамі, як ад мёду, высокі і зялёны, малады дзівасіл.

Голыя, без травы, на двары былі толькі дзве сцежкі; сівыя ад пяску, убітыя босымі нагамі, што сырая гліна на таку, яны блішчалі цераз увесь двор ад школы да хлева, куды ўсю вясну бегалі дзеці, і да студні, адкуль насілі ваду.

На двары было пуста і горача; пуста было і на грэблі, і ў Кур'янаўшчыне. Пад самым Сушкавым, за дарогай, далёка над садам вісела маленькае сонца, бралася на паўдня. Хацелася ў Дальву: дамоў. Пайсці, сесці на двары на калодку пад парканам і глядзець здалёку на месца, дзе стаяла да пажару хата. Хата была з трысценем, а зусім мала заняла двара — адну чорную латочыну. На такой латочыне, здавалася, цяпер не зрубіш вялікай хаты. Хацелася яшчэ пайсці, узяўшы ў школе рыдлёўку, і капаць пажарышча — перасыпаць з месца на месца пясок і попел са шклом у тым куце, дзе стаяў куфар...

У Дальве было відаць белае пачэсанае бярвенне — ляжала ў некага на гародзе ў спаленым канцы вёскі: яго навазілі адразу пасля пажару.

Янук пайшоў бы ў вёску, каб не згледзеў, як у лагчыне ля Сушкава падняўся пыл. Калі Янук павярнуўся і глянуў на дарогу, немцы ўжо ішлі дзядзінцам — па траве. Пярэднія ехалі на веласіпедах; сядзелі на іх што на плоце, ажаргаўшы жэрдзе; заднія ішлі пехатой — кучкамі.

Янук доўга стаяў на двары, тады ўзяў падышоў да самых варотцаў і апёрся грудзьмі на частакол. Немцы на яго не глядзелі — ніводзін не павярнуў галавы. Ішлі запыленыя, як з млыну; Янук згледзеў, што ў тых, якія ехалі, ажаргаўшы высокія чорныя веласіпеды, за плячыма былі вінтоўкі, пазатыканыя белымі скручанымі ў трубачку анучкамі.

Янук бачыў немцаў першы раз: у Дальве яны яшчэ ні разу не былі, хоць гаварылі, што яны ўжо занялі Краснае. Яму здалося, што ўсюды стала яшчэ горш ціха і ён зусім нічога не чуе. Ён стаяў і глядзеў, як яны труць нагамі траву на дзядзінцы, ідучы, і кураць. Кураць усе да аднаго, нават тыя, што едуць на веласіпедах. Дастаюць папяросы з маленькіх белых бліскучых пачкаў, кідаючы парожнія пачкі пад ногі, прыкурваюць, дымяць, усё роўна

што пара ідзе ў іх з рота на марозе ў кожнага; здаецца, глытаюць і дым і пыл з-пад ног, пасля плююць у пясок і шпурляюць далёка ад сябе запалкі — аж на двор да школы.

Запахла з дарогі пылам — стаптанай нагамі сухой травой і дымам ад папярос. Дым пахнуў густа і мякка, і ад яго аж круціла ў носе...

Янук тады адшчапіў кручок у варотцах і выйшаў на дзядзінец. Стаяў спачатку ў канаторжніку ля самага частаколу, прыціснуўшыся, і глядзеў, як да варот паварочваюцца галовы ў пілотках — немцы пачалі глядзець на яго. Яму здалося, што яны пайшлі бліжэй, ля самага частаколу, і тады баяўся, каб не стапталі ногі.

Ён убачыў цяпер, што немцы ўсе ў жоўтых дзягах: і перапяразаны шырокімі жоўтымі дзягамі, і плечы ў іх пераматаны, што ў коней, жоўтымі набераткамі, і вінтоўкі ў іх кароткія і жоўтыя... Самі толькі сівыя ад пылу і ўсе дробныя і маладыя, маладзей за мужчын у вёсцы. Яны ўсё ішлі і ішлі без аддухі, пасля зноў ехалі на веласіпедах і курылі, кідаючы акуркі яму аж пад ногі.

Янук тады выйшаў на сцежку проці варот. Згледзеў адразу, што немцы абыходзяць яго. Ён тады стаў стукаць пальцам сабе ў грудзі, пасля выцягнуў руку:

— Т-тваю маць...

Немцы абыходзілі яго, азіраючыся і скалячыся.

— Тваю м-маць...— запыкаў ён зноў вуснамі, здалося, аж сам пачуў, і паказваў пальцам на папяросы.

Немцы сталі яшчэ больш выскаляцца — што сабакі — і стукалі яго рукамі па плячы...

— Т-тваю маць...— пыкаў і пыкаў ён вуснамі.

Пасля ён убачыў, як да варот пад'ехалі два немцы на веласіпедах. Першы, маладзенькі і чорненькі, увесь у бліскучых гузіках спераду на грудзях, саскочыў з веласіпеда і скоранька паставіў яго ля частаколу — Янук падумаў адразу, што немец будзе нечага заходзіцца ў школу. Другі немец, такі ж малады, у галіфэ і бліскучых ботах — гузікаў на грудзях у яго было менш,— толькі саставіў нагу на зямлю, трымаючыся рукамі за руль, што за рогі.

Пасля першы, што саскочыў з веласіпеда, падбег да яго, Янука, і паказаў рукой на галаву — у немца краталіся сківіцы, відаць, загаварыў. Тады зноў паказаў на галаву — адной і другой рукой.

Янук падумаў, што немец хоча, каб ён здзеў з галавы шлём,— у яго быў надзеты шлём з задзёртымі і зашпіле-

ымі збоку на гузікі вушамі, з пупам наверсе і з цвёрдым брылем. Новы яшчэ шлём, Піліп прынёс яго летась зімой з фінскай вайны.

Янук хацеў здзець шлём — немцы не любяць, калі з імі стаіш у шапцы,— нават задзёр рукі, як пачуў, што шлём у яго раптам схапілі з галавы — рванулі, тузанушы за валасы. Пасля немец, сціснуўшы ў жмені шлём, што мыш — тырчаў толькі адзін пуп: уперад,— панёс яго да варотцаў, усё роўна як нёс куды на двор. Падышоўшы да варотцаў, ён паклаў яго зверху на частаколіну пупам, выхапіў аднекуль, Янук не згледзеў адкуль, белы шырокі кінжал і сekануў з-за вуха. Пуп адскочыў далёка на двор на траву, у канаторжнік, што галава ў курчаці з калодкі ў трэскі на дрывотні...

Шлём упаў з варотцаў у дзядзеўнік ля Януковай босай нагі. Зверху, з растапыранай дзіркі, выехала белая вата.

Галава ў Янука сашмыкнулася з рук: ссунуліся, мусіць, з калень локці, самлеўшы, і ён кіўнуўся на возе, як спрасоння. Калі ён выпрастаўся, убачыў, што былі ўжо за мастом у лагчыне і што наперадзе пагналі коней — адна Таніна рабая кабыла стаіць на месцы ў самым пяску. Пасля ён убачыў, як бег нечага назад, кінуўшы каня, Махорка, і падумаў, што ён, Янук, ехаў гледзячы ўвесь час у зямлю і не ведае цяпер, што робіцца наперадзе. Махорка нешта крычаў, але не яму, бо не глядзеў на яго,— махаў усё рукамі некаму ззаду: мусіць, Насце. Махоркаў конь стаяў уперадзе пасярод дарогі пад гарой — гроб пад сябе ўсімі чатырма нагамі пясок, што коўзаўся непадкаваны на лёдзе.

Тады Янук пачуў, як недзе далёка, што пад зямлёй, загрукаў гром — гром Янук чуў кожны раз — і ўбачыў уперадзе ў лагчыне поўны соснік немцаў — аж кішыць: бягуць ад маста некуды ў балота, мінаючы абоз. Янук хацеў быў саскочыць з калёс напярэймы Махорку, але пачуў, што не слухае зусім спіна ў самым крыжы і абвялі рукі — матаюцца, што цэп ля цапільна. Стала цяжка дыхаць, гнула ў крук, што пад сырой вязкай сена на балоце; зрабілася цёпла ў паясніцы, пасля яе сцяло як жалезным абручом... Запякло ў крыжы, нібы ён, Янук, лёг дома на голай печы на спіну.

Калі Махорка мінуў яго, Януковы, калёсы, Янук уба-

чыў, як наперадзе коціцца з-пад гары, што бурда, ад сваіх калёс Іван Боганчык, кінуўшы жарабка. Коціцца ўніз дарогай пад самыя ногі Танінай кабыле, увесь у пяску, сівы, не пазнаць. Відаць толькі яго чорная валасатая галава і чорная барада — не ўкачаў у пясок, падымаў ад зямлі.

Янук павярнуў галаву, каб убачыць, дзе цяпер Махорка,— Махоркі ён не згледзеў; пасля зірнуў зноў уперад на дарогу — Боганчыка нідзе не было. Не было відаць і яго жарабка з возам — коўзаўся толькі па пяску на дарозе на адным месцы Махоркаў конь і стаяла рабая Таніна кабыла, не сышла з месца. Янук убачыў яшчэ, што яго конь падышоў да самых Таніных калёс і варочае ў бакі галавой. На калёсах уперадзе не было відаць Тані: яе, мусіць, схапіла далоў Наста — мігнулася была ўваччу, падбягаючы да воза... Тады ён падумаў, што ззаду ля маста страляюць, бо там грукае, як гром, і адтуль бягуць соснікам немцы; падумаў яшчэ, што страляюць і немцы з балота па дарозе, бо хмыліцца конь, гледзячы туды і хаваючы вушы пад грыву.

Янук зноў павярнуў галаву, каб убачыць, дзе Махорка,— той падбяжыць, паможа злезці з мяхоў, бо могуць забіць немцы, калі страляюць сюды з балота...

Запахла аднекуль дымам — сухімі сасновымі лапкамі. Закруцілася, аж зазвінела ў галаве, што зімой на печы ад чаду; пад грудзі падвярнула блага. Ён зусім не чуў ног...

Калі ён яшчэ раз агляиуўся да маста, згледзеў недалёка ад дарогі ў лагчыне ў траве Алёшу — мігнуўся ў вачах...

— Ёска... Ёска... Тваю маць...— замычаў ён, выцягнуўшы ўперад шыю...

Яму здалося раптам, што ён пачуў сябе, як і тады, даўней, калі яшчэ не спаў на сырой зямлі на прызбе... Ён глянуў быў на свае рукі... Яны, мусіць, адняліся, раз не служаць. Калі тое было, як ён заснуў на прызбе, а рукі адняліся аж цяпер. Яны былі што чужыя — цяжкія, доўгія, і ляжалі, здавалася, не на возе, а недзе далёка на зямлі.

Яму было здалося, што ён яшчэ раз убачыў Алёшу ў лагчыне. Падумаў тады, што Колечка яго недзе далёка, на Паліку. На Паліку і сын Піліп з яго, Януковай, нявесткай...

Пасля яму моцна стукнула ў галаву. Здалося, сек ану-

лі кінжалам зверху па цемені — адсеклі пуп у шлёме...

Стала холадна-холадна ўсяму...

Яму здалося яшчэ, што ён ідзе дамоў у Дальву з Карчаватак ззаду за санямі: вазілі цэлы дзень з балота сена, усёй вёскай.

Падводы расцягнуліся наперадзе па сушкоўскім баку — скрыпяць толькі па снезе гружоныя сані. Ён усё чуе, нібыта і не засынаў на халоднай прызбе, і пазнае, як скрыпяць развалы — ценка і лёгка; яны кароткія, на іх і пад парубень надта добра не ўскінеш, няма дзе акруціцца; кладучы воз, стаіш, як на пні... Лагожы, здаецца, дзяруць снег; цяжкія, з шырокімі новымі палазамі, акутымі яшчэ ўвосень у калгаснай кузні тоўстай іржавай шынай, яны, звальваючыся з тору ў цалік, лезуць да зямлі і аж равуць па цвёрдай убітай дарозе, сунучы перад сабой камкі снегу... Трашчаць, як рассохшыся, кары з казой; трашчаць бабы, туга надзетыя на капылы, калі нахінаецца на бок воз; трашчаць намарзні, сціснутыя з двух бакоў — знізу і зверху — вязамі; трашчаць аглоблі з намёрзлымі пяньковымі акрутнямі, калі ўпіраюцца ў палазы і выгінаюцца на павароце; трашчаць вяроўкі пад вазамі — доўга былі распушчаны, на ўсе драбіны; трашчаць, намёрзшы, з сырамцу гужы ў хамуце; туга былі сцягнуты дугі; трашчыць у старым, у абхват, альшэўніку ля ракі мароз, лопаецца ўвачавідкі кара; трашчыць, здаецца, уся зямля, намёрзлая аж на тым свеце...

За вазамі не відаць коней; ідзе толькі ад іх пара, густая і белая, што дым ад саломы, і сцелецца па зямлі — па снезе. Пара ідзе і з ракі, у тым месцы, дзе крыніца; ідзе і ля берагоў з-пад лёду. Рака прамёрзла ў дно з самай восені, калі бралі нагалец маразы, і цяпер ад сонца на ёй цьмяна блішчыць здалёку лёд, шэры і халодны, што камень.

Вялікае, у два разы большае, як летам, чырвонае, што кроў на снезе, сонца доўга стаіць ля самай зямлі — над лесам за Дальвай, пасля расплываецца, заходзячы, у сінім і рэдкім, як раскалочаным, тулягу.

Усё адразу схапілася інеем: сталі халодныя вейкі, не даюць міргаць вачыма; каўнер у кажусе зрабіўся сівы, усё роўна што з белай аўчыны; пабялела сена на дарозе, што панацярушвалася з вазоў,— ляжала паблэчанае і прыбітае да зямлі конскімі падкаванымі на гакі капытамі. Іней лёг і зверху на снег — падлятае з зямлі з-пад ног; ад яго збялеў стары голы альшэўнік за ракой, зра-

біўся роўны і гонкі, хоць глядзі. Далёка за мастом відаць уся вёска, белая, што выфарбаваная. Дым ідзе з комінаў высока, аж у самае неба; каб глянуць на яго, трэба задзіраць уверх галаву. І дым белы, што снег.

Крышацца пад нагамі сырыя лазовыя дубцы — не дакнніся; хрумсцяць панастывалыя друзалкі лёду, высечаныя на дарозе падковамі. Яны адлятаюць далёка з-пад ног, пакідаючы доўгі след на снезе.

Зайшло за Дальвай сонца, пакінуўшы на небе ядраныя чырвоныя палосы. Палосы сінеюць, тухнучы на вачах; ля лесу і на Выганчыку за ракой устае туман, густы, сіні. З сушкоўскага боку, з-за ракі, не стала відаць вёскі. Над Выганчыкам замахалі крыллем вароны; чорныя, дробныя, усё роўна як рассыпаныя па небе, яны ляцелі з-пад Кур'янаўшчыны, ціха, як удавіўшыся.

Скрыпяць сані, аж разлягаюцца... Цямнеецца. Упарадзе за падводамі далёка відаць белая дарога... У небе над сушкоўскім бокам — над лесам — замітусілася рэдкае Сітца.

Нанач цісну́ў мароз, браўся на ўсю зіму — на ўвесь век...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Янук яшчэ чуў, як валіўся з воза: стукнуўся галавой...

## 16

Таню ля маста зноў пачало трасці... Зрабілася холадна ўсёй, як ноччу, калі яны станавіліся ў лесе, выехаўшы з ракі ля Завішына. Сонца паднялося, а яе трасе...

Яна падумала, што ноччу яе так не трасло. Ноччу, мусіць, яна спала: нічога не помніць. Помніць толькі, як да воза падбягалі немцы, выскачыўшы з лесу, як забралі былі і павялі мужчын... Ля калёс тады асталася адна Наста — стаяла, паклаўшы руку ёй на лоб.

Таня ўспомніла, што гэта было ўжо доднiцай.

Калаціла, аж падкідала на возе. Змярцвела зусім балючая нага, торгала ніжэй калена, як хто соваў тупым ражном; стала цяжкая, не кранеш, бытта ляжала прыціснутая чым зверху. Пякло што гарачым прыскам якраз у тым месцы, дзе нага была акручана лейцамі.

Холад браў нават спадыспаду за плечы; не сціснуць было зубоў; трасліся рукі, падскокваючы на мяхах,—

зрабіліся мяккія, што плёткі, не схопішся за ляжэйкі. Пасля ў плячах, адкуль ішла дрыжыка, рабілася раптам горача, як ад печы; гарачыня хапала адразу ўсю, даючы ў шчокі; пачыналі гарэць рукі, і зноў смылела зверху балючая нага. Калі Таня дыхала, чула, што ў роце суха і робіцца шорсткі язык — не павядзеш. Хацелася піць.

— Ва-ады...— прасіла яна, але не чула сябе: мусіць, горла сціснула сіпка.

Пасля яе зноў кідала ў стужу і пачынала трасці.

Рабілася ўсюды шэра, як цямнелася, толькі далёка відаць было сонца — жоўтая круглая пляма — дрыжала, расцягвалася, падскоквала высака ўгару... Здавалася тады, што ў хаце ля стала гарыць у светачы смаляны агарак. Да стала — да светача — падышла ад печы маці з доўгай лучынінай у руцэ — выцягнула з-за коміна. Узяла ў зубы канцом, расшчапіла, тады выняла, круцячы ў пальцах, агарак са светача і ўшчаміла яго ў доўгую — на ўсю хату — лучыніну. Новая лучыніна гарэла цьмяна і ціха, угараючыся ад агарка. Яна яшчэ не высахла, упарылася толькі за комінам, куды маці паклала яе раніцай сушыць, нашчапаўшы з сырых намазгляватых брускоў.

Пасля маці вярнулася да сцяны ў запечак, дзе ляжала на ложку Таня, і паклала ёй руку на лоб.

— Блузніць, бедная... Прастыла.

Маці стала нейкая зусім другая, пацямнела, нос у яе выцягнуўся і зачырванеліся шчокі, як у Насты. І рука — шырокая і халодная — чужая. У маці ўсягды была цёплая рука, нават калі маці паіла зімой ля студні карову без рукавіц. Маці не баялася холаду ў рукі — ад марозу яны рабіліся ў яе толькі чырвоныя, што буракі.

Пасля маці пайшла ў другую хату і прынясла кажух, новы, жоўты і доўгі, і ўкрыла ім Таню аж па галаву. Сцягнуўшы з печы з лучыны старую, вынашаную сівую суконную жакетку, ускінула на ногі.

— Гарыць агнём... Пал у дзяўчыны...

І голас у маці, што ў чужога, усё роўна як у Насты.

Маці доўга пасля нідзе не чуваць. Круціцца ў галаве, як ад чаду, і ад холаду аж страсае... Грукае недзе далёка, мусіць, у сенцах. «Драбіна»,— здагадваецца Таня. Маці ставіць драбіну ў сенцах да сцяны, палезе на гару па журавіны. Журавіны на гары ў начоўках — поўны начоўкі, аж з коптарам; журавіны насілі ўсю восень з Карчаватак. У начоўках яны выспелі, парабіліся чырвоныя і здалёку пахлі мохам і кіслёй. Таня набірала іх у місачку кожны

раз, калі лазіла на гару развешваць на мароз мокрую бялізну.

Маці дастане з гары мерзлых журавін і пакладзе іх — па ягадзіне — ёй, Тані, у вушы. Журавіны недзе мёрзлыя, што костачкі, яны не адразу адтануць у вушах.

Няма чым дыхаць — гэта з печы, з-за засланкі, пахне гарэлым хлебам, густа, аж захлынаешся. Маці нават юшку адчыніла, стаўшы ля коміна на ўслончык, а ўсё роўна пахне гарэлым хлебам і памялом на ўсю хату. Памяло недзе тлее; маці, мусіць, згубіла яго ў печы, падмятаючы под, і не згледзела...

Прынёсшы з гары журавін, маці дасць і пакаштаваць. Па адной будзе класці сама ёй у рот, бо яна, Таня, не можа падняць рукі — саслабла. Ад мерзлых журавін будзе аж калоць у зубы...

Зноў доўга грукае недзе ў сенцах і на двары ля хлева. Маці доўга не ідзе ў хату, злезшы з гары. Тады Таня думае, што маці не лазіла на гару,— гэта Юзюк грукае на двары пад паветкай: прыбег запрагаць кабылу.

Юзюк недзе ўжо за Дзвінасой. Пайшоў з Карчаватак адзін, без яе, Тані. Як яна магла пайсці з Юзюком... Кінуць у балоце адну матку? Мала што ў балоце людзі. Яна не пайшла б з Юзюком, каб і маці пускала. Як гэта пайсці ўдваіх з Юзюком? Каб усе відзелі?.. І так на іх, мусіць, глядзелі, калі Юзюк прывёз іх у Карчаваткі. Каб хоць Юзюк быў ім свой, тады б, можа, Таня і пайшла з ім. А так ён ім ніякі не свой, маці ніколі не гаварыла. Свае ў вёсцы ходзяць адзін да аднаго, а да іх Юзюк ніколі не прыходзіў.

Каб і ісці давялося на Палік, дык у іх жа не было чаго і ўзяць з сабой. У вёсцы і сухары сушылі, і мілту малолі, а яны нічога не рабілі, нікуды не збіраючыся...

Юзюк недзе ўжо далёка, ля Паліка...

І чаго гэта ён па яе прыбег, каб ісці? Хіба ў вёсцы не было з кім?..

Яна тады пачынае думаць, які Юзюк,— зусім забылася, які ён. Помніць толькі, што ён босы і шырокі ў плячах. Пасля ўспамінае, што Юзюк жа выліты Алёша: лабаты, белы і валасы аж белыя. І нос гэткі, як у Алёшы,— шырокі і загнуты ўніз; і вачмі часта плюскае, і яны ў яго гэткія ж шэрыя, і ў зямлю ён усё глядзіць — пад ногі. Пасля яна ўспамінае, як ён глядзеў на яе на двары ля паветкі і шаптаў: Таня... Яна і сама не ведае, куды б дзелася тады ад такога, каб не трэба было ўцякаць з вёскі.

Ёй і цяпер, калі ўспомніць пра тое, аж горача ў шчокі... Што будуць гаварыць, калі вернуцца ўсе дамоў, і Юзюк вернецца? Іх жа бачылі разам: і на загуменні — ён сядзеў у іх на калёсах, паганяў кабылу, і ў Карчаватках — памагаў яе, Танінай, матцы злазіць з калёс: браў пад пахі... Каб толькі прагнаў яго тады ад воза — ніхто не надаўміў,— яна і сама б ссадзіла матку. Гэта ж выдумаць: робіць такое на вачах усёй вёскі, як наўмысля... Здурэў, ці што... Яму, відаць, не першыня...

Яна была падумала, што ў Юзюка дужыя рукі, як у мужчыны: лёгка браў з калёс матку. Стаяў пасля ўпобачкі і атрасаў у яе з плячэй сівец. Наліха яно каму — сваю хай бы ішоў глядзеў матку, тая, можа, збедавалася, не ведаючы, дзе ён. Ён хацеў і ў яе, Тані, атрасці з плячэй сена, але яна не далася, адскочыла ад яго.

Тады ён пайшоў распрог кабылу — коні ва ўсіх былі распрэжаны — і прывязаў за лейцы да ляжэйкі, пакратаўшы перад носам у кабылы сена. Не адыходзіўся ад калёс, як дагадзіць збіраўся.

Пайшоў ад іх ён ціха, нічога не сказаўшы,— глядзеў усё здалёку на яе, Таню. Пры матцы — яна ўсё бачыла — хоць ты было згары... Каб збіў-збіў яго, дагнаўшы, на порхаўку... Раскірэка... Пабег на Палік, абы дома толькі не стыкацца...

Ёй зрабілася раптам нечага шкода-шкода... Толькі не Юзюка. Па ім яшчэ нудзі-і-цца...

Зноў загрукала недзе, як у сенцах... Маці зусім і не лазіла на гару па журавіны — яна пайшла ў гарод пад раку, стукнуўшы ля варыўні аб сцяну варотцамі, і жне ля мяжы бульбеўнік. І на дварэ ніякая не зіма, калі маці жне і ў хаце расчынена ад гароду акно...

Маці жне ля мяжы; адгінаючыся, падымае ўгару доўгі бульбеўнік і кладзе збоку на гранку. Бульбеўнік у гародзе высокі, парос роўна з малачаем — Тані добра відаць з ложка ў акно; відаць нават на зжатых гранках зялёная макрыца — густая, пашалела ў мокрых ад ракі барознах.

Маці махае і махае рукой, набіраючы з-пад сярпа поўную, як сціснуць, жменю каліўя, каб адкінуць яго ад сябе на гранку; трапеча, усё роўна як сохне ў вецер на плоце, у яе на галаве белая хустка.

Зноў грукае ў сенцах, моцна, аж дрыжаць сцены і звіняць у вокнах шыбы. Звініць у парозе на лаўцы пад суднікам парожняе, накрытае белай цадзілкай вядро.

Тані здаецца, што маці пяе ў гародзе ля плота. Пра-

цяжна, як дзе далёка за ракой на Выганчыку. Песня чуваць праз расчыненае акно. Пасля маці пяе ўсё мацней і мацней, аж заходзіцца, не сціхаючы ні на мінуту. Здаецца, яна кінула ўсё на свеце, адно вядзе песню, нават рукамі не махае ў гародзе ля мяжы...

Здаецца пасля, што маці і не ў гародзе, а ў хаце ля акна ад вуліцы — сядзіць, нагнуўшы галаву над сталом, і, узяўшыся ўсімі пальцамі за іголку, махае і махае рукой — шые. Маці кожны раз, калі што шые, пяе.

Зноў дрыжаць у вокнах шыбы і звініць у парозе пад суднікам вядро. У хаце нудна-нудна, і ад таго калоціцца ўсё ўсярэдзіне.

Робіцца, бывае, ціха, тады шуміць толькі ў галаве, усё роўна як дзе над вухам перасыпаецца пясок — сыплецца і сыплецца без аддухі, што дождж.

Пасля пяюць далёка на полі пад Карчаваткамі, жнучы, усе бабы з вёскі — згінаюцца да зямлі з сярпамі ў руках...

З поля, з-пад Карчаватак, відаць Дальва: хаты стаяць адна ля адной, дробныя, шэрыя; стаяць недзе за гумнамі ў яме — тырчаць адны стрэхі.

На загуменні відаць Януковы дубы — высокія, цёмныя; аціхлі, як памлелі. За дубамі, у тым баку, недзе яе, Таніна, хата.

Ціха. Шапоча пад нагамі ржышча, колецца, абдзірае да крыві костачкі; за падол, калі нагнешся, набіраюцца дзяды і асцё; і пахне сухая зямля — пылам і ячнай саломай. Зямля ўся жоўтая ад ячменю — ад загуменя да самых Карчаватак. Толькі там, дзе яго пажалі ля дарогі, зямля здалёку здаецца белай, што іней. Гэта ржышча. А можа, бела ад таго, што ўгары шэрае неба, нібы перааранае ўвосень бульбянішча,— апусцілася нізка над загуменнем, як павісла... Хмары выцягнуліся ў даўгія вузкія палосы. Над загуменнем, над Януковы дубы, палосы дробныя, што расцягнутыя.

Там, дзе драбнеюць палосы, пад'яснелася; хмары ў тым баку сталі жоўтыя, што аўсяная мякіна ў кучах; там недзе за імі сонца...

Шастае пад сярпом ссохлы, аж пакорчаны ў каласах, ячмень; трашчыць пад нагамі белае ржышча; шапоча салома, калі вяжаш перавяслам сноп; шашчыць, перасыпаецца сухі цёплы пясок, калі яго зачэпіш пад пырнікам пальцамі і сыпнеш па ржышчы... І зноў чуваць песня, нудная, ціхая, усё роўна як звініць увушшу... Пачынае

яе нехта далёка ў кутку, пад самымі Карчаваткамі; пачынае адзін, адагнуўшыся, мусіць, і стаўшы на загоне — круціць перавясла,— бо чуваць аж здалёку; тады яму памагаюць усе бабы на загуменні. Не адгінаючыся ад зямлі, яны махаюць і махаюць рукамі, кідаючы жмені ў кучкі па ўсім полі, каб пасля пайсці за адзін раз павязаць іх у снапы. Кратаюцца ў ячмені белыя хусткі, кратаюцца рукі — здаецца, варушыцца і варушыцца ўсё загуменне ад вёскі да Карчаватак.

Баб на полі — што снапоў: заняўшы загоны, яны ідуць у канец, пад лес.

Бабы заціхаюць толькі ў самых лагах.

На полі тады робіцца пуста. Цёмныя палосы на небе выцягваюцца на ўсё загуменне; шарэе жоўты туляг над Януковымі дубамі, дзе было сонца... Чарнеюць у вёсцы стрэхі — хаваюцца з воч.

Грукнула зноў недзе зусім блізка, як усё роўна варотцы ля варыўні аб сцяну. Зноў зазвінела ў парозе ля судніка — мусіць, у хату, да яе, Тані, бегла маці.

Таня пачула, што ляжыць на зямлі. Было цвёрда, цвярдзей як на мяхах на возе, і калолася спадыспаду ў спіну і ў голыя рукі ля локцяў.

— Бярыся за мяне, дачка... За шыю...

Тані здалося, што над ёй загаварыла, нагнуўшыся, маці,— прыбегла з гароду з сярпом на плячы. Новы вялікі серп ківаецца ля галавы і блішчыць, мокры яшчэ ад бульбеўніку. Маці падхапіла яе пад пахі і загадвае Настуліным голасам:

— За шыю бяры... Не бойся...

Даг-даг-даг...— стукае недзе зусім блізка кулямёт, як і на гары ля школы, калі па іх стралялі з вёскі.

Таня варочае галавой, але нікога не бачыць: ні маці, ні Насты. Угары толькі адно неба ў доўгія чорныя палосы і жоўты туляг — далёка над лесам...

Даг-даг-даг...— зноў грукае нехта ў сенцах у дзверы: Юзюк, мусіць, з двара, каб яны з маці хутчэй ішлі з хаты.

Схаваўся раптам з вачэй жоўты туляг на небе, дзе было сонца, і Таня пачула, як яе нехта цягне, узяўшы пад пахі, па зямлі, і баліць зацягнутая лейцамі нага.

— А-а-а! — крычыць яна і чуе, што толькі сіпіць.

— Цярпі, дачка... Лаві мяне за рукі...

Над ёй гаворыць Наста. Чуваць нават, як Наста цяж-

ка дыхае, як сапе. Таня тады хапаецца абедзвюма рукамі за яе руку — за локаць...

— Не падымайся, дачка... Не чуеш, ці што?

Наста пачынае на яе крычаць: мусіць, яна, Таня, была паднялася, бо зноў забалела-забалела нага...

Таня тады заплюшчыла вочы. Калі яна зноў глянула, убачыла над галавой высокі багуннік і верас. Яны краталіся, як ад ветру. Таня здагадалася, што яе цягне Наста ў лес з дарогі, дзе асталіся падводы. Яна падумала была, а дзе ж мужчыны, калі яе цягне Наста?.. Яна, мусіць, яшчэ раз паднялася, каб глянуць, дзе мужчыны, бо зноў загаварыла Наста:

— Не тузайся, дачка... Памагай мне... Мы з табой не пабяжым... Ні я, ні ты... Я ўжо як без ног...

Таня запыталася ў Насты, дзе ж мужчыны, але Наста, мусіць, не пачула: не сказала ні слова — цягнула толькі яе ўсё і цягнула па сіўцы і па сухой мятліцы немаведама куды.

Даг-даг-даг...— стагнала па лесе, не сціхаючы.

— Не тузайся... Гарыш уся, як агонь. Цярпі, дачка... Цярпі-і-і...

Тані зноў стала холадна ўсёй і мокра спадыспаду ў спіну. У вочы пырснула аднекуль вада. Зашасталі пад рукамі сухі бабок і альховае лісце; стала мякка, як на сене; запахла мохам і журавінамі. Уперадзе, угалавах, чвякала ў некага пад цяжкімі нагамі гразь, усё роўна што піла ваду кабыла.

Зноў загрукала ў парозе ў хаце — гэта ў маці з пляча зваліўся на падлогу серп.

Закрычала раптам Наста — на ўсё загуменне... Адагнуліся жнеі, пасталі на загонах, трымаючы ў руках сярпы, і глядзяць за Януковы дубы на туляг, за якім загарэлася чырвонае, як агонь, сонца і валіцца на вёску, што камень...

Таня пачула, як яе выпусціла з рук Наста.

Яна ўдарылася патыліцай аб нешта цвёрдае, як дома на двары аб ганак.

Адплюшчыўшы вочы, яна згледзела збоку немца. Ён быў усё роўна як Юзюк... У руках у яго трэсся чорны аўтамат, крывы, што серп...

Яна хацела закрыцца рукамі...

## 17

Насце здавалася, што яна чуе, як у падвойныя вокны з двара б'е вецер, мякка, усё роўна што кужэльным мяшком. Чуваць нават, як ён шастае па сцяне па бярвенні, бытта абмятае яе ад снегу сухім венікам з лісцем; венікаў Наста навязала яшчэ летам, калі адбывала поле, і яны ляжалі цяпер на хаце на гары ля коміна — цэлая куча. Вецер прадзімае падвойныя вокны — холадна ззаду ў плечы, холадна і на хаце, хоць рана заложана юшка. Трашчаць пад столлю бэлькі, бытта хто ходзіць па гары. Стукае ля студні аб сцяну ў варыўні асвер — сарваў вецер. Наста была ўшчаміла яго ў паркан, набіраючы нанач вады ў вёдры.

Калі аціхае вецер, чуваць, як шастае па шыбах дробны снег — пайшлі крупы. Яны нават відаць ад лямпы ў незамёрзлым чорным акне — лётаюць за шыбамі, белыя, дробныя, што мак, адскокваюць і сыплюцца на падаконнік з мяленнем, што прыбіты знадворку да акна. На падаконніку снегу цэлая горка — свежага, белага, як добры крухмал; пад ім blішчыць ад лямпы ценкі белы лёд — намёрз на мяленні...

Стукае на стале нямазаная швейная машына, калі круціш за ручку... Пасля Наста чуе, як стукае ў хлеве карова, мусіць, драбінай: холадна, і карова грэецца — шукае сена. Дагэтуль яна кожны раз з'ядае ўсё, што паложыш за драбіну, і, калі ціснe на дварэ мароз, лезе тады з рагамі ў драбіну.

Карова грукае, не перастаючы, аж дзеці чуюць спрасоння — кратаюцца ў запечку на ложку,— і Наста думае, што трэба схадзіць у хлеў паглядзець: карова ж на цяленні...

Наста думае, што карова будзе цяліцца толькі ў канцы месяца, а можа, аж пасля грамніц, нядаўна значыць пачала, але ўстае з-за стала, адсоўвае на сярэдзіну швейную машыну, каб вылезці, не зачапіцца, і ідзе ў парог. Дастае ў запечку са сцяны з цвіка кажух, уссоўвае на ногі цёплыя буркі, узяўшы з пяколка, выцягвае з-за коміна лучыну і бярэ з-пад лаўкі ў парозе парожняе вядро. Запаліўшы лучыну — раздзьмула ў пячуры на прыпечку вуголле, яна хавае яе ў вядро і, закрываючы зверху крылом кажуха ад ветру, ідзе на двор. У сенцах ля парога намяло снегу, і ён скрыпіць пад нагамі. Ліпнуць да белай ад марозу клямкі пальцы і смыляць, як ад чаго гарачага. Вецер, гус-

ты і востры, аж скідае ля ганка з ног, няма як дыхаць, захліпаешся; лыпнула і пагасла адразу на двары ў вядры лучына.

Наста вярнулася ў хату па сярнічкі — доўга мацала ў пячурцы пад рукавіцамі, пакуль знайшла карабок...

На двары снег быў па калені да самага хлева. Вецер гнаў яго з загумення і з гародаў праз платы на двор. Неба было светлае: стаяла якраз поўня. Ад свежага снегу зрабілася відна, і было відаць, як з лесу адна за адной ехалі падводы, чорныя на снезе, як жукі. За падводамі ззаду беглі людзі — па адным, па два, валюхаліся вуліцай ля самага тыну па гурбах. Пад санямі скрыпеў снег, ад скрыпу не было чуваць, як скуголіў у плоце ля студні вецер. Падвод было многа, і на кожнай сядзелі людзі ў белых халатах — поўны сані. Наста пазнала, што гэта партызаны.

Партызаны некуды спяшаюцца, калі не сталі ля варот. У яе ж толькі ў адной у вёсцы гарэў у хаце так позна агонь. Яна падумала, што партызаны недзе памерзлі, як карчы, на такім сіверы, бо едуць ад самай Дзвінасы, не зайшоўшы нікуды ў хату. А да Дзвінасы вёрст сем, добра яшчэ, што лесам, цішэй ад ветру.

У хлеве яна не паліла лучыны: баялася закінуць агню такім безгалоўем і шкадавала сярнічак. Расчыніла насцеж адны і другія дзверы — у хлеве было відна ад снегу, нават у куце ля драбіны на гнаі, дзе стаяла прывязаная на ланцугу карова. Наста пагладзіла яе па спіне, знайшла вобмацкам ланцуг — ён быў закруціўся за рогі — і абмацала драбіну. Драбіна была пустая. Струшанка ляжала ля сцяны ў каровы пад нагамі — шапацела, калі ступала па гнаі Наста. Наста падумала, што карова не галодная, калі не есць струшанкі; пайшла была за перагародку, за якой сядзелі куры і, чуючы яе, Насту, адгукаліся, кудахтаючы. Зе перагародкай стаяў ля ясляў Буланчык. Стрыножыўся, аб'інеў, стагнаў і не еў сена — яно ляжала варахам у яслях роўна з берагамі. Буланчыка бралі ўчора ў падводы кутузаўцы...

Наста сціснула ў ахапак у яслях сена, перанесла яго карове за драбіну. Будзе есці і пасля каня, каб сагрэцца, калі пад раніцу вецер вышастае хлеў. Раздурылі, струшанка ўжо ёй не лезе...

Пасля яна пайшла наскубла са сцірты мурагу — ля сцяны ад двара — не многа, як узяць пад паху, і паклала Буланчыку ў яслі. Буланчык доўга стаяў, апусціўшы га-

лаву, пасля стаў гломзаць, памалу, як нежывы. І не піў ён нешта вечарам зусім, памачыў толькі храпы. Трэба было яму вынесці вады з хаты... Загналі яго... Ніхто ж не скажа, куды на ім ездзілі па такім снезе, а ў каня языка няма... Яна пагладзіла Буланчыка па шыі — ад інею стала холадна ў рукі, пасля пайшла на праціўню, узяла з кадзі мех, у якім насілі запарваць карове мякіну, і накрыла яму спіну, там, дзе ляжаў падсядзёлак...

Буланчык пераступіў з нагі на нагу, пасля заірзаў — ціха і ценка; з храп у яго, было відаць, ішла пара. Закудахталі куры, пачуўшы, бразнула ланцугом карова — рвала са сцяны крук. Сена з ясляў яна не зачапіла.

Наста да яе больш не падышла.

Калі яна варочалася з хлева, на вуліцы яшчэ ўсё ехалі партызаны. Яна пастаяла ля ганка, пачакала, захінуўшыся каўняром ад ветру і схаваўшы ў рукавы кажуха голыя, без рукавіц, рукі: шчыпала за пальцы. Падумала: партызаны едуць у халатах. А што тыя халаты?.. Каб яны хоць грэлі на марозе... Яна падумала пасля, каб пайсці патушыць агонь, пакуль партызаны праедуць, але ж у яе гэтулькі шціва. Спаць жа не ляжаш: заўтра раніцай прыедуць кутузаўцы...

Яна вярнулася ў хату, узяўшы ў сенцах на засаўку дзверы. Павесіла ў запечку, зняўшы з плеч, кажух; сцягнула з ног буркі, астаўшыся ў суконных панчохах, падышла да стала, узяла абрус і завесіла ад вуліцы акно — не так будзе відаць агонь. Доўга стаяла ля ўслончыка, не хочучы лезці садзіцца за стол. Нізка над самым сталом цьмяна гарэла лямпа; праз шкляны магазын быў відаць вузенькі жоўты кнот і карасіна на дне — ці хопіць да раніцы. У хаце ўсюды было бела, як ад снегу: на стале, на лавах, на куфры і на ложку ля акна ляжалі абрусы. Цвёрдыя яшчэ, з новага зусім кужалю, у васьмініцовыя ўзоры, яны ляжалі ворахам, усё роўна як хто іх параскідаў. На стале і на лаве ля куфра яны былі ў кавалках — пакроены. На куфры адзін на адным былі складзены ўжо гатовыя халаты, шырокія, з рукавамі і вялікімі нязграбнымі адтапыранымі башлыкамі — падобныя на людзей.

На стале пад самай лямпай ляжала белая крамная прушчына і блішчала швейная машына: блішчала беленькае, у дзіркі, кола; блішчала жоўтая драўляная ручка; аж пераліваліся выслізганая пальцамі засоўка над чаўнаком...

Наста пачула, як ёй стала холадна ў ногі праз сукон-

ныя панчохі: стаяла на голай падлозе. Яна падумала, што ёй не хочацца ўжо лезці за стол: зліпаюцца павекі ад сну і баляць у локцях рукі. Баляць яшчэ пальцы, пушкі: падгінаеш імі мацерыю і абрусы, абрубліваючы, ціснеш, каб не выскоквалі з-пад ножкі ў машыне рубцы,— дзе яно дзенецца. Увесь тыдзень не вылазіла з-за машыны — дзяцей толькі карміла і скаціну.

Стукае сухая машына; нават чуваць, як цяжка круціць ручку. Калі яшчэ апаражніла маслёнку з маслам... А цяпер дзе дастанеш.

Партызаны казалі і не прыняслі. А дзе яны возьмуць, хоць ты іх прасі ці не прасі.

Стукае машына і не цягне: лучыўся тоўсты рубец. Загні ўдвая кужаль, ды па шве... Каб хаця іголку не зламаць — апошняя.

Наста тады кідае ручку і, паклаўшы далоню зверху на кола, круціць даланёй.

Іголка пругкая, лезе ў рубец, нават не гнецца... Пад пальцам чуваць суравы, кастрывы кужаль — трапіўся партызанам пад рукі нечы благі абрус ці, можа, яго хто прынёс сам, калі партызаны збіралі, прынёс не шкадуючы: не было чаго шкадаваць.

Рвецца верхняя нітка — рве іголка, не працягвае праз тоўсты рубец, хоць ты кідай і перашывай потым рукамі...

А гэтулькі яшчэ наперадзе шыва...

Сама горш уводзіць у вушка нітку пры агні, калі блішчыць усё на свеце. Іголка робіцца ценкая, і не відаць нідзе вушка; чуць зловіш яго вачыма.

Дрыжыць рука, калоціцца, натруджаная зусім,— нажніцы дык ужо і не сціснеш ёй, кроячы...

Стукае без аддухі машына, калі гоніш шво ў халаце па спіне зверху аж уніз; упіраецца іголка і дрыжыць стол, калі абрубліваеш падол адным махам, разагнаўшыся і ссоўваючы пакроеныя абрусы пад стол на падлогу. Нагінаешся пасля, каб прыняць іх з-пад ног, і чуеш, як вядзе галава, што ад чаду: пачынае балець.

Калі не стракоча ля вуха машына, чуваць тады, як кідаюцца на ложку ў запечку дзеці — пассоўвалі з сябе нагамі да брыжа пасцілкі,— і зноў стукае ў хлеве карова. Пацягваецца на печы ля коміна котка — шастае лучынай. Гудзе ў коміне вецер, ганяе юшку, яна бразгае, што ўсё роўна парожняя скаварodка на прыпечку,— і тады яшчэ горш холадна ўсёй ад акна. Хоць ты вазьмі ды

перасядзь на хату, але на хаце трэба садзіцца на ўслончык, і тады будзе высака лямпа і не згледзіш пад ножкай у машыне рубца... Каб пайшоў толькі ў сенцы, знайшоў дроту апусціць ніжэй лямпу, але дзе ты яго ўпацёмку знойдзеш. Тырчыць недзе ў сцяне ля вушака кавалак почапкі ад вядра, але яна крывая, прастаць трэба — наробіш стуку і паўзбуджваеш дзяцей.

Зноў стракоча машына, рве з-пад пальцаў шво, чуць утрымаеш; стукае ў вокны вецер; пайшоў снег, вялікі, па атопку; на падаконніку ляжыць гурба — замуравала ўсю шыбіну.

Стукае ля студні асвер; забылася, не ўшчаміла яго ў паркан, калі была на двары; пачынае, усхадзіўшыся, ныць за акном у мяленні вецер — усё роўна што ваўкі выюць пад Карчаваткамі.

На вуліцы за гародчыкам зноў на снезе відаць сані, чуць кратаюцца...

За імі ідуць кучкай людзі.

Яна падумала, што занясло недзе зусім дарогу, не праехаць; што да раніцы гурбы будуць на вуліцы роўна са стрэхамі: не сціхае снег; што партызаны ўсё роўна сыплюцца і сыплюцца з лесу, некуды ім пільна трэба: гарнізон, мусіць, брацъ едуць у «Западную», калі ўсе ў белых халатах.

Бягуць па гурбах за саньмі па такім марозе, а што ў іх абута... Каб і вунь што было, усё роўна змокнуць ногі, а дзе тады абсушыцца. І што ў іх, у партызан, пад тымі халатамі... Кажушкі. Добра ж, калі новыя... У такое бязгалоўе ні кажух, ні валёнкі не ўпасуць. Ваўкі і тыя ідуць з лесу бліжэй да будыніны. І ваўкоў прабірае наскрозь, а тут жа людзі, ёсць яшчэ зусім дзеці, на печы б сядзець...

Паклаўшы на куфар халат, шырокі, цвёрды, з белага новага кужалю — чуць пашыўся, Наста пачула, што ёй усё холадна ў плячах, ніяк не можа сагрэцца. Яна падышла да печы, накрыла дзяцей — усцягнула пасцілкі аж на галовы на аднаго і другога: малоцяць нагамі што ў цапы і дзень і ноч — і зноў вярнулася да стала. Ускінула на плечы пяньковую хустку; дастала з куфра, падняўшы века, каб пралезла ў прыскрынак рука, шпульку новых нітак, пасадзіла на машыну. Узяла падсунула да сябе новае скроенае рукаво, яно ляжала на самым версе.

Калі зноў застукала машына, Насце здалося, што забразгала ў сенцах клямка. Яна падумала, што гэта ве-

цер — дзьме якраз у дзверы; тады пачула, як забарабанілі ў акно, моцна, на ўсю сілу.

Яна падбегла ў парог і, піхнуўшы ў сенцы дзверы, спыталася, як і кожны раз:

— Хто там?

— Сваі. Адкрой, хазяйка...

За дзвярыма ля самых сяней гаварылі мужчыны, тапаючы нагамі,— здалося, іх повен двор.

Яна адцягнула засаўку — вецер вырваў з рук дзверы і бразнуў імі аб сцяну. У сенцы пагнала снег, аж у парог у хату. З плеч звалілася хустка, Наста чуць справілася падняць яе з-пад ног.

У хату павалілі партызаны... Яна стаяла ў парозе ля дзвярэй, не чуючы, што яны гаварылі, ідучы: яе ўсю калаціла. Пасля яна зайшла ім наперад і пайшла да стала, дзе стаяла машына і ляжалі на куфры пашытыя халаты.

А партызаны ішлі і ішлі: у белых халатах, у белых ад снегу валёнках, чапляліся ў дзвярах за вушак прыкладамі і стукалі галовамі ўверсе аб папярочку — дзверы ў хаце былі нізкія. Грукалі ў парозе нагамі — абівалі снег, каб не нанесці на хату да стала; счышчалі яго венікам з валёнак і з ботаў, перадаючы венік адзін аднаму ў рукі; сцягвалі з галоў белыя башлыкі і абкладалі іх на плячах; расшпільвалі аб'інелыя белыя каўняры, церлі рукавіцамі шчокі і насы, пасля знімалі рукавіцы, клалі на лавы, на стол і церлі шчокі пальцамі — памарозілі. Падыходзілі да стала і да куфра, мацалі рукамі кужаль; на куфры пассоўвалі ў адну кучу халаты і клалі на века белыя аўтаматы з вінтоўкамі — у цяпле на жалезе адразу выступіў іней.

Партызаны былі і ля ложка, і ля стала, і ля шафы, што стаяла ля сцяны ад гароду. Ім самім было ўжо цесна ў хаце, не павярнуцца, а яны ўсё ішлі і ішлі, стукаючы прыкладамі аб вушак у дзвярах.

Прасіліся пагрэцца, пыталіся, ці даўно ехалі падводы, пілі з вядра ля печы кружкай ваду і церлі без аддухі шчокі. Дзверы доўга стаялі расчыненыя, і ў хату аж на кут пад стол валіла белая пара.

У Насты не лучаў зуб на зуб; яна толькі схапіла хустку за рагі на грудзях...

А партызаны ўсё ішлі.

Яна прыціснулася ля стала да лавы — давала месца; зірнула, стоячы, у акно. На гародзе было бела ад снегу і



Іван Пташнікаў на радзіме Агінскага.
*Залессе, 1958 г.*



Іван Пташнікаў з Іванам Навуменкам
у час працы ў часопісе «Маладосць».
*1959 г.*

ядрана: мусіць, свяціў месяц. У шыбы біў вецер — не сціхаў.

Яна тады пачула, як яе схапіла і пачало трасці...

Падумала: добра, што накрыла на ложку пасцілкамі дзяцей,— цяпер да іх не падступіцца...

А людзі ўсё ішлі.

Наста зноў убачыла ў акно, як відна ў гародзе; тады згледзела, што цямней робіцца ў хаце: канчаецца карасіна і тухне лямпа.

А людзі ўсё ішлі і ішлі з сяней без сканчонага, грукаючы нагамі ў парозе.

Яе трасло, не адпускала.

Калі Наста адплюшчыла вочы, усюды было ядрана, аж не давала глядзець. Сонца стаяла высака — бралася пад паўдня. Такой парой гоняць дамоў з адранку скаціну.

Яна падумала адразу, што не ведае, дзе ляжыць,— не помніць. Высака ў гары застыла белае ад дробненькіх воблакаў неба — было ўсё роўна як пажмаканае палатно.

Ёй было высака пад галаву, і яна бачыла зашыек, што вёў між лесу на балота, і край дарогі ля самага маста. Яны былі сівыя, як ад дыму...

Над самай галавой краталася жоўтая мятліца, бы на яе хто дыхаў. Усюды было ціха, і Наста падумала адразу, што аглохла. Доўга ляжала, адплюшчыўшы вочы і глядзячы ўгару... Пасля ёй здалося, што чуе, як нехта стогне. Тады зноў пачала слухаць, пакуль здагадалася, што стогне сама...

Калі яна доўга глядзела ўгару, у вачах пачыналі бегаць мурашкі, чорныя, дробныя, што мак,— усё роўна як сыпаліся адкуль зверху. Пасля яна пачула, што спадыспаду яе ўсю коле, як іголкамі,— і рукі, і ногі ў сцёгнах, і паясніцу — і падумала, што жывая.

Яна намаглася, хочучы ўстаць, і пачула, як яе тузанула балючая сутарга: за плечы. Плечы адразу забалелі — былі мокрыя, як у ліпкай раскалочанай гліне; стала цёмна ўваччу. Калі яна зноў кранула рукамі, каб устаць, яе адразу скруціла ўсю, і яна, перавярнуўшыся на жывот, закрычала як магла:

— Та-аня!..

Ёй было здалося, што яна згледзела Таню блізка ля сябе ў траве: ляжыць, адкінуўшы галаву, і ў яе расплецены косы...

Пасля яна пачула, што паўзе па траве, кратаецца,— служаць яшчэ рукі,— баляць толькі плечы, сталі горш мокнуць, і коле, аж совае ў шыю. Помніла, што трэба задзіраць галаву — абдзярэшся ў папараці аб ражны,— натужвалася, але ёй не давала падымацца шыя...

Тады яна падумала, што ніколі ўжо не ўстане з зямлі...

— Дзе-еці!..— клікнула яна, спужаўшыся, што не ўбачыць дзяцей... Яны жывыя, і Іра, і Валодзя. Няпраўда, што гарэла Дальва. Ну і што, калі ноччу было відаць у тым баку зарыва?

Траслося ўсярэдзіне, не сціхала, пачынаючы гарэць агнём...

Яна чаплялася рукамі за сухі верас, абдзіраючы пальцы; чула, што лучала каленямі на вострыя сасновыя шышкі на цвёрдай зямлі, аж калола ў мазгі.

— Та-аня!..— закрычала яна зноў і пачула, як ёй стала ўсёй горача. Верас зрабіўся высокі, як лес, і густы — не ўсадзіць рукі. Пачаўся соснік; балота асталося збоку.

Яна падумала, што згубіла Таню... Агледзеўшыся, убачыла, што ляжыць ля самай дарогі,— відаць з травы жоўты пясок і колы ад калёс: блішчаць шыны. Пахне дзёгцем. Яна, мусіць, прыпаўзла да маста.

Калі яна выпаўзла на дарогу да Януковых калёс, пачула, як усюды наліп пясок: на рукі, на нажутку, на спадніцу. Мусіць, яна ўся мокрая ад крыві, і кроў ідзе з-за плячэй, бо там, чуваць, усё зліплася. Каб гэта можна было акруціць плечы, уціснуўшы якім ручніком...

Яна спачатку ўзялася за кола абедзвюма рукамі — не думала, што можа адразу ўстаць. Стаяла пасля, учапіўшыся ў ляжэйку, а ў вачах круціліся зямля і пясок — белы ад сонца, як снег. Яна тады навалілася на калёсы — на мех, як ашчапіла была іх,— і ў яе адразу перавярнулася ўсё ў грудзях: на тым баку, за калясьмі, ляжаў на дарозе на самым пяску Янук. Ляжаў — галавой сюды, да Насты. У яго быў сіні лоб і заплюшчаныя глыбака, як у ямах, вочы. З галавы звалілася кепка, і мокрыя сівыя валасы ўкачаліся ў пясок. Рот у яго быў скрыўлены, як і кожны раз, калі Янук пыкаў вуснамі: хоць што прасіў. Доўгая белая палатняная кашуля ў яго задзёрлася аж на грудзі; босыя, вымытыя ў расе ногі ён падагнуў пад сябе, прыціснуўшы імі лейцы,— усё роўна як не пускаючы аднаго каня. Ля ног у яго на пяску бегалі мурашкі.

Яна падумала, што забілі Янука. Дваіх забілі: Таню і

Янука... Пасля злякнулася: а дзе ж мужчыны? Павярнуўшы, нямогучы, галаву, каб глянуць уперад на дарогу, яна ўбачыла на зямлі Янукову белую кабылу. Кабыла ляжала ў аглобнях, адкінуўшы галаву, як завалілася ўсё роўна ў баразне.

Наперадзе нікога не было відаць: ні Боганчыка з жарабком, ні Панка, ні самога Махоркі, ні іхніх вазоў... Вісеў толькі пыл над парытай, як зрэзанай чым, дарогай, і ўсюды было ціха.

Калі Наста адхінулася ад воза, на вочы ёй лучыўся мех, той, на які яна была аперлася. Мех быў праколаты ля завязкі як нажом: пракалолі, мусіць, немцы, калі выскачылі былі з сосніку... Шырокая ад нажа дзірка была заткнута сенам, каб не сыпалася на дарогу з меха жыта...

Наста пачула раптам, як у яе зрабіліся цвёрдыя ногі, змярцвелі.

Яна была клікнула Махорку...

Махорка не адазваўся, і яна павяла каля сябе вачыма...

Махорка ляжаў нічком ля Алёшавых калёс, недалёка ад дарогі ў сіўцы. Здалёку быў увесь чорны і, здавалася, гарбаты.

— Мірон...— клікнула яна спопаразку і, выпусціўшы з рук ляжэйку, пайшла дарогай назад да маста — пераступала з нагі на нагу. Апомнілася, што ідзе, ужо ля Алёшавых калёс. За калёсы яна больш не бралася; стаяла на дарозе і глядзела здалёку на Махорку. Пасля яна ўбачыла, што ляжыць у аглобнях на пяску, проці Махоркі, выпучыўшы жывот, як аб'елася, рабая Таніна кабыла.

Таніны калёсы былі перакулены, і з-пад іх не было відаць мяхоў...

І Алёшаў конь быў забіты: ляжаў на зямлі за калясьмі; калёсы былі перавернуты ўпоперак дарогі. На жоўтым пяску аж ля самай лагчыны біў галавой аб зямлю яе, Насцін, Буланчык, падымаючы ўгару і апускаючы белыя аглобні — яшчэ жыў...

— Дзеці! Дзеці!..— зноў закрычала яна.

Яна ўжо мінула масток; ішла, перастаўляючы ногі — ішла дамоў,— і чула, што не можа ісці: слабее. Пастаіць і зноў ідзе, абыходзячы на дарозе забітых немцаў: яна баялася ступіць на кроў — на цёмныя мокрыя плямы на пяску.

Думала, ідучы, што ля маста, адкуль стралялі і куды загадваў бегчы Махорка, няма нідзе партызан — адны бі-

тыя немцы па ўсім лагу і па дарозе. Каб былі дзе блізка партызаны, згледзелі б, што яна ідзе. Але дагэтуль, пакуль яна ляжала ў лагчыне без памяці, партызаны пайшлі недзе праз Пунішча на Палік, не сядзелі на месцы.

За мастом пачыналася гара. Стала горача, не было чым дыхаць. Яна была ўжо ўзышла на гару да палавіны — ішла дарогай назад, адкуль нядаўна ехалі...

Калі яна ўпала на гары на жвір, пачула, што сунецца ўніз, да маста ў лагчыну. У вачах стала голае карэнне ад сасны, сухое, чырвонае: вытыркалася з зямлі, дзе асыпаўся пясок...

Чуваць было, як недзе ззаду пачало несціхана бухаць — рваліся снарады. Ёй здалося пасля, што гэта б'е галавой аб зямлю Буланчык...

— Дзеці... Дзеці...— клікнула яна, перавярнуўшыся на плечы.

На яе пасыпаліся зверху зялёныя сасновыя іголкі.

Пасля яна пачула, што слепне. На вочы як усё роўна наліпла сухога павучыння: сцірай даланёй — не памагае. Загарэлася ўсё ўсярэдзіне...

## 18

Боганчык бег расцяробам з гары па сухой папараці і карчах, азіраючыся памінутне назад, туды, дзе была дарога, і чуў, што робіцца ціха — перастаюць страляць. Толькі яшчэ, бывае, доўга, аж, здаецца, заходзячыся хлебастаў кулямёт: а-а-а-у-у-у... Нямецкі — ён, Боганчык, пазнаваў.

Ён падумаў, што страляюць усё роўна як некаму ўдагонку... Мусіць, немцы адступілі за масток на шашу: там зноў было чуваць, як гудзяць машыны.

Ён спатыкаўся, чапляючыся нагамі за карэнне, нагінаўся, каб не паваліцца, да самай зямлі — чуў тады, як пахне з-пад ног падсохлае гэтым месцам у расцяробе балота: прэлай кіслёй і багуннікам... Даваенная лінія зарасла бярэзнікам уровень з чалавекам, і Боганчык думаў, што здалёку з гары недзе відаць, як кратаюцца кусты ў расцяробе. Ён хацеў збегчы з лініі, але паабапал быў густы ельнік — не ўткнуцца.

Ён бег, угрэўшыся, як у лазні, расшпіліў сарочку і хватаўся ў дзве рукі за грудзі. У грудзях было горача і суха, нібы там усё схапілася агнём; горка стала ў роце

на языку... Ён, мусіць, дыхаў з сябе гарачынёй: высахлі і патрэскаліся вусны.

Гарэлі шчокі — накалоў аб яловыя лапкі; муляў ззаду за шыяй мокры і цвёрды, што карына, каўнер — рэзаў як тупым нажом.

Боганчык не помніў, дзе жарабок з калясьмі і дзе кепка... Чорт з імі. Жарабок быў скочыў з дарогі ў соснік... з калясьмі. Забілі недзе.

Калі ён каціўся з гары, здавалася, шчапаецца зямля: трашчала ўсё на свеце. Пасля, як ён ускочыў з дарогі і пабег расцяробам, пачуў, што страляюць ля маста і ззаду за паваротам. Ён падумаў, што ля маста трашчаць без сціханага аўтаматы, што партызаны недзе, чакаючы, прапусцілі немцаў за паварот і кашанулі адразу і збоку і ззаду ўдоўж па дарозе. Немцы не чакалі іх тут, пад самым гарнізонам, і ішлі, мусіць, без разведкі за абозам.

Адбегшыся, ён падумаў, што трэба завярнуць пад Краснае, пад лог да ракі: у балота на Пунішча могуць адступіць партызаны: у лесе ж ля маста і на дарозе да самай шашы поўна немцаў...

Ён пачуў пасля, што зноў страляюць у расцяробе, і пачаў памінутне азірацца...

Адразу аднекуль нахлынуў страх, схапіў усяго — затрасліся ў каленях ногі, падгіналіся, не даючы бегчы. Боганчык быў падумаў, што яго паранілі. Стукалі зубы; ён варочаў галавой і нічога не бачыў, бытта аслеп. Толькі выстаўляў уперад рукі, выцягваў далёка перад сабой, каб не прасадзіцца. Вывіхнуў, мусіць, у костачцы нагу, бо згледзеў, што кульгае; пасля пачуў, што не можа прыступіць — баліць у самым суставе. Доўга бег, кульгаючы, пасля боль у суставе прайшоў, толькі было горача ў назе ў боце, усё роўна як ён, Боганчык, парыў яе ў лазні ў цабэрку з гарачай вадой. Нага ў яго некалі балела... Падумаў быў, што, можа, гэта і не вывіх — разбалелася старая болька...

Калі ззаду аціхла страляніна, Боганчык стаў, пасля зноў бег, аж пакуль не кончыўся расцяроб у самай лагчыне. Збоку была сухая імшара з высокім мохам і ценкім дробным сасоннікам — сюды маглі адступіць партызаны, ідучы на Пунішча ў пушчу; наперадзе пачынаўся высокі стары соснік, свіціўся — блізка, мусіць, недзе была пасека.

Ён быў зноў стаў спопаразку: не ведаў, куды бегчы. Ён не хацеў нікуды сыходзіць з расцяробу: здавалася,

каб расцяроб ішоў на край зямлі, ён, Боганчык, бег і бег бы па ім, не звярнуўшы. Расцяроб вёў з лесу на выспу пад Краснае, па ім можна было збегчы ад страляніны...

Боганчык стаяў, круцячы галавой, і чуў, як стукае сэрца — выскачыць з грудзей; пасля пачуў, што стукае ў галаве — у патыліцы — і звініць у вушах. Балелі вочы, не павярнуць, не глянуць, і трасліся ногі. Ён убачыў, што стаіць ля самай імшары, уехаўшы ў мох аж па калені. Пад нагамі была вада: рабілася холадна ў пальцы, зверху праз боты.

Боганчык стаў церці рукамі вочы — згледзеў, што чорныя пальцы: умазаў, калі бег праз гарэлы сосніх на русецы і адхінаў лапкі. Учарэпіўся быў за падол у рубашцы і, выцягнуўшы яе з-пад дзягі, стаў абціраць рукі. Рубашка была мокрая, хоць круці...

Пачуў яшчэ, што капае пот з барады на рукі, цёплы, як летняя вада; капае з броў на штаны — на калені; цячэ з валасоў ля вушэй за карак. Ён павёў даланёй па барадзе — на руцэ была чорная вада...

Яму тады захацелася піць.

Калі ўперадзе ў імшары рванула міна, трэснуўшы і зазвінеўшы блізка, нават быў відаць дым, Боганчык адразу падскочыў спопаразку і кінуўся бегчы ў рэдкі соснік, дзе свіцілася поле... Падумаў, што страляюць па ім: згледзелі. Падумаў яшчэ, што па ім, мусіць, і стралялі, калі ён бег расцяробам,— з гары добра відаць...

Боганчык пачуў, што зусім не можа бегчы, задыхаецца, схапіла хліпаўка, вострая, як колькі; совае ў грудзі, не дыхнеш. Ён зноў стаў.

Цяпер затрашчала ззаду, якраз дзе быў расцяроб. Угару там падняўся пыл; засмярдзела гарэлая сажа, як з коміна... Стала блага...

Ён пабег тады на гару — падымаўся, спатыкаючыся,— якраз туды, дзе свіціўся стары рэдкі соснік,— далей ад расцяробу.

Калі пачалі рвацца міны спераду па ўсім сосніку і загарэўся верас — закруціўся ля зямлі белы дым і было відаць полымя,— Боганчык падумаў, што страляюць не па ім: каму ён трэба. Немцы недзе адышлі з Тартака на шашу і цяпер адтуль страляюць у лес з мінамётаў, пускаючы міны ў той бок, дзе былі партызаны,— у белы свет як у капейку...

Пасля Боганчык падумаў, што невядома: можа, сюды, пад Краснае, ідуць краем лесу партызаны — чаго ім лез-

ці на Пунішча ў балота... Пойдуць берагам Дзвінасы пад самым носам у немцаў у пушчу, не збаяцца, калі не збаяліся сесці ля самага Краснага ў засаду.

Міны рваліся цяпер, здавалася, па ўсім лесе, і Боганчык падумаў яшчэ, што немцы не сунуцца зноў адразу дарогай, хоць партызаны даўно, можа, сышлі,— будуць абстрэльваць увесь лес з мінамётаў: і імшары, і пасеку на самай гары, і стары соснік пад логам ля Дзвінасы.

Ззаду за расцяробам, недзе, мусіць, на дарозе за мастом, зноў засакатаў кулямёт: а-а-а-у-у-у...— нямецкі, стралялі разрыўнымі кулямі — і пачуліся стрэлы з вінтовак: пах! пах! Немцы будуць яшчэ лупіць і з кулямётаў па лесе ля дарогі — удоўж і ўпоперак...

Пасля на шашы зараўлі машыны, як ішлі ўсё роўна пад гару. Боганчык пачуў, што там забразгала жалеза, як у кузні...

«Танкі...» — падумаў ён.

Яго тады ўсяго страсанула: ён даўна не чуў, як бразгалі танкі.

«Магіла ў лесе... Пойдуць немцы. Абстраляюць і пойдуць...»

Калі Боганчык спатыкнуўся і пасля стаяў, каб прыслухацца, чуў, як стукае сэрца і турчаць недзе збоку на імшары жабы. Тады зноў лязгала жалеза: міны рваліся ззаду — мусіць, на дарозе ля мастка. Ён зноў бег — трушком: не давалі калькі; бег з гары ў лагчыну, дзе свіцілася поле. Пад нагамі шуршаў сухі сівы мох — нават не адсырэў за ноч, у лесе, мусіць, не было расы,— трашчала сучча, і грукала зямля, усё роўна як дзе глыбака была пустая. Пасля ён падумаў, што гэта зноў у яго стукае ў галаве.

Там, дзе перш свіцілася поле, ён раптам згледзеў дым, густы, сіні. Гарэў лес, а яму здавалася, што ў тым баку было поле...

Міны рваліся цяпер ззаду на гары, адкуль ён, Боганчык, збег сюды, уніз, у высокі, рэдкі сасновы лес, дзе бушаваў агонь...

Закашляўшыся, Боганчык адразу завярнуўся назад — не давала дыхаць — і бег як толькі мог: уцякаў ад дыму.

Трашчала полымя пад самымі нагамі — гарэла сухое жоўтае сасновае верхаўё; гарэлі сасновыя карчы, роўна, ядрана, усё роўна як хто расклаў агні; сінелі, корчыліся на моху кара і верас, сінеў ад агню мох, беручыся ў чырвоны вугаль,— агонь ішоў па зямлі.

Боганчык ужо не бачыў дыму, чуў толькі, як густа пахне гарэлай смалой, і бег — бег назад і ніяк не мог выскачыць з дыму. Тады ён павярнуў лявей, каб выбегчы на імшары.

Калі ён лучаў на сівую рэдзенькую травіцу на буграх, куды не дайшоў агонь, бачыў, як беглі па зямлі шэранькія дробныя яшчаркі — уцякалі ад пажару. Яшчаркі баяліся выбегчы на чорную зямлю, дзе прайшоў агонь,— зямля, мусіць, была яшчэ гарачая,— і круціліся на месцы па траве, падымаючы галовы.

Рэдзенькую сухую травіцу на зямлі агонь лізаў, што карова языком...

«Магіла ў лесе...» — зноў цюкнула яму ў галаву.

Ён бег і думаў, што пачаў круціцца на адным месцы, як заблудзіўся. Горача было ўсяму — здавалася, гарэла на плячах рубашка; стукала ў галаву, як малатком, і ён пачуў, што валіцца з ног...

Ён упаў на нешта цвёрдае і вострае, ударыўшыся — згледзеў, што на крушню камення. Крушня была сырая і халодная, парасла зверху зялёным вільготным мохам, і яе абыходзіў агонь.

Боганчык падумаў, што ля крушні недзе блізка дарога, і зноў ускочыў з зямлі...

Калі ён выбег на чыстую пасеку, убачыў сонца — яно паднялося над самым лесам і, здавалася, сушыла ўсё на свеце. На пасецы на маліінніку ля пнёў яшчэ блішчала на лісці раса, як вада пасля дажджу, і ўсюды пахла дымам, аж дзёрла ў горле. Дым спаўзаўся з лесу на пасеку і збіраўся ў кутках, як туман, засцілаючы ўсё з вачэй...

Пад ногі лучаліся старыя бярозавыя дровы-метры — некалі ляжалі тут у вёрстах. Сухая белая бяроста стаяла ворахам і трашчала, ломячыся, калі ён ступаў на яе. Ногі правальваліся глыбака, да калень, і выцягвалі наверх сухую жоўтую ў друзалках трухліну, што гнілое пілавінне.

Ён быў пераскочыў цераз свежую яму ад міны, неглыбокую, шырокую зверху і вузкую ўнізе, усё роўна як дзікі яе вырылі, шукаючы карэння. З ямы быў вывернуты пясок — у адзін бок; сыры, мяккі і жоўты, ён ляжаў у свежых друзалачках і бялеў зверху — сох на сонцы. Ля пяску на сіўцы валяліся дробныя чырвоныя трэскі. У яме ля берагоў была чорная зямля — у сажы.

Ён бег пасекай па чыстым і думаў, што бяжыць здурнеўшы... Як і тады, калі яго засталі дома ў вёсцы нем-

цы,— ён прыйшоў быў з Карчаватак. Немцы ішлі тады ■ лесу, а ён глядзеў з хаты ў акно, думаў, што яны паявяцца з грэблі...

Згледзеўшы іх ля ям, ён выскачыў з двара, перакуліўся цераз тын і пабег вуліцай — пасярод — у другі канец вёскі... Па ім пачалі страляць з аўтаматаў, а ён бег і бег пасярод вуліцы... Каб хоць прыхінуўся дзе да вугла...

На пасецы ён зноў лучыў на лінію, угледзеўшы яе знянацку: мільгануў збоку чысты прагал...

Боганчык тады зноў пабег расцяробам з пасекі, туды, дзе ў прагале за лесам была відаць белая ад сонца зямля. Задыхаўся, хаўкаў, як рыба на пяску, і рваў на грудзях рубашку... Расцяроб быў узараны яшчэ да вайны; сухі, жоўты, аж белы пясок выпетраў на сонцы і перасыпаўся пад нагамі, як попел. Ногі лезлі, што ў свежы снег, коўзаліся, і ён баяўся, каб не спатыкнуцца: абваліцца — не ўстане.

Пасля ён пачаў лучаць нагамі на траву — на сівец, што рос кусцікамі, як насаджаны рукамі. З сіўцом раслі зайцаў гарошак — сцяліўся па самай зямлі, па пяску; мучанічнік — спаўзаў на лінію з пасекі доўгімі вусамі з лісцем, што на брусьнічніку; верас, сухі і ацярушаны, як стаптанае скацінай ржышча; мятліца — стаяла белая, што салома; высокая рабінка з пакручаным лісцем, што расце на пасеках на сухім пяску ля пнёў; і крапіва — зялёная, старая, як дзе пад вуглом: па дзве, па тры дудкі ў кучы.

Расцяроб у самым канцы шырэў — на яго, мусіць, выходзіла аднекуль дарога,— і быў відаць далёка, ля самай ракі, чысты лог. За логам, за ракой, пачыналася Краснае...

Боганчык пазнаў, што бяжыць якраз на выган — да млына...

На выгане за ракой быў відаць дот — ляжалі павывараочваныя з зямлі белыя груды... Немцы ўзарвалі ўсе доты ля Краснага. Узрывалі сёлета вясной, яшчэ маразамі, і было добра чуваць аж у Дальве...

Убачыўшы дот, Боганчык страпянуўся, і ў яго заныла ўсярэдзіне. Падкасіліся ногі...

Зноў засмярдзела дымам, як і дома ля грэблі. Пасля Боганчык убачыў, як далёка за ракой у Красным нешта гарэла — у тым баку ўсё было заслана дымам...

Ззаду ля маста застукаў кулямёт, кораценька і дзяркага: а-а-у-у...

Пасля пачалі без аддухі страляць на імшарах, і далёка ішло рэха, аж у кут пад пушчу...

...Боганчыку было здалося спачатку, што яго ўдарыў заднімі ўкаванымі нагамі жарабок — у жывот пад дыхавіцу, адкінуўшы з хлева аж на памост на праціўні... Пасля ён пачуў, як разанула пад грудзьмі — што пілой...

Ён упаў на лініі ў пясок, адваліўшыся на спіну, як паслізнуўся, і адразу падняў галаву. Не давала глядзець — рэзаліся павечкі: вочы былі поўныя пяску. Мігнула было адразу ў галаве, што ён не пачуў выбуху: затрашчала толькі спераду на зямлі, усё роўна што сухое ламачча, і яго, Боганчыка, таўханула нечым цвёрдым і гарачым пад грудзі...

Падняўшы галаву, ён згледзеў кішкі... Яны ляжалі збоку ля яго на пяску. Ён схапіў іх рукамі, нічога не помніўшы, і прыціснуў да сябе — да жывата... Пачуў, што яны гарачыя, як вар... Ён згледзеў яшчэ збоку ля сябе яму... З яе ішоў белы, як пара, дым — слаўся па дне...

Пасля яго тузанула ўсяго і скруціла, як у абаранку. Рэзала ў жываце і ціснула за горла, як усё роўна душыла вяроўкай.

Ён не мог уцярпець...— пакаціўся па зямлі, па пяску...

— Да-бі-іце... Дабі-іце...— ён яшчэ крычаў і чуў сам сябе.

Пасля ён яшчэ быў падняў галаву, корчачыся і апіраючыся на рукі, і ўбачыў, як заблішчаў і схаваўся з вачэй далёка ў канцы расцяробу за ракой на беразе белы дот... Пацямнеў і асыпаўся, як куча попелу...

## 19

Вецер гнаў у вочы дым з пяском — дзёр пясок з зямлі, з поля і сек у шчокі, як зімой у маразы, калі заходзіў з Карчаватак...

Алёша пачуў, што захлынаецца — няма чым дыхаць...

Дыму была поўна пасека ля вёскі: сівы, як пыл, і густы, ён вісеў у самым кутку над жытам ля дарогі і над сосьнікам на Пагурку, хаваючы яго з воч. Дымам зацягнула бальшэўнік і вузкую жыліну на балоце на сушкоўскім баку, як туманам: ад яго было сіне і ля лесу пад Карчаваткамі і на ямах, як перад ноччу...

Алёша падумаў быў, што гарыць лес: зайшоў з-за вёскі вецер, і агонь коціць усе Карчаваткі...

Вецер шалеў: гнаў, не сціхаючы, з гары ад ям, ад вёс-

кі, жарству; падымаў угару аж немаведама куды жоўты пыл і сухую чорную траву — змятаў з дарогі; віхор хапаў на полі ў ахапак жыта, здавалася, павырывае яго з зямлі і пагоніць у жыліну на сушкоўскі бок, што салому; не даваў ісці, становячыся слупам на дарозе наперадзе... Алёша тады нагінаўся і, падвярнуўшы галаву, закрываў у дзве рукі вочы. Чуў, што ногі лезуць на дарозе ў пясок аж да калень.

Шумеў лес, аж стагнаў на ямах за дарогай; нагіналіся сосны, і тады за імі ў прагалах было відаць высокае, цёмнае, што ўвосень, неба ў доўгіх белых, выцягнутых, як лейцы, палосах. Адгіналіся назад сосны, паволі, што баючыся, скрыпелі і трашчалі, як падсечаныя.

Смярдзела ўсюды гарам, як ад торфу, калі ён доўга гарыць — тыднямі...

З поля ад Пагурка добра быў відаць соснік ля ям перад самай вёскай... З-за сосніку раптам паваліў дым, белы, як вата; густы, усё роўна што ў камках, ён расцягваўся ад ветру ўдоўж дарогі да самага лесу, пасля ападаў на зямлю, на жыта.

Алёшу тады зрабілася раптам блага; ён быў пастаяў, гледзячы ў соснік за ямы, тады пусціўся бегчы пад гару — па пяску і па жыце. Бег і думаў: на дарозе нарасло жыта — сцёбае па шчоках, як хто павіванай пугай...

Пад гару ён не мог бегчы; станавіўся і, закрываючыся рукамі ад ветру, кашляў; пасля, аддыхаўшыся, зноў бег па жыце на гару да ям... Высахла ў роце, як ад палу; патрэскаліся вусны і зрабіліся салёныя, аж горкія; высахла на грудзях чорная рубашка са старым сапсаваным бліскучым замочкам — замочак раз'ехаўся з верху да нізу. З рубашкі, калі Алёша датыкаўся да яе локцямі, адставала і адвальвалася камячкамі гразь — рудая, патрэсканая, што пацёртая яловая кара. Было горача ўсяму: смылела ад сонца галава; гарэла шыя; паапякаў, мусіць, скуру на носе — не дакрануцца пальцамі...

Ён быў падумаў, што не бачыць нідзе сонца — як схавалася куды.

Пасля яно паказалася з-за дыму — вісела высака ўгары, малое і белае-белае, не глянуць, вісела над самай вёскай — звярнула даўна з паўдня: усё роўна як была пара займаць на адвячорак у поле кароў...

Алёша пачуў, як яму раптам забалела ў калене нага — ударыў, калі Махорка зганяў яго з мяхоў з калёс. Балела паясніца, як усё роўна дзе яе зламаў; совала ў га-

лаву, калі лучаў босай нагой на камень. Ён тады аж сціскаў зубы. На зубах трашчаў пясок...

Алёша бег на гару да ям; станавіўся, тады зноў бег... Бывала, яму здавалася, што ён бяжыць не жытам дамоў, да вёскі, па пяску, а балотам з Тартака на Пунішча...

На гары ля ям у сосніку было сіне ад дыму, і Алёша доўга цёр кулакамі вочы: нічога не бачыў, як заступіла. Пасля ён выбег з сосніку на поле, якраз там, дзе да вайны быў калгасны капец і дзе людзі з вёскі хавалі бульбу. Зямля ад капца ляжала буграмі, яе ніхто не зраўняў, і Алёша пазнаў гэта месца, узбіўшыся з нагамі...

За соснікам рваў яшчэ горшы вецер, сек па шчоках жарствой — гнаў яе, мусіць, дарогай з загумення — і нічога не было відаць...

Алёша быў, мусіць, закрычаў, бо пачуў, што папярхнуўся, і яму зноў падвярнула пад грудзі блага...

За соснікам, дзе стаяла вёска, усё было заслана дымам, як і ў кутку на пасецы пад Пагуркам, дзе расло жыта.

З зямлі ўсюды ішоў клубамі дым, буры і цяжкі, як дзёгаць; яго, здавалася, не браў і вецер. Дым ішоў высака ўгару — уровень з соснікам, бялеў, тады яго гнуў да зямлі вецер і гнаў дарогай да ям на жыта...

Алёша ўбачыў, як вецер з дымам гоніць іскры, маленькія, дробныя, што пясок,— падымае ўгару і сыпле тады на зямлю, як сее. Па зямлі ў тым месцы бегаў агонь. Агонь быў белы, як сонца, і ад яго калола ў вочы; здавалася яшчэ, што іскры лятуць усё роўна як з-пад зямлі...

Запахла гарэлай бульбай і сырой глінай. Зарваў быў вецер, і тады ўсё заслаў дым — нічога не пазнаць...

Алёша падбег да самых ям — да дарогі. Ямы былі старыя — асыпаліся, аб'ехалі... На жоўтым пяску на дне ў іх расла трава...

Перабегшы дарогу, ён быў аглянуўся: у кутку над лесам, недзе над Дзвінасой, у небе віселі чорныя, што вугалле, самалёты, як і ўчора надвечар... Там несціхана гругала — усё роўна як грымеў гром.

Тады Алёша адразу пазнаў сосны ля фермы на дзядзінцы. Яны раслі ля дарогі, што вяла з вёскі да ям... Вялікія, вышэй лесу, таўстыя, не ашчапіць і ўтраіх рукамі, падсечаныя тапарамі, у ямах і ў дуплах, дзве старыя сасны здаўна стаялі ў канцы вёскі, дзе некалі былі могілкі...

На большую былі ўсцягнулі барану для бацяноў, даўна, Алёша не помніць калі, вялікую, мусіць, нечую з гумна. Бацяны яе не зачапілі; яна ляжала ўгары на сас-

не — белая, выгарала на сонцы, нагнулася краямі ўніз, як пераламаная... Баяліся, каб яна не звалілася на галаву. Алёша пазнаў барану — згледзеў здалёку...

Тады ён згледзеў вуліцу... Белая ад пяску, яна ішла вёскай, як дарога ў полі...

У яго затрасліся ногі...

Ён пазнаў яшчэ, што стаіць ля Боганчыкавага плота на дзядзінцы. Плот абгарэў — быў ля самага хлева — пачарнела жэрдзе. Агонь гнала з двара па зямлі, і ля плота выкаціла сухую, прыбітую нагамі траву. Вецер сагнаў з яе чорны попел, і ля самай зямлі з пяску было відаць белае карэнне...

Пасля ён падумаў, што Юзюк недзе на Паліку... Юзюк астаўся жыць...

Над соснамі далёка-далёка ўгары краталіся вобла-кі — адно над адным — цяжкія, белыя, што гурбы, і, здавалася, халодныя; ніжэй іх віселі чорныя, што зямля, з жоўтымі краямі тулягі: паўзлі ў другі бок, за раку — за Дальву...

*1967*

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# НАЙДОРФ

АПОВЕСЦЬ

*Частка першая*

## Заслон

### 1

Пагурак гарэў ад мін...

Гарэў пад'ялевец, туды, пад балота, у шэрых лазовых кустах — сырым сінім дымам, чуваць было, як ён сіпеў, што на скавародзе; тлела сухая альха ля ракі, вымерзлая за зіму і патрэсканая ад сонца і ветру, якую тут, ля Пагурка, ніхто не агледзеў — па дровы з Венеры ездзілі зімой па ўмерзлым балоце далей, пад самыя Партызанскія лагеры,— і яна стаіць ачарнелая ў галлі і жоўтая — без кары; сюды, бліжэй на пасеку, пад акопы, трашчаў у агні густы і высокі, у калена, буры верас з леташнімі прыліплымі сінімі вочкамі; хапаўся полымем сівец, і яно хліпала на зямлі, белае на сонцы і ад таго калючае — сцёбала па вачах...

На пасецы ля дарогі, дзе зарыўся ў зямлю заслон, немцы паклалі былі міны блізка ля акопаў, перад самым носам, і загарэліся пні. Пасека цягнулася ад самай Венеры — ад ям, дзе хавалі на зіму бульбу, да Пагурка — невялікага ўзгорка перад балотам, парослага старымі дуплаватымі асінамі,— цягнулася добрую вярсту і дробным соснікам ля дарогі вяла далей, да Гарбатага Маста, у старасвецкі ельнік, які падыходзіў за Пагуркам пад Партызанскія лагеры. Ля ям пасеку раскарчавалі калгасам перад самай вайной — варочалі трактарам пні, і там цяпер кратался ад ветру жыта, высокае, густое; сюды, пад Пагурак, зямля была без клёку, адзін жоўты пясок, і пнёў людзі не чапалі. Пні абгнілі, асунулася зверху

трухлявая абалонь, тырчалі толькі ценкія шэрыя, сухія асяродкі, як старыя спіцы са з'езджанага кола; крані тапаром — чырвоныя ад смалы. Яны гарэлі цяпер густым чорным полымем, ціха, як свечкі, засцілаючы дымам пасеку і дарогу ля ям, куды трэба было ўзірацца, не спускаючы вачэй.

Жаваранка глядзеў, як цячэ ўперадзе з пня смала на жоўты пясок і тады па пяску паўзе да акопа полымя, вузенькім і доўгенькім язычком, як гадзюка. Пень быў высокі, вышэй калена, і дым з яго валіў, што з коміна. Пасля Жаваранка ўбачыў, як загарэлася перад акопам зямля — жоўты пясок — латочынай. Даўняя, невядома якіх гадоў, астылая смала — ён як помніў, дык пасека была ўжо выразана — узялася ў вялікія, па бульбіне, круглыя жоўтыя камкі: яны стукалі пад рыдлёўкай, калі Жаваранка капаў акоп, і цяпер пыхнулі ад агню, што порах.

Жаваранка падцягнуў бліжэй да сябе аўтамат, як усё роўна хаваў ад агню — на зямлі, на жоўтым пяску асталася гладкая баразна ад круглага дыска,— і, стаўшы ў акопе на калені — дагэтуль ляжаў увесь час,— ссунуў на патыліцу кепку і пачаў выцірацца ад поту. Не было чым дыхаць ад дыму, і душыў кашаль.

Ён доўга дыхаў з сябе, пасля, засіліўшы жменю слізкага, як проса, жвіраку, сыпануў ім з размаху па друзалках смалы — тушыў агонь. Убачыў адразу, як затрос кулаком збоку ў пад'ялеўцы Кім Ушакоў. Чуваць было, як ён цадзіў праз зубы:

— Р-руки... Убери р-руки... С кладбища все видно. Как на ладони...

Закратаўся далей за Ушаковым Гурбан...

Жаваранка зноў апёрся ў акопе на локаць.

Немцы ў любы міг могуць зноў урэзаць з мінамётаў, як урэзалі раніцай па Пагурку і па ўзлессі, калі кутузаўцы пачалі адступаць з Венеры і паявіліся ў сосніку на ямах. Урэзалі з Жараў, з Двара. Жары — вялікая вёска, якая пачыналася ў канцы грэблі за Венерай і цягнулася вярсты дзве з гакам, ламаючы пад той канец калена і паварочваючы ў бок шашы, што вяла з Плешчаніц на Вялейку.

Жары дзяліліся натрае: самі Жары — ад Венеры — густа збітыя ў кучу ля вуліцы, большы канец вёскі; пасля Малінаўка — доўгая, расцягнутая; і ад павароту на шашу — Двор. Двор быў новы, з дзесяці хат, пабудаваны

перад вайной; стаяў ён высака на гары, вышэй усіх вёсак паблізу, і з яго добра была відаць пасека за Венерай.

Жаваранкаў акоп быў неглыбокі, між сасонак, гонкіх, у рост чалавека. На ўсыпаным дробнай жоўтай ігліцай дне ў калені калоўся буйны, як гарох, буры жвір, і тырчала збоку пасечанае рыдлёўкай сасновае карэнне, упіваючыся пад лапатку. Зноў карцела ўстаць.

Жаваранка акапаўся самы крайні на пасецы ля Пагурка, вышэй усіх, і добра бачыў увесь заслон ля дарогі.

Першы ля Жаваранкі за пад'ялеўцам у акопе ляжаў Кім Ушакоў. Блізка, метраў дваццаць. Ушакова не было відаць — не высоўваўся з акопа, блішчала толькі на жоўтым, не прыкрытым добра ад вока пясчаным брустверы цьмяным чорным бляскам вышараваная талерка ад ручнога кулямёта. Калі добра прыгледзецца, можна было ўбачыць, як кратаецца знізу пад кустом пілотка. Ад пасекі Ушакова хаваў зялёны пад'ялеўцавы куст.

Кім Ушакоў у заслоне старшы. Яго пакідаў сам камісар брыгады Рудаў.

Кутузаўцы не думалі займаць абарону перад Пячным. Пячное, доўгую вёску ў лесе на крыжаватцы дарог, можна абысці ля Рабога Калодзежа — з Венеры туды ёсць дарога цераз Бярэзавец — балота. Пячное пакінуць, як і Венеру. Абарону зоймуць на другім беразе Дзвінасы. Немцы, заняўшы Венеру, будуць рвацца на Дзвінасу. Заслон Ушакова асядлае дарогу на ўзлессі ля Гарбатага Маста і прыкрые трэці атрад, які, змучаны сутычкамі з рэгулярнай нямецкай часцю ў Жарах і ў Венеры, адступае апошні.

Ля Рабога Калодзежа ад Віліі атрад прыкрые брыгадная разведка Сашына.

Заслон павінен стрымаць немцаў да начы — ноччу немцы ў лес не сунуцца,— сачыць за дарогай і за Венерай усю ноч; раніцай з боем адступіць у Пячное.

Кім Ушакоў, не чакаючы, пазначыў кароткай зялёнай нямецкай рыдлёвачкай, дзёўбаючы зямлю, дзе каму «заняць пазіцыю», і аддаў загад «зарыцца ў зямлю з галавой». Немцы могуць пайсці адразу, як толькі возьмуць Венеру.

Кім Ушакоў — ваенны, кадравік. Быў малодшым лейтэнантам. Адступаў з пяхотай аж з-пад Брэста, камандуючы ўзводам, пакуль не трапіў пад Красным у акружэнне...

За Ушаковым, ля самай дарогі, у акопе пад старой высокай, чорнай, абгарэлай знізу сасной — Геніятулін. Геніятулін з Волгі, татарын. Паявіўся ён у Венеры, Жаваранка помніць, калі адступалі нашы. За фронт выходзіць не стаў і жыў у Венеры, прыстаўшы ў прымы да Аляксандравай Галіны. Праўда, не доўга пажыў. Адразу пайшоў у партызаны, як яны з'явіліся ля Венеры. Прыйшоў у вёску летам, а недзе калі выбралі бульбу, па яго прыйшлі з лесу, з Гарбатага Маста, такія ж самыя акружэнцы, як і ён. Прыйшлі пяцёра, днём, не баючыся: з вінтоўкамі, у ваеннай форме. У вёсцы іх усе бачылі і доўга пасля гаварылі.

Геніятулін, як і Ушакоў, з ручным кулямётам.

За дарогай на лініі — даваенным расцяробе — Гурбан. Аўтаматчык, прайшоў фінскую вайну. Вярнуўшыся, рабіў у леспрамгасе ў аўтакалоне грузчыкам. Недзе з-пад Бегамля. Перад вайной стаяў з калонай у Венеры... У атрад прыйшоў разам з ім, Жаваранкам...

І за Гурбанам у ельніку, які цягнуўся зашыйкам пад Рабы Калодзеж,— Алёша Белановіч. Самы малады ў атрадзе, семнаццаты год яму, ці што.

Алёшы адгэтуль не відаць, не відаць і Геніятуліна. Жаваранка бачыць толькі Кіма Ушакова і Гурбана. Падымаецца і апускаецца ў акопе яго чорная валасатая галава — Гурбан ніяк не можа ўлежаць.

Жаваранка думае, што ў заслоне толькі Ушакоў чужы, а то ўсе, лічы, венерскія... Мусіць, таму, што заслон падбіралі, і ўзялі таго, хто добра ведаў месца ля Венеры. Значыць — будзе крута... Наперад ведалі, што будзе крута...

Міна рванула на бульбяных ямах — падняла ўгару пыл, воблакам. Воблака на ветры адразу рассыпалася і знікла. Другая гахнула ззаду за плячыма, за Гарбатым Мастом. Па лесе далёка пайшлі водгаласкі — на Рабы Калодзеж і на Партызанскія лагеры.

Немцы білі цяпер з могілак. Могілкі былі на гары, перад самымі Жарамі. Відаць адсюль, як яны закрываюць сабой хаты ў Жарах.

Ніжэй могілак знаць на гары жоўты пясок; на ім блісікае ад сонца вышараванае жалеза: акапаліся немцы. Жаваранка падумаў, што немцы ўсягды стараюцца заняць могілкі, як бы без іх яны і ваяваць не могуць...

У канцы Венеры на балоце ўзгарэлася раптам вінтовачная страляніна. Рэдкая, з перадышкамі: вялі прыцэль-

ны агонь. Адстрэльваўся, можа, яшчэ хто з трэцяга атрада.

«Што ты там зробіш з вінтоўкамі...» — падумаў Жаваранка.

Стрэлы захлопалі бліжэй, ля ракі — ля спаленага маста. Чыркнуў на выганчыку кораценька аўтамат. Пасля ўсё сціхла.

Жаваранка пачаў углядацца на выганчык. Убачыў здалёку хаты ў гэтым канцы вёскі — не пазнаць чые — і Платонаву лазню без страхі ля ракі ў аселіцы. Вёску хаваў з воч соснік, які цягнуўся ад ям вузкай паласой перак пасекі і праз які ішла дарога з фермы на лог, пад Пагурак. Справа ад ям відаць было пустое загуменне і стрэхі ад кароўнікаў на ферме — шэрыя ад сонца.

Спераду, ля акопа, на сухі мох і зялёны зайцаў гарошак на цвеце падаў цень ад рослай, у чалавека, сасонкі, як ад растапыранай рукі.

З-пад сасонкі, з дзікай канюшыны з дробнымі маладымі чырвонымі галоўкамі пырхнулі, залопаўшы суха крыллем, як па рэшаце, два дзікія галубы і, не падымаючыся высака, ляцелі ў бярэзнік пад Пагурак — уцякалі ад вінтовачных стрэлаў, нібыта дагэтуль не баяліся мін, што глушылі ўсё на свеце прарэзлівым свістам і трэскам, ад якога сціналася нутро і закладала вушы да глухаты...

Больш не стралялі, і ў раптоўнай цішыні недзе ля акопа ў леташнім белым сіўцы затрашчалі конікі, суха, як непадмазаныя.

Атухаў уперадзе смаляны пень, задыміў сінім дымам; вецер адносіў дым на пасеку, і тады чуваць было, як пахне маладой распаранай бярозай з Пагурка, нібы ад венікаў у лазні. Чуваць было яшчэ, як пахла ў акопе свежаўскапаная зямля: жоўтым пяском, як усягды, калі аралі пасеку плугам, і смалой — гаркаватым, аж чуеш у роце, пахам, як усё роўна, сасмягшы, выпіў летам на падсочцы з тарніткі вады пасля дажджу. Здавалася, лягчэй было дыхаць, а то спёрла ў грудзях: ляжыш, скруціўшыся ў акопе, як вуж...

Сонца схілілася з паўдня, пабольшала і вісела цяпер на рог могілак над Жарамі. Неба над Венерай зацягнулі сівыя палосы, доўгія і прамыя, як пад шнур. На загуменні над кароўнікамі стаялі жоўта-бурыя тулягі.

Ад доўгай цішыні расце трывога — аж падскакваеш. Такой, здаецца, не было ўвесь гэты тыдзень, калі занялі абарону ля Караліна на Віліі.

Пасля яны, адступіўшы, акопваліся перад Дваром на гародах — ляжалі ў абароне цэлыя суткі: дзень і ноч; тады наспех капалі акопы ў Венеры — у аселіцы ля ракі — усім атрадам... Жаваранка рабіў усё спакойна, выконваў каманды, як перад вайной нарады брыгадзіра. Можа, таму, што ўвесь гэты час за плячыма была свая вёска, Венера, і думалася, што далей не адступяць...

Недзе глуха і часта бухае. Далёка... Чуваць, бо ляжыш у зямлі. Мусіць, на Паліку. Пасля, калі ён доўга слухае, пазнае, што бухае за дарогай, там, дзе ўсе ночы дзве зімы запар стаяла зарыва. Гаварылі, што ў тым баку Ленінград.

«Відаць, фронт ля Віцебска. З Ленінграда не пачуеш...» — падумаў Жаваранка.

Хочацца піць. У роце не было ні расінкі пасля раніцы. Раніцай, калі адступалі праз вёску, ён піў дома, у пустой хаце. Кланя з дзяцьмі была ўжо недзе ў Пячным. У хаце было ціха і цёпла — натоплена. Кланя, мусіць, яшчэ варыла раніцай у печы есці: у чалесніку пахла гарэлым памялом і варанай бульбай, і гэты пах перабівала сухім валяр'янавым коранем. Пакратаны, ён пахнуў свежа, аж зрывала нос, як усё роўна яго, корань, выкапаны і вымыты ў рацэ, зграбіўшы сена за крыніцай на балоце, прынясла дамоў Кланя і паклала сушыць высака на судніку разам з талеркамі, каб не дастаў кот.

Сухі корань ляжаў кучкай на лаве ля куфра, белы і вусаты, што часнок. Дагэтуль яго хавала Кланя ў куфры ў прыскрынку: піла сёлета ўсю вясну. Дастаючы ўсё з куфра, яна дастала і валяр'янавы корань...

Жаваранка, узяўшыся за бліскучае, вышараванае пальцамі кольца, падняў века ў куфры...

Куфар быў пусты. Ляжала толькі на жоўтым дне расцягнутая старая Кланіна «санціметра» — вузкай палоскай — і на дробных абрэзках пад прыскрынкам яго калгасная кніжка, доўгенькая, у жоўтай вокладцы. У кніжку ў канцыляры кожны месяц запісвалі працадні... Ён нагнуўся і дастаў яе з куфра...

Хата здалася вялікая, мусіць, ад таго, што ўсё было пазнімана са сцен: і дзяцінае, і Кланіна — і ляжала, не ўзятае з сабой, на ложку ля акна ад двара. І адзежа, вынятая з куфра, ляжала на ложку. Бялелі вымазаныя сёлета вясной глеем голыя сцены; ад гарода выткнуліся на хату між вокан аж чатыры вянцы — сцяна рабілася гарбатая.

Выходзячы, Жаваранка яшчэ раз напіўся, зачэрпнуўшы з вядра, што вісела на дроце ля печы, поўную конаўку вады. Не хацеў кідаць хату адну; узяўшы ў сенцах на шафарні вялікі замок, якім усягды замыкалі хлеў, зачапіў яго за прабой, прыціснуўшы клямку, і павярнуў ключ аж два разы. Паклаў пасля ключ зверху на вушак — на Кладніна месца.

Даганяючы ля ям на пасецы Ушакова, доўга азіраўся на двор — на шэрую саламяную страху на хаце...

Піць просіць і канюх, кружачы над Пагуркам,— то падымаецца ўгару, калі пачынаюць часта страляць, то апускаецца над самым альшэўнікам: заціхае, трапечацца на адным месцы, баючыся сесці на зямлю. Пасля зноў крычыць і ўзлятае кругамі высака ў неба, далее, хаваючыся, з воч у белай смузе над Партызанскімі лагерамі.

Зноў пачалі рвацца міны: ля маста на аселіцы і на гародах у гэтым канцы вёскі. Засакатаў нямецкі кулямёт, недзе блізка на выганчыку. Білі па ямах — чуваць было, як там ядрана хлопалі разрыўныя кулі.

У Венеры зноў пачалася вінтовачная страляніна. На загуменні падняўся ўгару рэдкі чорны дым.

Ушакоў высунуў з акопа руку, высака ўгару: быць напагатове...

Невядома было, што робіцца ў Венеры. Там, калі адступіў трэці атрад, аставалася яшчэ брыгадная разведка — пра гэта сказалі наперад: не зачапіць сваіх... Немцы, пайшоўшы ад могілак, відаць, налучылі на яе...

На аселіцы ля вёскі ўсчанулася раптам аўтаматная страляніна. Знянацку. Стралялі з двух бакоў. Стрэлы зліваліся ў адзін шалёны трэск, аж праціўна было слухаць...

Ля сосніку па ямах запыліла дарога, і адразу паказалася падвода: чорны конь на жоўтым пяску. Конь бег угалоп — навыцяжку; з-пад ног у яго вецер зносіў на поле ў жыта пыл — паласой. На калёсах высака, нібы на поўных мяхах, сядзеў нехта як у белай хустцы і, круцячы над галавою рукой, відаць, лейцамі, паганяў каня што меў сілы. Чуваць было, як ляскочуць па цвёрдых выбоінах калёсы.

«Уцякае з вёскі... Даседзеў...» — падумаў Жаваранка.

Падвода спусцілася ад ям у лагчыну — набліжалася да лесу, калёсы заляскалі мацней па карэнні ля пнёў, і Жаваранка ўбачыў, што на падводзе мужчына з белай павязкай на галаве. На калёсах у яго — можна было пазнаць — нехта ляжаў...

«Раненыя...— сціснуў зубы Жаваранка.— Свае? З трэцяга атрада? Ці, можа, з «Дзядзі Васі»?»

Калі падвода параўнялася з ельнікам, дзе ляжаў у акопе Гурбан, ля ям на дарозе паказаліся яшчэ дзве падводы: задні конь быў прывязаны да пярэдніх калёс і не хацеў бегчы — выцягваў шыю. Пярэдняга каня паганяў, бегучы збоку, хлопец з аўтаматам на грудзях. І на тых калёсах былі раненыя — перавязаныя белым.

Пярэдняя падвода, уехаўшы ў ельнік, стала. З калёс саскочыў мужчына з абвязанай галавой і бег назад, да падвод. Падбегшы, стаў паганяць задняга каня — круціў рукой над галавою, тады, упёршыся збоку рукамі ў ляжэйку, стаў падпіхаць калёсы.

Міна рванула далекавата ад іх, збоку, на полі ў жыце — на клінку пад лесам, дзе да вайны калгас сеяў проса. Пярэдні конь скочыў на загоны, цягнучы за сабой на повадзе задняга.

На падводах закрычалі.

Другая міна хлыснула справа ад падвод, на пасецы. Падводы былі ўжо на дарозе: ляскаталі на калдобах, цягнучы адна адну — хаваліся ў ельнік.

У Венеры, у гэтым канцы, разгарэўся бой — чыркалі без аддухі кораценька аўтаматы. Невядома было, хто яго вёў. Брыгадная разведка? Міцька — ад'ютант Сашына, начальніка разведкі, і Міханькоў-Дуня, якія аставаліся ў Венеры? І цяжка было сказаць — пустая вёска ці яе ўжо занялі немцы.

Аціхла страляніна раптоўна, як і ўзгарэлася. У Венеры, недзе ў гэтым канцы, узляцела ўгару чырвоная ракета — паднялася над соснікам. У Жарах загудзелі машыны, якраз гэтак, калі падвозілі немцаў з Даўгынава ў Караліна да Вілii чацвёра сутак назад. Машыны, набліжаючыся, гудзелі цяжка, з натугай — былі гружоныя. Ля могілак на дарозе паднімаўся пыл і поўз услед за машынамі. Машыны ішлі адна за адной — калона расцягнулася на ўсю дарогу ад Жараў да выганчыка. Па спіне пайшоў шорах. Але больш не стралялі, было ціха, і Жаваранка падумаў, што машыны ідуць, усё адно як леспрамгасаўскія да вайны, калі яны цяжка раўлі на дарозе пад Жарамі, гружоныя дрэвам...

Пасля ў Венеры захлопалі рэдкія стрэлы і нехта праразліва закрычаў... У гэтым канцы падняўся ўгару чорны дым, як і на загуменні. Зноў узляцела чырвоная ракета — над дымам — і адразу патухла.

Немцы займалі Венеру...

Адразу пойдуць на Пячное ці не? Хто скажа?

У акопе падняў галаву Ушакоў. Не падае каманды. Загадваў бы, не маўчаў, ведаў тады б, што рабіць — зняў бы трывогу, што цісне ад самай раніцы. Не відаць ні Гурбана, ні Геніятуліна — пахаваліся.

Падводы ляскочуць ужо ля Гарбатага Маста. З пасекі зноў цягне дымам, не адкашляцца. Нават пясок у акопе пахне гарам.

Доўга равуць машыны ў Венеры — у гэтым канцы вёскі. Справа, адкуль даносіліся далёкія выбухі, недзе на Віліі ўзгарэлася страляніна — чуваць буйнакаліберны нямецкі кулямёт.

На зямлі кіпіць, як у катле, толькі ўгары — у небе — спакойна. Над Пагуркам раз'ехаліся белыя палосы, шырака, як на пасеку, і неба над ім стала чыстае і высокае, не дастаць вокам. Здавалася яшчэ, што далёкае, афарбаванае ў цёмны блакіт бяздонне халоднае, як зімой.

Жаваранка ўзіраўся на пустую дарогу, натапырыўшыся, усё роўна як чакаючы бяды; пасля глядзеў, павярнуўшы галаву ў акопе, на светлы прагал над Пагуркам — як у далёкі свет... Глядзеў — і яму здавалася, што ён ляжыць у акопе вечна, не было ні жыцця ў вёсцы да вайны, ні араў, ні сеяў, ні рваў карчы на пасецы; здавалася, ён вырас у акопе з зямлі, як расце грыб, і яму суджана пакласці галаву тут, у гэтую зямлю...

У чыстым прагале, як злавіць вокам, кружыць бацян — плыве цёмнай выгнутай палоскай, нібы кавалак адломанага сярпа. Бацяны зляцелі ў Венеры з гнязда з тыдзень, калі пачалася ў гэтым баку страляніна, і не варочаюцца — вісяць увесь час угары. Там ціха, і там адыхае намлелае крылле. Нагрэтае ў такую пагоду вільготнае паветра плыве цяпер з Пагурка і з пасекі ўверх, і на ім усплываюць угару бацяны, канюхі і нават ластаўкі, якія, лятаючы, ловяць машку. Іх усіх нясе патокам.

Куды ж вынесе паток на зямлі яго, Жаваранку?

За Пагуркам, над Партызанскімі лагерамі, дзе нядаўна прасіў піць канюх, з-за лесу выплыў вялікі барвовы туляг. Пад ім над самым балотам стаялі сінія хмары.

На балоце за Пагуркам цяпер халадок. У лучках ля ракі ўжо вялікая трава — сінюха і рабінка — хоць касі. У затоках цёмная вада, на ёй жоўтыя збаночкі: распусціліся, стаяць на дудках, як застылі; ля іх чорная бліскучая машка ганяе дробныя, як са шніўных нітак, кругі...

Між высокага — у чалавека — мячэўніку на вадзе ў затоках дзікія лебедзі... Не баяцца, што блізка галёкаюць мужчыны і звіняць косы... Выгінаюць шыі бог ведае як, шваргочучы адзін аднаму. Невядома, адкуль яны ўзяліся перад вайной за Пагуркам: дагэтуль іх каля блізку ніхто не бачыў, у Венеры пра іх і не гаварылі.

Цыў... Цыў...— свішчуць кулі над пасекай, над жытнім клінком і высака над галавой... На ямах захлебястаў нямецкі кулямёт — немцы, заняўшы Венеру, мацалі адразу лес у бок Пячнога...

Цыў... Жыта згінае пад кулямі каласы, што лебедзі галовы... Падбітыя, каласы вісяць, калышучыся ля самай зямлі. Да жыта на клінку наўскасяк ад Жаваранкі блізка, і ўсё добра відаць.

Кулямёты б'юць без сціханага: два — ад ям — сякуць жыта і сасняк удоўж дарогі; трэці адзываецца недзе з гародаў ад маста: кулі рвуцца ў бярэзніку на Пагурку. Немцы б'юць доўга: усё мацаюць дарогу. Учора раніцай, перайшоўшы Вілію, яны сунуліся адразу ў Жары. Адступіўшы пад агнём трэцяга атрада, пайшлі пасля жылінай ля ракі ў абход Жараў — на Венеру — і лучылі на брыгадную разведку Сашына. Пяць аўтаматчыкаў, падпусціўшы немцаў да самага носа, кашанулі іх на балоце, як траву...

Апомніўшыся, немцы пачалі біць з мінамётаў — па Жарах і па Венеры...

Разрыўныя кулі цокаюць збоку ў сосніку, не сціхаючы: блізка, як над вухам. Жаваранку здаецца, што ў яго на галаве парожняе бляшанае вядро і па ім б'юць каменнем: увушшу стаіць звон.

Міны кладуцца цяпер за плячыма, ля Гарбатага Маста, рвучыся, глушаць рэхам кулямётную страляніну. Здаецца, ад іх дрыжыць усё на свеце: жыта на клінку перад вачыма, белыя палосы на небе над Венерай, рэдкая смуга над пасекай — перасыпаецца, як сухі пясок праз пальцы; дрыжыць падыспадам, пад локцямі зямля ў акопе...

Пасля робіцца адразу ціха, і тым месцам, дзе на пасецы дрыжыць смуга, з-за сосніку на ямах падымаецца ўгару пыл— сівы, свежы... Варушыцца адразу ў акопе і Кім Ушакоў, не баючыся; прыставіўшы руку да вачэй, узіраецца на дарогу.

Пыл над соснікам ля ям пагусцеў, і на дарозе паказаліся немцы. Ішлі, здалёку цьмяныя і шэрыя, пазбіваў-

шыся ў кучкі — расцягнуліся перабітай кішкой. Рвучыся недзе ў галаве, кішка паўзла і паўзла з-за сосніку з пылу — пярэднія немцы ўжо раўняліся на пасецы з жытнім клінком,— пакуль раптам не скончылася тонкім шнурам. Недзе блізка ў гэтым канцы вёскі загудзелі машыны.

Немцаў ішло больш роты. Да пярэдніх было ўжо метраў, можа, сто, можа, з гакам, калі Жаваранка згледзеў раптам двух аўтаматчыкаў. Яны высунуліся далёка ўперад: ішлі, сагнуўшыся, як ад жывата, і несучы напагатове ў руках чорныя кароценькія аўтаматы. Добра ўжо было відаць, што яны ў касках,— блішчалі галовы на сонцы. Двух немцаў Ушакову трэба будзе прапускаць сабе за плечы, каб падышла на кінжальны агонь уся «кішка». Добра ж, калі іх удасца адразу ссекчы, як пачнуць бой... З тылу такія блохі кусаюцца...

Рашаць будзе Ушакоў...

Заслон быў паўкругам — загнутым полазам,— і Жаваранка падумаў, што ён самы крайні і яму трэба будзе біць па апошніх немцах на дарозе. З пярэднімі справяцца Гурбан з Геніятуліным... Немцы лучаць пад перакрыжаваны агонь. Ратунку мала...

Немцы міналі жытні клінок і выходзілі на пасеку — на іх трэба было глядзець з акопа з-за пнёў. Двое пярэдніх наблізіліся да самага лесу — ад маладога сосніку былі як праз хату.

Жаваранка чакаў сігналу — дасць Ушакоў. Раней Ушакова ніхто не павінен стрэліць. Раней-то ён, Жаваранка, не стрэліць — рука спакойная. Толькі б не спазніцца, не прапусціць міг пасля Ушакова: немцы пападаюць на зямлю, за пні...

Ён падцягваецца на руцэ вышэй у акопе, рассоўвае дыскам на брустверы мох — дыск уядаецца ў мяккі пясок — і прыціскае да шчакі прыклад. Прыклад новы, пафарбаваны ў цёмнае з чырвоным — аўтаматы скінулі парашутам перад самай блакадай у балота ля Пагурка,— пахне яшчэ лакам і блішчыць на сонцы. Немцы могуць згледзець у бінокль.

Прыплюшчыўшыся, ён глядзіць на немцаў праз мушку. Відаць ужо добра на дарозе белыя твары пад каскамі і белыя рукі — што ў мерцвякоў; відаць сумкі збоку ля дзяг, кацялкі і рыдлёвачкі з кароценькімі ручкамі. Немцы з аўтаматамі ў руках — нясуць, апусціўшы іх да калень. У самых задніх, утрох, на плячах мінамёты. Немцы пе-

раходзяць цераз дарогу адзін да аднаго, згруджваюцца, і Жаваранка доўга водзіць мушкай ад кучкі да кучкі, тады ловіць трох з мінамётамі і мацней прыплюшчвае вока. Хутчэй бы: пачынаюць дрыжаць рукі...

Добра чуваць, як грукаюць ногі на цвёрдых ля дарогі сцежках. Недзе пад ім, Жаваранкам, нібыта на дне ў акопе, стукае сэрца, моцна і часта.

На брустверы, каля самага дыска, мігнула наўскасяк пад аўтамат дробная шэрая яшчарка, скаціўшыся недзе пад паху ў акоп — як усё роўна ўцякала ад немцаў.

Два пярэднія немцы схаваліся ў лесе — нібы шмыгнулі ў малады соснік.

Раптам усё неяк паблізела да яго, Жаваранкавага, акопа: і жытні клінок, які мінулі немцы, і ельнік за ім, і дарога, і пні на пасецы. Ядрана стала ўваччу, што зімой ад снегу...

Ён добра бачыў акуляры на вачах у немца ў чорным фрэнчы: немец ішоў пад перадам, без каскі, у задзёртай фуражцы — афіцэр; бачыў на дарозе запыленыя боты з шырокімі халявамі і ў халявах гранаты з жоўтымі дрыўлянымі ручкамі, па дзве, па тры — відаць, хоць пералічы; бачыў, як у немцаў на жыватах расхінаецца крылле ў фрэнчах, як мінамётчыкі выціраюцца рукавамі ад поту — водзяць па лбе...

Ушакоў усё маўчаў, нібы яго і жывога не было, і Жаваранку здалося тады, што замёрла ўсё на свеце, застыла на месцы, толькі адны немцы ідуць і ідуць да лесу на злом галавы...

Ад першых стрэлаў у цішыні як усё роўна здрыганулася зямля... З лесу рванула сухім ветрам... Жаваранка не помніў, хто стрэліў першы: Ушакоў ці, можа, ён сам, больш не выцерпеўшы... Свайго стрэлу ў дзяркатым аўтаматным і кулямётным трэску ён ніяк не мог улавіць: заклала вушы, што ватай; пачуў толькі спачатку, як стукнуў у плячо прыклад, і ўбачыў адразу: упалі на дарозе ў пыл, нібы падсечаныя, тры немцы з мінамётамі — падалі вяла, як не хочучы, і пасля не падняліся...

Ён страляў роўнымі доўгімі чэргамі, водзячы злева направа, і думаў, што сама больш выпала яму: немцы, адстрэльваючыся, хлынулі назад, да ям, пад яго, Жаваранкаў, аўтамат, нібыта іх ля лесу не касілі ні Ушакоў з Геніятуліным з ручных кулямётаў, ні Гурбан з Алёшам з аўтаматаў. Здавалася, тыя толькі падганялі іх, страшачы стрэлам, яму, Жаваранку, пад мушку...

На дарозе падняўся густы і сівы, як попел, пыл — ад куль... Клубамі... У ім, як у цемнаце, хліпалі дробныя яркія пісягі полымя — з нямецкіх аўтаматаў. Усё змяшалася: не было відаць ні немцаў, ні жытняга клінка, ні лесу. Калі пыл з зямлі зганяла ветрам, Жаваранка бачыў, як на дарозе, раскінуўшыся, ляжалі немцы. У бліжэйшага, калі Жаваранка прыплюшчваўся, ловячы мушку, відаць былі белыя гузікі на жываце — цьмяна blішчалі на сонцы.

Устаўляючы другі дыск, ён не мог адразу лучыць у праёміну: дрыжалі рукі. Падумаў, што не спраўляецца, што немцы ў пыле ўсё яшчэ бягуць ад лесу назад — пад яго аўтамат... Спатыкаюцца, падаюць, устаюць з зямлі і зноў бягуць, сагнуўшыся, у клінок у жыта, нібыта яно іх ратуе,— уцякаюць туды, пад Алёшу; паўзуць між пнёў пасекай пад ямы — назад у Венеру.

Шкодзіў пыл — дрэнна было мецінна...

Над пасекай стаяў трэск, глушачы ўсё, здавалася, нібы хто ў вёсцы зачапіў кійком за частакол і бяжыць, заняўшы з таго канца праз усю вуліцу.

І Ушакоў, і Гурбан стралялі кароткімі чэргамі па жыце ў клінку — туды, відаць было, усё яшчэ адпаўзалі немцы. Пасля ў клінку пачуўся выбух — рванулі гранату...

Ля ям у сосніку засакатаў нямецкі кулямёт — высака над галавой занылі кулі,— пасля захліпнуўся, і ўсюды раптам стала ціха: чуваць было, як цененька звініць у галаве і покаюць адна за адной з-пад локця ў акоп маленькія жоўтыя гільзы.

Жаваранка падцягнуў да сябе аўтамат — аўтамат і гільзы пад самым носам пахлі едкім дымам — і прыўзняўся на локці, гледзячы ў жытні клінок. Там, ля дарогі, усё яшчэ краталася жыта, туды і даў ён апошнюю чаргу з аўтамата — па сівых гарбатых фрэнчах...

Над дарогай і над пасекай вісеў пыл, марудна падымаючыся ўгару, як туман раніцай у гародзе над платамі ўсходам сонца. Пад пылам былі відаць кароценькія пні і здрабежанае жыта — нібы яно ніколі не стаяла тут, не нагіналася над дарогай. І на дарозе, і на здрабежаным жыце ляжалі немцы — кучкамі, шэрыя, хоць дзе адзін на адным, як усё роўна перакуленыя ветрам у буру снапы з мэндлікаў.

Ён стаў у акопе на калені і смялей паглядзеў на дарогу: такога ніколі не бачыў за свой саракагадовы з гакам век.

Пасля зглядзеў, павярнуўшыся да Пагурка, як над Партызанскімі лагерамі паявіліся тупыя нямецкія самалёты, прыляцелі аднекуль з усходу і бамбяць: падаюць зверху на лес, пасля адразу ўзлятаюць угару, што ўсё роўна калышуцца на вяроўцы. Чуваць, як у лагерах памінутна грукае — рвуцца бомбы...

— Набить диски! Могут опять в любую минуту... И не высовываться...— падаў каманду Ушакоў — крычаў аднекуль зблізку, як не са свайго акопа.

Жаваранка перш-наперш падняў з дна парожнія аўтаматныя ражкі — два. Ражкі хутчэй наб'еш, дыскі ён наставіць пасля. Колькі ты ў дыск націскаеш патронаў пальцамі — штук дзесяць. Бліскучыя, як залатыя, маленькія лабатыя патроны, да якіх ён яшчэ не прывык пасля вінтовачных — да блакады насіў цяжкое сэвэтэ,— ніяк не трымаліся ў пальцах: выслізгвалі і падалі, як боб, на дно ў акоп, губляючыся — знайдзі сярод гільз. Тады ён пачаў браць з растапыранай брызентавай сумкі патрон у тры пальцы і, упіхваючы яго ў адтуліну ражка з прыгнутымі зверху вушкамі, цісնуў з усёй сілы, здзіраючы да крыві скуру ля ногцяў. З ілба на пальцы капаў пот, цёк па шчоках, солана рабілася на вуснах. Жаваранка выцер пасля даланёй лоб, высушыў яе аб грудзі, аб пінжак, і выплюнуў салёную сліну. На зубах трашчаў пясок. Хацелася піць, глыбака ў горле сядзела гарката.

І рэзала вушы трывожная і нейкая гарачая цішыня — такой ён не чуў. У цішыні вісеў далёкі густы шум, нібы дзе з гары сыпаўся сухі пясок. Над Венерай у небе сплылі на загуменне белыя палосы, і над ёй засвяціла сонца, спорна спусціўшыся на захад, пажаўцеўшы і не грэючы. За Пагуркам над Партызанскімі лагерамі пачарнеў буры туляг, сцяўся, як у кулак, і павіс нізка над лесам. Ад яго пачалі распаўзацца доўгія цёмныя пісягі — неба хмурэла к дажджу. Падняўся вецер, дзьмуў з-за ракі, з Пагурка, круцячы на пасецы гар. Зашумеў ля Гарбатага Маста стары ельнік, цяжка, крэкчучы; засвістаў цененька дробны леташні белы сівец ля пнёў. На зямлі вецер пачынаў рваць пясок і гнаць у вочы.

У душы заныла трывога — як кожны раз перад бурай... Жаваранку здалося, што ён дома, на двары, на згон зімы... Стаіць ля гародчыка, ля частакола, гледзячы на вёску. З-за ракі, з Жараў, плывуць на хату цёмныя хмары; вечарэе, і ад іх адразу робіцца на двара цёмна, як уночы. Трасецца стары разгаты тофель на рог хаты ля

варот, ад ветру голле свішча ўголас; чувацъ, як скрыпіць у ключах і стукае краем страха на хаце. З коміна клубам коціцца дым, яму, Жаваранку, пад ногі і сцелецца на двары па зямлі — па счарнелым снезе: на адлігу. Пахне дымам ад смалякоў. Вецер ганяе вочап над студняй, і ён стукае, бразгаючы жалезным кручком аб паркан. Адчыніліся дзверы ў сеначках, на двор выйшла з парожнім бляшаным вядром у руцэ Кланя, у расхрыстаным кажушку — накінула на плечы ад ветру,— ідзе па ваду. Адышлася ад ганка, стала і глядзіць на яго, Жаваранку, не зводзячы воч:

— Яхрэм, што гэта будзе?

Вочы ў яе вялікія, і ў вачах трывога. Кланя стаіць побач і глядзіць разам з ім за хату — на чорныя цяжкія хмары...

Да акопа падпоўз Ушакоў, спрытна, спяшаючыся: толькі што выгінаўся на пасецы між пнёў і верасу, як вуж, і ўжо ля самага акопа. Расцягнуўся пластуном на жываце, падняў толькі галаву. Яшчэ добрая, нявылінялая пілотка з бліскучай зорачкай спераду ляжыць у яго на самай патыліцы, прыціскаючы чорныя валасы. Шырокі, аж круглы яго твар пачырванеў, як ад натугі, і блішчыць ад поту. Пачырванелі і вочы — нагнала недзе ветрам пясоку,— слязяцца і блішчаць. Пасля робяцца вузкія і суровыя — гэта калі загаварыў, выцягнуўшы з-пад сябе руку і падклаўшы кулак пад падбародак:

— Патроны, Жаворонок, как?..

— Палавіну асталося...— Жаваранка падцягнуўся ў акопе вышэй да бруствера.

— Видишь, что делается на дороге?

— Віджу. Больш не палезуць...

— Трудно сказать... Дотемна еще... дожить надо... Смотри теперь и к реке. У моста скапливаются...— Ушакоў уздыхнуў на ўсе грудзі: цяжка было гаварыць, лежачы на жываце.— Могут пойти в обход. Вот здесь...— ён прыняў кулак з-пад падбародка, выцягнуў руку і паказаў у беразнячок ля Пагурка.— Подпускать... Чтобы наверняка...— ён павярнуў галаву і паглядзеў зноў на дарогу.— Дотемна продержимся... Слышишь? Продержимся... Мать их так!.. Пускай лезут... Видел когда-нибудь такое? Запомни...

Міна рванула ў яго ззаду, блізка, метраў за трыццаць. Ушакоў спопаразку тузануўся ўперад, да Жаваранкі, чуць не ссунуўшыся ў акоп. Над самай галавой засвісталі ас-

колкі; дыхнула гарачынёй і едкім дымам. З галавы Ушакова сарвала пілотку і адкінула пад сасонку цераз акоп, у верас. Пілотка закалыхалася на галінках. На бруствер ля самага вуха лягла доўгенькая калючая сасновая макаўка, ссечаная асколкам...

— Наблюдать из окопа!.. Подпускать наверняка...— Ушакоў крутнуўся на жываце — у акоп зверху пасыпаўся пясок, яшчэ нешта крыкнуў, але Жаваранка не разабраў што і папоўз назад, да свайго акопа. У верасе былі відаць толькі яго боты з белымі падкоўкамі на абцасах — віхляліся з боку ў бок...

Другая міна рванула бліжэй, на ездавой дарозе, што вяла з лесу пасекай на Пагурак. Узняўся слупам пыл і схаваў з вачэй Ушакова. На бруствера зашасцеў мох — ад асколкаў — яго што карова языком злізала. Недзе на ямах за соснікам — Жаваранка толькі цяпер пачуў — заныў з перахлёбамі шасціствольны нямецкі мінамёт, праціўна, аж рэзала ўвушшу.

Міны рваліся адна за адной, цяжкія, не тыя, што перш. Ад іх на пасецы ўзняўся пыл, нібыта яго гнала бурай, як у сухое лета, з усяго поля ад ям сюды, у кут, пад Пагурак. Угару падлятала вырванае з зямлі жыта, яго адкідала з клінка аж сюды, да акопаў; як у віхры круціла пасечаны дробна, што ў сячкарні, верас і калючы пад'ялевец і сыпала зверху на рукі. Шчапала на пасецы старыя карчы, засмаленыя, цвёрдыя, якія не маглі вырваць нават трактарам да вайны — глыбака пайшлі ў зямлю,— і ўгары фырчэлі, як асколкі, доўгія трэскі. Рвала з зямлі жоўтае сасновае маладое карэнне, і яно, падаючы, сцёбала па сіўцы, што пугай.

На пасецы нічога не было відаць, як сцямнела...

Ад ям немцы білі з шасціствольных мінамётаў па ўсім Пагурку, па дарозе, па жытнім клінку, па сосніку, дзе былі ў акопах Гурбан з Алёшам, і далей, па ельніку ля Гарбатага Маста. Здавалася, тут, у ціхім кутку за Венерай, які, акрамя грому, летам ніколі не чуў лішняга груку, рвалі зямлю на кавалкі, мяшалі яе, зляжалую, з гарам і дымам, каб яна, перацярушаная на попел, не пахла больш ні смалой, ні верасам, ні жытам... Яе малацілі, як у цапы — у два, у тры, у пэсць...

Можна было аглохнуць; выбухаў Жаваранка ўжо не чуў: яны зліваліся ў адзін гул, як усё роўна бег па зямлі гром; асколкі шумелі над акопам, што град.

Жаваранка падумаў: больш за ўсё немцы б'юць па

сосніку ля дарогі — па Гурбану і Алёшу. Там загарэўся лес — угары над соснікам стаяў дым.

Жаваранка спусціўся на дно акопа. Акоп адразу здаўся цесны і мелкі, нібы ён, Жаваранка, ляжаў у гэтым пекле на нечай маленькай далані,— варта здрыгануцца рудэ, як ён паляціць у вір галавой...

Пасля ён падумаў, што, пакуль будзе ляжаць у акопе на дне, яго не зачэпіць. Не трэба высоўвацца: міна — не снарад. Дзярэ зямлю, што курыца кіпцюрамі,— выдумалі ж такую дрэнь на людскія галовы...

А як не будзеш высоўвацца? Прыкрыўшыся агнём з мінамётаў, немцы зноў пойдуць дарогай.

Жаваранка рассоўвае адной рукой на брустверы ў куточку пясок, каб менш паказваць з акопа галаву, і, прыпадняўшыся, глядзіць на пасеку — на дарогу. Пасеку зацягнула пылам, усю, да самых ям, не відаць ні дарогі, ні здрабежанага жыта на клінку.

На Партызанскія лагеры зноў наляцелі тупыя самалёты — шнурком; акручваюцца над самым Пагуркам, але іх не чуваць: заглушаюць міны.

Цяжка дыхаць: пахне кіслым гарам. Не відаць Ушакова — не падае каманды.

Пыл на пасецы падымаецца ўгару, і ад яго робіцца цьмянае сонца. Яно вялікае, пачырванела і вісіць нізка над лесам. Так доўга б'юць немцы...

Міны рвуцца, здаецца, далей — у ельніку ля Гарбатага Маста. Ля ям, у вілах, чуваць, гудзяць машыны. Пасля яны відаць аж на дарозе, што вядзе на Рабы Калодзеж...

Жаваранка выціраецца рукавом і падымаецца смялей у акопе — над брустверам. У пыле кратаюцца немцы — ля ям.

«Пойдуць зноў... І на Рабы Калодзеж, і сюды, на Пячное. Дацямна далекавата...» — паглядзеў ён на чырвонае сонца над лесам і стаў у акопе на калені...

Яго адразу скруціла ў абаранку, усё роўна як дома ў хаце на плечы абвалілася гарбатая сцяна ад гарода; пасля падхапіла разам са сцяной і шпурнула на нешта цвёрдае. «На край акопа»,— падумаў ён і пачуў сухі трэск. Трэснула, як у хаце пад бэлькай... Бліснула полымя, разануўшы па вачах...

Перакулілася зямля... Хмары і чырвонае сонца ён убачыў як усё роўна з вады — пад сабой... На твар пасыпаўся калючы пясок. Здалося — дома, у хаце, зверху са столі...

## 2

Алёша глядзеў з акопа на ачахлае малінавае сонца, вялікае, з сіняй паласой ад хмары, якая вісела над ім, падпаліўшыся знізу, і чакаў. Але немцы маўчалі: не рваліся на пасецы міны і не хлебястаў ля ям кулямёт. Сонца, заходзячы, апускалася на загуменне за Венерай — стаяла якраз над віламі ля ям, дзе дарога дзялілася надвае: вяла праз Гарбаты Мост на Пячное і праз Бярэзавец на Рабы Калодзеж. Немцы на Гарбаты Мост не пайшлі. Згрудзіўшыся ля ям, яны, прыкрыўшыся мінамётамі, хлынулі на Рабы Калодзеж — у абход. Праз Рабы Калодзеж можна выйсці на Пячное, пакінуўшы справа пасеку — заслон...

Наперад, на Рабы Калодзеж, ад ям сыпанулі матацыклы, як мышы; пасля пайшлі машыны: і адкрытыя, поўныя немцаў, і крытыя брызентам — цяжкія, раўлі на ўвесь лес.

Машыны ішлі і ішлі, як куды ў прорву; за імі, пачакаўшы, пацягнулася пяхота. Ішла аж датуль, пакуль не перасталі біць мінамёты.

Страляніна ля ям сціхла, толькі ззаду, за Гарбатым Мастом — на Рабы Калодзеж — чуваць былі доўгія аўтаматныя і кулямётныя чэргі: ішоў бой...

Высака над галавой, на елцы з рэдкім суччам, нахіленай над акопам, зацыльгікаў дзяцел; было чуваць у цішыні, як ён фыркае крыллем, пералятаючы.

Алёшу як хто таўхануў у плячо:

«Дзе ж Гурбан?»

Ён высунуўся з акопа, пакруціў круга галавой і ўтаропіўся ў расцяроб.

Пыл на пасецы і над дарогай ля ям парудзеў і паплыў на загуменне да вёскі, туды, дзе вісела сонца. Ад Пагурка пацягнула вільгаццю; запах расой ля акопа верас. На пасецы было ціха — аж не верылася. Здавалася, што і пыл плыве над дарогай і над полем не ад мін, а падняўся ззаду за скацінай, якую пагналі ў вёску з поля ад Рабога Калодзежа.

Зрывала нос ад едкага гару — недзе ля Пагурка загарэўся падчэрсцвелы за сухую вясну торф.

Алёша зноў утаропіўся ў расцяроб, дзе ў маладой зялёнай папараці, якая парасла на злеглай і зацярушанай шыллём разоры ад пажару, быў акоп Гурбана: бугор зямлі, засланы зялёным мохам ля старога, высокага яловага пня. Ён ніяк не мог знайсці яго вачыма. Тады вылез

з акопа, падымаючы асцярожна ў руцэ аўтамат, каб не зачапіць пяску, і стаў на калені — на яловыя шышкі.

— Гурба...— клікнуў ён ціха, азіраючыся па баках.

Ніхто не аказваўся.

Алёша тады, апёршыся на аўтамат, ускочыў на ногі і, прыгінаючыся, пабег да разоры. Разора была ўся перакапана мінамі, нібы яе нанава перааралі параконнымі плугамі, падаставаўшы наверх карэнне і жоўты пясок з белымі каменьчыкамі. Пад ногі лучалі адсечаныя асколкамі яловыя лапкі і павыдзіраны з зямлі з мохам зялёны паземачнік з паружавелымі ягадамі. На самым расцяробе міна рванула побач з мурашнікам, зраўняўшы яго з зямлёй — роўненька рассыпала іголкі ў адзін бок, як у хаце на падлозе.

— Гурба...— Алёша пакруціўся на месцы, топчучы вялікімі, цяжкімі нямецкімі чаравікамі сырую зямлю. Пясок, рассыпаны далёка па імху і брусьнічніку, паспеў абсохнуць зверху і жаўцеў усюды дробнымі кучкамі, як над кратовымі норамі ўвосень.

Гурбанаў акоп ён пазнаў па старым высокім яловым пні. Пень быў пасечаны асколкамі; ад яго паадскаквалі абалоністыя палосы — дробнай лучынай — і валяліся на зямлі ля самых ног. На месцы акопа была круглая яма з сырым цёмным дном — апаліла белы баравы пясок. Берагі ямы былі падзёртыя, як драпаком; наўкола яе была відаць шэрая падзолістая зямля з карэннем: зверху знясло мох.

— Гурба!..— Алёша аж закрычаў, гледзячы круга сябе: на расцяроб, у адзін і ў другі канец, у соснік, за якім быў жытні клінок, і на дарогу — шукаў вачыма Гурбана. На дарозе, блізка зусім ад акопа, як у канец двара, ляжалі два немцы — тыя, што ішлі наперадзе. Ляжалі абодва нічком, выцягнуўшыся ўдоўж дарогі. На белым пяску былі добра відаць каскі — блішчалі нейкім сырым блескам.

«Гурбан ссек...» — падумаў Алёша.

Падышоўшы да ямы, ён убачыў, як на самым дне заблішчала на пяску маленькая беленькая спронжка. Ён тады скочыў у яму — яма была глыбокая, чуць не ў пояс — і, нагнуўшыся, схапіўся за спронжку. Яна лёгка выцягнулася з пяску — чорны хвосцік дзяжкі быў кароценькі, з палец. Алёша капнуў глыбей у сырым белым пяску — пад пальцамі было цвёрдае дно. Тады ён падумаў, што спронжка скацілася зверху, пасля выбуху. Вы-

лез з ямы, абышоў круга па гладкім свежым пяску. Нідзе нічога не злавіў вачыма.

— Гурба!..— паклікаў зноў ціха, як самога сябе. Пачуў, што голас у яго дрыжыць. Дрыжала і рука, у якой быў аўтамат.

Ён здумеўся, прадчуваючы благое; пераступіў з нагі на нагу. Стаў на нешта пругкае, як на корань ад пня. Спопаразку адскочыў і ўбачыў ля пасечанага асколкамі яловага пня прыклад аўтамата: цьмяна блiснула з пяску акова. Ён апусціўся на калені, свабоднай правай рукой схапіўся за прыклад і пацягнуў да сябе. Убачыў адразу, што прыклад увесь пасечаны, як тапаром — вострай пяткай. На прыклад наліпла белага пяску, пясок наліпаў і на рукі — клеіўся. Алёша выцер іх і ўбачыў, што далоні зрабіліся чырвоныя — у крыві.

Ён тады памалу выцягнуў аўтамат з пяску — аўтамат быў з дыскам, без дзяжкі. Адной рукой адагнуў зашчапку пад дыскам. Дыск быў цяжкі — поўны — і мокры ад крыві; зверху з адтулінкі бліснуў патрон, як каменьчык з дна ямы.

Алёша пазнаў аўтамат — Гурбанаў... Узяў дыск з патронамі, сціснуўшы ў пальцах, каб не выслізнуўся з рукі, падняўся з зямлі і адышоўся ціха ад ямы — ступаў па верасе і пяску як не сваімі нагамі. Адышоўшыся, стаў і паглядзеў яшчэ раз на яму — белы пясок аж заіскрыўся ўваччу, што снег... Круціў галавой па баках, каб хоць за што яшчэ зачапіцца вачыма, але нічога не знаходзіў і падумаў толькі цяпер, што Гурбана ўжо няма жывога... Яма перад вачыма задрыжала, і ён пачуў, што і сам увесь дрыжыць.

І калі зірнуў ад ямы далей на дарогу — і дарога ў ціхім летнім лясным сутонні здалася белай, як зімой ад снегу. І немцы на ёй ляжалі, здавалася, як метровыя дровы-плашкі, скінутыя на снег з леспрамгасаўскіх машын...

З Пагурка ад ракі поўз туман і збіраўся ў кутку ля лесу над жытнім клінком. Ад яго здалёку і лес рабіўся белы, што ад інею ў вялікі мароз...

Алёшу стала холадна — не лучаў зуб на зуб.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вечарам, якраз на захадзе сонца, у вёску прыехала леспрамгасаўская аўтакалона; вечарам і ўзяўся мароз. Было відаць, што ён пацісне ноччу яшчэ больш: неба зрабілася ядранае, на ім яшчэ засветла высыпалі зоркі —

міргалі і ад гэтага рабіліся вялікія; стала ўсюды ціха; на дворы, на вуліцы і на гародах ля фермы лёг туман. Уся вёска адразу схавалася з воч. На зямлю пасыпаўся іней: схапіў у белае платы, вароты, дровы на дрывотні, рабіну і асвер на вуліцы ля студні. Мароз страляў у платах усю ноч, ад яго трашчалі ў хаце вуглы, аж уздрыгвалі на сцяне ад вуліцы ходзікі. Скрыпелі дзярката настылыя дзверы, і боязна было выходзіць на двор.

Туман над вёскай вісеў усю ноч.

Раніцай яна была чыстая ад інею, нібыта толькі што паявілася на зямлі. Неба зачырванелася на ўсходзе за парканам яшчэ додніцай, хаваючы ў настылай чырвані ранішнюю ядраную зорку — над самым Пагуркам. Ад зары, здавалася, паружавеў сіні насцярожаны веташок, які вісеў, як баючыся, за ракой над Жарамі.

Алёшу трэба было ісці ў школу — учора яшчэ мароз не дацягнуў да дваццаці пяці градусаў і не распускалі — больш пяці вёрст: у Горна. У Жарах была школа з чатырма класамі.

У Горна з Венеры хадзіў толькі ён, Алёша,— у шосты клас, і Альдзя — пайшла першы год так далёка — у пяты.

Альдзя жыла ў канцы вёскі, процi Жаваранкі, і Алёша кожную раніцу, ідучы ў школу, заходзіў да яе. Яны, адно за адным, спускаліся з аселіцы да маста — мост быў новы, на пáлях, з парэнчамі: яго нядаўна зрабілі рабочыя; ішлі, падымаючыся на гару, да Жараў; мясілі гурбы ля платоў праз усю доўгую Малінаўку і Двор; настаўлялі каўняры, хаваючы шчокі ад сіверу, на гары пад Горнам і, мінуўшы пяць з гакам вёрст зімовай дарогі, прыходзілі ў школу адубелыя, з сінімі насамі і беглі адразу да грубкі, адціраючы рукі і стукаючы па падлозе намерзлымі валёнкамі, як капытамі...

Не хацелася выходзіць з хаты, і Алёша, аблакаціўшыся на падаконнік у каморцы — на акне ў каморцы не было падвойнай рамы,— праскроб пальцам у наледзі дзірку і глядзеў, утаропіўшыся, на Пагурак — на чырвоную зару. Яна якраз біла ў акно; ад яе намерзлыя ўзоры на шыбах рабіліся блакітныя і выступалі шырокім, у даланю, лісцем — на свет трэба было глядзець, як праз папараць.

Алёша пазніўся — гэткай парой яны хоць калі былі ўжо ля Жараў — і выскачыў на двор.

Неба над Пагуркам гарэла, пераліваючыся. На ім дрыжалі роўныя, як стрэлы, палосы — стаялі стаймя. З-за

лесу паказаўся жоўты, як чыстае золата, беражок сонца і сцебануў па вачах. Ад яго загарэўся задзёрты ўгару высокі асвер — на канцы.

Мароз адразу хапіў за шчокі; цяжка зрабілася плюскаць вачыма — вейкі сталі густыя, аб'інелі, аж відаць было. Зверху сыпаўся дробны іней, паволі, як хто церусіў яго, пераціраючы, з пальцаў.

Алёша выбег на вуліцу.

Над вёскай стаялі дымы — слупамі над кожнай хатай. Падымаліся высака ў чыстае неба; загінаючыся ўгары, распаўзаліся і рабіліся жоўтыя ад сонца. Здавалася, над вёскай неба ў летніх воблаках.

З-за лесу над Пагуркам выкацілася на чыстае сонца, і ад яго заблішчала ўсё наўкола: снег на вуліцы і на стрэхах у вёсцы, іней на рабіне над студняй і на ліпах за хатай у Галіны Аляксандравай; заіскрыўся плот у гародзе жоўтым і сінім агнём... Не было як глядзець — рэзала ў вачах.

На вуліцы ля Жаваранкі загудзела машына. Машыны Алёша згледзеў толькі цяпер.

Яны стаялі адна за адной у канцы вёскі — у вуліцы і на дзядзінцы ля фермы. Чугрэі з печамі. Прычэпы і кузаўныя, белыя ад інею, на кабінах — на шыбах — іграе, адбіваючыся, калючае сонца.

Ля машын круціліся шафёры — у падвязаных зімовых шапках, у фуфайках, у штанах-ватовіках. Бразгалі капотамі і вёдрамі; звінелі качэргамі, набіваючы печы чуркамі — відаць былі здалёку чорныя круглыя паадкіданыя люкі; стукалі дзверцамі ў кабінах і крычалі адзін да аднаго, хукаючы з рота густой белай парай і ляпаючы рукамі ў рукавіцах ад марозу.

З машын — з печаў — ішоў дым, белы, аж сіні; падымаўся вышэй хат і ружавеў на сонцы.

Алёша падумаў, што ў вёсцы зноў стала леспрамгасаўская аўтакалона з грузчыкамі, як летась.

На двары ў Альдзі на ўбітым снезе былі знаць сляды ад машыны — пад'язджалі да ганка, да сеначак. За сеначкамі ўвесь кут двара быў засыпаны чуркамі — сухімі, жоўтымі і белымі, адумысла пашчапанымі бярозавымі калодачкамі для печаў чугрэям. На калодачках бялела бяроста, як папрымярзала. Ад чурак на ўвесь двор пахла бярозай — дрэвам.

Алёша зноў падумаў, што чурак цэлы стог, навалілі да самай страхі — навазілі ў запас; што калона стала ў

вёсцы надаўга. Убачыў, як да варот зноў падганялі машыну; збоку ля яе таптаў глыбокі снег Гурбан — Алёша помніў яго ад леташняга — у расхрыстанай фуфайцы, з шалікам ля шыі. Упёршыся голымі рукамі ў печ, надпіхаў машыну на двор.

«Грэе ля печы рукі...» — падумаў Алёша і хуценька ўскочыў у сеначкі.

У хаце ён стаў адразу ў парозе: было поўна рабочых. Хадзілі ўзад-уперад ад парога да печы, грукаючы аб падлогу намерзлымі ботамі і валёнкамі; пазацiскаўшы рукавіцы пад пахі, церлі рукі, пасля прыкладалі іх, чырвоныя ад марозу, да печы — да чалесніка. Алёша згледзеў, што збоку ля печы з вілкамі ў руках стаяла Альдзіна маці — Юлька. На яе падаў водсвет ад агню, яна ўся гарэла ад чырвані: вострая з твару, каса раскруцілася з куклы і ўпала на плечы. Нагнуўшыся, Юлька выцірала шчокі ражком фартуха.

Альдзі не было відаць, і ён павёў вачыма па хаце. Убачыў, што рабочыя сядзяць і за сталом — шырокім і доўгім, якія толькі бываюць у вёсках на вялікую сям'ю,— мусіць, тыя, што асталяваліся ў Юлькі: чалавек восем. У рубашках; відаць, нядаўна памыліся: з мокрымі прычасанымі валасамі.

Над сталом нізка вісела лямпа, у шкелцы блішчаў белы агонь, хоць лямпу ўжо можна было патушыць — сонца біла якраз у акно і ў хаце было відна. На стол, на разасланы белы абрус была пасыпана звараная бульба — з яе клубам ішла пара аж пад столь, хаваючы і лямпу, і агонь; пасярод бульбы стаялі вялікія міскі з кіслым малаком — дзве; на краі стала ляжалі пафарбаваныя ў чырвонае круглыя драўляныя лыжкі, вялікія буханкі хлеба з магазіна, сталовы белы шырокі нож і салёная рыба траска — адна на адной. Траска свежа і мякка пахла на ўсю хату, аж гнала сліну.

Адчыніліся шырака дзверы, бразнуўшы клямкай аб вушак — Алёша адскочыў ад парога,— і ў хату ўваліўся Гурбан. Расчырванелы, вастратвары, зімовая шапка з паднятымі вушамі задзёрта на макаўку, на лоб шырокай пасмай звіслі русыя валасы. Ён ціха ўсміхаўся Юльцы здалёку да печы. Алёша ўбачыў, што Гурбан падняў адтапыраны падол у фуфайцы: валок перад сабой у полах чуркі; насыпаў, як панясці. Рабочыя расступіліся на хаце, і ён, падышоўшы да печы, нагнуўся і высыпаў іх з грукатам на падлогу ў качарэжнік — Юльцы пад ногі. Чуркі

пакаціліся па хаце, і ён падгроб іх намерзлымі ботамі ў кучу. Зняў з галавы шапку:

— Ну, баба, палі. Каб і нам, і табе было як у лазні... Дроў цяпер повен двор...

— Ды ўжо ж...— загаварыла да яго Юлька.— Яшчэ б качаргу тую з вуліцы прынёс, што печы ў машынах набіваюць...

— Га-га-га...— Юльцы не далі дагаварыць: зарагаталі адразу ўсе за сталом і на хаце.

— Давай, Гурба, за стол. Стыне ўсё. І самі пазяблі...

— Сагрэешся ў лесе ля шляхты...

Гурбан паклаў фуфайку на ложак ля печы — на брыж — і падбег да лаўкі з вядром. Юлька лінула яму на рукі вады з вялікай конаўкі і падала ручнік з вышытым у чырвонае канцом — ручнік вісеў на сцяне пад суднікам. Гурбан ускінуў адзін канец ручніка на плячо, другім выціраў рукі і ішоў да стала. Яму, пацісnуўшыся, давалі месца з самага краю.

Толькі цяпер ён убачыў яго, Алёшу.

— Ага. Гляджу я на цябе, хлапец, і думаю... А можа, ты дарма, такі плечавень, снег месіш каторы год? Давай да нас у калону... Такія плечы нам...

— Ён лётчыкам будзе...

— Ты што...

Яму не далі гаварыць.

— Ну, калі так, хлапец...— Гурбан і цяпер не дагаварыў: бразнулі дзверы ў другой хаце, і сярод рабочых апынулася Альдзя. Высокая, роўна з маці, такая ж чыстая з твару і з бялявымі русымі валасамі — выбіваліся дробненька з-пад пяньковай карычневай хусткі, якую яна туга акруціла ля шыі. Яе вялікая, як у маці, каса, відаць было, не тоўпілася пад хусткай. У сінім, цеснаватым — падцягнулася — зімовым палітэчку, у сівых зграбных валёнках з галошамі, з чорным партфелем у руцэ, яна, здавалася, была зусім нетутэйшая, не з гэтай вёскі і не з гэтай хаты. Як прыйшла адкуль. Вясёлая, усміхалася ўсім, і ў яе блішчалі іскрамі вялікія круглыя вочы. На яе, павярнуўшыся, глядзелі цяпер усе рабочыя — і з-за стала, і з хаты. Алёша падумаў, што Альдзю ён такою не бачыў...

— Ну-у-у... Цяпер я знаю, чаго ён каторую зіму снег топча...— сказаў нарэшце сваё Гурбан, і за сталом засмяяліся.

Алёша пачуў, як яму зрабілася раптам горача ўсяму.

Здаецца, гарэлі вушы — кончыкі. Ён убачыў, як таркanулася раптам на хаце Альдзя і ў яе загарэліся шчокі, як мак. Яна бліснула вачыма за стол — адразу на ўсіх: што яны такое выдумляюць — і апусціла галаву.

Гурбан тады адышоўся ад стала і паскроб патыліцу.

— Ну, хлапе-ец...— прыплюшчыўся ён, усміхаючыся і ківаючы галавой.— Грузчыка з цябе, можа, я і не зраблю, а жаніць дык ажаню... Слухай, Юлька... Зяцем будзе! — аж крыкнуў ён на ўсю хату ад нейкай сваёй радасці.— Будзеш зяцем?..— пытаўся ён цяпер у яго, Алёшы, паказваючы рукой.— Будзеш зяцем?..

У акно густа засвяціла сонца — выйшла з-за хлева, з-за страхі, і адбілася шырокай роўнай паласой на сцяне ад гарода проці Юлькі. У хаце ўсё заіскрылася бліскучым жоўтым агнём, як полымем, і праз яго да парога ішла з партфелем у руцэ Альдзя...

— Будзеш зяцем? — Гурбан усё пытаўся, але Алёша яго не бачыў: хавала з воч жоўтая паласа — засланяла.

— Будзеш зяцем?..

— Буду зяцем...— сказаў Алёша, і ў хаце зноў засмяяліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бу-ду дзяцем... Бу-ду зяцем...— захлебястаў у сосніку на ямах нямецкі кулямёт, і над галавой густа засвістaлі кулі.

Алёша, стоячы ля ямы, аж страпянуўся...

Ля Венеры на захадзе ярка гарэў лес — ад сонца, у вёсцы глуха гудзелі машыны, як леспрамгасаўскія чугрэі.

Алёша нават не думаў, што ўсё можа так адкласціся ў памяці. Ніколі такое не ўспаміналася дагэтуль, а цяпер успыхнула адразу — нібыта чыркнуў сярнічкай па карабку. Даўно тое было: зімой сорак першага года, у вялікія маразы, калі павымярзалі ў Венеры сады і пасля стаялі летам чорныя — адно сухое галлё.

За Гарбатым Мастом зноў узгарэлася кулямётная страляніна, як усё роўна ў Пячным. Алёша падумаў, што Пячное ўзялі немцы, выставілі, як у Венеры, круга вёскі пасты і, пачаўшы звечара, будуць лупіць з кулямётаў па лесе — у белы свет як у капейку, да самай раніцы: баяцца партызан. Так яны рабілі ўсюды.

Алёша ўсё яшчэ стаяў ля ямы, ля Гурбанавага акопа, баючыся адысціся — у адной руцэ аўтамат, у другой

дыск,— тады, сагнуўшыся, пусціўся бягом цераз дарогу на другі бок, дзе быў у акопе з ручным кулямётам Геніятулін.

На акоп ён налучыў адразу. Падбег, стаў ззаду і стаяў, не верачы сам сабе.

Геніятуліна ў акопе не было... Здавалася, яго зусім не было тут: акоп на дне быў роўна засланы мохам; мох ляжаў некрануты і зверху на брустверы. І зямлю каля акопа не зачапілі міны.

Алёша абышоў акоп па верасе — верас мякка згінаўся пад нагамі — і зноў стаў. Не хацелася адыходзіцца, не хацелася і клікаць Геніятуліна.

Алёша падумаў, што Геніятулін збег. Не вытрываў недзе, калі пачалі дзёрці зямлю міны, а можа, і адразу, калі сталі блізка падпускаць немцаў. Хто скажа...

На ямах зноў хлебястаў нямецкі кулямёт, доўга, не могучы захліпнуцца. Білі па Пагурку — над пасекай ляцелі кулі з агнём. Па лесе пайшлі густыя вячэрнія водгаласкі, коцячыся на край зямлі.

Да Ушаковага акопа трэба было ісці пасекай, па голым, і Алёша папоўз. Поўз на лакцях, дзержачы ў адной руцэ аўтамат, у другой дыск, мінаючы ямы ад мін і чапляючыся вялікімі нямецкімі чаравікамі за сасновае дробнае карэнне, за верас і пашчапаныя асколкамі пні,— баяўся, каб не згледзелі і не пачалі біць з мінамётаў.

З-пад верасу падымаўся пыл і лез у вочы, не было як глядзець: шчокі дзёр сівец — трэба было задзіраць галаву — і нямелі рукі.

Пад локцямі ў яго зазвінела, як усё роўна бітае шкло. Ён пачуў, што цяжка стала паўзці: коўзаецца па нечым гладкім. Падняў галаву: кругом, на вялікай латочыне, як дома на ўвесь двор, было насыпана бляшаных вушак. У такія бляшаныя вушы, на добрую пядзю ў даўжыню і далонь у шырыню, выгнуўшы іх і прыстроіўшы — загнаўшы пад пазок у падсочаную сасну,— пераймалі смалу. Было гэта даўно, такія вушкі, як Алёша помніць, валяліся на пасецы ля пнёў. Тут, відаць, іх была цэлая куча, засыпаная пяском, міна выдрала іх з зямлі, параскідала па пасецы, і яны ляжалі цяпер, як вялікая луска з-пад нажа ад выпатрашанай рыбы. Былі чорныя, пакарабачаныя, што сухая кара летам ад сонца; рудыя ад даўніны і ржы, якая схапіла іх і паела да дзірак...

Алёша зноў папоўз, але пад ім звінела раскіданая бляха, і ён падумаў, што яго могуць пачуць здалёку. Пад-

няўся на ногі, каб перабегчы разрытае месца, спатыкнуўся, паслізнуўшыся, і, падаючы, убачыў уперадзе перад сабой на зямлі Ушакова: пазнаў адразу. Ускочыўшы, падбег і стаў, забыўшыся, што яго могуць згледзець. Стаяў, утаропіўшыся на Ушакова: на падкручаныя ногі, на адкінутую руку і на падвернутую да грудзей галаву без пілоткі. Валасы, прысыпаныя пяском, закрывалі Ушакову лоб і прыплюшчанае мокрае вока. Ушакоў ляжаў на баку на бляшаных вушках. Можна было пазнаць, як ён падграбаў іх спераду пад сябе, відаць, поўз. І кулямёт ён як усё роўна падгроб пад сябе: ашчапіў рукой ля прыклада. Здавалася, ён спіць, прыплюшчыўшы вочы і паклаўшы галаву на талерку... Алёша не спускаў вачэй з рукі, яна была пад прыкладам як усё роўна вывернутая — так доўга чалавек не мог пралежаць,— і па ёй поўзалі вялікія рудыя перацятыя мурашкі.

Прысеўшы, Алёша хацеў выцягнуць наверх падкручаную руку, але не даваў прыклад. Тады Алёша перакуліў Ушакова на спіну — заскрыгаталі пад ім, пад нізам, бляшаныя кавалкі, адзін аб адзін.

Ушакоў адкінуў у яму пад верас галаву і адплюшчыў вочы... Адплюшчыў назусім...

Яны заблішчалі, як вада вечарам у павыбіваных кроплямі дажджу ямках — цьмяна і холадна. У куточках вачэй ляжаў, сабраўшыся, мокры пясок...

І рукі, і лоб у яго былі халодныя, як талерка ад кулямёта...

Алёша тады закрычаў, як спужаўшыся, і, падхапіўшы з зямлі аўтамат — Гурбанаў дыск ён трымаў увесь час у руцэ,— пабег пад Пагурак у соснік — да Жаваранкі. Бег і думаў, што нідзе не чуваць Жаваранкі, што ён, Алёша, астаўся адзін на пасецы, як палец. Падумаў пра сябе, што зусім яшчэ сыры, як гаварыў Ушакоў, каб аставацца вось так аднаму, што ў партызанах ён толькі з зімы, што не трэба было прасіцца ў заслон, а адступаць з брыгадай у Пячное...

Ці-і-іў...— засвісталі над галавой кулі, хлопаючы ў сосніку ля дарогі, дзе быў Гурбанаў акоп. Немцы білі з кулямёта разрыўнымі, відаць, згледзелі. Зашумела ўгары міна і рванула недзе блізка ззаду. За ёй адразу другая і трэцяя. Немцы зноў білі з мінамётаў...

Алёша паваліўся ў пясчаную варонку. Ляжаў, уціснуўшыся ў рыхлы пясок, і чуў, як ён пахне жвірам.

Выбухі скора сціхлі — налёт быў кароткі. Запахла сы-

рым гарам — дым, змешаны з туманам, распаўзаўся пасекай, цягнучыся пад ямы на дарогу, дзе ляжалі непадабраныя немцы.

Калі Алёша вылез з варонкі, сонца ўжо зайшло; за лесам ля Венеры скупа чырванела неба.

## 3

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хмары на вёску наплылі з Пагурка, ціха неяк адразу — як завязалі ўсё наўкола ў мяшок. Зрабілася цёмна, што ноччу, і Жаваранка праз акно ад двара бачыў, як у цемнаце пабялела недаспелае жыта на горцы пад соснікам ля пасекі і зрабіўся жоўты ад пяску ля студні двор. Шырокай і доўгай паласой забялелася пустая дарога з вёскі да ям. Было відаць здалёку, як яна разлучаецца ля ям надвае.

На двары пад падстрэшкам у варыўні заблішчалі павешаныя косы — дзве: Жаваранка толькі што павесіў іх, вярнуўшыся з-за ракі з балота, дзе мужчыны дакошвалі ў калгас лучку і разышліся перад дажджом. Ад кос сцябала па вачах вышараваным бляскам.

З гарода ад град, ведучы за руку Валодзю, спяшалася баразной Кланя і азіралася на Пагурак. Ёй не даваў ісці Валодзя — чапляўся рукой за плот, за віткі, ступаючы нехаця высака па мяжы,— і трава, якую Кланя нясла ў падале перад сабой, з ахапак.

Высыпаўшы траву з прыпала ў сенцах — чуваць было, як яна зашапацела на зямлі ля карыта,— Кланя зашчапіла на кручок дзверы ў сенцах, перасадзіла цераз парог Валодзю і ўскочыла, задыхаўшыся, у хату. Хустку з сябе і — бягом да калыскі, якая вісела ля ложка ад двара. Завешаная пасцілкай, у калысцы спала Тоня — Антунінка; было чуваць, як яна ссе палец — смокча без аддухі. Малая яшчэ зусім — нарадзілася на згон зімы.

— Валодзя... Не бразгай клямкай...— зашаптала Кланя ля калыскі.— Дзе ты? Чаму цябе не відаць?

Жаваранка падышоў да акна ад гарода.

Хмара апусцілася нізка, як усё роўна лягла на лог ля ракі, пасівела вузкай паласой па краях, і яе пачалі памінутне сячы доўгія бліскавіцы — даставалі канцамі аж на платы ў гародзе. Ад хмары пабялеў альшэўнік ля ракі, стаў як ніцая лаза. Узняўся вецер, і альшэўнік нагінаўся да вёскі. Над Пагуркам грукатала без аддухі.

— Яхрэм... Паглядзі юшку...— паказала з-за калыскі галаву Кланя.

На двары над самым хлевам прабегла, як па няроўнай дарозе, белая бліскавіца. У хаце зрабілася відна, нібы ад агню, і Жаваранка ўбачыў, што Кланя расшпіліла на грудзях нажутку — будзе карміць Антунінку. У яркім агні і Кланя — твар і рукі, і калыска — край пасцілкі ад акна — сталі белыя, як папера.

Яшчэ больш зрабілася цёмна, хоць палі ў хаце лямпу, і ў гародзе па бульбоўніку зашастаў град. Было відаць, як ён, белы і круглы, па добрай гарошыне, адскаквае ад лісця. З зямлі, з баразён пайшла пара...

Жаваранка стаяў ля акна, не могучы адысці: ногі як прыраслі да падлогі. Балела ўсё ад касы: і рукі — у лакцях, і паясніца, і скура на жываце: мужчыны перад дажджом рвалі адзін перад адным. Не крануць шыяй: дурная прывычка — пускаць касу і варочаць за ёй увесь час галавой.

Ён пачуў, што ў яго ў кішэні брусок — адцягвае штаны: забыўся выняць у сенцах і пакласці на шафарню, прынёс у хату.

— Яхрэм... Лямпу запалі...

Блізка над ракой секанула кароценькая бліскавіца, ад яе зрабіўся сіні бульбоўнік у гародзе і Кланя — стаяла, нагнуўшыся ля калыскі, з Антунінкай на руках. І Антунінка, здалося, закручана ў сінюю пялёначку.

Урэзаў лівень, як з вядра. На гародзе пад хатай пагнала барознамі пясок і траву.

Ён хацеў падысці ў парог да печы, дзе ў пячурцы ляжалі сярнічкі, але бразнула клямка — Валодзя забаўляўся, ці што,— і адчыніліся дзверы ў хаце, ціхенька, як хто асцярожна рукой,— Кланя так усягды адчыняла, каб не разбудзіць у калысцы Антунінку,— і зверху над дзвярыма ў праём, распаўзаючыся, як усё роўна мяккі і слізкі, укаціўся яркі-яркі круглаваты шар; жоўта-белы, з кулак, ён, дрыжучы, папоўз у хаце адразу ўгару да столі. Поўз памалу, як асцерагаючыся.

У хаце зрабілася жоўта, што ноччу ад месяца, калі ён свеціць у акно...

Жоўта-белы шар, пераліваючыся, як выняты ў кузні з горна, падплыў да столі, якраз процi судніка — лыжкі на судніку зрабіліся жоўтыя, што залатыя,— і, не дакрануўшыся да яе, павярнуў на хату... Мінуў шасток з абшчыпаным вянком старой леташняй цыбулі — шасток

быў у кутку пад бэлькай; падплыў, знізіўшыся, да шафы — шафа стаяла ў канцы ложка, ля сцяны ад гарода; павісеў ціха якраз пасярод хаты, як усё роўна шукаў месца; тады ціхенька крануўся да акна ад двара. Падрыжаў ля сцяны, акруціўся ля калыскі — угары, каля лейцаў (Кланя, прыціснуўшы да сябе Антунінку, хацела, відаць, крыкнуць: сядзела, адкрыўшы рот, і не магла, глядзела толькі ўгару), пасля павіс пад столлю над куфрам — былі добра відаць на сцяне ад вуліцы ходзікі, аж заблішчалі стрэлкі; тады віхлянуў уніз і паляцеў у кут да стала, проста на яго, Жаваранку, як усё роўна нагрэты ў лазні ў печы камень вырваўся з драўляных клешчаў, не данесены ў кадзь з вадой...

Жаваранка пачуў, як затрашчала ўгары над галавой, нібы зламалася дрэва... На ўвесь кут ля столі рассыпаліся жоўтыя круглыя іскры, і сцяну лізнула чырвонае полымя, што языком...

Яго адкінула ад стала на хату...

Падаючы на падлогу, ён пачуў, як закрычала Кланя...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яго тармасілі за ногі, а яму ўсё здавалася, што над ім пад столлю ля бэлькі гарыць выгнутая ад гарода сцяна — полымем. Набеглі людзі, льюць з вядра ваду высака на сцяну, яму на галаву, на грудзі, а ён ніяк не можа ўстаць: сціснула — не дыхнуць, адняліся рукі — не павярнуцца.

Ён чуў, як яго клікалі: Яхрэм... Што ўсё роўна Валодзя з парога ад печы...

Пасля цяжкое, што душыла яго, знялі з грудзей, і ён добра пачуў, што яго ўзялі за рукі: за адну і за другую. Ён уздыхнуў на ўсе грудзі і адплюшчыў вочы. Над ім было цёмнае вячэрняе неба, зацягнутае доўгімі малінавымі палосамі...

Ён успомніў усё і страпянуўся — у вочы пасыпаўся пясок. Як праз туман згледзеў над сабой Алёшу і пачаў у дзве рукі церці вочы. Падняцца не мог, увесь быў як здзервянелы.

Пасля ўбачыў бярозу недалёка за акопам... Дзьмуў вецер, і на ёй дрыжала лісце. Ён доўга міргаў вачыма, тады згледзеў старыя асіны на Пагурку і за імі неба ў цёмных хмарах.

— Памажы, сын...— пачуў ён свой ціхі голас: гаварыць было цяжка.

Алёша памалу падняў яго з пяску, сагнуўшы ў паясніцы, і прыпёр у акопе да берага, як дома хворага ў ложку да брыжа.

Жаваранка хацеў адразу стаць на ногі, рвануўся і зноў апусціўся ў акоп: сеў, прыпёршыся бокам.

— Немцы... прайшлі? — утаропіўся ён на дарогу.

— Тут — не... На Рабы Калодзеж... Занялі, відаць, Пячное. Чуваць, быў бой. І ля Рабога Калодзежа ішоў бой... Не ўставай... Згледзяць...

— Падай аўтамат...— Жаваранка выцягнуў руку да пня.— Дзе Ушакоў?

— Забіла... На голым забіла... Поўз... Знаць... Вун, відзіш? — Алёша паказаў да дарогі, і Жаваранка адразу ўбачыў Ушакова — той, у чорным, ляжаў на жоўтым пяску і быў відаць здалёку.

— Не пазнаю... Вочы рэжа... Плечы як усё адно адняліся. Не чую... Што ж будзе... А Гурбан дзе? Дзе Геніятулін?

Алёша ляжаў ля акопа на жываце і, апёршыся на рукі, глядзеў на пасеку — на Ушакова.

— Што маўчыш, хлапец? Памажы падняцца... Не ведаю, ці стану. Кантузіла, чую... Гэта ж трэба... Як з таго свету... Дай руку, хлапец. Дзе Геніятулін? Чаго маўчыш?

— Не падымайся... У іх два кулямёты. Ля ям у сосніку і пад логам на горцы. Вачэй не спускаюць... З мінамётаў садзяць. Сваіх яшчэ не падабралі. Баяцца. Раненыя на дарозе ёсць... Чуваць, як стогнуць...

— Раненыя?.. Дзе Геніятулін?.. Якая была каманда? Раненыя...— Жаваранка сцяўся ад болю.— Падбяруць раненых... Дзе Геніятулін?..

— Збег...

Жаваранка спружыўся ў акопе, хочучы зноў падняцца на ногі; застагнаў і глядзеў на Алёшу прыплюшчанымі вачыма. Міргаў, не перастаючы,— відаць, ад пяску.

— Акоп пусты... І кулямёта нідзе няма...

— Не можа быць. Храновіны, хлапец, не гарадзі... Геніятулін не збяжыць.

— У акопе няма. Што мне выдумляць...

— А Гурбан дзе? Што ты цягнеш ката за хвост?..

— І Гурбана няма... І акопа яго няма. Яма...

— Ды памажы ты падняцца... Бубніш мне над галавой...— Жаваранка, апіраючыся на рукі, перавярнуўся і

стаў у акопе на калені. Глядзеў цяпер Алёшу ў вочы, усё яшчэ не верачы.

— Нават аўтамата Гурбанавага няма. Пасекла... Во што асталося...— Алёша падняў у руцэ з зямлі дыск.— Поўны... Забраў...

— Памажы выпаўзці з ямы...— Жаваранка падаў Алёшу руку.— Падсунь аўтамат. Не дастану... Што гэта цябе ўсё прасіць трэба... Не можа быць, каб Геніятулін збег... Вазьмі пад паху... Каб толькі на ногі стаць... Чую, што пайду. Так, брат, садзілі... З цяжкіх... Што на фронце... Не можа быць, хлапец, каб Геніятулін... Я ж яго ведаў. Каб я яго не ведаў... Не тое, хлапец...— Ён памаўчаў.— Немцы, значыць, на Рабы Калодзеж рванулі? А брыгадная разведка? Брыгадная ж разведка была там...— Ён зноў памаўчаў.— Не веру, каб Геніятулін... Можа, якая каманда была? Можа, каманду даў Ушакоў? — Жаваранка падымаўся памалу на ногі і гаварыў, не сціхаючы, як ад радасці, што астаўся жывы.

Вылезшы з акопа, ён расставіў шырака ногі і ўзяўся рукою ззаду за крыж — як падпёрся. Другой рукой выціраў ад пяску вочы, счышчаў яго сперады з пінжака — з грудзей.

— Пагляджу аўтамат... Калі набралася пяску...

— Затвор ходзіць... Не чуваць... А ствол прачысці, калі баішся...

— Аглушыла, як рыбу...— Жаваранка адышоўся ад акопа і вярнуўся назад.— Суставы скрыпяць... Як склеены, маць іх так... У крыжы ломіць...

— Шчасце яшчэ, што не пасекла... Нават не зачапіла...

— Крыві не відаць...

На ямах захлебястаў нямецкі кулямёт — прыйшла пара; кулі ляцелі над дарогай шнурком: білі ўвесь час трасіркамі.

Жаваранка нават не ўздрыгнуў.

— Та-ак...— толькі павярнуў ён галаву, гледзячы на дарогу.— Не па нас. Уставай, хлапец. Нас не ўвідзіш. Вун туманок на пасецы ля жыта...— паказаў ён рукой.— Тыя будуць біць усю ноч...— Ён раптам, як забыўшыся, што ў яго скрыпяць суставы, павёў затворам аўтамата, дастаў з праёміны дыск, выцер яе, злазіўшы ўсярэдзіну з пальцамі, паставіў дыск на месца і павесіў адразу аўтамат на шыю — накінуў у дзве рукі цераз галаву новую зялёную брызентавую дзяжку.— Будуць лупіць усю ноч...

За ноч мы павінны дагнаць сваіх... У Пячным яны будуць ці за Пячным... Без сваіх мы, брат, з табой, хлапец, як мухі ў мухалоўцы... Дагнаць і даложыць Рудаву... Невядома, дзе яшчэ Геніятулін... За яго нам з табой прыйдзецца адвічаць... Ушакова няма...— Жаваранка ўздыхнуў, узяўшыся рукой за грудзі, і сказаў ціха і цвёрда, як усё роўна дагэтуль яшчэ не ведаў, што трэба рабіць: — Забяром Ушакова і адыдзем на Пагурак. Тут акопы...

Ён сказаў пра Ушакова, не верачы самому сабе. І калі, пераступаючы з нагі на нагу, ішоў да Ушакова — збоку ступаў Алёша з аўтаматам у адной руцэ і дыскам у другой,— не верыў яшчэ, што таго няма.

Ля Ушакова яны абодва апусціліся на калені. Жаваранка ўзяў абедзвюма рукамі Ушакова за галаву, каб падняць з зямлі. Галава была цяжкая, як камень,— не хацела падымацца — і халодная.

Усярэдзіне ў Жаваранкі як усё роўна што абарвалася; зрабілася горача. У вачах адразу мігнулася пілотка: яе сарвала з галавы Ушакова і кінула пад сасонку ля яго, Жаваранкавага, акопа. Толькі што быў жывы чалавек — кроў з малаком,— крычаў каманду і на́ табе...

— Збегай вазьмі пілотку...— Жаваранка выцер з ілба пот.— У мяне ля акопа. Спераду. Што так глядзіш? Пілотку, кажу, прынясі... А я Гурбана зірну...

— Не ідзі!..— Алёша аж закрычаў, забыўшыся на ўсё.— Яма ў крыві... Пясок увесь у крыві... Пальцы мае ў крыві...

Жаваранка махнуў на яго рукой, і той пацішэў, сказаў шопатам:

— Немцы там блізка ў клінку... Калі каторы жывы... Разане...

— Бяжы... Найдзі пілотку. А я вазьму кажух і рыдлёвачку... На кажусе панясём... Не нясці ж за рукі, за ногі... Што ты ўсё стаіш? Ушакова панясём на кажусе... А Гурбан... Калі прамое пападанне — у пыл разносіць...

На пасецы пачынала шарэць, ціха і мякка, як заўсёды шарэе спакойным летам. Над Венерай стаяў сіні дым, засцілаючы, як туманам, чырвонае неба на захадзе. За Пагуркам, над Партызанскімі лагерамі, дзе віселі цёмныя хмары на ўвесь край неба, бегалі далёкія бліскавіцы. Грому не было чуваць; пахла дажджом і гарам.

Цяжка ісці, спірае ў грудзях; за спіной, дзе вісіць ручны кулямёт Ушакова, робіцца мокра, а Жаваранка ступае і ступае па сіўцы і па верасе.

Усюды ціха і трывожна; Жаваранка ўздрыгвае ад далёкай бліскавіцы за Пагуркам. Ззаду дробна перабірае нагамі Алёша і дыхае з сябе. Нацягвае кажух, і ад таго яшчэ горш ісці. Жаваранка ідзе пярэдні, заклаўшы рукі за спіну і ўчарэпіўшыся за кажух. Чуе, што ў пальцах зацiснуты гузікі ад кажуха — не выслізне з рук. Не азіраецца назад — цяжка варочаць галавой — і не бачыць ні Алёшы, ні Ушакова, які ляжыць на кажусе. З кожным крокам усё цяжэй дыхаць — аж разрываюцца грудзі.

Яны адыходзілі соснікам на Пагурак, несучы Ушакова.

З Пагурка пахла распараным бярозавым лісцем. Пад нагамі шапацеў сівец, густы, высокі — Жаваранка ступаў, як на падушку. Ішлі па старой дарозе, парослай травой і брусн1чнікам. Бруснічнік белы, на цвеце; яго захінае з воч папараць: паднялася ля дарогі, сплялася, пад ёй можна паўзці, хаваючыся.

Соснік разросся, палез на дарогу — пачаў дзічэць. Па твары сцёбалі калючыя лапкі, пакідаючы на лбе белае ліпкае павучынне.

Узагналі з-пад ног дзвюх белых курапатак. Яны доўга беглі наперадзе па сіўцы адна за адной, як дражніліся. Зацылькгікаў дзяцел, занылі над вухам камары...

Жаваранка падумаў, што цэлы дзень рваліся на пасецы і на Пагурку міны, а ў лесе ўсё жывое, як і жыло...

Запахла сырой імшарай; цвярдзей ступалі ногі. Толькі каб хто, здаецца, выцер павучынне — свету не відаць...

Ззаду, на ямах ля Венеры, не сціхаў кулямёт. Па лесе ішлі водгаласкі, каціліся нізка, па зямлі. За Пагуркам, не перастаючы, паласавалі неба бліскавіцы. Рвануў вецер, наляцеўшы зверху; зрабілася свежа за плячыма.

Жаваранка падстаўляў твар пад вецер і пад калючыя сасновыя лапкі.

## 4

Алёша, ідучы ззаду, бачыў толькі талерку ад ручнога кулямёта ў Жаваранкі на спіне. Круглая, яна чарнела перад вачыма, як засланяла свет. Жаваранка цяжка ступаў уперадзе, дыхаючы, як мех у кузні, і Алёша падумаў, што

той з гарачкі ўзяў сабе на плечы яшчэ і ручны кулямёт. Толькі сумку Ушакова, нямецкі брызентавы ранец, аддаў нясці яму, Алёшу. Сумка набіта, цяжкая і адцягвае пляччо. Пляччо адцягвае і кажух, на якім ляжыць Ушакоў; каб не ўчарэпіўся за палатняную кішаню, даўно выпусціў бы з рук. У вачах ідуць чырвоныя кругі, і тады на плячах у Жаваранкі расплываецца чорная талерка, робіцца вялікая і закрывае сабой і Жаваранку, і вузкую дарогу ў сосніку.

І зноў Алёша думае, што Жаваранка апантаны: ідзе і ідзе, не думае аддыхнуць. З гарачкі. Трэба яму сказаць... Але Жаваранка ішоў, не аглядаючыся і не гаворачы ні слова. Яны прайшлі ўжо з паўдарогі, блізка да Пагурка, відаць старыя высокія асіны з круглымі вярхамі, як макаўкамі. І тады Алёша думае, што Жаваранка ідзе не з гарачкі, што ён не апантаны, а — дужы. Алёша ведаў Жаваранку, як ведаюць у вёсцы дзеці мужчын, круцячыся каля іх, як толькі падрастуць...

Жаваранка ішоў дарогай, як хадзіў кожны раз за возам за снапамі ад Рабога Калодзежа, як ішоў з плугам на загуменні, паганяючы коней і прытоптваючы збоку нагой адкінуты лемяхом дзярняк; як спяшыў з касой, стаўшы ў пакос з усходам сонца і махаючы рукамі цэлы дзень, прысеўшы толькі на купіну папалудняваць з торбачкі,— бо які гэта мужчына, каторы не скосіць на лагу пад Пагуркам гектар за дзень... Жаваранка прывык да работы; ён і цяпер, здавалася, рабіў работу, як па нараду: ад рання да вечара; аддыхнуў быў, засыпаны ў акопе, падняўся і ўпрогся зноў. Бо пражыў у рабоце ўсё сваё жыццё: інача, відаць, не мог.

Пачынае круціцца ў галаве — ад натугі, і тады ў Алёшы перад вачыма плыве ферма і малатарня з трактарам. Ля трактара мяхі з намалочаным жытам. Адзін на адным — гара. Падводы не спраўляюцца адвозіць іх у свірны. Жаваранка бярэ поўны — па завязку — мех абедзвюма рукамі і кідае перад сабой здалёку на калёсы. Як што лёгкае... Падыходзіць пасля да яго, Алёшавых, калёс — Алёша хапаецца скарэй за драбінкі,— бярэ рукой за ляжэйку і пачынае адным махам пераварачваць калёсы.

— Лётчыкам будзе... Не баіцца...

— Куля́й... Хай прывыкае...

Крычаць і смяюцца мужчыны; калёсы нахіляюцца, і Алёша падае ў траву на дзядзінец. Гудзе трактар; пусцілі малатарню, і яна ляскоча парожнімі цапамі, пакуль

не схопіць сноп. На ферме на зямлі сіне ад дыму — не відаць малацьбітоў...

Зноў расплываецца талерка ў Жаваранкі на плячах... Даг-даг-даг...— ляскоча ззаду на ямах кулямёт, што малатарня.

Ад хады калышацца на кажусе Ушакоў; перагнуўся ўвесь у паясніцы і аб'ехаў уніз, як сядзіць: ногі звіслі долкі і чапляюцца ботамі за сухі верас на дарозе.

Калі Алёша нагінаецца ўперад, бачыць добра твар Ушакова: чысты, як жывы. Адплюшчаны вочы, як усё роўна глядзяць цьмяна на яго, Алёшу; шчокі ўмазаны ў жоўты пясок. Туга сцяты зубы, як ад вялікай злосці,— сцяў іх недзе ад болю; скрывіліся тонкія вусны.

Калі пачынае калыхацца на кажусе галава — уніз-уверх, здаецца тады, што Ушакоў ідзе па выганчыку за ракой ля вёскі, ніяк не могучы выйсці з-за гары: пакажацца — і няма. Ідзе, як і тады, калі першы раз паявіўся ў Венеры...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Немцы пайшлі праз Венеру раніцай. Паявіўшыся ўсходам сонца на матацыклах, яны нават не спыніліся ў вёсцы: выскачыўшы з лесу ад ям — ішлі з Пячнога, прабіўшыся з-за Віліі праз Рабы Калодзеж,— яны рваліся на Горна — на шашу, якая вяла на Плешчаніцы. Немцаў у Венеры яшчэ не бачылі — учора толькі што адступалі нашы: ішлі на Пячное доднікай, не злічыць,— і ніхто не вылазіў немцам на вочы — пазачыняны дзверы ў хатах, пазапіраны вароты на вуліцу. Глядзелі толькі на іх з хат, адышоўшыся далей ад вокан...

Усходам сонца над Пагуркам паплылі хмары; падняўся вецер — гнуў на вуліцы над студняй рабіну, свістаў, не сціхаючы ў платах: на дождж. Дажджу даўно не было; пясок, падхоплены ветрам на ямах, падымаўся вышэй лесу, і яго гнала ў вёску вуліцай, хаваючы з вачэй і хаты, і платы, і немцаў на матацыклах...

Пасля матацыклаў ішлі машыны — высокія, лабатыя, крытыя перапялёстым брызентам. Раўлі на вуліцы ў пяску ад натугі і, не даязджаючы да хаты, паварочвалі да маста ля калгаснай канцылярыі, дзе жыла Галіна Аляксандрава.

У акне ценка звінелі шыбы. У хаце чуваць быў дым. Алёша бачыў, як маці, стоячы ля ложка на рог акна, то расшпіліць на грудзях нажутку на ўсе гузікі, то зноў

зашпіліць. Падыдзе да яго, Алёшы; нічога не гаворачы, зноў вернецца да ложка: абапрэцца рукамі на брыж, паправіць рубашкі ў запечку на сцяне, на вешалцы... Пасля падбяжыць да печы, саставіць асцярожна з прыпечку бляшаную засланку на падлогу — пакладзе на дровы ціха, каб не забразджэла. Пачакаўшы, возьмецца наліваць вады з вядра ў вялікі гаршчок — робіць тое, што рабіла кожную раніцу ўсё сваё жыццё,— кіне на падлозе ля печы недаліты і вядро пры ім і зноў падыдзе да яго, Алёшы,— абапрэцца рукой на плячо, ціха, не пачуеш нават, і дыхае часта ў нос: хавае плач.

— Александрына...— кліча яе нехта на двары ля студні, мусіць, Галіна Аляксандрава, а яна не зварухнецца, як прыкіпела: стаіць, утаропіўшыся праз акно на машыны і застыўшы. Пасля выцірае пальцамі ў дзве рукі слёзы са шчок і глядзіць на яго, Алёшу, невідушчымі трывожнымі вачыма — баіцца, каб што з ім не зрабілі: прыйшла бяда.

Машыны вуліцай больш не ідуць, толькі доўга яшчэ ныюць на дарозе ля Жараў — ад пылу на гары не відаць могілак,— і людзі выходзяць з хат. Алёша бачыць, як маці на двары, стоячы ля студні і апёршыся рукой на зруб, глядзіць не ў Жары, а азіраецца на лес.

— Каб хоць іх больш не прынясло...

Маці недзе здаецца, калі яна не бачыць немцаў, то іх нідзе і няма: ні ў Пячным, ні ў Жарах, ні на шашы, дзе яны пруць на Плешчаніцы...

Другі раз немцы прыехалі ў той самы дзень, толькі пазней — якраз у палудзень.

Пасля машын прайшоў дождж, прыбіўшы пыл; аблешчылася, расцягнуліся ў небе хмары. Над Жарамі, якраз на паўдні, стаяла сонца, слепячы вочы і прыпарваючы.

Немцы ехалі з Жараў, на веласіпедах — веласіпеды блішчалі пад імі на сонцы, і, можа, таму немцаў згледзелі, калі яны былі яшчэ ля могілак,— ехалі адзін за адным, чацвёра, у пілотках, з вінтоўкамі за плячыма — ствалы пазатыканы белымі анучкамі,— дзержачыся за загнутыя ўперад высокія рулі з панадзяванымі на іх гафрыраванымі гумовымі трубкамі. Пасаскаквалі з веласіпедаў ля калгаснай канцылярыі — канцылярыя стаяла якраз проці дарогі. На вочы іх лучыла Волечка, маленькая вяртлявая кабеціна, маладая яшчэ, з чорнымі бліскучымі вачыма і высокімі грудзьмі пад белай нажуткай, якую яна ўсягды насіла. Жыла Волечка побач з канцылярыяй,

толькі хата яе стаяла далей ад вуліцы, аж на гародах, і да яе трэба было ісці доўгай вулачкай.

Немцы папрыхіналі веласіпеды да паркана ў вулачцы, усе чацвёра акружылі Волечку — схавалася з воч белая нажутка, не было відаць,— прыпёрлі яе да паркана, дамагаючыся невядома чаго, пасля пагналі вулачкай перад сабой у хату. У вёсцы цяпер, каму блізка, усе сачылі за вулачкай: з двароў, праз вокны з хат, з-за вуглоў — дзе каго засталі немцы. Стала ціха, і было чуваць на ўсю вуліцу, як на двары прасілася Волечка, аж крычала...

Пачакаўшы, немцы, усе чацвёра, выйшлі з хаты. Ішлі паволі вулачкай, чапляючы нагу за нагу, з вінтоўкамі за плячыма. Пярэдні нёс у руках вялікае белае рэшата. Немцы бралі з рэшата яйкі — белыя яйкі былі відаць здалёку,— білі адно аб адно, пілі, задзіраючы ўверх галовы, пасля кідалі шалупіны далёка на гарод. Лёгкія шалупіны падскаквалі па густым зялёным маладым бульбоўніку, які блішчаў на сонцы пасля дажджу.

З рэшатам усе чацвёра падышлі да канцылярыі. Пасталі, гледзячы ў адзін канец вёскі, у другі — ад канцылярыі вёска была добра відаць. Пасля немец, што нёс у руках рэшата, адкінуў яго, парожняе ўжо, ад сябе — яно пакацілася цераз вуліцу пад плот у крапіву,— дастаў аднекуль, як усё роўна з-за пазухі, і адразу разгарнуў ладны ліст жоўтай паперы. Ускочыўшы на ачэсанае бервяно пад хатай, што служыла за лаўку, нечым спрытна прыляпіў ліст да сцяны ў канцылярыі — якраз у тым месцы, дзе брыгадзір дагэтуль вешаў кожную раніцу нарад на работу. Стаяў яшчэ, глядзеў на паперу, тады саскочыў на зямлю, махнуў рукой, як даў каманду, і яны, усе чацвёра, пабралі ў вулачцы ад паркана веласіпеды, паселі і паехалі на Пячное.

Людзі адразу пайшлі да канцылярыі — адны згледзелі жоўтую паперыну на сцяне, другія ішлі, бачачы, што ўсе ідуць. Асцярожна ступаючы, як па чым гарачым, ішлі што на сходку ў канцылярыю, куды прывыклі хадзіць за гэтыя гады, як у сваю хату, хоць ім і не загадваў брыгадзір. Ішлі малыя і старыя, выходзілі ўсе з хат, мусіць, каб сабрацца разам, бо, сабраўшыся, смялей.

Алёша з маці паглядзелі адно на аднаго і пайшлі, не гаворачы, з двара.

Канцылярыя была на горцы. Праз вуліцу, у аселіцы ля плота проці яе, стаяў свіронак. Увесь мокры пасля дажджу дзядзінец ад канцылярыі да свіронка быў пад на-

гамі. Людзі маўчалі, як выйшлі каго хаваць. Гаварылі толькі ціха ля самай сцяны пад канцылярыяй, там, дзе была прыклеена жоўтая папера. Гаварыў мужчына, Алёша не пазнаў хто.

— Што... Што...— як перадражніваў той каго.— Што падымай?.. Спадніцу, паказвае, падымай... Сам відзіў... А Волечка ціснецца да паркана: «Пан, там чорна...»

— Цьфу... Такое расказвае ўсім. Памаўчаў бы...

— А ты не плюй... Лепш схадзі да яе... Схадзіць трэба...

— Пайшлі ўжо. Не бядуй... Не табе ж ісці...

Зноў стала ціха, усе маўчалі, ціснуліся толькі да сцяны, на якой вісела жоўтая, як пляма, паперына. Кожны хацеў убачыць — што там.

У грумадзе вышэй усіх быў Жаваранка — стаяў на ачэсаным бервяне, апёршыся шырокай рукой аб сцяну над жоўтай паперынай. Доўга глядзеў на яе, тады пачаў чытаць. Папярхнуўся і чытаў, кашляючы; Алёша не ўсё чуў і падышоў бліжэй да сцяны.

— «...Кто дает убежище красноармейцу...— чытаў паволі Жаваранка, як разбіраючы,— снабжает его продовольствием или его другим путем поддерживает — карается смертью через повешение. Это относится и к лицам женского пола... От этого постановления будет отступлено лишь в том случае, если окажется, что виновный как можно скорее заявил об этом происшествии ближайшей воинской части...»

Жаваранка спыніўся, не чытаў, і зрабілася зусім ціха. Чуваць было, як нехта ў грумадзе хліпае — плакаў — і недзе над Жарамі гудзелі ў небе самалёты.

— «Если же виновных в тот момент не обнаружат...— чытаў далей Жаваранка,— то берутся заложники из местного населения. Эти заложники будут повешены, если виновные или заподозренные в преступлении их сообщники не будут доставлены в течение 24 часов. Если же...— Жаваранка ўсё спіхаў і зноў чытаў,— то каждый раз будет захвачено или повешено двойное количество заложников...»

Жаваранка скончыў чытаць і саскочыў з бервяна на зямлю — глуха грукнуў нагамі. Тады ўсе падаліся да сцяны — кожны хацеў убачыць сваімі вачыма тое, што пачуў,— людзі згрудзіліся і маўчалі. Круцілі галовамі — глядзелі адно аднаму ў вочы: што ж будзе?

Зноў нехта заплакаў у грумадзе; бабы шкадавалі Во-

лечку; дзеці качалі па мокрым дзядзінцы, па абмытай ад пылу траве белае рэшата.

Людзі ўсё яшчэ стаялі, згрудзіўшыся; здавалася, не вёска, а адзін чалавек стаіць на бугры пад хатай: угнуў плечы, апусціў галаву — думае, што рабіць...

У тым канцы вёскі загудзела, густа, аж, здаецца, задрыжала зямля пад нагамі. У вокнах у канцылярыі зазвінелі шыбы. Над вуліцай і далей, над аселіцамі ля ракі, паявіліся ў небе самалёты. Ляцелі нізка, па тры ў радок; на крыллях добра былі знаць жоўтыя краёчкі. Ляцела іх штук трыццаць, а можа, і больш — і ўсё ўдоўж ракі, на Пагурак, у той бок, дзе быў Барысаў...

Людзі ля канцылярыі паднялі галовы: пасля адной бяды глядзелі на другую; глядзелі, аж пакуль самалёты над Пагуркам не парабіліся маленькія і не задрыжалі ў вачах.

— І знізу, і зверху...— нехта сказаў у грумадзе — мужчына — і ўздыхнуў, цяжка, як усё роўна скінуў з плячэй груз і ў сябе, і ў другіх: нічога, устоім... Усе, як чакалі яго, адразу загаманілі, накінуўшыся на дзяцей — нехта першы, а за ім і астатнія ў грумадзе: чые гэта там? Рэшата пакацілі дарогай да ракі... Забаву знайшлі...

Нібыта ў людзей цяпер толькі і клопатаў было — белае рэшата, якое вынеслі ад Волечкі з яйкамі немцы і якое цяпер кацілася, падскакваючы, да маста.

Усе глядзелі на рэшата, і таму ўсе адразу ўбачылі за ракой на выганчыку людзей.

Іх было трое. Ішлі яны блізка адзін каля аднаго, кучкай, то хаваючыся на выганчыку за гару, то зноў паказваючы галовы — уніз-уверх. Калі падняліся на выганчыку на гару, усе ўбачылі, што гэта ваенныя, нашы...

Праз выганчык цягнулася спрадвечная сцежка з вёскі на балота, праз якое можна было лучыць на некалішнія хутары, адтуль ездавой дарогай, якая ішла полем ля Жараў,— на шашу пад Найдорф, у бок Вялейкі. Звярнуўшы ў лес з шашы, па якой ішлі немцы, ваенныя маглі выйсці дарогай якраз на балота пад Венеру.

На гары ваенныя былі добра відаць — у гімнасцёрках, падпяразаныя дзягамі. Двое ў пілотках, высокія; трэці, меншы, што ішоў наперадзе, быў з голай галавой. Ішлі яны памалу, чуць перастаўлялі ногі. Згледзеўшы ў вёсцы людзей, сталі і доўга стаялі, як усё роўна варожачы: ісці ці не. Тады памалу спусціліся з гары, пералезлі, згінаючыся, цераз крыніцу — памагалі адзін аднаму за рукі — і, выйшаўшы на дарогу, пайшлі да маста. У грумадзе ля

канцылярыі раптам стала зусім ціха, нават не тоўхаліся дзеці, і было чуваць, як ваенныя ступалі па мосце: грук-грук... Людзі падаліся ад сцяны, дзе вісела жоўтая папера, насустрач ваенным, выйшлі на сярэдзіну дзядзінца і сталі. Стаялі і чакалі ваенных, пазіраючы то адзін на аднаго, то на жоўтую паперу на сцяне канцылярыі, то на мост, дзе краталіся, ідучы ў вёску, ваенныя; пасля на дарогу ў Пячное — добра ж, калі там ужо няма немцаў: на веласіпедах маглі за гэты час і ад'ехацца.

Сышоўшы з маста, ваенныя пайшлі яшчэ больш паволі, відаць было, як яны цягнуць па зямлі, па мокрым пяску, ногі ў ботах. І чым бліжэй падыходзілі да вёскі — зайшлі ўжо за платы,— ішлі ўсё цішэй і цішэй, здавалася, не дойдуць сюды, да канцылярыі. Сярэдняга, таго, што быў без пілоткі, чарнявага, узялі пад рукі. Падышоўшы да грумады, блізка, як праз хату, усе трое апёрліся на плот, прытаптаўшы нагамі высокую крапіву. Сярэдняга, чарнявага, без пілоткі, ужо не трымалі пад пахі: ён сам узяўся рукамі ззаду за спінай за жэрдку. Стаяў і дыхаў з сябе, як рыбіна на пяску. Дыхалі зморана і тыя двое, што стаялі ў яго па баках. Гімнасцёркі і штаны на ўсіх былі мокрыя ад дажджу ці ад балота — у цёмныя палосы. Да ботаў папрыліпала рудая гразь з крыніцы на выганчыку. Твары ва ўсіх былі цёмныя ад загару, шчокі сухія, вочы глыбокія — паўвальваліся.

Зброі ў ваенных не было, толькі ў чарнявага з кішэнь тырчалі зялёныя ручкі ад гранат; туга набіты кішэні былі і ў астатніх.

Чарнявы, без пілоткі, раптам адхінуўся ад плота, ступіў крокі два ўперад да грумады — цягнуў па мокрай траве боты — і сказаў, павёўшы вачыма па ўсіх, як шукаў каго:

— Четверо суток во рту ничего не было... Может, у кого... найдется...

Голас у яго быў ціхі, здавалася, яму гэтак жа цяжка варушыць языком, як і перастаўляць ногі.

Людзі ў грумадзе пачулі, што ён сказаў, і маўчалі: глядзелі цяпер на яго аднаго. Чарнявы тады зноў абвёў усіх вачыма і яшчэ цішэй сказаў толькі адно слова:

— Товарищи...

Яму цяжка было стаяць, і ён, адышоўшыся, зноў прыпёрся да плота.

Людзі маўчалі, пазіралі цяпер то на ваенных, то на жоўтую паперу на канцылярыі... Здавалася, нічога на

свеце не было: ні сонца над сівымі воблакамі, ні ветру, ні мокрай пасля дажджу дарогі за мастом на Жары, ні выганчыка, куды нядаўна ўсе глядзелі,— адны толькі ваенныя і жоўтая папера на сцяне, якая не паспела абсохнуць ад клею... А раптам немцы? Выскачаць з лесу, як раніцай...

Людзі згрудзіліся на дзядзінцы ў кучу — сціснуліся, як у кулак...

А ваенныя стаялі, апёршыся на плот; прыйшлі як усё роўна нарочна, як усё роўна праверыць: ну, што ў вас за душой?..

Людзі маўчалі з мінуту, маўчалі ўсёй вёскай...

Тады Алёша ўбачыў, як з самай сярэдзіны, з грумады, выйшла, працісну ўшыся, маці, прайшла блізка ля ваенных — ішла як усё роўна дамоў,— і сказала ім ціха, але Алёша пачуў, і ўсе пачулі:

— Ідзіце за мной...

Ваенныя пачакалі яшчэ, тады памалу пайшлі ля плота ззаду за ёй. Жоўтай паперы на сцяне яны нават не згледзелі.

Людзі на дзядзінцы раздзяліліся надвае і пачалі хутка разыходзіцца — у адзін і другі канец. Зноў над ракой пайшлі кучкамі самалёты на Пагурак — на Барысаў. У вулачку да Волечкі дзеці панеслі рэшата — нехта загадаў. З выганчыку наляцеў вецер, гнучы ля плота высокую крапіву і падымаючы на сцяне за беражок жоўтую паперу...

Дома маці карміла ваенных: заслала ў каморцы стол вялікім белым абрусам, як на свята, і паставіла ўсё, што магла знайсці,— і варанае з печы з-за засланкі, і з варыўні насіла капусту і агуркі. І ў шафарні ў сеначках грукала цяжкім векам: сала яшчэ на лета на касьбу аставалася — і ўсё подбегам. Спяшыла як на пажар: гэта ж людзі гэтулькі галодныя...

Ваенныя елі мала.

Завяла пасля ваенных у хлеў; яны адразу палезлі на вышкі, дзе ляжала рудое, з балота, леташняе сена. Спалі дзень да вечара, спалі ноч — храплі без аддухі, аж хлеў разлягаўся, а яны, Алёша з маці, сядзелі ўдваіх на лавачцы на вуліцы. Ноч была цёмная, ціхая; коні ржалі за ракой на выганчыку; мігала далёкае зарыва за Пагуркам — у бок Плешчаніц, і недзе там грукала, як у ступе. Усю ноч.

Прачнуліся ваенныя додніцай, самі. Маці дала ім па ручніку, і яны, пералезшы ў спрагу ля хаты, пайшлі мя-

жой ля плота да ракі. У аселіцы ў тумане — пад раніцу апаў густы ціхі туман, у вёсцы не было відаць ні хат, ні платоў ля вуліцы — краталіся іх галовы: уверх-уніз, і плылі палосамі белыя ручнікі на плячах...

Ваенныя і пайшлі з вёскі додніцай — гарэла толькі на ўсходзе, над соснікам ля ям, зялёная зара. Выйшлі з двара і падаліся ля плота на дзядзінец да фермы: пайшлі на Пячное, на ўсход. У тумане ля ям доўга былі відаць іх галовы...

Чарнявы, без пілоткі, быў Ушакоў. Што ён Ушакоў, дазналіся толькі праз год, калі раз ноччу, зімой у маразы, прывёў той з сабою поўну хату партызан — чалавек дваццаць. Яго ніхто не пазнаў: ні маці, ні ён, Алёша. Ушакоў усё помніў і пра ўсё расказваў сам.

— У меня теперь две матери... Одна на свет родила, другая от голодной смерти спасла... С твоим хлебом, мать, мы дошли тогда до Бегомля...

Гаворыць, а ў самога як слёзы на вачах.

— Те двое? Погибли, мать... В «Железняке» были... В бою... В гарнизоне...

Выходзіў ён з хаты апошні. Зачапіўся ў нізкіх дзвярах прыкладам аўтамата за шалёўку — аўтамат быў ззаду на плячы,— адвярнуўся яшчэ раз і як застыў у дзвярах на ўсю праёміну: шырокі новы белы халат на кажусе, белы башлык на галаве — накінуў перад выхадам — і твар белы, ад агню і ад халата, як снег...

— Спасибо, мать...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яны паклалі Ушакова на Пагурку ля самай дарогі пад трыма старымі асінамі; паклалі на кажусе, прымяўшы высокую лясную мятліцу.

Цямнелася; твар Ушакова адразу зрабіўся белы; здавалася, пабольшаў. Пабялелі і рукі — былі відаць здалёку.

Вецер улёгся; далёкія бліскавіцы над Партызанскімі лагерамі высвечвалі нізкія хмары. Без сціханага шапталі над галавой асіны, хлыстаючы лісцем. Старыя, высокія, з кунатымі вярхамі асіны былі відаць аж з вёскі — з фермы.

Шваргатала ў альшэўніку ўнізе, пад горкай, рака — на каменні; пахла халодным балотам.

Ля ям зноў азваўся нямецкі кулямёт — дагэтуль не было чуваць.

Жаваранка, выцершы рукавом лоб, зняў з шыі аўта-

мат, паклаў побач з Ушаковым, тады, задраўшы ўгару рукі, доўга знімаў ручны кулямёт — талерка лезла пад паху. Кулямёт ён паставіў на ножкі ля асіны і выцягнуў збоку з-пад дзягі рыдлёвачку — зялёную, нямецкую, з кароткай ручкай. Рабіў усё спрытна, нібыта і не быў засыпаны пяском, нібыта і не нёс на сабе гэтулькі цяжкога...

Уткнуўшы рыдлёвачку ў зямлю, ён пацёр далоні адна аб адну — з іх пасыпаўся на траву пад ногі пясок — і сказаў ціха, як папрасіў:

— Выскач на пасеку. На рог... Там, дзе ішлі. Немцы будуць забіраць сваіх. Пасекі яны баяцца, могуць пусціць разведку. Калі што — не варонь. Сячы і адыходзь сюды, на Пагурак...

Узяўшы рыдлёвачку, Жаваранка ступіў вышэй на горку, паправіў кепку, сцягнуў пінжак, скруціў, шпурнуў да аўтамата. Стаяў і доўга глядзеў на зямлю пад ногі, тады адразу ўзяў рыдлёўкай у штых, адкінуў далёка ад сябе сухі дзярняк з пяском, як адкідаюць усягды, калі збіраюцца глыбака капаць. Капануў і ўжо не адрываўся: ступаў і ступаў нагой на рыдлёвачку, махаў і махаў рукамі. Набок паляцелі кавалкі дзерняку, зашапацеў жвір, рассыпаючыся па траве. Запахла сухім лясным пяском, трухлінай і свежассечаным пад'ялеўцам... Ручка ў рыдлёвачцы была кароткая, і Жаваранка згінаўся аж у тры пагібелі. Ад цёмнай рубашкі плечы яго рабіліся шырэйшыя, і сам ён у рэдкай цемнаце стаў большы, як усё роўна вырас за гэты цяжкі акопны дзень на пасецы; здавалася, мацней сціскае ў руках рыдлёвачку, чымся днём, капаючы акоп. Значыць, у чалавека ёсць сіла, не прапала за гэтыя дні блакаднай мітрэнгі; значыць, ён збіраецца перанясці ўсё, што чакае яго наперадзе, і з ім — не страшна...

Жаваранка больш нічога не гаварыў, шоргаў толькі рыдлёвачкай аб жвір, упарта, як рашыўшыся на што; здавалася, яго цяпер нішто не можа збіць з пуці — хай хоць міны рвуцца, як удзень, ён будзе дзяўбці жвір на гэтай старасвецкай гары пад асінамі, і Алёшу не хацелася цяпер адыходзіцца ад яго. Адыдзешся — адзін. Нават аўтамат не ратунак, калі няма за плячыма чалавека.

Калі Алёша азірнуўся на Пагурак з бярэзніку, Жаваранка стаяў ужо ў яме па калені.

На пасецы было ціха; над акопамі і над дарогай ля ям вісеў туман. Адтуль ён цягнуўся сівой паласой на лог да вёскі. Цямнелася; пабялелі ля дарогі бярозы. Ля ракі

ў альшэўніку адзыўнуліся дразды — насцярожана, збіваючыся. У Венеры на загуменні нешта дагарала — хлапалі цьмяныя водбліскі. Ад Партызанскіх лагераў, здавалася, бліжэй пад'ехалі хмары: гусцей быў чуваць гром. Там недзе гудзелі самалёты.

За Гарбатым Мастом заліваліся нямецкія буйнакаліберныя кулямёты, як усё роўна заходзіліся сабакі; тады хлопалі рэдкія вінтовачныя стрэлы — што ты ў цемнаце вінтоўкай зробіш — і чуваць былі густыя аўтаматныя чэргі з нашых ППШ. Немцы ноччу не наступаюць; значыць — партызаны. Можа, нават на само Пячное...

Бой цягнуўся доўга. Аўтаматныя чэргі то заціхалі, то чуваць былі гусцей; рваліся рэдка гранаты ці, можа, міны з пяхотных мінамётаў, не разбярэш; толькі буйнакаліберныя кулямёты не сціхалі ні на мінуту. Было нават відаць, як з-за лесу паказалася чырвоная ракета — выткнулася на пядзю і адразу патухла. Пасля ў тым баку пачало яснець неба, памалу, як усё роўна ўзыходзіў месяц. Гарэла Пячное. Пачакаўшы, зарыва пашырэла, пачало мігаць і пераліваіца. Страляніна не аціхала, і здавалася, калі паказалася зарыва, што бой ідзе бліжэй, у Партызанскіх лагерах, і гарэла не Пячное, а лагеры.

Алёша хацеў адразу бегчы да Жаваранкі, але падумаў, што лагеры правей, а гэта якраз на Гарбаты Мост, што прайшло яшчэ мала часу і неяк надта ўжо ціха ў Венеры: маўчаў ля ямы нямецкі кулямёт, пагас на загуменні агонь — вёска як вымерла. Нібы там і не было немцаў, нібы яна аціхла, як аціхала летам кожны вечар, калі ў хатах павячэралі і ўсе, змораныя за дзень ля сена, валіліся спаць...

Пасля Алёша пачуў, як у вёсцы загудзелі машыны, ціхенька, што баючыся. Мігнулі прытушаныя фары.

Немцы, відаць, сачылі за боем у Пячным і былі напагатове.

Страляніна ў Пячным парадзела; пабольшала зарыва, пацягнулася вузкай белай паласой якраз туды, дзе ў лагеры ішла цераз балота пралажаная ад ездавой новая дарога...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дарога ў лагеры паварочвала направа ў ельнік пад самым Пячным — проці Рабога Калодзежа. Да лагераў ад Венеры было вярсты чатыры, кутузаўцы нават не сталі ў вёсцы, адразу ішлі ў лагеры: у абозе на пярэдніх пад-

водах былі раненыя. Спыніліся толькі ў канцы вёскі — адпусціць дамоў падводчыкаў, адзінаццаць чалавек. Узялі яго аднаго, Алёшу: напрывязвае коней павадкамі да саней, знойдуць дарогу дамоў, чорт іх не пабярэ.

У лагеры падводчыкаў не пускалі. Алёша пад'язджаў усягды толькі да першага паста на балоце. За гэты год, калі ля вёскі сталі кутузаўцы, Алёша пабыў разам з імі на баявой і на «хазяйсцвеннай» аперацыі і ў Крывічах, і ў Даўгынаве, і ў Буславе, ездзіў пад Вялейку і пад Краснае на «жалезку». Сёння кутузаўцы варочаліся з Княгінева — бралі гарнізон разам з другімі брыгадамі. Двое сутак Алёша з кутузаўцамі; і туды, і назад — на марозе.

Венеру праехалі пад вечар. Мароз пёк за шчокі і праціnaў да касцей. Усю дарогу ад Княгінева трэба было ісці за саньмі — грэцца. Ішлі партызаны, ішоў і ён з імі. Сёння пасля палудня, калі яны былі ля Караліна, рвануў сухі вецер і на полі задыміла мяцеліца, хаваючы ўсё з воч. Пад вечар пайшоў снег, сыпаў без аддухі, як з шуфля, і, калі яны выехалі за Венеру на пасеку да ям, не было відаць свету. Усё стала белае: і поле, і соснік, і далёкі лес; пабялелі ад інею коні; панабівала снегу ў разваліі і ў вазкі. Партызаны ў белых халатах ішлі ля пярэдніх падвод, пабраўшыся рукамі за драбінкі; пазгіналіся — вецер дзьмуў у вочы з усходу — і як усё роўна раставалі ў белым віхры: не было відаць.

Алёша ішоў за развалкамі самы апошні: адзін. У даваеннай цеснай сіняй вушанцы, у кажушку, у матчыных сівых валёнках без галош, у кароткіх, з вузкай пульсэткай рукавіцах — на правай распускаецца зверху нітка: парваў аб пугаўё, і відаць чырвоныя пальцы,— Алёша, збіваючыся з саннага тору, перастаўляў ногі са снегу ў снег, правальваючыся па калені, задыханы, халодны, спацелы. Мерзлі калені пад картовымі штанамі, гарэлі, як ад прыску.

Вецер на развалах збіў да сядзення пасцілку ў чырвоную клетку — маці дала з сабой накрыць ногі,— і былі відаць трафейныя нямецкія ручныя кулямёты. Іх узялі ў гарнізоне ў Княгіняве, і цяпер яны, доўгія, чорныя, з папрыліпалымі да стваалоў ножкамі, пакрытыя сівым інеем, ссунуліся набок у развалах разам з сенам — аж чатыры штукі, і ад таго глыбей рэзаў снег полаз, скрыпеў, як пад цяжкім возам. Набок ссунуліся і скрыначкі з «лентамі», якімі было застаўлена ўсё сядзенне. Каню —

маленькаму, кругленькаму Дэрашу — хапіла за дарогу як досыць. Хоць падпіхай цяпер...

Каб толькі пераехаць пасеку, каб толькі схавацца ў лес...

Ён лавіў валёнкамі палазкі і ехаў, адвярнуўшыся ад ветру.

Але стылі рукі, дубелі; пальцы рабіліся як костачкі; зліпаліся павечкі, здавалася, паляціш носам у снег — са сну.

Ён тады, саскочыўшы з палазкоў у снег, цёр рукавіцамі вочы, пасля хукаў у пальцы...

На пасецы вецер шалеў, сек у шчокі калючымі крупамі — шчокі парабіліся шурпатыя, што кара; упіраючыся ў грудзі, як усё роўна рукамі, валіў з ног...

Уехалі ў лес. Ля Гарбатага Маста было зацішна, на дарозе пад палазамі заскрыпеў цвёрды тор. Наперадзе пагналі коней, зморанья, яны беглі ціха; беглі за санямі трушком і партызаны ў белых халатах, падобныя адзін на аднаго. Алёша пазнаў у грумадзе толькі Ушакова і Міханькова-Дуню... Абодва невысокія, у кажухах пад халатамі і здалёку круглыя, як скачаныя са снегу бабы. Кратаюць толькі, бегучы, рукамі і нагамі.

Пад Пячным павярнулі направа — у густы ельнік, які глуха шумеў над галавой ад ветру, цярушачы з лапак дробны белы пыл. Па ямістай дарозе — то ўніз, то на гару, кулямёты на санях то ўзад, то ўперад — выехалі на балота, чыстае і роўнае пад снегам сярод лесу. На ім густа стаялі невялікія стагі сена. На балоце падводы выраўняліся ў шнурок, і было відаць, як на трох пярэдніх ляжалі раненыя, накрытыя кажухамі. За балотам пайшоў стары альшэўнік і елка. Запахла свежым дымам ад сухіх сасновых дроў, ад яго аж закруцілася галава...

Пад'язджалі да Партызанскіх лагераў.

У ельніку іх сустрэлі аж двое партызан, у чорных доўгіх кажухах, без халатаў, з аўтаматамі на грудзях: пост. Пярэдніх прапусцілі адразу, сышоўшы з дарогі; Алёшу загадалі астацца: коней з лагера прыгоняць...

— Стучи, парень, ногами... Не стой...

Алёшу ні разу не пусцілі ў лагер. І цяпер — сказалі «стучи ногами», і ўсё. Яшчэ ён пачуў, як яны сказалі адзін аднаму: «Жарко было...» — і пайшлі хадзіць дарогай — пад лагер і назад.

У лагеры ўзмацнілі пост — аж двое аўтаматчыкаў. У такую мяцеліцу, калі яна ашалее на некалькі сутак за-

пар і не відаць свету, трэба глядзець... Але ў такое безгалоўе ніхто да лагера не падыходзіў, не было чуваць; толькі тыдзень назад у мяцеліцу збег чалавек. Расказвалі, што той прыйшоў у лагер з-за Віліі, з Даўгынава — уцёк з паліцыі. Прыйшоў летась увосень. Яго прынялі, але, мусіць, не давяралі, бо ў лагеры ён толькі вазіў бочкай ваду на кухню... Як збег — ніхто не ведаў. Відаць, ноччу. Агледзеліся пасля ўжо і пайшлі па следзе. Чалавек збег босы. Чаму босы — ніхто не мог сказаць. Бег праз Пагурак, абышоў Венеру і павярнуў пад Жары — ішоў напрамую на Даўгынава.

За Венерай, пад Жарамі след на снезе закрывавіў, былі знаць жоўтыя плямы — пасля адлігі паціснуў мароз, схапіўшы снег шэранню. Відаць, далей чалавек не мог бегчы босы і павярнуў у Жары — шукаў ратунку. Яго і дагналі ў Жарах; везлі назад раніцай праз Венеру — сядзеў на санях і ногі ў яго былі акручаны белымі анучамі...

Коні з лагераў ішлі адзін за адным, усе адзінаццаць. Лёгка цюкалі падковамі, згіналі і падымалі галовы — даставалі з саней сена — і форскалі, дыхаючы на марозе белай парай, як дымам з печы. Іржалі — хацелі піць і рваліся дамоў.

На Алёшавым Дэрашы пад'ехаў да паста Ушакоў. Саскочыў з развалак, кінуўшы на пасцілку пугу; лейцы аддаў у рукі:

— В сани, парень, и шпарь... И шел бы ты лучше к нам, в партизаны... Столько мерз вместе...

Ужо калі Алёша сядзеў у развалках, Ушакоў крыкнуў наўздагонку:

— Не усни только... Смотри... Уснешь — и партизаны тебе не нужны будут...

Дома Алёша двое сутак ляжаў на печы — на лучыне і на лахманах; двое сутак яму было холадна і яго трасло. Плакала маці, ціха, выцірала толькі слёзы, ходзячы па хаце.

— Пяць гадоў без бацькі... І сябе, калі пойдзеш у лагер, жывога пахаваеш. Сам ведаеш, куды ідзеш...

— Адной ад немцаў лягчэй хавацца будзе...— адсмейваўся ён з печы.

Прыйшла Альдзя — у матчыным кажушку, у пяньковай хустцы. Пасядзела, не раздзяваючыся,— відаць, маці наказала, каб прыйшла. Гаварылі ўвесь вечар усе трое:

маці, Альдзя і ён. Пра што хочаш, толькі не пра тое, што ён ідзе ў партызаны.

На трэція суткі перастала плакаць маці; аціхла мяцеліца, занёсшы вуліцу ўпоравень з платамі; на трэція суткі, раніцай, ён пайшоў у лагер. Зноў прыбегла Альдзя, у кажушку, у пяньковай хустцы. Стаялі яны ўдзвюх — Альдзя і Алёшава маці — на вуліцы ля варот і глядзелі яму ўслед, аж пакуль ён не схаваўся ў сосніку ля ям. Ён ішоў па цаліку, правальваючыся па калені ў снег, у тым самым кажусе, у сіняй вушанцы і матчыных валёнках без галош. Ветру не было, дзе ўзышло сонца, гарэла агнём неба. Мароз браў за шчокі і за калені — праз двое картовых штаноў.

З паста яго адразу адвялі ў зямлянку да Ушакова. Ушакоў прывёў да камісара брыгады Рудава. Той слухаў, як дакладваў Ушакоў, і глядзеў на яго, Алёшу, нейкімі вясёлымі і жаўтаватымі вачыма, як усё роўна хітрыў:

— Если бы ты пришел к нам, когда поют соловьи,— не взяли бы. А раз в такой мороз, когда мои хлопцы носы отмораживают, не побоялся, то возьмем. Возьмем...— і ён, падышоўшы, паклаў руку на галаву, як усё роўна пагладзіў.

Калі яны выйшлі з зямлянкі ад Рудава, над лесам, над старымі голымі вольхамі, вісела нізкае сонца, і ад яго неба над лагерам было белае...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Алёша стаяў і глядзеў на зарыва. Яно пашырэла, пабяліўшы край неба аж да Гарбатага Маста. Гарэла, мусіць, усё Пячное.

Зноў там пачулася густая аўтаматная страляніна.

З Венеры, чуваць было, ішлі машыны. У цемнаце ля ям заблішчалі прытушаныя фары. Машыны ішлі на Пячное, сюды, на Гарбаты Мост. Дзве. Але, пад'ехаўшы да лесу, сталі. Натужна гудзелі — з'язджалі з дарогі, развалочваючыся. На жытнім клінку пад лесам заміргалі цьмяныя агеньчыкі, як ад папяросы: свяцілі з ліхтарыкаў. Немцы падбіралі забітых...

Прыбегшы на Пагурак, Алёша ўбачыў здалёк пад асінамі кучу белага пяску.

— Яхрэм...— паклікаў ён і стаў, каб аддыхацца.

Жаваранка не адзыўнуўся, і Алёша падбег да самай ямы: белы пясок ляжаў па абодва бакі вострымі кучамі,

і з-за яго Жаваранкі не было відаць. Ён хаваўся ў яме з галавой — краталася толькі зверху кепка — і ўсё кідаў рыдлёвачкай наверх белы пясок, на адзін бок і на другі. Жарсцвяк шапацеў і сыпаўся назад у яму — Жаваранку на плечы.

— Яхрэм... Немцы...— Алёшу як спёрла што ў горле. Закашляўся.

Жаваранка павярнуў у яме хуценька галаву, стаў і стаяў, дзержачы ў руках рыдлёвачку, як аўтамат.

— Дзе? — спытаўся ціха.

— На дарозе... Бітых збіраюць... На машынах.

— Гэтыя сюды не пойдуць. Гавары цішэй...

— Пячное гарыць. Бой... Страляніна не сціхае, чуваць і цяпер...

— Дробная страляніна ў яме не чуваць — шоргаеш рыдлёвачкай. У яме, знаеш, хлапец, што чуваць? Кананада... Аж зямля дрыжыць. Я, яшчэ ў акопе лежачы, чуў. Фронт пад Віцебскам... А што на пасецы? На акопах? — Жаваранка пытаўся з ямы, дзержачы рыдлёвачку ў руках. Не капаў больш, выціраўся толькі рукавом...

— Ціха...

— Дарога гэта ім трэба: напрамую да Дзвінасы. Мы ім былі як скула ў баку... Асноўныя часці пойдуць тут — Гарбатым Мастом...— Жаваранка пастаяў, тады параўняў у яме пад нагамі рыдлёвачкай пясок.— Два метры будзе, хлапец? Думаю, набярэцца, я ж не малы, а ў яме схаваўся. Чалавеку, хлапец, трэба два метры капаць. Спакон веку ў нашай вёсцы тры аршыны рылі. Раз чалавек — два метры. Каб спакойна ляжаў, зрабіўшы сваё. Хаця не кожны чалавек, пажыўшы на зямлі, заслужыў два метры. Немцы, кажаш, сваіх падбіраюць? І яны думаюць хаваць, і яны думаюць рыць два метры... На, хлапец, рыдлёвачку і падай руку...

Жаваранка лёгка вылез з ямы. Падскочыў, апёрся на локаць, растапырыў ногі і папоўз наверх, як усё роўна і не быў кантужаны. Узяў адразу рыдлёвачку і адсунуў ад берагоў пясок, каб не асыпаўся ў яму. Пастаяў, пасля паглядзеў на Ушакова і сказаў:

— Налámі лапак. Яловых... Падсцелем... Дома ўсягды яловыя лапкі ў хату няслі. І дамаўё на яловыя лапкі на сані ці на калёсы ставілі. Далёка не адыходзься...— голас у Жаваранкі пацішэў, дрыжаў. Жаваранка як усё роўна баяўся многа гаварыць.

Яловыя лапкі калолі праз рубашку ў грудзі, калі Алёша нёс іх да ямы перад сабой.

— Давай, брат, удвух...— Жаваранка кіўнуў галавой, паказваючы на Ушакова.

Ушакова падняслі на кажусе і паклалі на беразе ямы на белы пясок.

— Нагніся і накідай лапак. На ўсё дно...

З ямы дыхнула сырой зямлёй — так пахне зямля на полі ў халодную познюю восень перад марозам... Зазвінелі ля вуха камары. Лапкі чапляліся за рукаво, пасля цяжка падалі на дно.

— Апусцім у кажусе, хлапец... Не будзем жа мы яго проста так...

Узяўшы кажух за крылле, яны паднялі з зямлі Ушакова, абступілі яму з двух бакоў і памалу апускалі яго, апускаючыся самі на калені. Пасля нагнуліся над ямай і спусцілі на руках. Ушакоў, адкінуўшы галаву, павіс на кажусе, тады, адарваны ад рук, здрыгануўся і ўпаў на дно — на яловыя лапкі. Зверху на яго пасыпаўся пясок. Жаваранка, падняўшыся ля ямы з калень, адышоўся, дастаў з пінжака з кішэні пілотку — зблізку ў цемнаце бліснула на ёй вішнёвая зорка.

— Спусціся ў яму... Накрыеш вочы... З таго боку саскоч... Якраз свабодна станеш...

Ужо калі Алёша быў у яме, Жаваранка сказаў, як на вуха:

— Рукі папраў. І кажух зверху папраў...

З ямы Алёша вылез, як здранцвелы. Стаў побач з Жаваранкам і стаяў. Пад горла падступіла гарачыня.

Жаваранка перамяніўся з нагі на нагу ля ямы і паволі зняў з галавы кепку. І яму капаў, і апускаў Ушакова ў кепцы, не знімаў, а цяпер зняў — стаяў, як усё адно ля Жараў на могілках...

Алёша павёў рукой па галаве, па валасах — за шыю пасыпаўся пясок. Не помніў, дзе згубіў сваю кепку. Калі займалі абарону ля Караліна, яна яшчэ была на галаве. Ляжаў у акопе, закрываючыся брыльком ад сонца: абарону занялі пад вечар, і сонца, спусціўшыся, біла якраз у вочы.

Жаваранка, надзеўшы кепку, узяў з-пад ног рыдлёвачку і пачаў закопваць яму, асцярожна — сыпаў на чалавека. Нават пясок з кучы сіляў асцярожна. Пасля ўжо стаў махаць рыдлёвачкай скарэй — гэта калі зямля сыпалася на зямлю, а не на грудзі Ушакову. Каб, здаецца, ён

аддаў рыдлёвачку яму, Алёшу... Капаючы, было б лягчэй... Алёша пачуў, як у яго дрыжаць рукі... Гарачыня сціснула грудзі, і ён не стрываў — адскочыў ад ямы... Жаваранка як не чуў: сіляў пясок з адной кучы, з другой...

На Пагурку відаць была цяпер белая паласа ад пяску.

— Вот і ўсё... Уся мудрасць на зямлі...— сказаў пасля Жаваранка.— Дзіцячыя яшчэ ў цябе плечы, хлапец... Вот і дрыжаць... Збірайся. Глядзі сумку Ушакова. Там гранаты.

Алёша тады падняў з травы аўтамат — накінуў, як усягды, на правае плячо ствалом уніз: лягчэй схапіць,— узяў пад асінай нямецкую сумку — яна была цяжкая, цягнула руку ўніз — і падбег да Жаваранкі. Яму раптам здалося, што яны з Жаваранкам цяпер адны, зусім адны. Калі быў з імі Ушакоў, нават калі забіты ляжаў на кажусе, такога не здавалася, а пахавалі — усё роўна як адны на белым свеце, нібыта і няма брыгады, нібыта яна і не адступіла да Дзвінасы і не вядзе бой за Пячное...

— Цяпер і я чую, хлапец... Там, брат, кіпіць...— паказаў Жаваранка рукой на Гарбаты Мост.— Адыходзім... За ноч выйдзем да сваіх...

Ён цераз галаву закінуў аўтамат за плечы, нібы ён яму не мог спатрэбіцца; падняў з зямлі ручны кулямёт, пстрыкнуў ножкамі — зачапіліся за рамень — і паклаў яго на правае плячо, узяўшыся рукою за прыклад.

— Рванём дарогай. На Гарбаты Мост. Ноччу дарога наша... Пячное абыдзем злева, ля Рабога Калодзежа. І запомні: калі што — прабівайся адзін. Даложыш усё... Запасны дыск — у сумку... Рыдлёвачку дай мне пад дзягу. Наперадзе многа яшчэ трэба будзе капаць зямлі, вайна не кончылася...

Жаваранка стаяў з кулямётам на плячы, на белай пясчанай паласе, і глядзеў на Пячное — на зарыва.

Хмары сплылі з Партызанскіх лагераў — пайшлі краем неба на Жары: там цяпер свяцілі бліскавіцы, нізка, над самай зямлёй. Ад ракі востра пахла балотнай рабінкай. Пачынаў пырскаць дождж — рэдкімі капкамі — на твар і на жоўтую пясчаную паласу.

— Дастань з сумкі «эфкі»...— сказаў Жаваранка, калі яны сышлі з Пагурка.

# 5

На дарогу яны ішлі даваеннай лініяй-расцяробам, якая аддзяляла пасеку ад Гарбатага Маста і вяла, рэжучы лес на кварталы, за Рабы Калодзеж, да Віліі. На лініі ляжаў ціхі туман, падбельваючы яе, як інеем. Убітая капытамі зямля, здавалася, яшчэ пахла скацінай і сырадоем, і Жаваранка на якую мінуту падумаў, што яны гоняць лініяй з поля кароў: запазніліся пусціцца з балота за Пагуркам, не было відаць сонца. Ціха вечарам; каровы ідуць адна за адной лініяй; не звярні іх на дарогу ў вёску — пойдуць у тумане на край свету...

Мігнулася Кланя з дзецьмі: сядзяць дома на вуліцы, на лаўцы, расчыніўшы вароты — чакаюць яго з поля.

Лінія за вайну парасла бярэзнікам — у пахі чалавеку, і Жаваранка, ідучы наперадзе, расхінаў і расхінаў рукой кусты... На душы пасля Пагурка зрабілася раптам горка; здавалася, ціснe на плячо не ручны кулямёт, а ўсе беды, якія зваліліся на яго за гэтыя дні. Адышоўшыся ад Пагурка, дзе пахавалі Ушакова, ён як усё роўна апрытомнеў; нібы нехта ўзяў і паказаў за адзін міг, як на далані, што было на пасецы.

Галава павяла ўбок... Ногі ступалі, як усё роўна ў мох... Ён падумаў, што яшчэ не адышоў ад кантузіі, што на Пагурку ўсё рабіў з гарачкі, і чапляўся рукой за галлё, каб устояць на нагах. Чуў, як гарыць агнём даланя... Рэзала бок рыдлёвачка пад дзягай...

Пастаяўшы, Жаваранка пераклаў кулямёт з аднаго пляча на другое і зноў пайшоў лініяй да дарогі, цяжка ступаючы ботамі па ўбітай зямлі. Лягчэй стала дыхаць, адышла правая рука. І сам ён патроху пачынаў як усё роўна адыходзіць: чуў, што баляць ногі і плячо пад кулямётам, што робіцца холадна — астыла за плячыма мокрая ад поту кашуля.

Выходзілі на пасеку да дарогі, у малады, да пояса, соснік. На лініі рос высокі верас, у калена — скроб сухім галлём па халявах. У лагчынах, дзе знаць быў тор ад калёс, адскочыла высокая лясная дзяцельніца, цвіла — ад яе дарога пад нагамі, здавалася, пасыпана снегам.

З сосніку яны зноў убачылі зарыва над Пячным. Спыніліся, стаялі адзін ля аднаго, плячо ў плячо, і глядзелі.

— Не чуваць, хлапец, нямецкіх кулямётаў... Можа, я аглох?.. Толькі нашы аўтаматы...— ціха загаварыў Жаваранка.

Далёка, за Партызанскімі лагерамі, траштчалі рэдкія аўтаматныя чэргі.

— Наш аўтамат я пазнаю. Гэта ў мяне тонка...— Жаваранка памаўчаў, тады сказаў мацней: — Немцаў выбілі з Пячнога...

Алёша нічога не адказаў. Стаяў і слухаў: недзе блізка, у бок ям, раптам загудзела машына.

Жаваранка адразу зняў з пляча ручны кулямёт, адлажыў ножкі і паставіў яго на зямлю ў верас. Пасля сцягнуў цераз галаву аўтамат, павесіў на шыю; сагнуўшыся, падцягнуў за халявай два ражкі.

— Дзе, хлапец, твае? — спытаўся.

— У чахле на дзязе. Пад пінжаком.

— Поўныя?

— Абодва.

— А дыск?

— Пачаты. Гурбанаў поўны.

— І ў мяне пачаты... І два ражкі. Усё пайшло з сумкі. І сумка не ведаю дзе. Мусіць, зняў з пляча і яе засыпала разам са мной. А ў Ушакова адны гранаты?

— І тол. Шашка. З запалам... У паперу закручаны...

— Запал падай мне. Палажу ў кішэньку, у пінжак. Не густа ў нас, хлапец, гароху... Папражылі за дзень, маць яго так... Ты відзіш? Агні на адным месцы, у клінку...

Жаваранка перамяніўся з нагі на нагу і зноў глянуў на ручны кулямёт. Кулямёт прыгнуў дыскам высокі верас, і галінкі, выпростваючыся, скраблі па жалезе. Стаяў высака на ножках, нацэлены якраз на дарогу, чорны ў цемнаце, што жук. Здавалася, адзін сабраўся ваяваць, суровы і зацяты, як чалавек.

— Повен дыск, хлапец... Ты што, жартуеш?..— сказаў Жаваранка, нібыта гэта ён, Алёша, хацеў пакінуць кулямёт на лініі.— Паглядзі да ям. Нешта я не магу змікіціць, што там робяць машыны...— Жаваранка пакруціў галавой і паскроб ногцямі зверху па аўтамаце — па жалезе.

Ля ям на дарозе машына свяціла агнём ад фар у жытні клінок. У агні мітусіліся людзі, як матылі круга лямпы.

— Падбіраюць сваіх... Аж дагэтуль. Далі мы ім, хлапец, работы...

Машыны загудзелі мацней; ціха ішлі сюды, на пасеку, прытушыўшы фары.

Жаваранка тузануў Алёшу за плячо; цяпер яны глядзелі толькі на машыны, якія паўзлі ад ям.

— Тры... І блізка, хлапец, адна ля адной...

— Чатыры...

У Пячным зноў захлебясталі кулямёты і ўзнялася густая аўтаматная страляніна. Па лесе ішлі водгаласкі, і здавалася, што страляюць зусім блізка, ззаду. Яшчэ больш сцямнела, на зямлю лягла ноч; зарыва над Пячным пагусцела, акрывавілася.

— Цяпер ясна, што робіцца круга нас. На помач ідуць...— Жаваранка адным махам падняў кулямёт і паставіў на ножкі перад сабой. Апусціўся на калені, паклаў збоку аўтамат.— Далекавата... Ноч...

Алёша лёг побач на халодны сівец. Ціхенька адвёў назад затвор аўтамата. Глядзеў, як Жаваранка прымошчваецца ля кулямёта: рассоўвае ногі, нібы яму цесна на пасецы, нібы, не рассунуўшы іх, ён не зможа страляць.

Машыны спусціліся ад ям у лагчыну, выраўняліся і міналі ўжо жытні клінок, дзе ўсё яшчэ ў агні ад фар мітусіліся людзі.

Над Венерай асвяцілі неба бліскавіцы.

— Дождж у вёсцы... Ты відзіў, куды хмару занясло...— Жаваранка, здавалася, і не чакаў машын. Пасля сказаў: — Ранавата мы з табой былі, хлапец, адсюль сабраліся. Паваюем яшчэ на сваіх гародах... Ад бліскавіц толькі ў вачах цёмна. Як сляпы робішся... Ты, хлапец, нос не высоўвай наперад. Глядзі, што я... Старайся па кузавах...

Перад вачыма зрабіўся белы ад агню соснік — па ім разанулі вострыя промні ад фар, стаўшы на адным месцы, як падпальвалі ўсё роўна.

Жаваранка, апусціўшы руку пад кулямёт, прыціснуўся да шырокага прыклада і ніяк не мог лучыць пальцамі ў дужку. Злавіўшы на канцы ствала фары пярэдняй машыны, падумаў, што ўсе машыны добра відаць у цемнаце: падсвечваюць адна адну, што да першай ужо блізка, метраў сто...

Пярэдняя машына ўпёрлася ў соснік.

— Па другой, хлапец, па кузаве...

Ад стрэлу адразу заклала вушы; Жаваранка бачыў толькі, як рванула і дрыжыць у цемнаце перад вачыма доўгае полымя, асвяціўшы на пасецы пні і белы сівец; як на дарогу пад машыну пабеглі чырвоныя палосы — у дыску былі трасіркі; як раптам пыхнула і стала гарэць спераду машына. Ехала яшчэ і гарэла. Полымя лізнула кабіну; загарэўся над кузавам брызент, як у хаце страха ў пажар.

На дарозе зрабілася відна, як удзень, і Жаваранка ўбачыў: ззаду з кузава пасыпаліся на зямлю немцы ў касках — каскі блішчалі ад агню; пасыпаліся кучай, што пацукі ноччу ў варыўні, у загарадцы з бульбы, калі запаліш сярнічку. Ён тады пацісиуў чуць-чуць плячом управа, на прыклад, павярнуў ствол лявей, і чырвоныя шнуркі пабеглі па кузаве.

Машына стаяла і гарэла, як свечка; ён злавіў ствалом другую: тая звярнула з дарогі пад жытні клінок, заварочвалася на поўным ходзе па загонах, каб выскачыць да ям. Астатнія патушылі фары, і ён іх не бачыў. Заціяўшы дыханне, ён ціснуў на курок; здавалася, загарэлася б другая машына — перавёў бы дых, а то аж у галаве закруцілася. Але машына не загаралася, і ён згубіў яе з вачэй; не бачыў перад сабой і чырвонай вострай паласы. Пачуў, як збоку кораценька трашчыць Алёшаў аўтамат, і здагадаўся, што ў дыску кончыліся патроны. Ён тузануў у гарачцы затвор да сябе і націснуў на курок. Затвор пуста бразнуў, як клямка дома ў хаце аб слясак.

З-за дарогі, з жытняга клінка, сюды, на пасеку, білі з аўтаматаў немцы — там былі відаць кароткія і вострыя, што кінжал, агні. Над галавой у цемнаце свісталі кулі.

Іх засеклі па агні з кулямёта.

— Хлапец, маць тваю так! — закрычаў Жаваранка.— Сабак дражніш... Патроны беражы...

На дарозе гарэла машына: брызент зверху што карова языком злізала, і цяпер у агні былі відаць чорныя скабы, нібыта на хаце згарэла саламяная страха, выставіўшы латы. Ад агню на пасецы дрыжалі, падскакваючы, пні і кусты пад'ялеўцу, і ўся пасека, здавалася, хілілася набок... Жаваранка яшчэ раз крыкнуў:

— На Гарбаты Мост, хлапец!.. Пакуль яны нас не накрылі.

Схапіўшы з зямлі аўтамат, ён падняўся на ногі; нахіліўся над кулямётам і стаў даставаць затвор. Дастаўшы, так і пайшоў з подбегам лініяй: у адной руцэ затвор, у другой аўтамат.

Пачуўшы блізка на дарозе стрэлы, спопаразку стаў і азірнуўся. У машыне рваліся патроны, хлопалі, што разрыўныя кулі; з агню сыпаліся іскры.

На акопах рванула міна, калыхнуўшы цемнату крывавым водбліскам: немцы білі з Венеры па пасецы, як і ўдзень.

— Цяпер тут нам, хлапец, рабіць нечага... На пасеку да дня яны не сунуцца. Усю ноч дарога наша. Адваявалі. За ноч трэба дагнаць сваіх. Кроў з носа, а дагнаць...— Жаваранка размахнуўся і кінуў з лініі ў гушчар затвор ад ручнога кулямёта: — Саслужыў службу Ушакоў і пасля смерці...

Па ўсёй пасецы аж пад самы Пагурак рваліся міны; ад водбліскаў у тым баку было відаць неба: цяжкое, бурае, яно нізка вісела над Венерай.

З галля капала на рукі раса; тут, ля Гарбатага Маста, прайшоў дождж.

Азваўся раптам салавей, блізка за плячыма на лініі, і змоўк. Пачакаўшы, зацёхкаў густа, усё роўна як вада палілася дзе блізка крыніцай. Пасля замёр, і яго ўжо не было чуваць.

Яны спыніліся і слухалі: якраз трэба было выходзіць на дарогу. Усюды зрабілася ціха: не рваліся ззаду на пасецы міны, не сакаталі кулямёты — ні ў Пячным, ні ў Венеры.

Жаваранку здалося на мінуту, што на зямлі ўсюды цішыня, як да вайны... У галаве мільганула нешта далёкае, яшчэ дзіцячае: надвячорак і туман на пасецы ля Пагурка пасля дажджу...

На дарогу яны выйшлі асцярожна, дзержачы аўтаматы ў руках: наперадзе ён, Жаваранка, ззаду, збоку,— каб адразу не секанулі па абодвух — Алёша.

Дарога, белая ад пяску, была відаць далёка ўперадзе. Пасвятлела. Угары раз'ехаліся хмары, над Пагуркам азначылася доўгай паласой сіняе неба; на ім міргалі дробненькія зоркі, жменькай. Над Партызанскімі лагерамі, дзе патухла зарыва, зноў зачырванелася неба, там узыходзіў месяц — сцёртая зверху поўня: паказалася з-за лесу, з-за вострых елак. На яе забыліся: пасля ўчарашняй месячнай начы за Жарамі ў акопах прайшоў, здавалася, век.

Уперадзе над дарогай вісеў туман. Пасля дажджу густа пахла сырым лясным жвірам. Круцілася галава; хацелася спаць: балелі вочы і падгіналіся ў каленях ногі.

Яны пайшлі цвёрдай сцежачкай каля самага сосніку, мочачы боты ў сіўцы: на дарозе былі відаць здалёку. Зноў павяло на сон. Забалела ў крыжы, востра совала, як нажом; пякло зверху скуру, як прыскам.

«Ад міны асталося... Не адмахне-ешся... На Пагурку,

калі капаў яму, не чуў...» — падумаў Жаваранка і сказаў:

— Ну што, хлапец? Выцягнем воз? Помніш, як цягалі іх тут, ля маста? Са снапамі...

Алёша маўчаў.

Пад нагамі на сцежачцы шуршаў дробны лясны жвір. Запахла балотам — прэлым лісцем і яловай карой: уваходзілі ў ельнік ля Гарбатага Маста. Ельнік — елкі ў камлі ў два абхваты,— пачынаючыся за лініяй, цягнуўся па левы бок дарогі аж пад Рабы Калодзеж; па другі — ішоў да самага Пячнога, хаваючы Партызанскія лагеры, і далей да ракі Дзвінасы. За Дзвінасой падымаўся на гару, мяшаўся з соснамі і, то апускаючыся ў нізіны, то зноў узбіраючыся на пагор'і, ішоў пад Бегамля, на Палік.

Гарбаты Мост быў у самым нізкім месцы. Тут некалі цякла рака з балота пад Пагуркам у Вілію. Пасля згубілася ў балоце, ажывала толькі вясной у разводдзе, калі, сцёкшы з пагоркаў, вада збіралася ў нізкіх месцах ля Гарбатага Маста. На згон зімы, як пачыналася разводдзе, на Гарбаты Мост, бывала, не ездзілі па цэлым тыдні.

Летам, нават сухім, ля маста было гразка; ля яго выбіваліся калясьмі між яловага карэння глыбокія калдобіны — восі ў калёсах клаліся на зямлю. Да маста вазілі па нараду кожнае лета жвір; леспрамгасаўскія шафёры гацілі метровыя плашкі — усё лезла як у прорву.

Мост паклалі высака, каб, хлынуўшы пад яго, не магла падняць і знясці вясной вада, і горб яго ўсягды быў сухі і чысты; высланы сасновымі новымі дылямі з-пад леспрамгасаўскага гатара, ён жаўцеў, як падлога; на ім, калі летам вазілі снапы з поля ад Рабога Калодзежа, заўсёды ляжала зерне, намалаціўшыся з вазоў, і яго абсыпалі вераб'і.

Зайшлі ў туман; уперадзе стала сіва, і не было відаць маста. Стала холадна ў плечы, дзе была, намокшы, кашуля, і Жаваранка падумаў, што заснуць і паляцець з ног не дасць холад... Ішоў, правальваючыся ў калдобіны, то заплюшчваючы, то адплюшчваючы вочы.

Сышлі са сцежкі і ішлі пасярод дарогі; Алёша мінуў Жаваранку, і наперадзе ў сівым тумане цямнела, калышучыся, яго галава. Жаваранка падымаў ногі, каб не зачапіцца за яловае карэнне; правальваўся ў калдобіны, глыбака, аж калола ў галаву; грукаў цяжкімі ботамі па ўбітай сцежцы і па драўляным насціле на масце... Галава вяла ў бакі; перад вачыма зыбаўся і чорны лес, і белы

туман, перамешаны з цемнатой,— Жаваранка спаў ідучы...

I калі ззаду ля Венеры захлебястаў нямецкі кулямёт, яму здалося, што ляскочуць калёсы па калдобінах, тут, ля Гарбатага Маста: і ззаду, і наперадзе...

...Яны, мужчыны, чуць не ўсім калгасам — дваццаць падвод — едуць з Венеры на поле пад Рабы Калодзеж — поле пад Рабым Калодзежам, гектараў з пяцьдзесят, было венерскае — звозіць снапы: ячмень. Ячмень удаўся; рос у сёлетнія дажджы высокі, цёмны; яго пажалі, саставілі ў мэндлікі яшчэ тыдзень назад. Усе гэтыя дні пякло позняе жнівеньскае сонца, на небе не было ні хмаркі; ячмень дайшоў у снапах, хрумшчыць на зубе, і яго трэба схапіць з поля адным махам: з учарашняга вечара схмурэла, з раніцы на ўсходзе пацягнуліся сівыя палосы, збліскала калючае сонца, падзьмуў, круцячы, вецер — чакай, нарве дажджу...

Ячмень не схопіш ні за раз, ні за два. У вёсцы яшчэ звечара вывесілі нарад — усім звозіць снапы,— і старшыня, Папок, сам пайшоў па хатах. Людзі ўсталі сёння досвіцай і лавілі коней на выганчыку ў тумане, дзе яшчэ ярка гарэў агонь і спалі начлежнікі. Старшыня першы прыйшоў на ферму да кладовай, дзе выдавалі збрую, першы сеў на падводу і цяпер едзе на поле ўперадзе з Алёшам Беланоўчыкам...

Калёсы ляскочуць па ўсім лесе; падводы расцягнуліся на вярсту — выязджалі не ўсе разам, паднялі пыл вышэй сосніку і цяпер ён асядае на зямлю ля Гарбатага Маста, аж знаць на траве. На падсохлую гразь сыплецца з колаў сівы пясок і ляжыць зверху тонкімі шнурочкамі.

Трасе на калдобах, у парожніх калёсах падкідае на дошках, аж баляць бакі. Грукае збоку выслізганы жоўты яловы парубень, падскаквае да ляжэек, б'е па пальцах, калі ловіш адной рукой — у другой лейцы і пуга — скручаную ў вузел вяроўку, каб падкінуць пад ніз і прымасціцца мякчэй.

На калёсах адны мужчыны. За Алёшам і за старшынёй трасецца Андрэй Багун са сваімі сынамі: старэйшым Валодзем, сярэднімі Іванам і Савэркам і самым меншым Аркадзем — пяць падвод з адной хаты. Аркадзя зусім малы, чуць відаць з калёс з-за ляжэек яго стрыжаная чорная галава. Узялі, не пабаяліся; воз складуць, уціснуць і пярэймуць на калдобах ля маста. Пасля відаць Антось Ляшковіч, стары, у чорнай кепцы, у палатнянай белай ка-

шулі, курыць і кашляе; стары Марка — сядзіць, згорбіўшыся, у калёсах, у сівым унакідку пінжаку, тузае без аддухі за лейцы; за ім — яго сын Платон і Палюшыны зяці — Міравовіч і Перапёлка, мужчыны адных гадоў, не падобныя адзін на аднаго. Не ўтрывалі, пасаскаквалі з вазоў і ідуць, вялікі і малы, збоку сцежкай, махаючы на коней пугамі. За Палюшынымі зяцямі — Мацяёнак-Пулямёт, прыйшоў з вайны ў дваццатым годзе і астаўся пасля таго Пулямётам, стары Язэп, невысокі, вёрткі — у яго самы большы ў вёсцы сад і вуллі з пчоламі — прадае мёд; за Язэпам — брыгадзір Аляксандра Лязёнак, белабрысы, у сярэдніх гадах, у чорнай скуранай паношанай куртцы — бегае ўсягды ў ёй па вёсцы і па полі з меркай-сажнем на плячы; за яго калёсамі, блізка, упіраючыся ў парубень, бяжыць Жаваранкаў конь... Ззаду за сабой Жаваранка нікога не бачыць: пыл. Крычаць толькі дзеці, паганяючы коней — не пазнаеш здалёку чые...

Пасля калёсы ляскочуць на загонах па цвёрдай, прыбітай за лета дажджамі зямлі і дробным, абчэрсцвелым белым каменні — па ім, цокаючы падковамі, конь высякае іскры; ззаду за калясьмі цягнецца на вяроўцы закінуты на пятлю парубень, шапоча, рвучы ячнае кароткае ржышча і прырудзелы ад вільгаці пырнік...

Падводы заехалі ад маяка, які стаіць у канцы поля ля дарогі, перад Пячным. На кожны загон — падвода. Класці вазы памагаюць адзін аднаму: брыгадзір не даў укладчыкаў.

Жаваранка стаіць на снапах на возе, і яму відаць усё поле, чыстае, зжатае; на гэты бок бярэзніку, дзе быў ячмень — у густых мэндліках. Над ціхім полем — млявае, у дробных воблаках неба; сеецца, дрыжучы, над бярэзнікам празрыстая смуга. За ім пад лесам відаць падласая скаціна — кучай... Над маяком высака кружаць бацяны, раскінуўшы крылле і аддыхаючы ў бязмежнай шырыні...

Алёша кідае і кідае на воз снапы. Яны высахлі і шасцяць асцём, асця повен рот, дробнага, пакрышанага; насыпалася за каўнер, прыліпшы да спіны.

Воз высокі і вузкі, калышацца пад нагамі, калі падыходзіш пад перад, каб зачапіць, падняўшы ўгару на руках, парубень за пападоўку,— гэта не жыта, што расцягнуў на ўсе снапы воз і стой, як на стозе.

Воз уціскаюць удвух з Алёшам, топчучы ззаду нагамі ржышча і стары, падчарнелы гугель: ён, Жаваранка, аперазаўшы вяроўку круга паясніцы, Алёша — учапіўшы-

ся за яе ля парубня, тузаючы і колючы да крыві аб камлі ў снапах рукі...

Ляскае аб утулкі жалезная вось у перадку — падымаецца з парубнём...

Падводы на ўсім полі, аж да бярэзніку. Храпуць коні, махаючы галовамі ад сляпнёў, крычаць адзін на аднаго мужчыны — чуваць голас старшыні, Папка; смяюцца на ўсё поле — нехта ссунуўся са снапамі, не ўціснуўшы яшчэ і воза. Ля маяка пад Пячным завялі трактар; схавалася за бярэзнікам з вачэй падласая скаціна; вышэй падняліся ўгары бацяны — пад самыя воблакі, і іх трэба доўга лавіць вачыма, прыплюшчыўшыся.

Пярэднія падводы, уціснуўшыся, выязджалі на дарогу да лесу. Жаваранка, мінаючы на загоне мэндлікі, пусціў каня ззаду за Алёшавай падводай...

Зноў пахне ля Гарбатага Маста разбалабошаная гразь — сырым торфам і дзёгцем. Ля маста трэба ісці збоку ля воза і падпіраць плячом калючыя снапы.

Цераз мост Жаваранка пераехаў, як цераз высокі загон на полі. Конь адразу зацёпкаў нагамі па гразі; затросся на каменні ў калдобах воз, асыпаючы на чорную бліскучую гразь жоўтае доўгенькае асцё; занокалі ўперадзе Багуны — ехалі ўсе чацвёра за бацькам; мігнуўся за імі, перабягаючы з аднаго боку дарогі на другі, брыгадзір Лязёнак — заблішчала на сонцы яго скураная чорная куртка...

Конь рвануў з каляі на сухое, на сцежку, Жаваранка нават не згледзеў калі. Напяў лейчыну абедзвюма рукамі, каб адвярнуць, конь захроп, заскакаў на адным месцы, прысядаючы на заднія ногі ў гразь — з-пад яго паляцелі пырскі, на снапы і на грудзі Жаваранку,— тады адкінуў галаву і заірзаў на ўвесь лес... Лопнула ўперадзе, недзе ля цугляў, лейчына, і Жаваранка, як стаяў, упёршыся ў зямлю нагамі і адваліўшыся назад, так і паляцеў плячыма на карэнне... Конь, высокі Буланчык, сыты, аж блішчаў, пачуўшы волю, рвануў адразу ўбок; цялежкі ўпёрліся ў карэнне ў каляі, і парвалася, стрэльнуўшы, атоса. Загнулася дугой угару — каню на спіну. Конь скочыў як падсмалены ўперад, падымаючы за лейчыну Жаваранку з зямлі; воз закалыхаўся з боку на бок, нахіліўся і пачаў валіцца ў самую гразь — у яміну... Нахіліўся, як усё роўна лёг на што, тады выпрастаўся, задрыжаў і быў ужо на сухім... Жаваранка бег за возам па карэнні, учапіўшыся за лейчыну; азірнуўшыся — ззаду крычаў Алёша, з'яз-

джаючы з маста,— убачыў, што з боку дарогі ля самай яміны за старой, абпаленай з камля елкай, стаяў старшыня Папок. Усміхаўся белымі зубамі і ляпаў даланёй аб даланю — ачышчаўся ад гразі... Шырокі ў плячах, ён як усё роўна ўрос у зямлю над ямінай: лавіў ужо рукамі Алёшаў воз, што каціўся з гары, з маста. Жаваранка падумаў, што старшыня лавіў кожную падводу, падстаўляў плечы і пад яго воз, што ён будзе стаяць і пераймаць усе падводы, пакуль не пераедуць цераз Гарбаты Мост. Чалавек дужы і цвёрды, як дрэва ў камлі. Стаіць і падстаўляе плечы. Смялей тады і ў рабоце, і жыць смялей, калі ёсць такія людзі. Папок пяты год ужо ў Венеры за старшыню; пяты год на яго плячах усё ў вёсцы.

Жаваранка ад'ехаўся з возам і, азірнуўшыся, убачыў Папка здалёку: ён стаяў ля маста, выставіўшы ўперад рукі, каб каму памагчы... Здалёку доўга была відаць яго галава; пасля, наехаўшы, яе схаваў воз...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жаваранка зыбнуўся на нагах — зыбнулася ўперадзе ў белым тумане Алёшава галава...

Міналі Гарбаты Мост, узбіліся на сухое і пайшлі лагчынай, спатыкаючыся на яловым карэнні. У лесе ўсё хаваў туман: асеў раптам, густы, на самую зямлю, і Алёша ўперадзе ішоў, як на полі ў жыце.

Жаваранка пацёр пальцамі вочы — пальцы былі халодныя, што зімой.

— Пачакай, хлапец, паслухаем...

Уперадзе было ціха. Сыры туман запах гарам ад бульбы. Гар цягнула з Пячнога.

— У сумцы, хлапец, нешта бразгае... Заплюшчу вочы, ідучы, і чую...

— Рукой дзяржу ўсю дарогу...

— Як заблішчыць поле, возьмем улева. На Рабы Калодзеж. Далёка не адыходзься. Не падымаюцца ногі, хоць ты што. Цягну па дарозе. Іду і сплю. Вочы рэжа... Зліпаюцца... Каб, здаецца, вады халоднай дзе прыгоршчы... павучынне змыць... Ад міны, відаць... Першы раз іду і сплю. Як толькі пакладу рукі на аўтамат, здаецца, апёрся на ложак... Лёгка адразу ўсяму... Ніколі не думаў...

Падняліся на вышэйшае: пад нагамі чуваць быў глыбокі пясок. Ісці стала цяжэй. Туман яшчэ больш пагусцеў, зрабіўся белы, як снег. Заківалася ўперадзе Алёшава

галава. Жаваранка пачуў, што яго зноў калыша ад сну, мякка, як на санях...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сані ляцяць з гары, з гурбы — у каня хамут аж на галаве,— і тады Жаваранка адпускае лейцы, адным махам падымае нагу з саней і ловіць ля полаза цвёрды, уезджаны снег: калі будуць куляцца — прыдзержыць. Пасля ўжо, калі конь на роўным ча́пае і ча́пае трушком, абкідваючы з-пад ног чыстым цвёрдым снегам, Жаваранка паварочваецца і глядзіць на Кланю — дагэтуль ён увесь час чуў яе плячом: сядзіць побач у вазку. Пяньковая хустка ў яе з'ехала назад, відаць гладка зачасаныя валасы ля вуха і чырвоная ад марозу шчака — мароз невялікі, можна сядзець з лейцамі ў руках без рукавіц,— на паднятым каўняры ў Клані на пасмах воўны дробненькі белы іней. Жаваранка, заціснуўшы між калень лейцы, папраўляе хустку ў яе на галаве — насоўвае ніжэй, на лоб: у Клані заняты рукі, яна дзержыць, прытуліўшы да сябе ў дзве рукі, закручаную ў суконную пасцілку маленькую дачку. Глядзіць на яго, Жаваранку, усміхаючыся і паказваючы галавой: падцягні ўверх кажух, спаўзае з пасцілкі. Жаваранка папраўляе кажух, падцягвае яго вышэй, Клані на рукі. Кланя хавае пад аўчыну нос, доўга сядзіць так, гаворачы нешта да дачкі: адно і тое ж — называе, мусіць, па імені...

Першага, Валодзю, Кланя нарадзіла дома, пры Александрыне. А тут... Мучылася цэлы дзень, і ён адвёз яе ноччу за пяць вёрст у Горна, у бальніцу...

Дачка нарадзілася ў іх якраз на Восьмага сакавіка, на свята. Вялікая, чатыры кіло... Доўга падкідалі там яе на руках: на такое свята ды яшчэ дачка...

Ён сядзеў і думаў, што і сягоння свята: вязе дамоў Кланю з дачкой праз дзесяць дзён пасля родаў, васемнаццатага — на Парыжскую камуну... У той дзень неяк надзіва ўсё ўразалася ў памяць, мусіць, каб астацца навек... Белае поле наўкола, аж сіняе ад снегу, не глянь; далёка ад дарогі цёмны сад — круціцца па адным месцы, калі пачынае бегчы конь; гурбы, высокія, з гарбамі, як вільчакі на стрэхах, стаяць ля дарогі ўровень з альшэўнікам — зіма была са снегам ад самага пачатку; далёкі Двор, што чарнее маленькімі хатамі,— у некага паліцца ў печы, і ўгару падняўся слуп белага дыму; сонца высака ўжо за хмарамі — бяжыць услед за саньмі; белы іней на

чорнай грыве ў каня, і пара, якая ідзе ў яго з храп, як з хаты на двор, калі адчыніш у мароз дзверы... Бразджаць цуглі нейкім ядраным звонам, можа, таму, што на ціхім марозе; шваргочуць, як шаргуны на вяселлі, як дзіцячыя чыстыя галасы сярод шырокага поля, як вада ў крыніцы на камені... І тады ён чуе, што гэта звіняць не цуглі, а плача, залiваючыся, збоку пад пасцілкай і пад кажухом маленькая дачка, якой толькі ўсяго дзесяць дзён і якой ужо нешта не па душы. Ён напінае лейцы, каб сцішыць каня, і думае, што чуе голас свайго дзіцяці першы раз — дагэтуль яно маўчала,— і ў яго нешта спірае ў грудзях... Пасля ён чуе, як робіцца цёпла ў вачах — у куточках,— і яму лягчэе... Ён адпускае лейцы, зноў бяжыць конь; уткнуўшы галаву ў кажух, гаворыць і гаворыць да дачкі Кланя, называючы яе Тоняй... Ён пераказаў ёй адразу, каб дачку назваць Антунінкай; Кланя і называе, перайначыўшы па-своему. Значыць, дачку будуць зваць Антунінкай...

Бяжыць конь, скрыпіць убіты снег пад палазамі; бразгае вялікае белае кольца высака ў дузе — блішчыць ад сонца. Сонца глянула з-за хмар, і ад яго поле стала чыстае і свежае, заіскрылася дробнымі сінімі агнямі, пайшло ўдалечыню, як на край свету — не скінуць вокам,— і недзе ў той белай далечыні пад Венерай губляўся і заміраў чысты на марозе звон цугляў...

Дома на двары конь стаяў, упёршыся храпамі ў гурбу ля хлева, а яны ціха, адно за адным, ішлі ў хату: ён спераду — адчыняў дзверы ў сенцы, Кланя ззаду, несучы перад сабой на руках дачку, закручаную ў пасцілку,— кажух кінула на санях на сене.

Кланя ў хаце зрабілася зусім малая, як паменшала: пасля бальніцы. Памаладзела, стала што дзеўчынёха. Топала і топала, не ведаючы, дзе палажыць дачку: да аднаго ложка падыдзе, да другога. Тады паклала на стол — мусіць, там, дзе было вышэй, каб не згінацца: балела паясніца. Павярнулася да яго, і яны стаялі так пасярод хаты, не распранаючыся, і глядзелі адно на аднаго... Аж пакуль не падбег да яе, саскочыўшы з ложка ў запечку, Валодзя. Яны не бачылі, што ён з іх не спускаў увесь час вачэй. Падбег, ашчапіў яе ў дзве рукі, ткнуўся галавой у калені і захліпаў, моцна, на ўсю хату.

Кланя стаяла і гладзіла яго рукой па стрыжанай галаве.

Жаваранка адразу тады палез у кішаню ў кажух і

дастаў адтуль мядзведзяў. Ён купіў іх, калі ехалі з бальніцы. Сталі ля сельмага; Кланя сядзела з дачкой на руках на санях, а ён збегаў купіў дзве буханкі калача і мядзведзяў. Выструганыя з асіны, белыя, у дробныя рубчыкі, на дзвюх лучынках, з малаткамі ў лапах, яны глядзелі, паразяўляўшыся, на альховае чырвонае кавадла, якое тырчала сярод іх. Пацягнеш за канцы лучынак — мядзведзі плешчуць па кавадле драўлянымі малаткамі: адзін, тады — другі.

З марозу мядзведзі пахлі асінай на ўсю хату.

Ён падаў іх Валодзю; Валодзя адбегся з імі да стала, дзе ляжала дачка, і трымаў у руках перад сабой. На мядзведзяў свяціла сонца, і яны сталі белыя як снег. І ўсё ў хаце было белае: сцены, абрус на стале, вымытая падлога, печ і міскі ў парозе за суднікам. Мусіць, у вачах было бела ад снегу — наглядзеўся за дзень, аж у галаве круціцца.

Ён ішоў адпрагаць каня, а белы снег у гурбах пах свежай асінай на ўвесь двор...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Уперадзе было бела ад туману: шырокай паласой пачыналася поле — Рабы Калодзеж. Сталі ў сырым асінніку, які рос ля дарогі і заходзіў краем на поле: тарканууся ўперадзе спопаразку Алёша, Жаваранка аж апёрся на яго рукамі...

— Бразгае... Як конь цуглямі...— Алёша зашаптаў і выцягнуў уперад шыю.

Стаялі і доўга слухалі. Было ціха. Не стралялі ні ў Венеры, ні ў Пячным. Патухла зарыва, толькі дробна дрыжала неба ў тым баку. Угары за соснамі знаць быў за хмарай белы месяц. Пахла гарам. Занылі над вухам камары... Адганяючы іх, Жаваранка раптам пачуў, як уперадзе ў тумане забразгала жалеза... Зрабілася холадна ўсяму; прапаў адразу сон і ўсё тое, што нанава бачыў, звёўшы на хаду вочы. Ён стаяў цяпер, сцяты ўвесь, як у кулак, і глядзеў на белае ад туману поле. Недзе ў тым баку быў Рабы Калодзеж, куды трэба было ісці, каб дагнаць сваіх... І яму на мінуту здалося: усё, што ўсплыло ў памяці — і Кланя, і дачка, і Валодзя, і мядзведзі,— не мінула, не знікла без следу, а ўсё яно наперадзе. За туманам, дзе бразгае халоднае жалеза, за Рабым Калодзежам, за спаленым Пячным, за Дзвінасой, куды немцы адразу не сунуцца: партызаны паспелі заняць абарону

на беразе; за Палікам, дзе ўсе брыгады; за Віцебскам, адкуль даносіцца кананада, ядрана, і вуха не трэба прыкладаць да зямлі. Праз усё гэта трэба прайсці, прайсці з аўтаматам у руках — тады ён зноў павязе ў вазку зімой Кланю з Антунінкай па белым снезе... Павязе снапы з поля ад Рабога Калодзежа праз Гарбаты Мост... І дарога ля маста будзе пахнуць не гарам ад бульбы, а пылам з-пад калёс і ячменем. І на калёсах будуць мужчыны з вёскі, якіх параскідала вайна: збяруцца ўсе разам...

Жаваранка ўздыхнуў:

— Павернем на Рабы Калодзеж. Адгэтуль... Могуць быць дазоры ля дарогі. Праз соснік выйдзем на поле і возьмем на маяк...

— А можа, там нашы?.. З брыгады?..— Алёша паказаў рукой на асіны, што цьмяна сівелі ўперадзе пад аўсяным месячным святлом, якое плыло з-за лесу, з-за Партызанскіх лагераў, дзе з-за хмары асцярожна, адным беражком, свяціла поўня.

— Чо-орт яго душу знае... Ты чуеш? Папіросамі пахне... Дымам. Ты чуеш? Папіросамі...— Жаваранка хуценька зняў аўтамат, адным махам. Зняўшы, узяў у дзве рукі.

— Забі — нічога не чую...— Алёша ступіў назад, і яны сталі ўпобачкі. Усюды было ціха, і ад гэтага яшчэ больш апаноўвала трывога. Алёша пачаў асцярожна здымаць аўтамат, нагнуўшы пад сябе галаву.

Ісці соснікам было цяжка: не пралезці, халодныя лапкі калолі твар. Ногі правальваліся глыбака ў мох: блізка была імшара. Падаліся пад поле, Жаваранка зайшоў наперад: добра ведаў гэты кут. Была яшчэ трывога: нікому не давяраць, спадзявацца толькі на сябе, на свае вочы, што перш згледзяць, на свае вушы, што перш уловяць, і на свае рукі. У сваіх руках аўтамат не адкажа... Алёша ішоў ззаду, след у след, выстаўляючы ўперад аўтамат,— расхінаў лапкі. Чуваць было, як ён моцна дыхае — сапе...

Пастаяўшы, перайшлі жыліну з дробным у лесе жытам. Раскарчаваная жыліна заходзіла з поля ў соснік, уразаючыся на добрыя гоні. Жыта звівала ногі, як пяньковым путам,— не пацягнуць. Ішлі, падымаючы высака калені, як пераступаючы цераз валежнік.

Блізка было поле: туман уперадзе пагусцеў, выцягнуўся доўгай паласой. Пад ногі лучаўся дробны, у расе пад'ялевец і пні. Ішлі асцярожна, баяліся, каб не спатыкнуцца і не нарабіць стуку.

Жаваранка падумаў, што полем да самага лесу, да

маяка, пад Пячное, цягнецца паласой стары бярэзнік, ля яго ляжыць убітая калясьмі дарога; ісці будзе на полі лёгка, і ісці можна смела — туман.

Ля поля былі відаць здалёку белыя бярозы.

Пад нагамі, хаваючыся ў мох, шапацелі сасновыя шышкі — іх было як насыпана.

Пацямнела; месяц заехаў за выцягнутую хмару, афарбаваўшы яе ў крывавыя палосы — як усё роўна там выставіў хто з агню рукі.

Цыўкнула на ўвесь голас над галавой разбуджаная сініца, і ўперадзе, блізка, як усё роўна з-пад ног, узляцела ракета, заліўшы і бярэзнік, і поле, і лес белым малаком. Жаваранка адразу аслеп.

Здалося яшчэ, што ўсё на зямлі замерла на міг, спыніўшы ходу: і ракета ўгары як застыла і вісіць, аж пакуль не сканае, спапяліўшы на дым і самую сябе, і чалавека, які трапіць пад яе святло ўперадзе кулямёта...

Жаваранка ўбачыў: перад ім, блізка, як цераз хату, пачалі сыпацца ў акопы немцы — ляжалі дагэтуль на зямлі,— што жабы з грэблі вясной у канаву, у крактавінне, калі іх падрушыш... Бліснула цьмяна на свежым пяску жалеза — кулямёт. Жаваранка як трымаў перад сабой у руках аўтамат, так і сыпануў чаргой па ўскапанай жоўтай зямлі і цёмных доўгіх камяках, што падалі ў ямкі, сыпануў шырака, павёўшы справа, як усё роўна сеючы...

Адразу тады як прарвалася зямля. Па баках сосніку метраў на сто адзін ад аднаго захлебясталі буйнакаліберныя нямецкія кулямёты, забіваючы сабой шум аўтаматнай страляніны, як бывае гром глушыць шорах граду.

Там, дзе ў акопах былі кулямётныя гнёзды, агонь лізаў доўгімі языкамі зямлю, як з паяльнай лямпы; адна за адной падляталі ўгару з сосніку белыя ракеты, нібы курапаткі на пасецы з-пад ног, здавалася, аж лапаталі, што ўсё роўна крыллем. Ракеты асвяцілі ўперадзе ўсё поле — пад маяк і пад Пячное, і Жаваранка ў імгненне падумаў, што немцы страляюць у бок Пячнога, што іх адтуль, відаць, выбілі партызаны і немцы, адступіўшы, акапаліся ў лесе...

— Хлапец!.. Назад!..— закрычаў ён і пабег да жыліны, цераз якую яны нядаўна ішлі. Падумаў, што бяжыць, варочаючыся да Гарбатага Маста, і павярнуў управа, пад поле.— Наперад бяжы... Пад Рабы Калодзеж...— крыкнуў ён цішэй. Спыніўся і наслухаў. Стукала сэрца і ззаду Алёша — нагамі ў зямлю: даганяў.

Жаваранка ўзяў яшчэ правей і, прабегшы між пнёў на пасецы, наскочыў на акоп — пад нагамі заварушыўся чалавек у чубатай пілотцы, усхопліваючыся з зямлі. Жаваранка стрэліў пад сябе, між ног — як усё роўна парнуў акоп вілкамі... Пачуўшы крык, падумаў, што крычыць ззаду Алёша, і адвярнуўся. Убачыў ад недалёкага святла ракеты, як блiснула ззаду шкло ў лабатай машыне... Машыны, крытыя брызентам, стаялі ля дарогі, адна ля адной, як хаты ў вёсцы ля вуліцы...

Між акопаў трэба было бегчы, як у балоце: скокнуў на купіну — і глядзі, каб пераскочыць на другую цераз прорву... Ён бег і думаў, што можа згубіць Алёшу, і гнаў, крычучы, яго наперад, як усё роўна хацеў закрыць сабой ад бяды.

Алёша бег збоку, рукой падаць. Мінаючы машыны, адвярнуўся і даў па іх доўгую чаргу з аўтамата...

Над імі адразу павісла ракета, асвяціўшы на полі баразны, каменне на загонах і самога Алёшу — уцяў у плечы галаву, перавальваецца з боку на бок.

Выбегшы вузкай каляіністай дарогай на ўзлессе, да самага поля, Жаваранка пачуў, што страляюць і ля маяка — там захлёбваўся нямецкі кулямёт. Білі разрыўнымі. Ракеты падляталі па ўсім полі — да Рабога Калодзежа было не прабрацца.

Над галавой раптам павіслі чырвоным шнурком трасіркі: немцы пачалі страляць з кулямёта ў іх бок — па Алёшу. Кулі з агнём ляцелі нізка над полем, справа, збоку, як іскры з полымя на пажары, калі іх падхопіць і гоніць ветрам з саламянай страхі.

— У бярэзнік!.. Да Рабога не прашыцца... Не страляй, сукін сын...

Паслізнуўшыся на крушні камення ля дарогі — каменне было пад мокрым мохам, Жаваранка як апомніўся: пабег цішэй. Бег, задыхаючыся, і чуў, як збоку нешта бразгае, што почапка на бляшаным вядры. Павярнуўшы галаву, убачыў Алёшу — белы твар у цемнаце — і зноў бег і бег, глытаючы халодны і вільготны пах зямлі, пырніку і дзяцільніцы, і ад гэтага рабілася свежа ў грудзях, дзе, здавалася, усё перагарае на жар... У роце было горка, як ад палыну, і суха. Ён не чуў ні кулямётнага груку, ні шуму ад аўтаматаў, нібыта іх і не было, толькі збоку бразгала і бразгала почапка ад вядра, ценка і востра, аж рэзала вушы, хоць затыкай.

Почапка бразгала збоку цераз усё поле... І калі ён

грукнуўся вобземлю ў калючы верас у бярэзніку, яна яшчэ доўга звінела ў вушах.

Пасля ён пачуў, як ля яго апусціўся на зямлю Алёша.

Ракеты ўзляталі над лесам радзей. Стралялі толькі з кулямётаў.

Забалела спіна, востра, аж заторгала.

— Ну, хлапец, малі бога...— сказаў ён з натугай, як выдыхнуўшы з сябе ўсё.— Пачакаем да додніцы... Напорымся вот так у цемнаце — капцы...— Ён зашаптаў, і Алёша яго не чуў: — Галава... Круціць, як у віры...

Лежачы, ён убачыў, як Алёша пачаў разувацца... Сцягваў чаравік... Пасля згледзеў, што ў Алёшы ў руках не чаравік, а кацялок... Зачапіў, відаць, за нагу на нямецкіх акопах і бег з ім цераз усё поле. На зямлі адразу зваліўся сон. Зліпаліся павекі, рэзаліся вочы, поўныя пяску.

Ён чуў яшчэ доўга, як ляскоча кулямёт, і яму здавалася, што дома ў хаце маленькія мядзведзі ў Валодзі ў руках б'юць малаточкамі па кавадле...

Калі ён адплюшчыў быў на міг вочы, убачыў, як праз кусты яму на руку свеціць месяц і рука белая, што папера... І аўтамат на канцы, якраз ля мушкі, ад святла белы, нібы нагрэўся ад агню...

## 6

Алёша, апёршыся на локці і паклаўшы перад сабой аўтамат, ляжаў на цвёрдай зямлі, на карэнні, ля бярэзніку і ўзіраўся на дарогу пад Пячное.

Месяц, звярнуўшы на захад, схаваўся за лес над Гарбатым Мастом, як сонца пасля палудня. Позняя летняя ноч была падобна на цьмяны і ціхі асенні дзень надвечар у вёсцы: пацягнула сырым холадам з перааранага бульбянішча на загуменні, дзе лягла на зіму чорная зямля; па-далела ад вёскі пустое шэрае поле ля Пагурка і прычарнелы альшэўнік ля выганчыку; на збітым лагу пад Жарамі заціхла лянівая пасля лета скаціна — застылі рабыя палосы; на гародах гарыць не звезены пад хлеў у гной бульбоўнік з пырнікам, і дым чуваць і на двары, і ў сенцах, і аж у хаце, калі адчыніш дзверы...

Забывалася, што робіцца кругa цябе. Недзе глыбака ў душы напятыя да абрыву струны раптам адпускаліся, і тады ўсё тое, што было наўкола, знікала, саступаючы месца таму, што пражыта дагэтуль, што адышло, астаў-

шыся, толькі навек у памяці, як застаецца мацерына рука, якой цябе пагладзілі, калі ты прыбег з вуліцы са слязьмі, і малінавая вузенькая палоска за вёскай на небе захадам сонца, якая стаіць усягды перад вачыма, нібыта ты яе толькі адну і відзеў за сваё жыццё.

Ракеты ўзляталі цяпер па ўсім полі ад маяка да сосніку пад Гарбатым Мастом, і можна было вызначыць крывую доўгую лінію нямецкіх акопаў: немцы акапаліся выцягнутай падковай на подступах да Пячнога, адкуль іх, Жаваранка думае, выбілі партызаны.

А можа, брыгада зусім не пусціла немцаў у Пячное... Брыгада блізка — рукой падаць, але асядланая падковай аж за маяк, пад Рабы Калодзеж — не прарвешся. Быў бы Жаваранка на нагах, можна было б, падаўшыся за Рабы Калодзеж на імшары, пад Вілію, выйсці балотам на Дзвінасу, даўшы круга вёрст пятнаццаць. Да ўсходу сонца былі б у сваіх. Немцы ў балота не лезуць, ідуць толькі дарогамі — рэгулярныя часці.

Але Жаваранка, распластаўшыся дагары на зямлі, на верасе, хроп, аж захліпаўся. З галавы ў яго з'ехала кепка і ляжала, прыціснутая, пад патыліцай. Алёша хацеў быў надзець яе Жаваранку на галаву, але яна зноў адвалілася на зямлю, адляпілася, як блін ад скаварады; па рупэ, па пальцах, сцебанулі мокрыя халодныя валасы. Аўтамат яго адкаціўся за курганок у верас і цьмяна чарнеў жалезам у цемнаце. Здавалася, што Жаваранка лёг воддаль, каб аддыхнуць ад яго, як, бывала, клаўся на зямлю, каб адсапнуцца на полі ад плуга, пацягаўшы яго рукамі цэлы дзень... Алёша падняўся, узяў аўтамат і, паднёсшы, паклаў яго побач з Жаваранкам — прыкладам да рукі. Жаваранка нічога не чуў, хроп, здавалася, яшчэ мацней, на ўвесь бярэзнік. Сціхаў, уздыхаў глыбака, як ад вялікага гора, пасля зноў пачынаў храпці, дробненька, нібы качаў гарошыну ў горле; тады моцна і густа, як анучы дзёр; пачакаўшы, што ўсё роўна набраўшы духу, захлебястаў, як трактар... Ад храпу ўвесь аж калаціўся, і Алёша падумаў, што могуць пачуць, і пачаў тармасіць Жаваранку за плячо. Жаваранка сціхаў і пачынаў нанава. Тады Алёша хацеў павярнуць яго на жывот, але Жаваранка ацяжэў, як наліўся волавам, раскінутыя рукі спруцянелі і не гнуліся; толькі жывот хадзіў хадуном...

Алёша тады, стаўшы ля яго на калені, пачаў азірацца па баках...

Ля маяка і ля сосніку ўзляталі ракеты — немцы, баю-

чыся, будуць пускаць іх да самага дня; начную цемень удоўж поля пад Пячное секлі трасіркамі два нямецкія кулямёты. У Пячным было ціха...

Алёша абышоў круга Жаваранкі: ззаду за імі цягнуўся бярэзнік — у самыя балоты, што вялі да Віліі. Адтуль ніхто не мог падысці. Ля Рабога Калодзежа было ціха; за лесам у бок Венеры неба жахалася, як ад бліскавіц; уперадзе ля дарогі стукалі ракетніцы, як хто сухімі дзвярыма...

Алёша зноў лёг, апёршыся на локці, і падцягнуў да сябе халодны аўтамат.

Пацямнела. Перад доднiцай усягды цямнее. Над Рабым Калодзежам, на ўсходзе, над лесам лягла доўгая зялёная паласа. Пахаладнела на траве раса, ад яе калола ў пальцы; падзервянелі ў каленях ногі — ад зямлі; холадна зрабілася ўсяму.

Пагусцела ўгары неба, на ім высыпалі высокія зоркі і заміргалі, што зімой у маразы. Алёша аж уздыхнуў — ад іх на душы зрабілася цішэй, як ад нечага свайго, да якога вунь як прывык.

Адразу паявілася ў вачах маці; стаіць дома ля прыпечка з вілкамі ў руках; у печы гарацьполымем дровы, яно шугае аж у комін; загарэлася ў чалесніку сажа маленькімі палоскамі, з іх скачуць іскры і ліпнуць усё вышэй і вышэй, нібы квяты-скочкі на баравым пяску. Але маці стаіць, не мочыць памяло і не змятае з чалесніка агонь, здранцвела; толькі водсветы ад агню бегаюць і бегаюць у яе па твары: чорныя, жоўтыя, белыя...

Алёша падымае галаву і бачыць, як полем пад Пячное сыплюцца кулі з агнём, жменькамі — адна за адной. Страляюць кароткімі чэргамі. Ён думае, што пачынае драмаць, што пад раніцу ўсягды хмарыць сон...

Хаця б не заснуць...

Калі аціхаюць ля дарогі кулямёты, чуваць, як храпе Жаваранка: цішэй, нібыта недзе далёка. Алёша зноў бачыць угары над сабой у прыцямнелым сінім небе зоры, і яму здаецца, што не сам ён павярнуў галаву, каб зірнуць, а зямля нахілілася, каб паказаць яму на міг неба... Ён чуе, як яго пачынае калыхаць, што ў калёсах па выбоістай дарозе... Пасля ён плыве некуды ўгару разам з халоднай зямлёй і калючым верасам пад рукамі, разам з аўтаматам, што ляжыць перад ім, і вострымі агнямі, што скачуць ля дарогі пад Пячным... Толькі зоркі высака ўгары ціхія і далёкія... І калі ён глядзіць у неба, яму раптам

прыходзіць у галаву, што яго ў вёсцы звалі лётчыкам. Пусцілі погаласку, што ён вучыцца, каб быць лётчыкам, і звалі. Ён ніколі не хацеў быць лётчыкам, ён хацеў толькі вучыцца, і ўсё; ён дагэтуль ні разу яшчэ не бачыў зблізку ні самалёта, ні поезда...

Суцішыўшыся, ён доўга глядзіць у неба, дзе дрыжаць далёкія зоркі, і ў яго сціскаецца нешта ў грудзях — ад тугі... І тады ён раптам адчувае востра, як адчувае, што ад холаду заходзяцца рукі, як адчувае пад сабой цвёрдую, нібы камень, зямлю, што яму хочацца быць лётчыкам...

Усё ўсярэдзіне як перавярнулася.

Пасля ў вачах раптам закруцілася кола ад машыны, і з яго пасыпаліся іскры. Яны, Алёша з Альдзяй, ішлі ў школу па снезе, ішлі ўдваіх, выйшаўшы з вёскі на дарогу доднідай. На ўсходзе на ўсё неба расплылася зялёная зара, здавалася, што яна звініць; угары рэдка блішчалі цьмяныя зоркі, адсвяціўшы сваё за ноч; ціснуў мароз, сыплючы зверху інеем; недзе далёка скрыпелі сані, а яны з Альдзяй ішлі і ішлі адно за адным па снезе, мяняючыся: уперадзе пяць вёрст дарогі да школы. Калі выйшлі на гару пад Жары, іх раптам дагнала леспрамгасаўская машына — з кузавам. Азірнуўшыся, убачылі, як у машыне гарыць задняе кола. Сыплюцца і сыплюцца ў бакі на снег чырвоныя іскры, што пілавінне з-пад пілы... Алёша закрычаў, але яго ніхто ў машыне не пачуў. Яны адскочылі з дарогі — іх абдало гарачынёй і абсыпала іскрамі і дробнымі друзалачкамі снегу... Стаялі пасля і глядзелі, як пад Жарамі ў снежным полі хавалася з воч машына і пырскалі іскры ў ранішняй шэрай цемнаце...

Трэба было падняць руку — прагаласаваць — і машына б стала. Але ён не падняў: зверху ў рукавіцы распусцілася нітка, матлялася, відаць былі з яе пальцы, і ён пабаяўся, што згледзіць Альдзя.

Як усё роўна ў яго не было другой рукі.

Тухнуць, бліскаючы, іскры. Сціхае ўперадзе ля дарогі кулямёт, і Алёша думае тады пра Альдзю.

Дзе яна цяпер? Пайшла ж разам з усёй вёскай.

Калі ён доўга ўзіраецца на дарогу — на яго пачынаюць глядзець Альдзіны вочы. Вялікія, круглыя і чыстыя, як неба. Міргаюць, пасля зноў пастануць і глядзяць з-пад ілба сумна і глыбака ў душу, аж пераварочваюць яе, як усё роўна ты за нешта вінаваты... Пасля ў яе раптам чырванеюць шчокі, як ад агню — Альдзя, чуць што, чырванела адразу,— і яна перакідае сваю тоўстую, як рука, і доў-

гую, па пояс, русую касу з аднаго пляча на другое, матаючы галавой. Хоча нешта сказаць і не можа, глядзіць толькі ў зямлю пад ногі і чырванее, як мак, нават вушы гараць, што каліна... Здаецца, калі Альдзя не скажа ні слова — згарыць агнём. Пасля яна закрывае рукамі і шчокі, і вочы і гаворыць:

— Ну што ты ад мяне хочаш...— страсае галавой — матляецца з боку на бок за спіной каса — і бяжыць ад варот дваром ля частакола да сеначак. Стукаюць абцасікамі па ўбітай, падмеценай сцежачцы між зялёнага высокага падарожніку яе чорныя лодачкі, суха, як у казы капыты, і сцёбае ззаду па нагах доўгая, ніжэй калена, яе паркалёвая, белая ў дробныя кветы, сукянёха — праз частакол з вуліцы на яе няма як глядзець: мігціць уваччу. Альдзя яшчэ становіцца на ганку, азіраецца і, матнуўшы галавой, хаваецца ў сеначках — спачатку сама, тады доўгая каса: падскочыла на плячах.

Апошні раз ён убачыў Альдзю раніцай, калі займалі абарону ў Венеры ў аселіцах і на горцы ў сосніку, ля ям. Узышло ўжо сонца, паднялося далёка за Пагуркам над лесам; праз расцягнутыя ў палосы рэдкія воблакі свяціла цьмяна і нехаця, як слязілася. Толькі над Венерай неба было чыстае, як бывае з начы, блішчала, што апаласканае вадой шкло. Над могілкамі, нізка, аж над елкамі, вісела чорная, як засланка ў печы ад сажы, дзіравая нямецкая «рама» — немцы з раніцы вялі разведку.

Ля ям у развілку Алёша бачыў у сосніку ўсю вёску: людзей, падводы, каровы, прывязаныя ззаду да калёс. Людзі згрудзіліся і стаялі, як усё роўна варажылі, куды падацца: на Рабы Калодзеж ці на Гарбаты Мост. Было ціха і трывожна, і здавалася, як усё роўна вёска ехала хаваць самую сябе. Алёша здалёку пазнаваў падводы: стары Багун з сынамі — самы пярэдні; Антось Ляшковіч, Марка, Кланя Жаваранкава з дачкой на руках... Рыкалі каровы, напятыя на павадкі; плакалі бабы, прымаўляючы і ціснучы да сябе дзяцей — дзеці былі з вандзэлачкамі ў руках і з хатулькамі за плячыма...

Вёска пакідала сябе... Знялася ўся з нажылога вякамі месца, чаго не рабіла ніколі за сваёй памяццю. Не верылася: здавалася, абоз сабраўся на луг да Віліі, як збіраўся кожнае лета такой парой: ехалі з вёскі падводы; ішлі, узяўшы па дзве касы, мужчыны; ішлі бабы з граблямі на плячах, грумадой, у белых і жоўтых хустках на галовах — ад іх калыхалася дарога, як ад сланечніку...

Ад могілак ля Жараў адарвалася «рама» і нізка, над самай дарогай, ляцела якраз сюды, на ямы. Чорная, лёгкая, як парожняя, яна памахала над ямамі крыллямі, як падстрэленая, і павярнула на Гарбаты Мост, на Пячное.

Раптам прарэзліва зашумела над галавой, што ўсё роўна вярнулася «рама», і ззаду падвод на дарозе і на ўзлессі з краю рванулі міны — адна, другая, трэцяя. Людзі, якія дагэтуль чакалі невядома чаго, можа, нават не рашаліся з'ехаць з гары пад жытні клінок, адтуль ужо не ўбачыш ні хат, ні асвераў над стрэхамі, хлынулі на дарогу ў Пячное: паганялі коней і кароў, бегучы ля калёс; крычалі, клічучы адзін аднаго.

Другі раз міны рванулі ўперадзе людзей, у жытнім клінку, схаваўшы ў пыле дарогу ў Пячное... Немцы білі з Жараў з шасціствольных мінамётаў...

Людзі павярнулі назад, на бульбяныя ямы, якімі быў зрыты ўвесь соснік у вілах і рог поля на пасецы. Ямы тут капалі пад бульбу спрадвеку, уся вёска ў адным канцы. Старыя абрываліся з гадамі, тады капалі новыя ў свежым месцы; на лета, пасля вясны, калі даставалі бульбу, іх закладалі зверху сасновымі тонкімі плашкамі і прысыпалі збольшага пяском, каб сівералі. Падгнілыя не за адну зіму плашкі трашчалі, рассоўваючыся і ломячыся пад нагамі ў коней; коні правальваліся ў ямы, як на той свет. Іржалі, рвучы гужы і ломячы аглоблі: граблі пярэднімі нагамі берагі, захлынаючыся пяском і пылам і не могучы ніяк вырвацца і з ям, і з аглабель... Раўлі, як на разніцы, каровы, бегаючы ў пыле з адарванымі ад калёс павадкамі, і нема крычалі дзеці... Людзі, як усё роўна не ведаючы, беглі сюды, на ямы; здавалася, капалі іх самі сабе гадамі на злом галавы...

На ямах ён і згледзеў апошні раз Альдзю з хатулькам за плячыма, завязаным у пасцілку ў чырвоную клетку, у той жа белай з сінімі кветамі паркалёвай сукенёшцы...

— Альдзя! — крыкнуў ён ёй уздагон з сосніку, з акопаў, але яна не азірнулася: не пачула; мінуўшы ямы, бегла цераз пасеку на Пагурак, пакуль не схавалася ў пыле...

...Немцы страляюць радзей; трасіркі ляцяць адна за адной пад маяк удоўж дарогі — у Пячное... Алёшу здаецца, што гэта скачуць зімой у гародчыку па снезе гілі з чырвонымі грудкамі... Пасля ў вёсцы ля фермы па бацяновым гняздзе страляюць паліцаі. Пасталі ўсе трое — прыехалі з Горна, летам, у першы год вайны — ля плота на дзядзінцы і лупяць на чым свет стаіць па парожнім

бацяновым гняздзе. Гняздо на сасне на самым версе, вялікае, круглае, не відаць пад ім і бараны: за доўгія гады бацяны нанасілі галля з балота ад Пагурка — не павязеш і на возе... Паліцаі ляскаюць ля плота затворамі ў вінтоўках, як галодныя сабакі зубамі, мецяцца і б'юць адзін за адным. Чырвоныя кулі ляцяць праз гняздо навылёт, як іскры — адна, другая, а гняздо не хоча гарэць. І не загарэлася...

...Змаўкаюць пасля кулямёты ля дарогі, і надаўга робіцца ціха.

Додніца. На ўсходзе над Рабым Калодзежам успыхнула зара; на зямлі ўперадзе стала знаць трава і белае каменне. Месяц за лесам у верхаўі ўжо не свяціў, вісеў сам сабе. Цыўкнуў, як сірата, недзе блізка дрозд, ад холаду.

Кінула ў сцюжу, як на марозе; не лучаў зуб на зуб. Наўкола ўсё было халоднае, як снег: трава, раса на траве, прыклад і жалезны дыск аўтамата. Нават рамень ад аўтамата намок ад расы, здубеў і не гнуўся, што змёрзшыся. Толькі адзін акравачак зямлі паднізам быў цёплы, які сам нагрэў, лежачы на адным месцы. Калі пераставала калаціць ад холаду, адразу зліпаліся павечкі, рабіліся гарачыя і цяжкія, не падняць, і ён чуў, што спіць. Хацеў апёрціся рукамі на зямлю, каб устаць, і не мог: рукі трэба было цягнуць аднекуль здалёку, і яны не слухалі... Расплывалася ўперадзе поле, бацянова гняздо на сасне, людзі на бульбяных ямах ля вёскі, зара ля маяка... Чырвоная, як зімой, яна заходзіла па небе аж пад Пячное.

Блізка недзе загрукала, і ён, страпянуўшыся ўвесь, утаропіўся на поле. Вочы больш не балелі, глядзелі востра і чыста, як абмытыя свежай вадой. Калі ён зноў пачуў, як блізка ў бок Рабога Калодзежа грукае зямля ў некага пад нагамі, падумаў, што прачнуўся не сам: разбудзілі. Схапіў у дзве рукі аўтамат, падцягнуў да самага падбародка і адвёў затвор. Хацеў яшчэ павярнуцца туды, адкуль чуўся грукат, хацеў клікнуць Жаваранку, але падумаў, што наробіць шуму — выдасць і сябе, і Жаваранку. Той хроп як пшаніцу прадаўшы, добра, што дробненька: ідучы і стукаючы нагамі можна не пачуць... Алёша мігам адпоўз назад і, упёршыся Жаваранку нагой у плячо, таўхануў. Жаваранка хроп.

— Яхрэм...— клікнуў тады Алёша, зашаптаўшы.

На полі, у бок Рабога Калодзежа, грукала зямля, густа, нібыта пераганялі цераз поле стаду скаціны. Грукат набліжаўся, чуваць нават было, як шастае на загонах

трава. Пасля Алёша ўбачыў, як кратаецца ўперадзе загон, ад баразны да баразны, і адразу здагадаўся: дзікі... Стада... Ідуць у іхні бок...

Горача стала ўсяму.

Стада была блізка, як цераз вуліцу: ішла па суседнім загоне двума гуртамі. Уперадзе, крокаў за дзесяць ад першага гурту, дугаў нагамі па цвёрдай зямлі, водзячы лычам у бакі — відаць, чуў людзей,— стары сякач. Зраўняўшыся з імі, тарканўўся, як на што ўзбіўшыся; крутнуўся і стаў адразу перак загона, падняўшыся яшчэ вышэй на высокіх нагах і задзёршы ўгару гарбаносую вялікую галаву з доўгім лычам. Стаяў якраз проці Алёшы, блізка відаць нават было, як у яго паднялася на хібе доўгая бурая шчэць. Каля лыча яна была жоўтая, як салома. З лыча тырчалі два вялікія, па пальцы, загнутыя ўгару крывыя клыкі, здавалася, надта белыя. Сякач стаяў на месцы, як уросшы ў зямлю; толькі вадзіў і вадзіў лычам, скрыгочучы: тачыў ніжнія клыкі аб верхнія. Так секачы робяць усягды, калі збіраюцца напасці... Нападаючы, сякач збівае з ног, сячэ ніжнімі клыкамі — кроіць надвае — і падкідае лычам угару, выпускаючы кішкі...

Чуваць было, як сякач цяжка дыхае, з сябе... З лыча ў яго ішла пара, як на марозе. Ён стаяў, увесь трасучыся; ад яго востра запахла смалой і балотам...

Калі да яго пабліжэў пярэдні гурт, ён рохнуў, глуха, з трывогай; ля яго недалёка адразу стала старая свіння, матка: замерла на месцы. Пад бруха ёй шмыгнулі, як мышы, парасяты, ладныя ўжо, ледзь тоўпіліся, жаўтаватыя, з цёмнымі палосамі па баках.

Сякач вадзіў і вадзіў лычам — чуў і бачыў перад сабой на зямлі людзей. Тупаў і тупаў нагамі — вось-вось кінецца — і зноў аціхаў, заміраючы на месцы. Пасля, відаць, па нечым сваім, спрадвечным, ацаніў, што ад гэтых людзей, якія храпуць перад ім на зямлі, бяды не будзе, што бяда там, за Рабым Калодзежам і за Дзвінасой, дзе гручэла ўвесь дзень і адкуль ён вывеў стаду, і зноў рохнуў. Мацней і смялей... Тады крануўся першы гурт: пабегла матка, за ёй парасяты, хаваючыся на папары ў траве; пасля паказаўся другі гурт; трэці — маткі з парасятамі. Беглі ціха і асцярожна цераз поле, на якое, можа, не адно лета і восень хадзілі ў патраву; беглі гурт за гуртам. Толькі адзін сякач стаяў на загоне, павярнуўшыся да бярэзніку, дзе былі людзі, і падняўшыся вышэй на пярэднія ногі, каб можна было больш пачуць і ўгледзець; стаяў,

аберагаючы сваіх ад бяды: высокі, буры, стары, як немаведама колькі гадоў жыў на свеце. Такой парой, летам, старыя секачы жывуць адны, чураючыся стады, у стадзе ходзяць толькі зімой, а тут кліknулі яго ці, можа, сам прыйшоў з балотных дзвіноскіх нетраў у стаду і вядзе яе з-за ракі, дзе пачаліся баі. Вядзе з багны, якую ўзбалабошылі мінамі, дзе, здаецца, кіпіць, як у катле, гразь; вядзе ў імшары пад Вілію, бо чуе, што там ціха, мінула бяда і там астануцца жыць дробныя, абдзёртыя сукамі і асколкамі паласатыя парасяты... Ён выводзіў стаду, як не раз выводзіў зімой у маразы з-пад воўчай зграі і з-пад дранкулек паляўнічых у дзікія нетры, раздзіраючы кусты і валежнік моцнымі вострымі плячмі і падстаўляючы іх пад калючыя дзіды. Вёў, бывала, падрушаную стаду двое, трое сутак без аддухі па барах і ўзлессі, па балоце, імшарах, крыніцах — па вадзе, каб схаваць след.

А сёння вёў цераз поле, парытае і абпаленае мінамі, прапахлае гарам, якога ні разу не чуў, нарадзіўшыся на свет...

Маткі з парасятамі беглі да лесу ціха — хутка бегчы яны не ўмеюць: сякач пасля іх пастаяў яшчэ на загоне, пазыбаўся на нагах, тады, вухнуўшы глуха ў лыч, крутнуўся на месцы — з-пад капытоў у яго паляцела ўгару сырая зямля, камякамі — і пабег угалоп, даганяючы гурты і адразу мінаючы іх: зноў забягаў наперад...

Ля дарогі загудзелі машыны. У Пячным усчалася частая аўтаматная страляніна. Нейкая трывожная, можа, таму, што на зары.

Віднелася.

Жаваранка не хроп; Алёша не помніў, калі той аціх.

— Яхрэм!..— ускочыўшы з зямлі, Алёша пачаў будзіць Жаваранку — тармасіў за плячо.

Жаваранка не прачынаўся — кратаўся ўвесь, як здубелы; ля нагі ў яго бразнуў дужкай плоскі нямецкі кацялок, было ўжо відаць, што ён зялёны.

Алёша тады нагнуўся над Жаваранкам, над белым у верасе тварам.

Жаваранка не дыхаў.

— Яхрэм!..— закрычаў тады Алёша, забыўшыся на ўсё.

## 7

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Полымя дыхнула Жаваранку ў вочы — угарэлася раптам пакладзеная пластам парсюку на спіну салома, калі пацягнуў з поля з-за паркана вецер,— і Жаваранка, падняўшы ўгару вехаць, закрыўся локцем. Адскочыўшы пасля ад агню пад хлеўчык — агонь гарэў у канцы асвера, у яме ля паркана, дзе летам усягды купаліся ў гразі свінні,— ён стаяў з вехцем атухлай кулявой саломы ў руках, які ўзяў быў на падпалку, і глядзеў на агонь, на высокае, уровень з парканам, полымя.

Была зімовая додніца перад новым годам, густое і цёмнае неба вісела над дваром і за парканам над лесам. Додніцы зімою цёмныя, падсвечаныя толькі цьмяна з зямлі шэрым снегам.

Ад агню на двары неба яшчэ больш цямнела і рабілася ніжэйшае, клалася на хлеў, на страху. Калі ўгарэлася салома і полымя шырокім языком падымалася вышэй паркана, наўкола быў відаць двор з расчышчаным, згорнутым у кучу да частакола снегам; бліскучая ад агню сцяна хаты ля сенчак — па ёй бегаў цень ад яго, Жаваранкі; студня з нізкім зрубам — натапталі кругa горку снегу, беручы ваду; жаўцела свежапабітымі, не складзенымі яшчэ ў вярсту сасновымі дрыўмі пад варыўнёй дрывотня.

З агню высака ляцелі чырвоныя іскры — салома дагарала ўгары — і падалі на расчышчаны двор і на хлеўчык, на страху, густой чорнай сажай.

Салома па баках згарэла хутка; аставалася ляжаць толькі на карку ў парсюка чырвонай кучкай, як жар у пячуры ў печы, і тады добра быў відаць высокі, гарбаты, стары абсмалены з бакоў парсюк, якога паклалі на двух белых бярозавых кругляках — дрывах-метрах. На кругляках ад саломы загарэлася бяроста і хліпала дробным полымем, як агонь у лямпе. На доўгім лычы ў парсюка павісла горка попелу ад саломы; у роце, у зубах, тырчаў круглы камень. На камені растаў снег, і з яго капала на зямлю вада. Снег раставаў і ля бярозавых круглякоў, чарнеў ад попелу і сіпеў.

Жаваранка яшчэ кладзе пласт саломы — бярэ з-пад хлеўчыка ля дзвярэй,— закрывае ўсяго парсюка. Жар на снезе патух, і салому трэба зноў падпальваць. Жаваранка адыходзіцца да асвера, ля якога на зямлі гараць складзе-

ныя накрыж сасновыя сухія дровы. Ад агню відна, не трэба і свяціць; ад яго можна падпаліць і салому — не будзеш жа кожны раз мокрымі рукамі шастаць сярнічкай. Агонь ля асвера расклала Кланя: падмяла гальнікам снег з-пад ног, прынясла на бляшанай засланцы галавешкі з печы — у печы яна падпаліла адразу, як усталі калоць парсюка,— і паклала на засланцы на зямлю. Зверху ўскінула сасновых дроў з дрывотні.

Падпаленая з бакоў вехцем салома згарае мігам; Жаваранка бярэ з вугла ў хлеўчыку ўторкнуты доўгі, шырокі нож, якім Кланя шыткуе ўсягды капусту, падыходзіць да парсюка і зграбае нажом са спіны гар — водзіць, прыцiскаючы, лязом з усёй сілы. Пад нажом чуваць прычаная шурпатая скура — зрабілася адразу цвёрдая, і нож ходзіць па ёй, як па кары на дрэве. Пахне дымам ад саломы і гарам ад свіной шчэці.

Парсюк ляжыць на абгарэлых бярозавых кругляках, як гара. Шырокі, што лава, з задзёртым угару лычам, на лычы вытыркнуўся кольцам белы дрот: парсюк быў добра задратаваны — шкодзіў. З кругляков упіраецца нагамі ў зямлю; калі стаіш побач — у пояс. Вырас сёлета, як ні ў кога. У вёсцы ва ўсіх былі добрыя; многія пакалолі перад Акцябрскай, увосень; а ім з Кланяй далі на працадні з калгаса бульбы, лішняй, лічы — з гарода яны насыпалі і дзве ямы, і загарадку ў варыўні — прывезлі на двор аж сем вазоў. Вазілі Палюшыны зяці і ссыпалі пад ганак. Прыкінулі ў галаве — тры тоны лішняй бульбы. Прыйшлося новую загарадку рабіць у варыўні і карміць парсюка да новага года — дзе дзенеш бульбу: ва ўсіх хоць завалiся. Затое парсюк ужо не ўставаў у хлеўчыку на заднія ногі і мала еў, у карыта нават і не насілі: пасёрбае з місачкі, і ўсё.

Рос ён, як звер: і выкладаць, і зацягваць дрот у лыч клікалі ўсягды двух Палюшыных зяцёў. І калоць клікалі іх. Тыя прыйшлі адразу — ніколі не адказваліся. Калолі ўтрох, Палюшыны зяці і ён, Жаваранка. Кланя ўцякла з двара ў хату. Занясла толькі ў хлеўчык місачку з цестам, падсунула парсюку пад нос, пагладзіла па спіне, а сама — рукамі за фартух і скарэй у сенцы... Пасля ўжо, калі парсюк ляжаў, выцягнуты з хлеўчыка на двор, на снег, і яго трымалі, стоячы па баках, прыгорбіўшыся, мужчыны і ў парсюка ў грудзях торгалася чорнае доўгае шыла — лучыла ў сэрца,— Кланя вынесла на двор засланку з жарам і з галавешкамі.

Палюшыны зяці пайшлі адразу з двара: асмаліць ён сам, тады зноў клікне ўносіць у хату — падбягуць. З Кланяй удваіх такога не завалачэш...

Кланя бразгае вёдрамі ля студні: набірае вады — трэба ж будзе ўсё ўпарадкаваць; трэ вочы рукамі ад дыму, як усё яшчэ плача. Да яго не падыходзіць — занята ля печы. Гарыць ужо ва ўсіх вокнах агонь — перанесла лямпу да стала; чувацъ — ссоўвае пасярод хаты лавы: трэба ж на нешта палажыць такую гару... З коміна пахне дымам ад сасновых дроў; зверху пацерусіў дробны сухі снег, клаўся на каўнер, на рукі, на плечы; памякчэў мароз. Адзываюцца ў хлеве за сцяной куры, крычыць збіты з толку певень, лопаючы крыллем. Стукае рагамі аб драбіну карова, рвучы прывязь,— чуе кроў.

Дагарэла салома; Жаваранка зноў скроб нажом зверху са спіны і з бакоў смаль, адкідваючы яе з нажа далёка на снег. Убачыў, як, уціснуўшыся праз паркан, сеў пад асвер на снезе чорны Палюшын сабака. Разявіўся, выставіў язык і глядзіць на агонь — чакае. З рота ў яго валіць пара.

Цяпер трэба брацца за кулявую салому і вадзіць вехцем з агнём, трымаючы яго ў руках, вадзіць ля ног, ля вушэй, ля лапатак, дзе тырчыць вострая, кароткая натапыраная шчэць. Трэба будзе ісці па тры, па чатыры разы з агнём, укленчыўшы, пакуль пад рукой не будзе чуваць калючак, пакуль бакі не стануць гладкія, як гарбуз з град.

Кулявую салому ён усягды запасаў летам: папрасіўшы ў брыгадзіра «снапы са два» і ключы ад пуні, ішоў, залазіў на верх на сцірту, браў сноп за камель, абіваў, сцёбаючы па бэльцы; пасля, узяўшыся за пустыя каласы, атрасаў дробную неабмалочаную салому ў снапы. На добры куль ішло снапы тры. Ён звязваў яго перавеслам, асцярожна злазіў са сцірты і нёс дамоў з фермы гародам на плячы. Куль ляжаў на вышках у хлеве да першых маразоў, калі пачыналі ў вёсцы калоць свіней.

З вышак яго ён дастаў учора вечарам, каб не лезці доднімцай з агнём, і куль, развязаны, ляжаў цяпер ля хлеўчыка і блішчаў ад агню жоўтымі іскрамі, аж пераліваўся.

Кулявая салома гарыць спорна: спраўляйся толькі вадзіць. Баляць у каленьках ногі, ныюць рукі, горача ад агню ў шчокі. За плечы пад рубашку лезе холад, не трэба было скідаць кажух; ад дыму есца ў вочы, хоць тры іх

кулаком, як дзіця. І за кожным разам бяры ўторкнуты ў снег нож і скрабі рудыя бакі.

Перавярнуўшы парсюка на спіну, трэба будзе яшчэ раз пачынаць усё спачатку. Пасля, калі кончаць смаліць, Кланя прынясе з хаты ў вядры гарачай вады. Ён будзе скрабці нажом бакі, а Кланя змываць гар, пакуль парсюк не стане жоўты, як вымыты ў суботу стол.

Палюшыны зяці памогуць перанясці яго ў хату і падняць на састаўленыя лавы. У парсюка адрэжуць спачатку галаву і спусцяць у драўляную даёнку кроў, тады пачнуць, закасаўшы рукавы, разбіраць. Разбіраць будзе ён сам. Кланя толькі паможа. Ён будзе стаяць, сагнуўшыся над лавамі, падвязаны фартухом, з вострым нажом у руках, а ў печы, далёка ў куце, будуць гарэць адсунутыя качаргой галавешкі і ля іх сквірчэць свежае сала на дзвюх вялікіх патэльнях: прыйдуць Палюшыны зяці. Кланя, не чакаючы, адрэжа круг ад свіной галавы, ля карку, пасоліць, пасыпле натоўчанай учора ў маленькай ступцы закрасай, і ад гарачай каляндры з печы будзе зрываць нос...

Перавярнуўшы з Кланяй парсюка на хіб, ён зноў накрывае саломай: пласціць граблямі ў хлеве на праціўні, носіць і кладзе, як у капу.

Зноў загараецца салома ад вехця, цьмяна асвяціўшы двор: віднее. Ужо знаць паркан у гародчыку і лес далёка ля Пагурка. Пагусцеў снег, сыплецца разам з крупамі. З поля ад ям дыхнуў сухі вецер; полымя, змяніўшыся, зноў хапае за шчокі. Жаваранка чуе, як скорчыліся ля вуха валасы, і закрывае рукамі вочы... Горача ў рукі і холадна ззаду ў спіну... Трэба накінуць на плечы кажух...

— Яхрэм...— кліча яго з сенцаў Кланя.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца свяціла якраз у твар, грэла — узышоўшы, стаяла над Рабым Калодзежам: над сіняй палоскай далёкага лесу,— і Жаваранка адразу ніяк не мог злавіць у памяці, чаму яго кліча Алёша і чаму ён, Жаваранка, ляжыць распластаны на халоднай і цвёрдай, як гліняны ток у пуні, зямлі. Чуў, што яго разламала ўсяго, як усё роўна ён складзены з кавалкаў: ногі, налітыя воламі, не адарваць ад зямлі — самі сабе; рукі — як хто распяў — не скрануць з месца; адзервянелі плечы і спіна, і калі ён намагаўся зварухнуцца, у крыжы бегалі халодныя калючыя мурашкі...

Ён, лежачы, бачыў толькі сонца і поле — шырокі папар. На папары парос высокі рудзік — цвіў рыжым цветам. На ім, на густых галоўках, вісела буйнымі кроплямі ранішняя раса і бліскучыя, сівыя ад расы кружкі павучыння, — на даланю — паўгіналіся ямкамі. Поле ад сонца і ад рудзіку зрабілася чырвонае, нібы скрываўленае. За ім было высокае чыстае неба, бы летам у касьбу...

Недзеляскатала, як ляскочуць дома на загуменні, на дарозе калёсы на жалезным ходзе. Калі яны аціхалі, здавалася, чуваць было, як у вёсцы клеплюць косы...

Тады Жаваранка падумаў, што па яго забегся Алёша, яны разам паедуць на луг да Віліі — касіць. Стаіць у парозе, мяняючыся з нагі на нагу: высокі, роўны з вушаком, выцягнуўся, пайшоўшы ў бацьку, у чорнай картовай рубашцы, падымае ўсё ўгару руку — гладзіць валасы: яны адраслі і рассыпаюцца ў яго на галаве на рад, міргае вачыма і цягне да сябе носам. Нос у яго прамы, ладны, і калі Алёша гаворыць, чуваць, як гамзае ў нос.

Луг далёка ад вёскі, вёрст пяць. У Венеры ўсягды пачынаюць касіць на лузе, збіраюцца і выязджаюць туды кожнае лета ўсёй вёскай на два тыдні. Едуць перш-наперш мужчыны: касіць; праз дзень-два пад'язджаюць жанчыны: разбіваць скошанае і валіць у валы.

На луг пачынаюць збірацца за дзень, за два. У вёсцы мужчыны бяруцца агледжваць косы: дастаюць іх з вышак, дзе яны зімавалі пад страхой, павешаныя па дзве, па тры на ключ, і выціраюць анучамі ад іржы. Стукаюць малаткамі па баньках — асаджваюць новыя косы, выбраныя яшчэ з вясны ў Горне ў магазіне, прывезеныя і пакладзеныя на воку; шукаюць, паракідваючы за шафарнямі ў сенцах жаляззё, бабкі; заганяюць іх у калодкі на двары пад падстрэшкамі, падвязваюць косы і садзяцца на маленькія зэдлікі, падкінуўшы фуфайкі, кляпаць. Б'юць малаткамі спачатку па бабцы, пакуль не злоўчацца і не адаб'юць іржу, тады кладуць асцярожна на бабку касу і пачынаюць стукаць, памаленьку — развучыліся за зіму — пасля, насвініўшы малаток, б'юць смялей, плешчуць, як з-за вуха, ляціць толькі на калодачку і на калені зімовая ржа. Косы клеплюць звечара, клеплюць додніцай, да ўсходу сонца, клеплюць, паснедаўшы аж да палудня — па палудні паедуць на луг. Клепле ён, Жаваранка; цераз вуліцу — стары Ляшковіч; клеплюць аж у два малаткі Палюшыны зяці; клепле стары Язэп, брыгадзір Аляксандра Лязёнак, у Александрыны на двары стукае малатком

Алёша. Вёска клепле косы цэлыя суткі, па дзве, па тры на хату; з двароў сыплецца дробны стук, аддаючыся водгаласкамі за пунямі на загуменні і на бульбяных ямах. Ад стуку злятаюць з гнязда бацяны і кружаць, падняўшыся ўгару, над вёскай.

Звініць у кузні кавадла; на ферме сцягваюць і ставяць у рад калёсы; выносяць з кладоўкі хамуты з дугамі і прыстаўляюць да аглабень; грузяць на пярэднія падводы чорныя, абгарэлыя спаднізу два вялікія катлы, мяхі з крупамі, з бульбай, з напечаным хлебам — круглымі вялікімі буханкамі. Пакінулі на ферме ў хлеве двух бараноў, не пагналі ў поле са скацінай — павязуць на луг; складаюць тапары і пілы — рэзаць і секчы дровы і рабіць будкі. Будак трэба наставіць многа: на касцоў і на грабельніц...

Бразгаюць вароты кручкамі; скрыпяць, не сціхаючы, асверы ля студняў; гамоняць на ўсю вёску мужчыны; крычаць дзеці, носяцца па вуліцы, як ластаўкі перад дажджом, чуючы радасць; іржуць коні на выганчыку за ракой — звініць уся вёска, разбуджаная яшчэ водніцай, узварушаная спрадвечнай летняй мітрэнгай, каб пасля аціхнуць, апусцець на цэлыя тыдні...

Бегае па хаце Кланя, парадкуючы яму з сабой торбу: паклала хлеб, масла ў слоіку, зняла з вышак падвешаную на лыку да страхі сухую кілбасу — пахне на ўсю хату; адрэзала кавалачак кумпяка — мала што там будзе ў катле і каша, і бараніна; паклала на зменку рубашку; пазбірала разам сцябачкі, брускі, лыжку, нажык — усё, без чаго не абысціся; вынесла на двор і павесіла на частаколе Носівую суконную бурку — накрывацца ноччу ў будцы. Ночы на лузе халодныя; пад раніцу акалець можна, калі не зарыешся ў сена ці не накрыешся адзежынай.

На ферме ржуць коні; крычыць на вуліцы брыгадзір — кліча. Мужчыны ідуць дарогай па загуменні з косамі і кажухамі на плячы; гародамі, пералазячы праз платы; вуліцай, чапляючыся косамі за вішняк ля парканаў,— валяць валам на дзядзінец да фермы...

Сонца апусцілася з паўдня, на небе ні хмаркі. Стала на пагодзе: пачынай работу — і спраўляйся, як спраўляліся спрадвеку бацькі і дзяды...

З фермы крануліся першыя падводы; у грумадзе ля калёс пайшоў старшыня — Папок; пасля падводы выцягваюцца адна за адной па дарозе да ям, у вілы, у доўгі абоз.

Жаваранка з косамі на плячы і з буркай, перакінутай



Іван Пташнікаў (стаіць трэці злева) у часопісе «Полымя» сярод супрацоўнікаў і аўтараў. На здымку (злева направа) Мікола Хведаровіч, Вячаслаў Адамчык, Кастусь Пуроўскі, Андрэй Александровіч, Анатоль Вялюгін, Васіль Хомчанка, Ян Скрыган, Барыс Сачанка, Рыгор Шкраба, Іван Чыгрынаў, Анатоль Вярцінскі і Раман Тармола.
*1963 г.*

цераз руку,— напакаваная торбачка на касільне за спінай — пералазіць цераз плот і ідзе гародам баразной між бульбоўніку на ферму, дзе яшчэ гамоняць ля студні мужчыны: палезлі па ваду, задзёршы ўгару асвер,— ніяк не могуць напіцца на дарогу.

Да вечара будуць на лузе; прыедуць перад захадам сонца. Брыгадзір адразу вылучыць мужчын рабіць на беразе ракі будкі: стаўляй дзядкі, як на хаце, кладзі наверх матачыну, на яе ключы, латай, як страху, і валі наверх альховае галлё. Пад ніз, на зямлю, падкінуць укошанай травы; саграючыся, яна будзе пахнуць свежым мурагом усю ноч...

Астатнія, пасцябаўшы косы, адразу разыдуцца па лузе і пагоняць першыя пакосы ад ракі да лесу, за якім будзе вісець чырвонае на захадзе сонца. І першы ў пакосе, беручы на далёкую бярозу за лучкай, будзе ісці ён, Жаваранка, як ішоў кожнае лета. Бо ў яго старая, яшчэ бацькава, каса-васьміручка, якой не было скосу, якая грызла і сівец, і дубцы, як шалёная; з ім ніхто не мог справіцца, і яго ўсягды пускалі наперад. Нават ідучы ад лесу назад да ракі, калі яму трэба было рабіць склад, адкідаючы назад пакос, калі трашчала касільно і пачынала балець на жываце з непрывычкі скура, яго ніхто не мог дагнаць: ні Палюшыны зяці, ні брыгадзір Лязёнак.

Касіць яны будуць аж дацямна, пакуль не ляжа на луг густы туман. Тады, намыўшы ў цёмнай глыбокай вадзе ў рацэ косы і выцершы іх дасуха травой, сыдуцца на беразе ля будак да агнёў, якія будуць гарэць пад чорнымі вялікімі катламі, пасядуць на беразе, аціхлыя пасля першых пакосаў, будуць церці змазоленыя далоні, разгінаць, выцягнуўшыся на траве, памлелыя спіны. Чакаючы вячэры, будуць ціха гаварыць і слухаць, як шваргочуць у тумане ў затоках дзікія качкі і булькоча на паваротах па каменні рака...

Далёка над лесам, у бок Пячнога, узыдзе поўня, круглая, ціхая; ад яе заблішчыць рака і пабялее туман. Поўня ўсю ноч будзе лезці ў вочы праз рэдкае альховае лісце ў будцы і не даваць заснуць; схаваецца за лес толькі раніцай, калі, вылезшы з будак і накрыўшы ад холаду плечы кажухамі, будуць кляпаць на беразе ў лазе косы.

Пасля, калі сходзяць ад ракі да лесу па тры разы, змокнуць ад расы па пояс і памочаць потам рубашкі на плячах, за Віліёй, над далёкай сіняй паласой лесу выскачыць сонца, вялікае, чырвонае, і сцебане па вачах...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ускочыўшы з зямлі і сеўшы, Жаваранка схапіўся за аўтамат — аўтамат ляжаў збоку на сыпучым жоўтым пяску, прыгнуўшы верас. Пасля ўжо глянуў на Алёшу.

Алёша падсунуўся да яго бліжэй і глядзеў у вочы, неяк асцярожна, як не пазнаючы. Жаваранка падумаў, што хлапец асунуўся за гэтыя дні, што ў яго выцягнуўся нос і ўваліліся вочы, пасвятлелі, сталі блакітныя, як у дзяўчаці, хоць глядзі на іх. Пасля начы хлапец быў нейкі натапыраны ўвесь, як шашок; сядзеў, торкаючыся і азіраючыся на дарогу на Пячное.

— Жывы... Чорт мяне не возьме... Кантузія ўсё. Ляжу, хачу падняць рукі — і ніяк... Чую, што адубеў увесь... І вачэй не адплюшчыць. Ломіць усяго... Затое адлежаў... На ўсю блакаду адаспаўся... Былі б ужо за Дзвінасой... Што гэта там? — Жаваранка паказаў рукой на маяк.— У вачах скача...

— Самалёты... Усю раніцу... Як каршуны... Агонь ліюць... Валіцца зверху на зямлю, відаць нават, як хліпае...

— А ў Пячным што? Што ля дарогі?..

— Усходам сонца немцы зняліся. У Пячным чуваць была кароткая аўтаматная страляніна. Немцы, відаць, пайшлі адразу...

— Значыць, брыгада адступіла за Дзвінасу...

— Дарогай ідуць машыны. На Пячное...

На дарозе чуваць быў прыглушаны лесам гул — ішлі цяжка нагружаныя машыны. Там, дзе дарога падыходзіла да поля, угары вісеў пыл.

Сонца паднялося над лесам, пачало прыграваць. Пахла вільготная зямля. Над пустым і шырокім, як схапіць вокам, полем дрыжала смуга, як усё роўна церусілася на жоўты ад рудзіку папар. З-за Віліі на Рабы Калодзеж ішлі нямецкія самалёты, ляцелі над самым лесам — тры, астатнія шэсць трохі воддаль і вышэй — скіравалі якраз на сонца, і здавалася, што яны гараць у агні. Над маяком яны пачалі рабіць круг і, завярнуўшыся, нырнулі на далёкі сіні лес — на Дзвінасу. Чуваць было, як за лесам глуха рвуцца бомбы.

— Пераправу бамбяць... З Буслава з аэрадрома падымаюцца... Вот так, хлапец...

Самалёты акручваліся над Пячным і зноў доўга віселі ў небе над далёкім лесам. Там чуваць была несціханая кулямётная і вінтовачная страляніна: то глушэла, далеючы, то ўсчыналася недзе зусім блізка, ядраная, густая.

з самалётаў зноў падаў на зямлю агонь: плыў, разліты, як смала, за лес, нехаця, нібы за што чапляючыся, і ад таго трывожна рабілася на душы: ніколі такога не бачыў.

Жаваранка стаяў на каленях, апёршыся рукой на аўтамат, на цвёрдай баравой зямлі ля поля, парослай верасам і канюшынай, і глядзеў, не зводзячы воч, у бок маяка на Дзвінасу, дзе віселі самалёты. Адубелы ад сырой зямлі пасля начы, сціснуты недзе глыбака ў плячах, як усё роўна запаленнем, ён думаў, што не ўстане. Думаў яшчэ, гледзячы ў бок маяка на Дзвінасу, што першы раз бачыць, каб на зямлю зверху лілі агонь. За гэты час перарылі яе снарадамі і мінамі, а цяпер ліюць агонь — паляць. Чуваць яшчэ гар з Пячнога, датляваюць недзе галавешкі, а ўжо гарыць Дзвінаса. З-за лесу, над якім вісяць чорныя дробныя самалёты, угару падняўся бурымі ад сонца клубамі дым, высака, здалёку здаецца — уровень з маяком. Клубы дыму расцягваюцца над лесам, набракаюць чырванню і засцілаюць увесь край неба... Грукае і грукае ў тым баку без аддухі, чуваць, як немцы б'юць па Дзвінасе з Пячнога з гаўбіц: і па вёсцы, і па пераправе, дзе за ракой акапаліся партызаны. Гаўбіцы глуха крэкчуць за маяком, ад іх аж стогне поле. Немцы паляць, сціскаючы з бакоў, кавалак зямлі за Дзвінасой, куды адступілі і катоўцы, і «Барба», і «Мсціцель», і «Дзядзя Вася», і іхняя брыгада — кутузаўцы; куды хлынулі ўсе вёскі, пачынаючы ад Віліі,— Жары, Двор, Венера, Пячное... Са старымі і дзяцьмі, са скацінай, з усім тым, за што чапляецца абедзвюма рукамі вясковы чалавек. Там недзе і Кланя з Антунінкай на руках, калі яшчэ жыва... Бяжыць за імі з торбачкай у руках Валодзя, падае на дарозе ў пыл, падымаецца і зноў бяжыць, даганяючы: у пяску, у крыві...

Маленькі чалавек на вялікай зямлі, на якой няма месца, на якую зверху ліюць агонь...

Сцяўшы зубы і апёршыся абедзвюма рукамі на аўтамат, Жаваранка доўга падымаўся на ногі...

— Баяўся, што не ўстану...— сказаў ён, выціраючыся ад халоднага поту, які градам пасыпаўся з ілба.— Запомні, хлапец: дабрацца праз Рабы Калодзеж за Дзвінасу ў брыгаду і далажыць Рудаву... Кроў з носа, а дабрацца і далажыць... Немцы ідуць цяпер толькі дарогай. Трэба ісці на прарыў, тут, на Дзвінасе, не чакаць, пакуль запруць усіх на Палік... Ззаду яны ўжо не пойдуць, няма ў іх часу. Ты чуеш, як грыміць зямля, якраз там, дзе сонца ўзы-

шло... Дзе Віцебск... Фронт... Мала дней асталося. Скора ўжо...— Жаваранка цвёрда апёрся на ногі, вешаючы аўтамат на шыю.— Людзей ратаваць трэба... Гэтулькі сагналі... Дзікі, гаворыш, бягуць... А там жа людзі... Дзеці... Вёска пайшла з нажылога месца, на смерць пайшла... А калі знікае вёска — знікае з зямлі хлеб... Скора кончыцца вайна, і будзе голад, бо няма вёсак: спалены, раскіданы, перабіты... Трэба будзе збіраць па чалавеку, па каласку, па зярняці...

Алёша стаяў побач і качаў па сіўцы, прыціснуўшы нагой, зялёны нямецкі кацялок.

— Каша... Грэцкая... З пяском...— сказаў ён.

— Вазьмі. Пасудзіна. Вады з балота выціснеш...

— Выцісну, прыгаршчамі... Бразгаць толькі будзе.

Жаваранка пачуў, як запахла грэцкай кашай, халоднай,— так пахла дома ўчарашняя, калі аставалася ў палудні. Падумаў, што хочацца есці: падцягнула жывот, аж млосна, што не помніць ужо, калі еў. У сумцы з патронамі ляжалі сухары. Асталіся засыпаныя ў акопе...

— Пойдзем бярэзнікам. На Рабы Калодзеж. Балотам выйдзем на луг да Дзвінасы — да ракі... Вот так, хлапец...

— Не прарвёмся... Пакуль зробім круг, немцы будуць за Дзвінасой.

— А хрэн у сумку, каб сухары не цёрліся... Там гэтулькі брыгад...

Алёша смяяўся ціха, хлебястаў, як малады бацян на гняздзе, адкідаючы галаву. Упалыя вочы ў яго заблішчалі абмытым свежым блескам. Павярнуў на грудзях аўтамат ствалом уперад, адкінуў далёка назад за спіну сумку, паправіў, расшпіліўшы пінжак і рубашку пад дзягай — на дзязе глуха бразнулі дзве эфкі, адна аб адну, як камень аб камень. Новенькія, чорныя, як жукі, у глыбокіх рубцах...

Жаваранка пайшоў наперад, цяжка ступаючы па бугрыстай ад сіўцу цвёрдай зямлі, чуць перастаўляў ногі; чуў, як ад хады грукае ў галаве, як шастаюць у верасе боты. Зняў з шыі аўтамат і ўзяў у левую руку.

Ішлі бярэзнікам, з краю; за ім адразу пачыналася поле, шырокае і чыстае. Ішлі ціха — Алёша быў ззаду, крокаў на пяць,— спыняліся і слухалі. У бок Дзвінасы кіпела, як у катле, там стаяў густы гул: прыглушана адзываліся кулямёты, як усё роўна хто сыпаў з плячэй з меха бульбу ў глыбокую загарадку; зноў сталі біць гаўбіцы ў Пячным.

Спусціліся ў лагчыну. Запахла вільгаццю: блізка была імшара. Парадзеў бярэзнік, лягчэй стала ісці. Пад нагамі былі відаць зачарсцвелыя на гразі сляды дзікоў: вялікія і дробныя. Па халявах засцёбала высокая папараць, мочачы калені. Нагнуўшыся, Жаваранка падняў з-пад папараці раскіслую ад дажджу старую суравежку; яна расціснулася ў пальцах на мякаць; жоўтая каша была вадзяністая і праціўная — Жаваранка выплюнуў яе і абцёрся даланёй.

У старых соснах спатыкнуўся, ступіўшы на кучу шышак.

Шышкі былі ашчэраныя, лёгкія — разляцеліся з-пад ног далёка ў бакі.

— Сталоўка... Дзяцел жыраваў, маць яго так...

Пахла смалой, сырым апалым лісцем і грыбамі.

Ішлі вярсты паўтары. Падышлі да поля проці Рабога Калодзежа. Цераз поле з-за Віліі ў Пячное вяла шырокая ўезджаная дарога, спускалася з гары, крыўляючы ў сосніку, і жаўцела здалёку ад пяску. Да яе, ідучы наўскасяк з узлесся, далучалася другая, вузейшая, якая ішла з Венеры і на якую ўчора надвечар павярнулі нямецкія машыны ад ям. Па ёй немцы прарываліся ў Пячное.

Доўга глядзелі на дарогу — на адну і на другую; здавалася, было ціха.

Перабеглі тады, сагнуўшыся, цераз вузкую жыліну ў бярэзнік, які рос уперадзе, проці Рабога Калодзежа,— бегчы цераз дарогу і цераз Рабы Калодзеж адразу не рашыліся. Пападалі ў бярэзніку ў высокую мятліцу, каб аддыхацца, і глядзелі ўсё ў бок дарогі.

Бярэзнік на полі рос у нізкім, мокрым месцы, з балотцамі, пераплецены густой старасвецкай лазой, перамешаны з пад'ялеўцам і ельнікам; з краю круга яго падняліся высака ўгару рослыя асіны — лапаталі ад ранішняга халоднага ветру. Кара на асінах, пасечаная кулямі, вісела ашмоццем.

З-пад асін з мятліцы добра была відаць на полі дарога, на ёй нават можна было пазнаць глыбокія сляды ад машын. За дарогай зелянеў Рабы Калодзеж: доўгая палаcа высокага мячэўніку — аеру. Ад ветру па ім хадзілі то цёмныя, то светлыя палосы, што на полі па жыце.

Жаваранка ўспомніў, як усягды ў суботу, варочаючыся з поля ад Рабога Калодзежа дамоў, ірваў мячэўнік, высокі, у рост чалавека, зялёны, з доўгім белым у чырвоныя палосы коранем, рваў цэлы сноп і нёс пад пахай дамоў,

карэннем уперад. Не клаў нават на снапы на калёсы, каб не ўкачаць у асцё. Калі прыходзіў вечарам дамоў, Кланя канчала мыць у хаце падлогу — выцірала мокрай анучай у парозе. Вышараваная гальнікам падлога была як жаўток; на яе праз акно ад вуліцы свяціла нізкае на захадзе сонца — лягло вялікім квадратам, у якім калыхаўся цень ад бэзу цёмнымі разгатымі галінкамі. Жаваранка стаяў у сенцах з пугай у руцэ і мячэўнікам пад пахай; Кланя слала мокрую анучу ў парозе на падлогу — выціраць ногі, адгіналася, брала ў яго з-пад пахі мячэўнік, клала спачатку на зэдліку ля стала, даставала з шуфляды ножніцы і, узяўшы са снапа дудкі, пачынала стрыгчы, стоячы на жоўтым квадраце,— цень ад бэзу калыхаўся ў яе на босых нагах... Стрыгла зверху на дробныя зялёныя кавалачкі, якія, адскакваючы, разляталіся з-пад ножніц па ўсёй хаце: пад стол, на лавы, на куфар, пырскалі ў кут на ложак, сыпаліся на жоўты квадрат — на ногі.

Жаваранка стаяў, пакуль Кланя не састрыгала ўвесь сноп. Жоўтая падлога, усыпаная зялёным мячэўнікам, усё роўна як падымалася ў хаце вышэй на легарах; ад яе пахла свежа і востра, як пахне скошаная ў балоце зялёная рабінка, лягчэй рабілася дыхаць; жоўты квадрат ужо свяціў у самы парог, пад ногі, чысты, як стол; на яго боязна было ступіць, і Жаваранка, глянуўшы на свае чаравікі, запыленыя па костачкі, варочаўся на двор да студні і, разуўшыся, мыў на падарожніку ля паркана ногі вадой з вядра, халоднай, аж калола ў галаву. Стаяў пасля на мокрай траве і чакаў, пакуль Кланя не прынясе з сенцаў вялікія, ад валёнак, галошы...

...За дарогай, за мячэўнікам, пачынаўся пагорак, парослы маладым соснікам. Здалёку была відаць на схіле барвая зямля — жоўты пясок. Жаваранку здалося, як усё роўна там бліснула цьмяна на сонцы жалеза. Ён доўга глядзеў на дарогу ў мячэўнік, які блішчаў на сонцы і куды трэба было ісці.

Алёша адпоўзся ўперад; паправіўшы збоку сумку і паклаўшы перад сабой аўтамат, паказаў рукой на поле — перад сабой. Поле ля бярэзніку ад дарогі было здрабежана нагамі: утоптаны ў зямлю, пагнуты рудзік на папары; сплясканая, як на таку, ралля — круглымі латочынамі; відаць былі здалёку вузкія сляды ад матацыклаў. Жаваранка падпоўз і лёг побач з Алёшам.

— Немцы... Былі ўчора. Сляды свежыя... Асцярожна, хлапец... Без мяне не лезь...

Над Віліёй у небе загудзелі самалёты. Ішлі якраз на бярэзнік, па тры ў радок, касяком. Калі былі над галавой, прыплюшчыўшыся, можна было згледзець жоўтыя кончыкі ссечаных уперад крылляў. Гудзелі самалёты цяжка, суха; над Пячным за маяком паварочвалі ўлева, задзіралі ўгару крыло і падалі, як лянівыя каршуны, на далёкі лес за Дзвінасу. Ад гулу звінела ўвушшу; вухалі пасля глуха, рвучыся, бомбы, і тады не чуваць было, як б'юць з Пячнога нямецкія гаўбіцы. Над Дзвінасой высака падняўся дым, пад ранішняе сонца — зрабіўся буры, пабялеў зверху, як воблакі. Самалёты, акручваючыся над Пячным, губляліся пасля ў дыме, і невядома было, куды яны адлятаді: назад над полем не варочаліся, ляцелі, відаць, другой дарогай — над полем лёталі толькі бамбіць, падняўшыся з-за Віліі, з аэрадрома ў Буславе.

Самалёты бамбілі Дзвінасу ўжо трэці раз.

Дарогай з лесу ад Віліі пайшлі машыны. Паказаліся з сосніку на гары і пасунуліся адна за адной у лагчыну — да Рабога Калодзежа. Наперадзе — Жаваранка толькі цяпер згледзеў — паўзлі, падскакваючы, матацыклы: тры. За імі — маленькая, прысадзістая легкавая машына, як наша «эмка», ківалася з боку на бок і бліскала шклом на сонцы. За ёй ішлі крытыя брызентам машыны — аж сем. Падымаючыся ад Рабога Калодзежа на гару пад маяк, яны раўлі, як самалёты. Дарогай паплыў пыл, густы, сівы, высака, уровень з соснікам — відаць, учора тут не было дажджу; ветрам яго гнала на поле пад бярэзнік, і Жаваранка пачуў, як пахне дымам. Дым цягнула яшчэ з Пячнога, з пажарышча, яго цягнула з туманам на поле ўсю ноч: ён чуў, калі сніласяя, што на двары пад асверам гарыць салома.

— Хлапец... Запомні... Без мяне — ні аднаго патрона...

— Лезуць і лезуць. І з Венеры, і з-за Віліі...

— На злом галавы... Не думай...

Машыны больш не ішлі. Сціхлі ля Пячнога гаўбіцы. Недзе далёка ныў самалёт; неба над Дзвінасой зацягнула дымам, як сівымі хмарамі. Ля Рабога Калодзежа вісеў пыл, сцягнуўшыся ў сырую лагчыну.

Здавалася, што над полем позняя восень.

Жаваранка, падняўшыся на калені, кіўнуў Алёшу галавой у бок Рабога Калодзежа:

— Падыдзем на край. Возьмем правей і паглядзім за дарогай. Не люблю я нешта мячэўніку. Блішчыць. Вада так не блішчыць. Як шкло на сонцы... І пясок жоўты на

гары як усё роўна варушыцца. Ты нічога, хлапец, не відзіш?

Яны працісну́ліся праз лазу, якая расла на крушнях камення. Крушні былі шырокія і доўгія, каменне сюды, на непатрэбны кавалак зямлі, звозілі з усяго поля, ачышчаючы гадамі; праз яго, рассоўваючы, парасла лаза, сухая, чэрствая, здзічэлая.

Саскочылі з высокай крушні ў мятліцу і схапіліся абодва за аўтаматы. З чыстай латочыны пасярод бярэзніку, з сіўцу, узляцелі вароны, шэрыя, цяжкія, цэлай кучай. Абляцеўшы дробны бярэзнік, паселі высака на асіны — абляпілі плоймай — і, асцярожна варочаючы галовамі, глядзелі ўніз на зямлю.

— Сарваліся...

— Асцярожна, хлапец... Ляжыш і не ведаеш, што за кустом...

Сагнуўшыся, прайшлі чыстай латочынай — яна цягнулася паласой на поле. На ёй была здрабежана мятліца; белы сівец павыдзіралі жывасілам — па ім нешта цягалі. Дзяцельніца была ўсыпана як усё роўна пілавіннем з асіны. У камлях, нізка, у пояс чалавеку, асіны былі пасечаны кулямі: паадлятала кара; паўставала дыба, нібы шчэць, белае пажваканае дрэва — шурпатае, калючае, не даткнуцца. Далей, пад поле, белую латочыну сіўцу падрылі міны: адна ля адной чарнелі неглыбокія варонкі; сівец пазасыпала шэрым падзолістым сіпаком.

— Учора быў бой... Брыгадная разведка ўзяла ўсё на сябе... Тое, што мы павінны былі ўзяць, калі б немцы не павярнулі на Рабы Калодзеж... Вот так, хлапец...

Каля самага поля, процi Рабога Калодзежа, у дробным бярэзніку чарнела доўгая траншэя, глыбокая, чалавеку па грудзі, зігзагамі — такая, як і перад Партызанскімі лагерамі ў бары. Сівы сіпак на брустверы быў прыкрыты зверху дзерняком і сіўцом — капалі траншэю загадзя, чакаючы немцаў. Жаваранка падумаў, што гэта самае зручнае месца на полі: высокае, схаванае кустамі, адгэтуль добра відаць дарогі і з-за Віліі, і з Венеры; што разведка ззаду была прыкрыта Пячным, у якім стаяла брыгада; адступіць адгэтуль было зручна — на маяк.

Ля траншэі была вытаптана зямля, валяліся стрэленыя гільзы: у кутку вінтовачныя, горкай, відаць, ад ручнога кулямёта; удоўж траншэі па берагах — аўтаматныя, жоўценькія, з чорнымі палоскамі спераду; блішчалі на сонцы густа, як рассыпаныя з меха. Бразджэлі дробнень-

ка пад нагамі, калі Жаваранка хадзіў, падскаквалі, падалі глыбака на дно ў траншэю і звінелі — і там іх было як насыпана.

Ззаду за траншэяй, пад маяк, сівец быў пакрыты неглыбокімі ямкамі — невядома было, рваліся міны з лёгкага мінамёта ці кідалі гранаты,— і ўвесь быў чорны, усыпаны варонамі. Вароны сядзелі на зямлі густа, адна ля адной, пагінаўшы галовы і растапырыўшы крылле — збіраліся ўзляцець і чакалі, не баючыся людзей.

Зашапацела глухім праціўным шорахам крылле — вароны ўзляцелі нехаця, калі Жаваранка ступіў да іх; падняўшыся, закружыліся над асінамі, як на згон зімы ў вёсцы на загуменні. Адляцеўшы, паселі воддаль на папар — у чырвоны рудзік.

Жаваранка не чуў, як яны крычаць: стаяў і глядзеў на белы сівец, утаропіўшыся, а ў нагах рабілася холадна, як ад ледзяной вады...

Наперад забег Алёша і адразу абышоў круга чорнай латочыны на сіўцы... На ёй ляжалі ў рад людзі, блізка адзін ля аднаго. Дагэтуль яны былі абleплены варонамі, і Жаваранка іх не згледзеў.

Яго клікнуў да сябе Алёша. Падышоўшы, сам не ведаючы чаму, Жаваранка адразу палічыў людзей:

— ...Адзінаццаць... Дванаццаць...

На зямлі, на белым сіўцы, ляжала дванаццаць чалавек — тварам угару. Усе да аднаго былі раздзеты да пояса — і босыя. Голае цела — грудзі — ім спаласавалі накрыж нажамі — не знайсці жывога месца; з грудзей сцякала на зямлю кроў: запяклася чорнымі палосамі. Над сіўцом звінелі мухі.

Жаваранка толькі цяпер згледзеў, што ва ўсіх выкалаты вочы: на тварах у людзей былі глыбокія чорныя ямы; на дне ў іх запяклася кроў. Кроў запяклася і на шчоках — густымі пырскамі...

Ляжалі яны ўсе галовамі да маяка — да Пячнога, роўненька, як усё роўна выпрастаўшы рукі па швах — так стаяць, выцягнуўшыся ў шарэнзе.

Жаваранка падышоў да першага, нагнуўся, але, не могучы стаяць, апусціўся на калені; пасля павесіў аўтамат на шыю, каб былі свабодныя рукі. Глядзеў на спаласаваны нажом твар, на ямы, дзе павінны былі быць вочы, на вузкі роўны лоб, на якім запяклася кроў, на чорныя бліскучыя мокрыя валасы, адкінутыя назад, і яму спірала ў горле: не глынеш сліны, хоць захлыніся...

Жаваранка пазнаў Геніятуліна.

Адразу паплыла ў вачах вёска... Восень, цёмна на вуліцы, гразь ля платоў, не пройдзеш, не ўзяўшыся за жэрдку; у Галіны Аляксандравай у хаце гарыць апушчаная з бэлькі аж на стол лямпа... Ля стала — відаць добра з вуліцы — Галіна з белай у чырвоныя кветы хусткай на плячах, падпёрла кулакамі галаву... На другім канцы — Геніятулін. Чытае. Ён любіў вечарамі чытаць пры лямпе... Чытае — а Галіна слухае. Маўчыць, гледзячы на яго, і слухае...

Пасля Жаваранка пазнаў Міцьку — ад'ютанта Сашына, начальніка брыгаднай разведкі; Міцька ляжаў побач з Геніятулінын, твар у яго не быў спаласаваны нажом, толькі выкалаты вочы; Міханькова-Дуню — па доўгіх валасах — рассыпаліся па сіўцы, зліпліся ад крыві — і па скуластым шырокім твары: твар зрабіўся суровы і чужы; другіх ён здалёку не пазнаваў.

— Брыгадная разведка...— сказаў ён Алёшу, які падышоў і стаяў побач з ім.— Відзіш, што зрабілі з людзьмі?.. Відзіш, хлапец?..

— Эсэсаўцы...

— Не люблю, хлапец, гэту поскудзь...— Жаваранка сцяў зубы, памаўчаў.— Геніятуліна пазнаеш? Во, самы першы... Яго, відаць, паслаў сюды Ушакоў, калі немцы пайшлі на Рабы Калодзеж. Яго горш як усіх... Горла перарэзалі... Грудзі як струп, месца жывога няма. Бралі, відаць, самага апошняга... А з кулямётам... З яго вострым вокам... Многа ён іх тут палажыў, таму так і азвярэлі... Пазносілі яшчэ... У рад паклалі... Сволачы...

Жаваранка гаварыў, гледзячы на Геніятуліна, а той ляжаў ціха, утаропіўшыся акрываўленымі пустымі вачніцамі ў далёкае чыстае неба над галавой... І ад гэтага мярцвеў язык...

Зноў клікнуў Алёша. Калі Жаваранка падышоў да яго, убачыў патухлае вогнішча на сіўцы. Вецер разнёс попел па траве, але можна было пазнаць, што гарэла адзежа. Відаць, паздзіраўшы з мёртвых рубашкі, немцы скідалі іх у кучу і падпалілі. Алёша падаў з зямлі кавалачак абгарэлай цвёрдай белай паперы, на ёй было знаць чарніла... Немцы выкалвалі вочы і палілі разам з рубашкамі дакументы, каб ніхто ніколі не дазнаўся пра гэтых людзей, што ляглі смерцю ў іх на дарозе, а не саступілі...

Пасля Алёша, сагнуўшыся і пакапаўшы гільзай ад вінтоўкі, падаў кавалачак рукава ад ваеннай гімнасцёркі —

маленькі, шырынёй на два пальцы, чысты, новенькі, як усё роўна не адпалены, а адстрыжаны, з зялёным гузікам, на якім добра быў відаць серп і молат... У Жаваранкі заныла-заныла ў грудзях... У ваеннай гімнасцёрцы ў брыгаднай разведцы хадзіў Шыцікаў... Яго спусцілі на парашуце са спецгрупай у брыгаду «Жалязняк». Ідучы на заданне недзе аж у Аўгустоўскія лясы, спецгрупа трапіла пад Крывічамі ў засаду. Шыцікава ранілі; ён адстаў ад спецгрупы, і яго ўзялі ў брыгаду Кутузава — у разведку. Жаваранка яго добра ведаў — той бываў не раз у яго дома ў хаце. Сядзеў на маленькім услончыку ля печы ў доўгія зімовыя вечары, калі за сцяной шастала мяцеліца,— перад ім вісела спушчаная з-пад столі на дроце лямпа, гарэла чыста: Кланя падліла нанава карасіны і пачысціла шкелку — і гаварыў, цёршы даланю аб даланю і гледзячы на ўсіх вялікімі вачыма:

— Окончится война — приезжай ко мне, Жаворонок, в Ленинград. Свожу в Пулково... Будешь смотреть на луну, вот как на свою лампу...

Шыцікаў быў астраномам.

Жаваранка пазнаў яго — ляжаў на сіўцы крайні з другога боку: высокі лоб, светлыя, як у дзяўчыны, валасы. Не было толькі чыстых вялікіх вачэй, якімі ён усягды ласкава глядзеў на людзей. Іх не выкалалі; іх — знаць было — паролі штыком: раз, другі, трэці... На лбе былі сляды — як ад нажа... Правая рука ў яго ляжала на грудзях, як усё роўна ён захінаўся ад штыка — была ў чорных ад запечанай крыві ранах.

Астатніх васьмі, што ляжалі пасярод, не пазнаў ні Жаваранка, ні Алёша. Спаласаваныя іхнія твары ўздуліся, пасінелі. Невядома было, ці гэта людзі з брыгаднай разведкі, ці, можа, іх, як Геніятуліна, паслалі сюды, пад Рабы Калодзеж, брыгаднай разведцы на помач...

Яны закопвалі іх абодва: Жаваранка кароценькай нямецкай зялёнай сапёрнай рыдлёвачкай, якую ўзяў з сабой з Пагурка, пахаваўшы Ушакова, Алёша — рукамі: ссоўваў з бруствера прыгоршчамі пясок з кавалкамі дзерняку. Закопвалі ў глыбокай, у пахі чалавеку, траншэі, пазносіўшы і паклаўшы ў яе пабітых як мага цясней, каб утоўпіць на дне, каб не класці адзін на аднаго. Засыпалі сырым сівым сіпаком, перамешаным з дробнымі жоўтымі аўтаматнымі і доўгенькімі чырвонымі кулямётнымі гіль-

замі. Гільзы бразгалі пад рыдлёвачкай, звінелі ў яме, лучаючы адна на адну, і Жаваранка думаў, што рыдлёўка ў яго руках закопвае ўжо другі раз магілу...

Міна рванула на полі, пад маяк, метраў за сто ад траншэі... Падняла ўгару траву і чорную зямлю — друзалкамі... Па бярэзніку, па лісці, зафыркалі асколкі.

— І мёртвых баяцца... Капай, хлапец, не пакінем іх, каб дзяўблі вароны...— Жаваранка падумаў, што іх маглі згледзець, што яны, зносячы забітых, доўга хадзілі бярэзнікам, што немцы недзе запомнілі з учарашняга гэты кавалачак зямлі на полі, ціхі і далёкі ад вёсак, парослы бярэзнікам, густым рудзікам і мятліцай, на полі, якое, можа, ад той далёкай пары, як яго раскарчавалі, выпаліўшы лес, і паднялі сахой, не чула ні разу вайны, толькі скрыгат сахі і плуга аб каменне, стук калёс, рык скаціны, іржанне коней ды ядранае лапатанне трактара ціхай раніцай, якое чуваць было аж у Венеры...

— Ад Рабога Калодзежа лупяць, хлапец. З-за мячэўніку. З гары. Згледзелі, маць іх... Азіраюцца назад...

З Пячнога зноў пачалі біць па Дзвінасе гаўбіцы. Чуваць было, як над полем ляцелі снарады і рваліся далёка за лесам. Пасля гаўбіцы ўдарылі бліжэй — з гары за Рабым Калодзежам.

Жаваранка з Алёшам стаялі ля зарытай траншэі, слухалі, як б'юць гаўбіцы і крычаць, носячыся ўгары, вароны, і думалі, што на Рабы Калодзеж да сваіх не прарвацца.

Над Дзвінасой пагусцеў дым — браўся ў бурыя тулягі.

Міны рваліся ў бярэзніку; трэба было адыходзіць...

## 8

Яны ляжалі ў багунніку проці Гарбатага Маста ля дарогі, і Жаваранка зноў чуў, як у яго баляць вочы: зрабіліся гарачыя недзе глыбака пад лобам, не павярнуць, і вядзе галава. Цягне на зямлю — ён клюе носам у прыклад аўтамата, пасля доўга трэ вочы. У галаве цененькі звон, лёгка робіцца ўсяму, і Жаваранка думае, што зноў засне, як ноччу на полі ў верасе. Не аціхае, ные востра ў крыжы; па целе — зверху па скуры — бягуць халодныя мурашкі, колюць гусценька і востра — больш за ўсё ў ногі да калень; пасля ногі пачынае круціць, адну і другую, хоць крычы нема на ўвесь лес. Адпускае; але, пачакаўшы, зноў робішся напяты ўвесь, не дакрануцца да самога ся-

бе, нібыта ты з адных жыл: наткніся на што вострае — разляцяцца напалам...

Сёння раніцай, як разбудзіў Алёша, яшчэ не верыў, што ўсё гэта ад кантузіі, пакуль ля траншэі, калі яе засыпалі зямлёй, не зрабілася горача ў вачах. Ішлі ўзлессем па нямецкіх акопах, варочаючыся назад да Гарбатага Маста, а ў вачах рэзалася, і акопы ён бачыў, як у тумане. Імі было зрыта ўсё ўзлессе, яны чарнелі на полі на папары, з брустверамі, абкладзенымі дзёрнам, глыбокія, хоць дзе ў пояс, з роўнымі берагамі, нібыта іх капалі пад шнур, чыстыя, як падмеценыя венікам. Аж дзіўна было, як гэта немцы, астаўшыся на ноч, маглі так іх парыць. Значыць, аставаліся надаўга, не на адну ноч, калі палезлі ў зямлю, што краты.

Яны варочаліся назад, да Гарбатага Маста, бо ведалі, што нідзе ў другім месцы да сваіх рукой не падасі, што на Дзвінасе бой, што дарогі цяпер няма і на Рабы Калодзеж, што яны, калі немцы пяройдуць Дзвінасу, астануцца глыбака ў тыле — могуць даганяць сваіх да Паліка і не дагнаць. І чым больш думаў пра гэта Жаваранка, тым больш у яго гарэла ўнутры: кроў з носа, а праравацца да сваіх; не можа сам — пашле аднаго Алёшу... Трэба далажыць, што немцы толькі на дарогах...

Можна яшчэ праравацца на Дзвінасу Яськавым балотам за Партызанскімі лагерамі... На балоце было ціха. Балотам далей удвая, да Дзвінасы вёрст дваццаць будзе з гакам. На Партызанскія лагеры бліжэй, але не пойдзеш: замініраваны ў два кругі — і бор, і сам лагер, і дарога да яго. Невядома, пайшлі немцы ў лагер ці не — учора на захадзе сонца бамбілі яго двума налётамі; самалёты ішлі недзе з Найдорфа — мусіць, з Маладэчна, не з-за Віліі, адкуль сёння лятуць на Дзвінасу.

Перад вачыма ўвесь час стаяў Рудаў — камісар брыгады: голеная галава, вочы карыя, добрыя, вусны сцяты, на падбародку маршчыны. Цераз плячо партупея па ваеннай гімнасцёрцы, накрыж на вузенькім раменьчыку — афіцэрская цененькая карычневая, сцёртая па вуглах планшэтка — апушчана збоку нізка, да калена, нібы ён забыўся яе падняць; на грудзях новы аўтамат, як у яго, Жаваранкі, скінуты парашутам перад блакадай.

Знікаў з вачэй Рудаў — адразу паяўлялася Кланя з белым, з абруса, мяшком за плячыма... У мяшку — сухары... Іх сушылі ўсю вясну: малолі ў жорнах жыта, пяклі адумысла хлеб, кроілі на лусты, клалі на бляху і ставілі

ў печ за засланку. Насушылі цэлую сявалку — складалі ў яе, наставіўшы ў запечку на лаўку: у шафарні ў сенцах адыдуць і ў шафарні — мышы. Калі Кланя пашыла з абруса мяшок, сухары стаялі ў мяшку ў куфры. І мілта змолатая ў мяшку — з паўторбачкі. Мяшок у Клані на плячах на аборках, новых, пяньковых — ён, Жаваранка, віў іх адумысла, на згон зімы. Аборкі завязаны за мяшок, за ражкі; у ражкі, у адзін і ў другі, пакладзены кавалачкі сухара, каб не сашмыкнулася з мяшка аборка. Зверху мех сабраны ў жменю і пераціснуты пятлёй. Ценкія аборы ўразаюцца Клані ў плечы, і яна, падчапіўшы аборы вялікімі пальцамі, падкідае мех вышэй за спіну, пасля, апомніўшыся, ловіць за рукі Валодзю і Антунінку, каб не згубіліся ў грумадзе. Антунінка ступае і ступае маленькімі босымі ножкамі па пяску і па калючых сасновых шышках.

Перад вачыма зноў плыве партупея на гімнасцёрцы і раменьчык ад планшэта... Тады — новыя аборы з пянькі... Пасля і новыя аборы, і раменьчык, і партупея сплятаюцца накрыж — нібы яны ў аднаго чалавека на грудзях.

Па пяску ступаюць босыя ножкі, перасыпаючы яго, як попел... І тады ў Жаваранкі сціскае сэрца. Горача вачам у куточках, нібы ад слёз. Дарога ля Гарбатага Маста сівее, што ў тумане...

...Яны падпаўзаюць бліжэй да дарогі, апіраючыся локцямі на вільготныя купіны. З-за камлёў сосен праз разгалы багуннік яна відаць ад самай пасекі, дзе ляжаць раскочаныя зверху шліхты бярвення. Да вайны іх ставіў тут леспрамгас, і цяпер бліжэйшыя вёскі разбіралі на дровы. На шліхтах тырчала пазадзіранае ўгару бярвенне, як гаўбіцы.

Пясок на дарозе падсох за раніцу і цяпер сівеў ад самых шліхт да маста, які быў якраз процi: горбіўся круглым выступам, як дот.

Круцілася галава, ад багуну; багуном пахла ўсё на свеце: высокі балотны белы мох пад лакцямі, чарнічнік на цвеце, кара на сасне; здавалася, пахнуць і аўтамат, і рукі, і рукавы ў пінжаку, нібыта на зямлі і не было другога паху. Звінелі над вухам камары, лезлі ў вочы, худыя, жоўтыя — ноччу і раніцай на холадзе іх не было чуваць. Дробная чорная машка секла рукі, што крапівай.

Паднялося сонца, свяціла праз сосны на рукі — грэла; з зямлі, з моху і з рукавоў ішла пара.

Яны ляжалі, утаропіўшыся на дарогу; падымалі гало-

вы, рассоўвалі ў бакі, асцерагаючыся, багуннік: засцілае свет.

Дарогай пайшлі машыны: лабатыя, з доўгімі кузавамі, такія, што прарываліся ўчора надвечар і павярнулі на Рабы Калодзеж. Машыны ішлі далекавата адна ад адной; трэба было чакаць, пакуль за адной пакажацца другая; яны былі відаць аж ад шліхтаў бярвення, краталіся па калдобах перад мастом, памалу, здавалася, мацалі кожную выбаіну; раўлі, перагружаныя, на ўвесь лес, як да вайны леспрамгасаўскія прычэпы, на мост успаўзалі, як высака на гару, нылі з натугай; пераваліўшыся цераз яго, цішэлі і лёгка каціліся ў лагчыну, хаваючыся ля поля за паваротам.

На машынах сядзелі салдаты — згрудзіўшыся; кузавы былі набіты біткам, як застаўленыя ўстаяка шэрымі альховымі круглякамі — дрыўмі-метрамі. Жаваранка ніяк не мог злавіць вачыма людзей. Бачыў толькі цьмяныя каскі. Здавалася, што яны на машынах пакладзены ў радок і соўгаюцца ад барта да барта на выбоінах, ніяк не могучы вываліцца долкі. Калі на іх свяціла сонца, яны мокра блішчалі, што старыя, па лапцю, казлякі на дарозе пасля дажджу.

Машыны ішлі і ішлі: грузавыя з салдатамі, тады легкавыя, прыземістыя, чорныя, дзве — адна за адной; зноў раўлі грузавыя з салдатамі ў кузавах — да кузаваў ззаду былі прычэплены кухні: гарбатыя катлы з чорнымі векамі; пасля пайшлі крытыя брызентам — у белыя латы, як рабыя каровы; за імі падскаквалі па калдобах гаўбіцы на высокіх, як ад параконных калёс, колах; ствалы ў гаўбіцах былі пахаваны ў брызентавыя чахлы, што кулакі ў рукавы...

Машынам, здавалася, не будзе канца — як прарваліся адкуль. Ад іх па лесе ішло густое рэха, і не было чуваць, як б'юць гаўбіцы ля Рабога Калодзежа і ў Пячным. Здавалася, што так і пралежыш аж да вечара ў багунніку і не перабяжыш на той бок дарогі...

Да Жаваранкі падпоўз Алёша, паказаў на аўтамат і кіўнуў галавой, у бок маста.

— Не дурней, хлапец...— Жаваранка зашаптаў, як баючыся, што яго могуць пачуць з дарогі, з машыны.— Патронаў у нас толькі на прарыў. Ляжым мы тут чорт знае колькі. Трэба перабягаць. Адразу за машынай... Ззаду... Яны ўсе ўперад глядзяць...

Алёша тады павярнуўся на бок і сеў — з багунніку вы-

ткнулася яго галава: светлыя валасы на рад пасярэдзіне. Пацягнуўшы на плячы вузкі карычневы раменьчык, ён закінуў наперад сябе сівую нямецкую брызентавую сумку — паклаў між калень. Адшпіліўшы хуценька дзяжкі, запусціў рукі ў сумку, растапырыў яе на дне і выняў у дзвюх руках шашку толу і баёк. Паклаў тол ля Жаваранкі, ля рукі, на мох, нібы жоўтую абгабляваную бярозавую калодачку з дзіркай у хвасце, адрэзаную ля кузні ад ляжэйкі ў калёсах. Узяў у пальцы новенькі баёк, адцягнуў і пстрыкнуў, над самым вухам.

— Ушакова... Запал вы ўзялі. На пасецы...

Жаваранка не помніў, калі браў запал.

— Пад паху паклалі. У пінжак, у кішаню...

Жаваранка прыпадняўся і палез пад паху — у глыбокую кішаню ў пінжаку. Шукаў пальцамі, перабіраючы на дне, і нічога не знаходзіў. Тады, сціснуўшы, выцягнуў з кішані маленькую даўгаваценькую жоўтую кніжачку. Цягнуў і не ведаў, што гэта такое. Паклаўшы ўжо на мох перад сабой, прачытаў, прабегшы вачыма па чорных літарах: **Працоўная кніжка калгасніка. Калгас...** Ніжэй было напісана чарнілам ад рукі: *імя Будзённага. Жаваранка Яхрэм Васільевіч.* Кніжка была зусім новая, пакамечылася толькі ў кішані і закруціліся ўгару ражкі. Ён успомніў: калі апошні раз забягаўся ў вёсцы дамоў, адступаючы з аселіц ад ракі, падняў кніжку з куфра са дна, з-пад прыскрынка. Мусіць, тады і сунула яе рука ў кішаню па даўнейшай прывычцы.

Пасярод у кніжцы ляжаў запал, закручаны ў кавалачак газеты. Кавалачак газеты скамечыўся — павыціраліся чорныя літары — і зморшчыўся ў гармонік. Запал быў кругленькі, чырванаваты, кароткі, як наканечнік ад карандаша; на шырокай, у капейку, галоўцы зверху было накапана чырвонай фарбы, яркай, бліскучай; збоку на галоўцы былі дробненькія нарэзы — наўкасяк. На запал ускручваўся баёк; падняты, ён стаяў на засцерагальніку, сціснуўшы спружыну; пад грузам ці ўдарам сашмыкваўся і біў па чырвонай галоўцы ў запале.

У Жаваранкі задрыжалі рукі — доўга ляжаў, апёршыся на лакцях,— і ён ніяк не мог злавіць у пальцы чырванаваты запал. Пасля згледзеў, як дрыжаць у вачах выцертыя чорныя літары на кавалачку газеты пад запалам і скача напісаны ў кніжцы праз усю графу радок: уверхуніз. Узяўшы запал пальцамі, як соль у шчопці, Жаваранка прыціснуў на міг кніжку і прачытаў: 20, чэрв. м-ц, ка-

сіў луг... 0,60 га. Далей стаяла 21, 22, 23, 24... уся старонка была спісана чарнілам — касіў... касіў... Соткі ён закрываў пальцамі, у якіх быў сціснуты запал.

Зноў задрыжала рука і распаўзліся літары... У вочы хлынула гарачыня; закалыхаліся галоўкі багуну, як мятліца на лузе ля Віліі пад ветрам, калі ён наляціць, густы і гарачы, з поля з-за ракі і закруціць у ніцай лазе і старым вербалозе на затоках... Доўга тады чуваць здалёку, як шумяць за лучкамі самлелыя ад гарачыні высака на пагор'і старадаўнія сосны, варожачы на буру...

З поля з-за ракі тады пахне жытам, яно калышацца на гары, палавеючы ад сонца і закрываючы сабой вёску — далёкія чорныя стрэхі. Ад ракі з заток патыхае сырым і халодным балотам — рака цягнецца лугам, далёка, як угледзець вокам, крыўляючы і хаваючыся за лес; яе густа абсела старая ніцая лаза — ад ветру згінаецца і робіцца белая на сонцы, як снег. З лесу чуваць пах разагрэтай жывіцы. Вецер, рвучы з лучак, суха сцёбае па твары, як ручніком, тады, забіваючы і жыта, і смалу, пахне зрэзаная і адкінутая касой у пакос свежая рабінка: ляжыць пад мятліцай і дрыжыць, атрасаючы крапелькі расы...

Уперадзе аж да лесу калышуцца ружовыя галоўкі ванжэўніку: ён расце і ля ракі, і на куп'і разам з сіўцом, і ў мятліцы ў лучках побач з балотнай дзяцельніцай, толькі радзейшы і на вышэйшых дудках. Пад лесам у лучках адна мятліца, па грудзі, паспела, пажаўцеўшы зверху, тоўстая ў камлі, як салома, па ёй аж звініць каса; зрэзаная, мятліца не хоча класціся на зямлю, стаіць стаймя ў густым пакосе, пакуль не прыйдуць і не раскідаюць грабільном разбівачкі. За мятліцай ля лесу асака, густая, як сцяна, у пояс, не пацягнуць касой; пад асакой — бабок, з белым, як у малацэ, лісцем, з чырвонымі, непаспелымі яшчэ шышачкамі ў зярняты — адскаквае ад касы, як качарыжкі... Асака і бабок аж пад сосны, калі ўжо чуваць, як каса пачынае звінець па шышках, якія набраклі ў вадзе, ацяжэлі і ляжаць у траве, што дробнае каменне: па іх скача каса, трэба націскаць на пяту з усёй сілы. Пад бабком у асацэ — гадзюкі, на кожным пакосе; уцякаюць з-пад касы, хваста ўразаючы, відаць толькі ўперадзе, як расхінаецца бабок; сонную гадзюку чапляеш на касу, тады яна, падраненая, б'ецца ў траве, што рыба ў кошыку, акручваецца каля вострай касы, рэжучы сама сябе, і б'е хвастом па касільне, што прутком, пакуль не разваліцца надвае... Доўга яшчэ будуць кратацца ў траве кавалкі, па-

куль не расцягнуцца, як парваныя лейцы. Аж шорах ідзе па спіне, здаецца, чуваць, як падымаюцца па ўсім халодным целе валасы...

Ідучы ад лесу, Жаваранка бачыць усіх мужчын — больш дваццаці: гоняць яшчэ пакосы ад ракі ззаду за ім,— паскідалі з сябе ўсё да пояса, відаць на скошаным белыя і сінія рубашкі. Мужчыны вострацьі вострацькосы: пасадзілі на сіўцы ля берага, у палудзень трэба будзе кляпаць, не дацягнеш да вечара на ранішнім клёпе; крычаць адзін аднаму, падразаючы пяты... Крык і звон ад кос засеў у вушах, ад яго робяцца поўныя нечым гарачым грудзі, цвярдзеюць рукі, лягчэй ступаеш пакосам, забываешся, што смягне язык і баліць, аж, здаецца, лопне ад непрывычкі скура на жываце; ад яго лягчэй дыхаць, а тады ёсць разгон і душы, і рукам: дагані! Сабраліся першы раз з косамі ўсе з вёскі — дык дакажы! Націскай, шмаруй касу бруском, выціраючы лоб ад поту рукой, сячы яе, ламаку, спябачкай, згінайся ў тры пагібелі, учапіўшыся за палец усёй пяцярнёй, налягай на пяту, каб не пакідаць на сіўцы грывы, за якія можна навязаць, махай і махай без аддухі, беручы шырэй на касу, бо ззаду «падразаюць пяты», са скуры вылазь, а заняўшы ад ракі пакос, дагані яго да лесу, не саступі, бо, сабраўшыся на палудзень да будак, падчэпяць на язык, хоць уцякай з місачкай у руках есці ў ніцую лазу. А калі пасля яды, зморэны, зваліўшыся, як куль, на пахнючую траву ў будцы і захрапеш на міну, ту, Палюшыны зяці вывалакуць цябе за ногі з будкі і выкупаюць у Віліі — раскалышуць і кінуць у адзежы пад ніцую лазу ў вір. Вылазь, боўтаючыся, плюйся, як бабёр, паўзі на высокі бераг, а ў цябе будуць кідаць жмукамі сырой, скручанай у вузел травы — не ўгледзіш хто — і будуць смяяцца ля катла дзяўчаты, хапаючыся за бакі... А ноччу, калі заснеш, выцягнуць цябе ціха з будкі тыя ж Палюшыны зяці, і ты, не пачуўшы, будзеш храпці ўсю ноч пад адкрытым небам, карміць камароў ля катла, дзе Галіна Аляксандрава звечара ля агню будзе абразаць бульбу... Галіна стане будзіць, але ты будзеш спаць як пшаніцу прадаўшы, не прачнешся; яна не дасць адна рады зацягнуць цябе назад у будку і возьме накрые ля катла пасцілкай. Раніцай скусанага камарамі разбудзяць мужчыны, ідучы кляпаць косы; убачаць накрытага пасцілкай і тады ўжо падчэпяць на язык «па першае маё»... Не будуць крычаць, а стануць шаптаць адзін аднаму на вуха: спаў пад пасцілкай, не ў будцы... А думаеш, адзін?..

І да катла падыходзіш з місачкай пазней усіх, не лезеш на вочы — а што скажаш? — і ў пакосе, апусціўшы нос, становішся адразу самы апошні, маўчыш, злуючы, бо падыходзяць, стукаюць па плячы і галавой ківаюць... Церпіш так да палудня, а тады... Адкуль яна і бярэцца — сіла? Разгінаеш спіну, падцягваеш тужэй дзягу на поясе, рэжаш бруском касу, аж іскры ляцяць, хвошчаш сцябачкай, плюеш на рукі і, сціснуўшы зубы, бо адразу цяжка, аж вочы на лоб лезуць, пачынаеш браць на касу ўсё шырэй і шырэй... Пярэдні ў цябе бліжэе, пачынае азірацца назад, торкаецца, вострыць і вострыць касу, а ты ўжо насеў, ужо сядзіш на карку, ужо крычыш на ўвесь луг: «Пя-яты рэжу-у!..» Крычыш моцна, ад радасці, бо голасу твайго не чулі з учарашняга... Пярэдні адскаквае з пакоса ўбок, бо ты не жартуеш, бо ты ад нейкай сваёй дурной сілы, якая ўзялася немаведама адкуль, гатовы падрэзаць пяты...

На лузе пасталі ўсе на міг, паднялі вастрыць косы і глядзяць, вачам не верачы. Крычыць нехта блізка, не пазнаеш хто, мусіць, Палюшыны зяці: «Рэж!.. Рэж!.. Во што значыць паспаць пад пасцілкай!..»

Мужчыны пачынаюць смяяцца: значыць, ты зноў свой, значыць, другога некага выцягнуць за ногі з будкі... А ў цябе аж горача ў вачах, пайшлі кругі, але ты ўжо далёка, «падразаеш пяты» ўжо на другім пакосе... Чуць стаіш на нагах, але табе лёгка ўсяму... І ты ўжо смяешся разам з усімі...

Сонца ўзялося на паўдня, хочацца піць, солана ў роце; на небе высокія белыя воблакі, расцягнуліся, стаяць на адным месцы, як застылі. Звіняць авадні, стракочуць у траве конікі, пырхаюць, пераскакваючы, садзяцца на рукі, калышуцца разам з касой; далёка ля ракі ходзіць бацян — не знаць, што ў яго чырвоная дзюба...

З лесу дарогай выехалі падводы — расцягнуліся па лузе аж да ракі. З падвод саскакваюць бабы, атрасаюць спадніцы, бяруць з плеч хусткі і завязваюць іх на галовы, каб не біла ў вочы сонца, п'юць з бутэлек ваду, паадкідаўшы галовы, пасля на хаду выцягваюць з калёс з-пад сядзення граблі, нясуць іх хто на плячы, хто ў руках рапоткамі ўперад, разыходзяцца ад лесу па ўсім лузе і пачынаюць махаць граблямі — разбіваюць пакосы.

Луг ад хустак і нажутак робіцца стракаты, як увосень ад бацяноў; па ім рассыпаюцца жаночыя галасы, як раніцай у вёсцы, калі бабы, выганяючы ў поле кароў, збіраюцца ля нараду; прыехалі з некім дзеці: плачуць на ўвесь

луг,— здаецца, сюды, да Віліі, пераехала ўся Венера...

Разам з усімі пайшла пад лес Кланя — прыехала і яна, пакінуўшы дома аднаго Валодзю; папрасіла, мусіць, некага, каб прыглядзеў: вечарам вернецца дамоў; стала якраз на яго пакосе, напроці, у белай хустцы і ў белай нажутцы, махае і махае граблямі, разбіваючы пакос, ідзе хутка, як з подбегам, сюды, да ракі, да мужчын. Убачыла яго, Жаваранку, здаецца, нешта крыкнула здалёку, тады махнула рукой...

Смаліць сонца; скарэй бы да ракі: пачынае ківацца з боку на бок уперадзе пад касой зямля і круціцца ў галаве... Гнуцца ад ветру да самай зямлі ў траву ружовыя галоўкі ванжэўніку — вялікія, як у багуна, і шуміць несціхана ўперадзе лес, як усё роўна гудзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— І я слухаю... Аціхла. Здаецца, перасталі ісці...— да Жаваранкі, апёршыся на локаць, падсунуўся Алёша і скоранька, як усё роўна вырваў з рук, забраў з пальцаў запал, гэтак жа скоранька закруціў бліскучы баёк і асцярожна, нібы хаваючы, запхнуў запал у доўгі жоўты брусок толу — у кругленькую дзірку. Запал схаваўся па самую галоўку, сядзеў туга, не кратаўся. Узяў пасля брусок толу, ашчапіўшы пальцамі, як бяруць у акопе гранату, каб шпурнуць як мага далей, і глянуў на яго, Жаваранку, неяк весела, спадылба, аж вочы бліснулі.

— Кладзём фрыцпяхотную...

Жаваранка ўспомніў, што Геніятулін усягды гаварыў скоранька, глытаючы словы, і проціпяхотная міна ў яго выходзіла «фрыцпяхотная»... Ва ўсёй брыгадзе слова адразу падхапілі, перайначылі, і скора ўсе сталі зваць міны фрыцпяхотныя і фрыцтанкавыя — з яго лёгкай рукі... Пасля падумаў, што Алёша яшчэ зусім дзіця, сабраўся, як усё роўна рыбу глушыць, і сказаў:

— Фрыцпяхотную — дык фрыцпяхотную... На іх любая...

— Прыкрыеш ад Венеры. І дай мне рыдлёвачку...

На дарозе было ціха, машыны не ішлі. Жаваранка падцягнуў да сябе аўтамат, сцяўся ў камок... Пакуль ціха — яны пераскочаць дарогу, выйдуць на лінію, а там ля Партызанскіх лагераў на Яськава балота. Кавалкам толу, хоць ён і ладны, дарогу не загародзіш...

Алёшу ён нічога не сказаў. Спяшаючыся, падняў з зямлі кніжку, атрос і схаваў зноў пад паху ў кішаню, за-

шпіліўшы яе на маленькі чорны гузік. Так ён заўсёды клаў у кішаню пашпарт, калі адлучаўся з дому ў сельсавет ці ў раён: да трыццаць дзевятага года Венера была ў пагранічнай паласе — граніца ішла па Віліі з Польшчай — і ў вёсцы мелі пашпарты.

На ногі ўскочылі разам, як па камандзе, і ўтарапіліся на дарогу. Было яшчэ ціха; машыны не гудзелі ні ля Венеры, ні ля Пячнога.

Алёша зноў папрасіў рыдлёвачку. Жаваранка на міг павярнууўся да яго — стаіць: у правай руцэ аўтамат, дзержыць ля прыклада, у любы час падыме сваёй худой рукой як мужчына; сам худы, аброслы на шчоках сівым маладым мохам, пінжак выпацканы ў гліну — гліна наліпла ля траншэі, калі закопвалі людзей з брыгаднай разведкі; у левай руцэ шашка толу з запалам — трымае, прыціснуўшы да грудзей, як што дарагое, каб не згубіць. І сам аж злуе: не церпіцца. Жаваранка паглядзеў на яго як усё роўна другімі вачыма.

«А ці ёсць яна, тая рыдлёвачка...» — падумаў і лапнуў сябе за паясніцу. Пасля, адшпіліўшы, адхінуў крыло пінжака. Рыдлёвачка была пад дзягай, ён не чуў, прывыкшы; значыць, не забыўся, узяў з сабой ад траншэі з бярэзніку. Ручка ў рыдлёвачцы была мокрая, ліпла да пальцаў: у гліне, ці што? Пасля падумаў, што рыдлёвачка можа быць і ў крыві, што кроў была і на целе ў разведчыкаў, і на траве пад імі, і на пяску ля траншэі, дзе яны клалі іх перад тым, як апусціць на дно...

Ён выцягнуў рыдлёвачку з-пад дзягі, пакруціў у руцэ:

— На дарогу аднаго цябе не пушчу...

...На дарозе было ціха; падняўся вецер, угары шумелі сосны, пад рукі на сівы пясок — на свежы след ад машыны — пырскалі зверху леташнія жаўтаватыя сасновыя іголкі. Машыны, відаць, ішлі доўга: ля дарогі на траве, на ягадніку і на папараці ляжаў сівы пыл, густа, як нарос; не знаць было белых галовак на дзяцельніцы: пацямнелі.

Сонца праз сосны свяціла ў каляіну — шырокую, роўную, выціснутую ў штых рыдлёвачкі коламі ад машыны; біла спераду ў вочы, і Жаваранку здавалася, што ён сядзіць проці агню: горача ў шчокі, на лбе выступіў пот — густы, як праз рэшата.

Мост быў справа, збоку, метраў за пяць; спускаючыся з яго, машыны лучалі адразу ў каляю, Жаваранка і рашыў ставіць міну тут, у каляі ля маста.

Рыдлёвачка не хацела лезці ў цвёрды, збіты жвір, і

трэба было дзяўбці зямлю, як лёд; свежы жоўты — дру залачкамі — пясок Жаваранка адкідаў рыдлёвачкай сабе за плечы, у папараць, далей з воч; Алёша, паклаўшы аўтамат на сцежку, ляжаў збоку, ад Венеры,— дзяржаў у руцэ, выставіўшы ўперад, брусок толу з байком. Ёрзаўся: не цярпелася, хацеў усё рабіць сам...

— Глядзі, хлапец, на дарогу, маць яго так...

Ямка была глыбокая і вузенькая, што ўсё роўна ад дзлата ў бервяне; брусок толу адразу стаў на месца, нібы на яго адмералі. Паклаўшы рыдлёвачку збоку ля аўтамата на запыленую дзяцельніцу, Жаваранка ў дзве рукі засыпаў ямку ля бруска жоўтым жвіркам, перамешаным з сасновымі іголкамі,— калолася ў пальцы — абціскаў пасля пальцамі круга яго зямлю... Брусок стаяў, як уліты...

Усё было зроблена, аставалася толькі падняць баёк, выцягнуўшы запал з бруска...

— Давай, хлапец, на той бок... І за дарогай глядзі...

Жаваранка чакаў, пакуль Алёша перабяжыць дарогу: глядзеў на бліскучы баёк у руках і слухаў, як за Дзвінасой грукае зямля. Задрыжалі рукі, дагэтуль быў спакойны, а цяпер задрыжалі... Дробненька, па самыя локці... У грудзях застукала сэрца, гулка, як у чым парожнім...

Баёк ён падняў адразу — баёк пстрыкнуў, апёршыся на цвёрдае,— і ўставіў нанава ў шашку. Цяпер баёк тырчаў з ямкі вышэй, чымся перш, і блішчаў на сонцы, як новая капейка ў пяску...

— Машыны! — крыкнуў за дарогай Алёша, з ельніку, моцна, на ўвесь голас — здурнеў, ці што?..— і махаў, было відаць, рукой, паказваў: перабягай дарогу...

Жаваранка як прыліп да зямлі — хацеў сам пачуць, гудзяць машыны ці не. Калі пачуў, як шуміць недзе ля шліхт, падумаў адразу, што блішчыць на сонцы баёк, што прапала міна: згледзяць... І ямку, не зараўняную ў каляі, і баёк... І не засыплеш: позна!

Ля шліхт бярвення ён убачыў матацыклы: падскаквалі на калдобінах, як мячыкі,— аж тры. Пёрліся, як сарваўшыся; відаць былі ўжо на матацыклах каскі — блішчалі, як начышчаныя, і бегалі за мастом з боку ў бок...

Ён толькі справіўся схапіць аўтамат і ссунуцца з дарогі назад у лагчыну. Ляжаў і відзеў, як над ім зверху кратаюцца лапкі папараці; відзеў яшчэ, што на дарозе на сцежцы ляжыць рыдлёвачка — тырчыць драўляная ручка над канавай...

Прыросшы да зямлі, ён чакаў выбуху.

Матацыклы мігнулі па дарозе з таго боку, ад Алёшы,— пайшлі па правай каляі. Адзін за адным... На дарозе закурэў дробны сівы пыл; запахла дымам... Затрашчала ўвушшу і сціхла.

Жаваранка адразу падняў галаву.

«Сцягнуць рыдлёвачку... Ляжыць на вачах...» — як загадаў сам сабе. Але пачуў, як недзе на пасецы пад Венерай гудзяць машыны.

Калі ён успоўз з канавы на дарогу, убачыў: ля шліхты бярвення на дарозе блїснула на сонцы шкло.

«Машына...»

Ён ладне адкаціўся ў канаве ад таго месца, дзе ляжала рыдлёвачка; падумаў цяпер, што не паспее забраць яе і вярнуцца ў лагчыну: калі выскачыць на бугор ля маста — яго згледзяць.

Прыціснуўшы аўтамат да грудзей, ён сагнуўся ў тры пагібелі і пераскочыў дарогу ў лагчыне, хаваючыся за мост. Паслізнуўся на тым баку ў траве; адбегся з разгону яшчэ — у густы багуннік — і азірнуўся, падаючы ў мох на зямлю. На дарозе ціха, як мацаючы коламі калдобіны, паўзла да Гарбатага Маста легкавая машына. Чорненькая, чысценькая — блішчала здалёку, аж слеплі вочы.

Лежачы, ён павярнуўся да маста; сцішыўся, застыўшы і ўцягнуўшы галаву ў плечы. На дарогу — на машыну — глядзеў праз мушку, як учора на пасецы з акопа.

Бачыў, што ляжыць у імшары на доўгай і вузкай між лесу палосцы ў зялёнай, густой і высокай траве-кругляцы. Пад кругляцом рос бабок — цвіў... Ад яго, калі Жаваранка, прыплюшчыўшыся, глядзеў на дарогу, бела рабілася ўваччу.

Машына памалу падымалася на мост. Жаваранка чакаў; здалося, працягнулася цэлая гадзіна... Уз'язджаючы, машына задрала ўгару бліскучы белы радыятар і шкляныя пукатыя фары — лыпнула імі ад сонца. Шкло ў дзверцах было апушчана; вытыркнуўся вон апёрты на дзверцы сагнуты чорны, як і машына, локаць. Калі млела прыжмуранае вока, Жаваранка адплюшчваў яго — локаць знікаў з вачэй, расплываўся, і тады здавалася, што машына біткам набіта нечым чорным, жывым і цяжкім. Валюхаючыся, як нехаця, яна паднялася на мост, ускруціўшы за сабой пыл, які адразу распаўзаўся ля дарогі па папараці.

«Трэба крыкнуць хлапцу і адыходзіць лініяй на лаге-

ры...» — падумаў Жаваранка. Пасля падумаў, што не ведае, дзе хлапец,— адпоўз імшарай на лінію?

На масце пад легкавой машынай круціліся колы; у вачах пачала круціцца зямля... Імшара з круглянцом раптам пашырэла ў адзін і ў другі бок, расцягнулася ўміг — як луг ад ракі да лесу ля Віліі...

Жаваранку здалося, што ў яго руках не аўтамат, а каса — сціснуў за касільно і за палец, і ўперадзе блішчыць не шкло ад машыны, а старая васьміручка, бегаючы ў траве.

Закруціліся на дарозе, як шалёныя, колы пад машынай; нахіліўшыся ўперад, яна стаяла перад лагчынай, як старчма...

...Гэта ён, Жаваранка, замахнуўся на лузе пад лесам касой у густой асацэ...

Пасля машына нырнула ў лагчыну, тарканулася на месцы і пачала памалу падымацца перадам з зямлі ўгару разам з пылам і двума вострымі языкамі яркага, белага, як сонца ў паўдні, калючага агню.

...Гэта Жаваранка падчапіў гадзюку, старую, чорную, цяжкую, аж чуваць на касе, і падкінуў уверх...

Машына, падняўшыся перадам ад зямлі, крутнулася ўгары, перавярнуўшыся набок, і падала на дарогу якраз тым аконцам, адкуль быў відаць локаць.

...Гадзюка вісела на касе, і Жаваранка, задзёршы яе высака ўгару, страсануў у дзве рукі за касільно.

Машына груквула ўпоперак на дарогу — у густы сівы пыл у лагчыне і схавалася з вачэй.

Выбух быў сухі, ядраны, і ад яго пакацілася па лесе рэха — пад Пячное і пад Партызанскія лагеры...

Зрабілася адразу неяк надта ціха: чуваць было, як шумяць угары сосны і на дарозе ў пыле ціха бразгае жалеза. Нехта там стагнаў, глуха, што з ямы.

Якую мінуту Жаваранка ляжаў і слухаў. Падымаўся ўперадзе прыціснуты аўтаматам багун, шапацеў дробным лісцем. На імшары закалыхаўся ад ветру круглец. Падыспадам недзе глыбака ўздрыгвала зямля — ад цяжкіх выбухаў. Грукала далёка за Дзвінасой.

Немцаў ён згледзеў адразу ўсіх траіх. Яны былі ў чорным. Пярэдні ў высокай задзёртай фуражцы з бліскучым брылем, падцыглясты, з белым доўгім стэкам у руцэ. Ішоў, сагнуўшыся, несучы нешта бліскучае пад пахай, і асцярожна торкаў у зямлю стэкам, нібыта ім можна было намацаць міну і абысці. Другі, меншы, тоўсты, быў пера-

вязаны бінтам — акручана ў белае галава і шыя — што камок снегу нёс на плячах. Ішоў, растапырыўшы рукі, нібыта хаваючы трэцяга.

Немцы ў чорным падымаліся на мост, памалу, ступаючы адзін за адным роўненька, што па струнцы.

«Забінтавацца ўспелі...» — падумаў Жаваранка. Пасля падумаў, што немцы з машыны ў чорным, што гэта посъкудзь, эсдэ...

Ён даў кароценькую чаргу па дарозе: злавіўшы на мушку забінтаванага — павёў, пачаўшы з яго, па ўсіх... Немцы пасталі на дарозе ля маста адзін за адным, нагнуліся хто куды... Падцыглясты, у высокай задзёртай фуражцы ўпёрся стэкам у зямлю і — як усё роўна слухаў, дзе стралялі.

Жаваранка даў яшчэ раз чаргу па немцах у чорным...

І адразу ля маста на дарозе падняўся трэск: трашчалі аўтаматы. Над галавой зацюмкалі кулі, зрываючыся ад сосен у рыкашэт. На рукі пасыпалася кара, запырскала шыллё і дробнае ссечанае суччa. З купіны ўперадзе падскочыў угару скошаны багуннік. Збоку, з елкі, старой, высокай, з выгнутымі аж да зямлі лапкамі, парослымі сівым мохам, скацілася цераз галаву маленькая рудая вавёрка — схаваеш у жмені,— крутнулася цераз сябе ў ссечаным багунніку, рвучы з зямлі нагамі дробненькі мох, і чмякнулася ў густую зялёную траву, як адкінутая прэч з гэтага свету... Лягла, выцягнуўшыся, брушкам угару...

Жаваранка падумаў, што немцы ехалі на машынах услед за легкавой і цяпер адразу адкрылі агонь, страляючы ў гэты бок, адкуль ён даў па дарозе дзве чаргі з аўтамата.

Бачыў ужо, як яны, рассыпаючыся, укрылі ўсю дарогу ля Гарбатага Маста: акружалі, спускаючыся ў лагчыну, імшару, дзе ён ляжаў. Немцы былі ў чорным, як і тыя, што ехалі ў легкавой машыне.

Аўтаматы пачалі трашчаць і ўперадзе, ля шліхтаў бярвення,— немцы, відаць, сунуліся на лінію, каб адрэзаць яго, Жаваранку, зайшоўшы ззаду, і наткнуліся на Алёшу. Можна было пазнаць, як Алёша агрызаўся кароценькімі — па пяць патронаў — чэргамі; падпускаў, відаць, блізка, каб секчы напавал...

І Жаваранка папоўз на лакцях па кругляцы і па куп'і на лінію, дзе быў Алёша.

Да лініі было метраў сто — яна свіцілася здалёку праз яловыя вярхі латочынкай чыстага сіняга неба, густога і

халоднага, што ўсё роўна яно было відаць з вады, глыба-
ка са студні. Ён поўз і поўз, перавальваючыся цераз купі-
ны, далей ад Гарбатага Маста; латочынка ўгары, у яло-
вым вострым верхаллі, шырэла, выцягвалася ўдоўж:
блізка была лінія, якая вяла ад Гарбатага Маста пад Пар-
тызанскія лагеры, да ракі; за ёй — на Яськава балота,
заўсёды гразкае, нават у сухое лета, з глыбокімі крыніца-
мі, якія білі рудой з-пад зямлі,— не ступіць, правальваеш-
ся ў халодную, як лёд, гразь аж на той свет, не ўхапіцца
за што, глытаеш толькі, захліпаючыся, ржавыя бурбалкі.

Немцы, відаць, пайшлі далёка лесам, заняўшы ад да-
рогі — прачэсвалі: і ад Венеры, і ад Пячнога чуваць былі
аўтаматныя чэргі.

Над галавой цяпер ужо радзей свісталі кулі — тут, дзе
ён поўз, стралялі на ўзвей вецер, не па ім; толькі ля
шліхтаў бярвення не аціхала траскатня. Чуваць былі ка-
роткія чэргі з лініі з нашага ППШ — адбіваўся Алёша...

Жаваранка поўз імшарай, выкідаючы з-пад сябе лак-
цямі пасмы доўгага белага балотнага моху і камякі рудой
гразі. Імшара была голая, адзін дробны круглец — не па-
дымешся, не пабяжыш: як на далані, ссякуць...

Стралялі цяпер па ўсім лесе: аўтаматныя чэргі чуліся
аж на пасецы ў кутку — немцы, відаць, пайшлі ад Пагур-
ка; усчанулася новая страляніна ля шліхтаў бярвення і
ад Пячнога — немцы абыходзілі лінію паўкругам, як усё
роўна загіналі вобад.

Жаваранка падумаў на міг, што згубіў Алёшу, што та-
го, можа, ужо няма жывога — у такой круцяніне тут жы-
вы чалавек і тут жа яго няма: пасечаны на рэшата.

Пасля ён лавіў вухам кароценькія аўтаматныя чэргі з
нашага ППШ — патроны на тры — гэта тады, калі аціха-
ла страляніна... Горача рабілася ўсярэдзіне: у Алёшы кан-
чаліся патроны...

Забрахала ля шліхтаў аўчарка, Жаваранка адразу па-
знаў: гаўкнула два разы, глуха, як у яму, пасля запішча-
ла цененька, як пішчыць галоднае шчаня.

Па спіне пайшоў холад...

Так усягды перад вайной да трыццаць дзевятага года
зімой у вялікі мароз, калі ад месяца блішчаў ноччу на за-
гуменні за пунямі ў полі снег, гарэў жоўтымі палосамі на
вуліцы ў санным следзе і пырскаў за платамі ў гародзе
пад ферму дробнымі сінімі іскрамі,— за фермай, далёка
за лесам, якраз на поўнач ад Венеры, брахалі на пагран-
заставе сабакі...

Страляць пачалі раптам блізка збоку — ад шліхтаў. Стралялі густа, але кулі не нылі над галавой — білі, відаць, удоўж лініі, у бок Партызанскіх лагераў.

У канцы імшары ён падняўся і пабег. Скакаў, сагнуўшыся, з купіны на купіну, што ўсё роўна цераз Вілію па бярвенні,— бярвенне гоніць вада, а ён пераскаквае з аднаго на другое; яно слізкае ад вады, круціцца пад нагой, як шалёнае, і прападае пад вадой у чорным віры. Уперадзе толькі цёмная вада і чорнае ад кары бярвенне. Блізка, як перад носам, блішчыць на беразе ніцая лаза — дацягнуцца б да яе і ўчапіцца хоць адной рукой...

На лінію ён выбег якраз ля слупка, перад бярэзнікам. Слупок, укопаны тут да вайны, стаяў пачарнелы: аброс дробненькім зялёным мохам. На засечцы яшчэ былі знаць выпаленыя жалезам літары... Капец каля слупка абсунуўся, зраўняўся з зямлёй, парос брусьнічнікам і сіўцом...

Сівец ля слупка быў здратаваны і павыбіваны з зямлі ботамі — валяўся побач жменькамі, прысыпаны жоўтым пяском. Ля самай зямлі ад слупка была адшчэплена кулямі абалонь — дзве шырокія, чырвоныя ад смалы лучыніны...

Разараная некалі плугам ўроскідку лінія парасла бярэзнікам — у пояс; прытаптаны нагамі і абсмарганы ад лісця, бярэзнік уставаў з зямлі.

Немцаў цяпер Жаваранка ўбачыў уперадзе на лініі. Яны ціснуліся на яе шнурком, што мурашкі, з бярэзніку ад шліхтаў бярвення — акружалі. Выскачыўшы на лінію, згрудзіліся ў кучу, чалавек пяць... Да іх было блізка, як дома ад гарода да хлева. Жаваранка бачыў, што яны ў чорным, у пілотках, з кароценькімі аўтаматамі ў руках. Ён запомніў толькі чорныя фрэнчы і жоўтыя голыя рукі... Як стаяў — так і даў доўгую чаргу з аўтамата... Падумаў толькі, што ніколі так зблізку не біў па немцах.

Ён бег і страляў яшчэ на лініі па зямлі: па бярэзніку і па сіўцы... Бегчы больш не было куды, і ён рвануў напрамую да ракі — на Яськава балота. Немцаў на зямлі на лініі ён добра і не згледзеў. Мігнуліся толькі ў вачах боты з кароткімі шырокімі халявамі і ў халявах гранаты з драўлянымі жоўтымі ручкамі — пазатыканы чорнымі галоўкамі ўверх, па дзве, па тры ў кожнага...

На мінуту ззаду зрабілася ціха. Ён бег і чуў, што на лініі мокры ад расы, не абсох яшчэ за раніцу, бярэзнік: сцёбае вільготным лісцем па шчоках.

Бярэзнік быў у пахі: хаваў з воч. На зямлі пад нага-

мі, на мокрым, дзе не хацела расці трава, знаць былі свежыя ласіныя сляды і... воўчыя.

Далёка ўперадзе, высака на пагор'і, лінія-расцяроб была чыстая; на ёй жаўцеў пясок і ў канцы, дзе раз'язджаўся надвае лес, вісеў туляг, вялікі, круглы. Над ім стаяла сонца, і ён быў белы, што малако.

Зрабілася ярка ўваччу, нібыта зірнуў у агонь.

Памлелі ў каленях ногі, парабіліся мяккія; здавалася, што ён у валёнках.

Цяпер ён думаў, што не дабяжыць да ракі. Калі перш, адпачуўшы аўчарак, ён ведаў, што рабіць: трэба бегчы, адстрэльваючыся, расцяробам — лесам жа тут не пабяжыш — пад Яськава балота. Там бегчы ракой — аўчаркі не возьмуць след... Ён нават не думаў, як будзе бегчы ракой, але рваўся да яе як мог... Цяпер падумаў, што да ракі не данясуць ногі...

У вочы сыпнула дробнага пасечанага лісця, густа, як мякіны на таку з цапоў ад малатарні... Да рукі прыліплі кавалачкі бяросты, белай, што папера.

Немцы секлі з аўтаматаў наўздагон.

Адвярнуўшыся назад, ён павёў па лініі доўгай чаргой. Падумаў, што цяпер б'юць толькі па ім: Алёшы не чуваць і больш па лесе нідзе не страляюць.

Выскачыўшы высака на пагорак, ён убачыў адразу, як пыхнуў узбіты кулямі, што сухая порхаўка, пад нагамі жоўты пясок — пылам...

Пагорак быў сухі, у ямах, у дробным сіўцы. На пагорку раслі сосны, пакінутыя некалі на насенне: старыя, з рэдкімі высокімі шапкамі.

За пагоркам зеўраў абрыў — прорвай: жоўты пясок, дробны соснік і абломанае, павытырканае з зямлі карэнне... Глыбака ўнізе пачынаўся адразу альшэўнік, за ім, недзе на дне, блішчала вада.

Блізка, ля самага вуха, цыўкнулі кулі, цененька, што сініца.

Калі яго стукнула ў руку, высака, ля пляча, моцна, як хто ўдарыў чым цвёрдым, чуць не выбіўшы аўтамат, ён, каб не паляцець старчма, выпрастаўся і стаў на які кароценькі міг... Перад вачыма ў канцы лініі разаслаўся туляг, белы, што абрус на стале ў нядзелю...

Крутнуўшы галавой, ён зірнуў на руку. Рукаво ля пляча было нібы пастрыжанае ножніцамі — дзве доўгенькія дзіркі...

Ён не ўстояў і паляцеў з гары ўніз — адставіў толькі

ўперад руку з аўтаматам. Пакаціўся па пяску і па карэнні, што кругляк.

Белае воблака знікла з воч, расцяклося, нібы на стале перад самым носам перакулілася конаўка з малаком.

Пырснула ў вочы вада; шчокі заляпіла граззю...

Жаваранка пачуў, як запахла ад мокрай зямлі густа і кісла, што свежым хлебам, вынятым з печы і палітым зверху вадой.

Падумаў, што жыве, калі чуе, як пахне хлеб.

На гары, недзе блізка ля лініі, рванула граната. Водгаласкі пакаціліся ўдоўж ракі пад Венеру.

«Алёша на гары...» — падумаў Жаваранка пасля, падымаючыся на ногі.

## 9

Яны выйшлі на бераг Дзвінасы за Партызанскімі лагерамі.

Чуць стаялі на нагах — і Алёша, і Жаваранка, мокрыя, з аўтаматамі на грудзях — у глыбокім, намытым у паводкі сівым пяску.

Пясок рассыпаўся пад нагамі, сцякаў, што вада з берага, і здавалася — з-пад ног плыве зямля.

Стоячы, глядзелі на той бок, дзе за шырокім, як сцягнуць вокам, лугам цямнеў на пагор'і лес; апавіты вячэрнім туманам, ён быў сіні і далёкі — ніколі не дайсці. Там быў Палік, куды адступала брыгада.

Заходзіла сонца: зачапілася ў яловых вострых вярхах, сплюснутае, вялікае — чалавеку па грудзі; чырвонае, аж пералівалася, яно рэзала вочы, што агнём. Стаяла ў кутку ззаду за плячыма — за Партызанскімі лагерамі і за Пагуркам, дзе яны ўчора вечарам былі ў заслоне,— якраз над Венерай.

Прайшлі суткі пасля ўчарашняга бою ў заслоне. Астаўшыся жыць — адбіліся ад немцаў і на Яськавым балоце гранатамі,— яны зноў ішлі да сваіх у брыгаду.

Неба ўгары над галавой было парэзана расцягнутымі наўскасяк ад Пячнога на Партызанскія лагеры доўгімі, густа падпаленымі ў чырвонае паласамі.

Пячное асталося ззаду.

Тут, на беразе, дзе яны стаялі, было вышэй, і, мусіць, ад таго неба здавалася вялікае, як усё роўна яно ахінала не адну зямлю,— Жаваранка такога ніколі не бачыў.

Зрабілася ціха, нібыта не было нідзе ні вайны, ні блакады, нібыта зямля, як усягды дагэтуль незлічоныя мільё-

ны разоў, аціхала нанач: не грукала ў Дзвінасе, не чуваць было, каб гудзелі самалёты. Нават далёка за Палікам у бок Віцебска было спакойна.

І Жаваранка падумаў: калі на вайне бывае хоць на мінуту ціха, як цяпер, то, можа, ён яшчэ ўцалее. А калі не сам, то яго сын, які там, за ракой уперадзе, з Кланяй...

Трэба было пераплываць Дзвінасу.

Рака шумела збоку, на павароце за альшэўнікам, вырываючыся на луг: пеніліся, круцячыся, белыя віркі і зніклі прэч з вачэй, калышучы лазу ля берагоў. Рака была цёмная — бліщчала здалёку холадам, як сталь. Пасля паволі пачала ружавець шырокімі барвовымі палосамі — у ёй адбівалася вячэрняе неба.

Маўчалі. Пасля Алёша ступіў да яго, Жаваранкі, і, крануўшы за плячо, паказаў рукой у кут, дзе хавалася з вачэй рака.

— Дзвінаса-а...

Жаваранка ўбачыў далёка над лесам высокі круглы туляг — буры ад сонца.

Туляг расцягнуўся, асеў — здавалася, ціснуў на зямлю, каб задушыць усё жывое.

Жаваранка пазнаў дым над Дзвінасой, які яны бачылі раніцай ад Рабога Калодзежа.

Над ракой, з таго боку, дзе днём быў бой, поўз туман, густы, сівы, хаваючы з вачэй далёкія лозы ў куце. Поўз сюды, у жыліну, дзе яны стаялі на беразе. На яго, прабіўшыся праз лес, засвяціла сонца, і туман зрабіўся чырвоны, як у крыві... Палосамі.

Пасля туман зачырванеўся ў іх перад вачыма.

Злева, дзе была Дзвінаса — вёска, чыркнулі з аўтамата. Коратка, што сярнічкай па карабку. Уперадзе, у бок Віцебска, пачуліся цяжкія выбухі. Ад іх у цішыні, здавалася, задрыжала зямля.

Яны сышлі з берага ў ваду — у чырвоны туман...

Праз двое сутак яны былі ў брыгадзе — пад Палікам. А праз тыдзень, змучаная баямі, параненая і аслабелая, брыгада, сабраўшыся ў кулак, пайшла на прарыў — на Дзвінасу, у бок Партызанскіх лагераў...

Разам пайшлі людзі з вёсак.

А яшчэ праз тыдзень, прарваўшыся пад Барысавам і выйшаўшы на прастор, праз Дзвінасу ў бок Вялейкі і Маладэчна пайшлі першыя танкі Чарняхоўскага...

## *Частка другая*

# Дома

### 1

Падняўшыся ад жытняга клінка да ям, Жаваранка адразу ўбачыў Венеру, што ўсё роўна першы раз: шэрую здалёку, вялікую і пустую, як парожняе ластаўчына гняздо.

Ён пастаяў ля ям. У вёсцы было ціха. Недзе аж у тым канцы ў некага з коміна ішоў дым — слаўся па страсе. Ад ям добра была відаць дарога на загуменні — ішла з фермы ля пунь аж у канец вёскі да лесу. І дарога была пустая, бялела толькі ля яе вялікае каменне, адно ля аднаго, як накіданае,— перш, здаецца, гэтулькі не было.

Сонца зайшло ў канцы вёскі, якраз процi дарогі — там яно заходзіла ўсягды летам, свецячы дома ў акно ад двара і рассыпаючы па сцяне ля печы дробненькія малінавыя палоскі: свяціла праз паркан ад вуліцы. Там, дзе яно зайшло, над лесам зазелянелася неба вузкай гарбатай паласой — патухала зара. Дзьмуў з зямлі дробненькі вецер, пахла гарам — недзе блізка гарэў торф — і сухім пылам. Пыл падымаўся дарогай, і яго гнала ветрам па дзядзінцы на ферму. Дарога ад пяску была белая; белы пясок быў відаць і ў вёсцы на вуліцы, ля платоў у старога Багуна.

«Не на дабро, калі зайшло сонца і астаўся вецер...» — падумаў Жаваранка.

Ад гарачага дня стаяла яшчэ сухая духата; ад пылу не было чым дыхаць, на зубах скрыпеў пясок.

Калі Жаваранка зноў крануўся ісці, здрыганулася ўперадзе белая ад пяску вуліца — і вуліца пустая, нікога не відаць,— падумаў ён,— закраталіся, як жывыя, за платамі шэрыя хаты і доўгія, задзёртыя ўгару асверы, паблізэлі, пабольшаўшы, старыя цёмныя ліпы ў Галіны Аляксандравай над хатай — адны на ўвесь той канец вёскі.

Колькі разоў за сваё не такое і кароткае жыццё ён варочаўся з дарогі ў вёску, ночы-апоўначы, і ні разу вёска не здавалася такой пустой і ціхай — што вымерла...

Ён ішоў і чуў, як грукала пад нагамі зямля. Кончыўся соснік, які заходзіў ад бульбяных ям на поле за дарогу і хаваў з вачэй гэты канец вёскі, і Жаваранка аж здрыгануўся: не было відаць тофеляў. У тым канцы раслі дзве

ліпы ў Галіны Аляксандравай, з аднаго і з другога боку хаты; у гэтым — тофелі, аж чатыры, у яго, у Жаваранкі, у гародчыку ад вуліцы — у кожным кутку. Старыя, не абхапіць рукамі, з тоўстай, пачарнелай знізу на камлях карой, па якой высыпаў ужо дробненькі жоўты мох, як грыбок; высокія, вышэй за ліпы ў Галіны Аляксандравай, з разгалістымі кунатымі вярхамі, якія краталіся і шапацелі лісцем над хатай, здавалася, аж пад небам... Гадоў ім можа за дзвесце — Жаваранка як помніць, дык яны ўжо былі такія,— відаць, садзілі іх тут, калі закладвалі хаты ў Венеры...

Ён задзёр вышэй над вачмі брыль — лоб пад пальцамі быў халодны і мокры ад поту,— але не бачыў ні тофеляў, ні хаты ля іх — не чарнела, як усягды, паказваючыся над хлевам ад вуліцы, старая саламяная страха з высокім комінам... Ідучы, ён падаўся ўвесь наперад, каб пабегчы... Раптам блізка — над ракой ля Пагурка — загудзелі самалёты. Ён спыніўся на міг, кінуўшы вачыма на Пагурак. Самалёты былі над Выганчыкам, ішлі па тры ў рад, клінам, як робяць усягды ўвосень, адлятаючы, журавы; за тройкай тройка, тады яшчэ адна за адной — па баках. За апошнімі тройкамі быў прагал — сінела неба, тады самалёты зноў пачыналі ісці, ішлі шырэй, займаючы неба аж сюды, да ракі, да Венеры, і за Выганчыкам да могілак. Самалёты гудзелі роўным, густым ядраным гулам, глушачы ўсё жывое на зямлі. Ад яго закладала вушы, і траслася пад нагамі дарога. Ішлі бамбардзіроўшчыкі — не злічыць. Засцілаючы неба, яны плылі за ракой у бок Найдорфа, на захад. Каля бамбардзіроўшчыкаў круціліся знішчальнікі, па два ў звяне, насіліся, як шалёныя, што ўсё роўна стрыжы над зямлёй перад дажджом: абганялі роўны строй бамбардзіроўшчыкаў, вырываліся далёка наперад, туды, дзе зайшло сонца, варочаліся назад — ляцелі блізка, над самай Венерай, нылі прарэзліва, аж звінела ўвушшу,— залятаці пад Пагурак, падымаліся вышэй над бамбардзіроўшчыкамі, і зноў пёрліся наперад, на Жары.

Жаваранка глядзеў на самалёты і думаў, што няма хаты: згарэла... што самалёты на гэтым вячэрнім небе чорныя, як галавешкі...

З дзядзінца ад фермы ён згледзеў край тофеля, што рос ад вуліцы; тофель быў жоўты, як увосень. З-за хлева, дзе ўсягды была відаць чорная страха ад хаты, зелянеў чысты Выганчык за ракой, і над ім віселі самалёты — усё яшчэ ішлі на захад, на Найдорф.



Іван Пташнікаў (другі справа)
з жонкай Валянцінай Іванаўнай, Іванам Чыгрынавым
і Барысам Сачанкам (крайні злева).
*1964 г.*



Іван Пташнікаў.
На радзіме (наваколле вёскі Задроздзе).
*1966 г.*

З дзядзінца ў вуліцу ён пайшоў з подбегам, чуючы, як спаўзае і спаўзае з пляча на руку ад хады аўтамат,— ён папраўляў яго, закідаючы за плечы, і бег... Бег па пяску ля плота; бачыў сляды ад машын пасярод вуліцы — вытаптаны глыбака ў пяску дзве шырокія дарожкі, на два колы, як і да вайны, калі леспрамгасаўскія прычэпы вазілі лес. Падумаў, што праз вёску доўга, відаць, хадзілі машыны.

Ногі лезлі ў пясок, як у снег,— пяску наганяла ў вуліцу з гары ад ям вясной у паводку і летам у дажджы,— млелі і падсякаліся.

Процi свайго хлева спыніўся, апёрся рукой на плот: згледзеў уперадзе стары высокі куст бэзу, які рос у гародчыку,— бэз завяў, лёг на частакол; лісце здалёку было белае, як у ніцай лазы.

Перайшоў па пяску вуліцу і ступаў сцежкай ля хлева. Запахла старым перасохлым сенам і гарам... Пачуў, як цесна стала ў грудзях; пасля падумаў, што і вуліца вузкая і цесная. Асеў хлеў; на вуліцу, аж на сцежку, вытыркнулася ніжняе бярвенне разам з патрэсканым, старым шырокім шулом, якое стаяла на подрубе; за бярвенне і за шуло чапляліся, едучы, восямі і скрэблі загваздкамі, адшчэпліваючы падгнілую зверху жоўтую абалонь. Вуліца пацяснела, калі да вайны сталі хадзіць леспрамгасаўскія прычэпы: ішлі ля самай мяжы, на якой высака стаяў плот, выбіваючы ў зямлі глыбокую каляю. Прычэпы і адсунулі калёсны тор пад самы хлеў...

Закруціла пад нагамі ад ветру пясок; сцебанула дробнай калючай жарствой па твары; з двара, з-за хлева, дыхнула гарэлай цэглай.

Жаваранка расшпіліў у рубашцы верхнія гузікі — аж два.

Ад хлева да варот ён ішоў ля высокага, у рост чалавека, тыну, не чуючы пад сабой ног. Калі ля самых варот па твары сцебанула белым цветам зялёная рабіна — маладая, пераваліласа толькі цераз тын і зацвіла,— ён адразу падумаў, здзівіўшыся: рабіна асталася, не згарэла. Пасля падумаў, што і тын астаўся, і хлеў... Немаведама, як ён уцалеў, стаяў жа зусім блізка, чуць не страха ў страху з хатай. Можа, вецер павярнуў да ракі, а можа, таму, што перакрылі да вайны драніцай, зняўшы старую салому...

Вароты былі зачынены — зашчэплены з сярэдзіны, з двара, на кручок,— і Жаваранка, апёршыся на іх грудзь-

мі і зачапіўшыся зверху лакцямі, глядзеў на двор, дзе стаяла нядаўна хата. На яе месцы жаўцеў пясок — насыпаўся са столі — і блішчала цьмяна, як лёд, бітае шкло. Там, дзе былі сенцы, бялелася круглае каменне — з-пад попелу вытыркаўся падмурак. Хата была вялікая, з ладнымі сенцамі, цяпер жа з двара кідалася ў вочы вузенькая даўгаватая паласа попелу і пяску. Жаваранка аж здзівіўся: гэтак мала займала хата месца на двары. І сцежка, якая вяла ад варот да ганка і далей да студні, цяпер бялела ад сіпаку з травы ля самага падмурка, зусім блізка ад камення. Згарэла ўсё датла, ні галавешкі; нават попел, перамешаны з пяском, ляжаў роўным і гладкім рыхлым пластом, як зямля, забаранаваная граблямі вясной на грагах. І печы не было; там, дзе яна стаяла, ляжаў высокі груд цэглы — абрыўся і комін, і зверху чалеснік...

Пераступіўшы з нагі на нагу, Жаваранка ўзяўся рукамі за вароты, зверху, за абчэсаную лату. Зглядзеў адразу, што і пальцы, і далоні чорныя ад вугалля: вароты абгарэлі з двара. Абгарэла ўгары перакладзіна — абчэсаная сасновая дыля, шула, да якога былі прывязаны скручаным дротам вароты; латы зверху аж уніз, нават пачарнела пята з жалезнай бліскучай — выцерлася — рэхвай на канцы, на якой яны круціліся, стоячы на калодачцы; агонь перакінуўся на тын, і абгарэла другое шула, пачарнеў нават зверху, узяўшыся вугалем, пазок, выбіты за доўгія гады жалезным, зробленым у кузні, вялікім кручком.

З гарода ад ракі дзьмуў вецер, і на двор, на сцежачку ў траву, перасыпаўся з пажарышча попел дробненькімі вострымі змейкамі, як снег зімой у мяцеліцу цераз дарогу. Угары на тофелях затрашчала сучча. Жаваранка аж злякнуўся. Задзёршы галаву, убачыў, што тры тофелі — два ад хаты і адзін ад вуліцы, які рос ля самых варот,— згарэлі зусім — угару тырчала чорнае рагаччо, як растапыраныя пальцы; ад ветру з яго сыпалася дробная, як сажа, кара. Зашапацела глуха жоўтае скручанае лісце на апошнім тофелі — на адным суку, нахіленым на вуліцу. У жоўтым сухім лісці прыляпілася да тофеля збітая з дошак, з доўгім уперад брыльком чорная шпакоўніца. Старая, Жаваранка не помніць, калі яе вешалі, мусіць, перад самай вайной.

За дваром, на полі, ля ям і на лагу пад Пагуркам вісеў туман; сіне было і кругам вёскі: на выганчыку за ракой, за дарогай ля могілак і ля Жараў... Аціхаў вецер, і вёску ахутвала густая сіняя цішыня.

Ціха і пуста зрабілася на душы. Абвялі рукі, Жаваранка хацеў намацаць з вуліцы рукой кручок, каб адшчапіць вароты, і не мог.

Туман прыпоўз на двор, зачапіў паласой абгарэлы збоку шэры зруб на студні і павіс рэдкім клубком над дрывотняй — здавалася, на ёй яшчэ датляваў трасочнік і з зямлі ўгару ішоў дым.

Сіне зрабілася ўсюды, і Жаваранка аж крутнуўся на месцы: здалося, што згарэла ўся вёска, што ўсюды адзін дым...

Агляпуўшыся, ён убачыў, што ззаду стаяць хаты, як і стаялі здаўна. Убачыў доўгую і роўную вуліцу, затканую вячэрняй смугой. На вуліцы было пуста, толькі недзе далёка ў тым канцы нехта, чуваць было, рэзаў дровы — звінела піла, як камар над вухам. Загудзеў самалёт, і Жаваранка ўбачыў, як адтуль, дзе зайшло сонца, перасекшы ў тым канцы вёску, нізка, чапляючыся за ліпы, у бок Пагурка ляцеў «дуглас» — чорны, брухаты, з ценкімі, задзёртымі ўгару крылламі. «Дугласы» сёння ад самай раніцы лёталі адзін за адным усё тым бокам — гаварылі ў атрадзе, што яны возяць з фронту раненых.

Зноў зазвінела ў вёсцы піла; недзе блізка бразнула жалезная почапка аб вядро. Жаваранка тады ўтаропіўся на двор. Падумаў: на двары не вытаптана трава; як парасла за гэты час, так і стаіць, непрымятая. Ля гародчыка на сцежцы падняўся ў калена падарожнік, праз частакол павылазілі, нагнуўшыся на сцежку, доўгія кунатыя дудкі канаторжніку і крапівы: сцежкай не хадзілі. І падваротня зарасла падарожнікам і белай дробнай дзяцельніцай...

Тады яго адразу як падмянілі. Не могучы дастаць і адшчапіць кручок, ён, узяўшыся ў дзве рукі зверху за абгарэлую лату, задрагаў варотамі і закрычаў:

— Кланя!..

Драгаў варотамі, думаючы, што, згледзеўшы папялішча, як застыў усё роўна на месцы. Трэба было адразу бегчы цераз вуліцу да Юлькі і пытацца, дзе Кланя з дзяцьмі. Пасля падумаў, што вароты зашчэплены з сярэдзіны, з двара... І на вуліцы проці іх пясок, здрабежаны дзіцячымі босымі нагамі...

Вароты аселі, і кручок ніяк не выскакваў з прабоя. Жаваранка тады падняў іх рукамі. Кручок, бразнуўшы аб шула, адшчапіў дробныя кавалачкі рудога вуголля: пырснулі пад ногі. Аднёсшы іх — не хацелі, асеўшы, круціцца на пяце, цягнуліся па зямлі,— аж да частаколу пад то-

фель, Жаваранка з подбегам пайшоў па сцежцы, чуючы, як труцца пад нагамі паўцагелкі. Рассыпаныя, пачарнелыя ад сажы, яны валяліся на сцежцы і на траве пад частаколам. Сярод двара, ля асвера, ён стаў, азіраючыся. Усюды было пуста і ціха; ля студні і ля паркана парасла высокая дробная лебяда, пажаўцела на цвёрдым месцы без вады; пад лебядой у падарожніку валяліся гільзы ад нямецкай вінтоўкі і кароценькія акуркі ад цыгарэт. Акуркаў было што насыпана; яны тырчалі з травы і па сцежцы, і ля варот, і на вуліцы, папрыліпалі да зямлі, пажаўцелі — выгаралі на сонцы.

Жаваранка як прырос на двары, толькі вочы бегалі: па пажарышчы, па тыне ад вуліцы, па хлеве, па абгарэлым дрывотніку, па паркане ля студні — шукалі, каб зачапіцца за што жывое. Пасля ён зглсдзеў на абгарэлым вочапе — вочап, відаць, быў зачэплены за паркан і абгарэў разам з ім — вядро. Вядро калыхалася на жалезным шырокім круку, заткнутае над перавеслам затычкай, ціхенька з боку на бок, над самым зрубам, над студняй, і было мокрае. На дне на вядры вісела вялікая, з арэх, чыстая кропля вады. Жоўты жвір ля студні, ля зруба, быў гладкі — прытоптаны...

Зыбнуўся пад нагамі двор; споўз з пляча аўтамат і павіс на лакці...

— Кланя...— клікнуў Жаваранка ціха, не верачы таму, што згледзеў. Бег да хлева, да дзвярэй, і думаў, што дома нехта жывы, бо даставаў са студні ваду...

Дзверы ў хлеў — вялікія, праз іх уязджалі з возам, збітыя з тоўстых дошак,— былі прычынены, як усунуць галаву; закінуўшы аўтамат за спіну, ён тузануў іх рукамі — дзверы аселі на зямлю, як і вароты,— і, упёршыся, адапхнуў іх да палавіны...

Кланю ён убачыў адразу: сядзела з краёчку ля шула на памосце, спусціўшы на чырвоны, падмецены ад патрухі гліняны ток босыя ногі. Як абцягвала, відаць, рукамі спадніцу, хаваючыся ад камароў, так і заснула: спіць, учапіўшыся за падол і скорчыўшыся ў тры пагібелі. Уткнула нос у калені — схавала твар; на галаве ў яе была знаць пад завязанай туга ля шыі белай у чырвоныя кветы хусткай каса, закручаная ў куклу. На плечы, на нажутку, была накінута цёмная пяньковая хустка з доўгімі прэнзлямі.

Спопаразку ён аж зжахнуўся; горача зрабілася ў грудзях...

— Ты што?..— зляцела ў яго з языка.— Кланя...

Кланя маўчала, дыхала толькі, сапучы, сабе ў калені; на плячах у яе надымалася пяньковая хустка і разам з ёй камары. Камары абляпілі ёй плечы, галаву, наліплі на калені, на голыя рукі, на ступні... Ногі Кланя накрыла была леташнім сенам; разгоенае, яно ляжала цяпер далёка ад ног, ля самых дзвярэй. Ён пачуў, што ў хлеве несціхана звіняць камары, падумаў, што іх цэлая хмара — не дыхнуць: наліплі адразу яму на лоб, на шчокі...

Ён стаяў, глядзеў на Кланю, і ў яго мякчэла на душы; толькі ногі яшчэ дрыжалі ў каленях і недзе глыбака ўсярэдзіне не астывала трывога: а дзеці?

Ён кінуў вачыма ў кут на памост... Памост быў чыста падмецены, відаць былі жоўтыя, аскобленыя сасновыя круглякі, якія высака ляжалі на легарах, і паміж імі дробная пацяруха ад сена, як стоўчаная ў ступе. Ля перагародкі, сымшанага тыну, за якім усягды зімавала карова, стаяў вялікі венік-дзяркач — з сенцаў, Жаваранка пазнаў. Відаць, ляжаў, выкінуты, на двары пад парканам і не згарэў. Ля яго на шырокай калодцы з дрывотні прыляпілася з краю вядро з вадой, у якое даілі ўсягды карову, і конаўка, паўлітровая, цёмная, паліраваная,— яна вісела ў парозе ля печы на дроце на круку разам з вядром, і ёй пілі ваду. За калодкай з вядром у самым кутку ля тыну стаялі чорныя гаршкі, вялікія і малыя — асталіся ў печы, не лучылі ў пажар; ля іх ляжалі на памосце пакарабачаныя ад агню жалезныя вілкі без вілачнікаў...

Тады ён павёў вачыма па ўсім хлеве...

У кутку ад вуліцы згледзеў кучу леташняга сена... У хлеве было ўжо шэра, але ў вочы кінулася цёмная пасцілка на сене і пад ёй, ля самай сцяны, белая палоска наўлечкі...

— А дзеці?..— ён як думаў, так і крыкнуў на ўвесь хлеў.

Кланя ўздрыгнула аднымі плячамі, павярнула, падняўшы, на каленях галаву набок — ён убачыў з-пад хусткі яе чырвоную шчаку — адлежала; пастрэпала пальцамі па голай назе ля костачкі — паганяла камароў — і зноў засапла носам, ціхенька падзьмула, як у саломінку: спала.

Тады ён ступіў да яе бліжэй, на паўкрока, пераманіўся толькі з нагі на нагу, і клікнуў моцна, на ўвесь голас... Падумаў, што кліча так, як клікаў усягды ў хаце, калі што было пільна трэба.

Кланя адразу падскочыла на памосце, як мячык, і стала босымі нагамі на падмецены гліняны ток, выставіўшы

ўперад рукі, як баронячыся. Пад ногі — на ток і на край памоста — спаўзла ў яе з плеч шэрая пяньковая хустка.

Кланя стаяла як укопаная, збялеўшы; плюскала толькі вялікімі шэрымі вачыма спрасоння... Пасля адразу змянілася з твару, заружавеліся круглыя шчокі і прамы нос; нават дзічка над левым брывом, дзе яна вырасла, калі Кланю ўдарыла рогам карова, запунсавелася, што журавіна... Калі чырвань адліла ў яе з твару, Жаваранка ўбачыў, што Кланя загарэла за гэты час; парабіліся бурыя і шчокі, і лоб, на які з двух бакоў спаўзалі пасмы русых валасоў, нізка, на самыя бровы.

Кланя стаяла міг, другі, тады як закрычыць:

— Яхрэм!..

Пасля ўпала яму на грудзі галавой — ніжэйшая была, па плячо,— і прыхінулася нeяк бачком, як баючыся, да яго, што да сцяны, апусціла ад знямогі рукі і загаласіла на ўвесь хлеў:

— А я ж думала, што забіты-ы... А людзі варо-очаюцца... А людзі прыходзяць... А я пытаюся, а мне ніхто нічога не гаворыць... Вачэй на мяне не падымае... Хоць бы сказаў хто, што цябе жывога відзіў...

Яна прымаўляла, як па нябожчыку, і Жаваранка пачуў, што па спіне ў яго пабеглі мурашкі; прымаўляючы, захліпалася ад слёз, схаваўшы галаву ў яго на грудзях... Ён тады адной рукой — на другой, споўзшы з пляча, вісеў на лакці аўтамат — пачаў ціха гладзіць яе па плячы. Яна, усё роўна як прыслухаўшыся да рукі, пачала радзей прымаўляць, пацішэла, толькі ўсхліпвала, доўга, дыхаючы глыбака з сябе; пасля раптам адарвалася ад грудзей, падняла ўгару галаву — ён убачыў яе цьмяныя вочы, схаваныя пад слязьмі,— зняла ў яго з галавы кепку, кінула, не гледзячы, на памост, паднялася на пальчыкі, ухапілася абедзвюма рукамі яму за галаву і пачала гладзіць вільготнымі халоднымі далонямі і лоб, і шчокі, і валасы на галаве, і шыю... Пасля гладзіла па плячах, па пінжаку і, уздрыгваючы, усё яшчэ прымаўляла...

— А я ўжо думала... не вернешся... А гора-а наша вялікае-е... Ажно ты і прыйшоў услед за нашымі. Нашы ішлі двое сутак аж дагэтуль: і на машынах, і абоз. Найдорф усё пыталіся...— яна выцірала сагнутымі ў пульсэтцы рукамі вочы, круціла галавой, відаць, не верачы яшчэ самой сабе, і глядзела на яго з такой крыўдай, якой ён за ўсе гады з ёю ніколі не бачыў. Ён хацеў сказаць, што вот жа ён, жывы, здаровы, чаго ж плакаць, але пачуў, што і ў яго

голас дрыжыць і сам ён дрыжыць увесь... што зараз пырснуць з вачэй слёзы. Калі яна сказала: «А гора наша вялікае...» — пра хату ён ужо не думаў. Адхінуўшы яе ў дзве рукі ад сябе, ступіў да памоста. Зноў убачыў пад пасцілкай вузенькую белую палоску наўлечкі і ў кутку на сене кажух. Таркануўся ля самага памоста і зноў павярнуў галаву да Клані — яны стаялі ўсё яшчэ блізка адно ля аднаго, плячо ў плячо,— спытаўся ціха, заікаючыся — перасела ў горле:

— А дзеці? Чаму ты нічога не гаворыш?..

Яна неяк здумелася адразу, зірнула на яго з дакорам: чаму гэта ён пра яе не папытаўся ні слова, усё пра дзяцей, пасля пагляд у яе раптам памякчэў, стаў ранейшы, з клопатам і трывогай, і яна сказала — дыхнула глыбака з грудзей:

— Выцерыся ад сажы. Чорны ўвесь. За вароты, відаць, рукамі браўся... Пачакай, падам рушнік...— Яна круцілася па баках, стоячы на адным месцы і хаваючы ад яго вочы,— ручнік шукала, ці што?

Ён махнуў па лбе рукавом і ступіў зноў да яе:

— Дзе Валодзя? Дзеці?.. Што ты ад мяне хаваеш?

— О-ох...— і яна, гледзячы на яго, стала выціраццa рукавом нажуткі. Недзе глыбака ў вачах у яе бліснула дробненькая ўсмешка, як скупая расінка на траве ўсходам сонца. Пасля адразу патухла, схаваная горам.

— Не пужайся...— яна пастаяла, тады сама ступіла на памост.— На сене дзеці, пад пасцілкай... Ад камароў схавала...

Ён, не верачы, рвануўся бегчы па памосце — грукнуў ботамі па сасновых кругляках; яна ішла ціха, шлопаючы босымі нагамі. Падбегшы, ён стаў на калені на сена; замінаў аўтамат, і ён зняў яго з лакця і ўзяў у левую руку, правай ухапіў пасцілку і пацягнуў да сябе.

Валодзя спаў, з'ехаўшы з падушкі і завярнуўшы галаву на плячо. На белай наўлечцы — галава ўтапілася і схаваліся вушы — добра былі знаць бурыя ад загару шчокі, прамы, праз увесь дробны твар і шырокі ўнізе, у ноздрах, нос: згарэў на сонцы, і з яго лупілася скура, як луска ў рыбы; яшчэ не сцямнела, і відаць былі чырвоныя, як ад палу, растапыраныя вусны; бровы падняліся ўгару, аж зморшчыўся лоб, як усё роўна Валодзя дзівіўся нечаму ў сне. Жаваранка паклаў аўтамат на памост ля самай сцяны ствалом у кут да перагародкі і, нагнуўшыся над Валодзем, апусціў яму руку на лоб — даланёй. Лоб быў халод-

ны і мокры ад поту. Валодзя, пачуўшы, зацмокаў вуснамі, пасля, выхапіўшы хуценька руку з-пад пасцілкі, пачаў церці пальцамі лоб, расціскаючы прыліплых камароў і пакідаючы цёмныя пісягі крыві.

— Мой ты сын...— уздыхнуў Жаваранка, глядзеў на яго зблізку, утаропіўшыся, як не пазнаваў, пасля крутнуўся ўвесь да Клані — яна стаяла на памосце побач, і ён убачыў толькі яе босыя ногі.

— Антунінка дзе?

Кланя тады апусцілася на калені на сена з другога краю падушкі.

— Гм... Антуні-інка. Разумнейшая яна за хлапца, дык і схавалася ўся пад пасцілку. З'ехала з падушкі яму пад паху, і не відаць нідзе. А гэты вытнуў лысіну і камароў корміць...— Кланя стала махаць адной і другой рукой над падушкай — над дзяцьмі,— пасля ў сябе над галавой і над галавой у яго, Жаваранкі.

Жаваранка ўзяўся за пасцілку, за край, і пацягнуў да сябе. Узгаіўшы старое леташняе дробнае сена з аселіцы і схаваўшыся ў яго аж па шыю, спала Антунінка. Ляжала, павярнуўшыся на бачок; з-пад русых, як у Клані, валасоў — валасы рассыпаліся і накрылі твар — відаць быў маленькі носік і ля яго рука. Жаваранка адразу пазнаў, што ў роце ў яе мезены палец — яна ўзяла мезены палец з правай рукі ў рот, калі нарадзілася,— і пачуў, што яна яго ссе, моцна, аж прыцмоквае. Аціхне, пачакае, тады зноў цмокае, яшчэ часцей, як спяшаецца...

Ён стаяў на памосце на каленях, гледзячы на дзяцей. Кланя заціхла, апусціла рукі, не ганяла камароў, тады зноў загаласіла, круцячы галавой і заплюшчыўшы вочы:

— А няма дзе і спаць палажыць... А ўсё дымам пайшло...— яна згрэбла ў жменю — у адну і ў другую — сена, сціснула, аж страпянулася ўся, спружыўшыся, пасля стала жмакаць без аддухі сена ў руках і прымаўляць: — А пакарміць няма чым... І не зварыць... А хоць бы да печы прытуліцца...— Яна доўга галасіла, прымаўляючы і жмакаючы ў руках сена, пасля зноў пачала аціхаць, усхліпваючы і цяжка ўздыхаючы; гаварыла радзей — памаўчыць, памаўчыць, тады зноў за сваё: — А яна ж і палец ссе, бо галодная. А яна ж у нас ужо не ссала, забылася... А як кінулі сухары, уцякаючы, за Дзвінасой, яна зноў палец у рот. А я ж зведавалася, на яе гледзячы, а ў мяне ж сэрца чуць не разарвалася... І як мы толькі выжылі, не памёрлі... Як мы толькі жывыя асталіся... А я

ўжо думала, што мне некаму будзе і расказаць пра гэта...— Яна адкінула ад сябе сена, што сціскала ў жмені — у адной і ў другой,— далёка ў кут, адвязала з галавы белую ў чырвоныя кветы хустку — як усё роўна яна яе душыла, спусціла на плечы, апёрлася ззаду рукамі на памост, адкінуўшыся ўся назад і адкінуўшы галаву, і затраслася ад плачу, ціхага, цяжкога і несканчонага. Зайшлася, як дзіця. З плячэй у яе з'ехала хустка, з куклы выпаў кавалачак цёмнага грэбеня, пырснуў недзе туды, дзе стаяла вядро з гаршкамі, валасы раскруціліся, рассыпаліся, доўгія і цяжкія, і падмяталі, матаючыся, дробную патруху ад сена на чырвонай глінянай праціўні...

Яму цяжка зрабілася ў грудзях: не дыхнуць, як падпёрла. Ён кашлянуў і папярхнуўся, пасля зноў закашляў, каб не заплакаць, ціха, закрываючыся даланёй, баяўся разбудзіць дзяцей. Ён даўно не плакаў, і цяпер, калі пачуў, як у вачах сабраліся цёплыя слёзы, ускочыў адразу з калень, нагнуўся над леташнім сенам, зацягнуў пасцілку над дзяцьмі, схаваўшы абаіх з галавой, пасля павярнуўся да Клані — яна сядзела ціха, нагнуўшы галаву і склаўшы рукі перад сабой,— і сказаў, заікаючыся:

— Ну-у-у... Пла-акаць...

Пасля ступіў з памоста на падмецены ток, падышоў да вядра з вадой і сказаў адтуль:

— Па вуглах не плач... Уцалелі самі — то вуглы нажывём. Пад адкрытым небам не астанёмся...

Нагнуўшыся над вядром, пашукаў рукамі конаўку; Кланя, ускочыўшы з памоста, падбегла да калодкі, перахапіла ў яго конаўку, спяшаючыся, апаласкала спачатку, тады хуценька зачэрпнула поўную вады і падала яму. Рукі ў яе дрыжалі...

— А я адразу за слёзы...— ціха сказала яна.— А ты ж і піць хочаш з дарогі, і есці... І нямыты... Калі ж само плачацца...— сказала яна зноў пра сябе.— Як падмяніў хто: цякуць слёзы і цякуць.— Пасля зноў да яго: — Вада недзе ўжо ў вядры сагрэлася... Пойдзем да студні, на двор. Свежай засілю... І памыешся...

— У роце горка. Хоць бы змачыць...— сказаў ён, аддаючы ёй конаўку ў рукі.— І не плач ты... Зноў скажу: вуглы — дзела нажыўное... Хлеў, во, ёсць, астаўся, і дзякавай богу... Будзем жыць — усё будзе...

Яна схапіла вядро з вадой з калодкі — у адну руку, у другую конаўку, памкнулася спопаразку бегчы на двор да студні, але калі ён сказаў: будзем жыць — усё будзе, ад-

разу як аб што спатыкнулася. Злавіла ў яго голасе, відаць, тое, чаго баялася з самага пачатку: прыйшоў і — зноў пойдзе... Сказала ціха — голас змяніўся і задрыжаў:

— Зноў, мусіць, пойдзеш... Бо з афтаматам прыйшоў...— адскочыла да дзвярэй і стала, сагнуўшы рукі ў лакцях,— падняла і вядро, і конаўку, як усё роўна заступала яму дарогу, каб ён не ўзяў і не пайшоў адразу з хлева. Выжыў, вярнуўся, гэтулькі чакалі, а ён возьме і пойдзе. Забегся, паглядзеў на дзяцей, нап'ецца вады, памыецца, а можа, і на гэта часу няма, і зноў пойдзе. У божы свет як у капейку... І зноў чакай яго дзень-ноч...

Яна глядзела на яго з парога, і вочы ў яе блішчалі ад слёз.

— На двое сутак пусцілі... І сённяшняя ноч... А дагэтуль нашым памагалі пад Плешчаніцамі. Вайна не кончылася...— Ён вярнуўся на памост, падняў аўтамат — у хлеве сярод паху леташняга сена патыхнула жалезам, машынным маслам і згарэлым порахам — і павесіў яго за рамень на ўбіты зуб ад бараны ў шуло на тыне, дзе вешаў усягды граблі і касу. Зуб быў убіты высака, і ён, дастаючы, аж падскочыў на памосце.

— Хай бы ляжаў... Дзеці ж спяць...— яна сказала з парога вясёлым голасам — не пазнаць, ён аж крутнуўся да яе.

— Праз двое сутак усе, хто яшчэ астаўся ў лагеры, пойдуць у раён, у Плешчаніцы. А там — паглядзяць. Каго адразу на фронт, каго ў Мінск на парад... Парад будзе ў Мінску, аб'явілі ўжо...

— А цябе? — перабіла яна, зноў натапырыўшыся ля дзвярэй.

Ён як усё роўна не пачуў:

— Адным словам, каго куды... Скажы дзякуй і за гэта. Не ўсіх дамоў пусцілі. Многія ўжо ля Маладэчна. З нашымі пайшлі. Адразу... Двое сутак далі, бо заслужыў. Гэтак і сказалі...

— Ты нешта хаваеш... Не гаворыш мне...

— Ну што табе сказаць... Мяне — у палявы ваенкамат... На камісію... Усіх, хто ранены ці белы білет ёсць, пасылаюць...

— У ваенкамат? На камісію?..— Яна спалохалася, хацела паставіць на зямлю вядро.

— У мяне кантузія. Камісія рошыць: на фронт, ці дамоў, ці так куды...

— Кантузія? — Яна, пачуўшы, адразу паставіла вядро

на зямлю, пасля зноў падняла.— Якая кантузія? Што ты маўчыш?..

— Цяпер ужо не страшна... Скарэй за ўсё на фронт пашлюць. Галава ўжо не вядзе, прайшло. Толькі ў вачах, бывае, горача робіцца, і баляць яны тады недзе глыбака пад лобам... Спіна яшчэ ные... Тупа. І не праходзіць. Гэта цярпець можна. Забываешся... Камісія на такое не пагля-дзіць...

— А што было? Чаму ты не расказваеш? Пойдзем да студні, цямнець скора пачне...

— Толькі ты не плач. Мінай засыпала ў акопе. Пад Пагуркам. Паляжаў і адышоў... А што яшчэ трэба... Ады-шо-оў...

Яна тапталася з вядром і з конаўкай у парозе, то да яго падыдзе, то назад вернецца:

— Гэта ж падумаць... Засыпала... Ніхто б і не знаў...

— Многа каго засыпала...— сказаў ён, уздыхнуўшы.— Дай вядро, і пойдзем да студні. А то дзяржыш у руках.

— Што ты... Табе, можа, цяжкога і падымаць ня-можна...

— Эх, баба, баба... Ты ўжо і за мяне бярэшся адразу вёдры насіць... Самой табе яшчэ прыйдзецца доўга іх па-дымаць. Думаеш, мяне пусцяць? Ты чуеш, што за Най-дорфам робіцца? Таўкуць, як у ступе...

Яны выйшлі з хлева на двор — яна наперадзе з вяд-ром і конаўкай у руках, спяшаючыся, ён ззаду, ступаючы паволі, спаважна. Ішоў і чуў, як у яго ўляглося раптам усё, што не давала спакою гэтыя дні, глыбака на дне ду-шы, што ён цвярдзей стаіць на нагах, як усё роўна пад-няўся раптам знямоглы з зямлі і апёрся плячом аб сцяну.

Ён абмінуў Кланю, узяў на хаду ў яе з рук вядро, раз-махнуўшыся, выліў ваду пад паркан у канаторжнік і ле-бяду, павесіў яго на крук; зашчапіўшы, упёрся каленямі ў зруб і піхнуў адной рукой з-за пляча вочап. Заклекатаў, што бацян на гняздзе, сухі асвер, забразгала ў цёмнай студні аб зруб парожняе вядро і плюхнулася дном у ваду. Вядро з вадой ён цягнуў у дзве рукі і думаў, што трэба прывязаць на канец асвера калодачку, што Клані цяжка цягаць вёдры. Са студні пахла халоднай, свежай сыра-сцю, як усягды ў гарачае лета; запах, абліты вадой, пры-мяты канаторжнік — палыном; з гародчыка ад вуліцы пацягнула кмінам і агурочнікам, і Жаваранка аж перавёў дых... Стаяў, узяўшыся абедзвюма рукамі за халоднае ад вады вядро, чуў, як яна плёхае на рукі і пырскае на гру-

дзі — поўнае зачэрпнуў, і яму здалося на кароткі міг, што не было ні вайны, ні немцаў, ні блакады... Што яго паслала Кланя, прыйшоўшы зморанаая з поля вечарам, па ваду — сама пачала шлопаць ля печы: бульбы зварыць на вячэру. Ён прынясе вядро ў хату і павесіць яго высака на дрот ля печы. Будзе піць з вялікай чорнай конаўкі — сасмяг за дзень,— а Кланя стане чакаць, выставіўшы рукі: трэба конаўка — даліць вады ў гаршчок з бульбай...

Ззаду за плячыма захліпала Кланя, ён спопаразку адвярнуўся ад вядра і ўбачыў, што Кланя стаіць на вытаптанай латочыне ля шырокага, як пліта, абгарэлага — чорнага зверху — каменя і выціраецца рагамі хусткі.

Камень ляжаў у іх ля хаты — ля ганка...

Жаваранка паставіў, зняўшы з крука, вядро на зруб, на ачэсанае зверху вянцо, і ціха падышоў да Клані.

Кланя стаяла ля каменя, склаўшы рукі на жываце,— у правай руцэ ў яе была вялікая чорная конаўка, зачэпленая за палец... Ён успомніў невядома чаму — як стукнула ў галаву,— што Кланя кожны раз зімой у маразы — у маразы якраз цялілася карова — прыносіла раніцай у чорнай конаўцы з хлева малодзіва: спачатку на дне, пасля па паўконаўкі, а тады ўжо брала і конаўку з сабой у хлеў, і вядро. Малодзіва яны пяклі спачатку на скавародцы, пасля на вялікай патэльні, са скваркамі; пазней, пасля ацёлу, варылі малодзіва ў гаршку...

Зноў на яго хлынула гарачыня...

Ён падышоў да Клані, стаў на камень і паклаў ёй руку на плячо. Кланя не зварухнулася, стаяла як укопаная і неглядзела на пажарышча, утаропіўшыся ў кут хаты, дзе некалі стаяў стол. Пачынала паволі, па-летняму, шарэць на дварэ, і добра было відаць пажарышча: белы край печы, пафарбаваны сёлета вясной глінкай, і жоўтая латочына на палавіну хаты ад вуліцы, дзе зверху асыпаўся пясок...

Колькі разоў яны, калі сышліся, ступалі ля ганка па гэтым ачэсаным зверху камені, ідучы ў хату і з хаты: босымі ўлетку нагамі, абдзёртымі аб іржышча і пазбіванымі аб каменне; абутымі ў лапці, калі трэба было касіць балота і выносіць вязкамі сена да стажар'я; хадзілі — ён у чаравіках, а яна ў чорных лодачках — у святы на бяседы; шоргалі цяжкімі ботамі, прыходзячы з вуліцы і ачышчаючы наліплую гразь позна ўвосень... Ад ног на камені засталіся шырокія раўкі...

Доўга стаялі ўпобачкі, нібы сабраліся зайсці ў хату і не рашаліся ступіць...

Угары над галавой шастала суха абгарэлае лісце на тофелі, як некалі цыбуля на шастку ў хаце пад бэлькай — яшчэ не аціх вецер. За плотам ля студні сівеў туман гусцімі палосамі, адна над адной — такога даўно не было. За ракой у альшэўніку азваліся дразды, дробненька, спалохана: варажылі на холад. Стаяла густая цішыня, нібыта навалілася раптам і на Пагурак за пасекай, і на выганчык, і на вёску, і было чуваць, як на вуліцы ў тым канцы нехта плакаў, прымаўляючы — аж шорах ішоў па спіне.

З-за тофеля была відаць за паваротам вуліца, доўгая, шэрая ад хат і пустая — каб чалавек; над ёй, у самым канцы, нізка над лесам віселі самалёты «дугласы», два — ішлі наўскасяк вёскі на выганчык. У цішыні пачуўся іх роўны, спакойны гуд і заглушыў плач; недзе раптам заляскаталі па каменні калёсы, далёка, на дарозе ля Жараў, і Жаваранка пачуў, што яго страсанула... Як усё роўна падкінула на возе на гарохаўі...

2

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Круглы і тоўсценькі, адпашчаны на траве за лета, аж блішчаў, з густой доўгай чорнай грывай Буланчык, якога яму, Жаваранку, далі, калі дзялілі пры немцах калгас, біў у хамут, рвучы гужы — цягнуў воз на гару па глыбокім пяску. Сюды, у лагчыну, у Бярэзавец, да мастка, складзенага з ачэсаных збольшага зверху яловых круглякоў і збітых па баках свежымі сасновымі латамі, нассоўвалі з бору коламі жоўтага пяску па калені, і цяпер з возам на гару было не ўз'ехаць. Але Жаваранка як сядзеў на возе высака на гарохаўі — чуў пад сабой цвёрды выслізганы парубень, з-пад якога пырскаў уціснуты гарох са струкоў, перасох на полі ў валах,— так і сядзеў: Буланчык як жук — успаўзе на любую гару. Падняў толькі з гарохаўя лейцы і, напяўшы, сцебануў Буланчыка па спіне, па шырокім падсядзёлку — аж пыл падняўся ўгару. Буланчык страпянуўся — баяўся лейцаў, расцягнуўся на чатырох нагах: прыпаў да зямлі, пасля скочыў з месца раз, другі і быў ужо на гары. Жаваранка пачуў толькі, як заляскаталі падыспадам па карэнні калёсы, як заківаўся з боку на бок воз, і ён, напяўшы адной рукой лейцы, каб звярнуць Буланчыка ў калёсны тор, ухапіўся другой за аўта-

мат, які ляжаў упобачкі на возе глыбака ў гарохаўі і бразгаў дыскам па сухім яловым парубні...

Уз'ехаўшы за Бярэзаўцам на гару, Жаваранка адпусціў лейцы і звесіў, сеўшы бокам, з воза ногі — гарохаўе паднялося ўгару, схаваўшы на парубні з вачэй аўтамат. Ён, дастаўшы, пакратаў рукой за прыклад: аўтамат ляжаў ля самага парубня.

Конь ішоў, напяўшы гужы і стрыгучы па баках вушамі, як чуў каго чужога; калёсы ціха падскаквалі на карэнні, і Жаваранка бачыў, што ў яго на каленях дрыжаць, звесіўшыся, струкі гароху, буйныя, доўгія, буграватыя, пазагінаныя, нібы рожкі ў казляняці. Ён узяў у пальцы сухі струк і вышчалукнуў. Гароху была поўна жменя, буйнага, па журавіне, і чырвонага. Ён падумаў, што чырвоны гарох завялі ў Венеры, мусіць, перад самай вайной, раней яго ў калгасе не было, што чырвоны гарох парос сёлета ўровень чалавека ў кожнага на шнуры ля Рабога Калодзежа, хто сеяў. У вёсцы ніхто не ведае, што з ім рабіць: пазвозіўшы з поля, чырвонага гароху панамалочвалі ўжо і ліпаўкі, і кадушкі, панасыпалі куфры і мяхі. Не ведаў і Жаваранка, дзе яго адразу дзець. Кланя загадала лішні, прывёзшы ад Рабога Калодзежа з поля, скідаць проста ў стог дома ля хлева. Прыйдзе восень — абмалоціцца, будзе відаць, што куды — знойдзецца месца. Жаваранка думаў, што ўжо трэці год запар, як пачалася вайна, гарох на полі валам коціць; што ўсе гэтыя гады расце добра не толькі гарох: пашалела жыта — ніколі так не расло: не дастанеш коласа рукамі... Гаварылі — гэта на вялікі голад так усё расце ў полі... Пасля ён падумаў: вязе сягоння ад Рабога Калодзежа трэці ўжо воз, трэба паганяць каня — сонца з паўдня, не агледзішся, як зойдзе, а яшчэ да вечара трэба з'ездзіць да Рабога Калодзежа разы чатыры, і то ці забярэш... З атрада яго пусцілі на адзін дзень — з лагера адпускалі рэдка... А тут яшчэ ля Гарбатага Маста разбіта дарога, калдобы па калені, з возам не праехаць — трэба даваць круга на Бярэзавец ад Рабога Калодзежа...

Каля зашыйка, які вузкім і доўгім рукавом сярод бярэзніку цягнуўся з балота аж да дарогі, конь раптам тарcануўся, адсеў назад, пасля даў у хамут, але яго з двух бакоў ухапілі за аброць мужчынскіяваласатыя рукі... Жаваранка ўбачыў адразу, як у каня ля галавы заблішчалі каскі, нямецкія,— з аднаго і з другога боку. Крутнуўшыся спопаразку на возе, каб схапіць аўтамат, ён перавярнуўся на жывот і, не дастаўшы рукой парубня, ссунуўся з воза

на зямлю. Пачуў, як пырснуў у твар абмалочаны са стручкоў сухі гарох; як закасалася высака на грудзі выцягнутая з-пад дзягі кашуля і зачапіліся за шыю лейцы — сцягнуліся разам з воза і ціснулі цяпер, як пятля. Ён ухапіўся адразу абедзвюма рукамі за кашулю, хаваючы з чужых воч халоднае голае цела; убачыў, як да яго падскочылі ад каня дзве бліскучыя нямецкія каскі і наставілі ў грудзі аўтаматы; пасля абмацалі валасатымі, бурымі ад загару рукамі рубашку, штаны — кішэні, злазілі з пальцамі ў халявы ботаў — на адной назе і на другой...

— Форвэрт! — аўтаматы, адразу два, паказалі на дарогу, да каня.

— Ідзі наперад...— Жаваранка пачуў раптам мяккі мужчынскі вясковы, нібы знаёмы, голас і ўбачыў перад сабой чалавека ў чорным добрым касцюме — той як з-пад ног вырас.— Паганяй...

Жаваранка, не адыходзячыся, зняў з шыі напятыя лейцы і, косячы вачыма на воз, дзе ля парубня ў гарохаўі ляжаў аўтамат, тузануў каня...

Каскі паказалі яму, каб ён падышоў і ўзяў каня за аброць...

Ідучы — ён наперадзе, ззаду дзве нямецкія каскі і за імі вясковы чалавек у добрым чорным касцюме, відаць, аднекуль з-за Віліі, бо гаварыў з немцамі па-польску,— Жаваранка ўбачыў, што ўвесь зашыек блішчыць ад касак, што каскі акружылі з усіх бакоў воз, дастаюць валасатымі рукамі высака зверху з воза струкі гароху і адразу, не шчалуканыя, кідаюць у рот; убачыў яшчэ, што каскі зайшлі ўжо ля дарогі, далёка наперад, паселі на пні і цяпер надымаюцца з іх, нібы лезуць з зямлі...

«Белыя плямы на касках... Эсэсаўцы...— падумаў Жаваранка, скруціўшы ў руках лейцы і беручы каня за аброць.— І ідуць у вёску. А адтуль — невядома куды... І невядома яшчэ колькі іх...» Падумаў пасля, што сядзеў на возе, павярнуўшыся спінай да зашыйка, не згледзеў і прысунуўся ў лапы...

Крануў каня за аброць, асцярожна, баючыся; заківаўся з боку на бок воз, і адразу закалола ў пяты халоднымі вострымі іголкамі — не ступіць.

Ні ног, ні рук ён не чуў. У вушах толькі ляскаталі колы па карэнні, тахкаў восямі на калдобах,ківаючыся з боку на бок, воз, і Жаваранка чакаў, калі ж упадзе на зямлю аўтамат... Павярнуўшы галаву, ён убачыў, што немцы ідуць усё яшчэ ля воза, з двух бакоў, сапуць, як коні ў га-

рачыню, ззаду аж ля самых аглабень; падумаў, што аўтамат, падаючы з воза, лучыць некаму па галаве — па касцы,— і чакаў, калі бразне жалеза...

Але было ціха. З'ехалі ўжо з гары, падбіраліся да пасекі, да даваенных леспрамгасаўскіх шліхтаў. Леспрамгас перад вайной навазіў сюды, як і да Гарбатага Маста, лесу, услаўшы шліхтамі ўсю пасеку — і доўгім бярвеннем, і метрамі; каторы ўжо год бралі адсюль і дровы, і дрэва на хаты, а знаку не было. Шліхты метраў стаялі ля самай дарогі; зверху з іх былі паскіданы плашкі на самы тор, і Жаваранка чуў, як падскаквае на плашках воз.

Зноў закалола ў пяты... Жаваранка павёў каня цішэй. Шапацелі па пяску колы, чаплялася, рэжучыся, задняе аб загваздку, звінела пад атосамі бярозавае галлё, і хроп ля вуха конь — махаў і махаў галавой, форскаў, і ў вочы ляцелі пырскі, як ад дажджу. Заблыталіся ў руках лейцы, ён хацеў іх зачапіць за гуж, таркануўся і пачуў, як яму сунулі ззаду пад лапатку аўтаматам востра, аж заныла. Азірнуўшыся, ён убачыў, што ад касак блішчыць уся дарога. Кратаецца, далёка яшчэ ззаду, выгінаючыся, нібыта па ёй паўзе гадзюка, блішчыць і бразгае. Грукаюць і групаюць ногі, чапляючыся за пні, за карэнне, за параскіданыя метры... Немцаў пабольшала; да першых далучыліся яшчэ на пасецы — уставалі з пнёў ля дарогі.

«Тут бы іх налажыў, як дроў, каб сакануў удоўж шліхтаў...» — падумаў Жаваранка. Пасля падумаў, што позна: трэба было адразу схапіць з воза аўтамат... Трэба было ў жыліне... А пасля — цалуй яго пад хвост... Лес... А цяпер...

Рабілася то горача, то холадна. Высахла ў роце. Захрумсцеў на зубах пясок, набіўся з-пад капытоў у каня. Уздрыгваў воз, і Жаваранка ўздрыгваў сам, раз за разам.

Выехалі з лесу да ям, паказалася вёска, стрэхамі, і ферма — адразу ўся як на далані. Ён падумаў на міг, як усё роўна ўбачыўшы першы раз, што на кароўніках высокія-высокія стрэхі і ля студні высака ўгару задзёрся асвер; што невядома яшчэ, куды завернуць яго немцы: у вёску ці на ферму...

Конь па пяску ля ям цяжка ішоў на гару і памінутне хроп; шастала і шастала ззаду на возе гарохаўе. Жаваранка толькі цяпер згледзеў, як немцы, абступіўшы воз, скублі ўжо гарохаўе жменямі. Цягнулі з бакоў — з аднаго і другога, падскакваючы, даставалі зверху; дастаўшы, круцілі ў вехці і перакідалі цераз галовы некуды назад,

на бліскучыя каскі і на выцягнутыя над галовамі рукі, рагочучы на ўсё горла, нібы жарабяты ржалі на выганчыку...

Азірнуўшыся яшчэ раз, Жаваранка ўбачыў, што воз зрабіўся вузкі, як худая свіння, і ідаць ззаду голы парубень — задзёрся ўгару сухім жоўтым канцом: дрыжыць дробненька і падскаквае разам з калясьмі...

Ён падумаў раптам, што не давязе воза дамоў на двор, і павёў Буланчыка шыбчэй: сцёбаў пальцамі навотліж па пысе. Буланчык хроп, лез вон з каляі, рвануў навыцяжку, каб бегчы трушком. Заляскалі калёсы па густым каменні; але крыкнулі недзе ззаду каманду — каскі сталі, замёршы, на дарозе і пачалі строіцца, адстаўшы ад воза. Адстаў ад воза, згубіўшыся з вачэй, і вясковы чалавек у добрым чорным касцюме — змяшаўся з немцамі. Не адсталі толькі дзве каскі — краталіся ўпобачкі з аднаго і з другога боку ў каня, і Жаваранка думаў, што ён ідзе, як сціснуты ў кляшчах.

Уязджалі ў вуліцу; усюды было ціха, нідзе нікога: людзі пахаваліся, убачыўшы немцаў, ці рванулі ў той канец вёскі, як рабілі ўсягды, а там — на балота... Зляцелі з гнязда бацяны — трое, маладыя, яшчэ прыляталі з балота ў гняздо — і, кружачы над вёскай, падымаліся ўгару.

Вароты на двор былі расчынены насцеж, аж да частаколу пад тофель, чакала Кланя; Жаваранка, паціснуўшы каня да плота, даў па вуліцы круга і, лучаючы ў толькі яму за гэтулькі гадоў вядомы па памяці след, павёў Буланчыка з разгону на двор. Вёў і ведаў, што не зачэпіцца восямі; не ведаў толькі, што будуць рабіць на двары немцы: каскі блішчалі ўжо ля студні, нагнуўшыся над зрубам. Ведучы каня да хлева, ён падумаў, што сам прывёў дамоў на двор бяду — эсэсаўцаў...

Дзверы ў хлеў, як і вароты, стаялі насцеж — былі адкінуты аж да падстрэшка, і Жаваранка, кінуўшы каню лейцы на спіну, пусціў яго аднаго. Конь рвануў у хлеў, захропшы і стрыгучы вушамі. Затрашчала ўгары старая драніца: страху зачапіла парубнём. Пырснула ў шчаку сухім гарохам, апякло, што пырскам. Жаваранка ўздыхнуў, як усё роўна патушыўшы пажар.

За хлевам, вуліцай, строем з лесу ішлі бліскучыя каскі. Расцягнуліся ад хлева аж да ям за дзядзінцам.

Бразнулі ў сенцах, адваліўшыся да сцяны, дзверы. Закрычаў нема на ўсю хату Валодзя. Жаваранку тады як хто

ўкалоў: на ложку ля печы ён пакінуў дыскі да аўтамата, зняўшы з дзягі...

Ён крутнуўся ад хлева, каб пабегчы ў хату, але ад студні адышлася каска і паказала — Жаваранка здагадаўся,— каб ён ішоў у хлеў, згружаў воз і выцягваў на двор калёсы.

З сеначак выйшла Кланя з вядром у адной руцэ і з вялікай чорнай конаўкай у другой і пайшла да студні. За ёй адразу выйшла на двор да студні каска і паказала на вядро і на вочап — на крук. Бліскучыя каскі, пачуўшы з вуліцы, як заскрыпеў асвер, валам павалілі на двор. Бразгалі аўтаматамі і кацялкамі, станавіліся адна за адной, абступаючы кругам студню, налівалі ваду з вядра ў кацялкі і сёрбалі яе нагібам, усё роўна як гарачы вар; задзіраючы галовы, выціраліся рукамі і варочаліся адна за адной на вуліцу, цяжка ступаючы ботамі па двары і топчучы траву ля гародчыка. На вуліцы садзіліся на лаўку, на зямлю — на падарожнік; было відаць, як яны абляпілі плот у Юлькі цераз вуліцу — паселі, паклаўшы аўтаматы на калені...

Калёсы з хлева яму памаглі выцягнуць дзве каскі, што вялі яго з лесу. На вуліцы ля самых варот яны нагрузілі іх зялёненькімі новенькімі скрыначкамі з лентамі ад ручнога кулямёта — пазносілі ад платоў... Нагрузілі спераду па самыя ляжэйкі; ззаду доўга клалі нешта цяжкое, закручанае ў брызент.

З вёскі эсэсаўцы пайшлі адразу, як зайшліся ўсё адно каб напіцца вады і забраць у яго, Жаваранкі, каня з калясьмі... Усё тыя дзве бліскучыя каскі паказалі яму, каб зачыніў вароты і нікуды не ішоў з двара. На калёсы яны селі самі, абедзве схапіўшыся за лейцы...

Ён, падбегшы да хлева, запёр адразу дзверы на клямку, прыхінуўся да іх плячыма і глядзеў на дарогу пад Жары, куды пайшлі немцы. З-пад ног у іх падымаўся высака ўгару пыл, як ад скаціны, калі яе гоняць з поля.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калёсы доўга лескаталі ля Жараў, ядрана ў вячэрняй цішыні; ад іх кацiліся па лесе за вёскай, дзе зайшло сонца, глухія водгаласкі. Пасля ўсё аціхла, шапацела толькі на тофелі ад вуліцы сухое лісце.

Жаваранка кpануў Кланю за плячо, асцярожна, адымі пальцамі. Яна хуценька выцерла ражком хусткі вочы: апусціла рукі і глянула на яго. Ад белага попелу на зямлі твар у яе быў белы, як ад месяца; вочы цёмныя, вялікія,

са слязамі, глядзелі недзе глыбака, аж у нутро, з такім болем, нібыта яна намучылася за гэтыя дні ад цяжкой хваробы да смерці; з такой бядой і крыўдай, нібыта ён адзін на свеце быў ва ўсім вінаваты...

— Слязьмі не паможаш...— сказаў ён і пачуў, што і ў яго голас усё яшчэ дрыжыць.— Ні я табе, ні ты мне...— Ён аціх і маўчаў, каб стрымаць сябе, бо пачуў, што цяпер расплачацца. Пастаяў ля пажарышча і абмяк. Горка ў роце, палын палыном, падпёрла плечы, нібы колькамі, і рэжуцца павечкі, што ад дыму.

Ён тады сціснуў зубы — пачуў, што ў роце поўна пяску, трашчыць,— і адвярнуўся ад Клані. Убачыў, як ад цемнаты пажарышча зрабілася раптам жоўтае, быццам пясок на траншэі пад Рабым Калодзежам, дзе ён з Алёшам засыпаў дванаццаць чалавек з брыгаднай разведкі. Мігнуліся перад вачыма спаласаваныя людскія галовы і адразу зніклі...

Ён пачуў, што камянее: не заплача, што рукі сціскаюцца ў цвёрдыя кулакі... Падумаў, раптам, стоячы тут, на камені перад пажарышчам, што мала сек гэтай погані... Злавіў сябе на тым, што шкадуе, што выпусціў тады, калі вёз гарох, цэлых эсэсаўцаў... Падумаў пасля: будзе шкадаваць усё жыццё — так блізка пад мушку, як тады, яны больш ніколі не падыходзілі. І ён да іх не падыходзіў, нават у тую ноч, калі брыгада пайшла на прарыў...

Пачуў, што ў яго аж засвярбелі рукі...

— Пойдзем,— сказаў ён Клані, павярнуўшыся.— Палі мне вады... Цямнеецца...

Кланя не кранулася, як прыстыла да каменя. Тады ён мінуў яе і пайшоў памалу не да студні, а ля былой хаты па прызбе. Пад нагамі захрумсцела бітае шкло з акна ад двара і чорнае вуголле. Дайшоўшы да вугла, ён павярнуў прызбай у гарод, ступаючы ля абгарэлага тофеля ў гародчыку. Убачыў, што Кланя, паправіўшы на плячах хустку, ідзе ўслед за ім па прызбе, высака падымаючы ногі і спатыкаючыся на каменні.

Яны — адно за адным — абышлі «хату» кругам, сталі проці колішніх сенцаў і глядзелі ў гарод пад раку.

У гародзе расла бульба. Пасеяная ў пару, на гнаі, яна шуганула ў рост, каля хаты хоць ты яе абганяй другі раз. На белай, высахлай за дзень зямлі яна раскінула шырокі цёмны ліст, падняла ўгару галоўкі бульбоўніку, што натапырылася... Здавалася, аж было чуваць, як шапоча ліст, лезучы з зямлі. Непабаранаваная ні разу, яна зарасла ле-

бядой — лебяда была ў калена, абганяла бульбоўнік; пырнікам — услаў гарод, зелянеючы, як рунь на полі ўвосень; асотам і малачаем — яны павытыркаліся высокімі, у калена, дудкамі і ўзяліся на цвет...

Пахла бульбоўнікам і пылам, аж горка было ў роце. Ад логу пацягнула вільготнай зямлёй. За ракой на выганчыку ў тумане закрычала ўзагнаная кнігаўка. Ён паклікаў Кланю, і яна, падышоўшы, стала ўпобачкі.

— Відзіш, бульба расце... Ніколі так не расла пад хатай...— сказаў ён і пачуў, як яму зноў лёгка і ціха робіцца на душы.— Заўтра раніцай будзем палоць. І за вуліцай трэба палоць. Там цвярдзей, суха. Рыдлёўкай трэба напкапваць... Быў бы конь і акучнік... Дацямна абышоў бы і тут, і за вуліцай... Калі так расце бульба,— сказаў ён, пачакаўшы,— то жыць будзем... Будзем жыць...

Яна маўчала, глядзела толькі на яго вялікімі вачыма, усміхнуўшыся добрымі бліскучымі іскаркамі першы раз за ўвесь вечар, і ён сказаў, каб яна не здагадалася, што рабіць ёй усё трэба будзе адной, што яго ніхто не адпусціць — ні праз дзень, ні праз тыдзень.

— А да восені сажнуць і звязуць з поля калгасам. Сельсавет ужо ў Горне ёсць... Будуць і калгасы... Цяпер памерці ўжо не дадуць, раз нашы прыйшлі...

Яна паглядзела на яго весялейшымі вачыма:

— Глядзі ты... Нарабіўся ўжо і дома, і ў калгасе... А я зусім па-другому падумала. Убачыла цябе жывога, сама плачу, а адразу думаю, што спачатку дастанем куфар з жытам, пасля назбіраем на пажары паўцагелкаў і зробім ля хлева печку... Такую, каб і гаршкі на дзень можна было засланкай закрыць, каб цёплыя былі... Невялікую, у калена, дым сабе хай ідзе на двор. Гэта ж не ў хаце... Я сама думала такую зрабіць... А калі прыйшоў, то паможаш... І стрэшку над печкай паставім... На слупках... Каб аж над галавой была. Каб пад ёй хадзіць можна было. Я падумала: чатыры слупкі ўкапаць, залатаць і драніцай накрыць. Ад дажджу... Да восені ў хлеве жыць буду. У вуглы ні да каго не пайду...— Яна зноў захліпала і, падняўшы ўгару руку з вялікай чорнай конаўкай, стала выціраць пальцамі вочы... Пасля, мінаючы каменне, пайшла памалу да студні.

Над логам мітусіліся кнігаўкі, залятаючы аж на гарод.

Яна ліла яму вадой з вялікай чорнай конаўкі на рукі, чэрпаючы з вядра, а ён, раздзеўшыся да паясніцы, форкаў, матаючы галавой, як ад мух, і адыходзіўся ўсё да-

лей пад асвер да паркана. З-пад ног пацякла лужына спе-жачкай між падарожніку да хаты пад ганак — пад зліза-ны камень... Пасля Кланя падала яму кавалачак мыла — плоскі чорны змылачак... Ён падняў на яе вочы, здзівіў-шыся: адкуль?

Змылак яна знайшла цяпер ужо, вярнуўшыся з блака-ды: ляжаў, прыляпіўшыся зверху на зрубе на студні, на ачэсаным вянцы, дзе ставілі вядро з вадой. З краёчку. Помніць, што мыла адзежу похапкам, калі партызаны займалі ўжо абарону на Віліі, не занясла змылак у хату на суднік у куточак, забылася на зрубе — ён і астаўся. Усё тады валілася з рук.

Мыла, дастаўшы ў Даўгынаве на базары камень — ка-валак з кулак, бліскучы, як лёд,— яна зварыла са свіных касцей, яшчэ летась зімой. Косці з каменем разварыліся ў гаршку на зацірку. Яна разліла іх аж у тры старыя вялі-кія міскі, як квашаніну, затыкаючы нос: косці смярдзелі немаведама чым, не было як дыхаць; паставіла стыць у сенцах на шафарні, а назаўтра раніцай, перакуліўшы міскі на стол, кроіла мяккае яшчэ зусім мыла ніткай на кавалкі, адварочваючыся... Мыла высушыла на печы, па-клаўшы на комін на лучыну, і берагла больш года: брала толькі мыць дзіцячую адзежу і абрусы... Ды яшчэ калі ён, Жаваранка, заносшваў каўнер у рубашцы. У лазню дава-ла з сабой разы са два, але там яно адразу ішло — з рук у рукі мужчынам,— дамоў ніколі не прыносілі...

Яна забрала ў яго з рук змылак і паклала назад на зруб — на верхняе счэсанае вянцо з краёчку.

Ліла пасля яму ваду конаўкай на шыю, на плечы, на спіну — змывала мыла... Ён толькі пераймаў конаўку ру-камі, каб яна не датыкалася да скуры: была халодная, халадней вады, і чуў, як свяжэе ўвесь адразу, нібыта на-раджаецца нанава на свет; як гарэць ад халоднай вады агнём вушы, што ў лазні на палку... Ён пачаў стагнаць, захліпаючыся ад холаду, на ўвесь двор і падскакваць на нагах, як трус... Яна сказала, што трэба было ісці на ра-ку, хоць там вада па костачкі, але недзе знайшоў бы мес-ца, памыўся б увесь. Ён адказаў, што вады ў рацэ цяпер, як у лужыне, замуціш толькі ўсю раку і не апалошчашся: не пойдзе ж ён з дому мыцца аж пад Пагурак, што ён і дома выкупаецца ўвесь, хай толькі яна дастане яшчэ вяд-ро і аднясе ад студні пад хлеўчык на траву — далей ад людскіх вачэй. А то хто яшчэ згледзіць яго голага на два-ры з вёскі.

Яна прынясла яму пад хлеўчык на траву ўжо другое поўнае вядро, а ён, адвярнуўшыся ад яе, змываў з сябе — змываючы апошні змылачак — гразь, якая наліпла на яго за ўсю блакаду: пыл з акопаў у Двары, пясок з пасекі з-пад Пагурка, сіпак з-пад Рабога Калодзежа, твань, торф і ціну з балота ля Партызанскіх лагераў, дзе сядзелі па горла ў рудзе, прабіваючыся з Алёшам за Дзвінасу да сваіх ад Гарбатага Маста...

Змяніцца не было ў што, і ён стаяў на аблітым вадой зялёным, як пасля дажджу, падарожніку, пераменьваючыся з нагі на нагу. Кланя сказала, што збегае да каго ў вёску — як гэта лезці ў старое,— можа, у Галіны Аляксандравай што асталося ад Грышы, той яшчэ не вярнуўся, не чуваць... Ён аж зляknuўся і адразу адказаў ёй цераз плячо, што нічога не трэба, не вялікі пан, каб лезці ў новае, і, дастаўшы з хлеўчыка са страхі споднія штаны, выцер аб падарожнік ногі і стаў скоранька адзявацца.

— Рушнік жа ў нас ёсць...— сказала ад студні Кланя, але ён махнуў рукой.

Яна апаласкала вядро; дастаўшы вады, занясла ў хлеў, адліла ў гаршчок; паставіла пасля вядро на калодачку, прыляпіла ля яго чорную конаўку, як усягды ў хадачку, стала ў дзвярах і зноў захліпала, выціраючыся хусткай:

— І накарміць няма чым... Перапечкі толькі кавалачак у хаце... Ляжыць, закручаны ў рушнік. Галіна Аляксандрава прынясла. Дзецям на заўтра пакідала... Я збегаю...

Ён падышоў да яе, пагладзіў мокрай яшчэ рукой па валасах — валасы, заплеценыя ў касу, былі прылізаны зверху, і па іх слізганула рука — і спытаўся: як жа яна тады жыве з дзяцьмі, дзеці ж галодныя? Яна адказала, што ўсё носіць ад Галіны Аляксандравай — у Юлькі нічога няма, у яе адкапалі яму. Учора прынясла кошык бульбы і праснак... У Галіны асталася ў яме мука... Яна і цяпер збегае да Галіны... Тая нешта знойдзе. Гэта ж на́ табе, як з таго свету прыйшоў, а дома ні расінкі макавай...

Ён нічога не сказаў, зайшоў у хлеў — цямнелася, і дзяцей ужо не было відаць у кутку па сене, чарнеў толькі на сцяне аўтамат,— знайшоў на калодачцы конаўку, зачэрпнуў поўную вады і выпіў, не адгінаючыся, як усё роўна пасля лазні. Халодная вада са студні, здалося, разлілася адразу па ўсіх жылах, і ён пачуў, як увачавідкі абмяк, што ад рускагоркай. Паставіўшы конаўку да вядра,

сказаў моцна, на ўвесь хлеў, не баючыся разбудзіць дзяцей:

— Вот і павячэраў... І нічога не трэба... І не плач ты... Во не ведаў, што вочы ў цябе на мокрым месцы выраслі... І нікуды не хадзі... І не думай...

Яна не пайшла. Стаяла ў дзвярах, глядзела цяпер толькі на яго аднаго, і чым больш ён гаварыў — больш плакала; апусціла рукі, нават камароў не ганяла ад сябе. Ён здагадаўся, што яна плача па ім, думае пра тое, што ён будзе дома толькі двое сутак, і плача... Наперад пра ўсё думае, як усягды...

Ён крануў яе за плечы — яна залілася слязьмі.

Тады ён зноў выйшаў з хлева. Яна адразу пайшла за ім — не адыходзілася. Сталі на падарожніку сярод двара і маўчалі. Яна хацела нешта сказаць і не магла: не давалі слёзы.

Пасля яна супакоілася, падняла рукі і пачала завязваць на галаву хустку — ад камароў. Калі яна ўздыхнула, цяжка, аж уздрыгнула ўся, ён падумаў, што і ў яго лягло ўжо ўсё на дно душы, што трэба думаць пра заўтрашняе.

Яна апёрлася аб яго рукой, як аб вушак у дзвярах; рука ў яе была цяжкая і цвёрдая.

— Валасы ў цябе выцвілі... Салома... І вочы светлыя зрабіліся. Зусім на Галіну Аляксандраву стаў падобны... Нос выцягнуўся, доўгі стаў...— яна гаварыла, не гледзячы на яго.

З-за ракі, з выганчыка, дзе крычалі ўзагнаныя кнігаўкі, над самым дваром, над асверам, праляцеў бацян, шапочучы, аж свішчучы, крылламі. Добра была відаць яго выцягнутая ўперад вострая, чырвоная, што жар, дзюба.

На сасне — на дзядзінцы, ля фермы — высака ў цёмным густым небе пабялела зверху гняздо. Чуваць было, як там дробненька і ціха заклекаталі.

У канцы вёскі, дзе гарэла дробная, як ад пажару, зара, без аддухі грымела, аж уздрыгвала пад нагамі на двары зямля.

Недзе там далёка нылі самалёты.

Ён ляжаў ля сцяны ад вуліцы — ля сына...

Зняў боты, паставіў іх на памосце ля шула, пад аўтаматам, на зуб ад бараны ўскінуў пінжак, схаваўшы прыклад, і лёг на сена, выцягнуўшыся і заклаўшы рукі пад галаву.

Старое леташняе сена пахла пылам і мышамі, як зімой у маразы, калі ён скуб яго са сцірты, хукаючы ў рукі, і трос карове з саломай — рабіў струшанку. Карова, аб'інеўшы за ноч, тапталася за тынам, павярнуўшыся галавой у вароты — з варот на праціўню ішла пара з храп,— і стукала рагамі...

Пасля яму здалося, што ён прыйшоў, як усягды, з сынам начаваць у сена... Сена па самую бэльку: накасілі за лета. Злягаючыся, яно трашчыць падыспадам пад імі — гэта ападае балотная смычка: стаяла ворахам аж пад страху; шапоча ля сцяны ад двара мурог з логу і з выганчыка з-за ракі, рэдзенька і ціха; лускае, як у печы ў агні, іржышча, укошанае на ячнішчы, прывезенае ў хлеў і ўскінутае на сцірту ад двара.

Можа, таму, што была якраз сенакосная пара ў вёсцы, а можа, дзе на вуліцы пад хлевам высахла стоптаная трава, ён выразна ўлавіў пах свежага сена, нібыта толькі што прывезлі з логу воз у хлеў і абярнулі на памост. Запахла сіўцом з-пад Пагурка, сухім, аж, здаецца, ён крышыцца на соль; рабінкай з лугу з-пад Віліі — свежай, прывялай толькі, яе яшчэ трэба будзе выносіць на двор да студні сушыць; дзяцельніцай з выганчыка ад ракі, белай як снег; сухім дурнап'янам, лебядой, рамонкам, свірэпкай і гугелем — з ільнянішча з-за пунь. Аж пыл, здаецца, лезе ў нос.

Жаваранка нават падняў галаву.

Нылі камары; з другога боку ад дзяцей ляжала Кланя, у адной шэранькай нажутцы, схаваўшы ногі ў сена. Угары над галавой — на матачыне — шапаталі крыллямі ластаўкі, азываючыся спрасоння пісклявымі галасамі,— не маглі ўлегчыся ў гняздзе.

Ён чуў, што Кланя не спіць, ляжала ціхенька, нават камароў ад сябе не ганяла. Думала, відаць, пра сваё: навалілася на яе адразу і гора, і радасць — спраўляйся, вынось, баба, усё на сабе, як капу сена на Пагурку з балота; перабірала недзе ў памяці і ўчарашні дзень, і блакаду, адкуль вынесла на руках дзяцей — схапіла ў смерці з пада; лічыла ў памяці шчаслівыя дні — па пальцах — і беды, адну за другой, пачынаючы ад замужжа і яшчэ раней, і варочалася зноў да аднаго, з-за чаго балела, не сціхаючы, душа,— да дзяцей, да хаты і да яго, Яхрэма. Ніколі яна не глядзела на яго такімі вялікімі ціхімі вачыма, нават калі збіралася ўцякаць з вёскі з дзяцьмі за

Дзвінасу. Паставіць вочы і глядзіць... І рукі ў яе тады апускаюцца самі... Як усё роўна чуе што...

— Кланя...— клікнуў ён ціха. Яна маўчала, як не пачула, і ён, павярнуўшы да яе галаву, прыслухаўся, чакаючы.

У хлеве сцямнелася, блішчала толькі холадна, як лёд, праз страху, праз патрэсканую старую драніцу, неба. У шчытах білі крыллямі ластаўкі, і нылі над галавой камары. Пасля ластаўкі аціхлі, не шапацела пад нізам сена, звінелі толькі камары, густа, не сціхаючы, з пералівамі, захліпаючыся ад высокага піску і сваёй шалёнай мітусні ў душнай летняй цемнаце. Махаючы ўгары рукой, ён чуў, як яны таўкуць мак, сабраўшыся з усяго хлева, над самай галавой... Не было як дыхнуць: лезлі ў горла, што калючы і шорсткі пыл,— задыхнешся. Здавалася, нібыта ў хлеве над сенам адны толькі камары пад самую драніцу ў страсе. На дождж варажылі ці згаладаліся ў пустым, без скаціны гэтулькі часу хлеве — і напалі, зляцеўшыся з двара, з усяго канца вёскі і з балота з-за выганчыка.

Ён зноў клікнуў Кланю — як скрозь зямлю праваліласяся, ці што?

Заскрыпелі на двары вароты, задугалі па цвёрдай сцежцы ногі, зазвінела ля студні вядро. Доўга скрыпеў асвер, пасля зноў задугалі ногі і сціхлі — мусіць, Юлька прыходзіла па ваду: студні ў яе не было, яна ўсягды хадзіла да іх — ночы-апоўначы.

Закратаўся на белай падушцы Валодзя — з'ехаў з яе зусім, зарываючыся ў сена,— пачаў церці і лоб, і шчокі. Павярнуўся набок, тварам да яго, Жаваранкі, падклаў абедзве рукі пад галаву, пад шчаку, падняў уверх падбародачак і захроп — дробненька, дыхаючы глыбака і губляючы храп, пасля зноў адзываючыся густа, з хліпам, як усё роўна наплакаўся перад сном.

Відаць было ў цемнаце, як яго загарэлы ладны лоб і складзеныя адна на адну рукі абляпілі камары.

Жаваранку тады зрабілася шкода-шкода сына... Успомнілася, што той гэтак хроп у доўгія зімовыя ночы, калі праз акно з гарода свяціла белая, як малако, поўня якраз яму на ложак, на разгоеную пасцель, а за сцяной у платах ля студні трашчаў мароз; хроп, калі хварэў, прастыўшы, на запаленне,— над сталом у хаце ўсю ноч гарэла прыкручаная лямпа, а на каленях, нагнуўшыся над ім, стаяла ля ложка Кланя, кладучы яму мокрую халодную анучу на лоб...

Ён падняўся і, апёршыся на локаць, павёў даланёй Валодзю па лбе і па шчацэ — далаця стала вільготная: хлапец спацеў пад пасцілкай. Занылі ўзагнаныя камары; абсыпалі руку, як пяском.

Валодзя маўчаў, нават не ўздрыгнуў, і Жаваранка пачаў тады гладзіць яго даланёй па лбе і па шчацэ раз за разам. Валодзя перастаў храпці, адплюшчыў быў вочы, глянуў спрасоння прама на яго, сказаў, прапісклявіўшы ціха: «Ні на-ада...» — заплюшчыў адразу вочы, пастрэпаў пальцамі па лбе, падклаў рукі пад шчаку, адкінуў галаву і засоп. Яго зноў абляпілі камары.

Жаваранка пачуў, як горача зрабілася ў вачах...

Ён ляжаў, апёршыся на локаць, і ўсё гладзіў круглы, як гарбуз, сынаў лоб, ганяючы камароў; сын мычэў ціхенька ў сне, пасля змоўк і зноў захроп, прывыкшы да далані.

Жаваранка раптам успомніў, як той паявіўся на свет шэсць гадоў назад; якраз такой парой, у касьбу, прыбегла тады па яго, Жаваранку, на балота пад Пагурак Галіна Аляксандрава... Як пасля першыя месяцы, тры-чатыры, не было аддухі ў хаце ні яму, ні Клані: хлапец крычаў і дзень і ноч; засне — і ў крык... І ён, Жаваранка, насіў яго кожную ноч на руках, калышучы; хадзіў з кута ў кут ад печы да стала... Здаецца, і цяпер баляць рукі...

Ён падумаў, што ўсё благое ўжо згарэла да дна, вярнуўся дамоў, дома ўсе жывы, а яго бярэ скруха. Спіскае нешта ў душы, да слёз. Злавіў сябе на тым, што раптам пачынае глядзець і на Кланю, і на дзяцей нейкімі вострымі вачыма, як бы бачыць апошні раз у жыцці. І пачалося гэта цяпер... Ён хацеў адразу патушыць гэту скруху — ад Клані перадалося, бабская варажба,— але яна не праходзіла, і ён зноў падумаў: праз два дні палявы ваенкамат, а там — адразу ў часць. Пераапрануць у ваенную форму і — пад Маладэчна, дзе ідуць баі. І пакуль вайна не скончыцца, калі будуць цэлы рукі-ногі — дамоў яго не чакай... А вайна — дарога далёкая, не то што ў партызанах — пад бокам у лагерах,— вось душа і чуе.

Загудзелі недзе блізка над ракой самалёты і доўга раўлі, не сціхаючы, відаць, ішлі, як і ўдзень, тройкамі, у кут за вёску, дзе зайшло сонца,— на Найдорф, у бок Маладэчна. Ад гулу, здавалася, дрыжаў пад сенам памост.

Жаваранка ляжаў і слухаў, пакуль гуд не аціх далёка ў куце за вёскай — як на краі зямлі. Пачакаўшы, там за-

ґрукала, глуха, як далёкі гром. Зноў задрыжаў падыспадам памост, і зноў паявілася ў душы трывога.

— Кланя... Не спіш? — ён клікнуў яе яшчэ раз.

Зноў загудзелі самалёты, ішлі далей, над выганчыкам. Ля ног у Валодзі зашуршала сена, паднялася пасцілка, з-пад яе вылезла Антунінка — цёмны твар і чорная сукянёшка,— стала голымі каленямі на разгоенае пад сабой сена, пасмактала мезены палец, цмокаючы моцна, як што п'ючы, пасля бухнула на пасцілку жыватом, зарылася глыбака з голымі нагамі ў сена і засапла зноў, лежачы тварам уніз, хавалася ад камароў. Чуваць было, як яна смокча пад сабой палец...

Ён падумаў, што Антунінка сама хаваецца ад камароў, і пачуў, як у душы разлілася раптам густая цеплыня... Да яе, да дачкі, да Антунінкі... Выкачалася, вырасла ў такую бяду... Вялікая... І ўся падобная на Кланю: і вочы, і нос, і шчокі... І палец, Кланя смяялася, сама ссала, як была малая. Помніць. Доўга ссала, і гэты самы, мезены, як і Антунінка...

Ён пачуў, як забілася сэрца, і, думаючы яшчэ пра дачку, ужо думаў пра Кланю... Думаў, што і дамоў, відаць, прыйшоў не так, як трэба... Нават не ачапіў Кланю, слова пра яе не сказаў, а яна чакала. І яго чакала, што ён скажа, і як паглядзіць... Яна ўсягды ўсяго чакала і ніколі нічога не гаварыла яму. Калі ён маўчаў — маўчала і яна. Калі гаварыў, што б ні рабіла — падымала галаву і слухала. Тады зноў чакала, калі ён што скажа. Яна ўсё жыццё жыла, як што чакала ад яго. Мяккая, працавітая, яна ніколі не пакладала рук, у жыцці ў яе было адно — работа, і калі што хто мог перайначыць у яе жыцці, перакруціць яе дзень ад раніцы да вечара, прынясці радасць ці інакшы клопат — дык гэта ён, Яхрэм. Калі ў іх пайшлі дзеці, яму пачынала парой здавацца, што яна чакае перамен у сваім жыцці цяпер ужо не ад яго, Яхрэма, а ад дзяцей... Яму ад гэтага было не па сабе; а што ён мог зрабіць, што перайначыць?

Яна і сама ведала, што нічога ў жыцці ўжо не пераменіцца,— пераменіцца, значыць, палягчэе,— але білася, як рыба аб лёд, чакаючы...

Цяпер яна чакала перамен толькі ад яго, Яхрэма: можа, ён што зменіць... Яна асунулася, пастарэўшы за гэты час, у яе выступіў нос і вытknуліся шчокі, пакруглелі і запалі пад лоб вочы, памінутне бралася рукой за грудзі...

Ён ведаў яшчэ, што яна яго ніколі не пакліча да сябе... Ніколі не прагоніць і ніколі не пакліча...

Ён лёг ля яе ўпобачкі, плячо ў плячо, чуў, як тахкае моцна сэрца ў грудзях. Ляжаў, гледзячы ў страху, дзе блішчала праз дзіркі ў драніцы цьмянае, як лёд, неба, і думаў, што і яму праз гэтулькі часу цяжка было рашыцца прыйсці і легчы побач — як што не давала...

Пахла пакратанае леташняе сена; пахлі расплеценыя з касы Кланіны валасы — старой хатняй падушкай, на якой яны спалі ўдваіх на ложку ад двара і якая згарэла ў пажары; пахла дзікай мятай з-пад сцяны і стоптаным і аблітым вадой канаторжнікам з двара, дзе ён, Жаваранка, вечарам мыўся; пахла гарачым пылам з вуліцы...

Сакаталі недзе ў парозе ля тыну конікі, як дома летам за печчу, аж закладала вушы. Ён доўга ляжаў, прыцісну ўшыся плячом да яе пляча, і не кратаўся.

— Гэта ты, Яхрэм?..— спыталася яна пасля ціха і паклала яму руку на грудзі.

Нылі над галавой камары, гудзелі недзе далёка за ракой несціхана самалёты... Усё злівалася ў адзін звон парнай і трывожнай летняй начы...

## 3

Сцямнелася, і Александрына запаліла лямпу...

Алёша сядзеў на рог стала; тапілася ў печы — гарэлі сухія дровы з дрывотні, з вярсты, заняліся шырака, ажно полымя лізала чорны чалеснік, нібыта маці збіралася сягоння пячы хлеб; пасярод агню стаяў маленькі чорны саганок, у якім перш у нядзелю варылі мачаку, кіпеў, і было відаць, як пад пенай пабурэла зверху белая абразаная бульба — бралася прыгаркамі.

Алёша тады адвярнуўся ад печы — доўга чакаць бульбы — і, падпёршыся пад падбародак, глядзеў на лямпу, на маленькі, ціхі белы агонь у шкелцы, які гарэў, як усягды да вайны вечарамі, калі Алёша варочаўся са школы. Агонь у шкелцы расплываўся, дрыжаў — карасіны ў магазыне было на дне на палец, як змачыць кнот,— пасля пырхаў, што белыя матылькі на выганчыку ля ракі, калі Алёша быў малы... Матылькі над травой — высокай мятліцай; дзеці з усяго канца вёскі; свінні, якіх трэба было біць, даганяўшы, дубцом — адварочваць ад шкоды; сліжыкі ў рацэ пад каменнем, якіх, падкасаўшыся па калені, лавілі рукамі, кошыкамі, каголі відэльцамі,— усё ўсплывала за бе-

лым агнём, як з далёкай памяці, і адразу тухла. Ён падумаў, што агонь за сталом гарыць толькі ў іх у адных у вёсцы, што і вячэры чакае сягоння, можа, толькі ён адзін,— у дварах пуста: людзі яшчэ ці не паспелі вярнуцца дамоў, выйшаўшы на Дзвінасе з прарыву — ідуць па адным, па двое, варочаючыся ў вёскі,— ці, можа, многія не вернуцца зусім...

Не вярнулася яшчэ і Альдзя...

Ён доўга глядзеў праз лямпу на ложак да сцяны, дзе ляжаў у нагах аўтамат...

Хліпнуў за шкелкай агонь, усё роўна як белы матыль стукнуўся ў акно, у шклю, каб вырвацца з хаты, і Алёша аж страпянуўся: пойдзе на фронт... Атрад праз двое сутак будзе ў Плешчаніцах, адтуль яго, Алёшу, могуць вярнуць дамоў; забяруць аўтамат і вернуць: да арміі яшчэ два гады. Відаць, жыло ў яго ў душы такое — пайсці на фронт — увесь гэты час, калі прыйшлі нашы, бо не ўцёк бы цяпер, не пайшоў бы самавольна, калі не пускалі з атрада дамоў. Знаў, што з атрада не адпусцяць,— і не прасіўся. Чаго дамоў? Праз два якія дні будзеш коз пасці. А цяпер загад — усім, і старым, і малым, быць у Плешчаніцах. На парад адтуль пойдуць у Мінск ці так куды — там усё і ўвідзяць. Там і разбярэцца той, каму трэба: каго — туды, каго — сюды. Ваенкамат будзе рашаць. Партызан больш няма. Кончыліся партызаны... Ёсць толькі фронт... Рэгулярныя часці...

І яшчэ Алёша ведаў: калі яго пераадзенуць у ваенкамаце, то дамоў ужо не пусцяць: ні да маці, ні да Альдзі...

А што пераадзенуць, дык ён цяпер верыў. Партызан. Мала, што малы ростам. Не выйшаў. Хай памераюць усіх малых, хто ваюе, і адпусцяць дамоў... А гады́? Ён скажа, колькі трэба. Маніць многа не будзе, скажа, што, можа, дзень які не хапае, гэтаму паверыць. Дакументы? Якія могуць быць дакументы, калі ўсё ўсюды агнём ішло, гарэла датла. Згарэлі і дакументы. Не вераць? Хай сходзяць у вёску ў баб запытаюцца на вуліцы. У вёсцы кожная баба ведае, каму колькі гадоў, хто калі нарадзіўся, ад баб не схаваеш... Пасмяюцца і — возьмуць. Добраахвотнікаў бяруць і меншых...

Загрымела недзе ў канцы вёскі, на захадзе. Бамбілі. Зазвінелі дробненька шыбы ў вокнах ад вуліцы, заскакаў, дрыжучы, белы агонь за шкелкай; бразнулі дзверы, з двара зайшла маці — Алёша не згледзеў, калі яна адлучылася з хаты,— стала ў парозе, натапырыўшыся: слухала

грук; у апушчанай руцэ ў яе быў вялікі чорны нож, другую яна прыхінула да грудзей, сціскаючы нешта ў пальцах.

— І не сціхае... А, сын... Што ж гэта будзе...

Высокая, худая, сагнутая пасярэдзіне — балела ёй часта ў крыжы; у маршчынах, з раскручанай з куклы тонкай касой, яна глядзела вострымі цёмнымі вачыма то на яго, за стол, то ў акно, дзе грымела.

— Назад не вернуцца...— сказаў ён.

— А хто яго ведае, сын. Недалёка. І нашых мала туды пайшло.

— Не праз адну ж нашу вёску ішлі...

Маці як не пачула:

— Я дык, пераҗыўшы гэта ўсё, баюся. Астанешся днём адна на вуліцы... Усяго чакаеш... Самалёты равуць несціхана. Паўзуць і паўзуць над самай вёскай, і вялікія і малыя...

— Нашы самалёты...

Яна паглядзела на яго:

— Вецер яшчэ сухі свішча ўсе дні... Гоніць пыл вуліцай у той канец, не дыхнуць. Пясок на зубах трашчыць. Такіх сухавеяў я не помню... Не к дабру гэта, сын. Грувыць зусім блізка. Гавораць, Маладэчна ніяк не возьмуць...

— Маладэчна ўжо недзе ўзялі... Далей баі ідуць.

Маці памаўчала.

— Ты, сын, нікуды больш не хадзі... Гавораць яшчэ...— яна зашаптала, адыходзячы ад парога,— немцаў поўна ўсюды. Валам яшчэ валяць услед за нашымі, у той бок,— паказала яна нажом на акно, дзе грукала.— За Дваром відзілі... У жыце... Гавораць, з акружэння ідуць... Што гэта за акружэнне, калі пускаюць...

— Ну-у, матка... Збаялася. Цяпер баяцца няма чаго...

Яна адышлася тады ад дзвярэй, перамянілася раптам уся, пачуўшы, відаць, нешта ў яго голасе:

— Не пушчу... Нікуды... Знайшоўся мне... Ваяка. Штаны сцягну ды дзягай... Забыўся ўжо, як лупіла. Адскочыў ад зямлі. Досіць... Перагарэла маё нутро і так, калі ты ў партызаны збег... А цяпер не пушчу...

Яна падскочыла да стала, паклала з краёчку — ён згледзеў адразу — кавалачак сала, доўгенькі, як на пядзю, цяненькі скрылёчак; адбеглася да печы, схапіла ў качарэжніку вілкі і спопаразку стала падкідаць да гаршка

галавешкі. У чалеснік паляцелі іскры, загарэлася сажа — маленькай пляйстрай.

Зачырванелася ўся ад агню...

Алёша пачуў, што і яму горача ў шчокі. Стала раптам нялоўка, аж горка ўсярэдзіне, за тое, што не думаў сказаць мацеры праўды: наперад вырашыў...

Яна патрасла яму ад печы вілачнікам; ён убачыў, што трасе яна ўжо не са злосці, і сказаў, усміхнуўшыся і паказаўшы рукой на ложак:

— Аўтамат жа трэба хоць аднясці... Здаць... У качарэжнік жа не паставіш, каб дома ад немцаў было чым бараніцца...

Яна памякчэла.

— Ты мне не круці, навылёт віджу. Бульба скора зварыцца. Адцэджваць буду.

— Добра. Аднясу заўтра аўтамат і буду коз дома гаяць...

Ён зноў утаропіўся ў агонь: зноў горка стала ўсярэдзіне. А што, калі сазнацца? Паплача і сціхне.

За шкелкай паменшыў белы язычок. На кноце пад ім зачырванеўся з краёчку чорны вугаль.

Маці дастала на вілачках з печы гаршчэчак з бульбай, паставіла на прыпечку; падняла, сагнуўшыся, з пячуркі анучу і панясла адцэджваць гаршчэчак у парог над цабэркам. На хаду пасля сцягнула з шастка ля печы чысты надзежнік з прэнзлямі, накінула адной рукой на стол — у другой нясла гаршчэчак з бульбай, узяўшыся пальцамі за бераг,— высыпала бульбу на стол, на надзежнік, і ўздыхнула:

— Садзіся еш, сын... Сібірка... З храсткамі ўжо... І кусаць цвёрда. Знайшла ў загарадцы ў варыўні ў пяску зарытую. О-хо-хо... Пуста. Кругом абчысцілі...

Са стала паваліла густая пара; аслепла лямпа, маці на другім канцы стала была відаць, як у тумане.

Бульбіна апякла пальцы, патрэсканая зверху — яшчэ разварвалася,— і ён то падымаў, то зноў клаў яе на надзежнік.

— Пачакай, сала возьмеш...— маці рэзала вузенькі доўгі скрылёк сала на ражку стала, не падкладаючы дэнка.— Ад немцаў асталося. Закапваючы кубельчык, акруціла ў анучку і ткнула ля варыўні пад падстрэшак. Вот і асталося. А так — усё падмялі. І з-пад зямлі дасталі. Былі б сабакі — не ўлежала б маё сала пад падстрэшкам...

А то і сабак у вёсцы няма, як усё роўна і сабак паелі... Гэтулькі звяр'я было...

Маці падсунула яму пад рукі маленькую, шчарбатую, з сінімі беражкамі талерачку, на ёй ляжала кучка дробненькага парэзанага жоўтага сала. Ад яго было горка ў роце і солана, і ён папрасіў вады; яна падала яму ў высокай бліскучай бляшанцы з-пад кансерваў.

— Нямецкая... А сваё ўсё пападчышчалі: і талеркі, і міскі... І самі немцы ў зямлі порка́ліся на гародах, і падводчыкі. З-за Віліі наехалі. Многіх бы і цяпер пазнала. Мала было таго, што ў хатах пакідана, дык — пруткі жалезныя ў рукі і ў зямлю каля прызбы торк, торк... Каб цябе шылам торкалі каторага, як свінню ўвосень...

Сама яна не ела, нават не дакранулася. Паклала рукі на стол, на край — сухія, паморшчаныя, адны жылы,— глядзела праз пару над сталом на яго, Алёшу, і расказвала. (Пачала яна ўсё расказваць, як толькі ён пераступіў парог, нібыта дзеля гэтага яго і чакала.)

— І карасіна ад немцаў асталася ў лямпе...— Яна ўздыхнула.— Цэлымі начамі ўвесь гэты час у каморцы гарэла,— паказала яна на лямпу...— Я ж нікуды і не краталася. Думала, спаляць — згару разам з хатай... Што ўжо мне, нядужай, мучыцца, бегчы разам з усімі за Дзвінасу. І Галіна Аляксандрава не пайшла... Так і адгаравалі дома... І жывыя асталіся. А хто пабег... Палюшыных зяцёў яшчэ не чуваць, Багуноў сын адзін не вярнуўся... Э-хехе...— Яна сашчапіла рукі на стале і глядзела на лямпу.— Гарэла яна ўсе ночы ў каморцы, і немец лысы сядзеў пад ёй над паперамі. Во гэтак во, нізка апушчана была, як цяпер, пад сталом, і карта ляжала перад ім, як надзежнік з бульбай перад табой... І што гэта былі за немцы, сын? У чорным, усё адно як і не ваенныя. Былі і ў зялёным, дык гэтыя першыя прыехалі на машынах у вёску, хоць пруд імі прудзі — поўныя двары набіты былі, але доўга ў вёсцы не стаялі, адразу на Пячное падаліся, там усё стралялі — доўга, пачаўшы звечара. А пасля іх — адразу гэтыя ў чорным паявіліся...

— Эсдэ, матка... Звяр'ё...

Яна адхінулася ад стала.

— А я з імі ў адной хаце жыла...— задумалася, твар, здалося, яшчэ больш зрабіўся чэрствы, у вачах недзе глыбака калыхнуўся страх.— Трое іх было. Двое спалі ў другой палавіне, трэці, лысы,— у каморцы. Адзін адтуль ніколі не выходзіў. Спачатку паяўляўся ў дзвярах высокі,

худы, пасля ўжо ішоў лысы. З партфелем. Пустым, чорным. Блішчаў партфель, што ўсё роўна начышчаны, як і боты ў іх на нагах.

Мяне яны нікуды не падпускалі. Дровы толькі прынасіла з дрывотні і ў печы паліла. Варылі самі — прыходзіў ад некага немец у чорным, нацягваў на плечы кароценькі — па пояс — беленькі халат і варыў. Калі елі — выганялі на двор. Пасуду толькі я мыла, як іх ужо не было за сталом. І сысці нікуды не сыдзеш: часавыя ля ганка, на вуліцы ля студні. Рукой махаюць — на двор... І ў аселіцы за хлевам, ля ракі, немец стаіць, як цяля навязанае ля плота, не адыдзецца... Парцізан баяліся...

Днём іх дома ў каморцы ніколі не было. Выязджалі некуды. Падганялі ім легкавую чорную машыну, яны садзіліся ўтрох і ехалі. У каморку тады пераходзіў немец у пілотцы з двара ад ганка і сядзеў ля ціліфоннага апарата. Там у іх ціліфон стаяў на акне, у жоўтай скуры, ад яго правады цягнуліся з каморкі праз сеначкі на вуліцу, а з вуліцы ў той канец вёскі, дзе Жаваранка. Цененькія правады, сіні і чырвоны, скручаныя, як ніткі суканыя. Я ўсё баялася, каб іх не зачапіць.

Варочаліся немцы вечарам, нанач, у адну і тую пару, выганялі мяне камароў карміць, пакуль самі вячэралі. Варочаліся яны кожны раз з чырвонымі прутамі ў руках... Во... Забылася была сказаць... У іх усягды былі ў руках пруткі. Кіі такія ценкія, даскуналенькія. Там, дзе ручка, чорны, а астатні ўвесь канец белы, як лазовы, ад кары абдзёрты. Раніцай кіі ў іх, калі яны выходзілі адзін за адным з каморкі і ляскалі імі па высокіх бліскучых халявах, былі белыя, а вечарам, калі варочаліся, былі рудыя.

Я думала спачатку, што кіі альховыя, рудзеюць без кары. Аж пакуль сама не падняла, не пагледзела. Назбіралася іх поўная каморка. І ў сенцах не прайсці. Кожны вечар яны іх кідалі, прывозячы. Кіі былі рудыя ад крыві. Свежая яшчэ кроў была на іх, пазапякаецца толькі зверху друзалачкамі. На падлогу, бывае, за ноч накапае і застыне... О-ха-ха... Ідзі пагляздзі ў сенцах ля каморкі. Пад лаўкай. Усё ў кучу склала.

Ён пакруціў галавой і не пайшоў. Падумаў: ці не такімі стэкамі выкалалі ля Рабога Калодзежа вочы Геніятуліну...

Маці ўстала, падкаціла яму бліжэй бульбу на стале, падняўшы надзежнік за рог; пайшла да печы, пабіла, ссунуўшы ў кучку, качаргой галавешкі, каб скарэй дагарэлі,

вярнулася, стала пасярод хаты і глядзела на яго, Алёшу, не зводзячы вачэй. Нагнула набок галаву, сашчапіўшы рукі на грудзях. Вот-вот пра нешта спытаецца — па вачах відаць — і не рашыцца...

Пасля яна апусціла рукі, і вочы ў яе патухлі:

— Не сабак жа яны пруткамі білі... Цэлы дзень...

Голас у яе задрыжаў — ад схаваных глыбака слёз, яна апусціла вочы і маўчала, кратала толькі плячыма, як ад холаду. Перасіліла сябе, не заплакала: пакруціла галавой, заплюшчыўшы вочы, і супакоілася. Пасля зноў села на рог стала, угнула плечы, здавалася, яшчэ больш высахла за гэты кароценькі міг.

— А ў Жаваранкі ў хаце дык немаведама што рабілася...— яна ўсё яшчэ кратала плячыма, як усё роўна не могучы сагрэцца.— Хату выбралі крайнюю, лічы, ад лесу. Толькі Галіна Аляксандрава відзіла, не дасць нікому зманіць. І відзіла, і сваімі вушамі чула, як людзі там крычалі...— Яна памаўчала.— Усіх, каго вязлі з Пячнога — у лесе лавілі ля Дзвінасы,— бралі да Жаваранкі ў хату. І партызан раненых на зямлю з машыны скідалі, Галіна відзіла... Такія ж самыя стаялі і ў Жаваранкі, як у нас, толькі з сабакамі... Пасля і хата Жаваранкава згарэла... Самі, можа, спалілі, каб ніхто не ўвідзіў крыві... І прутоў чырвоных... Спалілі б і нашу хату, і ўсю вёску спяклі б... Ужо як нашы прыйшлі, гаварыць сталі, што немцы збіраліся пусціць дымам і Двор, і Жары, і Горна — усіх, ад Вялейкі аж сюды... З людзьмі... Пасля таго, як іхняга палкоўніка з легкавой машынай на міне падарвалі ля Гарбатага Маста. Палкоўнік той камандаваў усёй блакадай з Вялейкі. А ў той дзень сам ехаў у Дзвінасу... Наездзіў на сваю галаву. І машына яшчэ, гаварылі, стаіць. Ішоў жа дарогай, відзіў.

— Відзіў гэту машыну... Знаю... І пакрышкі пазрываны,— дабавіў ён пасля,— і сядзенне ўсярэдзіне ўсё ўжо абдзёрта. Тапаром нехта сек...

— Людзі і ў вайну жыць збіраюцца... Багаццю канца няма... Так што, сын, каб не нашы, астаўся б ад вёскі адзін попел, як ад Пячнога. Кажуць, да адной хаты...

— Там, матка, бой ішоў... Цэлую ноч...

Надзежнік быў чысты, чыстая была і талерка, і Алёша загаварыў, гледзячы галоднымі вачыма на белыя крошкі ад бульбы, якія папрыліпалі да надзежніка — хоць бяры ды збірай іх пальцамі ў рот:

— А ў нас у хаце, матка, штаб быў. Можа, той, лысы, і быў з Вялейкі? Можа, яго і рванулі?

— Не-е... Таго неяк адразу, назаўтра, ці што... А гэтыя доўга стаялі, больш тыдня. Машыны ўсё іхнія з салдатамі — відаць жа з хаты — на Дзвінасу ішлі з Жараў. Пакуль машыны хадзілі, і яны сядзелі. Тады неяк раніцай скоранька і ціліфон свой забралі, і провад скруцілі... І самі скруціліся... Пасля іх і машыны не хадзілі з Жараў. Пуста было ў вёсцы ўсе дні, ціха, каб дзе чалавек. Толькі вецер гнаў ад ям сухі пясок уздоўж вуліцы ў той канец — на лес. Вісіць гарачы пыл угары — хат не відаць. Стукнуць ад ветру вароты — сэрца, здаецца, разрываецца, такі ўвесь натапыраны... Толькі за Дзвінасой далёка грукатала як немаведама што. Стаіш на двары, глядзіш туды, засланіўшыся ад сонца, а зямля пад нагамі ля ганка дрыжыць. Бацяны над вёскай кружацца, у гняздо баяцца сесці. Чакаеш, як чумы якой, не ведаючы, дзе сябе дзець. А вецер шалее, свішча ў платах, салому са стрэх рве; ад сонца, здаецца, вось-вось усё агнём пыхне — такая гарачыня, аж скура на галаве смыліць... А само яно свеціць як праз туман... Сіне ўсюды і сіва. Хоць ты з вёскі сыходзь... Прыбяжыць да мяне Галіна Аляксандрава, паваліцца на вуліцы ля студні на лавачку ў цень і задыхаецца ад кашлю — сінее... Пакуль адкачаю яе. Адпаю вадой... Э-ха-ха... І цяпер яшчэ, здаецца, ад пылу пясок той на зубах хрумшчыць... А тады ўжо самалёты пайшлі. Нашы. Зоркі з зямлі былі відаць. Стаіш на вуліцы, глядзіш, галаву задзёршы, і відзіш: чырвоныя... Тады і ад сэрца адлягло... У той дзень пад вечар і людзі пачалі дамоў варочацца. Кланя прыйшла з дзяцьмі... Юлька вярнулася... Адна, дачку недзе згубіўшы. А назаўтра нашы пайшлі праз вёску. І машыны, і абоз... Э-ха-ха... Хацела я каго пазваць ды кіі ў крыві паказаць... Хай бы відзілі, што немцы з нашымі людзьмі рабілі... Хай бы відзілі гэты штаб...

— Каморка добрая ў нас, дык і штаб зрабілі...

— Каморка до-обрая...— мацi прыняла са стала надзежнік у дзве рукі, аднесла да печы і страсанула над вялікім чорным гаршком, які стаяў поўны вады ля ўслончыка з вядром. Зачапіла пасля яго прэнзлямі ў кутку за цвік, на якім вісела парожняя дрыўляная салянка.— Доўга яны нюхалі каморку, пакуль сталі. І ў зялёным прыходзілі немцы, і ў чорным. Усякія. Па двое, па трое, ботамі ўсё грукалі. І ў другой палавіне ўсё на фікус паказвалі — фікус разросся ў кутку. І на фатаграфіі на сцяне пруткамі

сваімі замазанымі торкалі. Ткне прутком і гергеча пасвойму. А ў каморцы, там, дзе сцяна абоямі абклеена, дык усю пруткамі патыкалі — шукалі, тады ўжо правады з вуліцы працягнулі і ціліфон на акне паставілі...

Не ведаю, хто такую каморку мазгаваў у хаце, я ўжо як паявілася на свет, яе застала. Ход толькі з сеначак. Акно ад гарода; светлая. Печ спінай выходзіць, цёплая. Колькі ў ёй добрых людзей дагэтуль пераначавала: і з раёна, і з сельсавета... А мост як строілі... Пасля леспрамгас стаў у вёсцы. Шафяры, як дрэва пачалі вазіць аж у Мінск... А тады парцізаны... У вёсцы ўжо ўсе ведаюць і паказваюць...

Маці прыняла талерку, выцерла стол; хадзіла і хадзіла па хаце, як усё роўна была рада, што знайшлася работа, што ёсць за што добрае зачапіць рукі...

— Ніколі не забудуся, як камбрыг стаяў у нас, той, што ў Вялейку ішоў браць гарнізон. Другія дык ужо і забывацца сталі, а камбрыг перад вачыма стаіць... Ці выжыў хаця чалавек у такім безгалоўі... Дзень і ноч у тым баку гарэла...

Алёша хацеў сказаць, што таго камбрыга, які хадзіў браць Вялейку, няма. Чуў, што яго параніла за Беразіной, на насілках насілі партызаны, адступаючы; самалёт з-за фронту выклікáлі, каб вывезці, але камбрыг той не дажыў. Памёр на насілках...

Карцела сказаць, раз ведаў і маці пыталася, але як хто ўтрымаў за язык. Зноў будзе маці стаяць, апусціўшы рукі, згорбіцца, і вочы патухнуць. Пасля задрыжаць плечы. Доўга будзе ціха ў хаце. Некалі раскажацца. Пачуе яшчэ...

Алёша нічога не сказаў.

Маці павесялела. Падышла да стала, падкруціла ў лямпе кнот — па шкелцы ўгару паляцелі дробненькія іскры, пырснулі аж праз верх: канчалася карасіна; нагнулася да акна ад вуліцы, па старой прывычцы зацягнула белыя фіранкі, пасунуўшы па нацягнутай нітцы; вярнулася на хату і пачала зноў хадзіць, папраўляючы нешта на судніку — як шукала чаго. Тады пераставіла вазоны на акне ад двара — альвас у гаршку і бальзамінку ў маленькай высокай місачцы; перабрала ўсё ў пячурцы, дзе ўсягды ляжалі сярнічкі і рукавіцы — сушыліся пасля двара; схадзіла ў сенцы, бразнула дзвярыма ў каморцы... Зачапіўшыся за работу, маці ўжо не магла сядзець.

Прынясла пасля з сенцаў маленькую дзежачку — збіралася, відаць, учыніць нанач рашчыну.

— Вот думаю пра чалавека, здаецца, перад вачыма стаіць, нядаўна ж было, летась увосень, а каб сказаць, які ён, які твар, якія валасы — не магу ўжо. Расплыўся ў памяці. Помню, што строгі, суровы, а якія вочы былі ў яго — не скажу. Як і зваць яго, забылася. Гавораць, што так бывае, калі чалавек ужо нябожчык... О-ха-ха... А вот жа нечым урэзаўся ў памяць. Ужо ж і немцы пасля яго былі, нядаўна таўкліся тут, як у ступе... Рассыпаліся ўсе на попел. А камбрыга таго помню. Суровы быў чалавек. Складка на лобе ляжала ўсягды і не праходзіла. І ўсягды думаў. Стане пасярод каморкі — думае, ходзіць — думае. Маўчыць — ні слова лішняга. Я дык яго баялася. Убачу — аж сцяцца хочацца самой. Хаця сам жа, казалі, немцам служыў, перайшоў толькі ад іх пасля ў парцізаны. Скажы ты... Армію сваю перавёў. Пайшла ж за ім... Загадаў, і — пайшла. А там жа ўсякія былі. Думаеш, сын, бандзітаў не было. Я — дык не веру. Хаця, расказвалі... У блакаду яны, калі яшчэ ў немцаў былі, дык лупілі з кулямётаў верх лесу, каб людзей не зачапіць, каб толькі стрэлу было наробленa, каб немцы чулі. Хто яго ведае, можа, ён наш і тады быў, можа, каманду такую ціха даваў, каб немцы не ведалі. Пасля ж перайшоў...

А бандзіты ў яго былі, ты, сын, не ведаеш, я табе не расказвала. Ты тады ўжо быў у лагеры. Помніш, як камбрыг той ішоў са сваёй арміяй на Вялейку? Летась увосень было. Позняя была ўжо восень. У вёсцы бульбу выбіралі. А бульба ўрадзіла ў той год... І гарохам чырвоным пазасыпаліся, і бульбай. У нас дык яе і ямы ўсе насыпалі — і старыя, і новыя, і загарадкі ў варыўні, і капец яшчэ ў гародзе за хатай пад самым акном. Саломай прыкрылі капец, зямлёй збольшага, каб і марозам паляжала бульба.

Праз вёску парцізаны ішлі цэлы дзень. Каб наперад не сказалі, дык мы б падумалі, што немцы ідуць, паразбягаліся б. У нямецкім усе былі — гэтулькі людзей. Каб і хацеў, дык дзе набярэшся — у наша пераадзець... Выцягнуцца дарогай за вёскай аж да Жараў — дарога ад іх зялёная. І падводы ў іх свае, і арудзіі коні цягнулі, запрэжаныя... Гаварылі, што ішлі яшчэ і праз Горна, і праз другія вёскі — і ўсё на Вялейку. У вёсцы ў нас яны сталі нанач, вечарам. Сыпанулі на двары, як немцы, толькі што гаварылі па-нашаму. Набілася поўна вёска: у кожнага ў хаце чалавек па пяць, па дзесяць.

А восень тады была ціхая, цёплая. Трава зялёная нанава пачала расці на гародзе па бульбянішчы. Рабіна зацвіла другі раз. Рэ-эдка бывае. Днём сонца стаіць у чыстым небе, свеціць праз смугу, як праз туман, мяккае, грэе яшчэ добра, аж бульбянішча ад яго падсыхае і бялее; і павучынне плыве ў вёску з выганчыка з-за ракі, густа, нітка за ніткай, белае, блішчыць на сонцы, чапляючыся за платы... Бабы дык у адных нажутках хадзілі па вуліцы. А вечарам ціха, як у вушку. Неба толькі цёмнае навісне над вёскай, здаецца, вось-вось цёплы дождж пасыплецца, як летам. Парцізаны, дык тыя і ў хаты не хацелі ісці. Параскладалі на гародах агні, есці ў кацялках варацъ, бульбу пякуць. Песні пяюць на ўсю вёску. Дзяўчаты да іх з хат павысыпалі. Двое сутак, ці што, яны ў нас стаялі, калі на Вялейку ішлі...

Камбрыг быў з ад'ютантам. Ад'ютант жыў у другой палавіне. А камбрыг у каморцы. Аўтаматаў кароценькіх пананосілі, цэлую лаву ля вазонаў уклалі. Скрыначак жалезных, і маленькіх, і вялікіх, панаторквалі і на падаконніку, і на печ на пяколак панастаўлялі... Блішчыць жалеза на ўсю хату. А часавыя ў яго былі аж два. На двары стаяў ля ганка і на вуліцы каля брамы. Як у немцаў чорных. Любіў парадак чалавек. У струнку выцягваліся, калі паяўляўся. А дзверы не зачыняліся. То да яго, то — ад яго. І ў нашай адзежы, і ў нямецкай. Разы два ці тры ўся другая хата поўная сабіралася, камандзіры, і ён да іх з каморкі выходзіў.

Моцна гаварыў усягды, доўга, і астатнія гаварылі: ніяк, відаць, нечага рашыць не маглі. Адзін на аднаго усё, як каса на камень...

Я ім, сын, драніку пякла ўсе дні. Бульбы з капца пад хатай набяру — сібіркі, вялікай, жоўтай навыбіраю, наабразаю, надзяру на вялікую тарку,— паказала яна ў парог на салянку, пад якой вісела тарка.— Бульба мяккая была, крухмалістая, як дам на ўсю тарку, аж пырскі толькі ляцяць белыя на кароткія нямецкія аўтаматы на лаву... Пасля накідаю дроў сасновых, сухастою, у печ, гарацъ ціхенька, роўна, каб іскра ад полымя, здаецца, шчокі трэскаюцца, а сама — у тры скаварады пяку драніку. Маску новую зрабіла, закруціўшы кавалак сала з кулак у белую анучу, устаюць і аладкі, і бліны самі, даткніся толькі нажом. І зверху агонь, і знізу, і пераварочваць не трэба... Напяку вялікі гаршчок, накрыю скаварадой і дзяржу на прыпечку. І сама стаю ля печы, выцягнуўшыся,— яна

ўсміхнулася,— як часавы ля ганка, чакаю каманды. Талеркі ўжо ў мяне на стале, абрус белы, чысты, што ў свята засцілалі, відэльцы... Аж пяць талерак ставіла. Яны ўдваіх, і яшчэ трое прыходзіла ад Галіны Аляксандравай. Тут жа блізка, праз вуліцу. Камісар, гаварылі, прыходзіў. Вот забылася, як зваць. І помніла ж... Камбрыг сам іх, відаць, усягды клікаў на дранікі.

Стаю і чакаю. А пад рукой ужо ўсё на паяўку: малако ў жбанках — і салодкае, і прастакваша, і смятана — і сённяшняя, і кіслая з боечкі, сабраная за тыдзень на масла,— хто што любіць, хто свежую, а хто толькі кіслую; тварог: і ў місцы з коптарам, і сыр, адціснуты ў торбачцы; агуркі салёныя, капуста, масла на талерцы, жоўценькае, яешня на сале пырскае на прыпечку... Паляндвіца леташняя яшчэ была ў мяне... О-ха-ха... Восень, у хаце яды хапае. Не цяперашняе...

Выходзіў камбрыг усягды сам з каморкі. Я не клікала. Скоранька так ідзе, глядзіць, усміхаючыся, як хто з вёскі, не скажаш, што вялікі камандзір, падыдзе так да печы, нагнецца — для печы ён быў высокі,— глядзіць, як палаюць дровы, трэ рукой аб руку, як усё роўна сагрэцца не можа, усё наскрозь адразу ўвідзіць, кінуўшы вокам, і пытаецца:

— Ну как, мать, дела?

— Как сажа бела...— адказваю, а сама... Раз ужо ён пра дзяла загаварыў... Дранікі з гаршка на патэльню, масла наверх і на жар. Пасля на стол, на талеркі. Дык яны ўсе: і сам, і астатнія чатыры не краталі ні яешню, ні сыр, ні паляндвіцу. Адны дранікі: і раніцай, і днём, і за вячэрай... Толькі — раз на масле, раз на сале, раз — са смятанай. А каторы — дык абы дранікі, абы гарачыя, каб на талерцы яшчэ сквірчэлі, а не — то падавай адразу з печы на скавярадзе, каб аж язык апякаць... Малаком салодкім запіваюць з конавак — і ўсе іхнія налісьнікі... Як адзін пасля спасіба гавораць, і так каля мяне, і гэтак... А я — што... Бульбы, вун, паказваю ў акно на канец — гара. Аставайцеся, пакуль усю не з'ясцё... Яны смяюцца... Доўга ходзяць па хаце, вылезшы з-за стала. Кураць, аж дзверы пасля адчыняю. Гавораць адзін перад адным пра сваё, не пра ваеннае, пра ваеннае яны пры мне ніколі не гаварылі, а так — мужчынскія тары-бары з усякімі конікамі, пасля зноў каля мяне ходзяць: не нахваляць. О-ха-ха... Лямпа скора зусім патухне... Чад ідзе ад кнота. Дымам запахла...

Яна пастаяла ля стала, гледзячы на лямпу, тады махнула рукой:

— Усяму бывае канец... Дзе яны цяпер, гэтыя людзі? — Яна памаўчала.— Я ўсё думаю сваёй бабскай галавой: каму ён, камбрыг той, больш прыяў? Нам ці ім?..— кіўнула яна галавой некуды назад, у запечак.— Гэта ж трэба — і туды ваяваць, і сюды... Відаць, усё-такі нам, хаця душа яго, як чорта, насіла па пекле. Людзей жа гэтулькі з ім пайшло ад немцаў... А ты думаеш, сын, усе яны так гэта з добрай душой узялі і пайшлі? Не-е... Былі і там бандзіты і, перайшоўшы, бандзітамі асталіся. Гэта ж у такой стадзе ды каб не знайшліся...

У Платона іх, помню, чэцвера стаяла. Дык з гэтых чатырох адзін... Германам звалі... Дык ён... Можа, ён і не адзін, можа, і ўсе чэцвера па яго думалі, хто скажа. Дык во як было. Ноч яны ўжо ў нас пераначавалі, гэта недзе ўжо на другі дзень, раніцай. Я пасуду мыла. Пярэдняга паставога, што на вуліцы ля брамкі стаяў, Герман прайшоў. А гэты, што на двары быў, ля сеначак, угару з пісталета стрэліў... Вот не ведаю, ці той, што на вуліцы быў, проста так яго прапусціў, ці, можа, яны былі заадно. Збеглася іх на стрэл повен двор: і з вуліцы, і з хаты кулем ляцелі... Я нічога не разабрала, пра што яны гаварылі... Доўга бегалі то на двор, то з двара, пасля сабраліся ўсе, і ад Галіны Аляксандравай трое прыйшло, камісар... Суровыя ўсе, ціхія, казыраюць адзін аднаму. Зачыніліся яны — і камбрыг, і тыя, што былі з камісарам,— у другой палавіне і гаварылі. Доўга гаварылі. Нічога не чула. Як усё роўна каго дапрошвалі. Можа, Германа, а можа, часавога, а можа, іх усіх, бо часавых адразу памянялі. І таго, што страляў, і таго, што прапусціў... На вуліцы аж двух паставілі, з аднаго боку брамкі і з другога. Германа адпусцілі. Вярнуўся ён да Платона — Платон пасля ўжо расказваў — і хадзіў усё па хаце... Палуднявалі якраз. Сеў з усімі. Пасля палудня ўсе разышліся з хаты, асталіся толькі Платон і Герман. Падышоў той да ложка, стаў пад бэлькай — хата ў Платона нізкая, і на бэльцы на цвіку вісеў нямецкі аўтамат,— наставіў аўтамат сабе ў грудзі і націснуў... На што там націскаецца, бог яго ведае... Платон расказваў: асунуўся той на падлогу, як мех, а аўтамат калышацца пад бэлькай... Вот табе і Герман. Пахавалі яго назаўтра раніцай на нашых могілках ля Жараў, а самі яны Вялейку браць пайшлі... Добра, што часавы ля ганка ўгару стрэліў. А так бы... Думаеш, хаце-

лася ім за камбрыгам на тую Вялейку ісці? Думаеш, сярод іх немцаў яшчэ не было, хоць яны і ў парцізаны перайшлі? Я сваёй бабскай галавой думаю...

Яна не сказала, што думае сваёй бабскай галавой, падышла да лямпы, кранула магазын:

— Э-ха-ха... Нагледзелася ўсяго... А з Вялейкі як ён ішоў...— Зноў яна пачала гаварыць пра свайго камбрыга.— Стукаюць у браму недзе пад дзень... Адчыняю — другі раз у каморку просіцца. Толькі ўжо назад ён ішоў не так... Уся армія яго плялася з Жараў, па адным, па два... Кучкамі сыплюць, сыплюць як хто іх з рукава патрошку сее. А тут і на дварэ перамянілася. Мароз ударыў, за ноч зямля сцялася ў скарынку, вецер зайшоў з-за Віліі, снег пасыпаўся. Сухі, калючы, як у калядніцу.

Ідуць яны, вушы каўнярамі пазакрываўшы, адразу на Пячное. У вёсцы нават не становяцца. Забягуцца ў хату да каго і — далей. Гаварылі, што ў Вялейцы іх разбілі... Можа, і не разбілі, але пакалашмацілі недзе добра. А чаму я так думаю, ты паслухай...

Сам ён, камбрыг, толькі заехаўся. Да паўдня ўсяго пабыў. Дзверы былі ў каморку адчынены, дык я з парога, адгэтуль,— паказала яна, стоячы ля печы,— відзіла. Павыганяў ён усіх ад сябе, і з каморкі, і з хаты. Адзін у каморцы астаўся... Як вярнуўся ў доўгім чорным кажусе, аж да пят, так і не скінуў яго з плеч. І сам не прысеў нават ні каліва. Асунуўся за гэтыя суткі з твару, пацямнеў. Глядзіць усё ў зямлю, вачэй не падымае і ходзіць па каморцы, ходзіць... Узад-уперад — ад дзвярэй да сцяны і назад. Пасля скоранька зрывае з сябе кажух, кідае на падлогу і сам на яго... Я думала — заб'ецца. Паляжыць, паляжыць, чуваць было аж тут, як стогне, тады ўскочыць з падлогі і ходзіць. Пасля зноў кідае кажух і сам вобземлю. Усю раніцу біўся. Цяжка чалавеку было. Людзей, відаць, многа паклаў, павёўшы. А яно — душа спакойная ні ў кога пасля гэтага не будзе...

Паехаў ён тады ад нас адразу; не помню, давала есці на дарогу ці не... Больш пра яго я і не чула. Жыў чалавек, во, у хаце, як свой, за сталом сядзеў, гаварыў, а цяпер, можа, яго ўжо і жывога няма.

Яна выцерла сухой рукой худыя шчокі, як ад павучыння.

— Э-ха-ха... Вайна, вайна, згінь ты, благое, прападзі... Калі яна кончыцца... Я цяпер, сын, дык часта баюся хадзіць у каморку. Здаецца, стаіць чалавек у чорным, да

пят, кажусе, вялікі, аж пад столь... Як грукне што — здаецца, гэта ён аб падлогу. Увушшу і цяпер стаіць. А ўжо ж і немцаў пасля яго чорных пераажыла... Э-ха-ха... Пайду пасцялю, сын, у каморцы... Камароў там не будзе, акно не расчыняю і дзвярмі надта туды не скрыпаю. А так жа іх усюды — і ў той хаце, і тут во, і над сталом, і над лямпай, і на вокнах... Аж вушы баляць ад піску. І пякуць, як крапівай...

Алёшу не хацелася вылазіць з-за стала. Ён сядзеў, падпёршыся, і глядзеў на лямпу — на чырвоны вугаль пад цьмяным маленькім язычком полымя ў чорнай зверху шкелцы.

Агонь дагараў.

## 4

Па аўтамат Алёша вярнуўся з вуліцы.

Пачуў раптам, што за плячом пуста і лёгка, нібыта нёс цяжкі мех і скінуў — аж, здаецца, няцвёрда стаіш на зямлі, цягне ў бакі.

Ад студні — студня была на вуліцы, пад маладой разгалістай, роўнай з хатай рабінай — добра быў яшчэ відаць у цемнаце адзін і другі канец вёскі: жаўцела ад пяску прамая вузкая вуліца, шарэлі хаты з чорнымі стрэхамі і блізка, у Галіны Аляксандравай, за частаколам у гародчыку бялеліся акяніцы.

На захадзе, якраз у канцы вёскі, чырванела зарыва — занялося на ўвесь край неба, вісела палосамі, чырвонымі, густымі, аж пераліваласся.

Ён стаяў з аўтаматам на плячы ля студні, ля зруба — зруб быў новы, накрыты зверху дашчанай жоўтай накрыўкай,— і глядзеў праз гароды ў канец вёскі. На зарыва. Апаноўвала глухая трывога, за плячыма рабілася халадна. Па глухіх выбухах, якія ішлі, як з-пад зямлі, адзін за адным, ён знаў, што недзе недалёка ідзе начны бой, што такое вялікае зарыва відаць, мусіць, ад горада — вісіць роўна і густа, што чырвоная хмара, і будзе вісець усю ноч, як некалі над Пячным.

Пацягнула раптам у лагер, у грамаду — у атрад, дзе няма ні Гурбана, ні Кіма Ушакова, ні Грышы Геніятуліна... Дзе ўзвод цяпер зусім перафарміраваны — усе чужыя. Адзін Жаваранка астаўся з заслону. Узвод перафарміроўвалі два разы: першы — перад тым, як пайсці ноччу

на прарыў ля Дзвінасы; другі — пасля прарыву, з тых, хто астаўся жыць.

Калі цяпер вярнуцца, ніхто і не пазнае, што адлучаўся...

На загуменні над лесам — недзе над Віліёй — гудзелі самалёты; ад іх стагнала неба, як, бывае, стогне ад сівых, з падпалінамі хмар перад бурай. Самалёты ішлі высака: ляцелі бамбіць, відаць, некуды далёка. Ад іхняга гуду раблася трывожна; адразу адзывалася нешта знаёмае, недалёкае... Цёмная ноч перад Акцябрскай; туман над логам ля ракі за Пагуркам; веташок, вузенькі, як зрэзаны на мезены палец серп,— вісіць нізка над лесам у зялёным небе, здаецца, халодны, як у калядніцу зімой; раса на лісці на альшэўніку — кроплі па бабіне; хрумшчыць пад нагамі трава ад інею — першы сёлета мароз і... агні... Тры вялікія вогнішчы на лагу: адно пад лесам, два — ля самай ракі. Гараць ціха, ліжуць полымем сінюю ля зямлі цемнату, і здаецца, што гэта не партызаны чакаюць самалётаў, а мужчыны з усёй вёскі прывялі коней на начлег за Пагурак на лог, наклалі агнёў і не спяць усю ноч...

У ціхія месячныя ночы самалёты прылягалі часта. Агні палілі адразу, як толькі ў небе чуваць быў гуд. Яго ўжо лавіў вухам і Алёша: свае! Гудзелі самалёты мякка, працяжна, з ціхім звонам, якраз як гудзяць над Віліёй. Такі гуд запомніўся на ўсё жыццё... Ідзеш, пачуеш, станеш адразу і — галаву ўгару...

Агні загараліся ў адзін міг — у кучах ляжалі сухія сасновыя лапкі, полымя ад іх падымалася ўровень з лесам, на лагу рабілася відна, нібы ўдзень, нават павучынне было відаць воддаль на траве, белае ад інею, як раскіданы капусны ліст...

Самалёт рабіў круг над лагерам, залятаў ад вёскі і кідаў парашуты прама на агонь. Яны, адлучыўшыся ад самалёта, ляцелі на зямлю — спачатку цёмныя і маленькія, пасля адразу раслі, нават былі відаць угары белыя шырокія, круглыя купалы. Але парашуты ніколі не лучалі на агонь: чвякалі ў гразь за ракой у балоце ці грукалі аб зямлю за Пагуркам на пасецы...

...У канцы вёскі загрымела, глуха, цяжка. Недзе блізка бамбілі.

Пасвяжэла; з-за ракі ў аселіцы праз белыя бярозавыя платы запоўз туман; густая вячэрняя парнасць сплыла, лягчэй стала дыхаць, чымся ўдзень. Улёгся вецер; на траву ля плота — на высокі канаторжнік і крапіву —

апаў сівы пыл; натапыраныя кунатыя вярхі канаторжніку былі ўжо халодныя ад расы.

На гароды з-за ракі залятаді памінутне кнігаўкі — шмыгалі з белага туману, як чаўнакі з пражы, з красён, падкорчыўшы крылле і прарэзліва крычучы.

За Жарамі, якраз недзе туды, за лес на Найдорф, чуваць было, лязгалі жалезам танкі. Ішлі, відаць, шашой на Вялейку. Аціхалі, пасля зноў глуха бразгалі і гудзелі.

Вёска была пустая: не скрыпелі вароты і асверы, як усягды вечарам перад сном; не пахла дымам з комінаў і сырадоем з двароў ад хлева; не стукалі клямкі ў дзвярах, і не крычалі на вуліцы дзеці. І — ніводнага агню. Буяла толькі на вуліцы ля платоў і ў гародах за парканам на бульбе цёмная трава — расла, і бялела ўперадзе на сцежцы каменне.

Людзі з вёскі былі раскіданы па свеце: і далёка, куды пайшоў фронт, і блізка — за Дзвінасой ці ў Партызанскіх лагерах... Варочаліся дамоў адны — чакалі другіх, угляваючыся хто на дарогу з Жараў: можа, чалавек прыйдзе з фронту; хто — выйшаўшы з двара на вуліцу і закрыўшыся раніцай рукой ад сонца, у вілы да ям, дзе жаўцела баравым пяском яшчэ адна дарога... Глядзеў і выціраў слёзы, ведаючы наперад, што з-за Дзвінасы не кожны вернецца, хто туды пайшоў.

Над ціхай вёскай чарнелі пазадзіраныя асверы; у тым канцы ля фермы неяк высака ўгару паднялося бацянова гняздо на сасне, закрываючы сабой край неба, якраз там, дзе зімовымі начамі гарэла зарыва над Віцебскам...

Над галавой удоўж вуліцы ў сінім, густым начным небе, перасякаючы накрыж далёкі і цьмяны Млечны Шлях, лягла белая паласа з барвовымі падпалінамі — з усходу на захад,— усё роўна як раздзяліла надвае і неба, і вёску. Адтуль міргалі дробныя зоркі, як іскры. За Жарамі, над лесам, якраз над Найдорфам, вісеў вузкі чырвоны маладзік, дастаючы рогам да зарыва ў канцы вёскі. Востры, ядраны, калючы, як варажыў не на дабро.

Ад цішыні было трывожна. І чым бліжэй ён падыходзіў да Альдзінай хаты, трывога ў душы ўсё больш расла. Успомнілася раптам, як немцы з Жараў білі з мінамётаў па ямах і людзі хлынулі хто куды, шукаючы ратунку. Ён, Алёша, убачыў тады сярод людзей і калёс Альдзю. Мігнулася, прыцісную́шы да грудзей маленькі хатулёк абедзвюма рукамі, пасля пабегла, угнуўшы галаву і выстаўляючы ўперад асцярожна ногі, як баючыся, каб на

што не наступіць, і адразу знікла ў грумадзе ў пыле. Ён доўга стаяў, не чуючы, што рвуцца міны. Зрабілася тады неяк адразу пуста ўсярэдзіне, нібы што згубіў. І ўжо ўсю дарогу і за Дзвінасу, і назад, калі ноччу ішлі на прарыў, у душы адзывалася нейкая невядомая трывога... Уваччу стаяла Альдзя, прыцісну ўшы белы хатулёк да грудзей... Колькі ён бачыў за Дзвінасой дзяўчат з белымі хатулькамі — здавалася, што толькі яны адны і ўцякалі ад немцаў, бегучы на Палік...

Ён ужо ведаў добра, што тая невядомая трывога і пацягнула яго цяпер з лагера ў вёску...

Пачуўшы за сталом ад маці, што дамоў вярнулася адна Юлька, ён адразу абмяк. У вачах доўга бегла Альдзя, выстаўляючы ўперад асцярожна ногі, што каза па балоце, пасля спатыкнулася, упала, растапырыўшы рукі, і схавалася з вачэй у пыле... І доўга яшчэ каціўся ўперад па зямлі яе белы хатулёк...

Увесь вечар ён сядзеў за сталом сам не свой, слухаў, як расказвала маці, думаў, што ўсе гэтыя гады, з той пары, калі пачалася вайна, маці расказвала яму, дзе што было, што ўсе людзі толькі гэтым і жылі, шукаючы ў расказах нейкага ратунку: а там жа вунь як было, а каб хаця ў нас гэтак не зрабілі... Думаў, а самога цягнула з хаты. Рашыў: пастукае да Юлькі ў акно, а там — можа, і дамоў не будзе заходзіцца, адразу ў лагер. А з лагера — на фронт. Цяпер яго нішто не ўтрымае.

Пацямнела; сівая ад пяску вуліца зрабілася белая як снег... Як дарога, па якой яны хадзілі з Альдзяй зімой у школу ў Горна.

Ён пастаяў, апёршыся рукой на мокры ад расы плот — узяўся за верхнюю жэрдку: за паваротам згледзеў белы ў цемнаце край печы на Жаваранкавым пажарышчы — днём, як ён ішоў, печ такая белая не была — і чорныя рагачы ад тофеляў. Запахла мокрай глінай...

Пасля ўжо ён убачыў на другі бок вуліцы зашчэпленыя на кручок вароты, за імі высака, як на гары, цёмную хату і хлеў у кутку двара.

На двары было пуста і ціха; сенечкі былі зачынены, да іх крыўляла ў траве сівая сцежачка.

У яго нават задрыжалі ногі.

Ён падышоў да варот, узяўся за вялікі халодны кручок — кручок бразнуў у рупэ аб прабой — і аж злякнуўся: на вуліцы на бярвенні — пад плотам процi Юлькі ўсю вайну ляжала раскочанае са шліхты бярвенне: узяліся

былі скідаць варыўню, ды не прыйшлося — матлянулася белая хустка. Ён адхіснуўся ад варот і ўбачыў, што на бярвенні сядзіць, апёршыся лакцямі на калені і паклаўшы на далоні галаву, Альдзя... Яна павярнулася да яго — зноў мігнулася хустка — і сядзела, не кратаючыся.

Ён стаяў, чуючы, як у яго спаўзае з пляча аўтамат на руку. Пасля падышоў да бярвення, ступаючы па глыбокім на вуліцы пяску як не сваімі нагамі, стаў і стаяў, нагнуўшыся. Глядзеў на яе, а яна — на яго. Вочы яе ў цемнаце блішчалі з-пад хусткі — насунула на лоб ад камароў.

— Алёша?..— яна здзівілася, але нават не кранулася з месца. Пасунула толькі рукой хустку на патыліцу, каб лепш было відаць.— Яшчэ адзін чалавек з вёскі...— Яна падумала.— Жывы вярнуўся...

Гаварыла яна ціха, нейкім глухім, не сваім голасам. Сядзела, апёршыся на рукі і гледзячы на яго, як на чужога...

Ён пераступіў з нагі на нагу, не ведаючы, што рабіць. Яна тады адсунулася трохі на бервяне — паказала, каб ён сеў, не стаяў. А ён глядзеў на яе і не верыў вачам: перад ім сядзела ўсё роўна як сама Юлька, у доўгай спадніцы, закрываючы ёю ногі аж да пят — ад камароў; у шырокай нажутцы з доўгімі рукавамі; толькі белая паркалёвая хустка ў яе была туга завязана ля шыі, ад яе галава рабілася маленькая і круглая, як у дзіцяці.

Каб яна не сядзела проці сваёй хаты, ён бы яе не пазнаў. Зняўшы з пляча аўтамат, падняўся на бярвенне — загрукаў вялікімі нямецкімі чаравікамі — і сеў упобачкі з ёй. Аўтамат паклаў між бярвення ля сябе збоку, дыскам уверх. Павярнуўся і глядзеў на яе — бачыў толькі краёчак шчакі з-пад хусткі. Адразу сыпанулі ў вочы камары, як хто пяском, і ён пачаў цёрці даланёй шчокі. Усё, што было ў яго ў душы, неяк раптам апала на дно — ён аж спужаўся.

— А я і не пачула. Камары ўсе вушы празвінелі...— яна, чуваць было, нешта адразу хацела яму сказаць, нешта карцела ёй, але маўчала, ківалася толькі на руках памаленьку ўзад-уперад. Здавалася, каб ён устаў і пайшоў, яна б і слова не сказала.— Самалёты звіняць. У галаве яшчэ трашчыць ад стрэлу...— сказала яна пасля і адразу як перамянілася ўся: павярнулася на бервяне да яго, ссунула з галавы хустку аж на шыю — з-пад хусткі паказалася закручаная ў куклу каса,— схапілася рукамі за

грудзі, на пажутку, і затраслася ад плачу: — А я ўжо думала, нікога не ўвіджу... Ні мацеру, ні цябе, нікога...

Адразу пасля супакоілася, паправіла на галаве хустку — насунула зноў на лоб,— падпёрлася рукамі і ўтаропілася на гароды, за якімі на далёкім цёмным небе над Жарамі мігалі белыя палосы.

— А чаму ты нічога не гаворыш? — спыталася пасля, павярнуўшыся зноў да яго.

Ён кашлянуў:

— Я цябе зусім не пазнаў. Змянілася...

— Я сябе сама не пазнаю. І нічога не пазнаю. Здаецца, і матка нейкая іншая, і двор не той, і хата... Вялікая зрабілася і парожняя, як пуня. Хаджу з вугла ў вугал, перастаўляю ногі, а яны як драўляныя: ісці не хочуць. Выйду на двор — пажарам пахне з вуліцы. Я ж толькі што вярнулася. Надвечар. Прыйшла з загумення, праз гароды. Матка як увідзіла з двара...— Яна сціхла, памаўчала.— А вёска зрабілася нейкая маленькая... Вуліца вузенькая і пустая. І ўся нямецкімі акуркамі пазакідана. І на двары іх — хоць бяры венік ды падмятай, што ўсё роўна куры загадзілі... Не ведаеш, дзе сябе дзець: сядзеш — не сядзіцца, прыткнешся што рабіць — з рук валіцца. Месца сабе не знаходзіш. Гарыць усярэдзіне, як агнём. І галава трашчыць... Ад стрэлу... Стаіць увушшу трэск, і ўсё... Хаджу во цэлы вечар па двары, і матка ззаду ходзіць. Аж на вуліцу цяпер выйшла. Села во і гляджу на гароды. Дыхаць, думала, лягчэй будзе... Дык пажарам пахне. Як сажа ў каго блізка ў коміне гарыць...

— Пройдзе ўсё... Вот увідзіш...— ён не ведаў, што сказаць; бачыў, як яна ўся дрыжыць, расказваючы са слязьмі, і ў самога горка рабілася ў роце: усё пераежытае клалася ў душы ўжо недзе на дно, і цяпер яна раптам зачапіла яго.

— Не-е...— закруціль яна галавой.— Такое не пройдзе... Як успомню... І як толькі жывая асталася. Тады — дык нічога... Бегла як утрапёная, і ўсё... А цяпер як падумаю... Як пачне калаціць... Зуб на зуб не пападзе...— Яна адсунулася на бярвенне і доўга глядзела на яго зводдаль, пераводзіла вачыма з ног да галавы. Вочы яе, налітыя слязьмі, мякчэлі, але яна глядзела ўжо, утаропіўшыся на бервяно, дзе ляжаў аўтамат, і каб зміргнула: замёрла ўся; пасля загаварыла, не зводзячы вачэй з аўтамата — адхінулася толькі на бервяне ад яго, Алёшы, і выставіла

ўперад ля грудзей руку, нібы закрывалася: — Як увіджу цяпер вінтоўку ці што... камянею ўся...— Яна памаўчала.— Табе ўсё раскажу... Аднаму табе...— яна зноў глядзела на яго насцярожанымі бліскучымі вачыма.— Я ўсё прыглядалася там, за Дзвінасой: можа, увіджу цябе. Але рагэтулькі людзей... Пыл, дым, калёсы, коні, каровы равуць, дзеці крычаць нема, раненых і на насілках нясуць, і пад рукі вядуць, і на сабе на плячах цягнуць... А тут — самалёты над галовамі... Кулі толькі пок, пок пад ногі. На зямлю ўсе падаюць у пыл — не відаць нідзе нікога, толькі енк. Дзе там каго сваіх увідзіш... Перамяшалася ўсё, як салома, калі яе закруціць віхор. Матка згубілася ля Пячнога, не помню і дзе, хоць беглі, узяўшыся за рукі. І вандзэлка пасля Пячнога ў мяне ўжо не было. Я дайшла аж да...

Яна памаўчала, доўга цёрла даланёй і лоб, і шчокі...

— Забылася, во. Вёска такая вялікая на гары. Далёка ўжо за Дзвінасой. Парцізаны ўсё раненых туды няслі. Як успомню раненых... Я так іх баялася. На кроў не магла глядзець. А яна капае ў іх з павязак на пясок пад ногі, і цёмныя плямы блішчаць у пыле... А пасля самалёты як наляцелі на вёску... Нізка-нізка пёрліся над вуліцай, крылле ў іх жоўтае на канцах, помню... Больш нічога не помню. Ляжала на гародах, уткнуўшыся галавой пад плот у нечую мяжу. Лезла толькі ў нос лебяда, павялая на сонцы, дробная, з жоўтым лісцем, і пыл... І цяпер той пах чую, густы, праціўны, аж блага робіцца...

Яна не магла расказваць: скажа і маўчыць, гледзячы на гароды, за якімі дрыжала ад агню над Жарамі сцямнелае неба.

— І на прарыў мы пайшлі з той вёскі... што на гары. Другіх вёсак дык я неяк і не відзіла. Адна тая ў вачах стаіць. Сцямнелася, ноч цёмная была, душная, як сягоння. І ціхая. Аціхла раптам усюды страляніна — дагэтуль усё немцы білі па вёсцы з мінамётаў аднекуль здалёку. Толькі чуваць, як круга яе гудзіць і гудзіць несціхана, бы вада ў гаршку кіпіць... І ракеты ўгару падлятаюць адна за адной. Пастроілі нас усіх звечара за вёскай на лажку, ззаду за парцізанамі. Хто за кім будзе — сказалі. Парцізаны наперадзе ішлі на прарыў, мы павінны былі бегчы за імі. Стаялі мы да поўначы на лажку, маўчалі, як нежывыя. І бабы, і дзеці, і раненыя. Адзін аднаму плакаць не давалі. Захныкае хто — на яго адразу...

Поўнач была ціхая, млявая. Пахаладнела, туман за-

слаў лог, сівы, калючы, што мароз. Зуб на зуб не пападаў. З ног валіліся ад паждання. Круга нібыта ўсё паснула, нават ракеты не ўзляталі. Пеўні, чуваць, ззаду ў вёсцы, што асталася на гары, спяваюць, працяжна, як дома доднiцай. Веташок з-за лесу над гарой паказаўся, выплыў, чырвоны-чырвоны, што акрываўлены. Увідзіла яго — як хто нажом па сэрцы, так захацелася дамоў...

І тады пачалося... Зрабілася відна, нібы ўдзень. Так, бывае, уначы свецяць бліскавіцы, паласуючы неба і слепячы ўсё на свеце. Блізка ўперадзе загрымела, нібы лупіў пярун,— гэта пярэднія парцізаны закідвалі акопы гранатамі. Пасля зашумела раптам несціхана ўсюды: і ў лесе, і на лагу, і на полі, як, бывае, шуміць град, калі прарвецца над вёскай хмара. І тады загрукалі па зямлі ногі, сотні ног. Дугалі ўперадзе, з бакоў, ззаду... Запахла праціўна дымам, пылам, стоптанай мокрай травой, сырой зямлёй... Уперадзе нібыта ўсё гарэла агнём: віселі ўгары ракеты і, здавалася, не падалі; над галовамі паляцелі кулі, як іскры з коміна ноччу з ветрам, калі займецца сажа. Людзі беглі і падалі, беглі і падалі. Мітусіцца толькі цень уперадзе перад вачыма — адзін, другі, трэці... Я ўсё бегла і баялася, каб не наступіць на зямлі на чалавека — мінала. А на зямлі ляжалі ўсё яшчэ свае, па адзежы пазнавала; значыць, не перабеглі яшчэ нямецкія акопы... Калі наперадзе закрычалі — я аж спатыкнулася. Крычалі немымі галасамі, здалося, на сотню вёрст круга. Я ніколі не думала, што так крычаць «ура»... І я крычала і не чула свайго голасу. А ўперадзе свішча, што калючая мяцеліца. Белае ўсё ад ракет, нібы ад снегу.

Выбеглі мы на поле, на жыта. Ніколі не думала, што так цяжка бегчы па жыце. Жыта ўжо высокае, у рост мяне... Чапляецца за ногі, не пацягнуць, каласы ўжо цяжкія, наліваліся — б'юць па шчоках, як пугай сякуць. Бягу і падаю... Устану, прабягу, зачаплюся і зноў падаю. А кулі з агнём над самай галавой ляцяць. Падаю на зямлю і думаю: устану — значыць, яшчэ жывая. Падымаюся і бягу. З жыта выбегла, як з лесу. Чую пад нагамі гранкі, бульбоўнік па нагах хвошча, што лопух. На бульбянішча, думаю, выбегла, лягчэй... А тут — бегчы больш не магу. Сціснула дыхавіца. Не магу дыхнуць на ўсе грудзі — захліпаюся. Колькі падвярнулі. Прабягу і валюся ў бульбоўнік. Дыхаю ротам, пясок з зямлі глытаючы. Усё, думаю. Паднялася неяк, не віджу нічога: самы агонь уперадзе...

Яна сціхла, маўчала і толькі цяжка дыхала на бярвенні — з сябе, што хворая. Пасля зноў прыціснула рукі да грудзей, нібы разрывала іх, як усё роўна ёй і цяпер яшчэ пасля таго не было чым дыхаць.

— Пачула пасля: падхапіў мяне нехта за руку. Страпянулася, учапілася за нечыя пальцы і зноў пабегла. Лёгка стала, як нанава на свет нарадзілася. Бягу і баюся, каб не паваліцца, падымаю высака ногі на бульбянішчы на гранках. Гляджу на таго, хто падаў мне руку, а ён зусім маленькі, меншы за цябе ростам. Кубанка на галаве, ад агню нават палосы відаць чырвоныя наверсе: шырокія, накрыж; вінтоўку ў другой руцэ дзержыць, выставіўшы перад сабой. Павярнуўся ён да мяне — я аж крыкнула: выліты ты! І вочы, і нос — ну ты! Во, як мне здалося... А ён крычыць: «Не адставай, маць тваю так! Душой загавееш! За мяне дзяржыся...» Дзяржуся, дзяржуся, а яго пальцы, чую, паўзуць, паўзуць — вось-вось вышмыкнуцца з рукі... Зноў дыхаць няма чым. Як закрычу я... Не-е... Ён і не думаў кідаць... Стане, схопіць мяне за руку — за пульсэтку — і зноў бяжыць, крычучы: лаецца на чым свет стаіць. Пад нагамі барабаніла нешта бляшанае, каціліся некуды ўніз, у лагчыну, жаўцеў пясок, бугаркамі. Я пазнала, што беглі нямецкімі акопамі. Ракеты свяцілі далей, уперадзе, але я відзіла, як ляжалі на зямлі нежывыя немцы — сівымі гарбатымі кучкамі, як авечкі. І каскі ў іх на галовах блішчалі ад агню, як шкло, і кулямёты на ножках чорныя, як жукі, папрыстывалі да зямлі... Пачула, як на акопах зрабілася раптам горача — гарачынёй дыхнула аднекуль з зямлі, з жоўтага пяску.

Помню, як ён, парцізан у кубанцы, пераступаў, бегучы, праз немцаў. І я пачала пераступаць. Не ведаю чаму, можа, таму, што ніколі не спадзявалася на сябе, я адразу паддалася яму і пачала рабіць усё, што рабіў ён,— пачула, відаць, у гэтым ратунак. Ён пераскакваў цераз акопы — і я за ім; ён падаў на зямлю — і я, не чакала, пакуль тузане за руку; толькі калі ён страляў, я дзяржалася за яго, не даючы. Ён усё адно страляў. Я не відзіла, у каго ён страляў... Стане, стрэліць, і мы бяжым далей, і я зноў дзяржуся за яго руку.

Калі мы выбеглі на пасеку і пабеглі па пнях і па маладым сосніку, на нас зноў паляцелі сперадў кулі з агнём. Ён як бег, так і ўпаў на зямлю ў верас з усяго ходу. Калі беглі пасекай, ужо не я, а ён увесь час дзяржаў маю руку, і я пачула, перад тым яшчэ, як ён упаў, што пальцы яго

неяк слабеюць, слабеюць... Пасля саслізнулі з маёй рукі, і ён упаў. Далёка ўперад ад мяне. І вінтоўка вывалілася ў яго з рукі — грукнула аб зямлю. Я падняла яе з зямлі, даю яму ў рукі, а ён не бярэ. Я тады схапіла яго за руку, за тую, за якую дзяржалася, калі беглі, тармашу, а ён не ўстае. А кулі свішчуць над самай галавой, відаць, як лятуць над пасекай: здаецца, памалу плыве іскра за іскрай... Уперадзе проці нас, недзе блізка, хлябешча нямецкі кулямёт, аж глушыць. Я апусцілася на калені, нагнулася над тым парцізанам у кубанцы, тармашу ўсё і крычу. Мусіць, моцна яго тармасіла, бо ён перавярнуўся на спіну, рукі ў яго раскінуліся ў верасе самі, крыжам... Я ўвідзіла, як шыя ў яго робіцца цёмная ад крыві. Лапнула яго за грудзі — рубашка зверху была мокрая, ліпкая і... цёплая... Я закрычала нема, не ведаючы, што рабіць. Увідзіла адразу, як на мяне ляцяць чырвоныя кулі. Калі я сцішылася, пачула, што ён не дыхае. Кроў заліла яму і шыю, і шчокі...

Можа, таму, што дагэтуль я рабіла ўсё, што ён, я ўхапіла з зямлі яго вінтоўку. Каля мяне беглі людзі, беглі туды, адкуль стралялі, пабегла і я. Дзяржала перад сабой вінтоўку ў дзве рукі і бегла. Верас на зямлі, высокі, па калені, нейкі быў увесь сівы, як ад дыму. У верасе я і ўбачыла жоўты пясок — бугарком — і за ім немца. Ракеты свецяць і немец то бялее, то цямнее. Я згледзела адразу, што ён стаіць на каленях і што ён стрэліў у мяне: хлопнула перад самымі грудзьмі, суха, як што парвалася, і запахла сажай. Я як бегла — была ад яго зусім блізка, як да плота,— паказала яна праз вуліцу на плот,— дык адразу наставіла на яго вінтоўку, дзержачы ў дзве рукі, і націснула на курок. Не мецілася зусім. Як і да вайны, калі вы стралялі на аселіцы на варашылаўскі значок. Мішэнь прыбілі на лазні да сцяны і стралялі... І я тады страляла. І вы смяяліся з мяне, што я не мецішыся страляю. І тут я не мецілася. Немец толькі перагнуўся цераз акоп і лёг на спіну...

Яна доўга маўчала. Вадзіла толькі языком па вуснах.

— Я бегла пасля і не помніла куды. Усё пасекай. І ўсё ў той бок, куды, здавалася, беглі людзі... Пакуль не ўпала, спатыкнуўшыся, у мокры мох на імшары. Ляжала і калацілася ўся ад страху. Холадна зрабілася, як зімою. Слухаю, лежачы, а ўсюды неяк ціха, толькі далёка ззаду сакоча нямецкі кулямёт — рэха ад яго шуміць па лесе,— і неба ў тым баку жахаецца ад ракет. Я не ведала тады,

што перабегла адна апошнія нямецкія акопы — апошнюю лінію, як гаварылі парцізаны,— і ўжо не ў акружэнні. Паднялася памаленьку з імшары, села і сяджу. Багун пахне, лезе ў нос, аж круціць, а мяне трасе. І блажыць. Сяджу і рву. Няма чым, слінай адной горкай, а рву... Не ад багуну, а ад немца. Аж увушшу стаіць, як у яго ёкнула нешта ўсярэдзіне і ён пераваліўся цераз акоп. І дым гэты ад пораху перад носам — задыхаюся... І вочы ў немца помню: палезлі адразу наверх. Я не хацела забіваць... І ніколі б не забіла...— Яна падняла руку ад грудзей і стала ганяць перад сабой камароў: махала доўга, зморшчыўшыся, як усё роўна адганяла ад сябе трывожны прывід, які не даваў ёй спакою.— І ты нікому не гавары...— схапіла яна раптам яго за руку,— не гавары, што я забіла чалавека... Нікому не расказвай... Чуеш? Нікому... Я табе аднаму расказала. Адразу. Каб не мучыцца. І больш нікому не раскажу. Да смерці...— Яна трымала яго за локаць у дзве рукі і дрыжала ўся, аж калацілася...

Над белым бярозавым плотам лёталі нізка кажаны, шапочучы крыллем; садзіліся на вуліцы ля студні — ля Платона — на белы пясок, пасля ўзляталі і насіліся над пажарышчам як утрапёныя. Над ракой, нізка, аж былі відаць у цемнаце, недзе з-за Жараў, ляцелі самалёты. Два, адзін за адным — «дугласы». У тым канцы пабольшала зарыва — занялося на паўнеба. Белая паласа ўгары над вёскай пасівела, адсунулася на загуменне. Паядранеў Млечны Шлях, паказаў белым канцом за Жары, на Найдорф.

Яна прыняла рукі, падпёрлася і зноў загаварыла, як і перш, дрыжучы. Не памагло, што і выгаварылася:

— Каб не я — жыў бы хлапец у кубанцы...— ёй усё яшчэ карцела гаварыць, але цяпер яна спатыкалася на слове.— І нашто я здалася яму, сама не ведаю... Падхапіў мяне... У такім агні падхапіў, вывеў, а самога няма... Я спачатку думала, можа, хто пазнаў мяне, але не — зусім чужы чалавек. Я яго ніколі не спатыкала. Ён жа цяпер у мяне перад вачыма будзе стаяць увесь час... Далей што, пытаешся? А што далей... Ішла ўсю ноч, два разы раку пераходзіла, раніцай апынулася аж за Віліёй — з дарогі збілася. На дубаўцаў у лесе лучыла. «З якога атрада?» — пытаюцца... А з якога я атрада...— яна паківала галавой.— Нумар вінтоўкі тады пытаюцца... А які нумар... Я нават не ведала, дзе ён і напісаны. Яны тады забіраць яе. Я як учаплюся за гэту вінтоўку, аж крычу. Не

ведаю, нашто яна мне... Відаць, яна мяне і ратавала тады, калі забілі ноччу парцізана ў кубанцы; відаць, з ёю я і смелая была, калі бегла цераз апошнюю лінію і раку пераходзіла, раз так за яе ўчапілася. Яны тады за мяне: хто, адкуль... Я і расказала: і пра парцізана, і пра немца. Каровін усё — яго так звалі, і я запомніла,— аспаваты, суровы такі, пытаўся. Дзяржыць у руках вінтоўку, затвор адчыніў, гільза адтуль на зямлю выскачыла, я нават пасля стрэлу затвор не адчыніла і вінтоўку не зарадзіла, дзяржалася толькі за яе, і ўсё. Патроны яшчэ былі ў вінтоўцы, забраў іх Каровін сабе ў кішаню, вінтоўку на плячо павесіў, не аддаў ужо. У дубаўцаў я і была ўсе гэтыя дні, пакуль не прыйшлі нашы. Адтуль і дамоў вярнулася з-за Віліі. Маці паплакала, паплакала да вечара, а тады гаворыць: капач у рукі і бульбу ў гародзе абкапваць — трава душыць. Заўтра раніцай і возьмемся ўдзвёх за баразны... А то з голаду паўміраем. Каня ніводнага ў вёсцы...— Яна раптам, як што ўспомніўшы, усхапілася на бярвенні і стала абтрасаць рукамі спадніцу. Саскочыла на зямлю, на падарожнік і пясок, крутнулася на адным месцы, лёгкая і вёрткая, нібыта дагэтуль не сядзела сагнуўшыся, нахілілася здалёку да яго, і вочы ў яе заблішчалі.

— Спаць пара...— сказала яна, яшчэ больш нагінаючыся да яго. Голас яе пасвяжэў, як пасля халоднай вады. Яна не магла ўстояць, ёй ужо карцела нешта другое: — Як гэта, во, так проста... Прыйсці, сесці...— Ён пачуў, што яна гаворыць пра яго.— Людзі ж маглі відзіць... Ноч... Гаварыць бы сталі. Каб гэта пасля вечарынкі... А так...

Алёша не кратаўся. Глядзеў за платы на гароды, за якімі на лагу ля ракі вісеў туман, высака, уровень з кустамі, белы, густы, хоць кійком мяшай.

...Далёка ў тумане па зрытай акопамі пасецы бегла Альдзя з вінтоўкай у руках...

— Пайду на фронт. Таму і прыйшоў. Каб адвітацца...

Яна раптам сціхла, згорбілася, голас у яе патух. Ускочыла на бервяно і ўхапіла яго за руку. Моцна, аж сціснула. Ён падумаў, што яна тады, як бегла, так трымалася за руку таго маладога хлапца ў кубанцы з вялікімі чырвонымі паласамі накрыж.

— Ты? Цябе ж не возьмуць...— яна як спалохалася.

Ён глядзеў на яе, і яму здалося, што туман за платамі пабліжэў, зрабіўся зусім белы, як гурбы снегу.

— Дзеля гэтага і прыйшоў. Узяў і прыйшоў. Нават

і не адпрасіўся. Праз два дні ўсе з брыгады пойдуць у Плешчаніцы. Загад ёсць. На Мінск яшчэ рвуцца немцы, наваг хацелі яго ўзяць. Тысяч трыццаць, гаварылі, асталося ззаду. Нашы рэгулярныя часці пойдуць у наступленне... На захад. Мінск будуць дзяржаць партызаны...— ён гаварыў, не мог глядзець на яе і апускаў вочы.— З партызанамі я не пайду. Дайду да Плешчаніц, а там — у палявы ваенкамат. Возьмуць. Знаю, што зрабіць, каб узялі. Пайду на фронт. Матцы я нічога не гаварыў... І нікому не гаварыў. І табе б не сказаў...— у яго перасохла ў роце, цяжка было гаварыць. Яна трымала яго за руку, і ён чуў, як яна дыхае — аж холадна рабілася ў шчаку. Падумаў, што яна не здагадалася, чаму ён гэта ёй сказаў, і ўзрадаваўся. І зноў стаў смялейшы.— А матцы маёй і не намякай... Пісьмо прыйдзе...

Яна падняла яго за руку, і ён саскочыў услед за ёй з бярвення на зямлю.

— Не возьмуць цябе. Не возьмуць... Каб такіх бралі...— яна не сказала, што б было, каб такіх бралі.— А я буду з капачом усё лета ў бульбе стаяць... Разам з маткай. А тады пайду ў школу... Праз лог ля Жараў... Лісце будзе жоўтае шастаць пад нагамі, пасля вада павымярзае ў лужах, лядок белы асыплецца — на дно і будзе ляжаць, прыцярушаны інеем... А там — мароз, мяцеліца... Вецер са снегам у вочы. Шчокі гараць, павечкі зліпаюцца... Пасля — канікулы... Вада ў лагчыне па калені... Снег раскіс. Каша... І ручэй недзе пад ім шваргоча... Не відаць, а шваргоча...— Яна раптам аціхла.— Здурнела я зусім, ці што... Нікуды я не пайду... Кончылася ўсё. А цябе не возьмуць. Вот напомніш маё...— Яна трымала яго за руку, сціскаючы, як усё роўна хацела не пусціць туды, на фронт, куды ён рваўся, бо ведала сама, хоць і гаварыла другое, што яго возьмуць. Возьмуць, і тады ён ніколі не вернецца...

Алёша злавіў сябе на тым, што яму закарцела раптам, ухапіўшы яе за руку, як той партызан у кубанцы з шырокімі палосамі, бегчы ноччу пасекай пад ракетамі, пераскакваючы нямецкія акопы. Пералезшы цераз плот па дварэ, бегчы загуменнем ля жыта ў канец вёскі, дзе зарыва ад пажару, дзе быў недалёка фронт... Бегчы ў шкоду, да ям, да ракі... На край свету... Як бягуць дзеці: самі не ведаючы куды...

Яна зноў ускочыла на бярвенне і пацягнула яго за сабой, як баялася: ступіць, пойдзе і схаваецца ў тумане за

паваротам ля Платонавай студні. Схаваецца наўсягды...

З загумення пахла пылам з дарогі і жытам з поля, нагрэтым за дзень. У жыце адзывалася перапёлка, кораценька, дзярката — хацела пачаць песню і тут жа абрывала, спяшаючыся, у трывозе: узагнаная кім ці падбітая...

За Жарамі схаваўся маладзік. У канцы вёскі ападала зарыва — сцялося ў вузкую паласу над самым лесам. На пажарышча за вуліцай прыпоўз туман — вузенькаї палоскай, з краёчку.

Не аціхалі самалёты. Гудзелі над галавой, недзе там, у высокім бяздонні, пад халодным і зблеклым Млечным Шляхам.

Пад раніцу, калі над ямамі пабялела неба і туман схаваў з вачэй платы ў гародах, яна заснула, седзячы на бярвенні і апусціўшы галаву на калені — павярнулася толькі да яго. Захрапла дробненька, цяжка дыхаючы — нібы хацела адаспаць скоранька, на хаду, за ўсе ночы цяжкай дарогі за Дзвінасой.

За Жарамі, недзе на шашы ля Горна, дзе ўсю ноч мігалі белыя палосы, сакатаў кулямёт, адзін у ранішняй цішыні.

Алёша слухаў, углядаючыся ў туман за выганчык.

На бярвенні побач ляжаў аўтамат — дыскам уверх. Сівы ад расы, як зімой ад інею, і халодны.

Алёша падцягнуў яго да сябе.

## 5

Угары пад страхой на матачыне запішчалі ластаўкі, захлопаўшы крыллем, і Жаваранка прачнуўся. Ускочыў на сене і сеў. У хлеве было відна — знадворку над страхой бліщчаў, як шкло, дзень. Жаваранка кінуў вачыма круга: побач, пазарываўшыся ў сена, спалі ўпокат дзеці і Кланя — відаць былі валасатыя галовы, абсыпаныя зялёнай пацярухай; на вушаку ля тыну на ўбітым зубе ад бараны вісеў прыкладам угару аўтамат. Дзверы былі зашчэплены на вялікі, сагнуты пасярэдзіне кручок,— учора, кладучыся, зашчапіла Кланя. На ім ля прабоя вісеў жмук сена — леташняя сухая смычка. Жаваранка падумаў, што ніяк у хлеве не прывыкне вока да аўтамата: вісіць там, дзе ўсё жыццё віселі, зачэпленыя за зуб ад бараны,

старыя, зрэзаныя бруском, косы; граблі — надзетыя рашоткай, адны на адны; цапы, зробленыя першы год пры немцах — аж тры; хамут і наверсе на ім дуга, жоўтая, лазовая — сагнуў ён сам, Жаваранка; калі з-пад грабель увосень тырчаў яшчэ канец зуба ад бараны, Кланя чапляла на яго за маленькае перавясла снапок кміну, сабранага ў аселіцы ля самых град,— каб даспяваў і сох.

Цяпер на зубе ад бараны ў хлеве вісеў аўтамат, нацягваючы зялёны новы рамень.

Заныла глыбака ўсярэдзіне. Ад аўтамата перадалася трывога...

Было холадна — холад апанаваў пад раніцу, праганяючы сон. Не пападаў зуб на зуб, і не хацелася выцягваць з-пад калючага сухога сена ногі, каб абуцца.

Ад зары зачырванелася раптам страха: схапілася як усё роўна полымем драніца з доўгімі шчэлкамі, ад латы да латы, і з круглымі дзіркамі ад сучкоў; заблішчала, як вугаль у агні, ластаўчына гняздо на матачыне; папунсавела абвіслае павучынне...

З-за тыну з парожняга хлева запахла каравай...

Захацелася есці, аж закруцілася галава.

З хлева ён выйшаў на двор, нібы выходзіў з хаты: прыставіў дзверы да самага вушака.

На двары было халадней, чымся ў хлеве; наўкола гародаў ляжаў туман, нізка, на самай зямлі; густы, як цэд, ён хаваў з вачэй вуліцу і стрэхі ў хатах. На траве, на падарожніку, блішчала буйнымі кроплямі, як гарох, апаўшы з начы, раса, густа, нібы хто яе насеяў. Раса ляжала на плоце, ля гарода, на жэрдках, на частаколе, на сцяне, на хлеве, на тыне ад вуліцы, на цыбатым сланечніку — на жоўтых шапках, шырокіх і круглых, як рашотах, на агурочніку на градах — агурочнік быў мокры, пад ім цямнела і мокрая зямля, нібы яе палілі вадой са студні.

Пахла гарэлым торфам і пажарышчам: размоклай глінай і попелам. На краі белай печы цёмнымі рагаламі панякла чорная сажа — ад расы. На выганчыку падымаўся ўгару туман якраз проці пажарышча, і здавалася, што топіцца печ і з яе ідзе дым.

За ямамі, шырака, на ўвесь Пагурак, занялася зара, чырвоная, што жар. Ад яе неба ў тым баку здалося цяжкое і далёкае. Угары над вёскай выцягнуліся сівыя, як воўна, рэдкія палосы. Недзе далёка ў Жарах загаляшыў певень, аж пайшлі водгаласкі.

Над ракой, над самым альшэўнікам, праляцелі сама-

лёты і зніклі адразу пад канец вёскі. Ляцелі па двое, блізка адзін ля аднаго — зніпічальнікі.

Жаваранка пайшоў да варот, як ішоў усягды раніцай чытаць нарад на работу, што вешаў брыгадзір на канцылярыі — на хаце Галіны Аляксандравай між вокан: хата яе стаяла пасярод вёскі. Ідзеш — і відаць: вецер ганяе прыбітую зверху вузкую белую палоску паперы і да хаты падыходзяць адзін за адным людзі. Узлазяць аж на прызбу, чытаючы, пасля разыходзяцца па дварах, ляпаючы варотамі і бразгаючы вёдрамі ля студні — яшчэ не тапілі ў печах, беглі перш-наперш глядзець нарад. І калі трэба было ісці на работу ў поле пад Рабы Калодзеж на ўвесь дзень, варылі на палудзень да любовай скваркі са свінога кумпячка, падсохлага, елкаватага, ад якога днём хацелася піць, кавалачак бараніны, яйкі — два-тры; а хто стараўся — калі ўчора рана ўчыніў рашчыну і ў дзяжы добра падышло цеста — спячы нават свежы хлеб, каб адрэзаць з сабой у поле краёк буханкі з цвёрдай, прычарнелай зверху скарынкай, ад якой усю дарогу аж да Рабога Калодзежа была цёплая торбачка і пахла на ўвесь лес кіслым ржаным духам з кмінам, як з печы...

На вуліцы было пуста і ціха; распаўзаўся туман, і за паваротам ад Платонавай студні былі відаць шэрыя платы.

Жаваранка стаяў ля абгарэлых ад двара і зашчэпленых на кручок варот і глядзеў пасля на ферму: дзверы ў кароўніках расчынены; свіцяцца дзіркі ў паадбіваных шчытах у свірне; над студняй, над зрубам пасярод дзядзінца, задраў угару сухую доўгую дзюбу асвер... Каб дзе жывая душа...

Зверху з тофеля капнула на руку, на пальцы, раса — чорная ад сажы.

Скрыпнуўшы дзвярыма, выйшла на двор Кланя, счышчаючы з сябе рукамі пацяруху ад сена: з нажуткі, з грудзей, з плячэй ззаду, паварочваючы галаву, і з галавы, з валасоў — з раскручанай касы...

— Яхрэм...— пазвала яго ціха, што ўсягды раніцай, калі хацела папрасіць прынясці вады са студні ці адсекчы смаляка на дрывотні, як не гарэлі ў печы дровы, і баялася разбудзіць дзяцей: не дадуць у пару парабіць работу.— Рыдлёўка на двары, ля хлеўчыка, асталася цэлая, тая, якой усягды з-пад ног адкідалі... Вядро трэба з сабой узяць, прыгоршчамі надта не начэрпаеш. Вылію ваду і

вазьму. Мяшок толькі... Можа, вісіць за тынам на шастку, той, у якім карове мякіну насілі з пуні... А не — то да Галіны Аляксандравай падскочу. Можна было б наўлечку з падушкі зняць, з-пад галавы ў дзяцей, але ж у ёй не наносіш...

Ён здагадаўся: Кланя хоча даставаць куфар з жытам.

— Вярнуся ў хлеў. Каб толькі дзяцей не разбудзіць...

Яна схадзіла ў хлеў — асцярожна падымала на руках дзверы, каб не скрыпелі,— і вярнулася з вядром у руках і мяшком на плячы. Ваду выліла пад асвер у яму, дзе ўсягды ў гразі ў гарачыню купаліся свінні. Яма зарасла высокім падарожнікам — ад вады ён адразу палёг на зямлю. Паднёсшы, паставіла вядро на дарожку ля студні, яму, Жаваранку, пад ногі. Адышлася пад хлеўчык і, зняўшы з пляча мяшок — тоўсты, новы, сатканы з атрэп'я, нават кастра яшчэ была відаць на нітках,— пачала выбіваць яго ад пылу і патрухі. Перавярнула на другі бок і зноў выбівала, пасля, склаўшы ўдоўж удвая, перакінула цераз плячо. Прынясла з-пад хлеўчыка рыдлёўку, збітую, з доўгай, па грудзі, ручкай і падала яму, Жаваранку. Управілася з усім адна, хутка, як упраўлялася ўсягды раніцай ля печы. Выцерла пасля хусткай вочы і шчокі — хустка ляжала ў яе на плячах,— што ручніком, памыўшыся; узяла ў рукі парожняе вядро, хуценька на рог варыўні перайшла босымі нагамі пажарышча, як баялася яшчэ апячы ногі, і палезла, сагнуўшыся, у плот, у спрагу. За ёй палез і ён, апіраючыся на рыдлёўку.

За плотам адразу пачыналася жыта, стаяла высокае, уровень з Кланяй, з паднятым угару коласам, на якім пазастывалі мокрыя ад расы дробныя жаўтаватыя вусікі,— жыта яшчэ красавала. Праз жыта вяла на пасеку і далей на Пагурак сцежка, шырокая — па ёй нават ездзілі на калёсах; спрадвечная — Жаваранка як помніць, дык яна ўсягды была ля плота, яе ніколі не заворвалі — ні вясной, ні ўвосень; убітая цвёрда нагамі і калясьмі, парослая пырнікам у калена, валькамі, свірэпкай, дурнап'янам, гугелем, асотам і малачаем, па самай зямлі падбярозкай, макрыцай і ўсякай дробнай гавылой, якая расце ў жыце.

Жаваранка спяшаўся за Кланяй; яна ішла наперадзе сцежкай, як усягды на работу; выставіўшы ўперад руку, адхінала ад вачэй мокрыя каласы; бляшанае вядро ў другой яе руцэ, апушчанае аж да зямлі, чаплялася за траву і за жыта і звінела. Рыдлёўку ён падняў на плячо, узяўшыся за ручку, за канец, як за касільню, ідучы ка-

сіць на балота за Пагурак, пад самыя цяпер Партызанскія лагеры...

Як не было добрай пагоды, касіць у калгасе пачыналі не з лугу ля Віліі, а з балота за Пагуркам: калі і падчарнее — не так шкода.

Сабраўшыся ўсёй вёскай ля Галіны Аляксандравай, ля нарада,— пасеўшы на платы, на прызбу, на зямлі на траву, касцы чакаюць усіх, да астатняга, тады ідуць у гэты канец, дзе Жаваранка... Аднаго яго не чакалі, клікнуць пасля...

Выходзяць з-за павароту ля Платонавай студні, клічуць з сабой Платона, стукаючы сцябачкай па касільне: не дачакаліся ля нарада... У белых рубашках, з паднятымі на плячах высака ўгару косамі, яны займаюць усю вуліцу, ад плота да плота: нічога не відаць за іхнімі плячыма. Падыходзяць да яго, Жаваранкі, адчыняюць самі вароты, рассыпаюцца па двары, п'юць «у запас» ля студні з вядра ваду, нехта яшчэ пырскае на Кланю — кідаецца ў жарты; тады «забіраюць з сабой і, можа, не вернуць» яго, Жаваранку, з касой, з палуднем; падыходзяць ля варыўні да плота і, збіўшыся ў кучу, «робяць спрагу» — рассоўваюць жэрдзе з цэлага прасла ў бакі і ідуць на сцежку, як праз вароты... Ідуць адзін за адным, трыццаць мужчын, расцягваючыся і хаваючыся ў жыце. Бліпчаць толькі на сонцы над імі белыя косы, як агонь...

Спрага пасля касцоў стаіць адкрытая ўсё лета; яны будуць хадзіць дваром на сцежку ў жыце, пакуль не скосяць і Пагурак, і Вір, і лог ля ракі,— ля ям цераз пасеку дарогай ніхто і не думае ісці: трэба даваць круга. Пасля касцоў будуць хадзіць бабы — разбіваць і грабіць сена. І жаць на пасеку да ям... Тады ўжо, калі пажнуць жыта і апусцее поле, спрагу ў плоце зацягваюць «на зіму». Праз двор больш ніхто з вёскі не ходзіць...

Жаваранка аж азглянуўся назад: нібыта ўслед маглі ісці мужчыны з косамі на плячах. Ззаду нікога не было; калыхалася толькі жыта ля сцежкі, дзе яны прайшлі. Вёска хавалася ў сівым тумане; цямнелі толькі ўгары стрэхі: такога туману летам даўно не было. Шастала пад нагамі жыта, і звінела ў Клані ў руках вядро. На плячы ляжала рыдлёўка, і Жаваранка адчуў, што яму стала раптам ніякавата: далёка адышоўся ад дому, пакінуўшы аўтамат у хлеве. Ніколі ён яго за ўвесь час, як павесіў на плячо, не пакідаў...

Ён дагнаў Кланю.

Калі яны, мінуўшы соснік, праз які вяла дарога на лог да ракі, выйшлі на пасеку ў дробнае жыта — у вочы хлынула зара: занялася шырака над Гарбатым Мастом і над Партызанскімі лагерамі. Далёка, у тым баку, дзе была Дзвінаса, над самай зямлёй віселі тулягі — увачавідкі наліваліся чырванню: як каліна. Над пасекай паплыў, падымаючыся, туман, ад зары рабіўся буры, як дым.

Узыходзіла сонца: над Партызанскімі лагерамі паказаўся з-за лесу яго ціхі, сіняваты ў тумане краёк.

З рэдкага жыта на жоўтую ад пяску зямлю капала раса.

Жыта расло на іхнім шнуры ля самага лесу. Невысокае, дробнае, яно чуць хавала з воч загоны.

Звярнуўшы са сцежкі, яны ішлі па жыце баразной, пакуль не налучылі на жоўтую латочыну: тут быў зарыты куфар.

Куфар яны хавалі летась увосень: жаўцеў ужо бярэзнік і асыпалася лісце. Было ціха, і здалёку, недзе адтуль, дзе цяпер узыходзіць сонца, з-за Дзвінасы, чуліся выбухі, увесь дзень — як таўклі ў ступе.

Выкапалі спачатку яму, глыбокую, каб над куфрам насыпаць ладне зямлі — ад вады: хавалі ж на зіму; прывязлі куфар, асцерагаючыся, каб ніхто надта не бачыў; напасля вазілі ў мяшках жыта — як усё роўна сеяць,— насыпалі куфар аж па прыскрынак; накрылі жыта зверху пасцілкамі; куфар абаткнулі з бакоў саломай, наслалі наверх на века пластом і засыпалі жоўтым пяском, зраўняўшы яму з зямлёй. Раскідвалі пасля яшчэ жоўты пясок рыдлёўкай далёка па ўсім шнуры, каб не кінулася ў вочы месца; перааралі плугам шнур ад дарогі да бярэзніку, памесялі з сяўні жыта і забаранавалі загоны ўдоўж і ўпоперак. Жоўтая, уперамешку з сіпаком, латочына на зямлі ўсё ж асталася.

У вёсцы тады ўсе хавалі ў ямы дабро: чакалі блакады. Яго, Жаваранку, адпусцілі нават з лагера.

...Кланя вырвала жыта на жоўтай латочыне: рвала, як лён, хапаючы пад паху. За дарогу ў вядро нацякло расы, і яна выліла яе на зямлю — вада адразу схавалася ў пясок. Узяла ў яго з рук рыдлёўку і паказала, адкуль капаць: помніла, з якога боку адчынялася века.

Пясок на загоне на пасецы быў сухі, што попел, нават жыта, не паспеўшы наліцца, пажаўцела і пачало сохнуць: шапацела ад рыдлёўкі, як салома.

Сеўшы на калені, Кланя адграбала пясок з загона ў баразну рукамі — прыгоршчамі.

Адкапалі ў калена; запахла плеснівай саломай, як вясной з ямы, калі дастаеш бульбу. Салома збілася, пачарнела; века зверху ў куфры было мокрае; паржавела, зрабілася рудая бляшаная абабіўка — палосамі. Века ад пяску Кланя ачышчала вехцем, скруціўшы яго з жыта — стаяла ўсё ў яме на каленях.

Века паднялося лёгка — адвалілася адразу да берага, як дома да сцяны ад вуліцы; усярэдзіне было сухое, жоўтае, нібыта і не стаяў куфар у зямлі ад леташняй восені дагэтуль, нібыта не зімаваў пад снегам; нават газеты, якія былі прыклееныя да яго, не адваліліся; сухія былі і дзве простыя пасцілкі, новыя, у чырвоную клетку, якія Кланя выткала сама і якімі накрылі зверху жыта; і жыта было сухое, нават добра не адышло: цвёрда кусалася на зубах. Толькі чырвоны гарох, які быў насыпаны прыскрынак, адсырэў, набух, нібы яго намачылі, каб пражыць на скавародзе.

Кланя, убачыўшы жыта, як стаяла на беразе ямы на каленях, так і ўхапілася за галаву:

— А ха-атка мая... А дзе ж мы жыць будзе-ем...— заплакала на ўсю пасеку — ён аж азірнуўся па баках...

Ён яе не чапаў; узяўшы вядро, выцер дно аб мех ад пяску, засіліў поўнае жыта, згарнуў локцем зверху лішніцу, страсануў над куфрам — цяпер і зерне дарага,— адагнуўся ад ямы і высыпаў жыта ў мех. Кланя абмякла, глядзела на яго праз слёзы вялікімі вачыма. Пасля ўскочыла з зямлі, абтрэсла асцярожна рукамі падол і залезла ў яму — стала збоку, на пясок і на салому. Пераняўшы ў яго з рук вядро, пачала скоранька чэрпаць, згінаючыся. Спачатку толькі падавала яму вядро, тады стала і чэрпаць і сама высыпаць у мех. Успомніла, відаць, што яны ўсталі додніцай, каб больш зрабіць, што ў іх толькі сягоння дзень, заўтра дзень, і — усё. Яна астанецца адна... Адна з дзяцьмі...

Ён толькі стаяў цяпер і трымаў рукамі мех, пакуль яна не насыпала, як закінуць за плечы.

— У кадзь высыпеш... Кадзь чыстая, я ўчора глядзела. Вечка падымеш і высыпеш. За тынам кадзь стаіць, за дзвярмі, як толькі адчыніш. Хай там і стаіць, выкачваць на памост не будзем.— Яна адагнулася ад мяха, у адной руцэ трымала вядро, другой узялася за грудзі.— Дзвярмі толькі не скрыпі... Хай дзеці спяць. На клямку возьмеш.

А то — студня на двары. Баюся гэтай студні кожны раз. А я пасцілкі страсану: у пяску, вільготныя... Днём на плот у гародзе ўскіну, на сонца...

Яна паддала яму мех — з калена, як паддавала на плечы ўсягды ўсё цяжкае.

Жаваранка ішоў назад сцежкай, несучы на плячы мех, узяўшы ў дзве рукі ля завязкі: мех быў цяжкі, пуды чатыры, ногі слізгалі з цвёрдай мокрай сцежкі ў баразну і чапляліся за жыта, і ад гэтага ён яшчэ больш рабіўся цяжэйшы. З-за пляча з меха пахла жыта, свежым, мяккім вільготным пахам, як увосень са свірна на ферме, калі палучалі ў калгасе размеркаванне. Ён трымаў тады мех ля завязкі, стоячы на таку ў свірне, а Кланя чэрпала вялікім белым вядром жыта з аруда, насыпала па самую завязку. Насыпалі адзін мех, два, тры чатыры, пяць. Клалі іх на вялікія калгасныя вагі, ля якіх стаяў з карандашом і ведамасцю ў руках Валуй — кладаўшчык, якому за Віліёй ужо, калі прыйшлі нашы, адарвала мінай нагу, вышэй костачкі, і яго завезлі ў ваенны шпіталь,— пасля адносілі мяхі — яна за вузел, ён за рагі — і складалі на дзядзінцы ля свірна ў кучу. Варочаліся, насыпалі зноў і клалі на вагі, пакуль Валуй, бразгаючы гірамі, не пачынаў махаць рукамі: усё. Забралі. Распішыцеся. Запрагайце каня і перавозьце. Пакуль усё перавезіцё... Дзе вы яго дзяваць будзеце...

На дварэ тады стаяла восень. Выбралі бульбу. На бульбоўніку, які валяўся неспарадкаваны на чорнай раллі на загуменні ля дарогі, і на параскіданай па дзядзінцы, па стаптаным падарожніку, саломе ляжаў ужо белы, як соль, іней — доўга, ад раніцы аж да палудня, хоць і свяціла над выганчыкам у чыстым, як вымытым, асеннім небе ядранае сонца.

Калёсы з мяхамі ціха тарахцелі па каменні; конь ішоў па вуліцы па пяску навыцяжку. Па жыта ездзілі некалькі разоў. Насыпалі ім дома кадзь, вялікую, дубовую, чорную зверху ад старасці — у ёй спрадвеку квасілі капусту з качанамі, і яна нарэшце пацякла ў дне, падгнілі дубовыя клёпкі, не памагала і засмаль — у яе лезла аж шэсць мяхоў, цэлы воз; чорны куфар, які стаяў у сенцах; шафарню; насілі пошкамі па драбіне на гару і насыпалі вялікае асінавае карыта, у якім Кланя ўсягды секла ўвосень секачом «шэрую капусту»; пасля напаўнялі з верхам ліпаўкі, якіх было на гары ля коміна аж чатыры. Высушыўшы жыта, везлі адразу малоць у млын у Найдорф.

Свежыя буханкі хлеба са свежай мукі, вынятыя з печы — з пода — і палітыя вадой, блішчалі, як ад масла, і пахлі на ўсе сенцы, аж не хацелася ад іх адыходзіцца: бяры, рэж гарачую скарынку, якая хрумшчыць на зубах і рассыпаецца ў роце.

...Здалёку з вёскі пацягнула гарэлым памялом, з коміна, што ўсё роўна садзілі пячы хлеб. Жаваранка пачуў, як хочацца есці — нават горка ў роце.

Жыта з меха ён высыпаў у чорную кадзь за дзвярыма; стаяў пасля, узяўшыся рукой за чорны край кадзі, пакуль не аддыхаўся: аж у галаву стукнула — так цяжка ён даўно не нёс.

Дзяцей з пярэкліцы не было відаць — ён ступіў ціха бліжэй да памоста, падняўся на дыбкі і выцягнуў шыю. Павярнуўшыся да яго тварам, спала ў сене Антунінка, закрыўшы валасамі і лоб, і нос. У роце ў яе быў палец; з сена тырчаў сагнуты локаць. Жаваранка пачуў, як Антунінка смокча, моцна, на ўвесь хлеў. Пачакае-пачакае, тады — зноў, аж адарве, здаецца, палец...

«Галодная...» — падумаў ён, і яму горка зрабілася на душы. Пасля ён падумаў, што і спаць клаўся, і ўстаў, а да дзяцей яшчэ і слова не сказаў... Павярнуўшыся, ён пайшоў з хлева, узяўшы дзверы на клямку.

Узышло сонца, падняўшыся над Пагуркам. На пасецы, сюды, пад вёску, заблішчала раса, дробненькімі іскрамі, як прысак. Туман на лагу і на полі збіраўся ў кучы, як коні ў табун; падымаўся ўгару і цягнуўся, што воблакі, насустрач сонцу.

У вёсцы зазвінела піла, ядрана — па сухім дрэве. Жаваранка, ідучы, аж спыніўся і паглядзеў назад. Далёка, у некага ў тым канцы, угару з коміна сівым слупком падняўся дробны дым — адзін на ўсю вёску. У вушах звінела, не сціхаючы, і Жаваранка ўбачыў пасля, як над бярэзнікам ідуць самалёты, адзін за адным, нібыта аддзяляючыся ад сонца. Самалёты ішлі сюды, на пасеку, на вёску, па тры ў рад, вялікім чорным клінам, як журавы ўвосень з-за Віліі. Праходзіў адзін шырокі клін, цішэла; тады, пачакаўшы, ішоў другі, той жа дарогай, з-пад сонца; за ім, калі ўгледзецца, быў відаць яшчэ адзін. Калі яны былі ўгары над пасекай, ад сонца рабіліся жоўтыя, блішчалі — не было як глядзець. Ад іх густа дрыжала пад нагамі зямля; здавалася, едзеш, стоячы на калёсах.

Кланя глядзела ўгару, закрываючыся далонёй ад сон-

ца. Ля ног у яе нахілілася поўнае вядро, і з яго сыпалася на пясок жыта.

— Я ўжо сорак налічыла...— яна зірнула на яго, спужаўшыся.— І над выганчыкам ішлі... І ўсё яшчэ ідуць. Шыя забалела на іх гледзячы. І ўсё туды, у адно месца, дзе грукае. І назад не варочаюцца, нібы там і прападаюць. Бо-о... За ўсю вайну не відзіла гэтулькі...— яна згіналася браць вядро і глядзела ўгару.

Самалёты пайшлі ніжэй, над самым бярэзнікам за ракой.

Калі Жаваранка вярнуўся з дому апошнім разам, яны, апаражніўшы куфар, павыцягвалі з бакоў слізкую, белую ад плесені салому, паднялі куфар адным краем, зрылі рыдлёўкай пад яго бераг — ён, Жаваранка, трымаў куфар, упёршыся рукамі, а Кланя дзяўбла рыдлёўкай зямлю — і выцягнулі куфар з ямы наверх. Абцёрлі зверху ад пяску, адчынілі прыскрынак, паднялі века і падпёрлі яго рыдлёўкай, уставіўшы яе ўсярэдзіну ў куфар.

— Хай абсыхае... Добра, што хоць ён цэлы астаўся... Будзе куды рыззё з вачэй схінуць...— Кланя зноў заплакала. Ішла сцежкай ззаду за ім, Жаваранкам, ускінуўшы на плячо пасцілкі і несучы ў вядры высыпаны з прыскрынка чырвоны гарох, і плакала. Увесь час была як апечаная: крані яе — цякуць слёзы.

Самалёты ўсё яшчэ ішлі над вёскай — ішлі сягоння ўсю раніцу.

Калі яны — ён наперадзе, грукаючы ботамі па ўтоптанай сцежцы, яна ўслед за ім, збіваючы на босых нагах пальцы аб каменне,— падыходзілі да спрагі, убачылі яшчэ з жыта дзяцей. Дзеці бегалі дваром — мігцелі толькі за канаторжнікам ля плота валасатыя галовы — ад хлева да пажарышча і назад. На пажарышчы падымаўся ўгару ўзбіты попел, як дым...

— Ногі парэжуць аб шкло, Яхрэм!..— закрычала ззаду за ім Кланя.— Там жа шкла поўна. Заб'ю большага... Малую выцягнуў. Як яны вылезлі? Дзверы ж зачынены...

Дзеці — Валодзя большы, галава вышэй зруба на студні, Антунінка не дацягнецца яму і да пашкі,— пачуўшы Кланю, адбегліся ад пажарышча, пасталі ля зруба ля студні, гледзячы за плот у жыта, пасля сарваліся з месца і адно за адным цераз нагу пабеглі да спрагі. Шмыгнулі ў плот, як парасяты ў шкоду, падбеглі і перанялі яго, Жаваранку, пярэдняга, яшчэ ў жыце. Падскочыў першы

Валодзя — бег з усёй сілы, падкідваючы высака доўгія ногі і махаючы рукамі,— тарканууся аброслай — валасы ляжалі на вушах — галоўкай яму, Жаваранку, у жывот, пад дзягу, як цяля карове пад бок. Адбегся адразу назад і глядзеў здалёку такімі радаснымі шэрымі вачыма — здавалася, яны ў яго аж круціліся ад радасці. Жаваранка толькі справіўся пагладзіць яго рукой па галаве.

— Татка... Татка...— Валодзя аж заікаўся, адступаючыся да спрагі.— У хлеве нечы аўтамат вісіць... На кручку... Цяжкі...— ён памаўчаў.— Я не чапаў... Зусім не чапаў... Ён там і вісіць...

Антунінка ў доўгай, за калені, шэрай, у дробны гарошак, шырокай — злазіць з плячэй — сукянёшцы; валосікі пасвятлелі, адраслі і лезуць спераду ў вочы — яна зыркае спадылба; правая ручка сагнута ў лакці, як была раніцай у хляве, мезены пальчык схаваны ў роце: смокча на хаду... Падбегла была, убачыла, як Валодзю пагладзілі па галаве, крутнулася на сцежцы і — назад да спрагі, нават не выняла пальца з рота,— толькі бліскалі чырвоныя пяткі з-пад доўгай сукянёшкі: набіла ўжо, бегаючы па цвёрдым двары.

— Тоня! Антунінка!..— клікнуў ён і пайшоў з мехам скарэй, даганяючы яе і не могучы дагнаць. Мех быў цяжкі, поўз з плячэй, і Жаваранка чуць перажаргнуў жэрдку ў спразе. Мех ён не данёс у хлеў, скінуў на дварЫ ля студні, на мокры падарожнік.— Антунінка... Ты што? Не пазнала? — выставіў ён уперад рукі, як пераймаючы яе.

Антунінка ціснулася да хлева, да дзвярэй; ля яе па высокім падарожніку, мочачы ў расе калошы чорных, афарбаваных у рудзе штаноў, скакаў на адной назе Валодзя: яго не клікалі.

— Тоня, вынь пальку... Адгрызеш зусім...— закрычала на яе здалёку Кланя... (Тоня на палец гаварыла «палька», і ўсе дома сталі гаварыць, як яна: палька.) — Гэта ж падумаць... Ты глянь, Яхрэм... Паглядзі... Дзверы на клямцы, дык яны вун, пад дошкамі, дзе куры ў дзірку лазілі, выграблі з ямы патруху і выціснуліся на двор. І ўсё гэты, вялікі... Цэлая галава ў вайну асталася, дык ён шукае, дзе цяпер яе скруціць... Я да яго дабяруся... Пачакай...— падышла яна да студні і паставіла вядро на дарожку, побач з мехам.— То-оня-я...— клікнула яна зноў.— Вынь пальку. Ты што гэта не слухаеш? Не відзіш, хто прыйшоў?

— Антунінка... Ну-у-у... Зусім на мяне забылася...—

Жаваранка апусціў рукі, аж забалелі: гэтулькі трымаў, выставіўшы.

Тады Антунінка глянула на яго, як усё роўна пашкадавала, выняла з рота мезены палец, выцерла збоку аб сукянёшку, падбегла да яго, ускочыла на рукі, нагнула набок галоўку і залапатала, адстаўляючы вусенкі:

— Я знаю... Ты мой тата... І ты мяне любіш...

— Антуні-інка...— ён прыцісную яе да сябе; яна засмяялася, запішчала на ўвесь двор і пачала вырывацца, махаючы і рукамі, і нагамі. Вырваўшыся, адбеглася да хлева, схавалася за Валодзю, схапіла ў рот «пальку» і глядзела з-за пляча вясёлымі вачыма. Пасля згледзела раптам вядро і пабегла да яго — за ёй паскакаў цераз нагу Валодзя. Падбегшы, утаропілася: «Што гэта?» Тады, нагнуўшыся, схапіла хуценька — спачатку адной, пасля другой рукой — гароху і панясла адразу ў рот.

— А дзе-еці вы мае-е...— загаласіла Кланя і, узяўшы вядро, пайшла скарэй у хлеў, мусіць, каб самой схавацца з вачэй.

Ён падняў мех, занёс яго перад сабой у хлеў, высыпаў жыта ў кадзь, разгарнуў рукой, зраўняўшы,— жыта было ў кадзі аж пад верх; накрыў кадзь дэнкам, вялікім, цяжкім; страсануўшы мех, склаў яго ўчэцвера і ўскінуў зверху на дэнка. Пасля пераняў у Клані з рук вядро з гарохам, высыпаў гарох у наўлечку, якую зняла Кланя з падушкі, завязаў вузлом і паклаў на кадзь. Абцёр ад асця грудзі — жыта было з дробным асцём, і асця набілася ў рубашку,— выйшаў на ток і, згледзеўшы конаўку на калодцы, падумаў, што хоча піць. Падумаў яшчэ: гэтулькі насіў за раніцу на плячах, ныюць, як ад касьбы, што і піць хочацца, нібы пасля касы, калі ўвесь сышоў потам, і зусім не баліць спіна ў крыжы, як увесь гэты час. Пачуў раптам тут, стоячы на цвёрдым таку, па якім хадзіў усё сваё жыццё, што здаровы, як і перш, і падумаў спачатку з трывогай: возьмуць на фронт, не пусцяць з Плешчаніц з камісіі дамоў; пасля з радасцю, што сходзіць і на фронт, і вернецца... Што можа зноў узваліць усё на свае плечы... Хоць цяпер будзе, сагнуўшыся ў тры пагібелі, часаць бярвенне на хату. Пазычыць бы толькі ў каго тапор і пілу і навастрыць добра...

Кланя прынясла ў вядры вады — даставала са студні памалу, доўга скрыпеў асвер,— паставіла вядро ля калодкі, разаслала на памосце, склаўшы ў дзве столкі, пасцілкі, якія дасталі з ямы з куфрам, выкаціла калодку на пра-

ціўню, расхінула на ёй ручнік — у ручнік быў закручаны кавалак перапечкі, што прынясла ўчора Галіна Аляксандрава,— зачэрпнула ў конаўку вады і паставіла сярод калодкі. Паглядзела на яго, Жаваранку, які стаяў пасярод праціўні, і клікнула з двара дзяцей.

Елі разламаны на чатыры кавалкі праснак — разламала Кланя і дала кожнаму ў рукі,— насеўшы на намосце і спусціўшы на гліняны ток ногі: Кланя — ад вуліцы, пасля дзеці — Антунінка з Валодзем, тады ён, Жаваранка, з краю ад дзвярэй. Сядзелі круга накрытай ручнікам калодкі, як дома ў хаце за сталом, засланым абрусам; елі сухамя, ціха, паднёсшы блізка да рота кожны свой кавалачак ацеслівай, прыгарэлай зверху жытняй перапечкі — дзеці ўхапіліся за яе ў дзве рукі,— елі, кожны думаючы пра сваё, нібыта за сталом і не было малых, а сядзелі адны старыя людзі, змучаныя водумам — як выйсці з бяды.

Угары ля матачыны пішчалі ластаўкі: лёталі адна за адной у дзірку ў шчытах і, варочаючыся, прылепліваліся збоку ля шэрага гнязда: кармілі дзяцей. На іх праз шчыт свяціла сонца; добра былі відаць чырвоныя грудкі.

Над выганчыкам гудзелі самалёты.

Маўчалі, толькі Антунінка не магла ўседзець: ёрзалася, цярэбячы і лоб, і шчокі, і рукі, дзе ад камароў за ноч паўскаквалі вадыры. Пасля заплакала Кланя:

— Калі ж слёзы самі цякуць... Сядзіш, а яны цякуць... А што ж рабіць... Гэта ж якіх толькі пяць мяшэчкаў жыта...— яна ўздыхнула, не могучы есці. Укусіць, пакладзе рукі на калені, сядзіць і глядзіць на конаўку з вадой.— Мы ж іх з дзяцьмі на адной зацірцы з'ядзім... І напазычалася я ўжо... А нічога ж няма... Голыя ж асталіся... Насавы ўсе пагарэлі... І свае, і дзяціныя... Яму ў сосніку адкрылі... Я і забылася сказаць... І палатно нават забралі, у трубцы было... І ў варыўні ўсё дымам пайшло... Абручы толькі ад дзежак пагнутыя ляжаць... Бульбу ўсю дасталі вясной з ямы, і бульба згарэла ў загарадцы...— яна паддавала сабе жалю і залівалася слязьмі. Пасля раптам аціхала, гладзіла Антунінку па галаве адной, пасля другой рукой і гаварыла: — Не буду... Не буду... Што ж гэта я... Гэтулькі работы... Мы ж да заўтрашняга не справімся... Не ведаю, за што ўхапіцца... І праснак не лезе ў горла.— Яна памаўчала.— І з гэтымі во ваюю,— кіўнула яна галавой на Валодзю.— Як толькі ўскруціцца — на ферму

ў салому бяжыць. У кароўніках партызаны спалі... Дык у саломе гранаты, чорныя, кругленькія. Патронаў тых... Ён усё на двор валачэ, у хлеў. І дзяўчыну зводзіць з дому. Гэта ж трэба... Вярнуліся з лесу... Попел яшчэ гарачы... Я слязьмі залiваюся, а яму хоць бы што... І агледзецца не паспела, як выцягнуў дзяўчыну пад бацянова гняздо, пад сасну, у акопы... Пачула з двара, як машына загудзела. Гляджу, пыл ля ям... І машына такая маленькая, адкрытая, толькі шкло наперадзе, у вёску ляціць дарогай. Думаю — немцы... А дзяцей няма. Я — на вуліцу бягом. А ён сам наперадзе джгае, дзяўчыну адну кінуў — яна ззаду за ім ножкі свае падкідвае пасярод вуліцы на пяску... Бягуць дамоў з акопаў... Машына іх дагнала якраз у вуліцы ў платах... Сцішылася, коціцца памалу... Падымаецца на ёй ваенны, у нашай форме — фуражка на галаве, зорка блішчыць — зубы белыя паказвае і смяецца: «Эх вы, героі!..» А дзеці да мяне пад ногі... Вось які ён у мяне герой... Неслух... Пасля, за той машынай, і пайшлі нашы... Абоз, цэлыя суткі...Каб не абоз, дык бы нашых і не відзілі. Ідуць усё шашой на Вялейку... Валам валяць. Галіна Аляксандрава відзіла, дык расказвала. Прыйшла наплакаўшыся... Шчокі чырвоныя, кашляе... О-ха-ха...— яна памаўчала.— А цяпер...— узяла Валодзю пальцамі за вуха і адразу адпусціла.— У гародчыку на мяжы было закапана ў скрыначцы ўсё начынне... Сабрала малаткі, абцугі, цвікі, пілачку маленькую... Думаю, згарыць хата — цэлае астанецца, як душа чула. Знайшлі і гэта на мяжы, успаролі, параскідалі па траве. Усё нечага шукалі... Кажу цяпер яму: бяры малаток ды каламажку Тоні зрабі. Колы, вун, пад парканам, ад вясны ляжаць, не згарэлі. Вулыся... Дык — не туды тое... На ферму рвецца. Па акопах гойсае. Аж на ямы дайшоў. Адбіўся ад рук, асмялеў. Пры бацьку кажу: адпраўлю ўвосень у школу. Не хапае яшчэ паўгода, а адпраўлю. Хай лепш вучыцца, чымся па акопах нікаць. Галава хоць цэлая астанецца. Помачы ўсё адно ніякай... А з адной неяк спраўлюся, хоць і цябе не будзе...— яна зноў паглядзела на яго, Жаваранку, вялікімі вачыма, і ў яе навярнуліся слёзы.— Скарэй бы яно ўжо ўсё канчалася... Што я буду рабіць цяпер адна...

Яна паклала праснак на калодачку, на ручнік, і стала выціраць вочы.

Ад прэснай перапечкі было суха ў роце і хацелася піць. Жаваранка нагнуўся да калодачкі, каб узяць конаўку.

— Многа ты плачаш, Кланя... Калі што... Буду я жыў ці не буду...— ён пачуў раптам, што і яму цяжка гаварыць.— Буду жыў ці не буду — ідзі ў сельсавет... Ідзі і прасі. І не плач. Памогуць. Куды ты яшчэ пойдзеш. Не будзеш жа хадзіць усягды да Галіны Аляксандравай...— Устаўшы, ён піў з поўнай конаўкі. Вада была прэсная і халодная, як усягды ў студні, са сваім смакам, які ён пазнаў бы за тысячу вёрст ад дому. Устаўшы, ужо не сеў; хадзіў па праціўні, як дома па хаце ад стала да парога.— З голаду вам ужо не дадуць памерці. Да восені сабяруць усіх баб у калгас. Будуць і коні, і каровы. Не бядуй, што ў вёсцы ні аднаго хваста. Прыгоняць... Ідзі зноў на ферму. Да кароў... Я вот што думаю... Крануў печ — сыпецца гліна. Паўцагелка нават не выб'еш, не то каб што людскае. А з камення печка доўга не пастаіць... Ды і не складзеш...

Ён выйшаў з хлева і падышоў да асвера.

— Во тут во складзём. Проці дзвярэй. Гаршкі з хлева будуць відаць. На зямлі складу, якая выйдзе. Падпоркі пад стрэшку вун ляжаць, ля студні пад парканам. Яловыя, сухія, з лесу цягаць не трэба. Драніцы надзяром стрэшку накрыць. Пойдзем з Валодзем у лес і надзяром — пілу пацягае. Калодкі тры пойдзе. Надзяром і прынясём. Пазыч толькі ў Галіны Аляксандравай пілу з тапаром і нож. У яе, помню, быў... І вазьмі ў Александрыны форму — цэглу рабіць. Што так глядзіш? Пойдзем на ферму і да палудня выкінем з сотню. Больш не трэба. Такая пагода стаіць. Да вечара два разы паравернеш... Чорта высушыш... І не плач ты ўвесь час. Глядзіш на мяне, як усё роўна хаваеш... Не вярнуся з Плешчаніц — цэглу рабі. На ўсю печ. Соцень восем. Прыйду ўвосень... да восені, думаю, усё скончыцца — печ у хлеве пастаўлю. Нацягаем з лесу лат, застолім. Сцены тоўстыя, будзем зімаваць у цяпле, як у бога за пазухай. У чужыя вуглы не пойдзем. Памост вынесем, падлогу глінай выб'ем. Сцяну ад каровы пераімшу, глеем абмажам... Дзверы закідаем — зробім меншыя, як у хаце былі. Карове, калі паявіцца, прарэжам з гародчыка за хлеўчыкам. Акно адно згарусцім, ад двара, ад сонца... Нам бы прыляпіцца, як ластаўкам да матчыны. Прылепімся, а там хату зрубім. Ты толькі весялей глядзі на свет. Не ты адна. І Пячное, і Дзвінасу дымам пусцілі... Да хаты. Куды ні глянь на сягоняшні дзень — вецер у вочы попел гоніць. Як у нас з пажарышча... Добра, што вёска цэлая. Прыцісне — любы ў вуглы пусціць.

Так што — плакаць няма чаго. Складу вам печку, зраблю навес і сам пайду...

Кланя — як перамянілася: адразу замітусілася, здавалася, яго зусім не слухала. Падхапіла з памоста пасцілкі, выбегла на двор пад асвер і перакінула адну і другую цераз паркан. Вывела з хлева за рукі дзяцей на двор; паставіла калодачку на месца на памост, наверх вядро; страсанула ручнік, павесіла на зуб ад бараны на шуле, схаваўшы з вачэй, аўтамат, ухапіла на хаду на двары ля хлеўчыка дзяркач, падмяла праціўню — дзеці, вылазячы пад дзверы, насыпалі з ямы патрухі,— паставіла ў кут дзяркач, як у хаце ў качарэжнік; змахнула рукамі пот са ілчок, прычасала зверху на галаве валасы кавалачкам грэбеня, папраўіла хустку на плячах — збіралася ў вёску, як усягды.

Выйшла з хлева і пайшла па траве да варот — босымі нагамі па расе. За ёй пабеглі дзеці і спяшыў ён, Жаваранка: адчыняць...

Вуліцай яна пусцілася з подбегам, сцежкай, хапаючыся рукой за плот, і праз абгарэлыя вароты на яе з двара глядзелі дзеці.

## 6

Паднялося сонца — стаяла б якраз на рог хаты,— і ўсхадзіўся вецер. Падзьмуў з пасекі, з-за ям, удоўж дарогі, гонячы ў вуліцу і на гароды пыл: падымаў высака, уровень са стрэхамі на кароўніку, круціў, як снег у мяцеліцу, хаваючы з вачэй загуменне, выганчык проці спаленага маста за ракой і той канец вёскі.

Неба над вёскай зрабілася сівое, цьмянае — зацягнулася смугой; на ёй добра былі відаць ластаўкі: насіліся высака над стрэхамі, як апантаныя — што ўсё роўна цягалі за сабой ніткі: чорныя па белым. Жаваранка бачыў яшчэ ўгары, пад самай недзе смугой, бацяна: растапырыўшы крылле, ён ціха плыў па крузе над выганчыкам, налятаў на сонца і хаваўся з воч, як згараў у вялікім агні, тады паяўляўся над Пагуркам, паварочваючы на загуменне — зноў пачынаў свой вялікі і ціхі круг над гняздом.

Жаваранка стаяў, нагнуўшыся над сталом, на дзядзінцы ля фермы, і, перамешваючы рукамі гліну — гліна ляжала збоку на стале, выкінула з ямы на рыдлёўцы Кла-

ня,— напіхаў цвёрда драўляную форму, каб не трэскалася, сохнучы, цэгла. Вецер быў якраз у вочы, і ад пылу скрыпеў на зубах пясок; ад сухой і густой парпасці валіў з ілба пот; не было чым дыхаць, як у лазні на палку, і Жаваранка, перагінаючыся цераз форму, даставаў з вядра жменяй жоўтую ад гліны ваду і ліў на лоб і на шчокі... Чуў, як яна, халодная і ліпкая, цякла за каўнер на плэчы і пад рубашку на грудзі і як пад рукамі калышацца ў бакі стол: у цвёрдую зямлю цяжка лезлі калкі і Жаваранка забіў іх збольшага абухом — абыдзецца.

Стол зрабілі са старых дзвярэй ад свірна — з паадбіванымі і пашчапанымі дошкамі. Дзверы ляжалі далёка на дзядзінцы, і Жаваранка з Кланяй прыняслі іх удваіх да ямы і, падняўшы, паклалі на калкі. Палілі з вядра вадой, каб не ліпла гліна, і Кланя адразу апусцілася ў яму з рыдлёўкай. Яма была на дзядзінцы, недалёка ад студні, глыбокая, старая, зарослая на дне падарожнікам, лебядой і дзядамі.

З яе капалі перад вайной гліну на цэглу людзі з усёй Венеры — гліна была блізка, адразу пад жоўтым пяском,— дакопваліся да бліскучага, як усыпанага золатам, жвіру, абрывалі на дно берагі і пачыналі зноў браць яе зверху, падразаючы дзядзінец пад дарогу.

Гліну Кланя знайшла адразу, скапаўшы падарожнік і лебяду; карыта не было з чаго зрабіць — дзе возьмеш дошкі,— і Кланя мясіла гліну адразу ў яме. Ён насіў вядром ваду са студні (студня абмялела, вада ў ёй блішчала глыбака на дне, як падслепаватае вока, і не хапала вочапа, каб зачэрпнуць поўнае вядро: асвер клаўся на зруб) і ліў у яму пад ногі на парэзаную скрыллямі чырвоную вільготную гліну. Крычаў яшчэ здалёку ад студні, каб Кланя падкасвалася вышэй — залепіць спадніцу, не адмые — і каб сыпала, не забывалася, у гліну пяску, бо гліна тлустая, аж блішчыць пад рыдлёўкай, і будзе трэскацца цэгла. Кланя мясіла і мясіла без аддухі нагамі ў яме, падаткнуўшы спадніцу вышэй калень, як усё роўна ішла па балоце за Пагуркам з вязкай сена на плячах і ніяк не магла выйсці на сухое. Раскруцілася з куклы каса, матлялася па белых плячах — па нажутцы — з боку на бок; ля вуха быў відаць кавалачак грэбеня, як прыляпіўся. Ківаючыся, Кланя махала і махала рукамі, хапалася то за рыдлёўку, то за бераг, каб аперціся; паслізнуўшыся на гліне, прыпадала плячом да берага, згіналася, як пад цяжкай ношкай,— і яму здалося, што Кланя ніяк не можа вылезці

з ямы. Увалілася і не вылезе. Было чуваць, як яна цяжка дыхае і як у яе над нагамі чвякае і чвякае гліна.

— Сып пяску... Ад берага зверху зачэрпні рыдлёўкай і сып... Першыя пары патрэскаліся. Відаць здалёку. Такая суш... З ветрам... Шчокі гараць...

Кланя вылазіць з ямкі, якая служыць за карыта, на траву — ногі ў яе чырвоныя па калені, як у ботах,— чэрпае рыдлёўкай пясок, сыпле ў ямку, перамешвае і падае з рыдлёўкі гліну на стол, на самы рог. Стол кратаецца на калках, дрыжыць — чуваць, як спадыспаду бразгае аб дошкі драцяны кручок; гліна кладзецца яму, Жаваранку, над рукі, халодная, як лёд, ад вады са студні, дзьме ў вочы вецер, гоніць з зямлі пясок — ён ліпне да мокрых рук і застывае разам з глінай, аж сцягвае скуру.

Жаваранка абмывае ў вядры форму — мачае адзін канец, пасля другі, набівае гліну, зраўнівае шырокай трэскай, адшчэпленай ад палена, сцягвае форму з імпэтам са стала, пераварочвае адразу на руб і нясе па траве, сагнуўшыся, на зраўняную рыдлёўкай цвёрдую, пасыпаную жоўтым пяском — пасыпала Кланя — латочынку дзядзінцу. Ставіць форму рубам на зямлю, перакульвае, моцна, са стукам, і, падтрасаючы, падымае яе абедзвюма рукамі за ручкі і з аднаго і з другога боку. На зямлі — на пяску пасярод травы — застаюцца дзве сырыя, бліскучыя, мокрыя яшчэ зверху ад вады, цэгліны... Вецер прысыпае іх зверху пяском, як попелам. Цэглы ляжыць ужо шосты радок — пачалі выкідаць другую ямку.

Абышоўшы цэглу круга, Жаваранка нагінаецца, бярэ ў прыгоршчы пяску і разам з ветрам пачынае пасыпаць цэглу зверху: трэскаецца на вачах.

Пячэ сонца, аж смыліць, здаецца, галава; звіняць, як што рвучы, авадні, круцячыся зверху ля плячэй. Вёску заслала смуга, апала, што дым; пачысцела неба, каб дзе хмарка, белае ад сонца — на яго няма як глядзець. Хочацца піць, хоць ты бяжы зноў да студні, нагінай дрыўлянае старое вядро і, здзьмухваючы зверху патруху і машку, цадзі праз зубы халодную, як лёд, смярдзючую ад гнілі ваду.

Па ферме гуляе вецер, ганяючы дзверы ў пустым кароўніку. Яны бразгаюць з разгону аб сцяну — аж уздрыгваеш; ляпае недзе блізка адарваная шчапа, і скрыпіць на свірне страха — ключом па сцяне.

І гудзяць несціхана авадні...

Здаецца тады, што Кланя вылезе раптам з ямы, пой-

дзе парасчыняе ў кароўніках дзверы — у адным і ў другім, падапрэ іх вілкамі, каб не зачыняліся, стане сама ля ўвахода, возьме ўручча і будзе пераймаць скаціну...

Скаціну пусцілі дамоў на адранак — пусціў стары Багун з пасекі з-пад Пагурка. Каровы бягуць, ратуючыся ад зыку, як пазвярэлі... Бягуць у кароўнік ад самых ям, падняўшы ўгару пыл, як хмары; равуць, чапаючы адна адну рагамі... Убегшы ў кароўнік, не хочуць шукаць свайго месца, становяцца дзе папала і круцяць рагамі — не падысці, не падагнаць да ланцуга, не павязаць. У такую пару ён, Жаваранка, усягды памагаў Клані навязваць скаціну. Апчэпіць за шыю ў дзве рукі карову, каб стаяла, пакуль зашпіліш ланцуг, а яна дрыжыць уся, са скуры вон лезе і круціць рагамі — беражыся... Падчэпіць — канцы... Звініць ланцуг, і звіняць над галавой авадні, пякуць, як крапівай...

Навязаўшы кароў, Кланя ідзе і бярэ са свірна вёдры; прынёсшы іх у кароўнік на сваю палавіну, варочаецца яшчэ і памагае панасіць даяркам бітоны. Пасля прысядае ля каровы, зашчэмлівае між калень вядро і пачынае даіць. Спачатку памалу, то адной, то другой рукой — размінае вымя,— пасля адразу дзвюма, хутка, як зглядзець вачыма, раз за разам, нахіліўшы набок галаву, нібы слухаючы, як б'юць па дне па вядры цяжкія, што дождж, белыя палосы малака... Не чуе, як круціць галавой, стукаючы рагамі аб сцяну, карова, як махае хвастом, ганяючы аваднёў,— сячэ ёй па плячах, па шыі, па галаве...

Устаўшы, Кланя ідзе па кароўніку з двума вёдрамі ў руках за дзверы на дзядзінец, вылівае малако загадчыку ў малакамер, з малакамера праз цадзілку ў бітон і варочаецца назад: будзе так хадзіць раз за разам, пакуль не падоіць сваю палавіну, і ў руках у яе будуць калыхацца поўныя вёдры малака.

— ...Што прыціх? Дзяцей паглядзі...— чуе ён, як крычыць з ямы Кланя.

Ён спопаразку адхінаецца ад формы — з глінай у руках... На рагу стала ў вядры калышацца, пліхаючы на дошкі, белая ад гліны вада — як малако...

— Дзе той бандзіт, паглядзі...— вылезшы з ямкі на траву, Кланя зноў падае гліну на стол, рыдлёўку за рыдлёўкай.— У кароўнік пацягнуўся... І Тоню туды павёў... Гранаты ўсё шукае, каб рыбу пайсці на Пагурак глушыць... Знайшоў жа раз... Маленькую, чорненькую, усю парэзаную рубцамі ўдоўж і ўпоперак... Знайшоў тут, у ка-

роўніку ў саломе, і пад свіран, пад вугал, схаваў... Добра, што я згледзела... Вало-о-дзя! — яна пачала клікаць сама.— Марш назад...

З-за свірна выбегла Антунінка — з пальцам у роце: было відаць, як у яе сагнута рука ў лакці. За Антунінкай, задзіраючы ў траве высака ўгару цыбатыя ногі, скакаў Валодзя. Падбеглі да студні, да зруба, і паселі на зямлю ў густую траву.

— Гэта ж падумаць...— Кланя выграбла з ямкі гліну і стаяла, апёршыся на рыдлёўку, на ручку, змучылася за раніцу.— Бандзіт расце...— Яна гаварыла з такой радасцю ў голасе, што ў яе «бандзіт расце»,— аж яму, Жаваранку, стала цяплей на душы.— А помніш, як ён ад нас, ад усіх, біду адвёў?.. Я ўжо расказвала. Я ўсім расказваю...— Яна ўздыхнула і стала церці рукой аб руку, абціраючы сухую гліну.— Як успомню... І цяпер язык адымаецца... Слова не магу сказаць, як тады...— Яна памаўчала.— Едзе на двор воз з гарохаўем, а ззаду немцы ваяць. Я адразу да акна падскочыла, мусіць, каб згледзець — прыехаў ты ці цябе ўжо жывога няма. На ложак зусім забылася. Азірнулася на хату — немец ля парога стаіць, аўтамат чорны перак грудзей. Я гляджу, аслупянеўшы, на немца і на ложак, дзе зверху на пасцілцы ляжаць два твае дыскі ад аўтамата, адзін на адным. Ты як пакінуў, паехаўшы па гарох пад Рабы Калодзеж, дык Валодзя з імі і гуляў, як з цацкамі. Колькі гэта яму было?.. Немец, відаць, з парога іх не згледзеў — уціснуліся на ложку з пасцілкай у салому,— нешта гаворыць і рукой на вядро паказвае. Хачу падбегчы да печы, скарэй зняць з дроту вядро, а ног з месца не скрану. Гляджу, немец тады хоча ісці да мяне. А я стаю ля акна, якраз ля ложка ў галавах... Згледзеў Валодзя, што немец хоча да ложка ісці, як закрычыць... Ды так нема, што аж немец спужаўся, адступіўся назад да парога... І як толькі той зноў хоча пайсці — Валодзя ў крык... Гэты крык мяне і разануў, як нажом. Я адразу сарвалася з месца, падбегла ў парог... Немец паказвае, каб я зняла з дроту вядро і конаўку і няслa на двор... Выйшла на двор, стаю ля дрывотні, а галава круціцца-круціцца, вось паляту з ног... Пачула тады, як ты кашлянуў у хлеве. П'юць яны ля студні ваду, каб яна з іх кроўю палілася, а мяне блажыць... Ад страху... Думаю, як пойдуць у хату... Пайшлі з двара — я бягом у сенцы... Зашчапілася на кручок і стаю... Думаю: калі вернуцца — не адчыню... Забеглася ў хату — Валодзя

сядзіць, натапырыўшыся, на ложку, як шашок, і дыскі ля яго ляжаць збоку, як бляшаныя талеркі... Ухапіла я іх, прыціснула да грудзей, бегаю па хаце і не ведаю, куды сунуць,— розум адняло... Адшчапіла после дзверы ў сенцах, выскачыла па двор і ляту да цябе ў хлеў — думала, з хаты хоць вынесу, далей ад воч. Падбягаю да хлева, гляджу — ты стаіш, прыціснуўшыся плячамі да дзвярэй, белы як палатно... Як бегла, дык цябе і не згледзела... Э-э-э-ха...— уздыхнула яна і ўзяла ў рукі рыдлёўку.

Яма ў яе пад нагамі шырэла: яна скрыляла ў яе ад берагоў чырвоную ліпкую гліну на ўвесь штых старой рыдлёўкі, пасля зноў сіляла пясок і пасыпала гліну зверху, як хаваючы ад воч. Ён падаў, сагнуўшыся над ямай, з берага вядро з вадой, і яна выліла яе сабе пад ногі. Палезла ў халодную ваду, зморшчыўшыся і апіраючыся рукамі аб бераг, пакуль не ўзялася за ручку ад рыдлёўкі. І зноў пераступала з нагі на нагу, сагнуўшыся, як нясла цяжкую ношку; не пыталася, нават не падымала з ямы галавы, каб паглядзець: многа там трэба яшчэ гэтай цэглы ці не,— мясіла б гліну, не вылазячы з ямы дзень да вечара, каб толькі дзецям было дзе зварыць есці... Так яна рабіла ўсягды: валілася ад работы з ног — клалася спаць; ускруціўшыся чуць сьвяток, зноў бралася за ўчарашнюю работу, каб парабіць сваё, пакуль бегчы ў калгас па нараду.

І ніколі не жалілася.

Жаваранка чуў, як яна цяжка дыхала ў яме. Падымаючы рукі, выцірала пот і тады не пераступала з нагі на нагу — аддыхала на кароценькі міг.

Узяўшы вядро, ён схадзіў да студні па ваду... Зноў на зруб клаўся асвер, не даючы засіліць поўнае драўлянае вядро, прыкаванае наглуха да крука, давялося лезці два разы. Адагнаў пасля ад зруба да плота дзяцей; вярнуўшыся, зноў нагнуўся над формай.

— Ты на іх не крычы...— сказаў ён ёй у яму.— Што б ты рабіла без іх...

— Гэта я так... пры табе... Астаюся адна — маўчу... І яны слухаюцца... Заплачу — пасядуць напроці і глядзяць у вочы. Маўчаць. Усё чуюць... Мне тады так шкода іх робіцца, што я месца сабе не знаходжу...— Яна адвярнулася і заплакала; пасля падняла раптам у яме галаву, выцягнуўшы шыю,— глядзела некуды на гароды. Вецер гнаў ёй у вочы пясок, і яна закрывалася рукой.— Зірні на дарогу... хто ідзе...

З вуліцы ля самага іх гарода, ля плота, на ферму па дзядзінцы вяла з вёскі ездавая дарога. Цяпер яна ўся зарасла высокім падарожнікам, у якім быў відаць сівы ад пяску калёсны тор. Па ім і ступала босымі нагамі Галіна Аляксандрава, трымаючыся рукой за плот. На другой руцэ ў яе ляжаў не то вандзэлачак, не то закручапае ў полачкі груднoе дзіця — здалёку не было як разабраць. Ішла яна памалу: пройдзе-пройдзе — стане і стаіць, узяўшыся рукой за плот. Чуваць было здалёку, як яна кашляла — доўга, дзяркaта. Адкашляецца, выцерацца рукой, возьмецца за жэрдку і зноў ідзе, чуць перастаўляючы ногі. Падыходзіла да іх, усё яшчэ не могучы адкашляцца — вецер з пылам быў ёй якраз у вочы. На галаве ў яе не было хусткі, і здалёку ад сонца аж блішчалі светла-русыя, як пшанічная салома, валасы і алюмініевы вялікі грэбень ад вуха да вуха — у вайну ў вёсцы насілі алюмініевыя самаробныя грабяні. Яна была ў белай, расшпіленай зверху ля шыі нажутцы, у чорнай выліпялай спадніцы; босая — ногі ў пыле аж да калень. Падышла, стала на траве воддаль ад ямы і маўчала. Ківала толькі галавой — здаровалася ці дзівілася. Пасля Жаваранка ўбачыў, што яна ківаецца ад кашлю ўся: плечы, рукі і вандзэлачак на правай руцэ, прыціснуты да грудзей.

Жаваранка аж здумеўся: на руцэ ў яе ляжала маленькае белае, як з паперы, парася. Галіна, здавалася, і не трымала яго — яно само прыліпла да рукі і ляжала, як нежывое, толькі вочкі здалёку блішчалі і плюскалі: на людзей.

— Ну што ты стаіш, Галіна? — сказаў Жаваранка раптам весела — ці не ад парасяці весела стала...— А я думаў — ты дзіця на руках нясеш...

— Памагай бог...— сказала яна і закашлялася. Пра дзіця ці, можа, не пачула, ці ўжо забылася праз кашаль. Падышла, кашляючы, да ямы — бліжэй да Клані, села на калені на траву, пасля спусціла ногі ў яму; парася ўсё трымала на руцэ, прытуляючы да грудзей.— Спацела ўсё... Горача яму, беднаму... Такая духата, захлынешся... А тут я яшчэ яго грэю грудзьмі... Пот з яго верне... Носікам толькі і сапе, беднае...— яна зноў закашлялася.

Пра бога і ён як усё роўна не пачуў — нічога не адказаў, спытаўся толькі адразу:

— Дзе гэта ты яго цяпер узяла?

— Ай, сястра...— павярнулася яна да Клані, нібы гэта Кланя ў яе папыталася.— З Жараў нясу... Ад Кірычы-

хі...— яна памаўчала, дыхаючы з сябе. Чуваць было, як у яе хрыпіць у грудзях.— Кірычыха аж трое ў мяшку прынясла... Я і не пыталася, адкуль... А чым трое выхадзіш?.. Ім жа малако трэба, як дзіцяці... Яна мне і аддала трэцяе, самае меншае... У плямя́... Узяла я яго на рукі, а яно мне пад паху лычык тыц, тыц... І вішчыць ціхенька... Я яму матузком заднія ногі звязала... А яно і так ляжала б, нікуды б ад мяне не пабегла...— Яна чула, што яе схопіць зараз кашаль, і пачала гаварыць скарэй: — Думаеш, сястрыца, Кірычыха так бы мне і аддала яго?.. Радня яна мая далёкая... дзесятая вада... Кірык яе вярнуўся... Вот яна ад радасці і аддала... Сёння раніцай прыйшоў... Радасць яна невялікая ў бабы... На мыліцах вярнуўся, без нагі. Па калена нагі няма... Але ж галаву цэлую прынёс і рукі... Рукі ў яго залатыя... Эх ты, жысь...— Яна маўчала, душачы кашаль.— Кірычыха ад яго цяпер не адыходзіцца. Шчасце ў бабы... Толькі нашы прыйшлі — і мужык вярнуўся. Казалі, даўно ў яго нагу адарвала, дык ён услед за нашымі дамоў дабіраўся. Услед за фронтам... З нашымі і прыехаў аж да шашы, да Горна... Адтуль і прыджгаў... У ваенным... З твару чысты... малады, як і быў. Сядзіць за сталом, дык і не скажаш, што ў яго нагі няма...

Яна маўчала, душыла ўсё кашаль — у яе трасліся плечы — і гладзіла рукой парася: вадзіла зверху па спіне пальцамі. Твар у яе быў круглы, чысты і чырвоны — ад кашлю і ад хваробы. Вочы, блакітныя, як званочкі, глядзелі добра і ціха. І сама — спакойная, ціхая. Маладзей Клані. Гадоў ёй трыццаць, можа, з лішнім, Жаваранка не помніць. Калі, відаць, ёй стане цяжка — напірае кашаль,— заплюшчыць вочы, пакруціць галавой — каса толькі матляецца па плячах,— пасля зноў сядзіць, як нічога і не было: ціхая, чорствая.

— Варочаюцца ў людзей... І ў цябе, во, сястра, дамоў прыйшоў. Цэлы, здаровы... Як увідзіла я вас на ферме... бягом бегла... Яшчэ з выганчыка згледзела і пазнала. Падумала нават, што цэглу робіце...— Галіна глядзела сваімі сухімі блакітнымі вачыма недзе ў гароды за плот, дзе па бульбоўніку хадзілі дзеці — Валодзя з Антунінкай...— Варочаюцца ў людзей... А мой Грыша не прыйшоў. І ў лагеры яго няма... Я ўжо збегала... Чакаюць, можа, вернецца... З блакады і цяпер яшчэ прыходзяць... Можа, дзе раніла... Так во, сястра... У лагеры няма, і ў вёску не прыйшоў... І ў Жарах яго няма... А дзе я яго яшчэ шукаць

буду?.. Бегла, во, да тваго з парасём, чуць галаву не зламала... Яны ж разам... Разам жа...

Яна зноў сціхла: душыла і слёзы, і кашаль.

Жаваранка маўчаў. Напіхаў толькі гліну ў форму пальцамі, чуючы, як яны раптам парабіліся цвёрдыя, нібы падубелі; насіў і куляў форму на дзядзінец, на пясчаную латочыну; варочаўся, мыў, спяшаючыся, форму ў вядры і зноў чэрпаў цвёрдымі пальцамі гліну на стале... На Галіну не мог глядзець — не падымаў вачэй.

Горача было і так, а тут яшчэ хлынула гарачыня з сярэдзіны: не дыхнуць...

Выплылі раптам разведчыкі з брыгаднай разведкі і з імі Геніятулін... Усе тыя дванаццаць чалавек... Ляжаць у рад на зямлі перад вачыма...

Ён, яшчэ як згледзеў, што яна ідзе сюды ля плота, адразу пачаў спяшацца, сам не ведаючы чаму: нібыта хацеў скарэй скончыць работу і збегчы дамоў у хлеў... Каб ёй нічога не гаварыць...

Цяпер ён падумаў, што ёй нічога не скажа... Каб гэта яшчэ ў хаце, за сталом... І то — каб праз паўгода ці год... А адразу, во цяпер... Глядзіш на яе — і язык не паварочваецца. Хоць рэж... Скажацца яно некалі само... У атрадзе ёй не сказалі... Пашкадавалі нехта... Хаця ўсё адно скажуць... Трэба будзе расказаць Клані. А яна — як хоча... Бабе лягчэй гаварыць з бабай. Паплачуць разам, суцешаць адна адну...

— Чаго ты? Ве-ернецца...— Кланя мясіла і мясіла гліну, гледзячы пад ногі, каб не спатыкнуцца, і гаварыла, як сама сабе: — Людзі цяпер параскіданы па свеце. Перамяшаліся... Учора, вун, Альдзя вярнулася з-за Дзвінасы. А маці вочы праплакала... Пахавала была... А палічы, колькі яшчэ хат пустых... У тым канцы...

— Не вернецца ніхто ўжо і з таго канца... І мой не вернецца...

Кланя памаўчала, тады сказала ціха, зноў як сама сабе, Жаваранка добра не пачуў:

— А які ён твой? Убіла сабе ў галаву...

Галіна хацела нешта адразу сказаць і сціхла — чуваць было, як у яе з-пад ног пасыпаўся ў яму па траве пясок. Ухапілася ў дзве рукі за парася, нібыта яго ў яе хацелі адабраць.

— Я-то знаю, што мой...— сказала, аж крыкнула.

— Ну, сама падумай... Ну, які ён твой...— Кланя як усё роўна ўгаварвала Галіну.— Што ты яго шкадуеш...

Сябе пашкадуй... Ну, колькі ён у цябе пажыў... Ну, год... Ну, хай два... Ну, больш, калі аж па сённяшняе лічыць... Дзяцей у вас няма... Вяселля вы не спраўлялі... Колькі іх такіх за вайну ў вёсках жыло, гэтых пленных-ваенных... А можа, у яго жонка дзе? А можа, яна яго з дзяцьмі дамоў чакае? А ты — мой... мої... А можа, ён да цябе і сам не хоча варочацца? Можа, да сваіх паляцеў, як Кірык з Жараў? Тады жыў, бо свае былі там, далёка,— паказала яна з ямы рукой на Пагурак,— фронт трэба было пераходзіць, каб вярнуцца... А цяпер жа фронту няма.

— Я-то знаю...— зноў аж крыкнула яна.— Грыша мяне і бярог, і любіў... Калі не пабаяўся да мяне да такой прыстаць... Што — удоў мала ў вёсках было? Ці дзяўчат? А ён мяне выбраў, з-за печы выцягнуў. Я ўжо на ўсіх рукой махнула. Паміраць сабралася адна. За печ залезла. Што з таго, што ў мяне была каса...— Яна са злосцю перакінула яе з грудзей на плечы... І сама я была не брыдкая... Але ў мяне быў гэты сухі кашаль... Біў дзень і ноч... Еў ён мяне жывую... Ссохла, вун, была... Дзе ўжо там... Думала некалі, што Савэрка Тодараў... Так жа ўжо ён... Нікога да мяне з хлопцаў і блізка не падпускаў. А не жаніўся. І сам псеў, і я старэла... Кашлю майго збаяўся. А Грыша не пабаяўся. І кашляць я пры ім перастала была... думала ўжо, што і паздаравела... Бярог ён мяне. Ён жа за мяне ўсё рабіў. Я ж як у бога за пазухай была... Любіў ён мяне... Без яго хоць ты жывой у зямлю лезь...— Яна раптам падцягнула пад сябе ногі, ускочыла і стала на беразе ямы, дзержачы на руках ля грудзей парася.— Што ж гэта я гавару пра яго, як пра нябожчыка?..— Стаяла і глядзела цяпер на яго, Жаваранку.— Я яшчэ ў лагер пайду... За Дзвінасу пайду... Магілу знайду...— Яна зноў аж закрычала: — Калі ён да мяне не вярнуўся — жывога няма... Я-то знаю...

Яна прыціснула парася да грудзей, сагнулася і круцілася на адным месцы па траве: душыла кашаль і не змагла. Забухала глуха, як у бочку. Зачырванелася адразу ўся, густа, аж пасінела са шчок. Павярнулася да яго, Жаваранкі,— хавалася ад пылу і ветру — і закрылася рукой, растапырыўшы пальцы. Аціхла раптам, выпрасталася; шчокі ў яе пачалі адразу бялець; вочы парабіліся вялікія і пацямнелі. Яна выціралася даланёй, пасля ціха загаварыла, як апраўдвалася перад ім, Жаваранкам, гледзячы на выганчык, над якім ішлі самалёты.

— Зноў мяне кашаль пачаў біць. Перад блакадай. Як

немцы былі ў вёсцы, думала — кончуся. Закашляю, дык яны выганяюць з хаты і з двара. Стаю на каленях у наторжніку ў гародзе ля плота... Кашляю, пакуль кроў не пойдзе... Тады аціхну, дацягнуся ў хлеў... Ад таго ніяк во не праходзіць, хоць ты што... У лагер пайду... З табой пайду,— ківала яна галавой на яго, Жаваранку.— Мне не скажуць — дык табе скажуць... Няўжо яго ніхто не вісдзіў... Ён жа быў у атрадзе... Адступаў з вёскі разам з усімі — самы апошні. Я ж відзіла... З табой пайду...

Яна зноў душыла кашаль... Стаяла якраз на дарозе, і ён, несучы форму перад сабой, абышоў яе.

Вецер яшчэ горш шалеў: нарываў дождж, але неба круга было чыстае і сляпучае ад сонца. На захадзе, у канцы вёскі, грымела, не сціхаючы, глуха, як далёкі гром.

Закашляла Галіна, як і перш, і раптам блізка за вёскай, недзе ля маста, затрашчаў аўтамат... Ядрана... Ад яго за гэтыя дні адвыкла вуха, і праціўна было слухаць доўгі сухі трэск...

— Немцы на выганчыку! — закрычала Галіна, паказваючы рукой на гароды за вуліцай.

— Дзяцей глядзі... Кланя!.. За кароўнік бяжыце...— Кінуўшы на зямлю форму, Жаваранка пабег дарогай ля плота — бег у хлеў, дзе вісеў на шуле аўтамат.

Над выганчыкам узляцеў бацян — ад стрэлу; уцякаў на Пагурак — на балота.

У вуліцу вецер гнаў ад ям пыл, хмарай, і ўперадзе нічога не было відаць.

## 7

— Эй, Трофимыч! Кого ведешь?..

Салдаты крычалі ім адусюль: знізу, з логу, дзе ляжалі, парасправаўшыся да пояса, на роснай яшчэ траве; з жыта, хаваючыся ў ім з галавою; і зверху, з таго боку шашы, дзе мітусіліся, нагружаючы нелагчыны, ад самай шашы, дзе мітусіліся, нагружаючы нечым з зямлі вялікія салдацкія калёсы.

Трафімыч — высокі стары салдат, гадоў за пяцьдзесят, з бурым ад загару вастраватым тварам, з доўгімі, апушчанымі канцамі ўніз, светлымі, як салома, вусамі, са светла-блакітнымі, як выцвілы васілёк, вачыма, з добрым ціхім голасам — гаварыў, наварочваючы на «о»,— падобны нечым збольшага на старога Андрэя Багуна з вёскі — вёў яго, Алёшу, ззаду за сабой ад шашы ўніз на лог, дзе, відаць было здалёку, стаялі расцягнутыя выцвілыя белыя

палаткі і воддаль за імі гарэў, патухаючы, агонь — угару падымаўся ценькі слупок дыму.

У новых, яшчэ з бліскучымі халявамі, вялікіх кірзавых ботах; у выцвілай на плячах гімнасцёрцы, падпяразанай шырокім зялёным брызентавым рамянём — назад, на паясніцу, пазаганяны дробныя фалды, з чорнымі задоўгімі — спаўзалі з плячэй на рукавы — пагонамі, з аўтаматам — ППШ з дыскам — на плячы, прыкладам уверх, у вялікай — закрывае ўсю патыліцу — пілотцы, ён ішоў зусім не так, як хадзіў Ушакоў і як ходзяць ваенныя, а ступаў паволі, нагнуўшыся неяк уперад і цягнучы боты па траве,— так ідуць на лог касіць ці ходзяць у баразне ззаду за плугам, узяўшыся за ручкі і накінуўшы на шыю лейцы. Алёша ішоў за ім след у след, пераступаючы ля логу паломанае і здрабежанае жыта: падымаў высака ад зямлі цяжкія — з цвікамі і падковамі — вялікія нямецкія чаравікі; бачыў, як з іх змываецца ад расы на траве пыл і пясок, наліплы за доўгую ранішнюю дарогу з Венеры аж сюды, за Жары, да шашы пад Найдорф.

Раніцай маці ўстала яшчэ да ўсходу сонца: на гародзе не будзе пылу — раса. Падаткнуўшы высака спадніцу, выстаўляючы загарэлыя худыя лыткі; закруціўшы тугa ў куклу касу на галаве — каб не матлялася і не замінала; сцяўшы ў дзве рукі збітыя аб каменне і вышараваны да белага аб пясок капач, яна сагнулася ў гародзе пад раку ў тры пагібелі, і цюкала, і цюкала між гранак з бульбоўнікам капачом, выціраючы з ілба пот і адкідаючы пасля з-пад ног у кучу на мяжу асот і пырнік, які збуяў за гэты час, душачы бульбоўнік.

— З голаду памром, сын... І мы, і ўся вёска. Хто ж гэта справіцца — капачом. Ніводнага каня на ўсю вёску. А калі ён будзе... Хто яго дась... Гэта ж каб цяпер... А тады ў галаву не стукнула, калі абоз праз вёску ішоў. Падышла б я, баба, папрасіла... Хамутоў поўна вёска... Акучнікі на загуменні ля пунь валяюцца... Далі б каня, вот увідзіў бы... Абоз доўга ля маста стаяў, коней паілі... На такіх конях... за гадзіну ўсе гароды абагналі б...

Алёша стаяў на мяжы ля плота з аўтаматам на плячы — сабраўся адыходзіць у лагер, пераменьваўся з нагі на нагу, гледзячы, як у маці выступаюць на голых руках жылы, калі яна сціскае капач.

І на дарозе, калі ён стукаў падкаванымі цяжкімі нямецкімі чаравікамі па каменні, яму ўсё здавалася, што ў мацеры ў руках скрабе капач...

Яго адразу спынілі, ля першай палаткі: ён быў з аўтаматам на плячы, нёс, як цяпер Трафімыч, прыкладам уверх. І спыніў яго гэты самы Трафімыч, выцягнуўшыся смешна ў струнку ля палаткі.

— Подобрал игрушку — хорошо, что принес...— і выставіў уперад руку, каб узяць аўтамат. Глядзеў строга і суха блакітнымі вачыма — чакаў. Алёша пераступаў з нагі на нагу — таптаўся ля палаткі, і ў Трафімыча пачалі торгацца вусы. Ён ступіў да Алёшы з выцягнутай рукой.

Тады Алёша сказаў, што «ігрушку» ён не знайшоў, што яна яго, што ён з ёю «наіграўся па самае не хачу», як гаварыў Ушакоў, што яму трэба конь хаця б да вечара... Вечарам ён адгоніць яго. Адгоніць цэлага, нічога яму не прычыніўшы...

Трафімыч тады апусціў руку і свіснуў, доўга расцягнуўшы свіст. Вочы ў яго адразу загарэліся, зрабіліся вузенькія і бліскучыя, як у дзіцяці; тады перамяніліся — сталі хітрыя і калючыя... Вусы задзёрліся высака, пад самыя вочы. Бліснулі белыя густыя зубы — Трафімыч засмяяўся дробненькім смехам, нібыта яму раптам вун як стала весела, і палез у кішаню ў штаны па капшук. Дастаўшы, круціў яго ў руцэ, але курыць не браўся, нечага чакаў.

Алёша тады сказаў яму «ўсё», што можна было сказаць за якую мінуту, стоячы тут на лагу ў канцы жыта ля палаткі, чалавеку, якога зусім жа дагэтуль не ведаў і які адразу здаўся сваім — сваім яго рабілі чыстыя добрыя вочы і наша ваенная форма; сказаў, хто ён і адкуль і чаму носіць аўтамат; расказаў, як у маці ад капача адрываюцца рукі і што бабы, сабраўшыся канцом вёскі, хто вярнуўся з-за Дзвінасы з блакады, думаюць самі ўпрагацца ў акучнік...

Трафімыч неяк адразу пасуравеў з твару, вусы яго зноў абвіслі, ён, скоранька дастаўшы з капшука складзеную ў некалькі столак палоску газеты, скруціў цыгарку, запаліў ад машынкі і стаяў: глядзеў сабе пад ногі і рабіў зацяжкі адну за адной, выпускаючы дым у вусы — думаў, відаць, што чыніць. Агледзеўся, што стаіць на здрабежаным жыце, адышоўся, стаў на траву і глядзеў усё сабе пад ногі, на няскошаную, высокую, пераспелую дагэтуль сёлетнім сухім летам мятліцу і чырвоную, з вялікімі, па макаўцы, галоўкамі канюшыну, на якіх блішчала на сонцы дробненькімі кропелькамі раса. Думаў недзе пра сваю вёску, з якой пайшоў на фронт тры гады назад і ў

якой асталіся дома адны бабы; а можа, думаў пра тое, што бачыў за ўсе гэтыя гады, едучы з абозам услед за фронтам па зрытай і здрабежанай зямлі, якая курылася дымам, як летам ад туману...

Сказаўшы пачакаць, ён крутнуўся на адным месцы і схаваўся ў палатку — пайшоў, сагнуўшыся, як у хату з нізкімі дзвярыма. У палатцы торкаўся з мінуту ў брызент галавой, пасля выйшаў адтуль у пілотцы — дагэтуль ён быў без яе, бліпчалі толькі адрослыя пасля машынкі сівыя валасы — з аўтаматам на плячы. Загнаў адной рукой — другой трымаўся за брызентавы рамень аўтамата — збоку пад дзягай фалды за спіну і сказаў:

— Идем со мной...

Ён ішоў цяпер наперадзе логам і, мінаючы палаткі, абіваў ботамі на свежай траве расу — вёў ад шашы ўніз у лагчыну, пад самы Найдорф. Шаша, якая ішла з Плешчаніц на Вялейку, да Найдорфа не падыходзіла — рабіла круты паварот на Горна. Адгэтуль, з лагчыны, у Горне была відаць толькі старая царква — высокая худая вежа, чырвоная ад ранішняга сонца. За ёй, далёка на пагор'і, была зноў відаць шаша — ляжала шырокай паласой ужо за некалішняй, да 1939 года, граніцай, беручы яшчэ больш улева і хаваючыся з воч. Над ёй угары стаяў густы белы пыл, спаўзаючы паволі на сінюю паласу лесу — на Найдорф.

Найдорф — новая вёска ў іхнім баку. Стаяла яна далёка і ад Горна, і ад Жараў — у глухім кутку блізка ад Віліі. За Найдорфам на гары, дзе цяпер відаць старыя высокія ліпы, да 1939 года была пагранзастава — ад Польшчы. Найдорф паявіўся тут, калі яшчэ граніцы не было. Расказвалі, што яшчэ да той вайны, 1914 года, аселі тут у лесе немцы — нібыта іх было двое ці трое,— асталіся жыць, не захацеўшы варочацца дамоў у Германію, і пусцілі смалакурню. Немцаў пасля не стала, ніхто не ведаў, дзе дзеліся яны, але асталася ў лесе смалакурня і хаты — тры ці чатыры: Найдорф. Да вайны Найдорф разросся — белыя стрэхі былі відаць ужо аж з шашы; хімгасцы пабудавалі новую смалакурню, куды да вайны, Алёша помніць, кожны дзень усё лета і восень рабочыя вазілі праз Венеру на конях, нагрузіўшы высака калёсы, пашчапаныя карчы з пасек і з-пад Пагурка, і з-пад Пячнога, і аж з-пад Дзвінасы. Ад нагружаных вазоў цяжка храплі коні, з-пад колаў падымаўся пыл, і пахла густа і свежа дзёгцем і шпігінарам — на ўсю вёску. За калясь-

мі, чапляючыся за дышаль, беглі дзеці аж за мост на гару, пад Жары.

Над Найдорфам, над лесам, падымаўся рэдкі сіні дым, палосамі; чуваць было, як там ракочуць, бразгаючы, мусіць, гусеніцамі, танкі. Яны ішлі шашой нядаўна, занаўшы яе ад Горна да маста пад гарой як схапіць вачыма. Алёша глядзеў на іх стоячы ля жыта ў лагчыне. Танкі не пайшлі адразу на Вялейку, а павярнулі Горнам на Найдорф — над вуліцай доўга стаяў пыл. Чуваць цяпер, як яны равуць з натугай і бразгаюць жалезам.

Шашой ішлі машыны; гулі цяжка, валюхаючыся з боку на бок на глыбокіх калдобінах. За крытымі брызентам кузавамі падскаквалі зялёныя гарматы з доўгімі тонкімі ствaламі. Там, дзе на кузавах не было брызенту, відаць былі салдаты: зялёныя гімнасцёркі, пілоткі і стрыжаныя круглыя галовы. Над шашой ад пылу павісла густая смуга, сівая ад сонца, як туман. Машыны хаваліся ў Горне, пасля зноў паказваліся далёка на пагор'і ў пыле. Калі Алёша глядзеў на іх, у душы прачыналася трывога, якая не давала спакою каторы ўжо дзень. Хацелася пайсці шашой туды, за Горна, дзе за былой пагранзаставай растае ў тумане лес, за якім хаваюцца з вачэй машыны і грукае не сціхаючы... Ісці, б'ючы цяжкія падкаваныя нямецкія чаравікі аб каменне, з аўтаматам на плячы ўслед машынам дзень да вечара, пакуль якая не стане, абагнаўшы яго, і з кабіны не высунецца галава без пілоткі, з рассыпанымі на рад светлымі валасамі і пакажа белыя зубы:

— Полезай... Место найдется...

Схаваецца пасля ў кабінцы бліскучы жоўты пагон з зорачкамі, схінуцца з вачэй светлыя валасы, бразнуць дзверцы, што крышка люка над танкам, які станавіўся ў Пячным, калі нашы рваліся на Маладэчна...

Яны ўсё ішлі з Трафімычам у канец логу, мінаючы палаткі і пастаўленыя ў шарэнгу аглоблямі да шашы цяжкія ваенныя, пафарбаваныя ў зялёнае, калёсы з высокімі, па грудзі, заднімі коламі, на якіх, на вышараваных аб пясок белых шынах, скакала сонца, не даючы глядзець. Калёсы былі нечым цяжкім высака нагружаны і закрыты новым зялёным брызентам. Воддаль калёс на распушчаных лейцах пасліся навязаныя коні, ля кожных па двое; скублі, хрумскаючы, з-пад ног траву, бразгалі цуглямі, круцілі галовамі, форскаючы — ратавалі сябе ад мух і ранніх сляпнёў. Калёсам, здавалася, не было канца — яны хаваліся ў лагу за жытам.

Іржалі коні; рагаталі на ўсё горла па лагу, бліжэй да жыта, салдаты, параздзяваныя да пояса, лілі з кацялкоў адзін аднаму на рукі ваду, махалі белымі, як снег, ручнікамі; трашчаў блізка збоку агонь у кухні — зялёным вялікім катле; бразгала недзе ля агню — усё адно як вёдры дома ля студні, і за гэтай раніншяй вясёлай гаманой у лесе ля Найдорфа адзываліся танкі.

Алёша стараўся ўслед за Трафімычам нерастунаць разасланы на зямлі брызент; мінаў кацялкі, якія, адкрытыя, стаялі кучкамі на траве і з якіх ішла пара; надымаў высака ногі, каб пераджаргнуць катушкі з тэлефоннымі правадамі, што ляжалі ля калёс: баяўся, каб не ступіць на правады — чырвоны і сіні,— якія цягнуліся недзе ад шашы логам у бок Найдорфа — ляжалі блізка адзін ля аднаго... Чапляўся нагамі за параскіданыя стальныя шчыты, афарбаваныя ў зялёнае, прывязаныя брызентавымі раменьчыкамі, меншы да большага,— такімі шчытамі, паклаўшы на плячо — зачапіўшы, як крукам,— закрывалі грудзі; лавіў усё вачыма і стараўся не астацца ад Трафімыча, які ішоў па траве, збіваючы ботамі галоўкі з канюшыны — спяшаўся. Трафімыч павярнуў да самай апошняй палаткі, якая стаяла ля высокага, нестаптанага жыта, і чым бліжэй падыходзіў да яе, тым больш спяшаўся. Палатка была белая, выцвіла; падышоўшы да яе, Трафімыч махнуў яму, Алёшу, рукой: «Обожди здесь...» — закінуў вышэй на плячо аўтамат, паправіў пілотку — сціснуў зверху пальцамі; спачатку кашлянуў, моцна, у кулак, пасля сказаў: «Разрешите, товарищ лейтенант»,— пачакаў яшчэ і, сагнуўшыся, схаваўся ў палатку.

У палатцы, чуваць было, гаварылі; пасля з яе выйшаў Трафімыч і з ім зусім яшчэ маладая дзяўчына ў новым ваенным кіцелі, у сіняй па калена спадніцы і ў бліскучых хромавых ботах, туга падпяразаная шырокім карычневым рамянём. На плячах у яе былі жоўтыя пагоны з чорнымі кантамі і дзвюма зорачкамі. Выйшла яна з палаткі лёгка і ступала мякка — не было нават чуваць; папраўіла пад пілоткай густыя чорныя валасы, якія былі коратка падстрыжаны і не закрывалі шыю, і, стаўшы раптам недалёка ад палаткі, утаропілася ў яго, Алёшу, вачыма. Вочы ў яе былі цёмныя і прыгожыя — такіх ён ніколі не бачыў — глядзелі на яго неяк добра і весела, і ён засаромеўся. Пачуў, як зрабілася горача, і ён стаў глядзець уніз, у зямлю. Бачыў свой зашмальцаваны на грудзях картовы ў палоску пінжак — зашмальцаваў, носячы

сперад у аўтамат,— і мокрыя, задзёртыя ўгару наскі вялікіх нямецкіх чаравік, на якія паналіпаў круглы ліст дзяцельніцы.

— Вот они какие...— сказала яна мяккім і густым голасам, і ён падняў на яе вочы. Убачыў, што яна ўсміхаецца, зусім жа як усміхаюцца дома ў вёсцы дзяўчаты, і ў яе трапечацца ля шыі пасма валасоў. Пачуў, што яму раптам стала холадна ў плечы: з шашы падзьмуў на лог густы вецер.— Через десять минут снимаемся, Трофимыч...— сказала і кіўнула галавой, паказваючы на лог пад Найдорф.

Ля іх прабеглі, казыраючы на бягу, два салдаты з катушкамі тэлефоннага кабелю пры боку — падаліся логам на горку да шашы.

Трафімыч махнуў яму, Алёшу, рукой і зноў павёў за сабой. Падвёў ззаду за палаткай да самага жыта, дзе ля калёс быў прывязаны на брызентавых новых лейцах невысокі кругленькі мышасты конь з доўгай чорнай грывай, з-пад якой бліщчала злоснае цёмнае вока. На шыі замест хамута і на спіне замест падсядзёлка і набератак у яго ляжалі шырокія раменныя шлеі.

— Сибиряк... выносливый...— сказаў Трафімыч. Адвязаў ад калёс лейчыну, падаў яму, Алёшу.— Отдашь его потом в колхоз...— Падумаўшы, дабавіў: — Шея у него немножко... Заживет...

З лагчыны ад шашы падзьмуў вецер, і адтуль ядрана данеслася: «Сниматься!»

— Сниматься!..— закрычалі ля калёс, ля палатак, ля кухні...

Пасля крычалі на розныя галасы па ўсім лагу.

Трафімыч паглядзеў неяк доўга на Алёшу, махнуў пасля рукой з-за вуха — відаць, гэтае «сниматься» збіла яго з тропу — і пабег логам назад, адкуль яны прыйшлі — да сваёй палаткі. Наўкола забегалі салдаты, падводзячы коней да калёс, да дышляў — запрагаць; адразу зніклі з вачэй палаткі — ляжаў толькі пляйстрамі на траве белы вышвілы брызент, як разасланыя пасцілкі: яго скручвалі, седзячы на каленях, салдаты. Прабеглі тэлефаністкі — тры дзяўчыны ў пілотках, з тэлефоннымі апаратамі на грудзях — апараты былі ў драўляных зялёных скрыначках — і з бліскучымі металічнымі пруткамі ў руках. Двое салдат запраглі ля яго, Алёшы, парку коней у калёсы, накрытыя зверху брызентам, і адразу адагналі іх у бок да дарогі, куды пасля пад'язджалі астатнія падводы... Доўга

яшчэ былі чувацъ каманды, гоман і ляскат калёс на лагу па калдобінах, пакуль абоз не выраўняўся ў шнур і не стаў падымацца на гару — на шашу.

Сонца было ўжо высака над Горнам: усхадзіўся вецер, гонячы з шашы ў лагчыну пыл.

Алёша ўсё яшчэ стаяў на лагу, трымаючы Сібірака за аброць, і глядзеў, як расцягваецца па гары абоз, паварочваючы на Горна. Лог быў пусты і ціхі; ля ног на памятай траве ляжалі акуркі ад цыгарэт, лёзы ад брытвы, загорнутыя ў сінюю паперу, ленты з нямецкімі патронамі і зялёныя, выгнутыя — якраз на грудзі — шчыткі: цэлая куча.

На шашы, на калдобінах, ляскаталі калёсы. З-пад сонца на Горна — на захад — ішлі самалёты, і ў Найдорфе суха бразгалі жалезам танкі...

Акучнік быў без драўляных ручак — тырчалі толькі вострыя кантаватыя канцы з прыкляпанымі наглуха ржавымі гайкамі, з тупым, збітым і падагнутым уверх нарогам — ніяк не лез між гранак у сухую, як цэгла, сцятую пырнікам зямлю, і Алёша адразу набіў на далонях мазалі. Далоні спачатку пачырванелі, як абвараныя, пасля на іх пасярод — на адной і на другой — ускочылі цёмныя вадыры.

Ён ступаў за акучнікам у вузкую баразну вялікімі нямецкімі чаравікамі — не месцячыся ў ёй, спатыкаўся і падаў на зямлю ў бульбоўнік, тузаючы акучнік за ручкі. Сібірак тады станавіўся і стаяў, страсаючы галавой — рассыпалася грыва — і секучы сябе шорсткім хвастом па каленях — бараніўся ад аваднёў. Маці — яна вадзіла за аброць Сібірака між гранак — адварочвалася, глядзела на яго, Алёшу, трывожнымі вачыма, папраўляла пальцамі скоранька валасы пад хусткай і тузала Сібірака за аброць. Яна — як усё роўна куды рвалася, калі Алёша прывёў на вуліцу да студні Сібірака. Сама адвяла каня ў аселічку да ракі, навязала ў белай дзяцельніцы, папыталася, ці напаіў, едучы цераз рэчку: гарачынёй коні хочуць піць пасля дарогі; дастала з шафарні ў сенцах лейцы: на пастронкі; сама пабегла на загуменне да Платонавай пуні: ведала, дзе «валяецца» акучнік, ён, Алёша, яго не знойдзе; несла акучнік на плячы, ухапіўшыся за дышаль і выціраючыся сагнутымі ў лакцях рукамі ад поту. Крычала здалёку, каб адчыняў вароты ў гарод пад раку, і, прынёс-

шы акучнік, скінула яго з пляча на мяжу — на траву. Пабегла прывяла з дзяцельніцы Сібірака і, пакуль Алёша прынёс з дрывотні з-пад варыўні стары ворчык — ад стальвагі,— прывязвала, не ўмеючы і не ведаючы, дзе прывязаць, у Сібірака за шырокую шляю ля шыі спачатку свае лейцы, склаўшы ў дзве столкі, пасля брызентавыя, новыя, якія былі ля аброці. Сама накінула на ворчык петлі, адцягнула назад акучнік, напяўшы пастронкі, каб паглядзець, ці роўна запрагла, бо акучнік будзе падрываць келіўе ў гранцы, тады толькі падышла і ўзяла Сібірака за аброць. І ўсё з подбегам. Натапыраная; у вачах — трывога; ударыць Сібірак капытом па зямлі — аж уздрыгне; то расшпіліць, то зноў зашпіліць на ўсе гузікі шэрую нажутку і азіраецца на выганчык пад сонца, дзе ідуць самалёты, як чаго чакае без аддухі.

Яны прайшлі ўжо да рэчкі і назад, пачаўшы з сярэдзіны гарода, са склада, і цяпер зноў варочаліся да ракі. Сібірак ішоў роўна і лёгка, адразу прывык да баразны: махаў толькі і махаў галавой пад сябе — ад аваднёў, тузаючы маці за руку; шапацеў па бульбоўніку і па высокім асоце ворчык, стукала каменне адно аб адно, скочваючыся з гранкі назад у баразну, і фыркалі з-пад ног чорныя бліскучыя шпакі — зляцеліся адразу на свежую раллю з усёй вёскі. Над выганчыкам высака ўжо стаяла сонца, прыпякала, парачы, як на дождж; падараная лебяда з шырокім лісцем на высокіх, у калена, дудках клалася ў баразну, бялеючы на вачах і скручваючы лісце, як на скавародзе; чорная ралля ля вуліцы адразу бялела — падсыхала. Звінелі над галавой, не сціхаючы, аваднi: лезлі ў вочы, аблеплівалі Сібірака — спіну і клубы, садзіліся на шыю, і тады маці, выламаўшы ля плота канаторжнік, сцёбала і сцёбала каню па шыі. Пасля не выцерпела — пабегла ў хату і вынесла, зняўшы з ложка, палатняную пасцілку ў жоўтыя палосы, новую, вытканую летась. Алёша падняў на спіне шлеі, і яна накрыла Сібірака... Вяла тады яго за аброць і азіралася назад — баялася, каб пасцілка не выехала з-пад шлей і не ўпала пад ногі, і ўсё сцёбала без аддухі Сібіраку па шыі.

Звінелі авадні; над гародамі, над вуліцай і за ракой над выганчыкам вісела смуга; ад ракі патыхала парнай сырасцю — так пахне на дарозе пасля дажджу, высыхаючы, лужа; ад каня несла гаркаватым потам, вун калі яшчэ знаёмым, як быў зусім малы і бегаў на ферму, дзе мужчыны запрагалі коней у плугі, і здавалася, што няма ні-

якай вайны, што і аўтамат не вісіць на плоце, высака, уровень з верхняй жэрдкай, і што ён, Алёша, акучвае на загуменні бульбу разам з усімі дзяцьмі з вёскі. Брыгадзір напісаў ім тады нарад — першы раз у жыцці,— і яны грумадой пайшлі на ферму, дзе ім з кладовай выдавалі хамуты з пастронкамі і лейцы. Акучнікі стаялі ля кузні ў шарэнгу, і яны, павыводзіўшы з канюшні коней і панадзяваўшы на шыі хамуты — надзявалі, стоячы на калёсах, з зямлі яшчэ ніхто з іх не мог дастаць,— беглі да кузні навыперадкі запрагацца, цягнучы коней за павады. Было якраз такой парой, днём пякло сонца і семклі авадні, і ў нарадзе было напісана «акучваць бульбу на загуменні адранкам». Яны прыйшлі тады на ферму да ўсходу сонца — яшчэ даілі кароў; ляскалі зубамі ад холаду, памачыўшы ногі ў расу; садзіліся конна і ехалі на цёплых спінах, як на печы, на загуменне. Загуменне ўсё было засеяна бульбай, ад фермы аж у той канец вёскі. Яны станавіліся ад дарогі адзін за адным у рад і гналі барозны, падскакваючы за акучнікам, у лагчыну да самага лесу. Ішлі туды і назад раз, другі, трэці... Калі падымалася сонца і звінелі авадні, ён ужо не мог завярнуць каня лейцамі ў баразну і закінуць акучнік — цягнуў яго па зямлі: змораныя рукі абвялі, парабіліся як плёткі. У вачах разам з акучнікам падскаквала ўгару ўсё загуменне: ферма, бульбоўнік, лаза ля дарогі і лес у самым канцы бульбянішча. Ён запомніў яшчэ, як хавалася з вачэй вёска. Пад лесам была лагчына, і калі яны спускаліся ўніз, хавалася вёска. Ідучы за акучнікам на гару, ён кожны раз бачыў вёску як усё роўна нанава: спачатку новыя стрэхі на ферме і на пунях, што стаялі ля дарогі на загуменні, пасля памалу падымаліся, нібы раслі з зямлі, хаты за гародамі, тады відаць была вуліца, мост і дарога ў Жары. З загумення здавалася, што дарога вун як блізка. І ўвесь свет, здавалася, блізка: далёкае зялёнае поле за балотам і на ім маяк, высокі, у сівой смузе, як у тумане. На яго доўга хацелася глядзець. Пасля зноў усё хавалася з вачэй: спачатку маяк, тады поле і дарога на Жары; пасля вёска з хатамі, пунямі і фермай. Колькі разоў за адранак ён губляў з вачэй маяк і вёску і відзеў іх нанава, пакуль коні, апанаваныя аваднямі, не беглі самі, як шалёныя, па загуменні ў канюшню, цягнучы за сабой акучнікі па дарозе і падымаючы ўгару пыл роўна з пунямі...

...На вуліцы за плячыма, загаварылі, нехта падышоў да плота, згледзеўшы каня,— Алёша не пазнаў хто.

На акучнік, на крылле, якое хліпала ў баразне, як на спіне ў матылька, наліпала ралля і чапляўся без аддухі пырнік — белымі доўгімі жыламі; акучнік падскакваў і падскакваў угару, сунучыся па цвёрдай зямлі, на палазку,— трэба было адсаджваць назад каня і, расцягнуўшыся над баразной, упірацца пад ручкі грудзьмі. Па шыі за каўнер цёк пот, чуваць было, як ён льецца з-пад кепкі на шчокі — цурком; солана зрабілася ў роце, і забалелі ад натугі глыбака вочы...

Конь пайшоў раптам цішэй і стаў. Падняўшы галаву, Алёша ўбачыў, як маці адскочыла ў баразне назад і ўпёрлася плячыма каню ў храпы, растапырыўшы рукі, нібы хавала і каня, і яго, Алёшу... Ціснулася і ціснулася да каня і маўчала, як нямая. Заржаў конь... Пасля маці сконька паказала рукой на выганчык, як сунула яе ў агонь:

— Немцы... Бяжы, сын...

Алёша ўбачыў немцаў адразу — на выганчыку, высака на гары. Яны высыпалі з балота, адкуль — ён раптам успомніў — ішлі некалі трое салдат, калі адступалі нашы. Сямёра — ён адразу схапіў вачыма... Адзін за адным, як ваўкі на пашу, немцы, не ведаючы дарогі, а можа, баючыся паказвацца на ёй, беглі нацянькі прама ў вёску — якраз проці іхняга гарода. У пярэдняга ў апушчанай руцэ нізка, ля самага калена, быў відаць карабін.

— Бяжы, сын! — аж закрычала маці.

Скочыўшы да плота і схапіўшы аўтамат, ён пабег мяжой да ракі, спатыкаючыся ў густой траве. Нічога не помніў; у вачах стаяла толькі, як маці хавае за сабой і каня, і яго, Алёшу... Падбегшы да плота ў аселіцы, ён даў па выганчыку, па немцах, доўгую чаргу...

Убачыў, як яны адразу згрудзіліся ў кучу — адзін да аднаго — і паднялі рукі. Пярэдні кінуў на зямлю — далёка ад сябе — карабін...

## 8

Жаваранка ніяк не мог сарваць з крука ў шуле — зуба ад бараны — аўтамат. Аўтамат быў закрыты белым шырокім ручніком, які павесіла раніцай Кланя; ручнік закруціўся за рамень, абвіў, як пута, і Жаваранка адразу нічога не мог зрабіць. Падскочыў пасля, узяўшы аўтамат у руку, угару і сарваў яго з зуба ад бараны. Ручнік упаў пад ногі, расцягнуўшыся на памосце... Крутнуўшыся да

дзвярэй, Жаваранка зачапіў нагой за калодачку і абярнуў гаршчок з вадой на праціўпю. Бег у дзверы і бачыў, як уперадзе яго пацякла на двор вада і ў праёміну над самай галавой выскачылі ластаўкі: пішчалі прарэзліва і білі крыллем, як невядома чым спужаныя.

Больш не стралялі, і Жаваранка, выбегшы з хлева на двор, спыніўся, каб агледзецца. Вецер налятаў з-за вуліцы, з фермы — ад яго трашчала абгарэлае чорнае суччa на тофелі,— ускручваў ля печы на пажарышчы жоўты попел, падымаў слупам і гнаў на гароды да ракі. За ім услед ляцела жоўтае лісце з тофеля. На гародах стаяў пыл, і за ім на выганчыку, ля самага ўжо маста, Жаваранка зноў убачыў немцаў; толькі яны не беглі ўжо на аселіцы ў вёску, а ішлі кучкай, падняўшы высака ўгару рукі. Ён не адразу пазнаў, хто іх вядзе сюды, у вёску: ззаду за імі то хаваўся з вачэй, то зноў паказваўся, забягаючы збоку, нехта малы, як усё роўна Алёша. Тады Жаваранка, шчоўкнуўшы затворам — адвёў назад,— узяў аўтамат у правую руку каля самага курка, як браў яго ўсягды, калі пачыналіся неператіўкі, каб можна было адразу страляць: аўтамат ён лёгка падымаў рукой угару і нават мецiўся — яна не дрыжала. Выскачыўшы за вароты, ён пабег у вуліцу — да маста насустрач немцам — па глыбокім пяску, якога пананосіла сюды вадой у паводку нават на сцежкі да плота. Ля Платонавай студні на паварoце ўбачыў ужо, як немцы спускаліся ў раку — мост ля вёскі быў спалены: спалілі, адступаючы, кутузаўцы з брыгаднай разведкі Сашына. Мост некалі ляжаў высака над ракой, і цяпер над ёй зеўрала светлая праёміна, у якой тырчалі — было відаць здалёку — абгарэлыя зверху чорныя палі. Ля маста рака была шырокая і мелкая, і па каменні можна было перайсці, не намачыўшы ног.

Немцы, сышоўшы ў раку, хаваліся за абрывам — ківаліся толькі ля абгарэлых паль іх галовы, як зялёныя вялікія макаўкі за плотам у гародзе, і паднятыя рукі — як голыя дудкі. На тым беразе, на жоўтым пяску, астаўся той, хто іх вёў, і Жаваранка аж злякнуўся: Алёша. Гэта быў ён: цяпер яго ўжо можна было і пазнаць — задзёрта ўгару кепка на галаве, у руках аўтамат, выстаўлены ад сябе далёка ўперад, каб быць напагатове.

«Адкуль ён? Астаўся ж у атрадзе...— падумаў першнаперш Жаваранка.— Аж семярых вядзе...»

Убачыўшы яго, Жаваранку, толькі цяпер, калі ён выбег з вуліцы, з платоў, да маста, Алёша, стоячы на тым

беразе, падняў угару аўтамат, як усё роўна хацеў стрэліць над галовамі ў немцаў, пасля апусціў яго, памахаў здалёку рукой, паказаў зубы і закрычаў:

— У лагер ганю!.. Маць іх барабан...— вылаяўся, як лаяўся пад гарачую руку Ушакоў.

Немцы згледзелі яго, Жаваранку, калі былі ў рацэ,— пазадзіралі, пастаўшы, галовы ўгару, убачыўшы яшчэ аднаго чалавека з аўтаматам, вымазанага ў гліну... Стаялі доўга ў вадзе — вада, булькаючы па каменні на цвёрдым дне, адмывала ім ад гразі боты і цякла далей, пад абгарэлыя зверху палі, рудая ад торфу з балота.

Ззаду з берага ім крыкнуў Алёша, і яны, падняўшы высака рукі, смела пайшлі з вады адзін за адным на зарослы густым падарожнікам бераг, пакідаючы на ім мокрыя сляды ад ботаў.

Пярэдні, самы высокі, паджары, з усохлымі шчокамі, з аўсянымі валасамі — пілотка з'ехала на патыліцу,— ішоў, слізгаючы нагамі па траве, прама да яго, Жаваранкі. Хацеў нешта здалёку сказаць: утаропіўшыся вачыма, лыпаў і лыпаў павечкамі, нават ротам зашамкаў, але маўчаў. Заківаў толькі галавой. Вочы ў яго заблішчалі ў стоенай надзеі жыць; здалося, пасвятлела на шчоках густое рабаціннe... Ён спадзяваўся цяпер на Жаваранку; Алёшу, відаць было, не верыў: Алёша страляў і, каб, мусіць, ведаў, што па ім страляе з вёскі з-за плота хлапец,— ніколі б не падняў рук. Параўняўшыся з Жаваранкам, ён тарканууўся на месцы, але не стаў — пайшоў адразу напярад у вёску, ступаючы ботамі з кароткімі мокрымі халявамі пасярод дарогі — на халявы адразу наліп пясок.

Другі немец быў стары, намнога старэй за яго, Жаваранку. Шырокі ў плячах, прыгорблены, з круглым, цёмным ад загару тварам; пілотка ў яго распаўзлася на ўсю галаву, па самыя вушы, і хавала сівыя на скронях валасы; кіцель зверху ў яго быў расшпілены, і з-пад яго бялелі забінтаваныя грудзі.

Трэці ішоў збоку ў старога. Зусім быў малады, як Алёша, і худы — худзейшы за пярэдняга паджарага. Ценкая шыя ў яго выглядала з кіцеля, усё роўна як у курчаці з яйка, калі курчо прадзяўбе скарлупку. Ішоў, ціснучыся да старога, нібы хацеў учапіцца яму за крыло кіцеля. З расшпіленай кішэнькі на грудзях, ля белага алюмініевага гузіка, у яго тырчалі асцём уверх пажаўцелыя жытвія каласы.

Чацвёрты быў без пілоткі і зусім лысы. Чырвоны твар,

прамы, загнуты чуць уніз нос; бурая ад загару скура на лысіне; чорныя валасы, пасмачкамі, ля вушэй і на грудзях пад расшпіленым кіцелем...

Двое немцаў былі падобныя адзін на аднаго, як браты: ценкія, цыбатыя, у акулярах. Блiскалі толькі шклом ад акуляраў на сонцы — варочалі без аддухі галовамі: то на Жаваранку, то назад, на Алёшу. Абодва пахлі потам.

Апошні ішоў, задзёршы ўгару і рукі, і галаву... Невысокі, роўны з ім, Жаваранкам, у цесным, аж раздавалася ў бакі крылле, падпяразаным туга новым кіцелі, зашпілены на ўсе гузікі — падціснуў сам сабе шыю; на старым, сцёртым цёмным рамяні з левага боку хліпала скураным вечкам расшпіленая парожняя кабура ад пісталета. Вочы ў яго былі чырвоныя і чорствыя; блішчалі суха, са злосцю; вусны падцяты — аж скрывіўся набок няголены, з цёмнай рэдкай — палосамі — шчэццю твар. Падымаўся на гару, цвёрда ступаючы па ўбітай калясьмі дарозе. На Жаваранку не глядзеў, але Жаваранка запомніў, што ён да яго прыгледзеўся раней, яшчэ з ракі — адразу, калі Жаваранка падбег да маста. Змераў вачыма, пераве́ўшы з галавы да ног, і схмурэў. Пасля аж шчокі ў яго захадзілі — заскрыпеў зубамі.

Усе яны былі ў адной форме — радавыя; і ўсе ўкачаныя ў гразь — у руду на балоце — з ног да галавы: паўзлі недзе. Гразь падсыхала на сонцы — з плячэй у немцаў ішла пара,— адставала ад адзежы палосамі, адтапырваючыся, як сухая кара ад дрэва, і падала ім пад ногі бурымі друзалкамі на чыстую ля маста, падмеценую ветрам ад пяску, цвёрдую шэрую дарогу. І пагоны ў іх на плячах, высыхаючы, карабаціліся ад гразі, задзіраліся ўгару з краёў — адставалі, як струпы ад цела.

Жаваранка ўбачыў, як і ў яго на руках адстае сухая гліна...

Алёша перабег ззаду за немцамі раку па каменні, якое тырчала з вады каля самых абгарэлых паль — цокаў падкаванымі чаравікамі,— на хаду сказаў, як далажыў, паказваючы аўтаматам, які трымаў у дзве рукі, на апошняга немца, што ішоў, задзёршы галаву:

— Гляджу за гэтым... Вачэй не спускаю... З карабінам быў... Астатнія без нічога беглі...— ён дастаў з кішэні затвор з крывой рукаяткай ад нямецкага карабіна і тры жоўтыя бліскучыя патроны. Падкінуў іх угару з далані і злавіў у жменю.— Былі ў карабіне. Карабін пайшоў на

дно ў раку... І пісталецік пайшоў на дно. Без патронаў быў... З рукава, зараза, на траву адкінуў...

— Стой! — скамандаваў Жаваранка, калі з ім параўняўся апошні немец. Алёша забег ім наперад, і яны, усе сямёра, сталі на дарозе з паднятымі ўгару рукамі.— А ты добра знаеш, што ў іх нічога больш з сабой няма?

Алёша пацiснуў плячыма.

— Давай да каго на двор і — агледзець... Я іх знаю. І не стаяць на віду. Можа, іх там,— паказаў Жаваранка за выганчык,— поўна балота...

Яны пайшлі гарачай ад пяску і сонца вуліцай: Жаваранка пад перад у немцаў, Алёша ззаду, несучы аўтамат у дзве рукі. Павярнулі ў гэты канец вуліцы, дзе жыў Жаваранка. Адразу ішлі да ям — вялі немцаў у Партызанскія лагеры.

Вуліца была пустая — у адзін канец і ў другі — і ціхая, каб чый голас ці скрып варот. Толькі ад ветру ўгары над галовамі шумела разгалістая вярба ля Платонавай студні і шапацеў, перасыпаючыся, пясок у немцаў пад ботамі.

— А ты чаго тут? — Жаваранка спытаўся ў Алёшы, не адварочваючыся.

— Трэба было. Думаў — сёння раніцай вярнуся ў атрад.

— Па іх страляў? І не палажыў нікога?..

— Няўжо ж я буду шапку здымаць перад імі? З карабінамі бягуць у вёску... Гладзіць нас?.. Для чаго аўтамат у руках? Шчасце іхняе, што нікога не палажыў.— Алёша памаўчаў.— Палажыў бы, каб рукі пасля акучніка не дрыжалі... Стрэліў, бягу, а яны ў мяне ўсё яшчэ дрыжаць. Падбег, стаяць,— паказаў ён на немцаў,— збіўшыся ў кучу, як авечкі... Я іх адразу да маста на дарогу...

— Прывёў ты, брат, бяду на маю галаву. Завядзеш у лагер, а там што? Дзе іх там дзенеш? Раз прывёў — то вядзі і здавай. У Плешчаніцы ці яшчэ куды. І павядзеш... А пакуль у лагер ды назад... Я б іх адразу на шашу... Нашым здадзім, і ўсё...

Ля Платонавай студні на павароце сталі. Немцы, зглядзеўшы белую печ на пажарышчы, як усё роўна спужаліся — перайшлі на другі бок вуліцы і сталі ля плота. Глядзелі — то на двор, на печ, то на Жаваранку.

Жаваранка павёў бы іх да сябе на двор ці паставіў бы на вуліцы ля гародчыка пад абгарэлым тофелем, але раптам Алёша — ён быў якраз процi Юльчыных варот —

адшчапіў вароты, як усё роўна свае, бразнуўшы кручком, і пайшоў наперадзе да сеначак, ні ў кога не пытаючыся.

Жаваранка паказаў немцам аўтаматам: ісці на двор, і яны, грукаючы цяжкімі запыленымі ботамі, пацісnуліся ля бярвення ў вароты, дратуючы высокі падарожнік, па якім даўно ніхто не ступаў.

Зайшоўшы на двор, дзе ля варыўні ля сцяны стаялі ў шнур немцы — усе сямёра — з паднятымі ўгару рукамі, Жаваранка пачуў, што глыбака ў душы зноўварухнулася трывога, зусім невядомая дагэтуль, і ён не ведаў, як з ёю справіцца. Ведаў толькі, што яе прынеслі з сабой сямёра немцаў, якія цяпер глядзелі на яго, усе да аднаго, і чакалі.

Нават у самага першага, паджарага, які стаяў ля ганка ля варыўні, патухлі вочы і дрыжалі рукі: на яго наставіў аўтамат Алёша.

— Пісталеты і гранаты здаць...— Жаваранка скамандаваў і кашлянуў: у горле было суха, і трашчаў у роце на зубах пясок.

Немцы маўчалі. Бразнулі, адваліўшыся ад сцяны, дзверы ў сеначках, і з хаты выйшла Юлька, маленькая, згорбленая, у завязанай пад падбародак хустцы. Учапілася абветранымі цёмнымі рукамі ў сенцах за вушак і глядзела, утаропіўшыся, на немцаў. Пасля страсанулася і схавала рукі на грудзях пад нажутку.

Немцы ўсё яшчэ маўчалі, і Жаваранка чакаў.

Тады зыбнуўся на нагах стары немец — як усё роўна ў яго замлелі ногі і ён не мог стаяць,— той, што падымаўся ад маста другі ў шарэнзе.

— Бо-рі-соф... Мо-ло-дэчно... Нах хауз... Война капут...

Немцы яго, Жаваранку, не разумелі.

— Думаюць, што дапрашваю. Дапросяць і без нас...— Жаваранка, павесіўшы аўтамат на шыю, падышоў да крайняга — крайнім цяпер ад вуліцы стаяў маладзенькі, з шыяй, як у курчаці,— і, выцягнуўшы рукі, здалёку пачаў мацаць яго за грудзі, павёў далонямі па баках, па кішэнях у штанах, па калашынах і па шырокіх халявах ботаў. Загадаў апусціць рукі і доўга мацаў за рукавы. Немец сам, адшпіліўшы гузікі, скоранька вывернуў усе кішэні — на грудзях, па баках у фрэнчы і штанах. Нават заднюю кішаню, адставіўшы нагу, вывернуў.

На зямлю, на траву, пасыпаліся з кішэнь змятыя, сырыя, яшчэ добра не налітыя жаўтаватыя, абцёртыя ад асця — ляжалі доўга ў кішані — жытнія каласы.

Жаваранка падняў іх з-пад ног і паклаў зверху на накрыўку на кадзь, якая, налітая вадой, стаяла ля самых сеначак. Паклаў пасля на кадзь маленькі чорненькі складаны ножык — дастаў з кішані ў лысага; фатаграфіі — аж дзве пачкі — забраў у тых, што былі ў акулярах: падобныя адзін на аднаго, як браты. На фатаграфіях яны стаялі ля ручнога кулямёта. У астатніх — і ў паджарага, і ў старога з сівымі валасамі пад вялікай пілоткай, і ў таго, што ішоў ад маста апошні з задзёртай угару галавой і цяпер стаяў ля старога, якраз процi кадзі ля ганка,— Жаваранка нічога не знайшоў: у кішэнях былі адны каласы. Ляжала іх цяпер на кадзі на накрыўцы цэлая кучка. Каля кадзі пырхалі вераб'і.

Ён паказаў немцам, што можна апусціць рукі,— усе адразу пачалі выціраць з твару пот, вэдзгаючы рудой гразю па лбах і па шчоках. Расшпілялі кіцелі, церабіліся — скрэблі сябе пазногцямі, як згрэблам; павыцягваўшы з-пад дзягі майкі, выціралі акуляры; садзіліся на зямлю, разуваліся, вылівалі з ботаў, з шырокіх халяў, рудую жыжку, выскрабалі пасля трэскамі з сярэдзіны гразь, выкручвалі ад вады тоўстыя суконныя шкарпэткі і каровенькія анучы, акручваючы іх нанава на ногі, з наска, гладка і спрытна, па-салдацку — абуваліся ў далёкую дарогу; знімалі пілоткі, прыгладжвалі жменямі лысіны, мокрыя, папрыліпалыя да цемя валасы; скідалі пасля з плеч кіцелі, каб падставіць пад вецер потнае цела,— хаўкалі ад гарачыні, як рыба на пяску. Ні на кога не глядзелі, былі заняты сваім. Варушыліся, як мурашкі, у якіх згарэў у пажары стары вялікі мурашнік, дзе яны жылі многа гадоў, і цяпер ім трэба нанасіць новы, бо трэба жыць, уцалеўшы ад агню, трэба пачынаць усё нанава...

На двары пахла мужчынскім потам.

Жаваранка стаяў з аўтаматам на грудзях ля кадзі, на якой ляжалі жытнія каласы, глядзеў на немцаў, як яны варушыліся і варушыліся, гаворачы адзін аднаму нешта ўпаўголаса, нібыта і не былі знясілены ў дурной бегатні немаведама куды — скарэй, на злом галавы, калі дагэтуль не хацелі здацца ў палон,— і чуў, што не можа стаяць на нагах: зноў заныла паясніца і горача пачало рабіцца ў вачах... Хацеў прыхінуцца спінай да сеначак, да сцяны, каб адсапнуцца ад такой недарэчнай работы, хацеў выцерці з ілба пот, але ўбачыў, што і далоні, і пальцы, якія, вымытыя ў вадзе з глінай, былі перш белыя, як адпараныя ў лазні, цяпер, пасля таго як абмацаў немцаў, пара-

біліся бурыя ад рудой гразі... Яму раптам як сцебанула па вачах: такія ж бурыя былі рукі ад крыві, калі сцягвалі ў траншэю брыгадную разведку і Геніятуліна — дванаццаць чалавек... І ён не прыхінуўся да сцяны; стаяў, заціскаючы глыбока ў сабе боль і злосць, ля іх, семярых, якія капашыліся на зямлі... Расставіў толькі шырэй ногі, каб не пахіснуцца...

Убачыў, што яны — усе сямёра — глядзяць на яго і на кадзь — наверх на накрыўку... Пасля паказваюць на яе — паказвае стары, які быў зусім сівы, калі зняў пілотку.

Ён, Жаваранка, махнуў тады рукой. Яны адразу падышлі да кадзі: нехта забраў маленькі чорны складаны ножык, астатнія паразбіралі жытнія каласы і сталі кляваць пальцамі, як вераб'і дзюбамі. Клявалі і кідалі ў рот, хоць там і не было чаго кідаць. Толькі двое ў акулярах не забралі фатаграфій, дзе стаялі ля ручных кулямётаў.

З сенячак выйшла Юлька. У доўгай спадніцы, у шырокай нажутцы — атрасала ўсё яе рукамі. Падышла да яго, Жаваранкі, маленькая зусім, сухая; глядзела на немцаў, як яны ціскаюць у руках каласы, ківала галавой, тады сказала:

— Можа б, я ім бульбы вынесла... Бульба ў печы стаіць... асталася. У шалупінах варыла...

— Вады вынесі... калі ўжо так... Піць хочуць... І ў самога ў роце высахла...— адказаў ён.

Яна вынесла аж два вядры адразу — сваёй студні ў яе не было, і яна насіла ці ад Платона, ці ад Жаваранкі ў запас,— паставіла на кадзь адно і другое і падала жоўтую медную конаўку старому немцу — у рукі. Немцы пілі, перадаючы скоранька конаўку адзін аднаму, кашлялі, выцiралі рот рукавамі, стаялі і не адыходзіліся ад вядра — пілі другі раз.

— Я ім бульбы вынесу...

Ён ёй нічога не адказаў, бо загаварыў раптам Алёша:

— Пераабуліся, матка, напіліся — і гайда... Накормяць іх, дзе трэба.— Пасля гаварыў ужо да яго, Жаваранкі: — Адны каласкі ў кішэнях... Астатняе пакідалі...

— Думаеш, што пісталет у траву кінулі, дык і сябе адракліся?.. Сябе яны яшчэ не адракліся... Надта не рызыкуй. Добра, што пісталецік быў без патронаў... Можа, таму і выкінулі з рукава. А так бы... Далёка б ты іх не адвёў... Рызыкі многа ў цябе...

— У мяне рука на курку... А чаго гэта яны пакідалі ўсё? З трыма патронамі беглі...

— Хто ведае, адкуль яны бягуць. Ясна адно: да сваіх, калі ў палон не пайшлі... А кінулі... Дык яно: у адным месцы кінуў — у другім падняў. Цяпер такога дабра — возам вазі. На кожнай дарозе валяецца. Ды і ці кінулі... Самі ж карабін не кінулі, пакуль ты па іх не разануў... Душу ратавалі, каб толькі жыць астацца... Чуюць і яны, што вайне канец. А вот жа не здаюцца. З акружэння дзень і ноч ідуць. Да сваіх прарываюцца. Групамі. І вялікімі, і малымі. Услед за фронтам бягуць. І ўсё па такіх во глухіх дарогах, ад шашы далей. Хадзіць цяпер трэба, хлапец, азіраючыся...

— І ўсе радавыя. Да аднаго...

— Там разбяруцца... Радавы-ыя... Старшыя куды пашлюць. Ні за што не адвічаюць, нават за тое, што білі і палілі. Загадвалі ім... Чакалі каманды, а тады стралялі ў баб і ў дзяцей... Дымам усё пускалі... Каманда ім рукі развязвала, бандзітам... Каманда цяпер вінавата... Ды я б іх... Я на іх магу глядзець толькі праз мушку... Але цяпер мы за іх адвічаем. У нас у руках аўтаматы — мы і адвічаем...

Алёша нагнуў галаву — думаў.

Сонца бралася на паўдня. Ад страхі пад варыўнёй на падарожніку карацеў увачавідкі цень, і немцы ціснуліся да сцяны — садзіліся на прызбу, падалі ўпокат на халодную ў цяні зямлю, як мёртвыя, раскідаючы рукі крыжам...

Аціхаў вецер. На небе, далёка над выганчыкам, паявіліся рэдкія белыя воблакі. Ад сухой ціхай гарачыні палёг на двары падарожнік; апусціў дробнае лісце, пабялеўшы, капаторжнік пад плотам ля вуліцы, з гарода запахла вялым бульбоўнікам.

Цыўкалі вераб'і на сенічках, на страсе — пырхалі ўсё пад ногі, дзе ляжалі на снежцы ля кадзі пакрышаныя ў пальцах жытнія каласы. Чуваць было, як на вуліцы загаварылі людзі. Падняўшы галаву, Жаваранка ўбачыў: стаіць ля сваёй студні Платон — глядзіць сюды, на двор да Юлькі; выйшаў на гарод стары Багун, слухае, не падыходзіць. Пасля за Юльчыным хлевам загаварыла Кланя...

Нагнуўшыся да плота, ён убачыў, што яна ідзе сюды вуліцай з фермы. Ідзе з подбегам, зняла з плячэй хустку, нясе ў руцэ, махаючы. За ёй ззаду ступала па пяску Галіна, дзержачы ў адной руцэ парася — прыціснула да грудзей,— другой закрывала рот ад пылу: кашляла.

Жаваранка тады падумаў, што прайшла палавіна дня — не агледзішся, як сонца будзе над захадам, што ў яго сягоння ўсё прападае: пакуль яшчэ да той шашы ды назад... А што на шашы? Алёшу ж аднаго далей не пашлеш... Зялёны яшчэ. Многа скача... А немцаў аж сем чалавек. Штаны злупяць. І каб ён іх не секануў, вывеўшы з вёскі... Не будзеш спакойны, калі сам не пойдзеш...

— Падымай...— загадаў ён Алёшу.— Павядзём на шашу. Спачатку і я падумаў быў — у лагер... А цяпер цвёрда рашыў: на шашу. Назад трэба скарэй вярнуцца...

— У Найдорф... Шашой толькі машыны ідуць. На Вялейку. А ў Найдорфе стаяць танкі. Часць стаіць.

— Усё ты знаеш... Там увідзім...

Немцы ўскочылі з-пад варыўні ўсе адразу, як па камандзе, калі Алёша паказаў ім, каб усталі. Пачалі атрасацца ад пяску, зашпільваць кіцелі. Надзелі на галовы пілоткі — блішчала толькі пад варыўнёй адна лысіна... Пасталі ў шарэнгу і чакалі. Жаваранка глядзеў, як падымаецца ад зямлі прымяты падарожнік, дзе ляжалі немцы, і як да варот вуліцай ідзе Кланя. Адна.

«Дзяцей кінула на ферме...» — падумаў ён. Пасля ўбачыў, як да яго, адлучыўшыся ад грумады, ступіў стары немец з круглым цёмным тварам — зноў насунуў на галаву пілотку па самыя вушы, схаваўшы з воч сівыя валасы. Падышоў блізка, пад самы аўтамат, і стаў. Паказаў рукой на сябе і на Жаваранку і загаварыў:

— Найдорф... Хауз... Найдорф... Новый дерефня... Найдорф... Я... я... Война капут...— Ён яшчэ нешта гаварыў і паказваў рукой сабе ў грудзі і яму, Жаваранку.

Жаваранка нічога не мог уцяміць.

— Гаворыць, што ў іх дома ёсць Найдорф. Што ён ідзе дамоў, у свой Найдорф... Чорт яго разбярэ...— сказаў Алёша.

Немец павярнуўся да яго тварам і паказваў цяпер рукой на сябе і на яго, Алёшу.

— Ну-ну... Да твайго Найдорфа далёка... У наш пойдзеш. Твой яшчэ не адваяваны. За твой яшчэ нам галовы трэба класці... Скажы яму гэта, хлапец...

— Каб жа я ўмеў з ім гаварыць...

Адкінуўшы ад сябе далёка вароты, на двор убегла Кланя. Такою ён яе ніколі не бачыў. Адны вялікія круглыя вочы — бегаюць, мераюць з ног да галавы і немцаў, і яго, Жаваранку, мутныя, як ад вялікага палу.

— Не пушчу!.. Нікуды не пушчу...— яна ўхапілася

рукамі за аўтамат.— Не хачу аставацца адна... Не хачу сіраціць дзяцей. Вайна кончылася... Цябе ж адпусцілі... Дык ён... Яны яго спяклі, а ён валаводзіцца з імі... Не пушчу...

Яна раптам сціхла, як апомнілася, тады адскочыла ад Жаваранкі, хацела падбегчы да Алёшы, але не падбегла, закрычала здалёку:

— Гэта ён... Усё ён... Падзямельнік... Сам прывёў немцаў у вёску, сам хай і вядзе... Нашто ён іх чапаў... Хай бы беглі, як беглі. Не пушчу... Нікуды не пушчу ад дзяцей...

— Не-е, Кланя... Іх сямёра... А ён адзін...

Яна зноў сціхла, пасля раптам, як стаяла, так і пачала хвастаць хусткай, якую трымала ў руцэ, старога немца, што быў падышоў да Жаваранкі і не справіўся яшчэ адысціся назад. Збіла на зямлю пілотку і хвастала па сівой галаве, па твары, па плячах...

— Гэта вы, бандзіты... Гэта — праз вас... ён павінен галаву сваю несці... Залозы б вас аблажылі...

Жаваранка схапіў яе ззаду за нажутку; Кланя адразу аціхла, абмякла, апусціла рукі і загаласіла на ўвесь двор, круцячы галавой:

— Не пушчу-у-у... Вайна кончылася...

Да яе падбегла Галіна з парасём на руцэ. Яе Кланя паслухала і пайшла, заліваючыся слязьмі, з двара.

Жаваранка сказаў ёй, калі яна была ўжо на вуліцы ля плота:

— Цэглу сама дакончы... Галіна паможа. Нямнога асталося. Пакуль вярнуся — высахне. І дзяцей глядзі...— сказаў пра дзяцей, сам не ведаючы чаму. Зноў горача зрабілася ўсярэдзіне.— Студню на двары накрый. Знайдзі дошкі і накрый. І зверху чым прыцісні. Ад дзяцей... Я відзіў, як яны цераз зруб перагінаюцца...

Кланя заплакала яшчэ горш.

Стары немец толькі цяпер падняў з зямлі вялікую пілотку, атрос, насунуў на вушы і, адступіўшы назад, стаў на сваё месца пад варыўнёй.

Алёша ўсміхаўся здалёку ад сенячак, паказваючы зубы.

Тады да Жаваранкі зноў падышла Юлька. Узялася за рукаво.

— Супакоіцца... Аціхне... Бабы ўсягды так...— сказала яна пра Кланю.

Ён ёй нічога не адказаў.

— Дай тады хоць маленькаму бульбы вынесу. Вы ж іх не даведзіцё...— Яна зноў узялася яму за рукаво.— Гэтак высах... Вочы ўваліліся ад голаду. Зярняткі пальчыкамі перабірае. Альдзі вот няма дома. На загуменне з капачом паслала... З ёй бы я за гэты час гаршчок свежай бульбы і начысціла б, і зварыла б. А так — хоць тую вынесу, што ёсць... Як гэта, каб людзі былі такія галодныя...

— Ну вынось ужо сваю бульбу... Ды пойдзем...

Алёша ўсё яшчэ паказваў на ганку белыя зубы — смяяўся.

Зверху, з-за страхі, паліла сонца: дыхнеш — трэскаецца язык...

## 9

Над Венерай у небе плылі бацяны — два.

Жаваранка бачыў іх, калі аглядаўся назад з-пад Жараў — з гары ад могілак. Бацяны адляталі на загуменне, віселі над выганчыкам, над дарогай пад Жарамі, над полем — рабілі кругі, як усё роўна не хацелі варочацца ў вёску: баяліся гнязда,— пасля сплывалі на Пагурак, на ямы...

Над вёскай стаяла густая сівая смуга, нізка, над самымі стрэхамі, як дым, калі доўга паліцца ў печах; ад сонца хаты парабіліся белыя, што новыя,— блішчала па стрэхах драніца.

За фермай пад лесам жаўцела спалавелае ад жыта шырокае загуменне — было вышэй вёскі,— і проці фермы па гэты бок вуліцы, вузкай, белай ад пяску палоскі між платоў, кідаўся ў вочы яго, Жаваранкаў, двор: хлеў, чорны тофель і высокі асвер. Пад імі рудзела ад попелу пажарышча.

Жаваранка падумаў, што хлеў перш хаваўся за хатай... І за тофелямі...

Гудзелі недзе ўперадзе, над Жарамі, самалёты, і калі аціхалі — увушшу доўга яшчэ стаяў гуд: густы, са звонам, нібыта нылі тэлефонныя правады, як некалі на слупах, на белых вялікіх кубачках, да вайны, да трыццаць дзевятага года, калі цераз гароды ля вёскі ішла лінія на венагранзаставу да Віліі. Правады ўсягды нылі ў вялікі вецер і ў маразы зімой, калі былі абсыпаны інеем.

Асталося ж у памяці... Даўно такога не чуў. Як усё роўна і не змянілася нічога за гэтыя гады: здаецца, бя-

гуць жытам ля дарогі шэрыя слупы праз гароды да лесу, на ямы, а на іх — правады: абвіслі, калышуцца ад ветру і гудзяць...

Над Жарамі ўперадзе паявіліся самалёты — кучкай... Ля дарогі тырчалі высокія, у пояс, пні ад зрэзаных пілой тэлефонных слупоў: ля маста, на гары, ля жыта і далей, у лагчыне ля могілак...

Немцы — усе сямёра — ішлі пасярод дарогі, хаваючыся з нагамі ў пыле — стукалі толькі падкаваныя боты па камені. Алёша ступаў збоку ў іх па белай дзяцельніцы, паклаўшы рукі на аўтамат і нагнуўшыся ўперад, як усё роўна хацеў зірнуць немцам у вочы. Пыл з дарогі гнала ветрам на поле ў ячмень, увіты падбярозкай. Падбярозка, разросшыся, цiснула яго па самыя каласы; паўзла з загона аж на сцежку, расхінаючы траву, і ў пыле блішчалі яе белыя, як матылі, кветы.

Жаваранка падумаў, што ўсюды цвіце падбярозка: на пасецы ля акопаў па жоўтым пяску, дзе яны ляжалі ў заслоне; на Пагурку на сіўцы; нават на балоце; на полі ля Рабога Калодзежа, дзе хавалі брыгадную разведку; дома на двары — каля студні і каля пажарышча; у бульбе за платамі разам з асотам і малачаем; на ферме на дзядзінцы, дзе рабілі раніцай цэглу,— усюды белы цвет і гаркавы пах... Падбярозка чапляецца на зямлі за траву, за ячмень, за плот, за сцяну, каб выжыць... І яму з Кланяй зачапіцца б як цяпер хоць бы за сцены ў хлеве... Дацягнуць бы да восені... А там — да вясны...

Пасля ён зноў падумаў, што праз дзень пойдзе і Кланя адна будзе круціцца і на двары, і ў хлеве, як падбярозка... І нічым ён ёй не паможа... Зробіць толькі навес і складзе печ...

Падымаліся на гару; уперадзе зашарэлі стрэхі ў Жарах — у два роўныя рады; недзе пад той канец загарэлася на сонцы жоўтым пяском вуліца; за могілкамі, на ўсход, пад Пагурак, ляжала шырокае, як скінуць вокам, поле з зялёным яшчэ жытам і белым каменнем, парэзанае дарогамі і бярэзнікам.

З поля дзьмуў вецер; пахла скошанай недзе травой, лягчэй рабілася дыхаць, як гара з плеч валілася. Толькі ў душы вісела трывога... Пакуль выйшлі з вёскі — сонца павярнула з паўдня... Каб не прыйшлося ісці на край свету... Добра ж, калі ў Найдорфе часць... Шашой нашы ідуць на захад, каму ты там на дарозе здасі гэтых семярых. Вядзеш сам дык і вядзі: у Плешчаніцы ці яшчэ да-

лей — недзе ж іх збіраюць у кучу. Там і здай. Адтуль і дамоў вярніся. На гэта не хопіць і заўтрашняга дня.

Бразгаюць падковы аб каменне: стракочуць і стракочуць, як ад вялікай радасці, у ячмені конікі, глушаць усё на свеце, і зноў гудзяць у вушах правады. Густы і цяжкі гуд ідзе недзе як з-пад зямлі, здалёку; бліжэючы, ядранее і вісіць угары над самай галавой, не сціхаючы, нібыта стаіш пад тэлефоннай лініяй...

Над Жарамі ішлі «дугласы» — два.

— Дык ты, хлапец, добра знаеш, што ў Найдорфе нашы?

— У немцаў спытайся, калі не верыш... Немцы знаюць. Не пайшлі ж на Найдорф. Сюды беглі. Знаюць: праз Вілію і на Маладэчна...— Алёша нават не павярнуўся.— З гары, з выганчыка, як коні, адзін за адным — дуг, дуг... І проста на нас. Я з акучнікам быў на гародзе. Гляджу — конь усё хмыліцца, вушамі стрыжэ... Конь ваенны... Чуе... Пасля матка як закрычыць... У мяне аўтамат на плоце... Я — да ракі... Лаўлю на мушку, а ў вачах усё мітусіцца... Разануў-то я па іх. І — каб каго зачапіў...

— А каня дзе ты ўзяў?

— З Найдорфа... Нашы аддалі з часці. Абознікі. Ён у іх прывязаны быў да калёс. Запаснік. Збіў плечы — яго на прывязь. Сказалі — у калгас здаць.

— Конь у вёсцы — вёска ўжо з голаду не памрэ. Але ж ты лазіш, хлапец...

— Ваўка ногі кормяць. А заўтра мяне ўжо не будзе. Ні тут, ні ў лагеры...

— А дзе ты дзенешся? Можа, толькі што немцаў пашлюць во такіх лавіць... Як Рудаў гаварыў: за чэрці браць. А так — ты сваё адваяваў наперад. Забяруць цябе толькі праз два гады. А тады ўжо...

— У вайну за год — тры лічаць. Я тады, выходзіць... Ну, калі акругліць і тое, што партызан вазіў на хазяйсцвенную аперацыю... гады два з гакам ваяваў... Тады мне дабаўляй добрых шэсць гадоў...— Алёша зарагатаў цераз плячо.— І...

— Пастарэць-то ты, можа, хлапец, і не пастарэў за гэтыя гады. А паразумнець — паразумнеў, бо смерць відзіў. Толькі ты гарачы надта. Добра, што на такіх во налучыў, што беглі, як авечкі... Каласкі ў кішэнях, а не гранаты. А так... Папомніш мае слова — гарачосць гэта... Доўга ты не пагарцуеш. Іх-то ты ў лагер мог бы і завясці. І то... Калі ў яго, каторага,— Жаваранка паказаў рукой упе-

рад,— нічога няма з сабой, толькі каляскі, і ён усё яшчэ бяжыць па Маладэчна, дзе грыміць... То ён цябе і без аўтамата... Глядзі ды глядзі. І затвор не паспееш адцягнуць...

Алёша паказваў цераз плячо зубы: смяяўся.

Пад нагамі перасыпаўся сухі пясок, і ад яго адразу сівеў падарожнік. Узышлі на гару: аж да Жараў, да вуліцы, жаўцеў свірэпкай ячмень, і за ім былі відаць бабы ў белых нажутках — ля самай вёскі.

Балелі ногі і крыж, і цяжка было ісці па пяску. Вярнуў пот, як у лазні. У роце сох язык, хацелася піць. Здаецца, каб цяпер да крыніцы за Пагуркам... Чэрпаў бы і чэрпаў ваду прыгоршчамі...

Немцы ішлі кучкай, ціха, не гаварылі. Кашляў толькі ад пылу, глуха, як у бочку, стары ў вялікай пілотцы — ішоў ззаду, быў бліжэй за ўсіх да Жаваранкі. Ён увесь час хацеў быць бліжэй: і на двары ў Юлькі, і ля маста ў рацэ, дзе мыліся і сёрбалі ваду, зноў загаварыў, паказваючы на сябе і на яго, Жаваранку. Але Жаваранка зноў нічога не зразумеў...

З гары пайшлі шыбчэй, і пачаў аставацца ад усіх малады з ценкай, як у курчаці, шыяй. Азіраўся на Жаваранку, стараўся дагнаць пярэдніх — пускаўся з падбегам — і не мог: падбяжыць, падбяжыць, падцягваючы левую нагу і адстаўляючы яе ўбок, і стане — толькі пыл падымае. Нагу ён падцягваў, Жаваранка помніць, яшчэ калі іх вёў Алёша з выганчыка і яны выходзілі з ракі, падымаючыся на высокі, ад вёскі, бераг. Калі ён паварочваўся цяпер, Жаваранка бачыў яго твар — на адзін міг,— нібы той пазіраў у акно ў шыбіну: зірне і схаваецца. Твар быў белы, аж зялёны, як не адмыты ад балотнай ціны. Вузенькі, даўгаваценькі, вусны падцяты, як і зусім няма, нос ценкі, прыгнуты ўніз. Немец увесь час моршчыўся: паранены быў ці што так балела. Лапаў усё рукой за кішэньку на грудзях, у якой перш ляжалі жытнія каласы, і лыпаў вачыма, што птушка.

Спускаліся з гары, падыходзячы да могілак. Могілкі былі злева ад дарогі, вялікія, старасвецкія; на іх раслі бярозы, якім было, можа, больш як па веку: шырокія ў камлі, не абхапіць удваіх, з дробным лісцем, з апушчаным доўгім голлем, якое вісела знізу, да зямлі, як аборы. Бярозы раслі на гэты бок могілак, ад Венеры, і пад імі па жоўтым пяску былі відаць акопы з высокімі бруствепамі, парытыя аж да самай дарогі — парылі немцы, за-

няўшы Жары і ідучы на Венеру. Недалёка ад бяроз, ля запыленых высокіх лазовых кустоў над крушнямі каменя ля дарогі, Жаваранка згледзеў раптам дзвюх жанчын.

Апёршыся на рыдлёўкі, яны стаялі і глядзелі на дарогу — на немцаў. Адну ён адразу пазнаў: Юстына з гэтага канца Жараў; другую не пазнаваў. Стаялі як застыўшы. За плячыма ў іх ад ветру глуха шумелі старыя бярозы нейкім далёкім шумам, нібыта яны стаялі не ля дарогі, а недзе край свету...

Пасля Жаваранка ўбачыў, як і ля вёскі, у канцы жоўтага ад свірэпкі ячменю, па дарозе кратаюцца жанчыны: ідуць сюды, на гару, насустрач немцам, памалу, чуць пераставляюць ногі па глыбокім пяску, якога пананосіла з гары ў лагчыну да старога, раскіданага мастка. На масток не пайшлі, мінулі яго логам і ідуць дарогай ля самага ячменю. Усямёх, як і немцы. Двое з рыдлёўкамі памалу пайшлі ззаду за Жаваранкам — відаць, насустрач тым, што рухаліся ад маста. Тыя, што ішлі ад маста, былі раптам сталі, убачыўшы немцаў, пастаялі, як перавялі дух, пасля крануліся і пайшлі зноў памалу, звярнуўшы па пяску на той бок дарогі — да крушні камення. На немцаў і на яго, Жаваранку з Алёшам, нават не падымалі галоў.

Жаваранка добра ўжо бачыў пярэдніх дзвюх — сёстры Жарскія: ішлі, узяўшыся, адна і другая, за хвост белага ручніка. За імі яшчэ дзве жанчыны, дзержачыся за ручнік,— былі за плячыма, не пазнаеш хто. На ручніку ў іх вісела — нізка, над самай дарогай, чапляючыся за вяршкі мятліцы,— маленькае, з метр, дамаўё. Збітае з новых, яшчэ жоўтых, непагабляваных дошак — відаць, што рабілася бабскімі рукамі,— дамаўё калыхалася на ручніках узад-уперад...

Жаваранку раптам здалося, што закалыхалася пад нагамі зямля: дарога ўперадзе з немцамі, поле з ячменем і за ім Жары з прамой, белай ад пяску вуліцай...

Немцы сталі: забег наперад Алёша. Знялі з галоў пілоткі. Павярнуліся ўсе да жанчын.

А тыя ішлі, не падымаючы вачэй: калыхаліся на дарозе, калышучы на ручніках маленькае дамаўё, і маўчалі. Ішлі без хустак, як мужчыны ўсё роўна без кепак. Босыя ўсе; як згаварыўшыся, у светлых нажутках і чорных спадніцах. Ззаду за дамаўём дзве жанчыны, узяўшы пад пахі, вялі трэцюю — Іллючыху з Жараў. Яе цяжка было пазнаць: галава звешана на самыя грудзі, рукі выстаўле-

ны ўперад, як усё роўна рвуцца да дамаўя, у адной руцэ вялікая жоўтая ў чырвоныя кветы хустка — цягнецца хвастом па зямлі, па белай дзяцельніцы. Іллючыха пройдзе-пройдзе і стане; пастаіць, апёршыся на жанчын, прыцісне да грудзей рукі, як закрываецца хусткай, тады зноў выстаўляе іх уперад, нібыта хоча схапіць імі дамаўё, і рвецца бегчы. Яе не пускаюць, і яна зноў ідзе ціха, пераставуляючы памалу босыя ногі, як мацае зямлю.

Маленькае дамаўё калышацца і калышацца на ручніках ужо ля самай лазы, ля вялікай крушні старога шэрага дробнага камення, пазвожанага за многія гады з поля сюды, да могілак.

Дзве жанчыны з рыдлёўкамі, прапусціўшы наперад дамаўё, паварочваюцца і ідуць ззаду за ўсімі. Да іх перабягае цераз дарогу Алёша, махае рукамі, паказваючы то на немцаў, то на Жары — нешта пытаецца.

Чуваць, як яму гаворыць, здаецца, Юстына:

— Ціха было. Не чуваць... І ўчора і сягоння. Гэта ж во, бяда якая ў Іллючыхі... Адзін сын... Ішлі ўчора ў Горна, у сельсавет. На пошту... За Дваром адразу, на дарозе, дзе на Найдорф паварот... на крыжаватцы... Бяжыць яе хлопчык наперадзе. Чацвёрты гадок яму. Паявіўся на свет якраз як толькі немцы прыйшлі... Дзіця... Малое... Усю дарогу Іллючыха яго за руку вяла, сама расказвала... Ля крыжаваткі пасцілку ўвідзілі — ляжыць разасланая блізка ля дарогі. Гэта ж трэба... Хлопец вырваўся і пабег. Іллючыху дык адкінула, а хлопчыка... Міна пад пасцілкай была... Сядзела Іллючыха там ля яго ўчора... учора гэта было... ад раніцы аж да паўдня. Што яна там, бедная, рабіла, ніхто не ведае. Сама, можа, устаць не магла... Закруціла яна ўсё, што асталося ад хлопчыка, у тую праклятую пасцілку і дамоў перад сабою прынясла. Учора... Учора і дамаўё збілі... І трэба ж было зачапіць тую пасцілку...

Узяўшы ў рукі рыдлёўкі — жалезным канцом уперад,— яны абедзве павярнуліся і пайшлі за пярэднімі на могілкі.

Ля крушні камення калыхалася яшчэ на ручніках маленькае дамаўё, пасля схавалася з вачэй — у густой зялёнай лазе.

З гары ў лагчыну немцы пайшлі хутчэй; зноў аставаўся ззаду малады — падцягваў нагу на ўбітай сцежцы ля ячменю.

У Жаваранкі ў вачах усё яшчэ калыхалася на ручні-

ках дамаўё... І ён думаў, што і ў Жарах мала людзей, што бабы робяць не бабскую работу. У вёсках спрадвеку магілы капаюць мужчыны... І дамоўі збіваюць. А цяпер — няма каму...

З вуліцы ў Жарах дзьмуў вецер, гонячы ў вочы пыл, і па шчоках секла дробнай калючай жарствой — жарства шапацела па дыску аўтамата. Ля платоў прыгіналася да зямлі высокая крапіва і канаторжнік і дрыжала дробненька белымі галоўкамі дзяцельніца — было відаць, што па вуліцы доўга не хадзілі. Над частаколамі, старымі, пачарнелымі, шумелі дробным лісцем рабіны — бялелі на сонцы, што ўсё роўна павялыя, выстаўляючы, як са жмені, ладныя ўжо зялёныя ягады.

Ад вуліцы былі сады, усюды ля хат — вясковыя: маленькія, з яблынямі і грушамі, вішнямі, слівамі і «заграннымі» ягадамі, якія нядаўна паявіліся ў вёсцы,— саладкія, выспяваючы, рассыпаліся ў роце. На дварах і ля гумнаў раслі старыя ліпы, апускаючы галлё нізка, да самай зямлі, і высокія, вышэй ліп, старыя грушы-дзічкі.

Яны глуха шумелі ад ветру. Не стукалі вароты — ніхто не выходзіў на вуліцу. Не скрыпелі ля студняў асверы — каля зрубаў парасла лебяда і канаторжнік, хаваючы іх з воч. Ні груку, ні голасу, толькі вераб'і ўзляталі чародамі з-пад ног са сцежак і хаваліся на гародах. І ўсюды ў вочы кідаўся палын — разросся ля платоў, высокі, вышэй канаторжніка, кунаты і густы, нагінаўся ад ветру, і тады здавалася, што ўсюды на вуліцы сіва. І пыл, здавалася, быў сухі і горкі, як ад палыну.

«Пусты канец вёскі...— падумаў Жаваранка.— Як вымер. І з Жараў пайшлі за Дзвінасу, на Палік... Хто не пайшоў, схінуўся з воч каля дому — астаўся... Адтуль, з Паліка, з-за Дзвінасы, не ўсе вернуцца. Не ўсе...»

Малады немец, як толькі ўвайшлі ў вуліцу, хапаўся рукой за частакол; астаўшыся, кідаў частакол і пускаўся даганяць пярэдніх, чапляючыся адтапыранай нагой за палын і за канаторжнік, што касой; бегучы, махаў галавой недзе пад сябе, як жарабя ад аваднёў. Пярэднія аглядаліся на яго, як сабака аглядаецца на сваю падбітую заднюю нагу.

Пасярод Жараў на невялікім дзядзінцы між платоў малады немец, адскочыўшы ад сцежкі, сеў на высокі шэры, усыпаны пляйстрамі сухога моху, падзёўбаны зверху камень ля студні. Жаваранка загадаў стаць. Сам стаў воддаль, паклаўшы рукі на аўтамат.

За новым, з сасновых плашак зрубам — на плашках яшчэ адставала, карабацячыся, кара, якую накінулі скоблі,— у гародзе расла высокая балотная каліна, кладучыся на частакол, і немцы, адразу збіўшыся ў кучу ля частаколу, падскакваючы, рвалі зялёныя ягады і кідалі ў рот. Са студні даўно не бралі ваду — зруб быў сухі, на верхніх плашках, дзе ставілі некалі вядро, са шчэлак пайшла расці маладая жаўтаватая дробная травіца, якая расце між сырых град у барознах. На круку на вочапе не было вядра, і немцы, панахіляўшыся над студняй — хацелі піць,— ганялі вочап ад плота да плота, як са злосці.

Немец у шырокай пілотцы прысеў на калені ля каменя перад маладым; расхінуўся кіцель, і ў яго былі відаць забінтаваныя кругам ўсе грудзі: старым жоўтым бінтам у некалькі столак. Гаворачы нешта ціха, пачаў сцягваць у таго бот, узяўшыся ля костачкі. Малады, учарэпіўшыся пад сабой за камень, скакаў на адной назе і, сціснуўшы зубы, стагнаў. З галавы ў яго звалілася ў траву пілотка, з валасоў цёк пот.

Алёша з аўтаматам у руках падышоў да самага каменя: чакаў. Аж скура на ім гарыць: па дарозе ідзе з паднскокам, як усё роўна за кім улягае; надбег ужо да студні, абышоў немцаў ля частаколу і ўсё торкае ўперад аўтаматам — паказвае на вуліцу.

Нага ля костачкі ў маладога немца была забінтавана; з-пад бінту густа цякла кроў. Стары немец пачаў перавязваць рану — абкручваў бінт каля нагі ў дзве рукі, як усё роўна бацька абуваў сына ў лапці, абкручваючы ля ног анучы.

«Бітыя... І старыя, і малыя ў бінтах...— падумаў Жаваранка.— Такі вот не дабег бы і да Маладэчна... Справіўся б з імі і адзін Алёша, завёў бы ў Найдорф... Скручаны дзень...»

Пасля ён падумаў, што ў туга падпяразанага немца з чырвонымі чорствымі вачыма, які і дарогай ідзе, ні на кога не гледзячы і задзёршы галаву, у рукаве быў пісталет... Адразу азвалася трывога... Ён загадаў ісці наперад. Нечага студзіць раны; не будзе ісці каторы — самі ж і панясуць. На Маладэчна бегчы — дык і раны не балелі. Няхай не баяцца, дзе трэба — перавяжуць, пaverжуць ёдам... Загадаў яшчэ Алёшу ісці збоку — пасярод вуліцы: скочыць каторы за вуглы, а там — жыта... Пацалуй тады...

Немцы загрукалі ботамі па цвёрдай сцежцы; пайшлі

зноў кучкай: ціснуліся адзін да аднаго. Пад нагамі ў іх зазвінела бітае шкло, разлятаючыся ў бакі, нехта ядрана, як хто загаварыў. Жаваранка аж таркануўся на сцежцы, каб паслухаць.

У вёсцы недзе далёка, мусіць, за Малінаўкай, у Двары, зазвінеў гармонік. Сціх, пасля азваўся зноў — з пераборамі, густымі, частымі... Так ён адзываўся, калі да вайны вялі, бывала, у вёску музыканта іграць вечарынку: вечар, цямнее, а далёка пад Жарамі — густы звон. Мітусіцца тады ўся вуліца: бягуць на сустрэчу да маста дзеці; грукаюць у Галіны Аляксандравай сталом і лавамі — выносяць з другой хаты ў першую, адсоўваюць да сцен у запечак, каб не заміналі: на вечарынку прыйдуць хлопцы з дзяўчатамі з Жараў і з Пячнога.

Па ўбітай сцежцы ля плота грукалі падкаваныя боты, і ўперадзе гармонік іграў польку...

У Жаваранкі ў вачах закалыхалася маленькае дамаўё на ручніках...

Пачуўшы гармонік, немцы пачалі варочаць галовамі, гледзячы адзін на аднаго; пасля азіраліся на яго, Жаваранку. Ішлі смялей; малады апіраўся на локаць сівому ў вялікай пілотцы. Алёша цераз плячо паказваў зубы; падняў перад сабой на руках аўтамат і ківаў галавой уперад.

Кончыліся Жары; пайшлі доўгай — з паўвярсты — Малінаўкай. Вецер, павярнуўшыся, падзьмуў у спіну і наперадзе вуліцай пагнаў белы пыл, як снег зімой у сухую мяцеліцу.

Між Дваром і Жарамі нядаўна яшчэ было поле, і ля платоў, ля хат ад балота, тырчала лаза, кустамі — вылазіла на вуліцу і чаплялася за рукі, калючая, як сухая. У канцы Малінаўкі, у калене каля хаты Красоўскага, дзе дарога паварочвала ў Двор да шашы, высака над вёскай падымаліся ліпы, мяшаючыся з соснамі, старымі, высокімі, з дробнымі разгатымі вярхамі, здалёку чорнымі на сівым, зацягнутым смугой небе...

Ішлі доўгай вуліцай, топчучы сівы палын і падбярозку, як спяшаліся пад ліпы да хаты Красоўскага — у цень.

Жаваранка добра ведаў Красоўскага. Высокі мужчына, плечавень на ўсе Жары, Красоўскі быў з самых першых трактарыстаў у эмтээсе. Вялікія, моцныя, чорныя ад мазуту рукі ў яго — колькі Жаваранка бачыў — усягды ляжалі на рулі «ХТЗ». Араў на ім Красоўскі гадоў сем, да

самай вайны, і цяпер невядома, дзе ён. У сорак першым успеў па павестцы ў ваенкамат.

У гародзе ў Красоўскага расла дзікая ружа, вылазячы ў плот аж на вуліцу — цвіла зверху дробнымі квятамі; немцы, пачуўшы каманду — скамандаваў Жаваранка,— пападалі адразу пад плот, пад дзікую ружу ў цень, які лёг ад ліпы, накрываючы на вуліцы пясок і траву роўнай цёмнай паласой, як насцілкай.

Чуваць было, як пасвяжэў вецер; макроцілася неба, згусла смуга, цямпела, і праз яе не пякло ўжо сонца; зрабілася мяккае, як летняя вада ў рацэ.

Цераз вуліцу — на двары ў Кірыка — гармонік рэзаў польку. Ніхто з немцаў нават не падымаў на музыку галавы — ляжалі, як напрацаваўшыся; думалі, мусіць, пакуль будуць іграць, іх не пагоняць — можна адсапнуцца, звёўшы вочы.

Вуліца была вузкая; Кірыкава хата стаяла воддаль ад яе, якраз насупраць Красоўскага. Двор у Кірыка быў абгароджаны і пусты, і адразу кідаўся ў вочы ганак — плоская стрэшка на слупах і лаўкі.

На ганку, на кароценькім зэдліку, вынесеным з хаты, сядзеў Кірык — у ваеннай форме з пагонамі на плячах, у пілотцы, пасаджанай набок — на самае вуха. На каленях у яго быў гармонік — стары, чорны; толькі гузікі на ім бялелі здалёку, як галоўкі дробнай дзяцельніцы пад нагамі ля ганка. Убачыўшы з двара немцаў, Кірык падняў раптам галаву, ускочыў, стаўшы на адной назе і хліпнуўшы мехам... Калі згледзеў яго, Жаваранку,— адразу пазнаў і махнуў рукой: «Э, чорт!..» Пасля ўзяў пад казырок, сеў на маленькі зэдлік і ўрэзаў польку, як на вечарынцы. На немцаў не глядзеў; паклаў галаву на мяхі, закінуўшы нагу на нагу — на той, якую закінуў, матлялася ля калена падагнутая і абвязаная матузкамі калашына новага салдацкага галіфэ.

Кірык быў чырвоны з твару, чыста паголены; каўнер у гімнасцёрцы — адшпілены, падкаўнерык белы як снег,— ад яго аж твар рабіўся святлейшы; гузікі на гімнасцёрцы начышчаны, блішчаць здалёку. Пальцы бегаюць,— не згледзець,— выціскаючы ядраную польку. Мех расцягваецца шырака, па ўсе рукі. Сам Кірык смяецца... Смеху не чуваць, бачыш толькі, што чалавек смяецца: вачыма — гараць, як іскры; ротам — аж да вушэй; брывамі — падняў высака ўгару,— бачыш, што яму весела на душы, як, можа, даўно не было. Так усягды Кірык смяяўся на куце

ў Галіны Аляксандравай, калі іграў вечарынку. Засмяецца — гармонік на ўвесь кут, ад акна да акна... І задрыжыць тады пад нагамі ад полькі хата, аж шыбы звіняць: з парога, з куткоў, з лаў, з двара — усе ідуць у круг. Кірык сядзіць на куце — рот да вушэй:

— Польку мясіць — гэта вам не дровы секчы!..

Да вайны Кірык рэзаў траску. Быў у яго свой станок — яго ўсягды прывозілі на калёсах на двор, і пасля Кірык прыходзіў сам з нажом пад пахай. Рэзаў траску ён у сваіх Жарах, у Венеры, у Пячным, і далей — у другіх вёсках. Быў спрытны на язык; сам — як уюн. Невысокі, дужы ў плячах, круглы з твару, з задзёртым угару носам. Рот ад смеху заўсёды да вушэй, зубы — як часнок. Рухавы — не ўседзіць, ідзе лёгка, як у круг на танец. Танцор ён быў — на ўсю вёску: хадзіў упрысядкі барыню, як чорт, і вучыў дзяўчат танцаваць. Ён і ля станка, калі рэзалі траску, браў у рукі шырокую сасновую аскобленую плашку і ішоў з ёй па двары ўпрысядку, як з гармонікам...

Выйшла з хаты Кірыкава жонка, вынесла яму жоўтую мыліцу — звала, відаць, з ганка: знайшоў час людзей звозіць. Ён махнуў на яе рукой: схавай, каб ніхто не відзеў...

Жонка вярнулася на ганак без мыліцы; стала, прыпёршыся да сцяны, і сашчапіла на грудзях рукі: глядзела, як да хаты ішлі людзі. Прыбегла першая, выйшаўшы ад Красоўскага, Шурка — Жаваранка пазнаў. Удава, без мужа асталася яшчэ перад вайной. Высокая, цёмная, з касой у кукле. Босая, накінула на плечы маленькую жоўтую хусціну. За ёй прыйшлі бежанкі — пецярых: маладыя яшчэ кабеты з-пад Смаленска. Адступаючы, немцы пагналі іх на захад, і яны перад самай блакадай паявіліся ў Жарах. Стаялі здалёку ля плота, слухалі, баючыся падыходзіць. Выбеглі з-за вугла нечыя дзеці — трое — і ўтарапіліся на немцаў і на Алёшу, які стаяў ля іх з аўтаматам у руках. Відаць было яшчэ, як у Малінаўцы на двары кратаюцца людзі.

Убачыўшы Шурку, Кірык аж устаў на адной назе, апёршыся рукой на зэдлік, тады, паправіўшыся, сеў і рвануў мяхі...

Шурка клікнула некага з бежанак, махнуўшы жоўтай хусткай. Да яе падбегла малая кругленькая кабеціна з доўгай чорнай касой на грудзях. Шурка падхапіла тую на ляту, як падхоплівае на вечарынцы спрытны да танцаў

хлопец... Яны стаялі спачатку адна проці адной, як прыглядаліся, пасля, сашчапіўшы высака над галавой рукі, закруціліся на двары перад ганкам, спачатку ціха, пасля ўсё шыбчэй і шыбчэй, падымаючы босымі нагамі з-пад травы пыл...

— Расступісь!..— закамандавала, як усё роўна ў хаце ў грумаду, Шурка, весела, з нейкай шалёнай радасцю і злосцю ў голасе, і павяла бежанку ля самага частаколу, што ў хаце ля сцяны.

— Польку мясіць — гэта вам не дровы секчы!..— закрычаў Кірык, як да вайны на вечарынцы, і засмяяўся.

— Сячо-о-ом!..— адгукнулася, што здалёку, Шурка.— Хай глядзяць фрыцы, як мы па іхніх памінках гарцуем!.. Сягоння нядзеля...

— Гарцуй, гарцуй... Я сваё адгарцаваў!..— зноў крыкнуў Кірык.

— На памінках не гарцуюць...— нехта весела засмяяўся ў грумадзе: бежанкі.

— На такіх можна. Ногі не адваляцца... Гэтулькі гадоў яны чакалі, прысохшы...— Шурка абхапіла шырокай, як мужчынскай, рукой бежанку за плечы.— У суставах скрыпяць...

Жаваранка паволі ступаў да двара, пераходзячы вуліцу, і бачыў, як яны, танцуючы, топчуць нагамі ў пясок чорныя бліскучыя гільзы ад нямецкай вінтоўкі... Убачыў, што пад плотам на двары ляжаць дзве нямецкія бляшанкі ад кулямётных стужак.

Абышоўшы два кругі, Шурка стала ля варот, гледзячы пад ногі на гільзы; адпусціла бежанку, махнула жоўтай хусцінкай і пайшла да ганка на пальчыках:

— Бабы, бабы... Што мы сабе думаем...

Узышоўшы на ганак, села проці Кірыка на лавачку:

— Тая самая полька... Даваеннае ўсё вярнулася...— яна зноў замахала хусцінай перад сабой.

Кірык падняўся з зэдліка, абапёршыся на яго рукой, і стаў на адной назе. Схапіў гармонік пад паху і закрычаў яму, Жаваранку, на вуліцу:

— Я цябе чуць пазнаў... Здароў быў! Што гэта за вакі? — паказаў ён на вуліцу на немцаў.

— З акружэння ішлі. На Маладэчна беглі...

— Бабы іх у жыце раніцай відзілі... Гэтыя кусаюцца... Наступі гадзюцы на хвост...— Кірык стаяў усё на адной назе, ёрзаючы ботам па пяску.— Наглядзеўся я на іх, мацъ іх барабан... Пад Нарафамінскам...— пака-

заў ён рукой на ногі.— Яшчэ ў сорак першым... Помню толькі снег пад сабой чырвоны. Распаролі яны мяне... Міна! Пальцы цэлыя...— падняў ён раптам угару руку, каб усе бачылі.— Дастаў, во...— сціснуў ён пад пахай гармонік.— Рассохся, пакуль мы іх назад пагналі...— паказаў ён зноў рукой на немцаў.

Ззаду за бежанкамі раптам закрычала жанчына, моцна, па усю вуліцу: не пазнаеш хто.

— А што ж вы ро-обі-іце?! — Пасля, адлучыўшыся ад грумады, пабегла вуліцай назад, у Маліпаўку, каля самага плота — з-пад босых ног у яе падымаўся пыл.

— Лі-ідзя... З Жараў...— загаварыла да яго, Жаваранкі, з двара Шурка.— Дзяўчынку сваю задушыла. Трохмесячную... Не самахоць, не-е... Немцы на Паліку ішлі балотам, а дзяўчынка крычала. Дык Лідзя пялёнкай рот ёй заціснула... Людзі ад яе ўцякалі... Сыкалі... Адняла пялёначку — а дзяўчынка сіняя ляжыць... Два дні яна яе пасля па балоце на руках насіла... Нежывую... Вярнулася дамоў,— дык мы яе спачатку нікуды не пускалі. Запіралі ў хаце... А цяпер пусцілі... Пабяжыць за Маліпаўку ў балота, упадзе галавой у купіну і валасы на сабе рве... Крыкам крычыць... Пасля трохі цішэйшая робіцца... «З'еду... З'еду...» — гаворыць сама сабе і ўсё дзяўчынку кліча...— Шурка перавяла дых.— Гора ты наша, гора... Полька ты наша даваенная...

— Ну-у... Закуда-ахталі... Гарох мокры на зямлю пасыпаўся... Трава большая расці будзе... Бабы вы, бабы... Забыліся, як да вайны жылі? Галовы цэлыя? Рукі цэлыя?.. — Кірык зноў падняў угару руку.— А душа загоіцца... Не такія раны зацягваюцца...

Ён апусціўся на зэдлік, закінуў зноў нагу на нагу і сыпануў такую польку, што, здавалася, душа выскачыць з грудзей... Так ён ніколі да вайны не іграў на вечарынках.

На ганку заплакала яго жонка, выціраючы рукавамі вочы; Шурка адышлася да бежанак, і яны збіліся ў кучку ля варот — стаялі, апусціўшы галовы.

Пад ліпай, пачуўшы каманду, паўскаквалі з зямлі немцы.

## 10

Каласы нагіналіся над дарогай і ад ветру сцябалі па руках і па аўтамаце, шапочучы асцём. Дарога круцілася

жытам і бялела ад пяску далёка ў полі. За ім — лявей — была шаша, за якой расцягнулася вярсты на дзве Горна. Уперадзе сінеў у смузе, як у густым дыме, лес. Найдорф, перад ім расцягнулася ўдоўж лагчына, вымытая некалі ракой, там, дзе Алёша быў раніцай і адкуль зняўся ваенны абоз.

Да шашы Алёша раніцай не пайшоў Жарамі і Малінаўкай: пакінуўшы іх убаку, падаўся полем — на сады. І назад ехаў конна на Сібіраку цераз сады. Сады павымярзалі ў вялікія маразы ў фінскую вайну, і ў іх было пасеяна жыта — толькі ля дарогі стаялі, адышоўшы, старыя грушы-дзічкі з дробнымі зялёнымі вярхамі.

Уперадзе — над лесам за Найдорфам — зацямнелася неба; над Горнам віселі круглыя воблакі, нізка над шашой. Вецер дзьмуў ля самай зямлі, як усягды перад блізкім дажджом, і на шырокім — аж да шашы і аж да Найдорфа — полі калыхалася жыта, маладое яшчэ, хоць дзе красавала: зверху на каласах дрыжалі жоўтыя мяккія вусікі.

Ад зямлі ў лагчыне ішла пара; з поля з ветрам несла густы пах нагрэтага на сонцы жыта і дурнап'яну, які сціснуў ля дарогі зямлю і ў якім адзываліся конікі, як ля Жараў у ячмені. Вецер свежа біў у твар, лягчэй было дыхаць, вочы бачылі далёка, аж на гару за Горна, дзе была відаць дарога на Вялейку — жоўтай палоскай — і куды раніцай ішлі машыны з ваеннымі. Здавалася, і лягчэй стала ісці, не такія цяжкія на нагах вялікія нямецкія чаравікі, як на пяску на вуліцы ў Жарах. Толькі рукі баляць у лакцях, парабіліся цяжкія, аж чуваць, што ты іх нясеш перад сабой: усю дарогу трэба дзяржаць аўтамат і быць напагатове — так ён, Алёша, яшчэ не хадзіў.

Над Віліёй у бок Караліна расцягнуліся па небе бурыя тулягі; ніжэй іх павіслі аж да самай зямлі цёмныя палосы: над ракой ішоў дождж. У тым баку загрымела, глуха, як ад выбухаў.

Ззаду, за садамі недзе пад шашу, засакатаў раптам нямецкі кулямёт і адразу сціх.

Немцы збіліся ў кучу на дарозе, адварочваліся і глядзелі назад. Падбег бліжэй Жаваранка:

— Калі ў Найдорфе не будзе часці, хлапец, ідзём на Горна... На шашу. Не застанем нікога ў Горне — адразу на Плешчаніцы... Чуеш, што робіцца?..— паказаў ён рукой далёка на сады, над якімі віселі белыя воблакі. І ка-

лі немцы зноў загрукалі ботамі па цвёрдай палявой дарозе, убітай, як дома праціўня ў хлеве, ён загаварыў ціпшэй: — І глядзі перад сабой, хлапец... У жыта глядзі. Чуў, што Кірык сказаў: у жыце бабы іх відзілі...— Ён памаўчаў.— Цябе вучыць не трэба...— сказаў пасля, калі яны пайшлі ўпобачкі, як хадзілі апошні час: і на Пагурку, і ля Рабога Калодзежа, і ля Дзвінасы...

Алёша чуў, як Жаваранка цяжка дыхае, пазіраючы то на немцаў, то, адварочваючыся, назад на сады — чапляўся ботамі за каменне на дарозе.

Жаваранка асунуўся неяк у шчоках — перш гэтага не было,— зрабіўся суровы і зацяты. Не гаворыць, а ўсё камандуе: і немцам, і яму, Алёшу; водзіць па грудзях аўтаматам, вымазваючы дыск аб гліну, якая прыліпла яму да рубашкі на ферме, дзе ён рабіў цэглу. Нават пінжак на плечы не ўскінуў; як быў у рубашцы з закасанымі рукавамі, так і пайшоў з двара ад Юлькі, апаласкаўшы пасля ў рацэ ля маста рукі. Толькі вочы ў яго глядзяць мякка і ласкава, як на дзіця,— нібыта хоча пагладзіць цябе па галаве. І Алёша зноў падумаў: адвядуць сягоння немцаў, і яго, Алёшы, заўтра не будзе: ні дома, ні ў лагеры... Палявы ваенкамат — і вайсковая часць... Жаваранка, відаць, калі не адпусцяць з камісіі, пойдзе з атрадам у Мінск.

Ён, Алёша, не пойдзе...

Зашчымела недзе глыбака ў душы...

Ішлі пад вецер. Немцы ў жыце кінуліся рваць каласы, але пакідалі іх адразу на дарогу: каласы былі пустыя — гэта там, адкуль яны прыбеглі, ужо налілося жыта... Пачуўшы кулямёт, пайшлі насцярожана, як перамяніліся: пярэдні, паджары, выцягнуўся яшчэ больш угару, зрабіўся якраз такі, калі бег на выганчыку,— ён усю дарогу ішоў наперадзе, не азіраючыся назад. І астатнія зашпілілі кіцелі, як усё роўна ім было холадна ад ветру; пайшлі шыбчэй; малады стараўся не адставаць — гроб усё і гроб нагой на дарозе жоўтую мятліцу...

Схаваліся ў высокае жыта; доўгія каласы былі відаць аж над галовамі ў немцаў; калі аціхаў вецер — тырчалі ўгару, як пальцы. Ля дарогі з двух бакоў бялелі ад пяску вузенькімі палоскамі ўтаптаныя сцежкі, па якіх да вайны ездзілі на веласіпедах. Сцежкі цяпер парабіліся вузенькія, параслі падарожнікам і дзяцельніцай.

Па сцежцы — ён ішоў з левага боку дарогі, як і ўвесь час, Жаваранка ззаду за немцамі — лёгка было ступаць; ён ведаў наперад, дзе яна паверне, каб абысці валун на дарозе, дзе апускаецца ў лагчыну і губляецца ў траве, дзе падымаецца на гару па дробным каменні і па жоўтым жвіры.

Калі над сцежачкай згіналася жыта, ля яго, здавалася, бегла Альдзя — у школу... У белай сукянёшцы, з чорным партфелем у руках... Бегла, нібыта даганяла веласіпедыста, які быў высака на гары...

Алёша аж здзівіўся, што запомніў ад таго часу чалавека на веласіпедзе. Гэтулькі гадоў прайшло...

Спускаліся ў лагчыну, пакінуўшы Горна злева, за вышашой. Жыта перад лагчынай абрывалася, і далей у высокай траве была відаць вузкая дарога. Лагчына адгэтуль выводзіла да садоў — на ўсход, за садамі вяла потым у лагі, парослыя дробным ельнікам. З яе можна было лучыць за Жарамі аж пад выганчык у Венеру, а ўзяўшы ад садоў правей — выйсці вярсты за тры на шашу. Горна адгэтуль было вярсты дзве.

Лагчынай, якая гэтым месцам вузела — жыта над ёй стаяла высака, як дзе на беразе над ракой,— дарога, паварочваючы ўправа, вяла цераз поле на захад, туды, дзе сінеў лесам Найдорф. Недзе там, уперадзе, яна прадзіла ўдоўж шашы блізка ля логу, дзе раніцай Алёша ішоў з Трафімычам...

Дзе цяпер абоз і Трафімыч?

У лагчыне спераду, на дарозе ля самага жыта, заблішчала раптам, як усё роўна руль веласіпеда на сцежцы пад сонцам. Пасля здалося, што там веласіпедыст пераехаў з аднаго боку дарогі на другі — махнуўся цёмны цень. Было далёка — не разбярэш.

Алёша, адвярнуўшыся, зірнуў на Жаваранку. Той ішоў, паклаўшы цяжкія рукі зверху на аўтамат і скрывіўшы шыю — углядаўся цераз галовы ўперад на дарогу, але маўчаў. Не згледзеў?

У лагчыну бегла пад ветрам жыта; нагіналася да самай зямлі, тады кацілася назад, пакідаючы на полі бурыя ямы.

У лагчыну нагнала з поля, вясной у паводкі, пяску. трава расла на ім, як на купінах; ішлі цяжка, што па балоце,— Алёша аж нагнуў галаву. Калі падняў, убачыў, як зноў бліснула ўперадзе ля жыта, з гэтага боку, дзе ён ішоў. Ён лапнуў пальцамі за шурпаты рычажок ля кур-

ка — аўтамат быў пераведзены з адзіночнага стрэлу. Алёша азірнуўся на Жаваранку — той пераходзіў па пяску на яго, Алёшаў, бок, спяшаўся. Немцы па пяску ішлі паволі, апусціўшы галовы аж на грудзі. Малады астаўся зноў...

Падняўшыся вышэй з лагчыны, узышлі на цвёрдую дарогу. Жыта з гэтага боку, дзе ступаў Алёша, расло воддаль ад дарогі, метраў за дваццаць, густое, цёмнае...

У жыце Алёша згледзеў нямецкую пілотку — махнулася з боку на бок... Ён тады адразу свіснуў, праз зубы, ціха сам сабе, і сарваў з шыі аўтамат... Немцы на дарозе адразу сталі: як падымаліся па сцежцы адзін за адным — наперадзе паджары, ззаду малады,— так і стаялі ля жыта, павярнуўшыся да яго, Алёшы, што ля сцяны на двары ў Юлькі...

Калі да яго падбег Жаваранка і стаў побач, Алёша паказаў рукой у той бок, дзе згледзеў пілотку, і, падняўшы аўтамат, пайшоў туды, да жыта, чапляючыся чаравікамі за падбярозку.

Ля самага жыта ён убачыў немцаў: чатыры пілоткі... Пачуў, што раптам вянуць ногі... Ступаеш — і як хто цягне назад...

Ён паказаў немцам аўтаматам — устаць з зямлі... Яны, усе чацвёра, падняліся — ляжалі дагэтуль на жыватах — і селі. Тады ён адразу пайшоў да іх, як раніцай да тых, што, падняўшы рукі, стаялі на выганчыку. Але ў гэтых рукі былі апушчаны на зямлю, і ён пачуў, што яго хапіла калючым холадам за спіну, усё роўна як на балоце, калі раптам згледзіш гадзюку... Ён яшчэ раз паказаў ім аўтаматам, каб яны ўсталі з зямлі і паднялі рукі...

Яны сталі падымацца памалу-памалу, і ён убачыў, што разам з рукамі ў іх падымаюцца чорныя кароценькія аўтаматы...

Закрычаў раптам Жаваранка...

Алёшу здалося, што гэта маці закрычала дома ў гародзе, ціснучыся да каня, а ў яго, Алёшы, у руках акучнік з вострымі ручкамі...

Ён яшчэ справіўся націснуць на курок — з усёй сілы,— але стрэлу свайго не пачуў: затрашчала раптам уперадзе ў жыце і ззаду за плячыма на дарозе — страляў, мусіць, Жаваранка...

Бу-бу-бу...— застукаў у жыце збоку ля чатырох немцаў чорны ручны кулямёт, Алёша згледзеў яго — якраз

такі, як на фатаграфіях, што асталіся ў Юлькі на пяску ля ганка... Убачыў, як там устаюць з зямлі немцы — іх поўна жыта — і толькі цяпер пачуў, што яго ўдарыла ў жывот... Як конь капытом... Заняло дыхаць... Ён не хацеў падаць на зямлю і, схапіўшыся рукамі за жывот, круціўся памалу на месцы... Убачыў яшчэ, як падаюць немцы, тыя, што стаялі адзін ля аднаго на дарозе... Выстаўляюць уперад рукі накрыж, як засланяючыся, і падаюць поперак дарогі ў траву... Перагнуўся, як зламаўшыся пасярод, паджары і ўпаў недзе пад сябе... Двое ў акулярах ляжалі на траве — тварам угару адзін ля аднаго... Астатніх ён не бачыў; толькі малады яшчэ, з шыяй, што ў курчаці, крatаўся на дарозе, як поўз угару, каб дастаць пілотку, якая ляжала ўперадзе на пяску ля яго рукі, і не мог...

«Будзеш зяцем...» — зарагаталі на двары ў Юлькі грузчыкі... Заблішчаў белы снег, і на ім запырскалі ад сонца іскры... Закруцілася ў вачах жыта, і пабегла сцежкай ля яго Альдзя. Даганяе веласіпедыста... Пасля яе падхапіў за руку партызан у кубанцы з шырокімі чырвонымі палосамі накрыж — і яны пабеглі ўдваіх пасекай ля ям пад Пагурак... Пераскакваюць цераз пні ў цемнаце, і партызан у кубанцы з шырокімі палосамі накрыж моцна сціснуў яе за руку — за пальцы... Недзе ўперадзе ля іх свяціў кулямёт — доўгім вострым полымем...

Задыміла ў хаце над сталом лямпа, і маці дыхнула ў шкелку — патушыла агонь...

— Гэта не тыя, сын, што на Вялейку ішлі... Матылі ў гэтых на касках...

Маці раскінула рукі крыжам, каб схаваць сабой і Сібірака і яго, Алёшу...

— Яхрэм...— паклікаў ён яшчэ Жаваранку і пачуў на зямлі, што ўпаў жыватом на аўтамат — на дыск, як на камень...

— На зямлю! Хлапец, маць тваю так!..— закрычаў Жаваранка і, як трымаў аўтамат у дзве рукі нізка ля калень, так і даў доўгую чаргу па чатырох немцах ля жыта. Убачыў, як падаюць на дарогу немцы, гэтыя сямёра, якіх яны вялі... Падумаў: як усё роўна спачатку з жыта білі па немцах, а пасля па Алёшу, бо той усё яшчэ стаяў, страляючы... Пачуў ужо на зямлі, як сыпанула пяском у

вочы і шпурнула травой, вырванай з карэннем... Ударыла ў паясніцу — у балючае ўжо месца і вышэй, у плячо...

Упаў на зямлю Алёша і больш не страляў. Доўга сакатаў у жыце ручны нямецкі кулямёт, пасля аціх, і адтуль у лагчыну хлынулі, падняўшыся, немцы, блізка адзін ля аднаго — табуном, як авечкі. У касках, з аўтаматамі, з ручнымі кулямётамі ў руках.

Жаваранка падумаў, што немцы, выходзячы з акружэння, рвуцца на Маладэчна, як і тыя сямёра, якія беглі раніцай у вёску... Іх тут поўна поле... Падышоўшы пад Найдорф і пачуўшы, што там танкі, яны павярнулі пад Жары. Чакалі, відаць, цемнаты, а можа, і днём хацелі ціха прайсці да Віліі пад Караліна, а адтуль павярнуць на Маладэчна, але, нарабіўшы стрэлу, выдалі сябе, не маглі больш сядзець у жыце і хлынулі праз лагчыну...

Дарогу яны перабягалі далей, абыходзячы пабітых немцаў, і Жаваранка пачаў адпаўзаць назад. Упіраўся рукамі ў зямлю, адпіхваючы сябе... Чуў, як востра баліць у крыжы і зверху ўся спіна. Убачыў на руках, на пальцах, кроў. Падняў рукі — кроў цякла з рукава, густа, аж капала на траву. Падумаў, што паранены, і не ведае куды.

Адпоўзшы назад, уваліўся ў баразну ля дарогі. Баразны на павароце былі паараны глыбака, да жоўтага пяску, і ён ляжаў цяпер, як у акопе.

Яго згледзелі. Секанулі кораценька з аўтамата. Над галавой зафыркалі, што вераб'і, зрэзаныя каласы; апяклі шчаку асцём, як прыскам.

Ён зірнуў угару на жыта... Каласы краталіся ад куль і ад ветру. Жыта тут адкрасавала, пачало налівацца; на каласах хоць дзе яшчэ жаўцелі вусікі і поўзалі зялёныя блошкі. Поўзаюць, тады густа замітусяцца ў вачах, засцілаючы свет... Не відзіш...

Калі ён доўга глядзеў на жыта, каласы пачыналі расці ў вачах, рабіцца вялікімі і ісці прама на яго...

Немцы!..

Засцілае вочы зялёная машка, круціцца ў галаве. Рукі не падымаюць аўтамат. Зрабіліся мокрыя, слізкія, нібыта ёй на ферме памачыў іх у чырвоную ад гліны ваду — у вядро...

З пальцаў на руцэ яшчэ горш пацякла кроў, капаючы на белае каменне на зямлі і на зялёны дурнап'ян. Забалела ўсё левае плячо, вострай рэззю, не павярнуць.

Добра, што цэлая правая рука...

Немцы бягуць цераз дарогу без сканчонага, хаваючыся за лагчынай у жыце — яно робіцца цёмпае, нібы перамешанае з зямлёй.

Калі яны пачынаюць бегчы, павярнуўшы на яго, ён бяміцца і страляе — кораценька, у два-тры патроны. Бачыць адразу, як упаў немец — бег ужо зусім блізка,— пастаяў, пасля асунуўся на зямлю. У пілотцы, чырвоны твар, відаць, блішчыць ад поту...

Здалося, гэта ў Юлькі на двары пад варыўнёй абваліўся на траву малады немец з доўгай ценкай курынай шыяй. З голаду...

«Можа б, я ім бульбы вынесла...» — хлябешча блізка ўперадзе аўтамат, і свішчуць над галавой кулі...

Немцы бягуць і бягуць цераз дарогу. Блішчаць ад сонца каскі на галовах, расхінаюцца фрэнчы, маленькія чорныя аўтаматы чапляюцца за жыта, згінаючы яго, круцячы і рвучы з зямлі з коранем. Грукаюць па зямлі цяжкія боты з шырокімі халявамі — відаць з-пад іх вышараваныя аб пясок белыя, як сярэбраныя, падковы і цвікі — шырокімі плешкамі.

Цяжэе рука, не можа падняць аўтамат... Каб націснуць на курок, трэба сціскаць зубы ад болю...

Ён зноў страляе адзіночнымі, і зноў яму сыпле ў вочы калючы пясок. На дарозе перад вачыма ўзнімаецца пыл...

У баразне яго не могуць дастаць. Баразна ля самай дарогі, глыбокая, у калена. Ён некалі сам араў такія барозны на полі ў канцы, каб з загонаў сцякала вада,— ішоў два разы з плугам, дастаючы наверх жоўты пясок з белым каменнем.

Зверху з дарогі ў баразну звісае белая дзяцельніца — грыўкай. Чуваць, як колецца ў рукі асот — вырас далёка ад вёскі. З баразны відаць боты з шырокімі халявамі... Калі яны зноў пачынаюць бегчы з жыта на яго, ён, спружыўшыся, падымае галаву і ловіць на мушку бліскучыя спронжкі на дзягах — на поясе... Націскае на курок з усёй сілы. Трасецца на зямлі аўтамат, трасуцца бліскучыя спронжкі ўперадзе на дарозе... І баліць плячо... Боль паўзе па ўсёй спіне, вышэй і вышэй, сціскаючы за карак, як абцугамі...

Немцы бягуць і бягуць, нібы і не чуюць яго аўтамата. Цяпер яны грукаюць нагамі вышэй на гары, пад шашу,— перабягаюць лагчыну далей, пад Найдорф, паварачваючы адразу ў лес пад Вілію...

Ён тады падымаецца вышэй, хоча падняць і аўтамат,

але не даюць плечы... Бачыць, што немцы зноў бягуць на яго. Ён заступіў ім дарогу. Адзін — цэлай часці, якая прарвалася праз Плешчаніцы і далёка прайшла ўжо ад іх — вёрст з трыццаць...

Канчаюцца патроны... Ён зноў надымаецца на руках, каб адпаўзці баразной назад, і зноў на яго бягуць, страляючы, немцы.

Ён тады націскаў і націскаў на курок, пакуль не перастаў трасціся аўтамат...

Упёршыся правай рукой у зямлю, ён зноў пачаў адпаўзаць баразной назад у лагчыну...

Наўскасяк ад яго на той бок дарогі груқнула аб зямлю граната з доўгай дрыўлянай ручкай. Ляжала зусім блізка — з ручкі нават быў відаць шэры шнурок, як слівень з нары...

З дарогі ў вочы сыпанула толькі сухім гарачым пяском — граната была без рубашкі.

Зрабілася на мінуту ціха... Звінелі толькі ад выбуху ў вушах ценка тэлефонныя правады, як дзе далёка... Пасля зноў задугалі па дарозе ногі, зашасталі па зялёнай траве і па жыце. Шах, шах... Чвяк... Як па чым мокрым.

...Гэта Кланя на ферме месіць нагамі ў яме на дне гліну. Згорбілася, ступае і ступае — хоча вылезці з ямы на дзядзінец і ніяк не можа. Пасля падае яму гліну рыдлёўкай на стол. Грук... Жалезная рыдлёўка стукае аб дзверы са свірна, пакладзеныя высака на ўбітыя калкі. Пад дзвярыма бразгае знізу кручок...

Цераз дарогу ў жыта пад лес бягуць усё яшчэ немцы...

...Зноў грукае рыдлёўка. Дома, на двары ля хлева... Гэта ён, Жаваранка, робіць ля хлева на зямлі печ — кладзе цагліну на цагліну. Высака, уровень з хлевам...

Абрываецца печ, і цэгла падае пад хлеў, разлятаецца на паўцагелкі, і яны коцяцца ў дзверы аж на праціўню... Перад вачыма на двары ляжыць адна рыдлёўка з жоўтай драўлянай ручкай, як нямецкая граната...

— Валодзя!.. Вылазь з гразі! — гэта Кланя кліча хлапца на ферме ад студні...

— Пальку дай... Дай пальку...— плача Антупінка ў хлеве на памосце, на сене.— Ты мой тата, і ты мяне любіш...

Адплюшчыўшы вочы, ён убачыў неба — белую шырокую паласу. Неба было высокае, як і тады над Пагуркам, калі ён ляжаў у заслоне. Пачуў раптам, як сакоча густа кулямёт, усё роўна як не адзін, недзе ля Найдорфа, пад

самым лесам. Пачакаўшы, там загудзела; пасля залязгала жалеза...

Калолася ў шчаку трава ў баразне, як леташняе сена ноччу ў хлеве. Ён падняў галаву — пачуў, што можа яшчэ падняцца сам. Рэзала ў паясніцы і вышэй, у грудзях — яны былі ўсе мокрыя і ліпкія,— і аднялося зусім левае плячо.

Аўтамат быў цяжкі, што каса ў густой траве, і ён чуць падцягнуў яго да сябе.

Круга яго краталася ад ветру жыта. Высокае — каласы аж у неба. Здалося, што на зямлі ўсюды адны толькі каласы... І бразгат жалеза...

Ён падумаў, што ў Найдорфе ідзе бой: не ацiхаюць з двух бакоў кулямёты і ракочуць танкі...

Зачапіўшыся рукой за траву — за грыўку дзяцельніцы ўгары над баразной,— ён падцягнуў сябе бліжэй да дарогі.

Немцы на дарозе больш не беглі; ён убачыў, што яна ўся здрабежана нагамі. Ад яе пахла пылам; і калі ён хапаўся за траву — і трава пахла пылам, горка і суха, як палыном.

На дарозе было ціха, і ён выпаўз на яе з баразны. Падумаў толькі цяпер, што рана ззаду на плячах — не паглядзіш і не завяжаш... Што трэба ісці, падняцца і ісці ў Горна, бо, лежачы, сцячэш крывёю...

Пачуў, што не можа ўстаць, не сагнецца ў крыжы — ляжыць, як пад бервяном.

Ён ляжаў, слухаючы, як разгараецца бой у Найдорфе і як недзе блізка ракочуць танкі.

Каб толькі падняцца... Здаецца, пайшоў бы...

Ён апёрся аб цвёрдую дарогу правай рукой — ля рукі быў абкручаны ў два разы рамень аўтамата — павярнуўся на балючы бок, каб падцягнуць уперад, сагнуўшы ў калене, нагу, і зноў бразнуўся грудзьмі на дарогу: разанула ў паясніцы і схапілі колькі — з бакоў... Пачуў, які ён зрабіўся цяжкі і якая цвёрдая зямля...

Ляжаў, сцяўшы зубы ад болю, і глядзеў цераз дарогу ў жыта. Здрабежанае нагамі, яно ўставала з зямлі: трашчала спалавелым сцяблом, як у агні, і падымалася — само. З ветрам запахла цёплым, нагрэтым на сонцы маладым зернем...

Спружыўшыся, як і перш, ён падцягнуў пад сябе з натугай адну, пасля другую нагу, апёрся рукой аб зямлю і стаў на калені. Аддыхаўшыся, падняў аўтамат, паста-

віў ствалом уніз і, узваліўшыся на яго грудзьмі, пачаў памалу падымацца на ногі. Падняўшыся, расставіў ногі і ўхапіўся правай рукой за прыклад, сцяўшы яго ў пальцах,— дрыжала рука, і дрыжаў прыклад.

Хацеў адразу ўбачыць Алёшу, але яго не было відаць — ляжаў, мусіць, ззаду, вышэй на горцы... Пасля ён згледзеў немца, таго старога ў вялікай пілотцы, што на двары ў Юлькі загаварыў з ім пра Найдорф. Немец ляжаў, падагнуўшы галаву пад сябе, напроці — на той бок дарогі ў жыце.

У руцэ ў яго быў сціснуты Алёшаў аўтамат — ля самага дыска, і ляжаў той галавой да шашы, адкуль ішлі эсэсаўцы. На пяску на дарозе ля яго блішчалі на сонцы рэдкія жоўтыя гільзы...

Жаваранка падумаў на міг, што ўсё можа быць, што немец у вялікай пілотцы, падпоўзшы, забраў Алёшаў аўтамат і адстрэльваўся ад эсэсаўцаў разам з ім, Жаваранкам... Толькі ён не чуў...

У лагчыне лязгалі гусеніцамі танкі — ішлі па ўсім полі па жыце сюды, да садоў і да шашы, з Найдорфа...

Ён стаяў на дарозе, апёршыся на аўтамат, і чуў: доўга не пастаіць. Убачыў уперадзе Найдорф — сіні далёкі лес... Нагнуўся ў той бок і слухаў, як там ідзе бой. Танкі білі з гармат. Відаць, эсэсаўцы рваліся туды і з шашы праз Горна...

«Сваё на зямлі трэба паваяваць... Рукі свярбяць дагэтуль, што тады не секануў па немцах, калі вёз гарох ад Рабога Калодзежа. І ў тых на касках былі белыя плямы — чарапы...»

Угары, у бок Плешчаніц, над самай галавой, здаецца — зачэпіцца на полі ля шашы за каласы, праляцеў «дуглас» — павёз раненых.

Жаваранка чуў, як пад нагамі круціцца зямля: шэрая, з бурымі плямамі на полі на жыце, і думаў, што выжыве... І цяпер выжыве, не можа быць... Як і тады пасля міны на пасецы ля Пагурка... Бо сюды падымаюцца з лагчыны ад Найдорфа танкі... Ідуць па ўсім жыце да шашы, адкуль нядаўна хлынулі эсэсаўцы...

Ён павярнуўся да іх і ўбачыў збоку на дарозе немцаў — шасцёх, тых, якіх гналі з Венеры. Воддаль іх ляжаў ля дарогі на траве Алёша. За ім на зямлі ў жыце відаць былі каскі з белымі плямамі — блішчалі цьмяна, што каменне.

Горача зрабілася ў грудзях, як ад агню... Ён кашля-

нуў. З рота пайшла кроў, нібы прарвалася адкуль. Здалося — салёная, аж горкая...

Ён, апёршыся рукой на аўтамат, ступіў да Алёшы, і ў яго папаўзла з-пад ног зямля — як паслізнуўся на мокрай гліне на дзядзінцы ля фермы... Падаючы, убачыў блізка ў лагчыне танкі...

«Нашы... Такія ішлі праз Пячное...» — яшчэ пазнаў ён і грукнуўся ніц на дарогу ў густы і горкі, як палын, пыл. Здалося, паляцеў галавой у яму на ферме ад стала з глінай...

Бразнуў парожнім дыскам аб цвёрдую сцежку аўтамат...

Ён пачуў яшчэ пасля, як яго падня́лі і паклалі, мусіць, на танк — усё роўна што на ферме ля ямы на стол. Здалося — высака-высака ад зямлі...

На ферме ў яме ля кароўніка з рыдлёўкай у руках асталася Кланя. Недзе далёка, як на краі свету...

— Эх вы, героі...— клікала яна з ямы дзяцей.

Закалыхалася над галавой белая паласа неба, загудзелі правады, як дома зімой ля хаты, і, абарваўшыся, сціхлі...

## 11

Сонца вісела ў канцы Венеры, нізка, над самым лесам. Вялікае, чырвонае; перад ім, калі глядзець, дрыжаў дробны жоўты пыл, слепячы вочы.

Мякчэла летняя сухая духата; чуваць было, як у вячэрняй скупой вільгаці нясе гарам — недзе гарэў торф.

За Жарамі, у бок Найдорфа, грукала і грукала; пачалося, калі сонца схілілася на адвячорак, і не сціхала.

За спаленым мастом па дарозе з Венеры ішла з подбегам Кланя, спатыкаючыся і задзіраючы галаву, каб убачыць далёкі сіні лес ля Найдорфа, дзе грукала, як нядаўна на Дзвінасе...

На руках у яе, ашчапіўшы за шыю, калыхалася маленькая Антунінка; забягаючы наперад, скакаў па пяску Валодзя — бег пераймаць бацьку.

Пад нагамі на дарозе пылілася сухая, патрэсканая і цвёрдая, як цэгла, зямля...

*1975*

# СЦЯПАН ЖЫХАР СА СЦЕШЫЦ

АПАВЯДАННЕ

1

Чалавек заўсёды смялейшы на тых сцежках, якія ён шмат таптаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2

Тут паварочваў трамвай, тут канчаўся і горад. Ад павароту Пецю Гурбану трэба было прайсці яшчэ шашой, каб падняцца на пагорак, дзе пачынаўся стары Лагойскі тракт. З пагорка добра быў відаць горад — паўночная ўскраіна,— з бурымі, як дзёгаць, дымамі над комінамі, з белымі і жоўтымі клеткамі невысокіх дамоў у новым раёне; з пераплеценымі, што павуціна, радыёмачтамі над чырвонымі цаглянымі домікамі, што стаялі недалёка ад дарогі.

Сонца, схіліўшыся на захад, пякло яшчэ і плавіла асфальт — ён, здавалася, аж пырскаў з-пад машын. Пахла яловай смалой, і дзёрла ў горле. Заліваў пот, хацелася піць.

На пагорку, адышоўшыся ад дарогі і саставіўшы клункі ля тэлеграфнага слупа, галасавалі «пасажыры» — усе разам: жанчыны з вёскі, пассоўваўшы хусткі з галоў на плечы; няголены інвалід — з палачкай у руцэ і на мыліцы — быў ён у клятчастай новай жоўтай сарочцы, усё выціраў рукавом твар; маладая таўставатая дзяўчына ў шырокай чорнай спадніцы і з касой на малінавай кофтачцы. Пасля Пеця Гурбан падумаў, што яна, мусіць, маці, бо ўсё падыходзіла да слупа і, закідваючы за плечы тоўстую

касу, якая спадала ёй на грудзі, кратала дзіцячую новую калясачку — недзе купіла і везла дамоў. Воддаль ад іх, падаставаўшы насавыя хустачкі, махалі адна перад адной дзве дзяўчынкі з рамеснага, у чорных картовых сукенках з белымі каўнерыкамі, ля ног у іх стаялі два маленькія чамаданчыкі.

Гэта былі людзі, якія не хацелі ехаць некуды на вакзал, таўчыся там ля касы ды чакаць аўтобуса,— яны падаліся, спадзеючыся на спадарожныя машыны і на «добрых» шафёраў, якія наколькі там ужо, а на дзесяць капеек, лаячыся, саступяць. Было тут некалькі «кабецін на Маладэчына», тыя, што з «ванзэлкамі», з імі «галасаваў» і інвалід; былі і «на Бегамля» — гэтыя з «хатулькамі» і «шклуначкамі»,— да іх далучыліся і дзяўчаткі з рамеснага.

Пецяя Гурбан доўга стаяў воддаль, старонячыся кампаніі, пасля да яго, адлучыўшыся ад «цётак на Бегамля», падышлі дзяўчаткі з рамеснага, пазіралі коса спадылба, але не зачапілі,— і ён маўчаў.

«Дзе воз мудрасці, там і тры дурасці. Трэба было ісці на вакзал...»

Ён падышоў бліжэй да тэлеграфнага слупа. Ля клункаў на зямлі ў ямцы на выгаралай рудой траве валяліся рваная камера ад зісаўскага кола, прысыпаная жарствой і прыціснутая кавалкам белай цэглы; былі рассыпаны запалкі; папрыліпалі да пяску акуркі і пачкі ад папярос. Усюды былі сляды ад гумовых ботаў,— відаць, тапталіся тут усю вясну і лета людзі з вёскі.

Смажыла, хацелася курыць, але не было чаго.

Ужо даўно падабрала новенькая машына-будка «кабецін на Маладэчына» і тоўстую жанчыну з каляскай; сеў у кабіну «аж да хаты» няголены інвалід; «бегамскія» цёткі ўкуліліся ў кузаў да маладзенькага лысага шафёра і закапаліся ў мяшках, як мышы,— шафёр страшыў інспекцыяй,— а на Сцешыцы ці хоць бы ў той бок машыны не ішлі.

Пеця Гурбан застаўся адзін ля слупа: ад яго пасля адышліся і дзяўчаткі — селі пад дашчаты частакол у цень.

Было горача і сумна. У горадзе гулі машыны, на кальцы званілі трамваі, і Гурбан, павярнуўшыся ад сонца, прыпёрся плячыма да слупа.

Стаяў ён, мусіць, доўга, бо пачалі балець ногі. Не згледзеў, як з'ехала з шашы машына, пачуў толькі, як скрыгатнулі, як хто зубамі, ззаду за ім тармазы і бразнулі аб

кузаў дзверцы. Ускочылі з-пад частаколу, што спалоханыя, дзяўчаткі.

— А-а-а... Пятух... Здароў. А што гэта за канарэйкі з табой? Твае? Не? Ну, здароў. А я не пазнаў. Пацісні маю руку... Куды? Дамоў? А ў кішэні — вецер? Знаю, раз выйшаў на дарогу. Студэнт. Нічога. Гора тваё не гора — а толькі пілюля. Глытаў сам, знаю. Марш у кабіну, а канарэек садзі ў кузаў, і з іх не вазьму, толькі хай прыкарэюць там, як камар да карыны. Ды ім, відаць, не прывыкаць. А бабак няма? Былі? Гм-дэ... Сплылі далары...

Што гэта Сцяпан Жыхар, Пеця пазнаў толькі тады, калі той, падняўшы сядзенне, вылез з кабіны і стаяў — адна нага долках, другая на падножцы,— закрываючы сваімі метровымі плячыма ў чорнай сарочцы ўсю кабіну. Вочы яго глядзелі ўніз, недзе пад ногі, пасма русых валасоў змокла да поту і прыліпла да лба,— падстрыжаны ён быў высока, і ад таго адтапырваліся чырвоныя, што з бурака, вушы і рабіўся доўгі, як гладыш, буры ад загару твар. Тонкі доўгі нос у яго хадзіў ходырам,— чалавек, разамлелы і распараны ў кабіне, дыхаў цяпер, што рыба на пяску.

...Стары ЗІС-5, відаць, быў пасля капіталкі, бо на ім стаяла новая драўляная кабіна і на пярэднім шкле быў падняты новы «дворнік». Матор гудзеў гусценька і роўна, пастукваў, як хто дзе палкай па частаколе, тады Сцяпан кратаў сваімі вялікімі нагамі ў новых жоўтых паўбацінках, клаў на рычаг руку, як сасновую лапату, на якой носяць у печ буханкі хлеба: мяняў хуткасць.

У кабіну дыхала цёплым ветрам, здавалася, што сядзіш на парозе ў натопленай лазні; свяціла ў вочы сонца, і Сцяпан моршчыўся, лаячыся.

Пеця Гурбан глядзеў на абочыну дарогі, дзе за канавай стаялі маладыя, пажаўцелыя ўжо ў сярэдзіне лета ясені, тырчалі састаўленыя стрэшкамі шэрыя шчыты, якія расстаўляюць зімой ад снегу; далей, дзе на павароце беглі насустрач белыя слупы, скошаную лагчыну ўсыпалі вароны: раскрывалі раты, нагіналіся, каркалі, але іх не было чуваць. Далёка ў полі стаялі брухатыя самалёты — тут быў аэрадром.

— Дык што, Пятух, не хвалішся,— Пеця Гурбан успомніў, што так яго дражнілі пасля вайны ў вёсцы, даўно тое было,— што не хвалішся, кажу. У інжынеры не вылез яшчэ? Доўга ты нешта вучышся. А ў салдаты цябе не заграбуць? — Сцяпан Жыхар глядзеў цяпер толькі на яго.

Здавалася, ён зусім забыўся, што сядзіць у кабіне, і вось-вось выпусціць з рук руль.

— Возьмуць, а што?

— А як вучоба? Не выгадна ж. Забудзешся.

— Вярнуся і кончу. Я ўжо на трэцім курсе.

— А на каго выйдзеш? Думаеш, я ўсё помню.

— Тэхнікам-ліцейшчыкам. На практыцы быў і астаўся на ўсё лета на работу. У мяне майстар добры. Дамоў еду да цёткі. Першы раз за ўсё лета...

— Н-тэк... Бацька з маткай прадалі хату і на цаліну з калгаса драпнулі. Думаеш, не вернуцца? Вернуцца. Дамоў, яно, цягне... Будзеш яшчэ на старасці іх карміць, не выкруцішся. Панкі, чуў, скора вернуцца, натуральна. Хату гэтыя, нябось, не загналі. Забілі вокны і дзверы, стаіць вунь, гніе будыніна, але ў запасе ёсць, нічога не скажаш. Панкі за жызню ўмеюць трымацца. Абедзвюма рукамі яны... Манька Панкова дык і дудку і вершнікі з сабой паезла. Х-хе... Самагонку на цаліну гнаць паехала. Рабіць дык яна, ведаю, як рабіла. Гультай. Злодзі. А дом ён цягне. У мяне там цяпер толькі мачыха. А вось, як падвярнулася машына на базе,— выпрасіў на нядзелю. Парожны не прыеду. Ты ж ведаеш, раней там і ў мяне цётка жыла, а цяпер і яе ў горад пацягнула. Але пакуль на работу не стане, я ёй не дам прадаваць хаты. Без работы — няма і кватэры, я-то знаю. А прадаваць сваю яна масціцца. Ды ну іх к чортавай мацеры... З бабамі ваяваць...— Сцяпан Жыхар паволі кратаў языком, як і нагамі, і яго нудна было слухаць.

— Яно і так можна, і так можна...— толькі і адказаў Пеця Гурбан.

Маўчалі. Азіраліся праз акенца ў кузаў на дзяўчатак. Тыя сядзелі на каленечках упобачкі ля барта, склалі галоўкі, як птушкі ў гняздзе, і глядзелі ўперад на дарогу. Вецер растрасаў, блэціў іхнія кароткія валасы. Дзяўчаткі жмурыліся і ўсміхаліся адна адной.

— А ты, Пятух, не прападзеш. Дзе б ні быў: у арміі ці за арміяй. Цяпер яно, брат, проста. Дзяржава, яна, брат, што квактуха. Глядзіць вас, курчатак. Кожнае курчо пад сваё крыло. А там ты ўжо і металург. У нашых Сцешыцах такіх яшчэ не было. Металург. Пралетарый... Рэвалюцыя... Вучыў. А там і Дзень металурга святкаваць будзеш. Ёсць такое свята, у календары відзіў. А вось ты мне скажы, а чаму няма дня шафёра? Што, шафёраў менш, ці што?

— Шафёры часта п'юць. Самі сабе свята робяць.
— Іш ты!
Сцяпан раптам змяніўся — не ўсміхаўся, супакоіўся, глядзеў на дарогу, налягаў на газ, пасля закратаў сваімі шырокімі, на ўсю кабіну плячыма:
— Я шафёр яшчэ той.— Пеця Гурбан успомніў, калі Сцяпан прыязджаў дамоў з арміі і гаварыў: «Я салдат яшчэ той».— У салдатах зладжыўся і правы цяпер маю. Думаю на базе з пад'ёмнага крана за руль сесці. І табе трэба ў салдатах пабыць. Занадта ты ціхі. Там, брат, разварушаць і язык падвесяць.— Сцяпан пляваў на пальцы і выціраў паўбацінак: пацелі ногі, і на паўбацінку выступалі белыя плямы. Рабіў ён гэта часта, відаць, прывык.— Але пра сябе трэба, брат, і самому падумаць. Бог, пакуль Адама ствары́ць, адпусціў сабе бараду. І ты дзеля таго вучыцца падаўся, і я еду, брат, у вёску, хоць там мяне, можа, ніхто не чакае.
Мільгалі слупы на абочынах з дарожнымі знакамі, пачынаўся лес, і ў вочы кінуліся падвешаныя на паваротце між дзвюх сосен вялікія квадратныя літары, якія былі збіты з аскобленых сасновых палак. «Лес — наше багатство» — можна было прачытаць зблізку. Насустрач пранесліся два матацыклы з каляскамі, адзін за адным; чырвоненькі трактар цягнуў два прычэпы з зялёным сенам.
Блізка быў вечар, сонца стала густое і мяккае, пачырванела на захадзе чыстае неба.
Пеця Гурбан не чуў, як стукае і гудзе матор, як распінаецца, балбочучы, Сцяпан Жыхар, як смяюцца ў кузаве дзяўчаты. Ён будзе скора дома, дзе вось гэтак, як цяпер, сонца заходзіць спачатку за горку ў канцы вёскі, і яшчэ доўга не цямнее, цягнецца вечар. У такі час ціха на двары, і, павячэраўшы, высыпаюць на лаўкі і прызбы ўсе ў Сцешыцах — гамоняць на ўсю вёску, забыўшыся, што сцямнела і што заўтра трэба рана ўставаць, да дня яшчэ, каб падаіць і выгнаць кароў на адранак. Звіняць вечарам над вухам камары, лезуць плоймай у вочы, аблепліваюць ногі, і тады ломіш у гародчыку адцвілы бэз, каб бараніцца... Гудзяць жукі, крычаць на балоце за ракой узагнаныя пад вечар пастухамі кнігаўкі ды далёка за лесам на полі ціха ракоча трактар. Пасля замаўкае і ён. Тады чуваць у тым канцы вёскі дзявочая песня. Яна спачатку ціхая, нясмелая, бо на вуліцы шмат яшчэ старых мужчын. Але хай яны разыдуцца ў пуні спаць на сена, тады песня паплыве над вёскай далёка-далёка за лясы... Пасля сціхае кні-

гаўка, узыходзіць з-за лесу поўны месяц, белы як снег; паўзе ў вёску з-за рэчкі з выгану туман, хаваючы ад вачэй платы і гароды; у небе, як ва ўчарашнім прыску вогнішчы, пырскаюць зоркі... І тады не чуеш, як мерзнуць ад зямлі босыя ногі...

Машыну было кінула ўбок, нешта стукнула ў кузаў, зазвінела; заківаўся руль у руках у Сцяпана, справа мігнулася грузавая машына,— і зноў яны былі адны на шашы. Пеця Гурбан помніў толькі, што ў машыны былі адкінуты дзверцы і шафёр у майцы, стоячы на падножцы, калупаўся пад капотам.

Сцяпан не згледзеў добра, ці што: зачапіў бортам дзверцы, і яны ўдарылі па шафёру.

— Эх... тваю... чорт!.. Глядзі, Пятух, ці будуць даганяць. Праваронілі... А той... зад падставіў, з'ехаць паляніўся... Я мог бы і пацалаваць. Але ж мой ЗІС пасля капіталкі. Такія штучкі ў капейку... Не гоняцца? Хаця, чаго... Сам разява. А дзевачкі што, прыціхлі?.. Сцюцюрыліся, як канарэйкі. Дзеці яшчэ, а тут шыбіна дзынкнула. Магло быць і горш. Відаць, руль, яно, трэба кожны дзень у руках трымаць, тады, можа, імпэт і нажывеш. А так... апомнішся па часе. Сваю машыну і лепш глядзеў бы... Сваё, яно, Пятух, беражэш. Мой напарнік, Жэнька з базы... На тым тыдні палучыў кватэру. Засяліўся. Шафу вёз, столікі, зэдлікі і ўсялякія там «цэтлікі». Па бруку трэба было яму з кіламетр прапхнуцца... Памагаў я. Сяджу ў кабіне і гляджу, што гэта з чалавекам робіцца. Ён ледзь ківаецца. Нагу з тормаза не спускае, упіўся рукамі ў руль, плячмі ўпёрся ў сядзенне, расчырванеўся, што ля агню, аж пот з яго вядром. Гэта ж, каб менш машына дрыжала. Чалавек сваё вёз. Яно-то сваё ёсць сваё, але каб так напінацца, не... Паглядзі, не гоніцца? Не? Ну і чорт з ім.

Уязджалі ў мястэчка. У кабіну пастукалі. Сцяпан з'ехаў з дарогі і затармазіў.

— А вы гэта куды, канарэйкі? Не з маім Петухом?

— Мы ў Жардзяжжа. А Петуха вашага не знаем.

— Не знаеце? Усё адно не вазьму з вас. Не бразгайце там сваімі гузічкамі. Цукерак купіце.

— Спасіба, дзядзечка. Давайце пацалуем вас...

— Гм... Канарэйкі. Ты відзіў. Пасмялелі ля дому...

— Мог бы кінуць вам Петуха, нацалаваліся б, але ён мне самому патрэбен.

Дзяўчаткі зарагаталі і, размахваючы чамаданчыкамі,

пераскочылі цераз капаву на жоўты пясок — на дарожку.

Зайшло сонца. Пахаладнела. У мястэчку на ўсю вуліцу крычала радыё.

Да Сцешыц было яшчэ далёка.

— Ацямнеем, Пятух. А на грэблі недзе блішчыць, добра ведаю. Дажджы ішлі. Ну, стукні дзверцамі, а то тут такі асфальт пачнецца, што...

Праз паўгадзіны сцямнела, і яны ўключылі святло. Але дарога была ў густым тумане, і ехалі як вобмацкам.

## 3

Вечарынку спраўлялі ў Панковай хаце. У Панка была вялікая сям'я; вялікая — на дзве палавіны — і хата. Стаяла яна цяпер — з забітымі вокнамі — уся абвешаная з гародаў і ад вуліцы чырвонымі рабінамі. У гародчыку буялі парэчкі і дзікая ружа з агрэстам. Сёння ўсё тут было аблажана і здратавана за адзін вечар. Частакол у гародчык быў паабрываны, і дзеці з усёй вёскі выерзалі дзве градкі, на якіх Панкова суседка, што жыла цераз вуліцу, пасеяла вясной гуркі. У Сцешыцах так: калі вечарынка — гароды не ўпільнуеш. Думай на каго хочаш, не злавіўшы,— была вечарынка, яна вінавата. Затое пасля цэлы дзень бабы клялі на вёсцы ўсіх дзяцей: і сваіх і чужых.

На двары ля сеначак і ля студні парос канаторжнік, і на ім цяпер вісеў, як расцягнутыя аборы, доўгі агурочнік. Ён нават ляжаў на палене, якое прыціскала дошкі на невысокім новым зрубе на студні.

Дзверы ў сеначках былі скінуты з крукоў і ляжалі пад абламаным частаколам. На іх цяпер і ўселіся дзеці, баючыся патыкацца ў хату,— пры агні былі не надта смелыя.

На другім баку вуліцы на прызбе, пад варыўнёй, сядзелі жанчыны, якія жылі блізка ля Панка і якім карцела не прапусціць ніводных танцаў у вёсцы.

На двары быў ціхі і густы пасля гарачыні вечар. Зорак на небе не было відаць — яго зацягнула смугой, а месяц узыдзе толькі недзе пад раніцу. На захадзе за вёскай палавела зара — яна цяпер не стухне да дня, ідучы загуменнем на ўсход, за пагорак.

На вуліцы глуха быў чуваць гармонік — з замураванай хаты — і стук абцасаў: тра-та-та, тра-та-та... У хаце было,

відаць, горача, бо хлопцы аддзёрлі ад акна, што з вуліцы, дошку і адчынілі фортку.

Пеця Гурбан стаяў на вуліцы, апёршыся на частакол ля студні, і глядзеў у акно: у хаце пры яркай лямпе насіліся ў кругу дзяўчаты. Гэта яны сёння самі справілі вечарынку, паслаўшы запіску гарманісту ў Дзвінасу,— яны цяпер больш за ўсё самі і спраўлялі вечарынкі ў Сцешыцах: хлопцаў сваіх не было, а на танцы прыходзілі трактарысты з брыгады, што асушала балота, з блізкіх вёсак прыязджалі «ўхажоры» на веласіпедах. Клуба ў Сцешыцах няма, і дзяўчаты «пускалі вечарынкі» ў хату па чарзе. Сёння вечарынка прыйшла да Лілі Міронавай, але бацька яе не пусціў нікога і блізка на парог. Тады Ліля выпрасіла хату ў Юлькі, якая сцерагла Панковы вуглы і жыла цераз вуліцу.

Пеця Гурбан схадзіў ужо і польку, і кракавяк, і страданне, але танцаваў ён нязграбна, і дзяўчаты ішлі з ім у танец нехаця, нават Ліля моршчылася. Нарэшце яго за танцы нехта назваў «Рэпа», і ён, плюнуўшы на ўсё, выйшаў на вуліцу.

Аднекуль, мусіць, з Ляды і Камена панаехала на веласіпедах хлопцаў у чорных касцюмах і пад гальштукамі, яны пазастаўлялі двор веласіпедамі, паразганялі дзяцей куды каторае і паваліліі ў хату. Закрычаў на ўсю сілу гармонік, і ад стуку застагнала падлога. Паўставалі з-пад варыўні бабы і падаліся ў сенцы — паглядзець на чужых хлопцаў.

З'явіўся Сцяпан Жыхар — прыйшоў з вёскі. Доўга стаяў у варотцах, нібыта баючыся ступіць да Панка на двор, пасля свіснуў, як бы знайшоўшы чорт ведае што:

— Фі-іў... Ану ідзі сюды. Гэта ты, Пятух? Давай, брат, марш у хату! Я табе натапчу памяло... Каб лядскія адны нашы падлогі абівалі?.. А мы? Ды з намі пойдзе любая...

Сцяпан Жыхар быў п'яны.

— Расступіцеся, бабкі, здаровы былі...

Зайшоўшы ў хату, ён на парозе падхапіў Лілю, выйшаў у круг і, скрывіўшыся і паклаўшы на плячо галаву, заспяваў моцным сіпаватым голасам:

Дайце ходу, дайце ходу,
Дайце параходзіку.
Разрашыце пагуляць
Чужому народзіку...

— Здароў... Адкуль такі чужы з'явіўся? Ці даўно сам вечарынкі спраўляў...

— З'ехаў у горад і чужы...

— Ды ён мне за самагонку вінаваты. Можа, цяпер прывёз ды аддасць.

— А бадай цябе, як ты і гэта яму прыпомніла. Даўно ж было.

— Набраўся ж ужо ў некага. Ці ў Альжбеты, ці мо ў Волькі... Не прыйшла на танцы. А ходзіць жа.

— Ціш... Пачуе. У Волькі цяпер нямашака. Не гоніць.

Жанчынам трэба было за што зачапіць язык.

— Бабкі, бабкі! Цішэй там. Фесціваль устроілі. Сёння мне пад ногі не пападайся. Стапчу. Сёння я падкаваны. Спакойна там, у парозе. Свае людзі — расплоцімся...— І Сцяпан зноў сіпата закрычаў:

В'ёцца, в'ёцца над калодцам
Шэры вараб'ёначак...
Ой, ніўжэлі не найдзёцца
Для міня мілёначак?..

Пасля полькі гралі вальс; выстуквалі абцасамі і абцасікамі па хаце кракавяк, а Сцяпан Жыхар не выпускаў з рук белавалосую, тонкую, як саломінка, Лілю. Гойсаў, распіхаючы ў крузе дзяўчат, як бычок дзе на выгане разганяў цялят; тупаў паўбацінкамі, стоячы на месцы, тады круціўся на адных абцасах, адкінуўшы назад галаву і заплюшчыўшы вочы... Ліля неяк вырвалася ў яго з рук і шмыгнула ў першую хату. Ён не пабег даганяць яе,— ужо спагнаў сваё. Падхапіўшы каго папала, зноў рассунуў круг і пайшоў у танец... На яго ўжо касавурыліся хлапчукі ў чорных касцюмах і пад гальштукамі, але «пагаварыць» баяліся: такія плечы і рукі... А сваёй каротка стрыжанай галавой Сцяпан даставаў да столі.

Ліля, выскачыўшы з сеначак, убачыла Пецю на палене ля студні. Ён сядзеў, апёршыся галавой на рукі, і ўсё глядзеў праз акно ў хату. За яго плячыма на вуліцы шапталіся, штурхаючы адзін аднаго, дзеці.

Яна ледзь не стукнулася з ім і спалохалася. Стаяла, махаючы хустачкай ля шыі. Яны разам хадзілі некалі ў школу, а цяпер вось праз гады два як павырасталі...

— Надоўга прыехаў?

Ён усміхнуўся, адсунуўся і пасадзіў яе на бервяне на сваё месца.

— Ды не... На адзін дзень...

Маўчалі. Дзеці з вуліцы прасоўвалі праз частакол рукі, цягалі яго за сарочку, а яе даставалі і тузалі за рукаво. Яна паднялася і доўга сыкала на іх, як на гусей...

— Ідзі ў хату, а так недзе дзяўчат не хапае. Веласіпедаў, во, цэлы двор. Што са мной ля плота сядзець? За дзецьмі і слова не скажаш. Гароды паабрывалі, цяпер адзежу з плячэй ірвуць...

— Рэпа! Пятух! Фі-іў!..— закрычалі і засвісталі на вуліцы.

Яна і віду не падала.

— Мне на гэтых,— паказала на веласіпеды пад хлеўчыкам,— не пашанцавала. Як схапіў Жыхарчык на парозе, дык і ногі адтаптаў, муштруючы. Стары конь, а жартачак не кідае. Яшчэ пасля вайны, помню, калі мы дзяцьмі паказваліся ў хату на вечарынку, ён гойсаў. Тады яшчэ не так. Даваў дзягі ўсім малым. А цяпер, глядзі, і я яму спатрэбілася, у танец звадзіў. Як ён там жыве з Веркай у горадзе?

— Пра гэта ён мала гаворыць. А я ні да кога да тых, што з нашай вёскі, не хаджу. Ды і многа іх там. Як выехалі, дык назад ніхто ж не вярнуўся.

— Пабыў бы...

— Не. У панядзелак на першую змену. Я на рабоце.

— Ведаю. Юлька ваша гаварыла.

— А яшчэ што яна казала?

— А яшчэ я ні пра што не пыталася. Трэба, відаць, ісці. Нешта холадна.

Ён хацеў быў схадзіць за ёй у хату, але захліпнуўся гармонік, і ў хаце падняўся вэрхал. На двор першыя выбеглі дзяўчаты. Іх гнаў перад сабой Сцяпан Жыхар — куды каторую... Угледзеўшы на бервяне Лілю — яна была ў белай сукенцы,— затупаў цераз двор, лапаючы па кішэнях, дзе бразджалі запалкі,— шукаў закурыць. Пасля спыніўся пасярод двара і пачаў зыбацца на нагах. Твару яго ў цемнаце не было відаць.

— А-а-а, Пятух... Няблага ўстроіўся... А я думаў, ты са мной адлучышся. Чарку зрабілі б... Вечарам я цябе не знайшоў. Што? Не зломак ты, кажу. Не горш тых, лядскіх. Напінаюцца, шчанюкі. Пачарнелі ў танцах, што гаршкі. Ну, будзь здароў! Я пачапаў. Фесціваль кончуць і без мяне.

Сцяпан Жыхар зноў падаўся ў вёску.

На ўсю вуліцу крычалі дзяўчаты, смяяліся і курылі хлопцы. Нехта п'яны на ўвесь двор «шукаў у баб» самагонкі, нехта выкручваў пасля танцаў «мокрую, як юхта», сарочку...

На загуменні шырэй занялася зара, і пасвятлела на

вуліцы. Туман ад рэчкі прыпоўз аж да Панка ў гарод. Дзяцей што карова языком злізала. Разыходзіліся па хатах, гамонячы, жанчыны, каму трэба было рупіцца рана ўставаць; бразгалі кручкі і ляпалі вароты.

Пад лесам у канцы вёскі гукала сава, а ў тумане ляракі ржаў конь, там недзе кашлялі начлежнікі. Пахла гарэлым торфам, агуркамі і ўлежанымі яблыкамі-ападкамі.

Зноў азваўся гармонік, і ўсе пасыпалі ў хату.

Пеця Гурбан, адхінуўшыся да частаколу, чакаў, ці пойдзе Ліля. Яна не пайшла.

## 4

Дзверы былі запёрты, і ён доўга драгаў, пакуль не адчынілі.

— Што, на завалу ўзяла? Каго баішся?

— А-а... Гэта ты... Пакуль на плечы лахман ускінула...

— Ну, здарова...

— Як сабе хочаш. Чаго прыйшоў?

Агню ў сенцах не было, і Сцяпан доўга глядзеў: Волька гэта ці не Волька. Яна стаяла на высокім парозе ў хаце ў раскошнай сукенцы і чорнай жакетцы на плячах. Высокая, з расплеценай касой. У цемнаце былі белыя яе шыя і босыя ногі.

— Гм... Прыйшоў, і ўсё. Можа, дзеля гэтага і ехаў.

— Можаш ехаць назад. Не лезь на ногі. Босая я. Не бачыш...— яна хацела зачыніць дзверы, але ён піхнуў яе ў хату, ускочыў на парог, схапіў за плечы, хочучы, мусіць, прыхінуць да сябе. Яна рванулася і, вырваўшыся, адскочыла аж да акна. Ён адчуў, што ў яе падужэлі і пацвярдзелі рукі,— за гэтыя гады... Робіць дзень і ноч у калгасе,— падумалася яму.

— Буду крычаць, чуеш? Агонь запалю... Ты на нагах чуць стаіш.

— Крычы, палі, калі людзей не баішся.

Ён адышоўся да стала, што стаяў у кутку на высокіх ножках, пасля смела пайшоў да каморкі. Яна не кінулася да яго ад акна, і ён адразу падумаў: там нікога няма.

— Дзе сын?

— Валеркі ты не руш...— у яе голасе пачуўся плач і злосць, і Сцяпан, здрыгануўшыся, павярнуўся да яе на хату:

— Дзе ён? Спіць?

— На танцы адаслала...— яна раптам засмяялася скрозь слёзы.

Ён не ведаў, што рабіць.

— Ну што з табой, Оля?.. Я яму касцюмчык... Тут во... Шпінгалет недзе ўжо ладны...— ён ішоў да яе, вялікі, нясклaдны, здавалася, мяккі, і з ім можна рабіць усё, што хочаш.

Гэтага яна кожны раз баялася, а цяпер больш за ўсё.

Яна кінулася ў слёзы, пасля раптам неяк зледзянела ўся, бы яе аблілі на марозе вадой, сціснула абедзвюма рукамі на грудзях жакетку:

— Няма ў цябе сына! Гэта не твой... Не твой...— апошнія словы яна сказала шэптам, ціха-ціха, і яму было неяк дзіўна: «Не твой...» Ён раптам на хвіліну павеpыў у тое, што пачуў. Рукі ў яго абвялі, ногі сталі чужыя, не слухалі, і ён не мог цяпер пайсці з хаты, каб і хацеў. Падышоўшы паволі да стала, ён зашамацеў там паперай — на стале ляжалі газеты — і прысеў на лаву. Лава трэснула, зарыпела, пасля ў хаце зноў стала ціха, бы ў ёй нікога і не было.

— Я заўтра паеду...— раптам сказаў ён ні з таго ні з сяго.

Яна маўчала.

— Чаму не прыйшла на вечарынку? Ходзіш жа.

— Ведала, што ты там.

Яна, мусіць, здагадалася, што ён спытаў гэта так сабе, што пра Валерку ён яшчэ будзе гаварыць, і ў душы недзе радавалася, мусіць, помсціла яму хоць гэтым за ўсё.

Гарэла лямпа, скакаў у шкелцы белы агеньчык, дробненька, бы яго хто тузаў знізу, навязаўшы на нітку,— гэта пакуль угарэўся. На афарбаваную ў зялёнае сцяну лёг густы цень ад ружы і бальзамінкі, што стаялі на лаве ля акна ад вуліцы. На другім канцы лавы, на якой сядзеў Сцяпан, стаяў малады фікус у алюмініевым маленькім гаршчэчку, у яго ўпіраліся дзверы ад шафы,— шафа была прыадчынена. Убачыўшы на шастку сукенкі, Сцяпан адвярнуўся: яму стала несамавіта.

Волькі на хаце не было. Пасля, пераапрануўшыся, яна выйшла з каморкі, прычыніла шафу, стукнуўшы дзверцамі, і села з другога канца стала.

— Ну што ж. Госць дык госць. Як мой бацька казаў: і я ля гасця.

Сцяпан убачыў на ражку стала карабок сярнічак, успомніў, што хочацца курыць, але не знайшоў у кішэнях

папярос. Нарэшце ён падняў на яе вочы. Яна была зграбная і прыгожая, чуць-чуць папаўнела. Твар загарэлы, ад агню ружовы і адтаго зусім малады. Вочы вялікія, спалоханыя, бегаюць, не ведаючы, дзе дзецца,— яна ўсё-такі недзе вунь як перакалацілася. Каса ў яе была заплецена ў вузел, на поўнай круглай шыі скакала жылка. Сцяпан закратаў плячыма, пад ім заскрыпела лава,— ён стаў пазадымацца.

Яна ўзняла на яго вочы — шэрыя і калючыя, яны блішчалі.

— Не бойся, калі і разваліш. Не гэта разваліў.

З ёй сёння цяжка было гаварыць, ён пачуў — і пачынаў шукаць, адкуль бы падступіцца.

— Не баішся, што людзі нас згледзяць, ідучы з вечарынкі?

— Бойся ты. Я сваё перабаялася. Я іду замуж.

Зноў стала ціха. Яму здалося раптам, што ён лучыў недзе ў чужую вёску і яго апанавалі сабакі. Ён не паверыў таму, што пачуў... Звыкся, нават жывучы далёка ад вёскі, што недзе там, у Сцешыцах за грэбляй, ля самай дарогі на павароце, калі ехаць у вёску, жыве яна. Адна — маладая, з чорнай касой на грудзях, без мужа... Жыве — дзеля яго. Можа, нават часта чакае, каб прыехаў. Прыехаў, бо яна знебылася па ім, бо без яго ёй не жыццё, а з ім — яна плюе на ўсё на свеце. Бо калі яна з ім,— што ёй да таго, што ў яго ў горадзе жонка, што плявузгаюць у Сцешыцах бабы, ідучы ля яе хаты кожную раніцу на работу. Бо калі яна з ім,— нікога для яе няма. Яны — двое на свеце. Ён і яна... А Валерка?

Сцяпан першы раз за вечар адвярнуўся: яму не хацелася цяпер глядзець на яе, ён ведаў, што пазнае па яе вачах: усё, што сказала яна,— праўда.

За акном ціха стаяла цёмная вярба. Яна заблішчыць толькі пад раніцу, калі ўзыдзе месяц і будзе ўся што заінелая, як і тады...

«Як даўно было...» — падумаў ён і адчуў, што цесна за сталом.

— Я выходжу замуж. Ён экскаватаршчык. Паехаў на нядзелю дамоў. Я з ім даўно...

Ён лавіў кожнае яе слова: натапырыўся ўвесь, плечы ў яго падняліся ўгару, аж сарочка ля шыі сабралася ў складкі. Ён чакаў, што яна скажа яшчэ, і нечага баяўся.

— Блага, Сцяпан, пра мяне не думай. Ты ў мяне быў адзін... Я выходжу замуж...— гэта яна сказала хутка-

хутка, і ў голасе ў яе была радасць, тая радасць, якой даў веры нават ён і якой мо гэтулькі чакала яна, хаваючыся ад усіх, доўга і ў пакутах, каб цяпер сказаць яму, самаму некалі блізкаму і цяпер самаму нялюбаму чалавеку, якога яна ненавідзіць...

Ён хуценька павярнуўся на хату, аж крутнуўся. Убачыў яе і ўвесь падаўся цераз стол, мо інстынктам, а мо раптам забыўшыся на ўсё. Яна была чыстая з твару, аж белая; вочы яе сталі чорныя і блішчалі. Яны глядзелі на яго. Яны былі рады, і яны зноў маладзілі яе на ўсе тыя доўгія чатыры гады... Ён падняўся быў з-за стала і рвануўся да яе, але вочы ў яе былі спакойныя, як у чалавека, які вунь як напрацаваўся, а цяпер сеў, каб на адну толькі хвіліну адпачыць і ўспомніць, што ў яго ў жыцці ёсць радасць.

Ён спыніўся, яму здалося, што нехта дужы схапіў яго ззаду за сарочку. Стала горача... Гарачыня пасля абдала яго ўсяго, ён пачуў, як у яго тахкае сэрца і стукае жылка на скроні. Цяжка было ў грудзях,— здавалася, уся гарачыня збіралася сюды. У горле было горка. Пасля ён забыўся на ўсё гэта, яго абдало густым холадам, бы гэта ў хаце хто выбіў акно і з двара з начы дыхнула сцюдзёным ветрам. Ён адчуў пасля, што нешта абмякла ў яго ўсярэдзіне і стала лёгка-лёгка... Як праз туман на другім канцы стала ўсміхаліся вочы. Ён павёў даланёй па твары: яна стала мокрая. Ён здагадаўся тады, што плача. Падумаў яшчэ, што плача перад ёй першы раз за ўсе чатыры гады.

І яму стала шкада сябе і яе, бо мо яна без яго не раз плакала.

Ён сеў і падпёр кулакі пад падбародак. Глядзеў на не накрыты абрусам край стала, на выглянцаваныя сасновыя дошкі, сашрамленыя нажамі і відэльцамі. Яму мігнулася было ў галаве, што гэты стол пабачыў за сваё жыццё і голад у вайну, і бясхлебіцу,— неабразаную дробную бульбу, а то і проста гаршчок з заціркай, непрыбеленай і непрыскваранай; ён жа, стол, і ламаўся ад яды ў багатыя вяселлі, калі яго пазычалі суседзі. (Сталы на бяседы ў Сцешыцах людзі заўсёды пазычалі адзін у аднаго.) Цяпер ад стала пахла салёнай рыбай, і Сцяпану карцела спытаць, як яна, Волька, усё ж такі жыве з Валеркам, але яму нешта гнула шыю, і ён не мог падняць галавы.

— Ты недзе думаеш пра сваю Верку. Знаю... Ты яе вельмі любіш... А ў мяне ты сваё ўжо ўзяў. Можа, толькі

душа баліць, што цаніць не мог,— пачуў ён, як сказала яна, і аж уздрыгнуў: пра Верку ён цяпер не думаў.

— Я, Оля, дзяціны бацька, і ў мяне яно адно...— Ён не падымаў вачэй, і яна не дала яму дагаварыць.

— Валерка мой. Не прападзе. Быў бы ў хлапчаняці бацька...— Яна памаўчала і сказала, відаць, не тое, што хацела: — Не мацюкалася б яно. А то ўсё прыносіць з вуліцы, што пачуе.— Яна сціхла і, здалося яму, закраталася на другім канцы лавы: — Але я выйду замуж...

— А дзе Валерка? — яму цяжка было слухаць якраз тое, пра што яна несціхана гаварыла.

— Я сказала. Я яго на вечарынку пусціла. Кавалер...

Сцяпану раптам успомнілася, як за ім сёння ўвечары ішлі ззаду дзеці з усёй вёскі, дражнілі «Гусаком» і кідалі ўздагон агрызкі ад агуркоў. З усімі быў недзе і Валерка. Не ведаў ён, што гэта ішоў яго бацька, а каб ведаў, то мо пусціў бы ўслед не агрызак, а камень. А мо і не кінуў бы, хто ведае. Дзеці заўсёды добрыя.

Яны маўчалі. У хаце было ціха, і чуваць былі галасы аж з вёскі з вуліцы. Ён нарэшце падняў вочы на хату. Каля лямпы пырхаў маленькі сівы матылёк, уляцеў, відаць, вечарам, на агонь, калі было расчынена акно.

Пасля ён скоса зірнуў на яе,— яна сядзела, як і перш, толькі неяк падалася наперад да яго, і яе рука, што ляжала на стале, дрыжала, здавалася, што Волька ў глыбокім одуме перабірае пальцамі. Чорная жакетка ў яе спаўзла з плеч і ляжала ззаду на лаве. У вачах у Волькі была тая ж радасць, і яму здалося, што ўсё тое, пра што яна гаварыла цэлы вечар,— зман... Яна рада яму, каго так доўга не бачыла і чакала. Ён угадаў гэта па яе вуснах — яны так заўсёды варушыліся, крыху адтапырыўшыся і дрыжучы, калі яна хінулася сама да яго...

Калі ён нарэшце смела глянуў ёй у вочы, то здзівіўся самому сабе: як гэта ён яшчэ не пацалаваў яе...

Ён глядзеў на яе і, мусіць, усміхаўся, бо ўсміхнулася яна. І ў яе зноў затрымцелі вусны...

Тады яго падхапіла з месца...

Ён помніў, як Волька ад яго чамусьці загарадзілася рукамі, пасля закрыла твар...

— Оля...— Ён успомніў яшчэ, што такім шэптам зваў яе заўсёды там, за перагародкай, дзе грубка.

Калі ён схапіў яе на рукі, пачуў, што яна такая ж, як і была некалі, зусім не пацяжэла. Ён, забыўшыся на ўсё, шукаў яе вусны і не ведаў, чаму яна закрываецца рука-

мі... Пасля яго раптам ударылі недзе пад грудзі. Яму здалося, што гэта ён усё яшчэ за сталом: падняўся нечага, і гэта яго Волька зноў цягне сесці, бо ён доўга стаіць, і ў яго закруцілася ў галаве. Ён разняў рукі, якімі трымаўся за рог стала, і стаў апускацца на лаву. Але раптам патухла лямпа і лава далёка-далёка адсунулася ад яго. Ён удрыўся галавой аб сцяну... Здалося, грукнулі дзверы і некуды выбегла Волька. Ён хацеў яшчэ клікнуць яе, але балюча было дыхаць... Нарэшце яму сцяла горла, і ў вачах стаў вялікі чорны павук.

Ён не ведаў, што сам, як павук, падкурчыўшы пад сябе рукі і ногі, ляжаў на падлозе ля самай дашчатай перагародкі. На галаву яму звешвалася тоўстая суконная ў клетку пасцілка, якая замест дзвярэй закрывала ўваход туды, куды некалі хадзіў ён, Сцяпан.

Ідучы цераз доўгія цёмныя сенцы, выставіўшы ўперад рукі, каб не наткнуцца на што, ён чуў, як шаркаюць па няроўнай глінянай падлозе яго ногі і далёка, прыглушана, цяпер ужо за сценамі, плакаў дробненькім голасам яго сын — Валерка. Моцна гаварыла Волька, але ён не разбіраў, што. Мусіць, угаварвала Валерку.

У сенцах пахла сырой глінай і вялай травой,— канаторжнікам і палыном. Сцяпан пачуў, як яму падварочвае пад грудзі,— ён прыхінуўся да сцяны і піхнуў нагою дзверы. У сенцах павіднела, і ён, бачачы, куды ісці, паваліўся на двор.

Кружылася галава,— ён апёрся локцямі на частакол і ўспомніў, што яго ўдарылі ў хаце.

— Эх, тваю...— вылаяўся ён.

З-пад частаколу пахла палыном, але радзей, чымся ў сенцах; зводдаль, з град, несла агуркамі і кропам, і Сцяпан, разявіўшыся, дыхаў і дыхаў на ўсе грудзі.

Пачуўшы зноў з хаты галасы, успомніў, як Волька падняла была крык, калі ён курчыўся на падлозе. Не праз яго спалохалася,— прачнуўся Валерка і выбег з другога пакойчыка з-пад пасцілкі на хату, тручы вочы кулачкамі. Яму, Сцяпану, манілі. Хлопчык быў дома і ўсё чуў... Ляжаў толькі ў пасцелі ні жывы ні мёртвы. Баяўся...

Волька падхапіла яго на рукі, занесла за перагародку і хуценька вярнулася:

— Уставай, Сцяпан... Ідзі. Сам відзіў, якая я цяпер...— голас у яе быў ціхі, яна, відаць, стрымлівала сябе. Пасля

закрычала раптам на ўсю хату: — Я даўно пракляла і тую ноч, і тое месца... І тады ты быў такі ж п'яны, як і цяпер...

Сцяпан згледзеў, як паляцеў з лавы ў сенцы праз расчыненыя дзверы скрутачак у белай паперыне.

«Касцюмчык,— падумаў ён.— Дурніца... Чаму яна не крыкнула «вон!»? Як гоняць з хаты, крычаць «вон!».

Калі ён падняўся і, апіраючыся на дашчатую сцяну, сунуўся да дзвярэй, яна ішла за ім ззаду, і на руках у яе быў Валерка. Выскачыў, відаць, зноў з-за пасцілкі. Сцяпан нават не зірнуў на яго,— нечага баяўся, каб падняць галаву.

...Ён стаяў цяпер, апёршыся на частакол, і дрыжаў ад холаду. Тут блізка было да ракі, і туман вісеў аж над страхой над свіронкам, што стаяў на другі бок вуліцы ў аселіцы. У канцы вёскі, ля Панка, дзе была вечарынка, нехта яшчэ гаманіў,— усё было чуваць аж тут, ля Вольчынай хаты.

Сцяпан агледзеў, што ля ног у яго была лавачка з новай дошкі. Хацеў быў сесці, павярнуўся нават і выпусціў з рук частаколіну. Але на лаўцы сядзеў чорны кот, стары і вялікі. Не зважаў на яго, хроп курню. У Сцяпана памякчэла на сэрцы.

— Ка-цы, ка-цы, ка-цы... Катапу-у-льт...— паклікаў ён.

Кот сціх і падняў на яго вочы. Жоўтыя-жоўтыя.

— Ка-цы, ка-цы...— Сцяпан асунуўся на лаўку і падняў рукі, каб пагладзіць ката, але той, зафыркаўшы, ускочыў на лапы і выгнуўся, як вялікі чорны абаранак. На хвасце ў яго ўстала поўсць.

— Катапульт чортаў! — Сцяпан вылаяўся на ўсю вуліцу. Яго раптам ахапіла злосць на ўсё на свеце. У яго заляскалі зубы. Ён адчуў, што мерзне, і падняўся, каб ісці аж у канец вёскі, за лагі, дзе ён паставіў машыну ў сваёй мачыхі.

Калі ён ішоў вуліцай, чуў, як з хлявоў пахла сенам, як недзе за аселіцамі ў тумане пісклявіла качаня, адбіўшыся ад маткі.

На ўсходзе, у кутку за вёскай, па небе як бы хто расплёхаў размешаную гліну, бралася ранішняя зара. На вуліцу краўся дзень.

## 5

Што ён уграз, Сцяпан пазнаў адразу, калі матор аж зазвінеў як напятая струна. Ён даў назад: колы круціліся на месцы, і праз аконца ў кабіне было відаць, як асядае кузаў. Здалося, што паніжэла сядзенне. Сцяпан выключыў счапленне; выцер белыя пляйстры на паўбацінку. Дастаў з кішэні памяты пачак папярос, закурыў і плюнуў. Саскокваць не трэба было, ён проста ступіў на траву: падножка ляжала на самай зямлі. Абышоў вакол машыны, згінаючыся і заглядаючы пад рэсоры, якія аселі на гнілыя альховыя абломкі, пасля адышоўся і глядзеў на скошаны зашыек на балота, якое адгэтуль ішло лесам да Сцешыц. Яно было роўнае і зялёнае, як вясной: на ім парасла атава. Ля бярэзніку, відаць, дзе сушэй,— адзін ля аднаго стаялі два рудаватыя худыя стагі. Ля мастка, што быў воддаль ад дарогі, і па якім некалі тралявалі з бору дрэва леспрамгасаўцы, і па якім хацеў рыскнуць праехаць і Сцяпан, тырчалі дзве сухія тычкі. Насупраць іх з аднаго і другога боку зашыйка вылазілі з балота два новыя сасновыя слупы: тут ішлі межы.

Убачыўшы над зашыйкам конюха, ён успомніў, як сёння раніцай прыйшла ў хлеў будзіць яго Альжбета, дзе ён спаў на сене. Пасля, калі ён мыўся на двары ля студні, бачыў, як яна на лагу, згінаючыся, збірала ў падол пер'е — там хадзілі калгасныя гусі. Згіналася аж на каленечкі: была хворая і нядужая.

— Усё роўна ў пярыне не пахаваюць!..— выплюнуў ён з рота акурак і, уваліўшыся ў кабіну, уключыў счапленне і націснуў на газ.

Матор роў на ўвесь лес, дрыжаў, і здавалася, вось-вось выскачыць з-пад капота. Сцяпан варушыўся, напінаўся, пацеў, выціраў рукавом пот з ілба і зноў са злосцю сціскаў рукамі чорны каструбаваты руль. Глядзеў, як трасецца за шыбамі зямля, і яму здавалася, што трасецца, апусціўшыся на каленкі, Альжбета, трасецца, седзячы на край стала, Волька, трасецца ён сам, точачыся пад раніцу ў сена і не могучы ніяк сагрэцца. Ён у сене, так і не сагрэўшыся, заснуў знянацку. Доўга пасля яшчэ падхопліваўся са сну: здавалася, што недзе на ферме пажар. Там бралася ўзыходзіць сонца. І калі ён зноў зводзіў павекі,— перад ім сядзела на рог стала Волька, і ў вачах у яе была радасць...

У кабіне стала горача — пераграваўся матор.

«Аж пара чхае з радыятара»,— падумаў ён і, скінуўшы

газ, выключыў зажыганне. Па прывычцы хацеў забраць у кішэню ключы, але махнуў рукой, і яны на тасёмцы доўга бразгалі па цьмяным шкле ўжо сапсаванага пасля капіталкі спідометра. Не вылазіў, думаў цяпер пра Пецю Гурбана.

«У калгас папёрся снапы на машыну нагружаць. Калгас яму трэба... Спадніца Ліліна ў галаве. Памог бы тут. Займаў толькі ўчора месца ў кабіне ўсю дарогу. Падбяры, падвязі бясплатна. Ласку зрабі!»

Выцягнуўшы пасля сядзенне з машыны, ён усеўся на яго, што мядзведзь на муравейнік, і доўга курыў, гледзячы, як за старыя асіны апускаецца вячэрняе сонца. Дзень стаяў гарачы, і цяпер пахла з лесу яловай смалой і багуном — недзе адтуль, з другога боку балота. Там пачынаўся барок, парослы саспячком і белым мохам. За ім лысела пасека, куды вяла гэта праклятая грэбля, дзе леспрамгас за зіму выразаў аж тры кварталы — усю пушчу, дзе некалі стаялі кутузаўцы. Ад іх яшчэ засталіся нават цэлыя зямлянкі. Абгарэлі толькі ад агню, а дрэва не пагніло. Пасека ўся ў шліхтах, аж адгэтуль відаць...

Убачыўшы, што зверху на колах пачынае засыхаць гразь і бялець падзолісты пясок, ён вылаяўся і ўсхапіўся з сядзення. Стаўшы на каленкі і не чуючы, як мокнуць ногі, ён пачаў адграбаць альховым паленам гразь з-пад задняга кола. Пачуўшы, як над самай галавой застракаталі сівавароні, што сарокі, ён спалохаўся і плюнуў. Зноў стракатала, недзе ўжо воддаль на дрэве, сівароронка,— ён не зважаў на яе: стаяў на самыя калені ў гразі, сартуючы пад машынай альховыя абломкі... Не чакаў цяпер чалавека і, калі пачуў, што нехта кашляе над ім, не паверыў, падумаў: сівавароні. І калі ўжо нехта смела штурхнуў яго ззаду ў плячо,— суцішыўся і азірнуўся, угледзеўшы нечыя бліскучыя новыя гумовыя боты.

— Здаро-оў! — пачуў ён залівісты голас і пачаў вылазіць з-пад машыны.

— Здароў, каб па табе поп зароў,— адказаў ён, яшчэ добра не пазнаючы, што перад ім Аверка са Сцешыц, аж пакуль той, заплюшчыўшы вочы і пакруціўшы галавой, не засмяяўся:

— Хі-хі... А бадай ты... Ды я ж цябе адразу не пазнаў.

Аверку было гадоў пяцьдзесят, але выглядаў ён малада і твар у яго быў нейкі хлапечы. Можа, таму, што ў яго і пад старасць расла русая барада і ён яе галіў раз у тыдзень — у суботу, калі ішоў да каго чужога памыцца ў лазні. Учора была субота, але Аверка не пагаліўся,— ві-

дацъ, ніхто ў вёсцы не паліў лазні, у Сцешыцах летам рэдка тапілі лазні,— і ў яго адрасла ладная бародка, з-пад якой высвечваў чырвоны твар: Аверка быў п'яніца. Пасля вайны ён стаў леснікам — прапіваў лес, аж пакуль не выгналі. Пайшоў пасля ў леспрамгас. Быў то возчыкам, то грузчыкам, цяпер — вартаўніком: глядзеў шліхту, ездзіў разам з «пэтээс станцыяй», як ён казаў, і пільнаваў электрапілы на эстакадах. Стаяў ён цяпер ля Сцяпана ў новым картовым касцюме і ўсё сіпеў:

— Хі-хі-і-і... А я думаў хто гэта?.. Але я цябе злавіў... Знаю: паленца хацеў ускінуць. Метраў бярозавых — машынку нагрузіць, а ночкай — фіць.— Ён быў змоўк, пасля перамяніўся з нагі на нагу, што конь, якому абрыдла стаяць у гразі, і сказаў, ціха і не смеючыся: — А яны ёсць. І бяроза ёсць. Цэлы бор вуньдзека... Толькі не там ты хацеў пераскочыць цераз гэты зашыек.— Ён убачыў, што Сцяпан на яго падняў вочы — слухае, і зноў стаў заліваццца: — Тут толькі адзін наш Глымбоцкі на сваім ЗІСу напрамую рве. Я і думаў, што гэта Глымбоцкі... Але ж, думаю, чаго гэта ён у нядзелю. Нікога ж па стакадах няма, толькі я. Чаго гэта ён, думаю. Але ж гэта ты, я цябе адразу і не пазнаў...

— На, закуры...— перабіў яго Сцяпан і падаў пачак папярос.— Адну вазьмі...— дабавіў ён, калі ўгледзеў, што Аверка панёс пачак у кішэню пінжака.— Я сказаў: закуры... І сядзенне ўкінь у машыну, а то з нагамі на яго ўзаб'ешся, а я тады буду выёрзваць гразь...

Аверка зрабіў усё са спрытам, але папярос не хацеў аддаваць:

— Давай сюды, брат. Я сказаў: закуры,— Сцяпан выцягнуў сваю доўгую руку,— і давай вунь тыя «метры», што ля вывараткі, пад машыну...

Аверка разявіўся, і папяроса выпала ў яго з рота. Пасля ён цюпаў гумовікамі па гразі, адыходзячыся ад Сцяпана задам. Вусны ў яго скакалі, нібыта ён сёрбаў гарачую ваду, вочкі зрабіліся маленькія-маленькія, як вушка ў іголцы.

— Дык жа я... Як гэта? Ды мне... Самі...

Аверка, баючыся, упіраўся.

Калі Аверка прывалок сырую асінавую плашку да машыны, Сцяпан калупаўся ў гразі пад кузавам — тырчалі толькі яго ногі з закасанымі па лытках штанамі. Аверка пасмялеў:

— А я думаў, што гэта наш Глымбоцкі дунуў напра-

мую. Ґалава садовая... П'е і лупіць цераз балота. Але ж, думаю, чаго ён у нядзелю?..

Сцяпан маўчаў, варочаючыся з боку на бок, і Аверка падсунуў плашку яму да самых ног:

— Х-хі... Знаю, паленца хацеў ускінуць... Але калі ты мне не зробіш...— Аверка памаўчаў.— Усе так робяць. Ты маеш. Цэлы кузаў недзе з горада баб падкінуў. Нашы шафёры, Глымбоцкі, вунь, якая тут дарога, а маюць... А ты...

— Не трубі нада мной. Занясі плашку на той бок...

— Не трубі, не трубі...— закрычаў Аверка.— А ты мной не папіхай! Камандуе. Я думаў ты за гэта... А то я нумарок ад тваёй машынкі на паперку і — куды следуе. А там з цябе — чык-чырык, не гэта ўрвуць.

Сцяпан заварушыўся і пачаў вылазіць з-пад машыны. Аверка сцяўся і панёс плашку на другі бок пад кола.

— Ідзі сюды...

Пачуўшы, што яго клікнуў Сцяпан, ён вярнуўся з плашкай у руках.

— Хі... Я гэта так сказаў... Дзеля слова...

— Я табе нумарок скора на носе як чыкчырыкну... Асмакаваўся, відаць...

— Сцяпан... Сцяпанка... Ды я што? Я ж нічога.— Аверка мітусіўся, бачком падаючыся на сухое, бы хацеў уцячы.

— Не сіпі... Я знаю цябе...— Сцяпан ступіў да яго, атрасаючы ад гразі рукі.— І каб толькі можна мне было даць сабе волю... Я цябе, як плашку, у гразь бы... Смоўж... Толькі я пэцкацца не стану. А вот якія ты тут нумаркі з дрыгўмі адкалваеш — дзе-дзе, а ў леспрамгасе знаць будуць. Можаш на ўсе чатыры стараны... Бяжы!

Сагнуўшыся, Аверка быў адбегся з дарогі. Але Сцяпан больш на яго не глянуў, перагнуўся ў паясніцы, ускочыў у кабіну. Калі зараўла машына, Аверка закрычаў:

— Сцяпан!.. Ты гэтага не зробіш! Ты не скажаш... Я табе яшчэ сам за гэта магу не такую ласку... Што тая машына дроў... Толькі ты не скажаш. Нада мной вісіць ужо... Ты не скажаш...

Лежачы зноў пад машынай, пад якую цяпер ледзь падсунуўся,— яна так асела, што на карданны вал наматалася сырой травы,— Сцяпан чуў, як яго просіць Аверка, цёпкаючыся ззаду па свежай гразі, якой накідалі колы. Адлягала злосць. Нарэшце ён, забыўшыся на Аверку, сцішыўся пад машынай і доўга ляжаў. Тады вылез, выцер аб траву рукі.

— Заткніся! Ён яшчэ тут!..— закрычаўшы, ён пачуў, як і па лесе пайшло рэха. Вечарэла, з балота ўжо не было відаць сонца. Дым вісеў у кустах, як туман, не распаўзаўся.— Рэсора... Лопнула...

— Дзе? Рэсора? Якая рэсора? — Аверка зноў забегаў каля яго.— Гэта не жартачкі. Я знаю. У Глымбоцкага раз... Дамкрат трэба. Можа, я што памагу... Можна збегаць на бор, адамкнуць кладоўку і ўзяць лом ці лапату. А то і рэсору. Там усё можна знайсці, парыўшыся добра.

Сцяпан не слухаў яго. Абышоўшы разы два вакол машыны, ён прысеў і доўга глядзеў пад заднюю вось, думаючы. Пасля ўскочыў:

— Капіталка! Пасля капіталкі ЗІС! Галовы б іхнія ў капіталку...

— Ага... Капіталка. І я кажу. Капі-аталка. Рукі бог ведае дзе...

— Вось што,— перабіў Аверку Сцяпан,— чашы ў вёску.

— А стакада? Там пілы, там тросы... Там усё... Не-не...

— Надта пра мяне не трубі,— Сцяпан усё не падымаўся.— Знойдзеш Пецю Гурбанчыка. Чуеш? Са мной той прыехаў. Знойдзеш ці на ферме, дзе снапы складаюць, ці ў Юлькі. Хай шафёра калгаснага бярэ. З машынай. Гурбана Пецю! Не чуў? — Сцяпан раптам ускочыў на ногі.— Знойдзеш. Ён усё знае, што к чаму. А не — то твая галава на карку для чаго?

— Ды я... З мілай душой. А стакада! Можа, Глымбоцкі падскоча...

— Ды ну яго... твайго Глымбоцкага...— Сцяпан ішоў проста на яго, разгінаючыся, і адтаго рабіўся вышэйшы і шырэйшы ў плячах. Пойдзеш балотам. Бліжэй. І каб Гурбан мне дацямна тут быў. З шафёрам...

Аверка скокнуў са старога драўлянага насцілу ў высокую, неабкошаную рудую траву і зацёпкаў па вадзе.

— Глядзі стакаду!.. Глядзі стакаду! — крыкнуў ён ужо ад стагоў.— А калі будзе Глымбоцкі...

Сцяпан не разабраў, што трэба рабіць, калі будзе Глымбоцкі. Ён доўга стаяў і глядзеў услед Аверку; глядзеў, як далёка за імшарамі заходзіць сонца. Пасля яму здалося, што недзе там пажар, што агонь бяжыць верх лесу аж сюды, у зашыек на балоце. Калі ён глянуў угару, убачыў недалёка на сухім бары старую высокую рабіну, усю чырвоную ад ягад. Яны аж гарэлі: іх яшчэ даставала сонца. Ён глядзеў на рабіну і бачыў, як і яна пасля пачала стухаць. Тады ў яго заныла ўсярэдзіне: ён успомніў Вольку.

## 6

Усе гэтыя дні стаяла на пагодзе, а сёння раніцай узняўся вецер, запахла зямля, з-за ракі пацягнуліся на вёску хмары. Закрычалі кнігаўкі, бліскаючы белымі грудкамі на чорным небе,— прыляталі з выгану ў Сцепшыцы аж на аселіцы.

Збіралася на дождж.

Сцяпан апёрся на плот і глядзеў на пагорак, дзе з-за чорных хмар-тулягоў выкочвалася сонца, як вялікі нагрэты камень з печы.

З фермы вуліцай пагналі коней. У другім канцы вёскі за гумнамі рыкала скаціна.

Сцяпан згледзеў, як па загуменні, недзе адтуль, з Вольчынага гароду, пагнаў карову хлопчык у нечым чырвоным. Махаў дубцом і пускаўся подбегам: скаціна была ўжо далёка за гумнамі.

Сцяпан быў злякнуўся і падаўся ўвесь на плот, аж недзе спаднізу затрашчалі жэрдкі.

«Валерка...» — падумаў ён, і ў яго зашчымела ўсярэдзіне. Хацеў закурыць — не знайшоў сярнічак. Трэба было ісці куды ў хату, але ён не кранууся, павіс яшчэ больш на плоце.

Калі з-за хлява дзьмуў вецер, Сцяпан падстаўляў яму твар, тады свяжыла і знімала сон. Нават плечы ў халадку пераставалі балець і не ныла спіна.

Ён з таго самага часу, як схаваўся з вачэй Аверка, прасядзеў пад машынай да самага цямна. З вёскі Гурбан з шафёрам прыехалі толькі ў поўнач. Машыну вытарабанілі, пасля ўсю ноч, расклаўшы агонь, сядзелі пад «заднім мастом» ля Альжбеты на вуліцы.

Сёння раніцай на двары ён доўга думаў, што ўсё ж нязручна ехаць паражняком,— гэтулькі навалаводзіўся ўчора ў лесе на пасецы, а не ўдалося загрузіцца «метрамі» — угraз, не даехаўшы да шліхты, і прасядзеў пад машынай да самага цямна. З вёскі Гурбан з шафёрам прыехалі толькі ў поўнач. Машыну вытарабанілі, пасля, расклаўшы агонь, сядзелі пад «заднім мастом» ля Альжбеты на вуліцы.

Машыну на двор ён загнаў яшчэ ноччу, бо калі ехалі з лесу, успомніў, што пад хлевам у Альжбеты ляжаў клён. Вазы са два бярвення. І не доўгае. Немаведама для чаго яго згрузілі тут. Відаць, некалі Альжбета купіла дроў у шафёраў, і клён гніе пад хлевам у гнаі.

Падагнаўшы машыну да самага хлява, ён адкінуў борт і адзін цягаў у кузаў калоды. Угрэўся і распарыўся, варочаючы шліхту, каб выбраць што лепшае.

...Пахла клёнам на ўвесь двор. Здавалася, што гэта з хаты пахне рашчынай,— замясілі хлеб у вялікай дзяжы, як заўсёды рабіла яго маці, калі Сцяпан быў малы. Ён дрэнна помніць маці. Здавалася яшчэ, што на дварэ вясна. Пад платамі ляжыць лёд, не хоча раставаць, бо на ім Зігурба трасочніку — за зіму на двары шмат было дроў. Зіма стаяла халодная, Сцяпан помніць тую зіму,— тады ён быў у лапцях і адмарозіў на назе вялікі палец. Халодная была і вясна. Ветраная — гнала пясок з загумення аж у вёску. Але затое было ціха ў лесе. Ціха і добра. І там яшчэ пад мохам ляжаў лёд, але Сцяпан бегаў ужо за бацькам спускаць кляновы сок. Тады Сцяпан быў такі ж, як цяпер Валерка, і бацька яго вунь як любіў. Тады пахла клёнам і хлебам на ўвесь лес.

На двары пахла клёнам...

Сцяпан, апёршыся на плот, доўга глядзеў на загуменне, дзе на полі ў лазе стаялі дзве старыя асіны. За імі быў лес. Далёкі, цёмны і сіні. Недзе сыры яшчэ ад расы. Захацелася пераскочыць цераз плот і пабегчы па бульбянішчы туды, дзе маладзенькі сасняк. Там ямы, там хаваюць на зіму бульбу. За імі — пасека. Там ён пасвіў некалі кароў...

Вецер налятаў цяпер аднекуль з вуліцы, і ў плоце ныла сухая трава. Але ён угледзеў пасля, як варушыцца ў гародзе ад ветру бульбоўнік,— гэта туды далей, дзе вецер дзьмуў з поля.

З-за хаты на гарод глянула сонца, і Сцяпан убачыў, як увесь бульбоўнік стаў белы, нібыта найшло снегу.

Гэта цвіла бульба. Сцяпан не бачыў ніколі, каб так яна цвіла. Ад хаты да самай мяжы, дзе расла яблынядзічка, гарод быў усыпаны белым цветам. Белым і густасінім... Сцяпан не помніць добра: сінім, мусіць, цвіла сібірка. Белым — гэта паспешка, ён ведае. Ён капаў яе колькі вунь у гародзе. А тую, што цвіла сінім, маці заўсёды крычала, каб не падкопвалі...

Сцяпан успомніў, як увосень, калі яны выбіралі бульбу ў тым гародзе, што ля фермы, на вёску наляцелі нямецкія самалёты і пачалі кідаць шашкі. Загарэлася пуня. Яны пабеглі наўцёкі,— у Лазу на загуменне. Сцяпан помніць,— бяжыць, а ўверсе недзе стукае кулямёт.

Фюр-р-р!.. Фюр-р-р!..— ляцелі пустыя гільзы. Сцяпан сам іх збіраў у Лазе.

У Лазу пагнаў карову Валерка...

Сцяпан выпрастаўся і доўга яшчэ глядзеў на загуменне і на гароды, дзе над лесам хавалася ў хмары сонца. Пасля падышоў да машыны, закрыў і зашчапіў кузаў. Узбіўшыся з нагамі на яловы калок, падняў яго з зямлі і ўскінуў на машыну. Знайшоў у машыне — у адтуліне-скрыначцы пад пярэднім ветравым шклом — даўні, запэцканы ў мазут карабок сярнічак, закурыў.

Матор доўга чхаў, і машыну давялося завесці ручкай. Стукнуўшы дзверцамі, Сцяпан адпусціў тормаз, і машына сама пакацілася да варот: двор быў пакаты.

На вуліцы ён доўга сігналіў, думаючы, што трэба ж забраць Гурбанчыка. Хлопцу ж на работу, і той позніцца праз яго, Сцяпана.

Сігналячы, ён і наклікаў зноў бяду на сваю галаву. Аднекуль з гародаў, пераскочыўшы цераз плот, на вуліцу выбег Аверка і, махаючы рукамі, кінуўся ледзь не пад машыну. Быў чыста паголены, надзеў і чыстую шэрую кепку — яшчэ больш памаладзеў.

Сцяпан узяў на тормаз. Аверка спрытна з тратуара ўскочыў на падножку і праз апушчанае шкло ўсунуў у кабіну галаву.

— Сцяпан... У мяне душа свярбіць. Не губі. Ну, можа, калі што, сам ведаеш, сам ехаў і набраў, во, недзе. А мяне з работы...

— Чаго ты хочаш? — Сцяпан націснуў на газ, машына зараўла, і Аверка зноў закрычаў:

— Не губі!.. Ты можаш зрабіць, я знаю. А што тады мне?..

— Ану адсюль! Гэта табе не сані, хеўра...

Націснуўшы на газ, ён павярнуў да частаколу і штурхануў Аверку ў плячо. Той саскочыў з падножкі і, пачуўшы за плячыма частакол, прыстыў да яго.

Сцяпан затармазіў аж ля Юльчынай хаты, дзе начаваў Пеця Гурбан. Убачыўшы на другі бок вуліцы за рабінай Панкову будыніну з забітымі вокнамі, дзе ўчора былі танцы, Сцяпан скорчыўся ўвесь у кабіне, адвярнуў галаву, адчуўшы, як злубянела спацелая сарочка і рэзала шыю.

— Дзе Пеця? — крыкнуў ён на двор.

— А дзеткі... Дык ён жа і спаць не лёг. Цэлую ноч недзе... Учора — дык на танцах, удзень снапы вазіў, а гэ-

тую ноч зноў недзе... І не заснуў, не прылёг...— пачуўшы яго, Юлька ішла да варот.

— Паедзе ён ці не?

— А дзеткі... Ды ён жа... Пабег на аўтобус. Я ж кажу: і не заснуў. Намардуецца ў дарозе... Пакуль да той шашы. Я яму казала: пачакай. А ён... Спяшыць... Прыехаў, во, і не аддыхнуў...

Завярнуўшыся на лажку, Сцяпан імчаў праз вёску як шалёны, помніў толькі, што трымае нагу на тормазе і глядзіць перад сабой.

На вуліцы з зямлі падняліся гусі...

Сцяпан збавіў ход і пачаў сігналіць. Высунуўшыся з кабіны, ён бачыў, як разбягаюцца белыя гусі якраз ля Вольчынай хаты...

Звярнуўшы з вуліцы на дарогу, ён памчаўся да моста. Але трэба было яшчэ «напаіць машыну», і ён падумаў, што яму цяжка сёння выбрацца ў дарогу.

## 7

Вядро ляжала ў кузаве, і Сцяпан сплюшчыў яго кляновымі чуркамі. Выцягнуўшы цяпер і разагнуўшы — паставіў бокам на падножку і паціснуў зверху каленам,— ён подбегам пусціўся з горкі да рэчкі. З гэтай горкі ён, калі быў малы, толькі раз з'ехаў на самаробных лыжах... Успомніў, што ён баіцца і цяпер з'язджаць з гары на лыжах...

Мост цераз раку ляжаў зусім нізка, над самай вадой, але пад ім было каменне; вялікае, абраслае мохам, яно, мокрае, вытыркалася з вады, і тут можна было прымасціцца, каб не зачарпнуць гразі: рака была мелкая. Рака ля Сцешыц заўсёды была мелкая, нават вясною рэдка разлівалася, і Сцяпан падумаў, што партызаны ў апошнюю блакаду, калі чакалі немцаў, дарэмна спалілі мост. Сцяпан помніць, як і ён тады — і ўсе дзеці з вёскі — насілі з фермы ахапкамі салому на мост. Пасля яе падпалілі партызаны. Новы мост — яго зрабілі толькі перад самай вайной — быў на высокіх палях, увесь з сасновых смаляных плашак. Гарэў ён чорным дымам ад палудня да вечара. Тады была пагода, і палі вытлелі за ноч да самай вады. Не пагнілі, яшчэ і цяпер тырчаць з ракі...

Засіліўшы вады, Сцяпан цяжка падымаўся на горку, гледзячы пад ногі. Калі ён нарэшце зірнуў на дарогу, то ўбачыў ля моста хлопчыка. Той стаяў да Сцяпана плячы-

ма, махаў дубчыкам і глядзеў пад задзёрты капот у машыне, дзе, пасапваючы, пыхаў матор. Хлопчык быў у чырвонай кашульцы і штоніках на шлейках,— адна шлейка з'ехала з пляча... Сцяпан заўважыў яшчэ, што адна калошка ў штоніках у хлопчыка падкасана да калена, а другая, што целяпалася па назе, была мокрая і ў жоўтым пяску. Хлопчык не чуў, што ў яго за плячыма чалавек, падскочыў раптам да машыны, ткнуў дубцом туды, дзе лётаў прапелер, і зноў адбегся — проста ў рукі Сцяпану.

— Ах ты...— Сцяпан схапіў яго за шлейкі. У кулак заграблася разам і ягоная чырвоная кашулька. Сцяпан адчуў, што яна мокрая і халодная.— Я цябе зараз з галавой у матор, калі ў цябе рукі доўгія... Што маўчыш? Ты што?.. Гэта ты?.. Ну я ж табе... Дык гэта ты?..

Сцяпану раптам захацелася, каб хлопчык закрычаў, як толькі можа, тады б ён выпусціў яго, і той знік бы адразу з вачэй дзе-небудзь за плотам у бульбоўніку. Але хлопчык маўчаў, толькі пачаў часцей дыхаць, павярнуўшы галаву і гледзячы яму, Сцяпану, проста ў вочы. Сцяпану стала горача: ён не ведаў, што рабіць.

Гэта быў Валерка.

Сцяпан даўно адпусціў руку, разагнуў пальцы, што былі ў кулаку, і даланёй выцер пот; пасля прыгладзіў пасму валасоў на лбе і паскроб патыліцу.

— А я нічога і не рабіў...— залапатаў раптам хлопчык, замахаў рукамі, як злоўленая птушка крыльцамі. На зямлю ўпаў дубчык.— Бо каб што зрабіў, то заглох бы матор. А ён не заглох... А ён не заглох...

— Ну добра...— Сцяпан адчуў, што голас у яго грубы і дрыжыць.— А чаго ты тут?

— А я ўвідзіў тваю лайбу...

— Што? Што?

Хлопчык падняў дубчык, адбегся, глядзеў Сцяпану ў вочы і маўчаў.

— Хто цябе навучыў?

— Леспрамгасаўцы. Яны катаюць у кабіне. І Жук, і Вярбіцкі... Я ў кабіне ездзіў...

— Гм...— Сцяпан збіў даланёй накрыўку з радыятара і, падняўшы вядро, пачаў ліць у трубку ваду, пазіраючы коса на Валерку. Яму кінулася ў вочы, што той мурзаты і босыя яго ногі ў гразі. Тая, што відаць па калена са штаноў, абдзёрта ля костачкі... Сцяпан заміргаў вачыма, яму дыхнула ў твар парай з радыятара, пасля апусціў руку з вядром і доўга не зводзіў вачэй з хлопчыка, аж

той засоўгаў ножкай па пяску. Тады Сцяпан перавярнуў вядро дном угару, не зважаючы, што цэдзіць гразь на паўбацінак.

— Ну, мне, брат, ехаць трэба...— сказаў ён хутчэй самому сабе: трэба ж нарэшце выбрацца ў дарогу, але цяпер адчуў, што зрабіць гэта яму будзе цяжэй, чым калі.

Валерка яго не слухаў. Падышоўшы да самай падножкі, гладзіў даланёй бліскучае сядзенне, не выпускаючы з рук падсохлага лазовага дубчыка.

Сцяпан паволі падышоў да кузава, ускінуў на кляновыя калоды вядро і, вярнуўшыся, стаў ля кабіны, гледзячы праз зашклёныя дзверцы на Валерку. Адтуль на яго зірнуў высокі рослы чалавек — шкло павялічвала,— і Сцяпан уздрыгнуў. Яму раптам здалося, што на дарозе поўна пяску і ён ugraz па калені.

Яму захацелася гаварыць і гаварыць з Валеркам: ён не малы, хоць яго галава толькі дастае да сядзення. Ён такі, які здаўся праз шкло, хоць Сцяпан другі раз праз шкло і не хоча глядзець на яго. Надта ўжо непрыгожы твар тады ў хлопчыка, выцягнуты, і вушы, як сподачкі. А сам Валерка прыгожы. І твар у яго прыгожы, кругленькі, і вушы маленькія, хоць і адтапырыліся, і вочы чорныя, аж кружыцца. І блішчаць, як у Волькі. І валасы ў яго цёмныя, як у маці. Толькі нос будзе такі, як у яго, Сцяпана. І бровы так хмурыць...

Яму захацелася яшчэ ўзяць яго на рукі. Ён успомніў, што ні разу яго не браў на рукі, нават не падпускаў блізка, калі прыязджаў у вёску і быў у Волькі. І яна прывыкла да таго, заўсёды гнала з вачэй Валерку. Але ж тут нікога няма, ля моста, тут іх ніхто не бачыць. Не, тут іх усе бачаць, тут яны на відку ўсёй вёскі...

— А ты знаеш, хто я? — сказаў ён тое, чаго зусім не думаў.

— Ты — Сцяпан. Я знаю. Ты ўчора быў у нас, і ты перш быў у нас. Толькі ты горш за Жука і за Вярбіцкага. Ты баішся мяне падкатаць.

Сцяпан уздрыгнуў. Тое, што яму ніяк не магло прыйсці ў галаву, падказаў хлопчык, ягоны сын...

Сцяпан пасадзіць яго ў кабіну, падвязе, падвязе да другога маста, што на канец грэблі...

Ён доўга не рашаўся. Падняўся быў, ступіўшы на кола, у кузаў, узяў адкінуў да самай кабіны вядро — яно мазоліла яму вочы. Скочыўшы на зямлю, доўга глядзеў на

вёску, тады за раку на выган. Адтуль несла рэдкія хмары, дзьмуў вецер... Ад машыны пахла клёнам.

— Ну, брат, скакай... Лезь сюды... А то ты змерз. Раніца халодная. А ты мокры. Мокры ўвесь. Лезь. Пагрэемся. А назад не будзеш баяцца ісці? Я цябе далёка не павязу. Да таго маста. Добра?..— Сцяпан нават не ведаў, чаму ён гэтак многа гаворыць. Як бы яго за язык што цягне.

— Я і не баюся, я і не змерз. Гэта ты баяўся мяне ўзяць,— Валерка быў ужо з дубчыкам у кабіне. Сцяпан захлопнуў з яго боку дзверцы і падумаў, што ў хлопчыка не дастаюць яшчэ з сядзення да падложкі ногі.

Доўга ехалі па мосце, сунуліся памалу, што на кані: Сцяпан ведаў, што пад коламі недзе ўгінаюцца старыя сасновыя легары. На грэблі было яшчэ горш. Разбалабошаная ў слату, яна цяпер была ў глыбокіх калдобах. У кабіне тармасіла і кідала ўперад. Валерка саскочыў быў з сядзення і ехаў стоячы, аж пакуль Сцяпан не пасадзіў яго зноў.

— А ты, брат, гарачы...

— Гэта ў кабіне.

— А колькі табе гадоў будзе, ці ведаеш?

— Пяты.

— А зваць як?

— Валерка.

— А прозвішча?

— Ляпеха.

— Гм... А па бацьку? Гм...

— Не знаю. А ў цябе дзе ўключаць агонь? Я ў Вярбіцкага дык знаю дзе... Ля руля пацягнуць трэба... А сігнал у цябе, як у «Пабедзе»? У Вярбіцкага дык як у «Пабедзе».

— У Вярбіцкага твайго, відаць, МАЗ. У МАЗах такія сігналы. І Вярбіцкі цябе часта вазіў?

. — Не. Адзін раз праз вёску. І я сігналіў...

— І мама не крычыць на цябе?

— Мама — дрэнь. Крычыць і будзіць кожную раніцу праганяць у поле карову...

— Хто цябе так вучыць, хлапец? Ты, брат, не тое гаворыш. За такое даюць дзягі. Вушы рвуць.

Валерка змоўк, зачмыхаў і пачаў азірацца па баках.

— Не бойся. Ды я, брат, нічога. Я, брат, толькі так. Толькі ты такое пра матку не гавары.

— Угу...— Валерка выцер рукавом нос.

— А цяпер адкасай калашыну, і ты будзеш як мужчына.

Валерка адкасаў калашыну дзвюма ручкамі і супакоіўся, хінучыся да Сцяпанавага пляча.

Сцяпан ехаў паволі, з калдобы ў калдобу, баючыся, што хутка кончыцца грэбля і яму трэба будзе высадзіць Валерку. Ён пра гэта цяпер не хацеў думаць, ён цяпер хацеў гаварыць і гаварыць з ім, каб нагаварыцца на ўсю дарогу, на ўвесь дзень... Нагаварыцца наперад, бо хутка ён высадзіць яго, высадзіць свайго сына, аднаго, недзе ў канцы грэблі ля моста. Высадзіць — і кабіна стане пустая. Пустая?

Сцяпан зірнуў праз акно на абочыну дарогі, дзе пачыналася за логам поле.

«Кабіна будзе пустая, як поле... Як поле?» — зноў падумаў ён і закратаў плячыма: было мулка.

У кабіне густа запахла дымам. Рабілася горача.

Трэба было пераключыць хуткасць.

— Асцярожна, брат. Бяры за руку. Падгонім нашага каня, а то чуць паўзём. Ты ж, брат, недзе прывык хутка ездзіць. Глымбоцкі ці, як яго, Вярбіцкі так, мусіць, не сунецца.

— Вярбіцкі... Глымбоцкі злосны і ніколі ў вёсцы не становіцца...

— Гм... Ты, брат, усіх шафяроў тут ведаеш.

— Угу.

— А сам кім ты хочаш быць?

— Шоферам. Як Вярбіцкі. І ў мяне будзе такая ж, як у яго, машына. І сігнал будзе такі, як у яго, ад «Пабеды». І я буду катаць усіх дзяцей з вёскі, як ён. Ён усіх катае. Сам становіцца і бярэ ў кабіну. Не любіць толькі, калі за прычэпам бяжыш. З дзягай тады... У-у-у...— У хлопчыка было гутаркі, як вады.

Паабапал грэблі, ля прарытых канаў, чарнелі нассаваныя бульдозерам гурбы торфу. Ля адной кучы, што была бліжэй да канавы, стаяў і бульдозер, паблісківаючы на сонцы вычышчаным лемяхом, што вялізная жывёла срэбным зубам, як здалося Валерку. А Сцяпан падумаў, што ў Сцешыцах «марнуецца тэхніка» і бульдазерыст недзе «гультай» і «паваляка».

З кабіны добра было відаць — бы з якой гары,— што вада, мусіць, вясною, разрыла аплеценыя канавы: падмыла берагі і пакроіла іх на кавалкі, сцякаючы па разорах з грэблі. У канавах цяпер без парадку пахіліліся бяроза-

выя калкі і ляжаў на самым дне невысокі парканчык з доўгіх тонкіх бярозавых жэрдачак. Сям-там ён яшчэ тырчаў, уеўшыся ў глей і торф. Па ім пусцілася ўжо расці трава. Калі Валерка сказаў, што ён з дзецьмі бегае канавай аж да моста ў канцы грэблі лавіць курмялёў, Сцяпан падумаў, што бярозавы паркан ляжыць у канаве, як шкілет ад чортведама якой рыбы, і што сцешыцкаму брыгадзіру — Паўлюку — трэба даць па руках. Канавы заплываюць граззю, і хутка на грэблі трэба будзе зноў цягаць машыны трактарамі, як некалі.

Канавы з двух бакоў усё мялелі і мялелі, аж пакуль Сцяпан не здагадаўся, што канчаецца грэбля. За мастком на лагу пасвіліся коні; нехта ў белай сарочцы пёрся насустрач з горкі на веласіпедзе. Пад ім на сонцы бліскалі спіцы, нібы пырскалі іскры.

Сцяпан не хацеў думаць, што яны прыехалі ўжо да моста, і падумаў пра другое: добра, што распагодзілася, вецер разагнаў хмары і ўлёгся, не чуваць яго. Зноў цэлы дзень пастаіць пагода, будуць у Сцешыцах звозіць з поля снапы на машынах, касіць у Кур'янаўшчыне ржышча і атаву на лагу ля сажалкі; зноў будуць ляскатаць на грэблі калёсы позна ўвечары і ноччу, падымаючы за сабою руды пыл ад торфу, што густы туман. І пасля яму, Сцяпану, стукнула ў галаву, што дарозе няма канца. Па ёй ад мастка можна звярнуць на Кур'янаўшчыну па снапы, па ёй можна і ехаць прама ля школы і ля могілак, ехаць і ехаць, аж пакуль не выскачыш на шашу, дзе брук, дзе так не гушкае ў кабіне і дзе Валерка ні разу не ехаў. Можна ехаць далей, за масток, можна...— дарозе ж няма канца... Ехаць з ім, з Валеркам...

У Сцяпана нешта цёплае палілося ў грудзях, пасля стала горача ўсяму...

— А ты, брат, быў калі ў Сушкаве?

Сушкава — вёска за Сцешыцамі.

— Быў. У магазін хадзіў з мамай.

— А за Сушкавам? Далей туды, на шашы?

— Не-е...— Нясмела зірнуў на Сцяпана Валерка, і ў яго загарэліся вочы.

— А хочаш, мы аж на шашу махнём? Гм?

— Хачу...— У Валеркі гарэлі вочы, і ён увесь раптам задрыжаў.

— А хочаш ехаць і ехаць...— Сцяпану было горача, ён выціраў з твару пот.— Ехаць цэлы дзень. Дзень да вечара.

— Х-хачу...

— А хочаш аж у горад? Да мяне ў горад?

Валерка маўчаў.

— Да мяне ў госці. У горад. Там, брат, трамваі і цырк. Там — звярынец на Камароўцы. Там, брат, мядзведзі, сланы,— сказаў ён і падумаў, што яму вунь як хочацца, каб Валерка паехаў з ім, і яшчэ падумаў, пасля ўжо: «Мае ж права з'ездзіць у госці сын да бацькі».

Валерка маўчаў.

— Ну, брат, як?..

Валерка раптам нечага заварушыўся, замахаў рукамі, аж падскочыў на сядзенні, у вачах у яго мільгнуў страх. Пасля Валерка супакоіўся і маўчаў. Маўчаў, схмурнеў і Сцяпан. Больш у Валеркі ён нічога не пытаўся. Яны мінулі масток, сталі падымацца на горку. Насустрач ім паплыла школа, пакрытая чырвонай бляхай.

— Сцяпан, а ты не маніш? Ты і прыходзіў учора, каб везці мяне ў горад?

Сцяпан зноў уздрыгнуў. Памаўчаў, як і Валерка.

— Не, брат, не. Не маню.

— А я хачу. Хачу ў горад і да мамы хачу...

На Сцяпана тады нахлынула нешта зусім незнаёмае... Яму захацелася выпусціць з рук руль к чортавай мацеры і падхапіць у ахапак гэта ўмурзанае хлапчаня... Ён памкнуўся быў увесь наперад, затармазіў знянацку, пасля адпусціў тормаз, зірнуў на спалоханага Валерку — таго штурхнула было — і, паклаўшы яму руку на плечы, доўга ехаў, кіруючы адной рукой. Тады прыняў руку ў яго з плячэй і асцярожна пагладзіў па галаве. Пачуў, што валасы ў яго пасля машынкі шорсткія-шорсткія і што спацела рука.

«Якая сёння цяжкая дарога»,— падумаў ён. Яму захацелася курыць, але ён не стаў.

— Ну вось і парадак...— нарэшце сказаў ён і падумаў:

«Да горада яно, брат, мусіць, для цябе далекавата... Я цябе — яшчэ трошачкі... Ну, вось сюды, да школы, ну... да могілак. Ну, скажам, да магазіна ў Сушкаве. Тут ты быў, ведаеш дарогу, вернешся сваімі малымі ножкамі назад, прыйдзеш дамоў да мамы, дабяжыш. А то цябе хопяцца дома... Хопяцца — і няма.— Ён доўга думаў: хопяцца.— Хаця мы, брат, з табою не малыя дзеці. Дадзім тэлеграму. З дарогі, калі ўжо на тое пайшло-паехала. Так і так. Сын у бацькі ў горадзе. Жывы-здаровы, таго і вам жадае...»

Сцяпан доўга глядзеў на дарогу.

— Толькі ты, брат, нешта сцішыўся. Не спі. А так у мяне з табой хірым будзе кароткі. Станцыя Беразай...

Валерка зарагатаў...

— А я знаю, што гэта. А я знаю...

— Ну вось. Не спі. Угавор.

«Хлапчаня,— думаў ён.— Намарылася за раніцу, набегалася, надыхалася — засне як ніць даць. Што птушка сцюцюрыцца. Вось табе і маеш. Вось табе і будзе горад. Сланы-мядзведзі. Горад...— Ён уздыхнуў.— А ў мяне, у горадзе, брат, дом. Ты, брат, не знаеш. Вялікі дом. На Сельгаспасёлку... Туды з Камароўкі два аўтобусы ходзяць. Дом сам строіў, тры гады. Ён у мяне на дзве паловіны, у адной тры пакоі, у другой... Кухня асобна. Веранды дзве. Я яго на нямецкі вугал... Вокны, брат, з аканіцамі. Аканіцы зялёныя, і веранда зялёная. Сёлета вясной у новую фарбу перашарсціў. Падмурак высокі, з цэменту. Яго я, брат, у белую фарбу ўзяў. У мяне, брат, дом,— ваўкоў ганяй. У мяне, брат, дом... Але ў ім пуста. У ім, брат, і не спяць, і не смяюцца дзеці. Не плачуць. Не б'юць талерак і акон. У мяне, брат, каторы год цэлыя вокны ў верандах. А каб ты быў... Ты б, я знаю... За табой шыбін не налатаўся б... А так, брат, яны цэлыя. Цэлыя, брат...»

Сушкава праехалі толькі краем: дарога вёскай не ішла. Па вуліцы гналі скаціну, і давялося пастаяць, каб размінуцца.

Калі зноў у вокнах закруцілася поле — пабегла назад, Сцяпан сказаў зноў:

— Не спі...

Валерка расчырванеўся ад духаты, на носіку ў яго выступіў пот. Вочы пасалавелі: закалыхала.

— Не спі, брат...— ціха сказаў Сцяпан і падумаў: «Маё ты хлапчанё... Мы з табой, брат, паедзем проста да мяне, на Сельгаспасёлак. Мы з табой, брат, пачнём жыць па-мужчынску. Я, брат, і шмат не п'ю, а то і зусім кіну. Я табе і тэлевізар куплю, і рыбак... Я табе, брат... Я табе ўвесь дом аддам. Я строіў яго, бо думаў, што ў мяне пойдуць такія, як ты... Ажно... Але ў мяне ёсць ты. Ты ёсць у мяне. Табе нялёгка будзе ступіць да мяне на парог, не думай надта. Не думай, што гэта проста. Верка — яна як і ўсякая жонка. Што ты... Тут, брат, не скандал будзе, а нешта большае. Верка — то яшчэ Верка, а цешча... Але мы з табой — мужчыны. Мы, брат... А Верка... Верку я

люблю... Каб не любіў — не жаніўся б. Праз Верку я, брат, згубіў быў цябе. Было. Але я яе люблю і не кіну. Яна разумная... Толькі. Толькі ці палюбіць цябе яна так, як я... Яна, брат, і мяне не ведаю ўжо, ці любіць... Хто скажа? Ды я ў яе пра гэта не пытаюся ўжо, ды і ні ў кога. Я, брат, яе люблю, колькі хочаш і каму хочаш пра гэта скажу. А яна? А яна і з другой змены пазней прыходзіць, і ў грыбы часта з «падругамі» ездзіць. І раз ноччу позна з'явілася — у «падругі» імяніны былі. Яно, брат, так. Не будзеш жа сачыць. Можа, брат, я і лішняе думаю пра яе... А Волька... Ты, брат, малы, ты нічога ў гэтым не разбярэшся, хоць і мужчына. Так, брат, выйшла. Толькі я цябе нікому не дам. Ніякаму экскаватаршчыку. Каб ён над табой... Ты, брат, мне сын. Ты сын мне... Вось так...»

Машына імчала палявой дарогай, уздрыгваючы на каменні. Калі Сцяпан, высунуўшыся з кабіны, азіраўся назад, бачыў, як падымаецца ўслед за імі пыл і стаіць над дарогай. Недзе над лесам за Сцешыцамі вісеў дым, і далёка-далёка за ім жаўцелася поле — маленькая палоска. Калі ўгледзецца,— там былі відаць белыя будынкі, але на сядзенні страшэнна зыбала. Сцяпан падумаў, што ў пачатку дарогі заўсёды азіраешся назад, як нечага забыўся...

Ён павярнуўся, пакратаў плячом:

— Эх ты, мой сонны чалавек. Ты нават не пачуў бы, каб я табе пра ўсё гэта гаварыў. Ты, брат, спіш. Заваліўся мне за плечы і спіш. Ну што мне рабіць з табой? Што? Скажы. Я ўжо ў цябе пытаюся. Ты мужчына. Сам скажы. Тут, яно, Валерка, сур'ёзна. Гэта табе, брат, не ў хаванкі з дзецьмі гуляць у Сцешыцах на вуліцы. Тут ёсць бацька, маці, ёсць суд. Тут яно, брат... Маўчыш усё? Ну а мне што рабіць? Што рабіць бацьку, у якога адзін сын... Гарачы, сонны... Босы, з абдзёртай ножкай... Ну, не маўчы!..

Валерка спаў.

Ля дзвюх старых разгатых бяроз канчалася дарога, што ішла ад Сушкава полем, і Сцяпан выехаў на шашу. Азірнуўшыся яшчэ раз назад, ён заўважыў толькі, як радзее і растае пыл.

*1962*

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# КАМЕНТАРЫІ

## Тартак

Упершыню — Полымя. 1967, № 12.

Друкуецца па кн.: Іван Пташнікаў. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладалася на рускую, украінскую, латышскую, эстонскую, польскую, чэшскую, балгарскую мовы. Аднайменны мастацкі тэлефільм Беларускага тэлебачання, 1974. Сцэнарый аўтара.

## Найдорф

Упершыню — Полымя. 1975, № 2, 3. Адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Коласа, 1978.

Друкуецца па кн.: Іван Пташнікаў. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладалася на рускую, балгарскую і польскую мовы.

## Сцяпан Жыхар са Сцешыц

Упершыню — Маладосць. 1962, № 2.

Друкуецца па кн.: Іван Пташнікаў. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладалася на рускую мову.

Па матывах апавядання на Беларускім тэлебачанні пастаўлены кароткаметражны мастацкі тэлефільм «Родам адсюль», 1969.

## ЗМЕСТ



**Пташнікаў І.**

П 87 Збор твораў. У 4 т. Т. 2. Аповесці, апавяданне. Мн.: Маст. літ., 1990.— 480 с., [4] л. іл.
ISBN 5-340-00510-0.
Пташников И. Собрание сочинений. Т. 2. Повести, рассказ.

Дзве аповесці Івана Пташнікава «Тартак» і «Найдорф», якія ўвайшлі ў другі том Збору твораў, звязаны між сабой адной тэмай — гераічнай народнай барацьбой з фашызмам.
«Тартак» — твор пра трагічны лёс беларускай вёскі, разам з людзьмі спаленай фашыстамі ў час блакады. «Найдорф» расказвае пра апошнюю фашысцкую блакаду ў партызанскіх раёнах Беларусі і пра першыя пасляваенныя дні.
У апавяданні «Сцяпан Жыхар са Сцешыц», якое ўключана ў том,— складанае жыццё нашага сучасніка.

П $\frac{4702120201-153}{М\ 302(03)-90}$ 105—90 **ББК 84 Бел7**

*Литературно-художественное издание*

ПТАШНИКОВ ИВАН НИКОЛАЕВИЧ

**СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ**

**ТОМ ВТОРОЙ**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ПТАШНІКАЎ ІВАН МІКАЛАЕВІЧ

**ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ**

**ТОМ ДРУГІ**

Рэдактар *М. І. Котаў*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктар *Л. М. Маслоўская*.
ІБ № 3304. Здадзена ў набор 27.09.89. Падп. да друку 11.07.90. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 27,72. Ул.-выд. арк. 28,37. Тыраж 4200 экз. Зак. 2930. Цана 2 р. 10 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.